№6 (73)
/лістапад-снежань/ 2014

дзеяслоў

ЗМЕСТ

Уладзімір Някляеў



...У Севілы – спякота,
а ў турме – прахалода...

# Калі адчыняць дзверы, я пайду...

***Вершы з новай кнігі***

## ***ПРАКАЖОНЫ***

*Мікалаю Статкевічу*

Калі чую званочак
у закратаваным акне,
знаю: там пракажоны. Той званочак на мне.

Той званочак на мне,
каб не крочылі следам маім
і насустрач не йшлі вы, хаця я ўсміхаюся ўсім.

Я ўсміхаюся ўсім,
вы мяне баіцёся дарма:
пад плашчом з капюшонам даўно ўжо нікога няма.

Там нікога няма,
але скрозь рассыпаецца звон,
і ківаецца плашч, і ўсміхаецца ўсім капюшон.

## *РЫ́МЦЕЛІ*

*Алесю Бяляцкаму*

Калі слухаць і слухаць,
як выюць за кратамі вецер са снегам,
як у фортцы звініць і звініць зледзянелае шкло,
можна ўспомніць варагаў з хазарамі і печанегаў –
шмат чаго, што мінула, нібы не было.

Можна ўспомніць Афіны і Рым
і падумаць пра рымлянак,
пра гетэр – не хапае за кратамі рымскіх гетэр...
Але ўспомніўся мне
воўк у лесе зімовым пад Ры́мцелямі:
як, унюхаўшы пах чалавечы, ашчэрыўся звер!

Не таму, што галодны. Я бачыў па бруху: наеты.
Ён да логвішча йшоў – і не быў я ў патрэбу яму.
Але пах, які вычуў ён,
быў не з ваўчынага свету:
звер учуяў турму.

Можна ўспомніць, калі
зазвініць капяжамі адліга,
і за кратамі
ценькне вяснова нараніцы птах,
як ашчэрваўся свет на Хрыста
і на Марціна Лютэра Кінга,
на любога і кожнага, хто чалавечынай пах.

Можна ўспомніць... Але
у ваўчыных вачах – не пра тое...

Скрозь прапахла зямля
потам,
спермай,
мачою,
крывёю
ад Афінаў і Рыма – і да Калымы!
Ды нішто і ніхто ў гэтым свеце не пахне турмою –
толькі мы.

## СУНІЦЫ

*Леаніду Дранько-Майсюку*

Як заплакала, сёння за кратамі
сцюжа завыла...
З волі мне перадалі сунічнае мыла
у абгортцы
зялёнай, як тыя пагоркі,
на якіх я збіраў, на сцяблінку нізаў,
як кара́лі,
суніцы...

Той сунічны, той сонечны пах!
Ён мне сніцца –
і хвалюецца маці: “Ты зноў
бегаў лесам аж да Багушоў?
А каб воўк цябе ўкраў!..”

І ўсміхаецца бацька:
“Наш сын не маленькі,
глядзі, колькі ягад набраў!..”

Але маці сярдуе
і ставіць мяне на каленькі
у куце, дзе абраз...

Я малюся і Бога прашу,
каб ніколі мяне не каралі
ні за што, без ніякай віны...

Бог глядзіць са сцяны
на мяне, на кара́лі –
і святло напаўняе душу...

## АРГЕНЦІНСКАЕ ТАНГА

*Еве*

Калі доўга ўзірацца праз краты ў акно,
дык з “Навінамі дня” (або без)
можна ўбачыць кіно ў клубе СМТС,
што значыць не
Сучасная Міжгародняя Тэлефонная Сувязь,
а Смаргонская Машына-Трактарная Станцыя,

дзе анучы ў мазуце, дзе ва ўсіх пад пазногцямі гразь,
дзе мой бацька – механік, а маці – бухгалтар,
дзе не ходзяць яны ні ў кіно, ні на танцы,

бо ў яе – справаздача,
у яго – за партсходам партсход,
па якіх напіваецца бацька, як чорт,
і паказвае рускі характар,
з якім перамог ён фашызм...

Дзе я плачу ў запеччы: “Чорт з ім...” –
і чакаю, пакуль пакладзецца ён спаць...

Потым шыбу вымаю ў акне... –
хоць бы раз станцаваць
з рыжакосаю Зінкай з дзявятага “А”,
ад якой у мяне галава,
нібы тая кружэлка
з аргенцінскім,
замучаным танга,
пад якое, абступлены лесам людзей,
дакрануўся я раптам грудзьмі да грудзей –
да дасюль неразгаданай тайны...

* * *

“Калі доўга праз краты
глядзець на нябёсы ў акне...” –

гэта не
аднастайны пачатак для вершаў,
прыдуманы ход,
а дзіра, што прабіта на ўсход
у бетоннай труне...

Гэта не
вершаванне, ці іншы занятак пусты,
а чатыры сталёвых пруты
у дзіры, што пад столлю ў сцяне, –
гэта ўвогуле не...

Гэта проста турма,
у якой,
апроч гэтай дзіры,
гэтых кратаў,
акна –
у мяне анічога няма.

## *О. ГЕНРЫ*

Калі доўга на краты
глядзець і лічыць:

першы прут...
прут другі...
трэці прут...
прут чацвёрты... –
можна ўспомніць касіра
Уільяма Сіднея Портэра
з банка горада Осцін, што ў штаце Тэхас,
больш вядомага пад псеўданімам О. Генры...

Меў па выраку тэрмін
пяць гадоў.
Адсядзеў тры гады і тры месяцы.

Гэта столькі якраз,
каб вяроўку і мыла знайсці,
але не павесіцца.

“Самагубства – такая ж звычайная рэч, як пікнік”, –
напісаў ён.

А памёр ад цыроза
пры законе сухім.

Але фокус не ў гэтым, а ў тым,
што пранырамі, месца якім
на галерах, населена ім,
як гасцініца,
амерыканская проза –
аніводны пакой не застаўся пустым...

І з кампаніі
злодзеяў,
жулікаў,
п’яніцаў,
грэшнікаў,
з той гасцініцы,
з часу свайго ў наш пранырлівы час
мала хто
так насмешліва
пазірае на нас,
як касір банка горада Осцін, што ў штаце Тэхас.

### ***АЗОР***

Калі слухаць да зморы,
як вые за кратамі вецер уночы,
можна ўспомніць Азора, якога не хоча
гаспадыня выводзіць гуляць...

Ён тады пачынае скакаць, зазіраць ёй у вочы,
лізаць яе рукі...

Шмат што можна згадаць, выпадковыя гукі
пачуўшы ўначы...

Ранкам два вартавыя ўваходзяць: “Скачы!” –
і выгульваць вядуць мяне ў двор...

Ах, Азор мой, Азор...

### ЛЕАПОЛЬД III

*Віктару Казько*

Калі ў камеру раптам праз краты ўляціць матылёк,
як агеньчык у змрок,
дык затойваеш дых, каб яго незнарок
не спалохаць... “Са мною пабудзь, махаон!
Пасвяці мне,
ліхтарык
у сорак вясёлкавых вольт!..” –
Але ён
пырх назад...

Ноччу сніцца не ён,
а бельгійскі кароль Леапольд,
пра якога й не помніў –
бо хто ён мне?.. Я – хто яму?..

Але ў сне матыльковым
я ўцяміў, чаму
выбраў ён
між турмой і вайною
турму,
страціў трон і карону... –

Лавушак набраў і сачкоў,
і падаўся,
паслаўшы далёка
каралеўскіх усіх сваякоў,
У Амерыку,
дзе Арынока,
дзе да скону
лавіў матылькоў...

## ВЯЛІКДЗЕНЬ

*Змітру Дашкевічу*

Халодны карцэр.
Адзіночка.
Нядрэмныя глядзяць у вочка
вартаўнікі. Нібы з нябёс,
вада і хлеб. Нібы Хрыстос
прыйшоў, каб падзяліцца з намі,
са мною і з вартаўнікамі.

## СЕЦІ

Калі ў неба дажджлівае
нема ўзірацца праз краты,
дык у клеці вакна
усплываюць рыбацкія сеці з пясчанага дна
і цягнуць дахаты,
і ты раптам становішся рыбінай:
сомам,
сліжом,
акунём, –
і ні ноччу, ні днём
немата ўжо не мучае болей,
бо вада і душа нерасстайныя...
"Іх у сеці не зловіш", – ты нібыта самому
ціха кажаш сабе,
і сліжам з акунямі,
і сому,
які ведае ўсе твае думкі патайныя,
і плыве, і ківае:
"Так, вада і душа
нерасстайныя,
іх у сеці не зловіш, як сома або акуня..."

Так ад ранку да ночы... ад ночы да дня...

## САЛАВЕЙ

*Змітру Вайцюшкевічу*

Вось гэты цуд, які не тут –
па той бок кратаў, дзе світае,
ні вам, нікому не аддам
і не прадам, ні нават сам
не забяру...

Няхай спявае!

## ФІДЗІЙ

Калі доўга на краты
глядзець і глядзець,
глядзець і глядзець,
глядзець і глядзець,
можна, каб не аслепнуць,
ці не звар'яцець,
нешта з хлебнага мякіша вылепіць:
звера... ці птаха... паганскага бога... ці волата... –
і ўявіць сябе
Фідзіем,
які з косці слановай і золата
грамавержнага Зеўса стварыў,
што стаў цудам свету.

Яшчэ золата скраў – і хоць гэта
не даказана, скончыў турмой.

Зрэшты, статуі той –
ні касцянай і ні залатой –
аніхто, апроч грэкаў, не бачыў,
а значыць,
цудам можа быць тое, чаго не было,
ці што выдумаў нехта, як цуд...

Ну, напрыклад, Перыкл. Ці Плутарх...

“Вунь які ў мяне птах!..
Не было гэткіх птахаў ні тут,
ні ў Афінах, ні ў Рыме!..” –
можна думаць, з'ядаючы з голада
цуд за цудам:
паганскага бога...
і звера...
і птаха...
і волата...

## АБЛОКІ

Калі доўга праз краты глядзець на аблокі,
у якіх ты ці плыў, ці збіраешся плыць,
можна горад убачыць плывуча-высокі,
у якім ты ці жыў, ці збіраешся жыць, –
толькі дзе?..

Там палацы, гатэлі, дамы –
і ніводнай турмы.

## СЕРВАНТЭС

Калі доўга праз краты
глядзець
у замглёную далеч
напярэдадні новага года –
дык апоўначы можна ўявіць сябе
аднарукім ідальга
Сааведра Мігелем Сервантэсам...
Гэта нагода
стаць жаўнерам,
матросам эскадры Хуана Аўстрыйскага,
ваяваць у Тунісе, на Корфу,
а потым
стаць палонным,
рабом,
што стамлёна сказаў:
“Кожны – сын сваіх спраў...”

Потым краў,
калі стаў нарыхтоўшчыкам
правіянту
для каралеўскага флота...

У Севільі – спякота,
а ў турме – прахалода...

Можна з новага года,
падміргнуўшы ўсяму чалавецтву,
пачаць “Дон Кіхота”.

## ТАДЫ

Калі ўспомніш,
што недзе за кратамі свет не зняволены,
у якім ты святочна апрануты, чыста паголены
мог адзін – або з некім – у шынок на Нямізе зайсці,
запытацца ў бармэна:
“Ну, як табе ў гэтым жыцці?..”

Піва выпіць...
Ці каву...
Проста шклянку вады...

Тады многае ўбачыш іначай, чым бачыў тады.

## *АПАЛІНЭР*

*Рыгору Сітніцу*

Калі з камеры доўга глядзець
у вакенца
прутамі жалезнымі між –
Можна Эйфеля вежу ўявіць... І Парыж.
Манпарнас. І кавярню,
дзе Верлен цалаваўся з Рэмбо,
і турму на Сантэ, куды трапіў ён,
ледзьве Рэмбо
не забіўшы...

Або,
калі сыпле і сыпле праз краты
нудным восеньскім дожджыкам,
можна шлях уявіць да Парыжа з Дарожкавіч,
па якім аніколі не ездзіў Вільгельм Кастравіцкі
з наваградскага роду шляхецкага Вонж,
ён жа Апалінэр,
што пры зручным выпадку
адкідваў пяро і хапаўся за нож...

Нудны дождж
над турмою "Сантэ",
у якой
дах цячэ
(бо ад часу Гюго і Гацье
чарапіца і гонта),

у якую патрапіў
Вільгельм Кастравіцкі, што з роду шляхецкага Вонж,
ён жа Апалінэр,
што надумаў украсці
Джаконду...

А каго яму красці яшчэ?

## *СНЯЖЫНКІ*

*Ілоне*

Калі доўга глядзець і глядзець,
як кладуцца на краты сняжынкі,
можна ўспомніць старыя,
чорна-белыя фотаздымкі,
на якіх я то з маці, то з бацькам,
то з братам – ён у куртачцы новай...

А на гэтым – з табой... Ён ужо каляровы...
Як змянілася ўсё! Людзі, дрэвы, машыны, дамы!

Толькі я каля мамы
той самы –
за процьму гадоў да турмы...

## *КАЗІМІР МАЛЕВІЧ*

*Уладзіміру Вішнеўскаму*

Калі ў неба начное ўзірацца праз краты да змроку ў вачах,
змрок, здаецца, плыве
не з нябёсаў у вочы – з вачэй у нябёсы,
у якіх раптам чырванню бліснe маланка, ці вогненны птах,
ці запалка, ці іскра, ці агеньчык начной папяросы,
што патухне – і цемрадзь гусцее, нібы гуталін,
і адзінай карцінай сусвету, карцінай карцін
у праёме вакна абмалюецца
Чорны квадрат.
Перамога над сонцам.

І 30-х гадоў Ленінград,
горад рэвалюцыйна-чырвонай іржы
на мастах разводных,
што наш час развялі
з цёмным часам царызму,
і ў Няве караблі,
Эрмітаж і Фантанка,
і турма на вадзе
з мёртвай назвай “Крыжы”
прыгадаецца,
дзе
геній супраматызму
прыдумаў гранёную шклянку...

## *ДЗВЕРЫ*

Калі кладуся, каб не бачыць краты,
да кратаў галавой, дык бачу дзверы
сталёвыя, з акенцам, праз якое
мне два разы на дзень даюць яду:
уранку – кашу, вечарам – ваду.

Калі адчыняць дзверы, я пайду...

Алесь Пашкевіч



...у жыцці большаюць не рэчы,
а цені ад іх...

# Рух

***QR-відарыс***

*Яго ведаюць усе. Прынамсі – чулі ці сустракаліся. Калі і не з прозвішчам, дык з тым, што яно пачало азначаць у свядомасці грамадства XX і XXI стагоддзяў: ДЫЗЕЛЬ.*

*І ні тыя стагоддзі, ні грамадства без яго ўжо існаваць не могуць, хоць – і не памятаюць. Аднак штодня чуюць і сустракаюцца...*

*Падчас з'яўлення гэтага QR-кода*[1] *– відарыса лёсаў вынаходнікаў і нафтамагнатаў – узнікала яскравае жаданне: з таго, што было, ёсць і будзе, выпісаць рэальнасць, якой, магчыма, і не было, але якая... нараджаецца ва ўяве чытача ці хаця б самога аўтара. Але ж ён – звычайны*

[1] ***QR-код*** – абрэвіятура ад ангельскага Quick Response – «хуткая рэакцыя, імгненны водгук». Гэта малюнак з закадаванай інфармацыяй: звычайным тэкстам, каардынатамі месца, візітнай карткай, адрасам у Інтэрнэце і г.д. Дастаткова навесці на яго камеру тэлефона (а ў нашым выпадку – вочы), каб атрымаць доступ да шырэйшага зместу...

*чалавек, які, здараецца, нават і сябе можа не ведаць. А што казаць пра рэальна дзейсных сто гадоў таму персанажаў?*

*Вось і давялося, усведамляючы творчы грэх біяграфічнай выдумкі ды абыходзячы цянёты калядакументальнай прозы, змяняць некаторым героям імёны ці літары ў прозвішчах, пераўвасабляючы іх у двайнікі-цені.*

*І, спадзяюся, яны не будуць мецъ на тое крыўды. Ну хоць бы – лепшыя з іх...*

***Аўтар***

## I



У шкле вакон кавярні «Vikón» астывала парыжскае сонца.

– Тут не занята? – спытаў цыбаты наведнік.

– Не, калі ласка, – мужчына ў сінім швэдары машынальна кіўнуў галавой і перагарнуў старонку тоўстай кнігі. Але чытаць расхацелася, і ён увомірг агледзеў суседа ў спакойным шэрым гарнітуры, затым свае пазногці – і прыхінуўся да спінкі фатэля.

Яны замовілі амаль адно і тое ж: кураня на грылі, салат і віно. Толькі той, хто ў гарнітуры, – чырвонае, а мужчына ў швэдары – белае.

Сонца спусцілася яшчэ ніжэй на бульвар Монпарнас, адлюстравалася ў соннай Сене ды зноў мякка дзюбнула промнем у шкло. З веранды далягляд закрывала жалезная спаруда ў драўляных рыштаваннях – ужо на трэць узведзеная вежа Эйфеля. Чатырохногую раскірэку не абмяркоўваў толькі нямы...

– А як вам гэты монстр? – спытаў мужчына ў швэдары суседа па століку.

– Ды нічога... Забаўна. Здаецца, і сонца да яго ўжо прывыкла: глядзіце, ляжыць на вежы, як на трымальніку яйка ў смятку.

– Вы паэт?

– Не, наадварот...

– Адкуль жа такая метафара?

– Напэўна, ад перанасычанасці тэхнікай. Я – інжынер. Гэта вы, думаю, літаратар, – мужчына ў гарнітуры паправіў пазалочанае пенснэ і кіўнуў на адкладзеную кнігу.

«Швэдар» усміхнуўся:

– Не, таксама наадварот. – Ён паказаў шмуцтытул, на якім тлуста значылася «Супраціўленне металу Ёзафа Легера», і працягнуў руку: – Выкладчык тэхнічнай школы Адам Мацкевіч.

– Рудольф Дызель, – назваўся і суразмоўца.

Яны замовілі яшчэ віна і загаварылі, як даўнія таварышы, якія, аднак, адзін пра другога нічога не ведалі. Былі неабароненымі ад алкаголя, паколькі сустракаліся з ім нячаста, а таму хутка захмялелі і яшчэ хутчэй раззнаёміліся.

Рудольф і Адам нарадзіліся ў Парыжы. Бацькі першага – немцы – некалі мелі тут скураную майстэрню, галоўны прыбытак якой прыносіў пераплёт кніг. Аднак пачалася французска-пруская вайна, сям'я падалася ў бежанства ў Англію. Напалеон III са сваім войскам капітуляваў, і трынаццацігадовага Рудольфа выправілі да родзічаў у нямецкі Аўсбург – набірацца навукі. І ён не падвёў: займеў добрую стыпендыю ды закончыў Мюнхенскую вышэйшую тэхнічную школу. А дзевяць гадоў таму па рэкамендацыі свайго настаўніка прафесара Ліндэ зноў вярнуўся ў Парыж на Халадзільны завод Хірша і стаў яго дырэктарам.

Лёс Адама быў надзіва падобным: таксама вайна і паязджанства бацькоў...

– Неверагодна, – дзівіўся Рудольф, – мой бацька, як і твой, быў пераплётчыкам!

Казімір Мацкевіч, бацька Адама, малады прафесар, звольнены з працы за незалежніцкі светапогляд і «нядобранадзейнасць», вымушаны быў «лячыць» у сваім маёнтку кнігі для ўсёй губерні. Калегі ды сябры спрабавалі падтрымаць грашыма, але ганарлівы шляхціч крыўдаваў і адмаўляўся. І тады яны пайшлі ў абход: знайшліся сотні кніг, уладальнікі якіх неадкладна захацелі даць ім новае жыццё. Так і з'явілася праца...

– Во як! Праўда, да таго ён выкладаў гісторыю ў Віленскім універсітэце, а затым, пакінуўшы пераплётчыцкі варштат, стаў паўстанцам, узяў у рукі стрэльбу ды пайшоў у лес... – Адам узняў келіх і прапанаваў: – Давай... за здароўе нашых бацькоў!

Прыгубілі, і Рудольф удакладніў:

– А Віленскі ўніверсітэт – гэта дзе?

– У Літве-Беларусі. – Адам уздыхнуў, бачачы, што суразмоўца застаецца ў неразуменні, пастукаў пальцамі па стале, падсунуў дзве талеркі, а паміж імі паставіў келіх з вінам. – Вось, глядзі... Тут, дзе салат – Польшча...

Рудольф усміхнуўся і бадзёра кіўнуў.

– А дзе парэшткі курыцы – Расія. Паміж імі – радзіма маіх бацькоў. Цяпер жа і там, і там, – Адам тыцнуў пальцам на салат і віно, – Расійская імперыя...

Невядомасць новага гістарычнага мацерыка, было заўважна, зацікавіла да таго скаванага і напружанага Рудольфа. Ён расшпіліў на пінжаку некалькі верхніх гузікаў і зноў спытаў:

– Дык твой бацька быў паўстанцам... дыктатарам, як і Напалеон?

– Ды не, – Адам прыхінуўся да стала і расправіў свае каштанавыя вусы. – Кіраўніком паўстання супраць расійскага цара ў тым краі быў іншы чалавек... – Адам задумаўся і махнуў шырокай даланёй. – Забыў прозвішча... Гэта быў, калі памятаеш гісторыю французскай рэвалюцыі, Марат і Рабесп'ер у адной асобе.

– Цікава. – Рудольф расшпіліў усе гузікі на пінжаку і паправіў гальштук. – І даўно тое было?

– У 1863-м, за год да майго з'яўлення.

– А сам ты – выкладаеш?

– Так. А калі пачала расці гэтая вежа, – Адам кіўнуў на рыштаванні жалезнай спаруды, – стаў адным з арміі інжынераў на яе будаўніцтве.

Яны дапілі віно і выйшлі на вуліцу. На Марсавым полі, дзе і вырастала Эйфелева вежа, ужо збіраўся кастрычніцкі прыцемак, адагнаны з Сены

агнямі Енскага моста. На тратуарах паменела людзей, зрэдку праязджаў экіпаж, на лаўках шапталіся закаханыя пары.

– А чым ты тут непасрэдна займаешся? – спытаў Рудольф і схаваў пенснэ ў верхнюю кішэньку пінжака.

– Заклёпкамі, – Адам ускудлаціў свой густы «вожык», усміхнуўся, і ад вачэй разышліся маладыя маршчынкі. – Праз іх я і патрапіў на гэтую грашавітую будоўлю. Уяўляеш, ва ўсёй канструкцыі неабходна змацаваць 18 тысячаў металічных дэталяў. А яны – ад адной да дзясяткаў тон вагой! І па праекце трымацца будуць на двух з паловай мільёнах балтоў-заклёпак. А яны, як разумееш, мусяць быць мацнейшымі за асноўны метал. Вось я і сачу за іх закалкай. Ну ды ты і сам як інжынер ведаеш...

Рудольф узняў бровы і загаварыў як на лекцыі:

– Трываласць металу можна значна павысіць шляхам ягонага высокага награвання, а затым – хуткага астуджвання. Пажадана – у вадкасцях.

– Так. На шчасце, мае загатоўкі аказаліся наймацнейшымі – і мяне ўзялі на працу. Ну а працэс загартоўкі метала, прызнаюся, падгледзеў яшчэ падчас студэнцкай практыкі ў адной з правінцыйных кузняў...

Яны – маладыя, няўрымслівыя, амбітныя – маглі прагаварыць пра свае клопаты бясконца, але кожнага зранку чакала праца, а таму мусілі развітвацца. Абмяняліся адрасамі, дамовіліся пра новыя сустрэчы – і разышліся.

Дома састарэлы Казімір Мацкевіч ужо збіраўся класціся спаць, калі ўзбуджаны сын абняў яго і нечакана выдыхнуў:

– Нешта ты даўно не расказваў мне пра свае маладыя гады...

Бацька сеў на ложак, уважліва паглядзеў на сына – і ўсміхнуўся:

– Я ўжо драмлю, прабач. А калі табе не спіцца – ты ведаеш тую шафу. Вазьмі і пачытай...

## II

У той жа час праз вуліцу ад кавярні «Vikon», яшчэ бліжэй да Сены і будоўлі Эйфеля (з жаўтком вечаровага сонца над ёй) у асобным пакоі рэстарацыі «Viktori» вячэралі дзве пары, якія таксама мелі дачыненне да Расійскай імперыі. Прамое – малады палкоўнік Віктар Аляксандравіч Берг з прыгажуняй-жонкай Елізаветай і, – дачыненне ўскоснае, – нямецкая сям'я Люцыусаў, Генрых і Клара. У агульнай вандроўцы мужчыны правялі два тыдні, і, паколькі сумесная дарога збліжае найбольш, збоку выглядала: на вячэру сабраліся сябры дзяцінства. І мова іх была дзіўная: адны гаварылі па-расійску, устаўляючы там-сям нямецкія словы, другія – па-нямецку з расійскім акцэнтам.

Віктар Аляксандравіч, мужчына статнай знешнасці гадоў пад сорак, з іскрыстымі зрэнкамі пад далікатным пенснэ, з крыху азызлаватым тварам, знаходзіўся ў незвычайна прыўзнятым настроі. Гэта была яго першая паездка за мяжу. Пасля адносна спакойнай гарнізоннай службы і выкладчыцкай працы ў Ваеннай акадэміі яму ўсміхнулася службовая фартуна: старраннага афіцэра прызначылі начальнікам статыстычнага аддзела Канцылярыі Генштаба Ваеннага міністэрства. Заробак канторскага справавода не надта радаваў, але адначасова Віктару Аляксандравічу дазволена было застацца і на ранейшай пасадзе ад'юнкт-прафесара ў Ваеннай акадэміі – па сумяшчэнні. Неўзабаве ён быў узведзены ў палкоўніцкі чын. Упершыню сямейны даход

перарос расход, і па свабодных вечарах, хоць і рэдкіх з прычыны занятасці на службе, Віктару Аляксандравічу часцей заўсміхалася яго маладая жонка. І яны пачалі ўжо нават думаць пра нашчадкаў, а каб вырвацца са сталічных клопатаў ды крыху падправіць здароўе, вырашылі ажыццявіць даўнюю мару: з'ездзіць за мяжу. Ну а куды ехаць з Расіі, калі не ў Парыж?

Адпрошвацца ў адпачынак доўга не давялося. Не спатрэбілася нават прадугледжанага ў такіх выпадках рапарта. Начальнік Канцылярыі генерал-лейтэнант Мікалай Львовіч Лобіч быў упартым халасцяком з арыгінальным быццёвым распарадкам. Ён прачынаўся каля 10-й раніцы, піў гарбату і гадзіны з дзве працаваў. Затым адчыняў дзверы кабінета, каб выслухаць ад падначаленых даклады. У 3–4 дня ехаў у Сельскагаспадарчы клуб абедаць. Чаму менавіта туды? Неяк прызнаўся, што толькі там цяпер «Руссю пахне». Затым быў на працы да апоўначы, пасля чаго выпраўляўся ў той жа клуб гуляць у карты – да 3–4 раніцы. Праз тую гульню заўсёды быў без грошай, хоць і меў з узнагароднымі ўтрыманне каля трынаццаці тысячаў у год... Падобныя аказіі пераканалі яго ў тым, што вайскоўцам колькі ні дай грошай – усё роўна будзе мала, а таму – няма чаго рабаваць казну! Не снедаў сам і меркаваў, што не варта тым забяспечваць на службе і ніжэйшых чыноў. Ну і, да ўсяго, не ўхваляў шлюбы, паколькі быў перакананы ў шкоднасці іх у службе. А маладым жанацікам напачатку нават спачуваў. Аднойчы пасля даклада палкоўніка Берга ў тоне строгай вымовы начальнік Канцылярыі генерал-маёр Лобіч заявіў, што той можа не з'яўляцца перад яго светлымі вачыма да сярэдзіны восені, пакуль у Ваеннай акадэміі не пачнуцца заняткі. Гэта і быў завуаляваны дазвол – хоць і па-вайсковаму грубы – на адпачынак.

– З цябе ўсё роўна толку – як з казла малака, – падагульніў генерал. – Гаворыш, а ў вачах вунь – жончыны цыцкі скачуць...

Так і выбраліся Бергі ў Парыж. Па дарозе, праўда, запланавалі паваляцца ў лячэбных гразях (найперш Елізавета – каб вырашыць жаночыя сакрэты) ды папіць гаючых водаў (падлячыць мужаў страўнік). Збіраліся старанна: паскуплялі па Пецярбурзе ўсе дарожныя даведнікі і без стомы распытвалі знаёмых, каму пашчасціла пабываць «за кардонам». Выпраўлялі ў вандроўку Бергаў, здавалася, усе канцылярскія службоўцы Генштаба...

Па Варшаўскай чыгунцы ў звычайным вагоне другога класа за двое сутак (з перасадкамі, амаль без сну) дабраліся праз Вільню, Горадню, Беласток, Варшаву, Уроцлаў да свайго першага прыпынку ў горным сілезскім Зальцбруне. З задавальненнем ездзілі на конным экіпажы па прыгожых горных мясцінах да старадаўняга замка. Вечарам пілі каву ў санаторнай рэстарацыі. Ну, а перад сном аддаваліся водна-гразевым працэдурам. Пашанцавала і з доктарам, патомным аўстрыякам, які, па расповедах, аб'ездзіў паўсвета, вывучаючы ўплыў клімату на розныя чалавечыя хваробы, ну а цяпер штовосень практыкаваў у Зальцбруне.

На адным з «водных сеансаў» Віктар Аляксандравіч Берг і пазнаёміўся са шчырым і сяброўскім арыстакратам Генрыхам фон Люцыусам. Ён лячыў ці то гастрыт, ці то язву.

– Прабачце, вы – не з Прусіі? Падаецца, у вас не зусім нямецкае вымаўленне... – звярнуўся да Берга на другім ці трэцім сеансе фон Люцыус. Яны сядзелі на тэрасе ўдвох і любаваліся ціхім адвячоркам, пацягваючы з гліняных піялаў мінеральную ваду. Палкоўнік расправіў каўнер махровага халата і, павярнуўшыся да суразмоўцы, старанна адрапартаваў:

– Дазвольце назвацца: падданы яго Вялікасці расійскага імператара Віктар Берг. А з кім маю гонар лекавацца?

– Генрых... Генрых фон Люцыус, – знаёмец хітнуў галавой, усміхнуўся і ўзняў піялу. – Накіроўваюся ў Парыж, каб праведаць жонку, у якой заканчваецца тэатральны гастрольны тур, і нагадаць ёй пра шлюбны абавязак. Ну а затым забраць яе ў Пецярбург.

– У Пецярбург?! – ажно прыўзняўся Берг. – Вы паедзеце ў Пецярбург?

– Так. Маю гонар служыць дарадцам нямецкага пасольства ў Расіі. – Голас Люцыуса напоўніўся стомнымі бясстраснымі нотамі. – Пад ачолам яго эксцэленцыі пасла графа Пурталеса. Можа, чулі пра такога?

– Безумоўна, яго рэзідэнцыя на вялікай Марской, у асабняку непадалёк ад «Асторыі».

Цяпер ужо ў неўразуменні ўзляцелі густыя бровы Люцыуса:

– Вы нават ведаеце, дзе гэта?..

– Ну так... Мы жывём у Пецярбургу, я на службе там... па ваеннай лініі.

Генрых фон Люцыус яшчэ доўга выказваў сваё здзіўленне нечаканай сустрэчай, пасля чаго прапанаваў сваю кампанію ў падарожжы да Парыжа, балазе ў яго таксама заканчваўся санаторны тэрмін.

– Першы прыпынак зробім, натуральна, у Вене. Затым праз Зальцбург – у Люцэрн. Рэкамендую чыгункай дабрацца да цудоўнейшай гары Пілатусі... Перакананы, што чалавеку з такім прозвішчам – Берг-гара – гэта будзе цікава! Паплаваем па тамтэйшым возеры, а адтуль – у горна-альпійскі Андэрмат! Я пакажу вам знакаміты Чортаў мост, які пасля перавала Сен-Гатард з баямі пераадольваў ваш Сувораў! Затым паўз каскады бурлівай Роны конна дабярэмся да чыгункі і – наперад да казачнага Мантро на Жэнеўскім возеры! І – праз Понтарлье – у Парыж! Згодны? Толькі не кажыце, што не зможаце...

Ну хто ж ад такога адмовіцца?!

І ўсё было найвыдатна. Праўда, апошнія суткі дарогі па Францыі даліся цяжка: вагон адчайна хістала (напэўна, спазняліся), і ноччу не спалася...

– Я думаў, што буду нудзіцца ў самоце, а тут лёс падараваў мне радасць сумеснага падарожжа ў вашай прыемнай кампаніі! – фон Люцыус пры развітанні быў нястомна галантны і мілы. Яго дойч здаваўся мяккім і напеўным, амаль родным. – Жадаю вам прыемных дзён у Парыжы. Ну і, спадзяюся, не адмовіце мне яшчэ ў адной сустрэчы. Хачу пазнаёміць вас са сваёй палавінкай. На жаль, у Клары ўжо закончыліся гастролі, на спектакль запрасіць не магу. Але... ведаю някепскі рэстаран – «Viktori», каля Марсавага поля, насупраць Енскага моста. Кошт прашу дазволіць аплаціць мне. Да сустрэчы а сёмай вечара заўтра...

І вось яны – Люцыусы і Бергі – за шыкоўным сталом з па-французску вытанчанай вячэрай. З п’янлівым вінам і нядаўнімі ўспамінамі.

– Клара, ты не паверыш! – ажыўлена жэстыкуляваў Генрых. На яго высокі лоб спадаў залацісты чуб, які нашчадак тэўтонцаў мусіў раз-пораз укладваць за вуха. – На зальцбрунскім курорце я паспытаў «татарскага біфштэкса»! Гэта штосьці... Мы доўга хадзілі па ўзгор’і і страшэнна прагаладаліся. Папрасілі ў бліжэйшай сталоўцы чаго-небудзь гарачага, грунтоўнага. А там – толькі лёгкія халодныя закускі... І тады мой сябар Віктар настойвае на мясной порцыі. Нам і прапанавалі той біфштэкс. Ты ж ведаеш, Клара, як я люблю біфштэкс, таму ахвотна пагадзіўся. А нам падалі накрышанае сырое мяса ў анчоўсах з сырой цыбуляй! Аднак з якім

імпэтам мы яго знішчылі – ты б бачыла!..

Сябрына смяялася. Генрых узнімаў келіх, смачна выпіваў і няспешна закусваў, моцныя жаўлакі абуджаліся на прадаўгаватых сківіцах.

Віктар – як сапраўдны палкоўнік – прапанаваў тост за прысутных дам. Выпіў, задаволена прысеў і паправіў на манжэтах срэбныя за́пінкі, – здавалася, што яны нязграбна чапляліся за канты рукавоў пінжака (аніяк не мог прывыкнуць да цывільнай вопраткі). У гэты момант пад бляскам пенснэ ў ягоных зрэнках закіпаў шакалад.



*Зальцбург*

– Але вы, гер Генрых, пасля зальцбрунскага «татарскага біфштэкса» напоўніцу адыграліся ў Зальцбургу, – Берг ахвотна працягнуў недалёкія ўспаміны. – Памятаеце прапанаванае вамі венгерскае віно?! Такі душэўны рэстаран, як простая забягалаўка, дзе нават на сталах не было сурвэтак? Я замовіў тады нам два па паўлітра, аднак кельнер прапанаваў спачатку толькі па чацвярціне... І гэтага хапіла, каб звязаць нам ногі! Мы яшчэ з гадзіну не маглі адарвацца ад лаваў...

– А мне здавалася, Генрых, што ты збіраўся па дарозе да мяне падлячыць страўнік, а не дабіваць сваю печань, – падтрымала размову чароўная Клара, і ўсе бадзёра засмяяліся...

Развіталіся запозна – з настойлівай прапановай Бергаў сустрэцца ў Пецярбургу, ужо на іхняй кватэры.

– Адмова будзе прыроўнена да абвяшчэння вайны! – катэгарычна ўзняў указальны палец Берг, і пад яго чорнымі вейкамі і брывамі ўспыхнулі гарэзныя іскаркі. – А насамрэч выдатна, што нашыя краіны – саюзнікі. Гэта, я вам скажу, не Англія якая... – ён пракаўтнуў недагаворанасць і прапанаваў «аглаблёвы» тост за дружбу сваіх народаў ды імператараў.

Да брытанцаў палкоўнік Берг таксама не меў асаблівай антыпатыі. Англія згадалася падсвядома: ён адно ведаў, што яшчэ з вясны адносіны з ёй праз уплыў на радовішчы Каспійскага мора абвастрыліся, і тое падштурхнула Генштаб да ідэі стварэння асобнага Закаспійскага корпуса, «Палажэнне аб кіраванні і смеце» якога перад адпачынкам і распрацоўваў начальнік аддзела Канцылярыі Ваеннага міністэрства палкоўнік Берг.

## III

Каліноўскі ўзышоў на шыбеніцу ў дваццаць пяць гадоў – ягоны цяперашні ўзрост... Згадка аб тым неяк упершыню настолькі моцна ўзварушыла Адамавы пачуцці, што, не зважаючы на позні час, ён доўга не мог заснуць. Ціха зачыніўся ў бацькавым кабінеце, пабольшыў святла, акуратна расклаў на старым дубовым стале папкі з дакументамі, адозвамі, лістамі, газетнымі выразкамі...

Вось сшарэлы, падобны на ўлётку «Сцяг свабоды»: «Упэўненыя ў сваіх сілах, падтрыманыя дзейсным прызнаннем краю, па загадзе цэнтральнай улады Народа мы ўзнялі наш сцяг над атрадам працаўнікоў Беларусі...»

Адам прачытаў уголас і ў які ўжо раз падзівіўся мяккай звонкасці мовы сваіх бацькоў. Яго ўжо з гадоў шасці пачалі вучыць ёй, а затым прыйшла і польская, і расійская. Акрамя, натуральна, французскай, мог гаварыць і па-нямецку, але па сцежцы гуманітарыя не пайшоў.

«...Гэта барацьба святая, – чытаў далей Адам, – яна за цэласнасць распаласаваных земляў, за ўласнасць абяздоленых у сваёй айчыне сыноў!.. Дык да зброі! Да зброі, верныя сыны сваёй зямлі! На ворага кожны, хто не здрадзіў сумленню! На апошні бой племя герояў заклікае неадпомшчаная кроў, свабодная будучыня, шчаслівае заўтра».

Тое шчаслівае заўтра, як ужо ведаў Адам, так і не надышло. Усё закончылася паразай, шыбеніцамі, сібірскай катаргай ці выгнаннем. Ён спрабаваў сабе ўявіць, што ж адбывалася ў тым невядомым краі паміж Бугам і Нёманам – і ў рамантычных мроях вымалёўваліся відзежы Парыжскай камуны.

Яму было тады сем гадоў, але ўсё надзіва ярка памятаецца. Вусачвайсковец дзядзька Яраслаў, з зіхоткай шабляй і такімі ж іскрыстымі вачыма... Яны падоўгу зачыняліся з бацькам і аб нечым сваім гаварылі, а хлапчук не мог нагуляцца з пакінутым яму пісталетам...

«Дзядзька Яраслаў, даўно я не наведваў тваю магілку», – падумаў Адам і перахрысціўся.

Здавалася, маладому жыццю не будзе сканчэння... тады, калі іхняй «піцерскай пяцёрцы» (Віктару і Канстанціну Каліноўскім, Яраславу Дамброўскаму, Ігнату Здановічу і Казіміру Мацкевічу) было, як казаў бацька, «на чупрыну больш за дваццаць».

І ўсіх чатырох, чые фотакарткі вісяць над сталом, няма на гэтым турботным свеце. Віктара, гісторыка-палеографа, забралі сухоты. Яго малодшага брата Канстанціна – царская шыбеніца. У дзядзькі Яраслава таксама склаўся раманны і кароткі лёс: пасля заканчэння Мікалаеўскай акадэміі Генштаба шляхціц Дамброўскі распрацаваў план узброенага паўстання, быў арыштаваны і трапіў у турму, адкуль у 64-м збег і разам з жонкай эміграваў за мяжу, спыніўся ў Францыі – і стаў генералам Парыжскай камуны! Падчас аднаго з баёў плячо разарвала куля – і праз дзве гадзіны ў парыжскім шпіталі Ларыбуазьер яго зямное жыццё закончылася...

Калі аднойчы Адам паспрабаваў параўнаць падзеі таго паўстання з Парыжскай камунай, бацька не пагадзіўся.

– Там, – ён паказаў вачыма на чатыры фотаздымкі сваіх таварышаў, – была барацьба найперш за свой родавы гонар і свабоду...

– І ты... – Адам нервова пакусаў губу і выпаліў: – Таксама страляў, забіваў?

Бацька ўздыхнуў, доўга хадзіў па кабінеце, прысеў – і пачаў распавядаць, як пра ўчора прыснёнае: напачатку па-французску, а затым незаўважна для сябе перайшоў на беларускую:

– Пад Вільняй мы атакавалі царскую роту пяхоты, якая ахоўвала мост. Роту разбілі, але мост узарваць не змаглі. Міна не спрацавала... Пачалі падпальваць, але з горада падаспеў атрад конных казакаў. Наш звяз адступіў да Ашмянаў, казакі праз снег і лес не змаглі праследаваць... Праз некалькі дзён мяне накіравалі ў Вільню: звязацца з кіраўніцтвам правінцыйнага камітэта, здабыць медыкаментаў і грошы. Мусіў сустрэцца з Ігнатам Здановічам, з якім таксама быў знаёмы па Пецярбургскім універсітэце. Ігнат скончыў яго са званнем кандыдата матэматыкі, затым вучыўся ў Берліне,


N. 1.

CHORĄGIEW SWOBODY.

Wilno d. 1 Stycznia 1863 r. „Ciałem se o powinności nie wolno rozumkować." Rok 1.

PROWINCYONALNY LITEWSKI KOMITET

выдаў тут, у Парыжы, брашуру «Успамін пра філаматаў і філарэтаў» – і напачатку 63-га вярнуўся ў Вільню, дзе быў абраны паўстанцкім начальнікам горада і галоўным скарбнікам... – бацька адарваўся ад успамінаў, падышоў да кніжнай шафы, штось старанна пашукаў у ёй, затым матнуў рукой і зноў прысеў да сына; на састарэлым – у няпоўныя пяцьдзясят гадоў – твары бліснулі дзве слязіны. – А выявілася, што Ігната арыштавалі... Пэўна, хтосьці са сваіх, як гэта водзіцца, выдаў... І знаходзіўся ён у Дамініканскім касцёле, ператвораным у турму. Дом Здановічаў абшукалі і канфіскавалі. Ігнат і ягоны бацька – універсітэцкі прафесар – сядзелі ў асобных лёхах. Але ка́ты не змаглі вырваць у шляхцічаў аніякіх прызнанняў! Перад шыбеніцай яны пабачыліся... Калі прафесар Здановіч увайшоў у лёх, сын стаяў наўсколенцах перад святаром, спавядаўся... Убачыўшы бацьку, ускочыў і абняў... «Я шчаслівы і ўдзячны Богу, які дазволіў мне загінуць за Айчыну», – прашаптаў ён. Маці і сястру развітацца з Ігнатам не пусцілі. Яго вывелі на пляц у споднім і яшчэ з гадзіну трымалі на марозе. А калі паліцмайстар у апошні раз прапанаваў раскаяцца і распавесці пра паўстанцкую арганізацыю, Ігнат годна адказаў: «Мераеш мяне ўласнай подласцю?!» Вось яно як, а ты кажаш, ці стралялі мы, ці забівалі...

Прозвішча Адамавай маці да замужства таксама было Здановіч. Гэта яна, сястра згаданага закатаванага паўстанца, на Каляды 1863-га сустрэлася ў Караляўцы-Кёнінгсбергу з Казімірам Мацкевічам, куды прывезла мандат на выданне газеты «Голас з Літвы» і сродкі на тое. «Голас» мусіў інфармаваць Еўропу пра іх барацьбу і стаць зборным штабам вайсковай экспедыцыі з Усходняй Прусіі і Каралеўства Польскага ў Літву-Беларусь і Жамойцію.

Газета выходзіла тры месяцы, а ў красавіку 1864-га Казімір Мацкевіч і Марыя Здановіч, ужо як венчаныя муж і жонка, выедуць на сустрэчу з ваенным камісарам Літвы за мяжой Баляславам Длускім у Парыж, дзе і даведаюцца пра канчатковую паразу паўстання. На руках у іх застануцца невялікая сума грошай і «білет» на права свабоднага пражывання ў Францыі з пячаткай Аддзела Літвы Польскага Нацыянальнага ўрада, а праз паўгода – з’явіцца і сын Адам...

Ён разгарнуў новую папку – якраз з адбіткамі «Голаса з Літвы» – і пачаў нетаропка чытаць прыкамечаныя, пажаўцелыя, памеру звычайных улётак старонкі...

«Мы вычарпалі ўсе мірныя сродкі. Патрабавалі, каб цар нам даў, што нам трэба, – не даў.

Пайшлі далей і распачалі пасіўнае супраціўленне. Спявалі і маліліся да Бога, каб прывёў Маскву да одуму. Але Масква была пад уладай сатаны і не слухала боскіх натхненняў, і, калі на нашых вуснах была малітва, пасылала кулі ў нашы безабаронныя грудзі...»

«Век XIX вялікі плёнамі... З хіжага дэспатызму пачалі праяўляцца правы чалавека; спачатку паасобку, а потым аб’ядналіся ў хор, які выйшаў

з Францыі і дайшоў да Масквы... Усё, што працівіцца волі Бога і правам чалавека, злучаецца з лагерам царызму...»

З кожнай старонкай для Адама зноў адкрываўся новы таямнічы свет: свет яго бацькі, свет яго маці, свет іх далёкіх невядомых продкаў, – тое, што здавалася хоць і міфічнай атлантыдай, але падсвядома пульсавала ў ягонай ліцвінскай крыві.

Ап'янёны згукамі мінулага і супакоены імі, ён і заснуў над тымі газетамі. І было яму ў той час соладка, шчасліва і цёпла – у нядаўна купленым на нядзельным кірмашы сінім швэдары, якія толькі пачалі прыжывацца ў Францыі і які нагадваў яму той, ужо даўно малы і зношаны, звязаны на шатландскі ўзор мамай – незадоўга перад адыходам яе ў свет лепшы...

## IV

Гаючыя гразі сілезскага курорта не атушылі жаночыя сакрэты Елізаветы Берг. Аднак праз два месяцы яна абвесціла мужу аб сваёй цяжарнасці, і той – як апантаны карнэт – да ночы насіў Лізуню на руках, бесперастанку шаптаў «курка мая пушыстая», пакуль жонка не зазлавала на свайго «пеўніка бясхвостага»...

Трэба прызнацца, Віктар Аляксандравіч, хоць і прайшоў немалую вайсковую кар'еру з грубымі казармамі напачатку, ад нараджэння адчуваў у сабе мяккую лірычную душу. Яшчэ з кадэцкага корпуса трызніў ён аб нечым незвычайна-ўзнёслым, што паўставала ў вобразе чароўнай дамы сэрца. І яна не прымусіла сябе доўга чакаць: з'явілася перад ім у сонечны нядзельны адвячорак у асобе дзяўчыны з мілым тварыкам, далікатна накручанымі кудзяркамі жытнёвых валасоў, з бадзёрымі формамі, сукенкай на крыналіне, грацыёзна абцягнутай на таліі, з дэкальтэ ў форме сэрца... Обер-афіцэр Берг смяротна, да серэнадаў закахаўся ў сваю будучую жонку, пісаў-прысвячаў ёй вершы, абсыпаў пацалункамі і падарункамі, балазе састарэлая матухна пакінула на тое пэўныя сродкі... І вось ён абдораны сам – будучым нашчадкам!

– Ліза, ты не ўяўляеш, як ты мяне абрадавала! Наўзамен за мае паэмы ты падорыш мне раман! – не сунімаўся саракагадовы палкоўнік. – Калі народзіцца сын, давай мы яго так і назавём – Раман...

Аднак жаданаму збыцца не было наканавана: перад вясной у Лізаветы здарыўся выкідыш, і іх сямейнае жыццё перафарбавалася ў атрутныя колеры.

Жонка сумавала ад адзіноты, бо не мела ні сяброваk, ні нават знаёмых. Муж зранку сыходзіў на службу і вяртаўся толькі на абед, галодны і стомлены, а замест гарачага супу ды біфштэксаў ці сямейных катлетаў атрымліваў чарговую порцыю нараканняў на хцівую кухарку ды яго, чэрствага і негаспадарлівага... Надламалі спакой і канцылярскія інтрыгі-шашні: за ўсе гады бездакорнай службы ён, галоўны справавод і начальнік статыстычнага аддзела Канцылярыі Генеральнага штаба, які распрацаваў беспрэцэдэнтнае «Палажэнне» асобнай дзеючай арміі, у спісе іншых афіцэраў быў адзін узнагароджаны ордэнам святога Уладзіміра IV ступені, усяго толькі IV-й, хоць іншыя, нават ніжэй рангам, былі ўганараваныя ступенню III-й. Як тут не расчараваца ды не аддацца роспачы?

Але бясконцыя сваркі з жонкай атручвалі жыццё яшчэ больш, і афіцэр ад безвыходнасці збягаў на службу, а на наступныя раніцы ўжо выспяваў да размоў аб разводзе ці хаця б раз'ездзе. Ліза абуджана згаджалася, але праз



*Аляксандр III*

хвіліну продума пачынала плакацца пра свае нікчэмныя фінансавыя ўмовы. І ён ахвяраваў немалую суму золатам і выправіў яе за мяжу – падлячыцца ды аднавіцца. У жонкі зноў былі Швейцарыя ды Францыя, і вярнулася яна амаль ранейшай Лізай: спакойнай, задаволенай, ласкавай, памаладзелай. Праўда, без грошай, але з валізамі набыткаў-абновак, якія яшчэ з месяц пасыльныя дастаўлялі на іх кватэру з мытна-памежнага літоўскага Вержбалова.

А затым пасярод лета 1890 года Віктар Берг нечакана атрымаў загад прыкамандзіравацца на вайсковыя зборы пад Нарвай. Каб аздобіць жонцы расстайныя дні, ён абаніраваў у піцерскім французскім тэатры месца і настойліва папрасіў адпісваць на ягоныя лісты. А яшчэ мусіў набыць паходны рыштунак і сядло (каня з веставым даў начальнік кавалерыйскай школы).

На другі дзень пасля прыбыцця ў лагер давялося рыссю пераадолець каля сарака вёрстаў пыльнымі жнівеньскімі дарогамі – пасля чаго ледзь не патрапіў у лазарэт. Затое назаўтра падчас сняданку палкоўнік Берг бачыў зблізу адразу двух імператараў: аграмаднага ў сваёй мядзведзістай паставе Аляксандра III – у зялёным вайсковым сурдуце і фуражцы (якая здавалася замалой для ягонай гарбузаватай галавы) і Вільгельма II, невысокага маладога чалавека са смешна ўзнятымі ўверх вусікамі, які нядаўна стаў нямецкім кайзерам ды каралём Прусіі і, выглядала, яшчэ не звык да свайго становішча. Імператары пасля сняданку селі ў адкрыты экіпаж, але Вільгельм II мусіў устаць і спехам зняць паліто, пададзенае яму лёкаем... Аляксандр III падкрэслена гучна называў калегу на «ты» і задаволена ўсміхаўся. Следам за каранаванымі інспектарамі ў лёгкія карэты ўціснуліся ваенныя міністры і міністры замежных спраў. Высокапастаўленыя асобы рушылі да Нарвы, за імі – кавалькада малодшых чыноў з розных расійскіх і нямецкіх ведамстваў. Усе статныя, са зяннем вяльможнай пыхі на прыпухлых пасля бяссонніцы тварах. У адным з іх... так! Берг пазнаў свайго знаёмага па леташняй замежнай вандроўцы Генрыха Люцыуса. Іх позіркі сустрэліся, і немец-вершнік першым узняў руку, павярнуў каня і пад'ехаў бліжэй. У ім заўважалася нейкая змена. Вочы пад густымі брывамі падаліся нейкімі нежывымі, шклянымі нават... Можа, таксама ад бессані?.. Твар схуднелы, без ранейшай жывой мімікі. Аднак Генрых прывітаўся ўсё ж з радаснай усмешкай:



*Вільгельм II*

– Пазнаяце? А я ўжо, Віктар Аляксандравіч, ведаў, што вы тут... Надоечы сустрэў у тэатры вашую жоначку. Падалося, яна моцна сумуе адна ў Пецярбурзе...

– Бог з вамі, гер Люцыус, як не пазнаць! Дасюль удзячны за ваш наймілы escorte... – Берг ніякавата аблізнуў вусны: – Як не забыў і пра вашае ласкавае абяцанне з фраў Кларай павячэраць у нас.

– Дзякуй, але... самі разумееце, служба. Яго імператарская вялікасць кайзер адбудзе дамоў праз тры дні, а там яшчэ з тыдзень невылазнай працы ў пасольстве...

– Дык, канечне, пазней! Я ж таксама пакуль залёг тут на манёўрах.

– То сустрэнемся! – Люцыус ускочыў на каня. – Загадзя напішыце, калі...

І вось нарэшце – за плячыма пыльныя паходныя абеды ды вячэры наспех. Жонка з нечаканай радасцю пачала рыхтавацца да сустрэчы з нямецкімі сябрамі яшчэ з раніцы, сама кантралявала кухарку, колькі разоў нагадвала, каб тая ні на што не скупілася.

– Яны такія мілыя! Праўда, каханы?

Віктар Аляксандравіч ажно папярхнуўся ад нечаканасці: ён ужо і забыў, калі тое «каханы» чуў ад жонкі. Шчокі яго ўраз запунсавелі, а ў адказ толькі і змог хітнуць галавой.

І вячэра атрымалася на славу! Былі пададзеныя халодныя закускі з ікрой, свіныя медальёны ў шалфеі, заяц з размарынам, курыная пячонка з белым віном і яблыкамі, паштэт з ласося ў падліве...

– Вы вырашылі нас абкарміць! – удзячна жартавалі госці, але частаваліся ахвотна. Да́мы пілі чырвонае французскае віно, а мужчыны пасля гарэлкі перайшлі на каньяк.

Віктар Аляксандравіч адчуваў сябе найшчаслівым жыхаром Пецярбурга. Ён палаў дасціпнасцю, дэкламаваў па-нямецку Шылера і Гайнэ, па-расійску Дзяржавіна і нават сваё. Ды, як водзіцца за падобнымі сталамі, п’янеў – і ад нямала выпітага, і ад жончыных ласкавых усмешак. Апошняе, што ён больш-менш яскрава ўсведамляў, – гэта як угаворваў Люцыусаў застацца ў іх начаваць...

Ранішняе абуджэнне, якое прыспешвала пахмельная смага, было цяжкім. Праз апухлыя павекі калола святло лямпаў («Забылі ноччу патушыць?»), у галаве стралялі старадаўнія пішчалі. Паспрабаваў прыўзняцца – ложак хіснуўся пад ім, як лодка. І тут сэрца спынілася і, здалося, вось-вось выскачыць праз скроні: побач з ім, напаўнакрытая бялюткай коўдрай, ляжала... спала... распранутая жонка дарадцы пасольства кайзера Вільгельма Клара Люцыус!.. Яе чорная карункавая бялізна была раскіданая на ложку і каля яго... Заледзянелы палкоўнік машынальна нагнуўся, каб падняць карсет-станік, – і бакавым зрокам спакмеціў, што ў спальні каля жончынага століка хтосьці сядзеў...

– Я думаў, палкоўнік, што ты ўжо і не прачнешся... І цябе давядзецца прыстрэліць соннага!

Віктар Аляксандравіч пазнаваў і не хацеў пазнаваць голас Генрыха Люцыуса. Шчокі яго ўспыхнулі адчайным полымем, вочы акругліліся; як агаломшаная рыбіна, ён паспрабаваў хапануць паветра, каб штось вымавіць, але тут зноў затахкала сэрца, – і ён толькі змог споласна затрэсці галавой.

Уздыхнула і стомна пацягнулася фраў Клара, затым сонна ўсміхнулася, заміргала, убачыўшы над сабой чужога мужчыну, нервова крыкнула, – нібыта апяклася аб яго, – і, укручваючыся ў коўдру, саскочыла на падлогу. Заўважыўшы мужа, задрыжэла і з істэрычным крыкам «O mein Got! Heinrich, das ist ünmoglich![1]» выбегла са спальні... А Генрых Люцыус нават галавой не павёў:

– Дык куды ў цябе, свіння, выстраліць?! – Ён марудна і са смакам узвёў курок рэвальвера і нацэліўся. – У галаву, каб раскалоўся твой паганы чэрап і жонка ўбачыла мазгі на падушцы? Ці ў сэрца, каб выцекла паболей тваёй юрлівай крыві?!

---

[1] Божа мой! Генрых, гэта немагчыма! (*Ням.*)

Віктар Аляксандравіч гатоў быў вось-вось страціць прытомнасць...

– А можа, напачатку ў калена, каб ты яшчэ паскавытаў перад смерцю і абмачыўся ад болю?

Люцыус узняўся і марудна працокаў да ложка. Ягоны колішні сябар з вытарачанымі вачыма прыліп да сценкі, выставіў наперад дрыготкія рукі і зашаптаў:

– Не, не... Не забівайце...

Люцыус уздыхнуў і прысеў побач, паклаў руку з рэвальверам на скамечаную прасціню і... таксама нечакана зашаптаў:

– Калі хочаш, будзеш жыць. Толькі наўзамен адпрацуеш. Мяне зацікавіць любая інфармацыя з тваёй Канцылярыі, Генштаба ці наогул міністэрства. І ты мне яе будзеш перадаваць, ясна?! – Слова «ясна» было выкрыкнута, яно ляснула куляй па вушах атарапелага палкоўніка. – У адваротным выпадку ты за шчасце ўспрымеш самазабойства... Твае фотаздымкі ў абдымках з разведчыцай-іншаземкай мы разашлём з адпаведным тэкстам па многіх кабінетах Пецярбурга, – Люцыус пастукаў рэвальверным дулам па кішэні, з якой выныраў раменьчык фотаапарата. – І тады ты нават сваімі вершамі не адмыешся. Як кажуць, besser ein Auge verlieren als den guten Ruf[1]. Па-вашаму неяк больш дакладна: беражы сукенку знову, а гонар змоладу. Ясна?!

Віктар Аляксандравіч уздрыгнуў і ціха заківаў...

Так хутка завербаваць чалавека яшчэ ніколі не ўдавалася мацёраму разведчыку расійскай секцыі аддзела III-B нямецкага Генштаба Генрыху Люцыусу. Ён нават з нейкай шкадобай зірнуў на свайго няшчаснага візаві (ці, падумаў, як вымаўляюць у любімым ім Парыжы: vis-a-vis) і паспрабаваў супакоіць:

– А так нічога не здарыцца, ды і нічога страшнага ты не будзеш рабіць.

– Ага... – нечакана абудзіўся Віктар Аляксандравіч. – За здраду з жанчынай – здрадзіць айчыне?!

Люцыус хмыкнуў, у здзіўленні матнуў галавой, – так што кучаравы чуб адкінуўся назад, – і працягваў на «вы»:

– Толькі давайце без патэтыкі... Мы ж – саюзнікі. Самі ж, гер палкоўнік, бачылі, як нашыя імператары з'явіліся перад войскам – як браты. Словам, не ламіце галаву. Будзьце здаровымі! – Люцыус устаў і пайшоў да дзвярэй, каля якіх павярнуўся і дадаў: – Вось што яшчэ... Мілая ваша жоначка Елізавета Мікадзімаўна нават згоду падпісала аб супрацоўніцтве са службай выведкі... у мінулы свой візіт у Францыю. І, па ўсім, пакуль не пашкадавала. І на сустрэчах у тэатры што-кольвек з вашых запісаў нам перадала. Так што вы, калі ласка, таксама пастарайцеся. Нагадаю яшчэ раз: абмен тымі-сімі ведамі паміж саюзнікамі – гэта не здрада: ні прысязе, ні айчыне...

Тапельцу заўсёды хочацца верыць у саломіну. І Віктар Аляксандравіч Берг не быў выключэннем. Адно ён аніяк не мог знаць, што ў тыя дні «братэрскія» сувязі паміж Нямеччынай і Расіяй пачалі халадзець, і перамовы ў Нарве паміж імператарамі не палецілі іх: заключаны некалі «Саюз трох», дамова аб сяброўстве і супрацоўніцтве паміж Расіяй, Нямеччынай і Аўстра-Венгрыяй, не быў падоўжаны. Імператары з міністэрскімі світамі раз'ехаліся чыгункай у розныя бакі – ні з чым...

[1] Лепш страціць вока, чым добрую рэпутацыю (*ням. прымаўка*).

## V




*Чыгуначны вакзал у Баку. Канец XIX*

За спінай, за вокнамі, за перастукам вагонных колаў заставаліся тысячы кіламетраў. І непараўнальныя Баку, Тыфліс, і нечаканыя масты над горнымі рэкамі, і неверагодныя каменныя цясніны. І два месяцы працы...

У невялікім мястэчку Сульян, дзе Кура выліваецца ў Каспій, азербайджанскі мільянер Айдар Зэйналабдзін Тугіеў задумаў пабудаваць халадзільны завод. Яго рыбныя промыслы багата раскінуліся на трыста вёрстаў ад паўднёвых іранскіх берагоў да Махачкалы. Воды Дагестана дарылі яму тоны селядца, а Кура, якая спяшалася да азербайджанскага ўзбярэжжа праз Турцыю і Грузію, радавала ў сваёй дэльце ласосем, асятром, бялугай, сяўругай, міногай, судаком. Селядзец адразу засольваўся, а вось астатнюю рыбу кансерваваць было шкада. Так і ўзнікла думка аб халадзільнай установцы. Памаракавалі, падлічылі: пры цяперашніх коштах у Расіі і Еўропе курскія прысмакі рыбы-ікры праз два гады акупяць нават самы вялікі і дарагі халадзільны завод парыжскага канцэрна Хірша. І паслалі туды заказ, выконваць які, зважаючы на высокі кошт работ, выехаў у невядомы край з брыгадай наладчыкаў сам дырэктар Рудольф Дызель, а з імі – тры грузавыя вагоны з матэрыяламі і абсталяваннем, з якіх праз два летнія месяцы бесперапыннай працы і вырасла маразільная аграмадзіна – ці не адзіная такая на тысячы вёрстаў у радыусе!

Праца была не толькі бесперапыннай, але і нервовай. Тугіеў увесь час намагаўся самачынна кантраляваць і камандаваць. Падмурак, сцены і, здавалася, кожны камень не мінулі ўважлівага позірку заказчыка. Гэта ўжо потым Дызель даведаўся, што мільянер рос у беднай сям'і шаўца і з дзесяці гадоў быў аддадзены бацькам у чаляднікі да бакінскага муляра. З дваццаці гадоў сам кіраваў будоўлямі, і тут – прамінуць сваю?..

Шмат у чым эксперыментальны халадзільны завод, у кампрэсарных устаноўках якога замест вогненебяспечнага метылавага эфіру выкарыстоўвалі аміяк, запрацаваў напрыканцы жніўня, а да паловы верасня яго складскія камеры былі цалкам запоўненыя рыбай, якая па новым чыгуначным адгалінаванні ў вагонах-рэфрыжэратарах паплыла па ўсёй Расіі...

Парыжскі канцэрн барона Хірша быў па-царску (па-хански?) аддзячаны. Яго дырэктар Рудольф Дызель і галоўныя інжынеры за выкананую працу атрымалі падвойны заробак. На трое сутак зацягнулася развітальная вячэра, пасля чаго былі экскурсіі па Баку: стары горад і Апшэрон.

– З рыбай парадак навёў. Цяпер, калі дабраславіць Алах, займуся нафтай, – нібы падумаў, нібы канстатаваў Тугіеў. Аберуч паправіў сваю лёгкую папаху з чорнага каракулю і бадзёра ўздыхнуў; акуратная (таксама чорная, аж ільснілася) бародка, імпэтныя вусы выступалі ледзь не да вушэй, правае брыво прыўзнятае.

Іх кавалькада з пяці конных экіпажаў, якія тут звалі на французскі

манер дыліжансамі, вярталася да гатэля па Мікалаеўскай вуліцы, і Тугіеў прыўзняўся, нахмурыўся, а калі перад імі паўстаў новы двухпавярховы будынак, не без гонару паказаў на яго рукой:

– Вось... таксама мая задума... Першая ў мусульманскім свеце гімназія для дзяўчынак. Хвала Алаху, сёлета быў першы выпуск. 58 навучэнак, большасць – з бедных сем'яў. Вучоба, адзежа, харчаванне – бясплатныя. – Ён здаволена прысеў і звярнуўся наўпрост да Дызеля: – Мая старэйшая дачка Ханым таксама яе закончыла. І вырашыў я выправіць яе з братам, сынам маім Зафарам, у Еўропу, моваў вашых падвучыцца ды добрых навук. Для мяне ўсё тое – нямая пустыня, а ты, мой дарагі, па ўсім мяркуючы, вучонасць з матчыным малаком усмоктваў... – Мільянер, пакуль сказанае ім перакладалася тлумачом, глыбока прасвідраваў Дызеля каштанавымі зрэнкамі. – Будзь дарадцам дзецям маім у невядомым ім Парыжы.

– Шаноўны Айдар, для мяне гэта – вялікі гонар, – Дызель нават крыху збянтэжыўся. – Зраблю ўсё неабходнае. Вось толькі... сам я, па праўдзе, надоўга заставацца ў Францыі не планую. Хачу на наступны год пераехаць у Нямеччыну і адкрыць там завод рухавікоў.

– А ты думаеш, што я дзяцей больш чым на год у чужыну выпраўлю? – збянтэжыўся і Тугіеў. – Мы ўсіх, каму выдаем замежныя стыпендыі на вучобу, абавязваем праз пэўны час вяртацца на радзіму. А як жа інакш?..

І быў ад'езд з Баку, і доўгі сон у камфортным купэ да Тыфліса і далей, і нястомны перастук вагонных колаў...

Ідэя пазнаёміць дзяцей Тугіева з Адамам Мацкевічам узнікла ў Дызеля адразу ж па вяртанні ў Парыж.

– S'il vous plaît[1]... Дапамажы! Ты ж хоць па-расійску з імі пагаварыць зможаш. Яны добрыя маладзёны...

Дамовіліся сустрэцца вечарам каля гатэлю «Victoire», дзе пасяліліся Тугіевы. Да ўніверсітэцкіх заняткаў заставаўся яшчэ тыдзень, і заканчэнне цёплага верасня было вырашана патраціць на экскурсіі і знаёмства з горадам.

– Бульвар Монпарнас, да Эйфеля! – загадаў Адам вазніцу, калі ўсе чацвёра селі ў экіпаж. – Саборы і музеі вы і без нас разгледзіце, а вось гэта... Зрэшты, з усяго Парыжа тое месца я найлепш і ведаю... – Адам замоўк і толькі цяпер пачаў далікатна разглядваць сына і дачку Тугіева.

Зафару, тыповаму каўказцу з худзізной на твары і ў плячах, на выгляд было гадоў пад пятнаццаць. Апрануты ў прыталены шэра-сіні касцюм, пінжак крыху падоўжаны і зашпілены на ўсе гузікі. На галаве – чорны фетравы цыліндр. Ханым, старэйшая за брата вясны на дзве-тры, была ў сваім нацыянальным строі, які напачатку здзівіў і падкрэсліў незвычайнасць іх сустрэчы. З галавы дзяўчыны ледзь не да каленяў сплывала лёгкая празрыстая чадра. Пад ёй – вузкая бірузовая блуза-кабацік з квацістым арнаментам на кантах, з вялікім трохкутным выразам, у якім бялелася вышытая срэбным бісерам кашулька. Чорны шырокі пояс выяўляў грацыёзную талію, ад якой ішла доўгая паветраная спадніца-шэлтэ, таксама бірузовага колеру. Смалістыя валасы густой касой спадалі на ўжо сфармаваныя і налітыя чаканнем грудкі... А якія вочы! Вялікія бяздонныя чорныя вочы пад доўгімі брывамі. Яна ўвесь час хавала іх, глядзела ўніз, але калі на хвілю здаралася сустрэцца з імі – на Адама люстравалася невядомая біблейская далеч...

---

[1] Калі ласка (*франц.*)

Перад Енскім мостам яны спыніліся і да вежы Эйфеля падышлі пешшу. Зафар, падтрымліваючы фетравы цыліндр рукой, уражана вывучаў жалезную аграмадзіну, а Ханым толькі ажыўлена міргнула некалькі разоў, усміхнулася і натхнёна спытала:

– А можна... туды? – і паказала рукой уверх.

– Так! – усміхнуўся і Адам. – Больш за тое, прапаную там і павячэраць. На другім паверсе – някепская рэстарацыя.

Якраз перад імі спыніўся ліфт усходняй апоры вежы. Прымацаваны да асобных рэек, ён узнімаўся па вуглавой траекторыі дзякуючы гідраўлічным помпам.

Сонца яшчэ вісела далёка над кварталамі. Знізу даляталі хрыплыя гудкі клаксонаў. Вецер шамацеў у перагародках вежы і складках адзежы.

Яны занялі асобны столік каля зашклёнай вітрыны, замовілі бараніну з печанымі яблыкамі, чай і безалкагольны пунш.

– А я думала, што найбольшыя вежы – гэта нафтавыя, на нашым Апшэроне... – прамовіла Ханым да брата, але зразумела, што яе пачулі ўсе – і пачырванела.

– Уражвае? – спытаў, каб перарваць паўзу, Адам і, не чакаючы адказу, дадаў: – Многім, насамрэч, яна не падабаецца. Тры сотні французскіх пісьменнікаў і мастакоў нават пратэставалі супраць гэтай пабудовы Эйфеля, назвалі яе гіганцкай фабрычнай дымавой трубой.

– Прабачце, – перапыніў яго Рудольф Дызель, – Адам быў адным з вядучых інжынераў на гэтай будоўлі.

– Ага?! – ужо здзівіўся Зафар.

– Ну так, – кіўнуў, як між іншым, Адам і закончыў: – А цяпер тут многія з тых пісьменнікаў і мастакоў любяць пасядзець. Апраўдваюцца, што гэта адзінае месца ў Парыжы, з якога не відно вежы...

За ўсю вячэру больш разгаварыць гасцей не ўдалося. Яны пакінулі шчодрыя чаявыя, якія Зафар назваў па-свойму – бакшыш. Калі ж даведаўся, што па-французску гэта называецца pourboire, даслоўна – «на выпіўку», грэбліва скрывіўся і трасянуў галавой.

З рэстарацыі зноў выйшлі на адкрытую тэрасу з драўлянай падлогай. Сонца ўжо апускалася на Сену і густа залаціла бульвар, куды і намерыліся вярнуцца наведнікі. Аднак Ханым на хвілю застыла, затым па-дзіцячы ўхапілася за братаў рукаў, штосьці прамовіла па-свойму і па-змоўніцку кіўнула ўверх.

Зафар нахмурыўся і штось грубавата крыкнуў – таксама па-свойму.

– Не, гэта дазволена і цалкам магчыма... – нібыта зразумеў іхнія рэплікі Адам. – S'il vous plaît, калі жадаеце.

Над імі ўзвышаліся чатыры калоны другой платформы, якія паступова зближаліся і, пераплятаючыся, утваралі каласальную стальную піраміду з трэцяй платформай. Другі і трэці паверхі злучаў ужо вертыкальны ліфт. Ён быў складзены з дзвюх спалучаных кабінаў, верхняя падымалася на сотню метраў, а ніжняя служыла супрацьвагай. Заманліва паскрыпваючы, той ліфт і ўзняў іх на трэцюю платформу з пляцоўкай назірання крокаў у дваццаць папярок. Там нікога не было, і яны павольна – адзін за адным – прайшлі па ўсім перыметры, цікаўна пазіраючы ў шчыльна закратаваныя бакоўкі. Апошняя – Ханым – ступала мякка, як па лёдзе, нібы напалоханая лань, але раптам абудзілася, узняла рукі і нейкім дрыготка-сп'янелым голасам выкрыкнула:

– Yüksək! Yüksək![1]

А затым, аберуч прытрымліваючы доўгую пульхную спадніцу і напружна прыкусіўшы вусны, кінулася па прыступках уверх!

– Ханым! – гучна абурыўся брат, але яна не чула.

Хутка стукалі чаравічкі па жалезных пласцінах, як ейнае ўтрапёнае сэрца. Адзін пралёт... Другі... І яна – ужо не лань, а гарэзнае птушанё, якое нечакана выпырхнула на волю... Чадра ў сонечных іскарках – як мройны німб... І – толькі вецер, і – толькі неба...

Калі назаўтра Адам прыйшоў на кватэру Дызеляў і загаварыў пра Ханым, Рудольф здзіўлена ўзняў галаву:

– Слухай, а ты часам... не закахаўся?!

І адразу ж убачыў, які адказ палымнеў у неспакойных вачах сябра...

## VI



*Рудольф* ДЫЗЕЛЬ

Рудольф Дызель не быў рамантыкам. Больш за тое, у яго характары і свядомасці пераважала матэматыка. Аднак душа – поўнілася паэзіяй. Асабліва ў часы пошукаў і роздумаў. І тады ён ці дэкламаваў на памяць улюбёныя вершы – калі быў на шпацыры, ці зачыняўся ў кабінеце з томікам паэзіі, ці – як і цяпер – садзіўся за раяль ды падоўгу іграў санаты Бетховена: яго бадзёра-продумную «Месяцовую» пад № 14 ці крынічна-бурлівую «Буру» № 17...

Штосьці блізкае было ў іх: механіку і кампазітару. Бетховен смела супрацьпастаўляў крайнія музычныя рэгістры, ствараючы адметны стыль, адрозны ад пашыранай паўсюдна «карункавай» манеры клавесіністаў. Спалучыць у адным цыліндры сілу агню і механікі вымагаўся і Рудольф Дызель, хацеў пераўтварыць у рэальную цяглавую сімфонію ідэальную сілу тэрмадынамікі. Кніга Карно «Развагі пра рухаючую сілу агню і пра машыны, прыгодныя для развіцця гэтай сілы», напісаная і апублікаваная ўжо сто гадоў назад, была яго настольнай – і чыталася з не меншай асалодай і душэўным уздымам, чым томікі вершаў Байрана ці сучасніка Малармэ. Карно першым пачаў крытыку паравога рухавіка і загаварыў аб прымяненні сціснутага паветра для цеплавога рухавіка, а таксама аб метадзе прамога ўпырсквання паліва ў напампаваны цыліндр. Крытыкаваць і гаварыць, безумоўна, можна, але вось як усё тое ажыццявіць? У метале і ў рэчаіснасці, а не на паперы і ў думках... Па ўсім свеце – на заводах, цягніках, караблях – працуюць паравыя машыны, каэфіцыент карыснага дзеяння якіх – 5%! А ў механічную работу пераходзіць толькі 4% ад усёй патрачанай энергіі, бо працэнт яшчэ траціцца на трэнне механізмаў. Амаль усё вылятае ў трубу! Тым не менш, іх – «паравікі» – не могуць выціснуць слабейшыя і даражэйшыя рухавікі на свяцільнай газе ці бензіне. А

[1] Высока! Высока! (*Азербайдж.*)

Дызель трызніў пераўзысці апрабаваныя рухавікі Отта! Тыя ўсмокталі ў цыліндры загадзя падрыхтаваную рабочую сумесь, якая адразу ж загаралася-ўзрывалася. Ён жа праектаваў іншыя цыклы: поршань усмоктвае ў цыліндр паветра (а не рабочую сумесь), сціскае яго, затым упырскваецца паліва і самаўзгараецца. Пераход ад ідэі да практыкі, праўда, ледзь не каштаваў яму і здароўя, і сямейнага дабрабыту...

Ён быў рэспектабельным дырэктарам Парыжскага завода халадзільных машын. Колішні настаўнік прафесар Ліндэ запрасіў на працу ў Берлін, і Дызель стаў членам праўлення завода – з акладам у 30 тысячаў марак. Ці мог ён аб такім некалі й марыць – калі галодным трынаццацігадовым хлапчуком з'язджаў-уцякаў з ахопленага вайной роднага Парыжа ў родны бацька́м Берлін? А цяпер у яго шыкоўная кватэра на Кюрфюрстэндам – і ніводнай матэрыяльнай праблемы!

Аднак Дызель вытрымаў так толькі тры гады – і пакінуў працу. І зноў не меў супакаення, трызнячы пра сваю лабараторыю і вопыты з «ідэальным» рухавіком.

Да таго часу ён – ужо аўтар выдадзенай у Берліне кнігі «Тэорыя і канструкцыя рацыянальнага цеплавога рухавіка, прызванага замяніць паравую машыну і іншыя існуючыя ў гэты час рухавікі», а таксама патэнта пад № 67207 на свой рухавік. У невытлумачальным эмацыйным запале Дызель разаслаў на дзясяткі нямецкіх заводаў лісты з прапановай пабудаваць рухавік новага тыпу і прыклаў да іх сваю брашуру. Праходзілі месяцы, аднак назад не вярнулася ніводнага ўхвальнага водгуку...

Тады ў яго і пачаліся невытлумачальныя галаўныя болі, вострыя, маланкавыя. Дактары не маглі іх дыягназаваць, а выпісаныя рэцэпты не прыносілі паратунку. Калі не дапамагалі ні Бетховен, ні Вагнэр, ён зачыняўся ў кабінеце і падоўгу курыў цыгары – і незаўважна зноў забываўся, абкладваўся паперамі, штось да стомы пісаў і крэсліў, крэсліў і пісаў.

Праз знаёмых прафесараў удалося нарэшце ўлагодзіць і пераканаць дырэкцыю Аўгсбургскага завода, які ўзяўся за пабудову новага рухавіка, праўда, атрымаўшы на яго ад Дызеля аўтарскія правы. Але інжынер і тым быў узрадаваны. Ён амаль суткамі знаходзіўся ў асобнай завадской майстэрні. Прачынаўся рана – і да ночы карпеў над чарцяжамі і канструкцыямі. Асноўнай задачай заставалася стварэнне ў цыліндры высокага ціску. У якасці паліва быў апрабаваны вугальны пыл, пасля чаго вырашылі выкарыстоўваць газу.

І вось у ліпені 1893 года, пасля хрысцінаў дачкі Дызеля Луізы, адбыўся запуск першага рухавіка. Аднак на 80-ці атмасферах не вытрымаў індыкатар, нейкі болт прашыпеў над вухам канструктара і куляй уеўся ў сценку.

Рухавік не завёўся. Ідэал не супаў з практыкай.

Дызель быў амаль у адчаі.

– Вось, яшчэ б трошкі ніжэй – і мог бы вам прабіць галаву... – Механік выдрапаў болт і падкінуў яго на далоні.

Дызель уважліва агледзеў разарваную напалам жалезку – і згадаў пра свайго парыжскага знаёмага Мацкевіча з ягонымі заклёпкамі.

«Вежа ж ужо ўзведзена... Ханым з братам вярнулася да бацькі ў Баку... – падумаў Дызель. – А ці не запрасіць яго да сябе?..»

Так Адам Мацкевіч патрапіў у Аўгсбург, пасля чаго машынабудаўнічы канцэрн «Браты Карэль» набыў патэнт на рухавік і стварыў французскае Таварыства «Дызель». І ў гэты час, калі яго старшыня сядзеў за раялем і,

разбудзіўшы ўсю кватэру, даігрываў «Буру» Бетховена, Адам рыхтаваўся да запуску трэцяга ўзору «рухавіка Дызеля», як любоўна паспеў яго назваць.

Неўзабаве ў майстэрню, ухапіўшы замест ранішняй кавы цыгару, прыйшоў і галоўны канструктар. Выгляд рухавіка наноў узбудзіў яго: вычышчаны, з кулачковым валам ужо зверху, з вялікім колам-махавіком, з паветранай помпай для ўпырсквання паліва. Яе, помпу, угаварыў усталяваць Адам, які цяпер у замасленым камбінезоне засяроджана праводзіў апошнюю праверку патрубкаў вадзянога ахалоджвання – і на бадзёрае прывітанне толькі неяк грозна хітнуў галавой.

– Што ж, з Богам, – прашаптаў Дызель.

Два механікі падвялі прывад, рухавік ускалынуўся, напяўшы штатывы, штосьці ў ім зласнавата завуркатала, у твар вухнула сырым выхлапам, пасля поршань захадзіў самастойна – і майстэрню накрыў барабанны грукат, які не маглі прыглушыць радасныя крыкі прысутных. І малодшы Карэль, уладальнік завода, і Мацкевіч, і два рабочыя-механікі кінуліся разам абдымаць Дызеля, ледзь не ўзняўшы яго на рукі, але той дзівакавата адпіхваўся і крычаў:

– Прыборы, прыборы... сачы-ыце!

Выпрабаванні прайшлі паспяхова. Рухавік прапрацаваў самастойна 30 хвілінаў з неверагодным на той час паказчыкам: 32 % карыснага дзеяння. Самы лепшы паравы даваў толькі 16, а газавы Отта – 24.

– Гэта, гер інжынер, перамога! – павіншаваў Рудольфа Адам.

– Не, дружа, гэта толькі пачатак... – уздыхнуў канструктар.

Але і пачатка было дастаткова, каб пра яго напісалі цэнтральныя газеты Францыі, Англіі, Нямеччыны, Бельгіі, ЗША. Дызелю сотнямі пачалі дасылаць запрашэнні на канферэнцыі ды бізнэс-сустрэчы, і ён выправіўся ў сваё рэкламнае турнэ па Еўропе.

За першы – 1895-ы – год рэалізацыі патэнта на новы рухавік Таварыства «Дызель» атрымала каля 3 мільёнаў золатам...

## VII

Зранку ішоў звычайны пецярбургскі дождж. Гул-грукат карэт і конскіх капытоў рэхам прабіваўся нават праз тоўстыя сцены аграмаднага дома ваеннага міністра Пятра Іванавіча Курапаткіна на Садовай, і гаспадар зноў парадаваўся, што прыўзняў свае жылыя пакоі і рабочы кабінет на другі паверх. Таго, праўда, патрабаваў тайны цыркуляр Дэпартамента паліцыі, якім настойліва рэкамендавалася перанесці «службовую прастору на вышэйшыя паверхі ў мэтах бяспекі з прычыны магчымых тэрарыстычных актаў супраць членаў царскай сям'і і высокапастаўленых чыноў».

Як будзе з тымі актамі – невядома, а вось на першым паверсе шуму было больш, асабліва ў такія слотныя раніцы, падумаў міністр, зірнуў праз шкло на вуліцу, дзе ў туманным марыве схаваліся і Садовы мост, і Мойка разам з усім Марсавым полем, уздыхнуў, сеў за свой інкруставаны стол з моранага дуба і замовіў гарбату.

Генералу ад інфантэрыі Пятру Іванавічу міністэрскі абавязак надзвычай падабаўся. І не таму, што ў любы час ён адкрываў дзверы ў царскія пакоі ці ў Зімнім палацы, ці ў Лівадзійскім, – наадварот, ад імператарскіх вачэй Пётр Іванавіч стараўся трымацца падалей. І не праз бязмежную ўладу над сотнямі тысячаў падначаленых прыкіпеў сэрцам да гэтай па-

сады, – накамандаваўся за свой вайсковы век нямала. Выявіць думкамі і словамі, чаму так камфортна, спакойна і душэўна пачуваўся вось у гэтых міністэрскіх пакоях, за вось гэтым сталом, у яго не атрымвалася. Падабалася – і ўсё тут!

У дзверы далікатна пастукаў ардынарац. Прынёс белы імбрык з кубкам, печыва і шакалад.

– Ну хто там сёння першы? – паціраючы рукі, спытаў міністр.

– Першым з дакладам запісаны памочнік начальніка Канцылярыі палкоўнік Берг. Дазволіце паклікаць?

Міністр пераліў настоеную пахкую гарбату ў кубак, сербануў, манерна адставіўшы палец, і выдыхнуў:

– Запрашай.

Палкоўнік Берг бадзёра схіліў галаву, па-заліхвацку стукнуўшы абцасамі, і прысеў да прыстолка, з павагай гледзячы на міністра ды ўжо ў які раз дзівячыся яго незвычайнаму падабенству да маладога расійскага імператара Мікалая II[1]: такі ж правільны, роўны авал твару, і такі ж разрэз вачэй, і вусы з культурнай бародкай, і лёгкая прычоска набок з раннімі залысінамі...

Памочнік начальніка Канцылярыі тэзісна распавёў пра мабілізацыйныя планы на наступны год, пра будучыя структурныя пераўтварэнні ў асобных памежных акругах (Варшаўскай, Фінляндскай, Далёкаўсходняй і Закаспійскай), пра павелічэнне фінансавання арміі (аб чым, зразумела, яго вялебнасць спадар міністр ужо ведаў), што дазволіць якасна абнавіць у першую чаргу артылерыйскія часткі і палепшыць казарменнае ўтрыманне.

– Што маецца на ўвазе? – Пётр Іванавіч зацікаўлена прыўзняў бровы.

– Плануецца ў гарнізонах адкрыць чайныя, а таксама ўвесці новую табель харчовага забеспячэння ў часцях у ваенны час і ў перыяд вайсковых збораў ці манёўраў...

– Ясна. Някепска, – шмыгнуў носам міністр і зноў сербануў гарбаты. – Ну а праблемы?

– Паводле тых жа планаў, вашая вялебнасць, па-новаму пераасэнсоўваюцца тактычныя характарыстыкі ваенна-марскога флота і комплексная абарончая стратэгія, як сухапутная, так і водная. Дык вось у звязку з апошняй маем найбольшыя клопаты...

– Што, марскі міністр валаводзіцца?

– І так, і не... – палкоўнік Берг пацінуў плячыма. – Тэхнічнае забеспячэнне нашых караблёў робіць не лепшае ўражанне. Па манеўранасці і ўзбраенні яны адстаюць ад флатылій Францыі і Нямеччыны, ужо не гаворачы пра Англію. Ну і ў абарончым плане прабелы. Не хапае, напрыклад, марскіх мін. І пра закуп іх гаворкі не ўзнімалася. Шкада, што некалі мала замовілі іх на Пецярбургскім механічным заводзе Нобеля...

– Ага... – абудзіўся ваенны міністр. – Шкада...

Ён ведаў, што тыя міны яшчэ ў часы Крымскай вайны перакрывалі ўсё балтыйскае ўзбярэжжа Расіі: Кранштадт з Пецярбургам у першую чаргу. Стравальніку завода Эмануілу Нобелю на тым свеце ўжо не да мінаў, пагаворвалі, што за ім неўзабаве выправіўся і сын Людвіг...

– У Фінскім заліве выстаўлена каля паўтары тысячы мін Нобеля, менш – у акваторыях Свеаборга, Рэвеля, у чарнаморскім вусці Дуная і

[1] 20 кастрычніка 1894 года расійскі імператар Аляксандр III спачыў у вечнасці.

Днепра-Бугскім лімане. Але тэрмін іх эксплуатацыі падыходзіць да канца, а пра новыя размоў, паўтару, не вядзецца.

У кабінеце стала ціха. Але знадворку зноў усчаўся дождж, і вецер анархічна зашугаў у вокны.

Пётр Іванавіч Курапаткін мгыкнуў, высунуў левую ніжнюю шуфляду стала і дастаў з яе штэмпельны канверт з вадзянымі знакамі – лацінская літара N у аправе з ружаў. *«Прынесена ў Канцылярыю ад сп. Эмануіла Людвігавіча Нобеля прыватным пасыльным 25 жнійня гэтага г. Просьба аб сустрэчы»*, – значыўся на ім ад'ютанцкі надпіс.

– Нобелі-Нобелі... – паўтарыў Пётр Іванавіч і задумаўся. Згадаў, як перад самым сваім міністэрскім прызначэннем на Велікодным прыёме ў Пецярбургскага гарадскога галавы пазнаёміўся з сынам Людвіга Нобеля Эмануілам і нечакана атрымаў ад яго ў падарунак яйка фірмы Карла Фабержэ. Белая эмаль, інкруставаная залатымі ружамі і рубінамі, унутры – з чырвонага золата гадзіннік. Генерал тады пацепнуў плячыма і нядбайна сунуў падарунак у кішэнь кіцеля, і толькі праз некалькі месяцаў даведаўся, які тое яйка мела кошт – каля дзесяці тысячаў рублёў! Ды нават і не ў кошце была яго вартасць: падобных падарункаў існавала на той час каля тузіна, і амаль усе яны былі зроблены па замове імператарскай сям'і!

– Нешта яшчэ? – міністр абудзіўся ад успаміна.

Берг ніякавата крутнуўся і запунсавеў:

– Вашая вялікасць, не ведаю, як і адважыцца... Нядаўна атрымаў з Берліна ліст. Знайшоўся мой блізкі родзіч Генрых Берг, стрыечны дзядзька... Ужо амаль не ходзіць. Восемдзесят гадоў, не жарты... Дачуўся пра мяне праз нейкую даведачную кантору – і запрашае да сябе, з жонкай... Ці мог бы я асмеліцца прасіць у вашай вялікасці хаця б з тыдзень нечарговага адпачынку?

– Ну дык што ж... – міністр задаволена пацёр далоні. – І з'ездзі, калі з жонкай і калі запрашае. Можа, той састарэлы родзіч і спадчыну якую перапіша? Ха-ха... Памятаецца, і я пагуляў па тых заграніцах у сваю маладую бытнасць... – Хоць 45-гадовы ваенны міністр быў толькі на тры-чатыры гады старэй за палкоўніка.

Дождж тым часам не пераставаў і надакучліва цыкаў у замутнелыя шыбы міністэрскага кабінета.

– Што ж, Віктар Аляксандравіч, дзякую за службу. Можаце быць свабоднымі... – і рука міністра пацягнулася па кубак з ужо астылай гарбатай. – Ад'ютанта, будзьце ласкавы, паклічце.

*«Заўтра ў гадзіну дня. Рэстарацыя даходнага дома Данілавых. Генерал-лейтэнант К.»*, – спехам напісаў Пётр Іванавіч, склаў паперчыну напалам і ўручыў ад'ютанту:

– Неадкладна перадаць у кантору Нобеля, на Выбаргскую ўзбярэжную, дом 19, ля Чорнай рэчкі. Ну і наступнага – запрашай...

Другім з дакладам быў запісаны начальнік Канцылярыі міністэрства Мікалай Львовіч Лобіч. Курапаткіна не дзівіла, што той ішоў на аўдыенцыю пасля падначаленага. Ён, і не толькі ён, ведаў: генерал-лейтэнант, абцяжараны ўжо немаладым векам, спіць доўга, і ці здолее зранку ўстаць нават на ўсеагульную мабілізацыю з прычыны вайны – невядома.

– Мікалай Львовіч, галубок наш шаноўны! – твар міністра выявіў найчуллівую прыязнасць да наведвальніка. Устаў, ахвотна абняўся. – А я думаў ужо, што вы і забыліся на мяне.

– Дарагі Пётр Іванавіч, як вы можаце? Чым я такое заслужыў?! – па кабінеце разнёсся трубны, хоць і далікатны, бас. – Проста цаню і паважаю ваш каштоўнейшы час... – начальнік Канцылярыі па-пазёрску крактануў і прысеў побач з міністрам.

– Ну, расказвайце... – Вочы Курапаткіна звузіліся і патухлі.

– Вашая высокая вялебнасць, не мне пры вашай маладосці гаварыць, як цяжка з кожным старэчым днём жыццё даецца...

Міністр неўразумела ўзняў галаву і маўчаў.

– Вось і вырашыў я звярнуцца да вашай міласці з рапартам аб пенсіёне... – Мікалай Львовіч млява ўздыхнуў, гучна набраўшы ў лёгкія паветра, прыгладзіў даланёй пульхныя сівыя бакенбарды і дагаварыў: – А таксама, улічыўшы такія-сякія заслугі на ратных дарогах, з просьбай аб ласкавым хадайніцтве перад імператарам пра павелічэнне майго ўтрымання...

Галава міністра ўзнялася яшчэ вышэй. «Ён гэта ўсур'ёз ці з кепікамі?», – падумаў, пабарабаніў пальцамі па стальніцы, адкінуўся на фатэльную спінку і казённа падагульніў, расцягваючы словы:

– Ра-ана вам, дарагі-і Мікала-ай Льво-овіч, на супако-ой. Не така-ая на-ашая міністэ-эрыя бага-атая, каб раскі-ідвацца такі-імі людзьмі-і... – А завяршыў ледзь не скорагаворкай: – Ды і імператар наш не заахвочвае пенсійныя надбаўкі. А таму дазвольце падумаць мне над пачутым – і рашэнне прыняць пазней...

Рэстарацыя даходнага дома Данілавых даўно стала традыцыйным і любімым месцам душэўных сустрэчаў Пятра Іванавіча Курапаткіна з многіх прычынаў, першыя з якіх – някепская хатняя кухня, даўнасць і трываласць сямейных стасункаў з уладальнікамі, нешматлікасць наведнікаў і канфедэнцыяльнасць. Апошняе, пэўна, пераважала ўсё астатняе.

Пётр Іванавіч меў звычку прыязджаць сюды на сустрэчу хвілінаў на дваццаць раней: каб сесці за падрыхтаваны столік (і таму пачувацца за ім гаспадаром) ды правесці адпаведную «рэкагнасцыроўку на мясцовасці».

Неўзабаве з'явіўся і Нобель. Таксама, відаць, меркаваў з'явіцца першым.

– Добры дзень-добры дзень, Эмануіл Людвігавіч! Нягожа так надоўга забываць пра таварышаў... – ваенны міністр на правах старэйшага абняў Нобеля і тройчы расцалаваў яго ў шчокі. – Сядайце, калі ласка, частуйцеся, чым, як кажуць, Бог паслаў. Распавядзіце, як жывяце-можаце?

Было заўважна, як Нобель зніякавеў ад такога вітання. Але змог перасіліць здзіўленне, нават далікатна ўсміхнуўся, хітнуў галавой, адказаў «Дзякуй» і прысеў. Да напояў і ежы не дачапнуўся.

Ён быў маладзей за міністра на дзесяць гадоў. І нарадзіўся ў Пецярбурзе, у адрозненне ад выхадца з Пскоўшчыны Пятра Іванавіча. З вытанчанымі рысамі твару, з далікатнай бародкай, са шляхетнай мімікай і блакітам вачэй, – ён быў падобны на ўпэўненага марскога капітана, які паспеў ужо зведаць і хмель незвычайных адкрыццяў, і адчай тагасветных штормаў. Пасля смерці брата Карла Эмануіл узначаліў усю бізнэс-імперыю Нобеляў у Расіі: і Пецярбургскі механічны завод, і ўсе прадпрыемствы Таварыства нафтавай вытворчасці з багацейшымі радовішчамі на Апшэронскім паўвостраве каля Баку. Год таму ён быў прыняты ў расійскае падданства...

– Разумею-разумею, што няпростыя часы настаюць, – як пра нешта іншае пачаў Курапаткін. – Гідры розныя галовы ўзняць могуць. А мне вось надоечы даклад быў, што наш запас марскіх мінаў знасіўся, а яго ж

яшчэ Расійскай імперыі добрай памяці дзед ваш праектаваў і пастаўляў. Што скажаце пра гэта?

Эмануілу на хвілю здалося, што ён перастаў разумець расійскую мову. Зрэшты, і пачаў гаварыць цяжка, наноў шукаючы словы, – як у далёкім дзяцінстве:

– Вашая вялікасць, Пётр Іванавіч... Хачу з разуменнем паставіцца да сказанага вамі... Але, на радасць ці на жаль, наша Таварыства адышло ад тэмы ўзбраенняў...

– Ды гэта я так, па старой памяці, як гаворыцца... Ад вас надоечы прыйшоў ліст з просьбай аб сустрэчы, – генеральскі тон паступова пераплаўляўся ў афіцыйны. – Дык я вас уважліва слухаю.

– Я надзвычай удзячны за аўдыенцыю і пастараюся мінімальна забраць ваш час. – Нобель адклаў сталовыя прыборы і выструніўся: – Хочаце верце, хочаце не, дарагі Пётр Іванавіч, але пасля згаданых вамі мінаў ды і наогул выбуховак-нітрагліцэрынаў мы распрацоўваем больш магутную і эфектыўную зброю. А імя яе... – ён зрабіў паўзу і прымружыў вочы, – імя ёй – нафта.

Міністр нібыта прачнуўся. Ён распраміў вусы ў адзін бок, у другі, падняў графін, наліў суразмоўцу і сабе каньяку, чокнуўся, пацепнуў плячыма, выпіў і пачаў прыкусваць. Нобель толькі ледзь прыгубіў і працягнуў:

– Ваенная бяспека новага стагоддзя будзе грунтавацца не на мінах, снарадах, бомбах, а – на энергетычных складніках. І нафтавыя прадукты выцясняць менш эфектыўную паравую энергетыку. Расія ма́е ўсе шансы заняць у гэтай новай стратэгіі першае месца. І вы, Пётр Іванавіч, ведаеце, што ўсё нашае сямейства ўжо не першае дзесяцігоддзе працуе на гэтай ніве. Нафтаправоды, нашыя цыстэрны і танкеры... Гэта за некалькі гадоў замяніла тысячы конных падводаў і саматужную калодзежную здабычу. Распачалася масавая вытворчасць газы, бензіна, мазута, парафіна, гудрона, нафталіна, якія з Баку чыгункай трапляюць праз Тыфліс да Чорнага мора, а праз Рыгу – на Балтыку, з Астрахані і Ніжняга Ноўгарада развозяцца па ўсёй імперыі. І, прабачце, не мне вам нагадваць, колькі за ўсім гэтым ствараецца працоўных месцаў, як, зрэшты, і падаткаў ідзе ў казну... Падпісаны дамовы і ўзрастаюць пастаўкі нафтапрадуктаў у Англію, Нямеччыну, Аўстрыю, Францыю, Бельгію, Італію, Скандынавію. І мы спакойна канкуруем з амерыканцамі, хоць, да прыкладу, газа, выробленая з нафты нашых радовішчаў Піралахі, на 20–30 % даражэй, бо яна – лепшай якасці. Вельмішаноўны Пётр Іванавіч, пры найменшым спрыянні ў гэтай сферы мы можам мець каласальны эфект!

Ад такога трыбуннага выступу ваенны міністр неўразумела скаўтнуў, па-карнэцку пачухаў патыліцу, наліў сабе яшчэ каньяку і выпіў.

– Эмануіл Людвігавіч, вы мяне, часам, не зблыталі з эканамістам, статыстам ці якімсьці яшчэ далёкім ад ваеншчыны міністрам?

– Найдарагі Пётр Іванавіч, балюча чуць такія словы... На вас надзею ма́ю, бо вы як чалавек з народнага мора, і дзяржаўныя, і народныя інтарэсы сілай, дадзенай вам Усявышнім і імператарам, абараніць можаце. Зразумейце, калі ласка... Толькі нашае сціплае Таварыства здабывае нафты больш, чым усе Злучаныя Штаты. А падобных жа прадпрыемстваў вакол Баку – дзясяткі! Але ж анічога проста не даецца, тым больш у такой стратэгічнай галіне. Апошнім часам правакатары пачалі агітаваць рабочых да забастовак, нейкія чорныя брыгады па начах тэрарызуюць сем'і

нафтавікоў, асобныя галаварэзы забіваюць брыгадзіраў, адзначаны пашкоджанні нафтаправодаў, пачасціліся падпалы буравых вежаў і чыгуначных цыстэрнаў. Жандармерыя ўжо не можа справіцца з гэтымі арганізаванымі злачынствамі. Я, прабачце, далёка не вайсковага складу чалавек, але за ўсім гэтым бачу перадумовы лакальных ваенных дзеянняў...

Ваенны міністр задуменна хмыкнуў і наліў у кілішкі – цяпер ужо зноў суразмоўцу і сабе. Марудна выпіў, прыціснуў пальцам вусы і ўважліва ўгледзеўся ў Нобеля. Той гэтым разам таксама выпіў да дна, наспех прыкусіў лусцікам сыра і падагульніў:

– Пётр Іванавіч, вы разумееце і перажываеце больш, чым хто іншы... Вы служылі ў тых мясцінах. Вы ведаеце іх. Урэшце, да сваёй высокай міністэрскай пасады вы былі начальнікам недалёкай ад згаданага бакінскага Апшэрона Закаспійскай вобласці... Шчыра заклікаю і прашу: уладай і сілай, якой надзелены, заступіцеся і дапамажыце!

За сталом у невялікай, ціхай і адасобленай зале запанавала маўклівая паўза. Пётр Іванавіч рукой паказаў госцю на закускі, пачаў сам марудна накладваць і паглынаць салаты і мяса, доўга запіваў кампотам, а затым старанна выцер вусны бялюткай ільняной сурвэткай і прамовіў нібы між іншым:

– Пяць працэнтаў ад агульнага прыбытку – і вы забудзеце пра ўсе клопаты і беды.

Эмануіл Нобель наструніўся, адхінуўся ад стала і зрэагаваў імгненна:

– Згода!..

Пасля сустрэчы ў рэстарацыі Данілавых Пётр Іванавіч вярнуўся ў кабінет на Садовай і выклікаў да сябе начальніка Канцылярыі Лобіча.

– Мікалай Львовіч... Толькі што меў я кансультацыю адносна вашага хадайніцтва, – пачаў ён бадзёра, кіўнуўшы на столь, і адразу ж агаломшыў: – Як і думалася, імператар раскідвацца такімі людзьмі жадання не мае. Аднак мы можам пайсці насустрач у пытанні і службовым, і пенсіённым. Вы, упэўнены, начуты пра стварэнне асобнай Каспійскай арміі? Там і цяплей, і паспакойней будзе. З годзік яшчэ, калі ласка, пацярпіце...

Міністр не дагаварыў – яго нястрымна перабіў старэйшы па ўзросце генерал:

– Пётр Іванавіч, дарагі, ты што?.. Зноў мяне ў боты – і падалей? Памілуй: за што?!

– Ды даслухай ты... – не стрымаўся ды «тыкнуў» і гаспадар кабінета. – Будзеш пры арміі маім надзвычайным прадстаўніком з самымі найвысокімі паўнамоцтвамі. І штаб, і інтэнданцкую службу пад сябе прыціснеш. А да ўсяго – і з дзяржаўна-стратэгічнай задачай справішся, – і ён пачаў па звычцы расцягваць – нібыта гэтым гіпнатызуючы – словы, – бо, са-ам разумееш, няма-а ў тако-ой спра-аве найбо-ольш во-опытнага і адда-анага імпера-атару чалаве-ека... – Міністр спакмеціў, як у Лобіча зацікаўлена расцягнуўся лоб, нават бакенбарды ўзняліся над вушамі. – Так-так, няма. Трэба ўзяць пад кантроль бакінскі нафтапромысел. Там, ведаеш, з нафтай многа ў апошні час і муці рознай усплывае. – І міністэрскі тон зноў ператвараўся ў мядовы. – Дык найперш, калі ласка, ёй і займіцеся. Парадак, ахова, дзяржаўныя інтарэсы і гэтак далей, словам... Неадкладна сустрэньцеся з Нобелем, ну ведаеце – цяперашні кіраўнік «Таварыства нафтавай вытворчасці»... Скажаце, што маё, і не толькі, асабістае даручэнне. Ён патлумачыць,

чым дапамагчы. Адпаведныя дакументы аб надзвычайных паўнамоцтвах на подпіс падрыхтуеце самі – каму, як не вам, аксакалу Канцылярыі, вядома ўсё наперад?.. – і бачачы ў вачах падначаленага вострыя хітрынкі, Пётр Іванавіч завяршыў, як адрэзаў: – І не калі́ мяне, Мікалай Львовіч, сваімі зрэнкамі, бо яшчэ дзякаваць стомішся. Пасля гэтай камандзіроўкі грашовага забеспячэння табе на некалькі жыццяў хопіць. І, прабач, не толькі на карты ды казіно ўсякае... – міністр напрыканцы даў зразумець пра сваю абазнанасць у няпростым і пакручастым лёсе генерала Лобіча. – Ну давай, з Богам!..

## VIII

Пасля далучэння да Расіі гэта быў павятовы цэнтр Каспійскай вобласці, які пазней уліўся ў Шэмахінскую губерню. Але ў 1859-м Шэмах зруйнаваў землятрус, і новай сталіцай стаў ён – Баку. На той час яго ваколіцы ўжо прасвідравалі некалькі першых нафтавых вежаў. Цяпер жа яны – як аграмадныя п'яўкі – прысмакталіся да ўсяго Апшэронскага паўвострава. А вакол – мёртвы пясок, вапняк, калючкі... сонныя анцілопы, гідкія змеі каля берага... і зноў: чорныя калюгі смярдзючай нафтавай жыжы, шкілеты (драўляныя ці іржава-металічныя) свідравін, кішкі трубаправодаў, дашчаныя масткі, пясок, вапняк, калючкі... і калюгі нафтавай жыжы.

Пра «гаручую чорную ваду» тут ведалі яшчэ ад старажытнасці. Капа́лі калодзежы і скуранымі мяхамі чэрпалі нафту, якая ў тых краях так і называлася: па-персідску, турэцку і азербайджанску – нэфт. Затым бясстомныя вярблюды, абвязаныя бурдзюкамі, везлі яе ў Шэмах, Нахчыван, а таксама ў Грузію і Персію. І выкарыстоўвалася тая нафта па ўсім Усходзе найперш як мазь-лекі ад пацёртасці ды часоткі ў вярблюдаў...

Хоць ужо заканчваўся кастрычнік, тут было па-летняму цёпла. Яны – Эмануіл Нобель з кіраўніком свайго пецярбургскага канструктарскага бюро Карлам Нордстрэмам (і нядаўна прыстаўленым целаахоўнікам са штата бакінскага ваеннага гарнізона) – абышлі амаль усё заходняе ўзбярэжжа Піралахі і цяпер стомлена сядзелі каля маяка, за якім віднелася некалькі баракаў для рабочых, стары будынак перагоннага завода ды кантора «Бранобіль», і назіралі, як апускаецца ў ваду малінавае сонца. Для Нордстрэма, летуценнага шведскага інжынера, гэтая паездка была экскурсіяй: у нафтаздабычы ён мала што разумеў, а калі неяк пачуў ад Нобеля назву – востраў Піралахі – перапытаў: «Гэта недзе ў Фінляндыі?» Нобель усміхнуўся і адказаў: «Амаль што... Паехалі са мной, пакажу. Развеешся і, можа, адпачнеш ад сваёй майстэрні».

За паўмесяца да іх Піралахі, выкуплены Нобелямі, наведаў са сваімі памочнікамі яго вялебнасць генерал-лейтэнант Лобіч. Узыйшоў на маяк, выкурыў цыгару, да якіх прычасціўся ў нудным цягніку, і задаволена пахітаў галавой. «Неяк вось так... А то, панімаеш, развялі тут нестатутныя адносіны ды іншыя слізкія анцімоніі... – пыхнуў дымам, прымружыў адно вока. – Як мне далажылі, Піралахі азначае Святыня Бога,



*Эмануіл НОБЕЛЬ*

ці як тут кажуць, Алаха... Цяпер жа і надалей тут таксама павінна быць ціха і спакойна. Вось так! – ён востра агледзеў сваю «світу»: губернатара Андрэя Дзмітрыевіча Адзінцова, гарадскога галаву, начальніка штаба Бакінскага гарнізона, камандзіра тамтэйшага казацкага палка, начальніка жандармерыі, – і здзіўлена хмыкнуў: – А па мясцоваму «пір» – гэта святыня, святое месца, – ён зняў фуражку, выцер мяккай насоўкай пот, прыгладзіў раздзьмутыя ветрам бакенбарды. – Так што без піра мы з вамі сёння не абыдземся...»

У старажытнасці на гэтым месцы знаходзілася святыня – ці то зараастрыйцаў, ці то мусульман. Цяпер там пакланяліся найперш яго вялікасці рублю. Ну і зрэдку – не зважаючы на мусульманскія забароны – зялёнаму змею. Але «парадак і спакой» на Апшэроне вайсковымі часткамі і жандармерыяй былі адноўлены: спыніліся і падпалы, і рабаванні, і забастоўкі...

Будынак перагоннага завода быў пад маяком, перад баракамі, – стары, узведзены яшчэ бацькам Эмануіла Людвігам Нобелем. І яны, безумоўна, не маглі яго не наведаць.

– Ды ўсё ты тут зразумееш, – супакойваў Нордстрэма гаспадар і сам спакайнеў (пэўна, і праз тое, што гаварыў з тым – як і некалі з бацькамі – па-шведску, што пры ягоным занятку здаралася рэдка). – Усё зразумееш, – паўтарыў Нобель. – Не складаней, чым звычайны самагонны апарат, толькі большых памераў.

І насамрэч, памеры ўражвалі, а ў астатнім...

Амаль 80 гадоў таму расійскія прыгонныя майстры браты Дубініны ўпершыню ажыццявілі перагонку нафты, выкарыстаўшы прынцып... самагонаварэння. Нафту (як спіртавую брагу) даводзілі да кіпення ў жалезным кубе, умазаным у цагляную печку. З куба ішла медная труба, якая астуджвалася ў водным рэзервуары-халадзільніку (=самагонны змеявік), пасля чаго на выхадзе збіраўся прадукт кандэнсацыі – газа (=пяршак). Раней з 40 вёдзер нафты атрымлівалася каля 15 асвятляльнай газы. Цяпер жа маглі здабываць крыху болей за 50 % ад выкарыстанай сырой нафты. І найперш дзякуючы распрацоўкам Мендзялеева, які ўпершыню сканструяваў куб бесперапыннага дзеяння. Яго прынцып паспяхова прымяніў на Піралахі яшчэ бацька Эмануіла Нобеля.

– Рускія не паспявалі перапрацоўваць нафту і прадавалі яе за бесцань. Ці папросту спальвалі ў паравозных топках замест вугалю. А геніяльны Мендзялееў, – Нобель узняў палец уверх, а затым абвёў ім завадскую перапрацоўчую канструкцыю, – запярэчыў: «Паліць нафту – гэта як паліць грашовыя асігнацыі!». Наймудрэйшы чалавек! Не зважаючы на тое, што меў спрэчкі і непаразуменні з маімі бацькам і дзядзькамі... Яго кубавая перагонная батарэя – у аснове і гэтага завода. Выпампаваная нафта тут падзяляецца на бензін, газу і мазут. Мазут адстойваецца ды ідзе на падагрэў у печах сырца.

У памяшканні было не прадыхнуць: вільгаць, спёка, дым... Але Нобель як не заўважаў гэтага. Нордстрэм жа мусіў узняць кашулю і прыкрыць ёю нос. Затым асцярожна разгледзеў ёмістасці канчатковай перапрацоўкі, нешта доўга, як малое дзіця, гуляў-маракаваў з выпускнымі кранамі, падстаўляючы шкляныя бутэльчыны, у адну набраў газы (панюхаў, усміхнуўся, адставіў), у другую наліў мазутнага адгону, таксама панюхаў, закаркаваў, паглядзеў на святло – і падышоў да Эмануіла:

– Ім падаграюць тут сырэц?

– Так... Гэта – саляройл, – Нобель ужо быў стомлены «экскурсіяй». – Ну не вугаль жа сюды з-за краю свету прывозіць. А з драўнінай тут – сам бачыў...

– Ну вядома ж... – адказаў Нордстрэм, запіхнуў бутэльчыну ў кішэню і задумаўся пра нешта сваё...

Яны дайшлі да барачных пакояў ужо ў цемры, свецячы электрычнымі ліхтарыкамі. Амаль адразу развіталіся і, не вячэраўшы, леглі спаць.

Праз гадзіну Нордстрэма разбудзіў незнаёмец і з моцным мясцовым акцэнтам паведаміў:

– Паважаны Карл! Гаспадын Нобэль тэрмінова клічэ вас на завод! Там штос здарылас...

Наспех апрануўшыся, швед выбег за чалавекам у прапахлай нафтай робе, павярнуў галаву на невысокі серп месяца – і нечакана атрымаў па ёй нечым цяжкім і цвёрдым. Небараку, як мяшок, ускінулі на востры конскі хрыбет, уткнулі ў рот смярдзючы кляп, чорная зямля і свядомасць захісталіся – і ён страціў прытомнасць...

А раніцай уладальнік Піралахі не знайшоў свайго сябра. Час сняданку пераплыў у абед, затым малінавае сонца зноў сабралася акунуцца ў Каспій, і нервы Нобеля не вытрымалі. Паслаўшы рабочых па ўсіх астраўных ваколіцах на пошукі Нордстрэма, ён конна ў суправаджэнні маўклівага целаахоўніка выправіўся да прыстані, адкуль параходзікам праз паўгадзіны дабраўся да мацерыка і, зноў конна, – да начнога Баку. І наўпрост – на кватэру Лобіча на Вялікакняжыцкай, каля сабора Аляксандра Неўскага.

Агаломшаны генерал, страсаючы рэшткі сну і хмелю, чухаў сівыя бакенбарды і ў адказ штось манатонна бубнеў. Нобелю было не да шляхетнасці:

– Я разабраўся з амерыканцам-Ракфелерам, я ўтаймаваў француза-Ротшыльда, а тут праз вашае разгільдзяйства аніяк не магу справіцца з нейкімі ванючымі неданоскамі! Вы са сваім Курапаткіным атрымліваеце ад мяне сродкі, на якія можна наняць цэлую армію, – а маіх людзей усё роўна выкрадаюць сярод начы як авечак!

– Я папра-ашу... – пачаў было генерал, але Нобель ужо бразнуў дзвярыма і выйшаў. Яшчэ праз гадзіну ён быў на паўночнай ускраіне Баку – на шыкоўнай віле «чорнага шаха Апшэрона» Мірзоя. Але яго служнікі пратрымалі Эмануіла да раніцы. Толькі тады ў па-персідску інкруставаную гасцёўню да яго прыйшоў гаспадар вілы – у адпрасаваным смокінгу, chapeak ala Garibaldi, беласнежнай накрухмаленай кашулі пад гальштукам a la Biconsfield і лакаваных чаравіках.

– Твой сябар знік з месца святога Алаха? І востраў абшукалі? Значыць, калі ён сам не можа хадзіць па вадзе, яго даставілі да берага на лодцы... – Мірзой задумаўся, запаволена прыгладзіў бараду, на тоўстых пальцах бліснулі пярсцёнкі з дарагімі дыяментамі. – Што ж, я дапамагу. Спадзяюся, і ты калі-небудзь дапаможаш мне. Да заходу сонца твой жоўтагаловы госць будзе на месцы – ці я больш не назавуся Мірзоем!

Але Нордстрэм сядзеў у сталовай Піралахі ўжо ў абед: з апетытам еў тава-кебаб, запіваў гранатавым шэрбетам і вінавата ўсміхаўся.

---

[1] Назва «салярка» ўтварылася з нямецкага Solaröl (сонечны алей). З часу стварэння рухавіка Дызеля стала яго асноўным палівам і займела новую назву – дызельнае.

– Нічога страшнага, не перажывай... – паўтараў ён Нобелю. – Я адразу даведаўся, што яны патрабуюць за мяне выкуп – 10 000 рублёў. Уяўляеш, як я дорага каштую!

– А ты сумняваўся? – усміхнуўся нарэшце і Нобель. – Вось толькі апратку тваю змяніць трэба. Прасмярдзеўся нафтай, як колішні скураны бурдзюк!

– А... Гэта вось... – ён дастаў з кішэні заільснелага пінжака бутэльчыну. – Тут твой саляройл быў, яшчэ на заводзе набраў... І выліўся, калі я на конскім хрыбце дагары нагамі гохкаўся... – І Нордстрэма нібыта падмянілі. – І мне там, звязанаму, вось пра што падумалася... А калі гэты саляройл паспрабаваць праз фарсункі ўпырскваць у наш рухавік Дызеля? – І ўтрапёна зірнуў на Нобеля: – Гарэць жа павінен не горш, чым у завадскіх цагляных печах?

Так генеральскае разгільдзяйства, якое не забяспечыла належную ахову нобелеўскаму канструктару, і хцівасць апшэронскіх бандытаў паспрыялі з'яўленню ідэі, якая каштавацьме ў мільёны мільярдаў больш, чым тыя дзесяць тысячаў выкупу: ідэі безадходнай нафтавытворчасці...

## IX

«А ўсё ж жыццё не такое і кепскае, – думаў Віктар Аляксандравіч Берг пад манерны перастук вагонных колаў. – Калі б я яшчэ атрымаў нечарговы адпачынак з захаваннем пенсіёну?! Не гаворачы ўжо аб новай замежнай паездцы...»

Цягнік без перасадак прывёз яго з жонкай у Вену, акрытую залатой восенню. Было цёпла і ўзнёсла. На ратушах і ветравіках даховак усміхалася сонца, а ў клумбах ды прываконных кошыках цвілі чырвоныя ружы.

Горад заціх ля падножжа Альпаў на беразе мітуслівага Дуная. Утульныя дамкі ў старым цэнтры клапатліва звязвала Рынгштрассэ (Кальцавая вуліца), пераплеценая жоўтымі, карычневымі, малінавымі, а дзе-нідзе яшчэ і зялёнымі бульварамі.

З выдуманым родзічам – стрыечным дзядзькам Генрыхам Бергам – яны сустрэліся на пляцы ля сабора Святога Стэфана. Пайшлі ў загадзя замоўлены гатэль непадалёк. Паабедалі ў тамтэйшай рэстарацыі, пагаварылі аб усім і нічым. Елізавета выпырхнула на прагулянку па бліжэйшых крамках, а мужчыны зачыніліся ў нумары. Берг сапраўдны доўга не мог пераадолець збянтэжанасць: слухаў няўважліва, мітусіўся, раскладваў на ложак і зноў збіраў у чамадан свае рэчы.

– Віктар Аляксандравіч, можа, супакоіцеся? Вы павінны мне тое-сёе перадаць, – нарэшце не стрымаўся і амаль без акцэнту загаварыў парасійску агент аддзела III-B нямецкага Генштаба. – Вядомы вам спадар Генрых фон Люцыус даручыў мне атрымаць усе матэрыялы, аб тым ён папярэдзіў васпана яшчэ ў Пецярбурзе.

– Так-так, – заспяшаўся Берг і зноў пачаў распакоўваць скураны чамадан. Выклаў фарфоравую кітайскую вазу з выявай зялёнага дракона на памаранчавым полі і стаў акуратна распрамляць ды складваць у стос скамечаныя папяровыя аркушы, якімі быў ашчадна перакладзены сувенір. – Тут... сто дзесяць старонак машынапісу... гадавой справаздачы па Ваенным міністэрстве... Мне было даручана падрыхтаваць паводле яе ўсёпадданейшую запіску для азнаямлення імператара... – ад непераадольнага

хвалявання голас Віктара Аляксандравіча задрыжэў. – Тут матэрыялы з... з... з галоўных упраўленняў... пытанні арганізацыйныя, па пабудове крэпасцяў, па пераўзбраенні расійскай арміі і... і па ўтварэнні інтэнданцкіх запасаў... – склаўшы, Берг акуратна прыціснуў усе паперчыны і, перадаўшы іх «родзічу», крыху супакоіўся: – Міністр асцерагаўся, што гасудар будзе незадаволены тэмпамі ўзвядзення крэпасці ў курляндскай Лібаве, бо гэта тоіць небяспеку тамтэйшаму флоту... Але падчас дакладу галоўнакамандуючы ўхвальна адазваўся найперш аб запланаваным выпрабаванні кулямётаў і фармаванні асобных кулямётных ротаў, цікавіўся разгортваннем Балтыйскай флатыліі, абаронай Чарнаморскага басейна ды ўмацаваннем Прыкаспійскай арміі.

– Ausgezeichnet![1] – задаволены агент хутка перагартаў скамга́каны стос і ўважліва зірнуў на Берга: – А дэталёвае штатнае і фартыфікацыйнае апісанне Прыкаспійскай арміі ды Балтыйскай флатыліі тут ёсць?

Твар Віктара Аляксандравіча і ўся ягоная пастава нібыта садзьмуліся.

– Дазвольце нагадаць... – ён нервова аблізнуў вусны, перасмыкнуў пачырванелымі сківіцамі, паправіў над гарачымі зрэнкамі пенснэ і загаварыў хутка ды чамусьці паўшэптам і з надрывам: – ...што я служу памочнікам начальніка Канцылярыі, і ў маёй непасрэднай кампетэнцыі – толькі прадстаўленне Ваеннаму савету гаспадарчых, заканадаўчых, каштарысных і юрыдычных пытанняў... А па марской ваеннай частцы ўсім займаецца асобнае Марское міністэрства!

– Так-так, мы разумеем. Не хвалюйцеся... – паспяшаў супакоіць палкоўніка далікатны куратар, яшчэ раз перагартаў машынапісныя старонкі і падагульніў: – Мы ўдзячныя вам за інфармацыю. Наступныя дырэктывы атрымаеце непасрэдна дома. – Пстрыкнуў замок скуранога партфеля, у які схаваўся стос перададзенага даклада і з якога з’явіўся пульхны канверт каляровых асігнацый. – Калі ласка, ваш ганарар.

І ў тую ж хвілю ў дзвярах гатэльнага пакоя варухнулася ручка. Берг сунуў канверт пад падушку і пайшоў адчыніць. Перапыніўшы мужчынскую размову бадзёрым шоргатам сукенкі, Елізавета прысела на шырокую банкетку і залепятала:

– Вы не ўяўляеце, якую незвычайную калону я бачыла! Ёй дзвесце гадоў! Яна аблеплена мармуровымі аблокамі, на якіх застылі фігуры святых, анёлаў і амураў. А над усім – пазалочаныя шары, чарапы, крыжы! Я пацікавілася, а яе назвалі чумной... Вось... А я так нічога і не купіла. Вельмі ўсё тут дарагое...

«Венскі родзіч» усміхнуўся, устаў і кіўнуў галавой:

– Што ж, дазвольце на гэтым адкланяцца. Быў надзвычай рады сустрэчы і знаёмству. Адпачывайце. Спадзяюся, – ён зірнуў на фраў Елізавету, – майго сваяцкага падарунка вам хопіць на многа пакупак. Будзьце здаровымі!

Бергі ахвотна выйшлі праводзіць. Ад сабора Святога Стэфана моўчкі спусціліся ўніз па Ротэнтурмштрассэ і праз дзесяць хвілінаў былі каля Дуная, дзе і развіталіся.

– Хоць ён і даў табе грошы, але мне не спадабаўся. Нейкі халодны слізняк... Насамрэч гэты чалавек – не твой родзіч? – ужо ў гатэлі спытала Елізавета, але адказу не пачула...

Назаўтра, нібы скінуўшы нябачны цяжар, яны новым цягнікам

[1] Выдатна! (*Ням.*)

выправіліся ў Венецыю, якая ў сонечным бляску паўстала казачнай прыгажуняй: далікатна прылегла пагрэць свае каменныя плечы на Адрыятычным узбярэжжы.

За Венецыяй была сярэднявечная Балонья. Яна запомнілася чырвонымі вежамі, плошчай Нептуна з мілым фантанам, базілікай Сан-Дамініка са скульптурамі работы самога Мікелянджэла і гатычнымі палацамі. Пачуўшы, што Балонью называюць кулінарнай сталіцай Італіі, наведвалі рэстарацыі, дэгуставалі мясцовае віно ды смакавалі суго баланьезе (аказаўся звычайным свіным рагу, як сказалі б французы), свежазапечаныя каўбаскі сальсічча, тартэліні, – падалося, звычайныя пяльмені. Аб тым і намякнулі чарняваму кельнеру. Аднак той (таксама выдатна разумеў і гаварыў па-нямецку) не пагадзіўся:



*Беладжыо*

– Існуе легенда, што тартэліні прыдумаў закаханы балоньеўскі повар: цеста з начыннем ён абгарнуў вакол пальца і такім чынам вылепіў пупок сваёй дзяўчыны. Але больш вопытнейшыя сцвярджалі, што ў яго атрымаўся бутон ружы ці... – малады афіцыянт апусціў вочы, хітнуў галавой улева-ўправа і адышоў.

Грунтоўна запіваючы легендарныя тартэлліні паўсухім віном, Берг кідаў глыбокія погляды на Елізавету і па дарозе да сну ў шыкоўныя апартаменты Palazzo del Podesta быў мядовым і ўзбуджаным, але жонка – у які ўжо раз! – адхіліла ягоныя заляцанні.

З таго часу яны перасталі размаўляць адно з адным. Усю дарогу да швейцарскай мяжы праз Мілан у Беладжыо панура глядзелі ў вагоннае шкло, не заўважаючы краявідаў. Цягнік выскачыў з тунэля, і насустрач яму раскрыўся аграмадны восеньскі сад над чароўным трохкутнікам міжгорнага возера.

З гатэльчыка Берг выцягнуў жонку прайсці па турыстычнай сцежцы на вяршыню, каб адтуль палюбавацца незвычайнай прыгажосцю лесу, гор і вады. Пад'ём аказаўся доўгім і цяжкім. Вакол – ні душы. Елізавета стамілася, захацела піць. Пачала сварыцца, абражаць палкоўніка найапошнімі словамі... А тут – такая райская мілата! Некранутая каменная цясніна, бездань пад нагамі, сіняя роўнядзь зманлівай вады пад абрывам... А яна, як заведзеная лялька, крычыць і крычыць на яго, і вочы – далёкія, халодныя... Колькі ж так можна?

– Усё!!! – адной рукой ён ірвануў каўнер пінжака, а другой – правай – піхнуў жанчыну ад сябе. Моцна. У апошні раз. У каменную прорву...

З Беладжыо ён дабраўся да Луганы. Дзень насычаўся незвычайнымі мясцовымі пейзажамі, а на ноч праз гатэльнага адміністратара замовіў найдарагую на курорце прастытутку.

– Я хачу пасля адстаўкі застацца тут сустракаць сваю старасць. Мілыя мясціны! – нібыта пра штось далёкае і недасяжнае сказаў ён па-расійску. Дзеўка неўразумела прымружыла туманныя вочы і пацiснула плячыма...

Усю дарогу праз Берлін у Пецярбург ён праспаў, а дома кухарцы сказаў, што жонка вырашыла пагасціць у ягоных венскіх родзічаў.

– Дык а вы чаму не пабылі яшчэ тама, Віктар Аляксандравіч? – шчыра здзівілася кухарка.

– Мы б і радыя былі, але – служба... – шматзначна развёў рукамі палкоўнік Берг, а назаўтра звольніў цікаўную, хоць і клапатлівую, кабету.

## X



*Браняносец «Святы Андрэй»*

У рамонтны док Гановерскага порта прышвартаваўся расійскі эскадраны браняносец «Святы Андрэй». Каманда паранейшаму несла баявую вахту, хоць і мусіла прасіць тэхнічнай дапамогі ў нямецкага берага: на караблі пры адкрытым замку выстраліла 305-міліметровая гармата галоўнага калібра, пасля магутнага выбуху дах вежы адкінула на насавы мосцік, пасунуліся з месца пліты брані, былі пашкоджаны паравы кацёл, мачтавая сценьга і светлавыя люкі. Загінула пяць матросаў і мічман, сем – параненых. У карабельным лазарэце не хапала месцаў, і найбольш цяжкага – кантужанага, з разарваным жыватом капітан-лейтэнанта Мікалая Баранава – адвезлі ў гановерскі шпіталь.

За тыдзень разам з інжынерамі дока карабельная каманда ліквідавала непаладкі, але нямецкія спецыялісты, афармляючы каштарыс для Пецярбургскага адміралцейства, здзіўлена прызналіся: «Карабаль усяго тры гады на вадзе, а здаецца жалезнай развалінай... Не нашая, канечне, справа, але як яго можна было выпраўляць у рэйд? Ад верхняга канта брані паўз увесь борт ідзе 30-40 міліметровая шчыліна, прыхаваная замазкай... Заклёпкі ў перагародках вываліліся». Малодшы афіцэр, які перакладаў гэта, ніякавата апусціў галаву, а капітан гучна адрэзаў: «Калі ёсць шчыліна, значыць, яна павінна быць. А клёпкі лепш у сябе шукайце!»

Браняносец «Святы Андрэй» загрузіўся вугалем для паравых машын, папоўніў запас вады і зноў выйшаў у мора, а капітан-лейтэнант Баранаў застаўся ў шпіталі. Калі крыху ачуняў, яму перадалі заклееены сургучом канверт. «Пасля выздараўлення дабірайцеся нашымі камерцыйнымі судамі ў Кранштадт, – загадваў капітан. – Ад усёй каманды жадаю поспехаў».

І Мікалая Баранава апанавала туга. Яна дакучала больш, чым боль. Якія тут поспехі? Жывот зашылі, а вось вока не ўратавалі. І каму ён цяпер такі патрэбен? Спішуць з флоту, і ўсё жыццё – пад якар...

Крыху весяліў новы сусед па палаце – русявы докер Адольф з забінтаванай рукой. Родам ён быў аднекуль з-пад прускага Мемеля-Клайпеды і крыху мог гаварыць па-расійску. На ноч часта сыходзіў «да фраў», і аднаго разу спакусіў зрабіць тое і Баранава.

– Адзначым выздараўленне! – прапанаваў. – На прыстані выдатная піўніца ёсць... – І, заўважыўшы няёмкасць марака, дастаў з кішэні чорную атласную стужку, прыкрыў ёй сваё вока, маўляў, зрабі так, і падрахаваў: – Гут! Зэр гут! Корошо! Ду біст Кутузоф!

У адказ Баранаў нават усміхнуўся.

За багата накрытым сталом ён на некаторы час забыў на сваё гора. У расчыненае вакно залятаў саладжавы марскі вецер, віно і віскі бадзёрылі яшчэ маладую кроў, аб чымсьці весела сакаталі кабеты насупраць, Адольф агучваў тост за тостам...

Ачуўся капітан-лейтэнант у паліцэйскім пастарунку з яшчэ большым галаўным болем, чым пасля кантузіі. На руках – кайданкі, пад спінай – грубы матрац. Парваная кашуля ў крыві. Памацаў – аніякіх ранаў, кроў не ягоная...

І вось – допыт.

– Ну што, гер капітан? – праз перакладчыка спытаў яго чалавек у штацкім з белымі брывамі і вейкамі. – Можаце штосьці сказаць у сваё апраўданне?

– А што здарылася? – Баранаў паспрабаваў прыўстаць, але «альбінос» нахмурыўся, злосна паказаў на табурэт і энергічна хітнуў галавой:

– Шайзэ... Ён яшчэ дурнем прыкідваецца... Вы, гер Баранаў, учора забілі падданага германскага імператара, кваліфікаванага докера Адольфа Фішара! – Словы ўзарваліся, як кароткія кулямётныя чэргі, і зрыкашэцілі па распаленым мозгу арыштаванага. «Альбінос» вытрымаў паўзу, адсунуў шуфляду, выклаў з яе нож і працягнуў будзённа: – На прадмеце злачынства – вашыя адбіткі... Сведкі – дзве фраў з суседняга рэстараннага століка і афіцыянт. Паўтараю зноў: штосьці ў сваё апраўданне заявіць можаце?

Змрочны шэры пакой пайшоў перад вокам Баранава ўкруга. Яго ледзь не званітавала.

– Што ж... Не дык і не. – Следчы наспех сабраў нейкія паперы і падрахаваў: – Перадаём справу ў суд. Гадоў дваццаць турмы вам гарантаваныя. Час падумаць будзе. Як кажуць, die Zeit heilt alle Wunden[1].

Баранава нібы працяла токам:

– Стойце! Як забіў?! Адольфа?!! – Баранаў сіліўся ўзгадаць заканчэнне страшнага вечара, але далей за новапрынесеную бутэльку віскі з пазалочанай этыкеткай і гартанны смех рыжай немкі з нафарбаванымі вуснамі ўзбуджаныя клеткі ягонага мозга не даходзілі. – Як?..

Выкліканы канваір прыціснуў яго да табурэта, а следчы-«альбінос» працягваў спакойна:

– Звычайна... І вы не спішаце ўсё на посткантузійны сіндром. Два ўдары нажом пад сэрца – за тое, што гер Фішар паспрабаваў абараніць ад вашага п'янага ганьбавання нямецкую кабету. Бедалага сканаў па дарозе ў шпіталь і ўвесь час паўтараў «Für was?», «За што?». Перад медыкамі першымі з'явіліся рэпарцёры – і я ўяўляю, якімі будуць заўтрашнія газетныя перадавіцы! Ды вы, думаю, яшчэ паспееце з імі азнаёміцца, як і вашыя суродзічы ў Расіі... Бывайце! – следчы склаў паперы ў тэчку і пакрочыў да жалезнай дзверыны, каля якой спыніўся. – Хаця... Газеты могуць выйсці і без тых крыклівых перадавіц... – ён вярнуўся і кінуў тэчку на стол. Баранаў запытальна, не дыхаючы, уталопіўся ўцалелым вокам у бялявага следчага.

– Здзейсненае кідае цень на братэрскія адносіны і паміж нашымі войскамі, і паміж нашымі імператарамі. І мы б маглі пра ўсё забыць... Так! Забыць, як страшны хмельны сон... калі б з вашага, гер капітан, боку, адчулі раскаянне і займелі дарадцу, памочніка. І вы б змаглі тады спакойна вярнуцца на радзіму...

[1] Час лечыць (*ням. прымаўка*).

– Што... што я павінен зрабіць? – Баранаву па-ранейшаму не хапала паветра.

Следчы грэбліва адхінуўся ад стала і прыклаў назад наравісты залацісты чуб:

– Напачатку – заплаціць сям'і Фішара 300 000 марак...

– У мяне няма столькі грошай! – у руках Баранава, здалося, парвалася апошняя саломінка.

– Ну, то й няма больш размовы... – следчы нахіліўся над сталом да агаломшанага забойцы і прашаптаў: – Зрэшты, паспрабуйце іх зарабіць! Тры-чатыры вашыя інфармацыі – важныя інфармацыі – пра стан спраў у ваенным флоце – і вы будзеце мець больш!

Вока Баранава выявіла ўадначас нямы дакор, спалох і задуменне.

– Толькі не пачынайце цяпер пра нейкую там здраду прысязе ды іншае! Вы, як вопытны марскі афіцэр, ведаеце, што нямецкі флот нашмат адстае ад расійскага, і вашая магчымая супраца толькі на мілю наблізіць нас да разумення вашых поспехаў. А пад сцягамі нямецкага флота вы, урэшце, будзеце мець найбліжэйшага саюзніка. – І без паўзы: – Калі згодныя, падпішыце вось тут – і спакойна едзьце ў свой Кранштадт.

– Дык а што ж я буду ведаць? – голас капітан-лейтэнанта задрыжэў. – Мяне ж дэмабілізуюць па інваліднасці і спішуць на бераг...

У душы «следчага» заігралі трубы. Ён зразумеў, што трывала зачапіў на свой шпіёнскі кручок чарговую рыбіну – і ледзь стрымліваў экстазную асалоду. Ён – граф Генрых фон Люцыус – адчуваў сябе ў падобныя хвіліны шчаслівым вампірам, і калі б яму ўдалося ў тую ж хвіліну падбіць варожы крэйсер – радасць была б ушматкроць меншай.

– Думаць пра інваліднасць у вашым узросце рана! – у ход пайшлі загадзя прадуманыя загатоўкі. – І не настолькі, паверце, вашае адміралцейства багатае, каб раскідвацца капітанамі! Па вяртанні адразу ж пісьмова звярніцеся да марскога міністра і да яго вялікасці імператара з просьбай пакінуць вас у штатных шэрагах, распавядзіце прычыны інваліднасці... Зрэшты, калі ўсё будзе добра, мы вам зробім другое вока – самі не паверыце! Думаем, вас усё ж пакінуць пры штабе, пры адміралцействе, у горшым выпадку – пры Марской акадэміі. Вось і ўсё.

Баранаў страшэнна захацеў піць, але не меў сілы сказаць аб тым: пракаўтнуў даўкі камяк і не адводзіў вока ад следчага.

– Усё... – паўтарыў той. – Збірайцеся дамоў. Калі ўладкуецеся на новым месцы, дайце ў газету «Кранштадскі веснік» аб'яву: «Мужчына сярэдняга ўзросту шукае дапамогі ў вырабе вачнога пратэза. Адрас...». Да вас прыйдзе наш чалавек. Яго словы: «Вам, паважаны, якое вока патрэбнае – левае ці правае?». Адкажаце: «Узяў бы два. Хай адно ў запасе будзе». За кожнае вартае ўвагі паведамленне пра ваенны флот будзеце атрымліваць па дзве тысячы расійскіх рублёў, за падводныя лодкі – пяць. Так што пастарайцеся працаўладкавацца вышэй. Ну і не ўздумайце віляць. Ведайце: як што не так, вашая справа аб забойстве адразу ж будзе перададзена ў расійскі вышук, і ў справу дадасца яшчэ ўцёк з месца злачынства. Вам, як і нам, гэта трэба? – і «альбінос» зноў колкім позіркам прасвідраваў – як удаў зайца – Баранава, а напрыканцы сцебануў прымаўкай: – Як кажуць у вас на флоце, große Schiffe machen große Fahrt[1]!..

---

[1] Вялікаму караблю – вялікае плаванне! (*Ням.*)

Пакуль са знямелага капітан-лейтэнанта знімалі кайданкі і налівалі яму вады, Генрых фон Люцыус бадзёра шпацыраваў па турэмных калідорах і беспераcтанку ўсміхаўся. «Ледзь не ляпнуў гэтаму аднавокаму дурню "Besser ein Auge verlieren als den guten Ruf – Лепш страціць вока, чым добрую рэпутацыю". Трэба завязваць з гэтымі філалагічнымі букетамі... – і нечакана пераскочыў на іншае: – Напэўна, не варта фарбавацца ў чорнае. Белае паланяе хутчэй... І не забыць бы праставіць Фішару піва...»

## XI

– А можа, усё ж разам паедзем? – спытаў Адам Мацкевіч, калі дачуўся пра сваю камандзіроўку на прамысловую выставу ў Пецярбург.

– На жаль... – развёў рукамі Дызель. – Мушу ў гэты час быць у Лондане. Закончыліся пяцігадовыя патэнты на рухавік. Ну і яшчэ падпісанне некалькіх дамоў... А табе, думаю, будзе цікава пазнаёміцца з бацькавай радзімай... Ды і з Тугіевымі сустрэнешся. Айдар адзін з асноўных удзельнікаў выставы. – Дызель заўважыў, як абудзіўся сябар, хітравата ўсміхнуўся і закончыў: – Не забудзь толькі, што ад піцерскага таварыства «Браты Нобелі» паступілі пісьмовыя прапановы. Я афармлю на тваё імя даверанасць. Калі трэба, вазьмі з сабой юрыста...

Аб тым, што сямейства Тугіевых правядзе ўвесь травень у Пецярбургу, Адам ужо ведаў з лістоў Ханым. Пасля ейнага з братам ад'езду з Парыжа паміж імі пачалася перапіска. Першы ліст («Як дабраліся? Ці не страцілі ахвоту працягнуць стажыравацца ў французскай мове?»...) Адам паслаў да Зафара, а адказ атрымаў, пісаны рукой Ханым. Высветлілася, што звязаць пару французскіх слоў у сказ яе брат праз сілу мог, а вось з напісаннем, як і чытаннем, былі праблемы. «Але Вы, калі ласка, пішыце па-ранейшаму. Я з ахвотай прачытаю і перакладу. Для нас гэта будзе і моўная практыка, і магчымасць даведацца пра Вашае жыццё», – акуратна, без адзінае памылкі вывела напрыканцы Ханым.

Адаму такога было больш чым дастаткова! Парыўны вобраз усходняй птушкі над кра́тамі Эйфелевай вежы пазбавіў яго спакою.

Лісты пісаліся штодня, складваліся ў канверт і высылаліся раз у тыдзень (аб тым, каб не выклікаць непатрэбную цікавасць бацькоў, папрасіла сама Ханым). У Парыжы ж яны і не пабылі сам насам. Увесь час – толькі ў прысутнасці брата. І вось французская мова стала для іх той шырмай, за якую не сягалі староннія вочы ці вушы...

Звычайна Адам першыя абзацы прысвячаў апісанню надвор'я і некаторым пытанням да Зафара. А затым, ужо драбней і менш разборліва, пісаў прызначанае Ханым: пра сваё захапленне, душэўныя згадкі, жаданне новых сустрэч, разбаўляў узрушанасць роспытамі пра думкі і клопаты дзяўчыны. Чытаючы гэта і перамагаючы на шчоках чырвань, Ханым «перакладала» брату штосьці вядомае з энцыклапедый: пра вуліцы Парыжа, пра французскія правінцыі, пісьменнікаў і мастакоў... Аж пакуль у адным з Адамавых лістоў не з'явілася *«Je t'aime beaucoup, princesse de Bakou!*[1]*»*, а ў адказ не напісалася *«Moi aussi*[2]*»*...

І было тое за некалькі дзён да размовы з Дызелем. Даведаўшыся пра

---

[1] Я цябе моцна кахаю, мая прынцэса з Баку. (Па-французску гэта гучыць зрыфмавана: *"Жэ тэм боку, ма пр'ынцэсс дэ Баку"*).

[2] І я... (*фр.*)

свой візіт у Пецярбург, Адам паспяшаў адразу ж даверыць свае пачуцці паперы (пасля звычайных дзяжурных абзацаў да Зафара Тугіева):

«Мілая Ханым! Мне так шмат трэба сказаць Вам, сказаць пра нашае шчаслівае будучае... Дазвольце мне верыць, што і Вы шчаслівая, як і я, перад чаканнем нашай сустрэчы. Сэрца маё поўніцца пяшчотай і ласкай, і я неадступна кахаю Вас, чароўная Ханым, і пры сустрэчы хачу паўтарыць гэта Вам з той далікатнай шчырасцю, якая, паверце, уласціва майму характару і душэўнаму складу... Да пабачэння! Хай радасна ўсміхаюцца Вам новыя ранкі і дні! Сам жа я не магу схаваць гарачага жадання з'яўляцца ў Вашых снах... Застаюся ўвесь Вашым, мая каханая...».

Стары Мацкевіч пасля навіны пра сынаву паездку ў Расію доўга маўчаў, нібы праз сон штось згадваў, а затым як ачуўся – загаварыў узбуджана, гучна і хутка:

– Голубе мой! Ты едзь праз Варшаву і Беласток да Горадні, па-расійску Гродно. Гэта па царскай паўночна-заходняй чыгунцы. Спыніся там да наступнага цягніка... Наймі фурманку ды заедзь у нашыя Мацкі. Гэта на поўнач ад Горадні, перад самай пушчай. То наш родавы маёнтак... Дом каменны з дзвюма гатычнымі вежамі на ўзгорку. Там, калі памятаеш, я табе распавядаў, у Нёман упадае Зарачанка... І дубы... дубы старадаўнія яшчэ, можа, стаяць... То пакланіся магілам дзядоў-прадзедаў нашых. І зямліцы адтуль жменю прывязі... – вочы старога затуманіліся. Ён штось яшчэ хацеў сказаць, але толькі ўздыхнуў і няпэўна цепануў плячыма...

І сын адшукаў той пушчанскі суток Нёмана і Зарачанкі, і дом той каменны на ўзгорку... Але шэры, з абсыпанай тынкоўкай. Ад колішніх дубоў нават пнёў не засталося. Папрасіў фурмана – дзецюка з саламянымі-нямытымі валасамі і пракуранай барадой – спыніцца каля бальшака, прыліп вачыма да будыніны, але сыйсці на зямлю не насмеліўся... Дахоўка вежаў абвалілася, вокны дольнага паверха забітыя дошкамі. На ганку нейкія анучы сушацца, вёдры перакуленыя вісяць... Выйшаў, скрыпнуўшы дзвярыма, згорблены мужчына, закурыў, паглядзеў на фурманку, накінуў наапашкі ні то палітон, ні то шынэлак і пакульгаў да іх.

У грудзі Адаму нібыта хтось наліў халоднага волава.

– Назад, хутчэй! – загадаў ён і заплюшчыў вочы. І апамятаўся толькі перад вакзалам, не бачачы ні нечаканай травеньскай залевы, не чуючы цікаўных пытанняў фурмана. Падзякаваў, заплаціў ледзь не ўтрая больш за названую суму – і толькі тады згадаў пра бацькаву просьбу... – Пачакай, калі ласка! – ён дастаў насоўку і акуратна сабраў у яе з акаванага кола наліплай зямлі, завязаў і схаваў у кішэню. Адыходзячы, краем вока прыкмеціў, як фурман кінуў недакураную самакрутку і неўразумела пацiснуў плячыма...

А праз двое сутак Адам Мацкевіч быў у Санкт-Пецярбургу. На выставе найбольшы павільён займала «Таварыства "Браты Нобелі"», і знайсці яго было нескладана. Сустрэў сам Эмануіл.

– Спадар Дызель тэлеграфаваў, што сам прыехаць не зможа і камандзіруе вас, – Нобель быў падкрэслена дыпламатычны. Ён зрабіў невялікую экскурсію па павільёне, а тады пазваў Нордстрэма і па-змоўніцку падміргнуў яму: – Ну а цяпер – нашая навінка...

Праз шкляны калідор яны ўтрох выйшлі на вуліцу, дзе ўзвышаўся зялёны намёт. Вакол яго сабралася з тры дзясяткі наведнікаў і рэпарцёраў. Мацкевічу і Нобелю паднеслі нажніцы – каб перарэзаць вертыкальныя стужкі. Брызентавыя сценкі ўраз апалі, і прысутныя ўбачылі на невысокім п'едэстале

вычышчаны да зіхцення экспанат – першы і адзіны ў свеце рухавік Дызеля, які працаваў на сырой нафце.

– Паважанае спадарства! Перад вамі – узор рухавіка новага пакалення, распрацаваны па патэнце інжынера Рудольфа Дызеля нашым канструктарскім бюро пад кіраўніцтвам майстра Карла Нордстрэма. Галоўныя асаблівасці рухавіка – магутнасць і эканомнасць. Пры аднолькавых сілавых паказніках ён спажывае ўсяго каля адной сёмай часткі паліва бензінавых ці газавых рухавікоў. А харчуецца... – Нобель зрабіў паўзу і задаволена ўміхнуўся, – усяго толькі нафтавымі адыходамі. І пры тым някепска пачуваецца, эканомячы сваім будучым гаспадарам процьму грошай! Спадар Нордстрэм, калі ласка, пакажыце яго ў справе!

Золатагаловы швед толькі гэтага і чакаў. Ён імпэтна кіўнуў, падышоў да пульта, пастукаў, нібыта будзячы, па цыліндрах – і націснуў на кнопку пуска. Сталёвы звер здрыгануўся і завуркатаў. Над намётам з вывадной трубы выскачыў чорна-шэры чуб выхлапу і пад воплескі прысутных растаў над павільёнамі.



*Першы дызель-рухавік*

Пасля кароткіх інтэрв'ю падалі шампанскае. Мацкевіч першым падышоў павіншаваць Нобеля.

– Спадар Дызель уважліва вывучыў папярэдне дасланыя вамі чарцяжы і папрасіў выказаць сваё захапленне. Як вы ведаеце, ён згодны працягнуць патэнт. У сваю чаргу цікавіўся, ці не маеце намеру ад свайго імя пачаць патэнтацыю мадэлі рухавіка на сырой нафце?

– Не. – Нобель адставіў келіх, зірнуў на Адама сваімі блакітнымі вачыма і адвёў за намёт, падалей ад прысутных. – Ахапіць усяго немагчыма. Мы зацікаўлены, каб падобныя рухавікі з'яўляліся паўсюдна як мага хутчэй. У прыватнасці, і на вашых заводах. Яны мусяць замяняць груваcткія паравыя катлы на заводах, цягніках і караблях. Вось нашая задача. Спадзяюся, агульная. – Пэўна, ён убачыў неўразуменне на твары Адама, і таму датлумачыў: – Мы будзем больш чым задаволеныя збытам паліва для іх – салярнага алею. Ну а нашыя свідравіны, аб чым вы, можа, ведаеце, найбагацейшыя ў свеце...

Нобеля зноў атачылі журналісты, і ён, паціснуўшы руку Адаму, запрасіў яго на сённяшнюю вячэру.

– Выбачаюся, – пакланіўся Адам. – На жаль, не змагу. Мушу неадкладна быць у іншым месцы...

– Што ж, тады – да раніцы, – развітаўся Нобель і зноў павёў рэпарцёраў у намёт.

Ну а «іншым месцам», дзе вечарам чакалі Адама Мацкевіча, быў, канечне ж, дом Тугіевых. Ён усім вылучаўся ад піцерскіх пабудоў: і чырвона-карычневым колерам, і персідскімі франтонамі, і ўнутраным убраннем з аграмаднымі інкрустацыямі з каштоўных пародаў дрэў на сценах і столі, з бясконцымі квяцістымі дыванамі-кілімамі...

Яго сустрэў Зафар і правёў у прасторную гасцёўню. З-пад залачоных люстраў, ад карцін з выявамі каўказскіх пейзажаў, залатых і срэбных кандэлябраў на расшытым кафлявай мазаікай каміне, – ад усяго дыхала багаццем і ўпэўненасцю.

– Музейны палац... – выказаў захапленне домам Адам, але Зафар сціпла хітнуў галавой:

– Не, гэта не самы лепшы з нашых дамоў. Усіх нас гонар – пецярбургскі мячэць. – Зафар рабіў памылкі і ў расійскай мове...– Толкі калі завяршыць тую пабудову, бацька ўзяўся за гэты дом.

Яшчэ ў год нараджэння сына Зафара Тугіеву належаў толькі нягеглы нафтавы заводзік. Затым яшчэ з двума кампаньёнамі ён арэндаваў у апшэронскім Эйбаце некалькі акраў зямлі. Праз тры гады выкупіў цалкам усе долі, а са свідравінаў палілося «чорнае золата». Да яго дадаліся тэкстыльная і рыбная прамысловасці...

У пакоі з'явілася Ханым – звонка прывіталася з госцем, міргнула доўгімі веямі, стрымана ўсміхнулася і паклікала вячэраць.

За доўгім сталом ужо сядзелі старэйшыя Тугіевы. Зрэшты, да гаспадыні, – Зэйнаб ханум, другой жонкі Тугіева і маці Зафара, – слова «старэйшая» аніяк не пасавала: яна выглядала Адамавай аднагодкай і мела ад сілы трыццаць пяць вёснаў. Прывітаўшы госця, яны прапанавалі напачатку чай і закускі.

– Якія ўражанні ад сённяшняй выставы? – распачаў гаворку Айдар Тугіеў.

– Розныя. Я ж прыехаў непасрэдна з дакументамі па рухавіку Дызеля... Дарэчы, спадар Дызель перадаваў вам свае прывітанні і пытаў, ці не падводзіла вас маразільная ўстаноўка, якую некалі ён меў гонар усталёўваць?

– Дзякуй, усё выдатна. – Тугіеў прыгладзіў ужо сіваватую бародку і прымружыў вочы: – Прызнацца, ён і мяне здзівіў. Гэта я пра рухавік. І вы ўпэўненыя, што ў той справе будзе поспех?

– Так, без сумніваў.

– Значыць, нафта будзе даражаць?

– Пэўна.

Пакуль мянялі талеркі і падавалі гарачае – запечаную ў цесце рыбу і мясныя рулеты пад грыбной падлівай – Адам перакінуўся позіркам з Ханым. Здалося, яе вялікія вочы зазіхцелі... Старэйшы Тугіеў прапанаваў госцю келіх віна, сам жа наліў сабе вады і зноў звярнуўся да Адама:

– А раскажыце нам, калі ласка, пра сваю сям'ю. Дзеці згадвалі, што вашыя бацькі таксама выхадцы з Расійскай імперыі, дваране...

– І бацькі, і дзяды, і прадзеды мае – з колішняга Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага. Ну а ад іхняй маёмасці ды дваранства пасля паўстання засталася адна памяць. Я нарадзіўся ўжо ў эміграцыі, – Адам яшчэ не дакрануўся да стравы і толькі прыгубіў віна.

– Эгэ, – як сам сабе пра нешта паведаміў Тугіеў. – Без роднай зямлі цяжка жыць, хай пасалодзіць і падоўжыць Алах гады вашаму бацьку. Я вось, здаецца, і ў сваім доме – а больш тыдня тут прабыць не магу, зноў у Эўлах ці Ічэрышэхер хачу... – ён уздыхнуў і нібыта абудзіўся: – І, калі ласка, частуйцеся, а то вунь на мяне ўжо Ханым косіцца за тое, што я сваімі роспытамі вас ад вячэры адрываю.

І толькі ўжо за дэсертам і чаем працягнуў:

– А што было за паўстанне, пра якое вы згадалі?

Відаць, Адам моцна здзівіўся нечаканай цікавасці:

– За незалежнасць раней самастойных земляў, далучаных да Расійскай імперыі. Сёння гэта – шэсць губерняў так званага Паўночна-Заходняга краю.

– Палітыка-а... – расцяжна падрахаваў Тугіеў. – Я ў ёй ад пачатку

свайго не цяміў. Помніцца, падчас візіту ў Баку Аляксандра III мяне, яшчэ чарнявага маладзёна, упаўнаважылі вітаць яго ад імя гарадскога насельніцтва. Паглядзеў цар незадаволена на маю папаху і спытаў: «Ты чый падданы?». «Вашай вялікасці», – шэпча-падказвае мне губернатар, а я ляпнуў па сваім разуменні: «Падданы гэтай зямлі». Спісалі ўсё на цёмнасць дзікага горца, а маглі б таксама выслаць... – ён сербануў з армуды – традыцыйнай азербайджанскай грушападобнай шклянкі – свежазаваранага зялёнага чаю. – Наш, атлыханскі... Цудоўны напой! Я хачу ў Пецярбурзе чайхану адкрыць. Нават бясплатную. А то аскацініліся тут са сваімі корчмамі ды гарэлкай... – Ён зноў гучна сербануў і адставіў армуду да настольнага кандэлябра, палюбаваўся колерам і формай: – Як усё проста і геніяльна... Шклянка нагадвае дзявочую фігуру. Завужаная «талія» не дае чаю астываць знізу, а верх не апякае вусны. Цуд! Я нават прапанаваў такой формы рабіць цыстэрны. Пад сонцам раней нафта ў іх награвалася і пачынала выпарацца, а вялікі ціск разрываў сценкі. Аніводная ж цыстэрна з «таліяй» не ўзарвалася! – ён нарэшце дапіў чай, зноў прыгладзіў бараду і звярнуўся да Адама: – Ну а цяпер міласці прашу ў мой кабінет. Не хвалюйцеся, толькі на трошкі адарву вас ад моладзі, бо сам я чалавек усходні і засынаць люблю разам з сонцам...

Кабінет Тугіева быў яшчэ большы за гасцёўню. Высачэзныя столі з калекцыяй вялікіх, у большасці безгустоўных карцін, доўгія шторы на вокнах, шыкоўныя, яшчэ новыя, канапа і фатэлі. Зіхотка-залацісты жар у каміне. На стале фотаздымак Мендзялеева з аўтографам.

– Дык кажаш, нафта будзе даражаць? – наноў пачаў Тугіеў (ужо на «ты»), калі яны мякка ўселіся каля каміна.

– Пэўна, – тым жа словам зноў адказаў Адам, памаўчаў і дапоўніў аргументамі: – Асабліва праз гадоў пяць-дзесяць, калі чыгунка і караблі зменяць паравыя турбіны і пачнуць харчавацца не вугалем, а салляркай.

– Разумна, – Тугіеў уважліва прасвідраваў госця каштанавымі зрэнкамі. – Значыць, пакуль сваю апшэронскую свідравіну я не стану прадаваць – ні англічанам, ні вашаму Ротшыльду. А то расфанабэрыўся: я замест вашай старой тут новую нафтавую вежу Эйфеля пастаўлю... Дарэчы, наконт Эйфеля... Каля той вежы ў Парыжы, непадалёк, ёсць рэстарацыя. «Бікон» ці неяк так называецца...

– «Vikon»?

– Во-во, «Vikon»!

– Выдатна ведаю і часта заходжу. Я там і з Дызелем некалі пазнаёміўся! – абудзіўся Адам і запытальна ўгледзеўся ў Тугіева.

– Некалі і мне тое месца прыглянулася. Зайшоў я паабедаць, сеў і чакаю афіцыянта. Паўгадзіны, гадзіна – ніхто не падыходзіць! Словам, падаўся я адтуль злосным і галодным. Перакусіў у іншым месцы і панаракаў там на гэты «Vikon». А назаўтра да мяне ў гатэль – цэлая дэлегацыя: гаспадар рэстарацыі, повар, яшчэ нейкія людзі. Прабачаліся і запрасілі да сябе на абед. І стол някепскі накрылі, і чаем сапраўдным пачаставалі – усё бясплатна. Ну а мне, на той час ужо нябеднаму мільянеру, цікава стала! «А што ж, – пытаю праз тлумача, – паважаныя, здарылася?» «Пардон, – кажуць, – памыліўся наш афіцыянт. Паглядзеў ён на вашае ўбранне ды бараду – і падумаў, што нейкі жабрак з Азіі падсеў... Афіцыянта мы ўжо звольнілі...» Во як! Падумаў я і зноў пытаю: «А скажыце мне, паважаныя мусью-мансеньёры, колькі каштуе ў вас

адно месца ў суткі?» «У сярэднім – столькі». «А за месяц?» «Столькі». «А за год?» А ў іх ужо і вочы акругліліся – як па тым сантыму сталі! Не разумеюць, што да чаго. «Дык вось, – завяршаю я. – Хачу з вамі кантракт заключыць. На сто гадоў. І там будзе такі пункт: любы азербайджанец, які наведае гэтую рэстарацыю, зможа вось так цудоўна і бясплатна паабедаць».

Тугіеў усміхнуўся, узняў вялікі палец уверх, устаў і павольна падышоў да сейфа, адчыніў і дастаў з яго таўстлявую кіпу грошай.

– Не ў службу, а ў дружбу... перадай, калі ласка, тым рэстаратарам. – І паклаў грошы на стол перад Адамам. – Тут на гадоў трыццаць павінна хапіць... – спакмеціў, што позірк госця прыліп да расчыненага сейфа, і зразумеў прычыну таго здзіўлення (на дзверыне з унутранага боку вісеў аграмадны зашчэрблены сякач). – Гэта – мой талісман! Такія сякеры – ва ўсіх маіх сейфах. І на шыльдзе банка Тугіевых. Я пачынаў зарабляць свае першыя грошы каменячосам, такой прыладай. І яна мне цяпер нагадвае пра зменлівасць лёсу. Вось...

Тугіеў зноў сеў за стол насупраць Адама, паглядзеў на яго спадылба, хоць і прыязна, і загаварыў ужо сухім тонам: – Ну а напрыканцы – яшчэ пра лёс... Не буду разводзіць анцімоніі, не люблю такога. Спытаю наўпрост: у цябе якія намеры да Ханым?

Ад нечаканкі Адам толькі раскрыў рот і заміргаў, як вінаваты гімназіст. Хацеў уздыхнуць, але паветра не хапала: здалося, што яго – як тую шкляную армуду – моцна сціснулі ў таліі...

– Ханым – цудоўная дзяўчына, – нарэшце выгаварыў ён. – І ў сваіх найлепшых марах я хацеў бы злучыць сваё жыццё з ейным... І... – Адам устаў і прыклаў далонь да сэрца, – і прасіць у вас на тое бацькоўскага дабраславення...

Тугіеў, выявілася, і сам у гэтую хвіліну не чакаў падобнага. Кашлянуў, адхінуўся на спінку фатэля, прыўзняў правае брыво і ўважліва паглядзеў на Адама, затым матнуў рукой, маўляў, сядай, высунуў верхнюю шуфляду стала, дастаў з яе стос спісаных аркушаў і кінуў на край стальніцы.

– Гэта пераклады тваіх лістоў да Ханым...

– Як?! – Адам зноў ускочыў, а за ім і Тугіеў.

– Знаю, што так непрыгожа! Ханым аб тым не ведае і ведаць не павінна. Будзеш сам бацькам – зразумееш мяне, – ён падышоў да Адама, паклаў яму на плячо руку і сілай прымусіў зноў сесці. – Дарагі мой, ты падабаешся мне як магчымы зяць і член сям'і. І род твой, па ўсім, – людзі мужныя і дастойныя павагі. Але мы – мусульмане. Ты згодны прыняць нашую веру? – зрэнкі Тугіева нібы прыліпілі да Адамавых вачэй.

– Я... Я думаю, што Бога, як і бацькоў, не выбіраюць. Народжаны хрысціянінам, я і мушу ім адысці да Усявышняга... – словы Адама прагучалі ціха, хоць і ўпэўнена.

– Бачу перад сабой годнага мужчыну! І спадзяюся, такім ты і застанешся ў маім успрыманні. Зразумей: Ханым мне вельмі дарагая, і я, забраўшы яе ад маці, павінен ёй удвая... – Тугіеў узяў са стальніцы стос спісаных аркушаў – пераклад лістоў – і акуратна паклаў у камін. Над імі адразу ўзнікла шызае воблачка дыму, а затым успыхнуў агонь. – Вось такімі, дарагі мой, бачацца мне і вашыя лёсы, – ён паказаў на камін. – Як гэтыя дым і агонь... Здаецца, і блізкія, і побач, а з'яднацца не могуць – заўсёды паасобку...

«Вось і папрасіў дабраславення», – збянтэжана думаў Адам, неўзабаве пакідаючы дом Тугіевых. А ў свой дом вярнуўся сіратой... На стале яго чакала бацькава цыдулка.

«Любы сыне, – па-беларуску значылася ў ёй няроўным дрыготкім почыркам. – Мушу неадкладна адправіцца да сваіх продкаў, да тваёй незабыўнай матулі... Будзь больш шчаслівым за мяне. Хай Гасподзь Бог падорыць табе доўгае жыццё, у якім знойдзецца месца і згадкам пра нас... – а знізу – як пастскрыптум: – Можа, яно так і лепш: запомніш мяне жывым. А тую жменьку зямлі, калі не забыў, высып на нашую з тваёй матуляй магілку. І будзь шчаслівым!»

## XII

Варвара Міхайлаўна Міхайлава з падмаскоўных Люберцаў сустракала светлы красавіцкі Вялікдзень «па-восеньску»: хрэсніца Елізавета Берг у сваім лісце віншавала яе з кастрычніцкімі Пакровамі... Незамужняя і бяздзетная, з нерастрачанымі сантыментамі да чалавецтва, Варвара Міхайлаўна на цэлы адвячорак задумалася, нагрэла самавар, некалькі разоў перачытала ліст, – ад пачатку, дзе распавядалася пра замежную вандроўку з дэспатам-мужам, які раздражняе на кожным кроку і прадаецца пыхлівым немцам за іх паганыя маркі, да заканчэння са згадкай пра сваё слабое здароўе, з паклонамі і вось гэтым дзіўным запозненым віншаваннем. Даты на аркушы не стаяла, штэмпель на канверце размыты... Ну не магло ж пісьмо затрымацца на паўгода!

Варвала Міхайлаўна выпіла трэцюю шклянку чаю з любімым слівовым варэннем – і адчула нейкую незразумелую трывогу. Схадзіла ў прыбіральню, пагрэла, прыхінуўшыся да грубкі, спіну, зноў прысела за стол, яшчэ раз пакруціла ў руках канверт, – і, старанна змуліўшы вусны, пачала пісаць свой ліст, у якім, між іншага, і падзівілася запозненым віншаваннем хрэсніцы.

Прайшоў месяц, але адказу не было. Тады Варвара Міхайлаўна паслала тэлеграму, якую, як паведаміў паштармайстар, выправілі назад з прычыны адсутнасці па названых доме і вуліцы адрасаткі.

Сэрца неспакойнай жанчыны яшчэ з месяц поўнілася нядобрымі прадчуваннямі, а летам паклікала ў Пецярбург, дзе Варвара Міхайлаўна і сама спадобілася пераканацца ў тым жа.

– О, барыня! Яго мосць спадар палкоўнік яшчэ мінулай восенню пажадаў выехаць адселяка, – распавёў ёй дворнік.

– А куды ж?

– Ентага паведаміць не выявілі жаданніца...

Сэрца зніякавелай Варвары Міхайлаўны зусім разбалелася. Са сваім неспакоем яна пайшла ў бліжэйшы паліцэйскі пастарунак.

Малады жандармчык у блакітным мундзіры з зіхоткімі гузікамі на пагонах старанна запісаў імя, імя па-бацьку і прозвішчы зніклых, іх ранейшае месца пражывання і прыступіў да выяўлення знешняга выгляду. Пачаў з мужчыны.

– Ды я, па праўдзе, яго ўжо даўно і не бачыла. Ці не з вянчання. Хрэсніца то прыязджала пагасціць... А ён... Ну як усе вы служывыя: вусы, чуб, хворма ваенная...

– Форма? – абудзіўся жандармчык.

– Ну так, форма. Муж маёй Лізанькі пры ваенным ведамстве служыць, тут, у Пецярбурзе, і не ў абы-якіх чынах. Бо мог сабе дазволіць і па замежжах з жоначкай ездзіць. Вось і ў пісьме гэтым запозненым аб тых Італіях мне Лізанька пісала...

– А ў якіх чынах яе муж?

– Ды бог іх ведае, я ў тым не асабліва каб разбіраюся...

– А што за пісьмо? – машынальна спытаў жандармчык, і Варвара Міхайлаўна паклала яму на стол канверт з лістом.

«Мілая цётачка! – прабеглі па акуратным почырку дапытлівыя вочы. – Пішу табе з памежжа Італіі і Швейцарыі. Тут вельмі прыгожа... Адно аніяк не пазбаўлюся раздражнення на свайго мужа. Жыць з ім у адным пакоі стала проста немагчыма... – І тут жандармчык пачаў прыўставаць над сталом: – Толькі на гешэфты з гэтымі немцамі і здольны. Перапісвае дома для іх нейкія паперкі ды атрымлівае за тое вялікія грошы»...

Турыстычная сцежка на вяршыню беладжыйскай гары была апошняй у жыцці Елізаветы Берг. Мужу думалася, што каменная бездань схавае ад яго жонку назаўсёды. Так і сталася б, калі б не стары пастух-швейцарац, які ад маленства адзінотна жыў пад той гарой і нястомна пасвіў там коз. Збіраў ён аднойчы іх ужо ў стойла, як адна скрывіла сваё вока на куст – і ні з месца. Вярнуўся падагнаць – і тут ужо сам заўважыў на зялёнай галінцы чырвоную жаночую сумачку. Азірнуўся па баках, пстрыкнуў замочкам – а там кіпа купюр. Італьянскія ліры, маркі, канверт з адрасам заклееены... Зноў азірнуўся, пракрычаў наўкол, пацепнуў плячыма, сунуў сумачку ў кішэнь кабаціка ды паклэпаў дахаты. Дома зноў перагледзеў знаходку, падаіў козаў і падаўся ў мястэчка. На пошце наклеіў на чужое пісьмо неабходную колькасць марак і выправіў, куды было напісана. Купіў мукі, крупаў, тытуню, а астатнія знойдзеныя грошы занёс у бліжэйшую кірху...

Так з тагасветнай прорвы дайшло да пецярбургскага паліцэйскага пастарунка (з дапамогай, безумоўна, і Варвары Міхайлаўны) прывітанне ад Елізаветы Берг. Малады ж жандармчык з навюткімі гузікамі на блакітным мундзіры аднёс тое пісьмо свайму ротмістру, адкуль яно неадкладна патрапіла ў 7 аддзяленне ваеннай выведкі Генштаба. А дзе-дзе, а ў Генштабе палкоўніка Берга ўжо ведалі...

Вечарам таго ж дня начальнік выведкі быў у міністра Пятра Іванавіча Курапаткіна. У вокнах ягонага кабінета спакойна драмаў Садовы мост над Мойкай, на інкруставаным стале з маронага дубу мірна свяціла лямпа пад зялёнай засняй, – а тут такое! І гэты ліст – не раўнуючы як данос ад зніклай жонкі.

Разрэз міністэрскіх вачэй павузеў, роўны нос, здалося, яшчэ больш расцягнуўся.

– Памочнік начальніка Канцылярыі нашага міністэрства – шпіён?!

– Ваша высокая вялебнасць... Без следства рана так сцвярджаць, але нашыя папярэднія мерапрыемствы ды гэтыя вось новыя абставіны... Мэтазгодна, думаю, затрымаць палкоўніка Берга ды дапытаць наконт усіх прадметаў.

Пётр Іванавіч нервова сціснуўся і цяжка абаперся на стол.

– Вось куды прывялі паганца тыя замежныя паездачкі да нейкіх новааб'яўленых дзядзькоў! А яго ж збіраліся ўзвесці ў генеральскі чын і прадставіць гасудару імператару... Па восені мог бы стаць начальнікам

Канцылярыі! – злосна выгаварыў ён і адчуў, як штось напялася і запякло пад пячонкай. Узгадаў абед у рэстарацыі любімага даходнага дома. «Данілава штось перастаралася са сваёй качкай... Ці гэта грыбы ейныя не пайшлі?» – падумаў і ўголас буркнуў: – Што ж, палкоўнік, затрымлівайце, калі мэтазгодна. Толькі, папрашу вас, зрабіце гэта на яго кватэры, а не ў нашым ведамстве. Каб, самі разумееце, цень не падаў...

Пасля вяртання ад «замежнага стрыечнага дзядзькі» Віктар Аляксандравіч Берг наняў новую прасторную кватэру ў доме № 6 па Узнясенскім праспекце – праз вуліцу ад Канцылярыі Ваеннага міністэрства. Туды сутоннай раніцай і пад'ехала аб'ёмная карэта, у якой разам з начальнікам ваеннай выведкі былі міністэрскі ад'ютант па асобых даручэннях, штабс-ротмістр ахоўнага аддзялення Дэпартамента паліцыі, прыстаў мясцовага паліцэйскага ўчастка ў чыне капітана і два акалотачныя.

Палкоўнік Берг толькі пагаліўся і збіраўся аддацца лёгкаму сняданку, як гасцёўню занялі нечаканыя госці.

– Віктар Аляксандравіч, вымушаны выказаць прабачэнні за турботы, – казённа пачаў начальнік выведкі, – але мусім задаць вам некалькі пытанняў... – ён зняў фуражку і, не зводзячы з гаспадара кватэры вачэй, прысеў.

За ім прысеў і Віктар Аляксандравіч, то надзяваў, то здымаў пенснэ і неўразумела азіраў ваенную і жандармскую форму за́йшлаў.

– Скажыце, калі ласка, дзе вашая жонка, Лізавета Мікадзімаўна?

Нечакана Віктар Аляксандравіч усміхнуўся.

– Яна... яна засталася пажыць-палячыцца ў Італіі. Пецярбургскі клімат, ведаеце, не для яе далікатнага здароўя...

– А дзе, дазвольце пацікавіцца, яна там пражывае?

– Сціплы прыватны гатэль у Беладжыо... А што здарылася? – і ён нахмурыўся.

– А, дык гэта яна адтуль нядаўна сваёй хроснай у Маскву пісьмо даслала? Пазнаяце? – абудзіўся начальнік выведкі і з робленай абыякавасцю перадаў канверт.

Віктар Аляксандравіч наструніўся, як працяты токам. Вусны пачалі ўздрыгваць, а дымныя датуль зрэнкі – астываць, як перагарэлі.

– Пачытайце ўважліва, асабліва пра вашыя ваенныя гешэфты... – начальнік выведкі закінуў нагу на нагу, скрыпнуўшы пры тым партупеяй, і холадна дадаў: – Нам жа, думаю, яна яшчэ і не такое раскажа.

– Дык яна... жывая?! – не стрымаўся Віктар Аляксандравіч і зразумеў, што тоне.

Далей начальніка выведкі вучыць не трэба было.

– А вы што, яе пахавалі ўжо? – прыўзняўся ён над абвялым шпіёнам. – А толькі што запэўнілі, што пакінулі яе лекавацца... Вось дык навіна! Дарагі Віктар Аляксандравіч, думаю, не мне вам нагадваць, што за здраду айчыне і гасудару імператару, якая выяўляецца ў злачынным продажы замежнай дзяржаве таемнай інфармацыі аб ваеннай абароне, паводле артыкула 111 Крымінальнага Улажэння Расійскай Імперыі прысуджаюцца 8 гадоў катаргі. І гэта – асобам цывільным, а ваенных, да якіх маеце гонар адносіцца і вы, чакае катарга пажыццёвая. Так што мая вам шчырая...

– Не трэба, палкоўнік... – перабіў яго Віктар Аляксандравіч. – Я стаў ахвярай... Я гатоў дапамагчы следству... – ён паспрабаваў устаць, але толькі ўзняў галаву і, страціўшы прытомнасць, зваліўся на лакаваную падлогу...

# XIII

Вецер слізгаў па Фінскім заліве, разрываў над ім авечыя хмары, гохкаў у пустыя байніцы старых фортаў, прарываўся на вуліцы Кранштадта, гарэзіў у паддашках ганарыстых дамоў, шамацеў у абуджаных траўнем шатах паркавых дрэў – і аціхаў.

Адам і Ханым павольна дайшлі па доўгіх прысадах да цэнтра Плац-парада і спыніліся перад помнікам Пятру І. Агароджай манументу служылі ўкапаныя жароламі ўніз гарматы. Цар прывычна глядзеў у мройную далеч, паставіўшы правую нагу на сцягі шведскай эскадры...

Яны пабачыліся яшчэ ў Пецярбурзе. Адам даведаўся, што Ханым вучыцца ў Смольным інстытуце, і вырашыў сустрэць яе там падчас прагулкі. Доўга сядзеў на бліжэйшай да ўваходных дзвярэй лаве, пакуль на прыступкі павольна выплыла група старэйшых курсістак: усе ў белых сукенках і капялюшыках, у аднолькавага крою карычневых плашчыках. Але Ханым ён пазнаў. Усхапіўся, узняў руку з букецікам і ніякавата апусціў... Дзяўчаты прайшлі паўз яго, некалькі з іх зацікаўна скасілі вочы, а Ханым, трымаючы за рукаў сяброўку, дрыготка спытала па-французску:

– Вы... тут?

– Ханым... – у Адама раптам змяніўся голас. – Я тут па працы. Ужо больш чым два месяцы... І не мог не пабачыць. Праз два дні я вяртаюся дамоў...

Яны прыселі на лаву, а дзяўчаты здзіўлена паўсміхаліся нечаканаму «французу» і адышлі.

Назаўтра была субота, калі студэнткі вольныя ад заняткаў, і ранішняй кананеркай (якая перавозіла не толькі маракоў, але і цывільных, – калі тыя маглі прад'явіць пашпарт) яны і дабраліся да Кранштадта. Заканчвалася вясна, але сіверны балтыйскі вецер, які скрутна гойсаў па палубе, паспеў не на жарт застудзіць, і цяпер яны ў абдоймах астраўных вулак ды прысадаў радаваліся зацішку і цяплу.

Ад помніка Пятру прайшлі да Якарнай плошчы з новаўзведзеным Марскім саборам, схаваным пакуль яшчэ ў рыштаванні. Пляц быў выкладзены роўным часаным камнем, і Ханым спынілася, пастукала чаравічкам і ціха прамовіла:

– Некалі мой тата быў каменячосам. Уяўляеш, ён рукамі высякаў вось такое...

Яны загледзеліся на залачоны купал сабора, адкуль ім усміхнулася сонца.

– Які незвычайны арнамент! – прашаптала Ханым і паказала ўверх. Медны купал храма, зменшанай копіі колішняй Святой Сафіі ў Канстанцінопалі, быў аблямаваны якарамі і выратавальнымі кругамі.

– Хадзем, я табе яшчэ нешта пакажу! – прапанаваў Адам і за руку павёў Ханым да недалёкага яру, праз які быў перакінуты незвычайны пешаходны мост. Яго дзіўныя металічныя канструкцыі з ажурным пераплётам балак і цягаў стваралі ўражанне лёгкай павуты, але клёпаныя формы надзейна застывалі на гранітных сваях-быках.

Ханым усміхнулася:

– А гэтыя металічныя расцяжкі нагадалі мне тваю вежу Эйфеля...

Яны спыніліся на сярэдзіне драўлянага насціла, і Адам абняў дзяўчыну, а тая – не адштурхнула яго. З хвілю памаўчалі, і першым загаварыў ён:

– Я цябе больш не адпушчу! Мы цяпер заўсёды будзем разам.

– Дзе? – ледзь-ледзь уздрыгнуліся ейныя вусны, а глыбокія чорныя вочы – як той яр пад імі – напоўніліся туманам.

– Заўтра ў Шчэцін адплывае цеплаход. У мяне асобная каюта. Ты маеш пашпарт... А са Шчэціна праз суткі будзем у Парыжы!

– Гэта вар'яцтва... – ледзь не прастагнала Ханым. – І немагчыма. Мы – рознай веры...

– Але я кахаю цябе! – Адам адпусціў дзяўчыну і адчайна схапіўся за галаву, нахіліўся на жалезныя парэнчы, а потым павярнуўся да Марскога сабора і ўзняў рукі: – Глядзі: храмы ўзводзяць людзі! А вера... Вера ў нас саміх. У нашых душах. І за каханне няма вышэйшых касцёла, царквы, мячэці ці сінагогі! Безумоўна, калі каханне ўзаемнае... – Адам аберуч прыціснуў Ханым да сябе, уліўся ў яе дабіблейныя вочы пад высокімі ўзлётнымі брывамі і прашаптаў: – А ты... кахаеш мяне?

І ў тую хвілю пад ім захістаўся гранітны падмурак моста, а аксамітныя вусны, з якіх зляцела ціхае «Так», адарылі Адама персікавай асалодай...

Незвычайны Макараўскі мост зрабілі ў цэхах Кранштадскага марскога завода, у якім два месяцы пераабсталёўвалі і параход «Роберт». З яго па замове Эмануіла Нобеля на гэтай старэйшай расійскай верфі быў створаны карабель, якому пакуль што не было назвы. Цеплаход... салярход... дызельход. Паравыя кацёл і турбіна былі заменены новым рэверсіўным рухавіком Дызеля, забітыя сажай трубы дэмантавалі, – і «Роберт» з новым сэрцам, зробленым на Аўсбургскім маторным заводзе «Таварыства Дызеля», рыхтаваўся да свайго новага плавання з Пецярбурга ў Шчэцін і назад.

1500 марскіх міль. Параходы на гэтай лініі з'ядалі за маршрут каля 50 тон вугалю, а нобелеўскі цеплаход тых жа габарытаў і з нашмат большай агульнай загрузкай абяцаў патраціць не больш за 8 тон сырой нафты! Такі, прынамсі, расход падлічыў і гарантаваў спадару Эмануілу Нобелю Адам Мацкевіч. Тую навіну сенсацыйна растыражавалі сотні журналістаў, якія былі запрошаныя на «дызельны» рэйс[1].

Назаўтра, калі запусцілі і пачалі праграваць рухавік, Адам вярнуўся ў каюту і спешна напісаў у блакноце:

«Вельміпаважаны спадар Айдар Зэйналабдзін! Я маю найвялікшы гонар злучыць свой лёс з Ханым. Запэўніваю, што зраблю ўсё магчымае і немагчымае дзеля ейнага шчасця. Калі можаце, зразумейце і даруйце. Пры неабходнасці звязацца са мной можна праз адміністрацыю вядомай Вам рэстарацыі "Vikon". Ваш Адам Мацкевіч».

Падышла Ханым, абняла яго ззаду, прачытала, а потым забрала асадку і дадала:

«Любы татка! Не хвалюйся. Усё будзе добра. Твая Ханым».

Адам акуратна адарваў старонку, згарнуў, дапісаў бакінскі адрас і выклікаў памочніка капітана.

– Я ласкава прашу выслаць гэты тэкст тэлеграмай, – і дастаў з кішэні сторублёвую асігнацыю.

– Гэтага замнога, – здзівіўся памочнік, а потым выструніўся і кіўнуў галавой: – Рэшту я неадкладна вярну.

---

[1] Падлікі Адама Мацкевіча не спраўдзіліся: у цеплаходным рэзервуары засталося яшчэ паўтары тоны нафты.

Праз гадзіну яны адплылі з Кранштадта. Справа ім салютаваў маяк Марскога канала. Як каменныя чарапахі, праслізнулі абарончыя фарты, якія некалі пільнавалі фарватары-падыходы да стольнага Пецярбурга, а цяпер сталі непатрэбнымі: карабельная тэхніка ды ваеннае абсталяванне не стаялі на месцы...

На палубе, любуючыся сонечнымі пераліваімі ва ўзбуджанай вінтамі вадзе, Адам мякка абняў Ханым і паўтарыў:

– Усё будзе добра.

Каля Баку ў асабняку Тугіева ішлі цяжкія перамовы аб куплі нафтавай свідравіны англійскай кампаніяй Ротшыльда. Некалі шанцавітаму каменячосу яна дасталася за пяць тысячаў рублёў, а цяпер за яе гатовы былі выкласці мільён.

Дзверы ціха расчыніліся, і да гаспадара спешна прашыбаваў ахоўнік, пакланіўся, паклаў на стол бланк нечаканай тэлеграмы і выйшаў.

Прачытаўшы, Тугіеў некаторы час заставаўся нерухомым, затым перавярнуў паперыну тыльным бокам, устаў, зняў са сцяны цяжкую каўказскую шаблю ў пазалочанай похве і зноў прысеў. Акамянела агледзеў прысутных (толькі ўздрыгнула чорная брывіна), левай рукой накрыў тэлеграму, уздыхнуў, – і раптам над ягонай галавой бліснуў крывы клінок шаблі. Яна секанула па стальніцы і ўелася ў дрэва. На лакаванай паверхні – як на паламаным лёдзе – з'явіліся трэшчынкі-жылкі, а яшчэ – фаланга мезенца...

Тугіеў адхінуўся на фатэльную спінку, дастаў кішэнны гадзіннік, пстрыкнуў вечкам, паглядзеў на стрэлкі, зноў закрыў, – і толькі тады заўважыў, што з раны на пінжак і штаны капае кроў. Ён спакойна абкруціў-пераціснуў адцінак пальца гадзіннікавым ланцужком, зноў агледзеў прысутных і хрыпла спытаў:

– Дык на чым мы спыніліся?

Агаломшаны прадстаўнік Ротшыльда наструніўся, часта заміргаў і амаль без акцэнта прагаварыў па-расійску:

– Мы прапануем два мільёны. Больш не зможам...

## XIV

За сонечнымі пырскамі над вінтамі «Роберта» з кранштадскага Аляксандраўскага форта сумна назіраў капітан-лейтэнант Мікалай Баранаў.

– І праўда – без паравога катла... – прашаптаў ён і дадаў яшчэ цішэй:
– І аніякага дыму з трубаў, як пасля вугалю...

Ён выцер насоўкай набеглую ад ветра слязіну і яшчэ доўга глядзеў услед цеплаходу. Глядзеў, як можна было падумаць, на ўсе два вокі, хоць там, дзе больш не з'яўлялася слёз, быў нерухомы пратэз...

Па вяртанні з Гановера Мікалаю Баранаву давялося доўга патуляцца па міністэрскіх кабінетах, ваенных доках ды марскіх школах. У Аляксандраўскім форце размяшчалася вадалазная вучэльня, у якой ён двум афіцэрскім класам выкладаў карабельную тактыку. Здымаў у контр-адміральскай удавы пакой у двухпавярховым доме насупраць Якарнай плошчы, куды пасля апублікавання адпаведнай аб'явы ў «Кранштадскім весніку» і прыйшоў сухі пажылы чалавек з незапамінальным тварам.

– Вам, паважаны, якое вока патрэбнае – левае ці правае?

– Левае, – адказаў Баранаў і тыцнуў пальцам на пустую вачніцу, але раптам уздрыгануўся і паправіўся: – Узяў бы два. Хай адно ў запасе будзе.

Незнаёмец і насамрэч прынёс пратэз. Абмыў яго нейкай вадкасцю і дапамог уставіць. І нават люстэрка прыставіў:

– Ну як вам?

Баранаў глядзеў і не мог паверыць: як сапраўднае! І нават зрэнка такога ж шэра-зялёнага колеру, як і ў жывым.

– Я працую ў аптэцы на Пятроўскай, – не дачакаўшыся адказу, паведаміў незнаёмец. – На ноч прамывайце пратэз борнай кіслатой, адна чайная лыжка на шклянку кіпячонай вады, – і перадаў бутэльку з вадкасцю. – Раз на месяц прыходзьце да мяне, каб купіць новую. Там, калі будуць, і навінамі падзелімся...

З таго часу ён змяніў пяць бутэлек, але нічога вартага паведаміць не мог. А тут вось – карабель без вугалю і дыму!

У сталоўках Баранаў пагаварыў з інжынерамі Параходнага завода (яго пагоны з дзвюма вялікімі зоркамі спрыялі прыхільнасці суразмоўцаў), сплаваў у Пецярбург і зноў патуляўся па кабінетах Адміралцейства, якое за год пасля пераўтварэнняў толькі пачало ажываць. Пасля паразы ў руска-японскай вайне начальнік флота і марскога ведамства быў вызвалены ад абавязкаў; з’явіўся марскі міністр, адпаведнае міністэрства і Марскі генштаб. Пра ўсё тое падрабязна Баранаў і паведаміў у сваім лісце да «аптэкара» (стараючыся непазнавальна змяняць свой почырк), а напрыканцы распавёў пра пачатак будаўніцтва расійскай флатыліі на нафтавых рухавіках і актыўнае пераабсталяванне паравых караблёў у дызельныя. Ініцыятарам гэтага было Таварыства «Браты Нобелі», абсталяванне дастаўлялася з Аўгсбургскага завода Рудольфа Дызеля. А нядаўна ў Рускім тэхналагічным таварыстве быў прачытаны даклад «Аб прымяненні нафтавых рухавікоў у караблебудаванні», і паводле разлікаў інжынера Нордстрэма такое судна сярэдніх памераў магло зрабіць рэйс з Адэсы да Уладзівастока і назад без дазапраўкі.

А затым выявілася, што не толькі бяда не ходзіць адна, – здараецца, паўтараюцца і шчаслівыя нечаканасці. На прыёме з нагоды дня стварэння Расійскага флота (гэта калі малады Пётр І загадаў «марскім судам быць...») капітан-лейтэнант Баранаў сустрэў цёзку і колішняга аднакашніка па Марскім кадэцкім корпусе Мікалая Дуніна-Бартоўскага. Невысокі каржакаваты сябар ужо насіў пагоны капітана ІІ рангу, паслужыў і паваяваў, пабыў выкладчыкамМіннай школы, а цяпер, як сціпла зазначыў, праседжвае штаны ў Марскім генштабе.

– Знаеш, а я табе зайздрошчу... – нечакана прызнаўся Баранаў. – Пасля кантузіі ды гэтага во ранення (паказаў на «мёртвае» вока) я спісаны на бераг. Даю ў Кранштадце на тыдзень тры лекцыі дзясятку падводнікаў, гляджу з форта на заліў – і ўсё часцей хачу скочыць у яго халодныя воды...

Пагаварылі – і разышліся. Кранштадт скавала зіма. Мінулі два нудотныя месяцы, і на кватэру Баранава ў контр-адміральскі дом пасыльны прывёз ліст. «Дарагі Мікалай Іванавіч! – на скорую руку пісалася ў ім. – Маю гонар прапанаваць Вам неадкладна з’явіцца ў Генштаб для асобнай размовы. У дзяжурнага афіцэра даведаецеся нумар майго кабінета. Кап. ІІ р. М. Дунін-Бартоўскі».

Апахмялёны з самае раніцы, Баранаў з’явіцца ў той жа дзень у Пецярбург не мог. Магутныя дзверы будынка Марскога генштаба адчыніў толькі назаўтра і выглядаў свежым і ўзбуджаным.

– Прыёмная яго высакароддзя начальніка марской контрвыведкі на чацвёртым паверсе, – прабасіў дзяжурны афіцэр, а Баранаў скамянеў і не мог скрануцца: яму здалося, што здарылася памылка. – Калі ласка, праходзьце, пра вас дакладвалі, – зноў бас афіцэра.

Так, прызначаны на новую пасаду аднакашнік не забыў пра таварыша...

– На наш аддзел ускладзена задача па ахове сакрэтаў пабудовы ваенных судоў, падводных лодак, распрацоўкі артылерыйскага ўзбраення і падобнае. Штат пакуль невялікі, але я запомніў нашу колішнюю размову на прыёме і хачу прапанаваць перавесціся да нас. Сам разумееш, тут патрэбныя надзейныя людзі. Калі згодзен, прыкамандзіруем цябе на Балтыйскі завод начальнікам сакрэтнай службы...

Яшчэ на мяжы стагоддзяў камандаванне флотам і вышэйшае кіраўніцтва Расіі ўпэўніліся ў важнасці падводных лодак. Было прынята рашэнне праектаваць іх уласнымі сіламі. Першай на верфі з'явілася «Мінога», на якой у лютым 1906-га пачалі замену бензінавага рухавіка на дызельны. Фірме «Людвіг Нобель» у Пецярбурзе былі замоўлены два трохцыліндравыя рухавікі Дызеля марскога тыпу магутнасцю па 120 конскіх сіл кожны.

Пасля знаёмства з начальнікам завода Баранаў зачыніўся ў асобным пакоі і пачаў вывучаць сістэму дакументацыі – і да ночы паспеў скапіраваць сакрэтныя чарцяжы падлодкі ды перапісаць асноўную частку судабудаўнічай праграмы Расійскага флота. Ён выдатна разумеў, што каб адвесці ад сябе віну, інфармацыя мусіць неадкладна сплысці, – маўляў, была выкрадзена яшчэ да яго прызначэння. І праз тры дні ўсё Марское міністэрства ўжо нагадвала растрывожаны вулей: нямецкая газета «Maschinenbau» апублікавала тэзісы Праекта расійскай ваеннай марской праграмы, якія пакуль не быў разгледжаны нават на паседжанні Дзяржаўнай думы (марскі міністр лічыў яго настолькі сакрэтным, што не раздаў нават думцам). Начальніку ж завода той Праект быў прадстаўлены дзеля належнага афармлення хадайніцтва аб выдачы нарада на пабудову першай падводнай лодкі...

Начальнік быў звольнены, а пры новым выйшаў найвышэйшы ўказ аб закладцы ў доку другой падлодкі «Акула» з удвая магутнейшымі рухавікамі Дызеля. Іх выпускаў машынабудаўнічы канцэрн «Аўгсбург-Нюрэнберг», але пасля скандалу з рассакрэчваннем папярэдняй дакументацыі давер да нямецкіх партнёраў паменшыўся. У той жа час «Людвіг Нобель» прапанаваў выраб падобных рухавікоў па больш нізкім кошце – і замову перадалі пецярбургскаму заводу.

...Галава раскалвалася, і, здавалася, нехта спрабаваў у яе закруціць вялікія балты, не баючыся сарваць разьбу. Скрозь боль Дызель даіграў 5-ю санату Бетховена і падняўся ў кабінет. Адкрыў акно, зваліўся ў фатэль і марудна выкурыў цыгару. Затым – падцягнутым і бадзёрым – з'явіўся за вячэрнім сталом.

– Зрабілі ўрокі? – загадкава агледзеў дзяцей і насунуў пенснэ.

– Так, – запэўніў Рудольф-малодшы, а дачка шчыра züвала галавой, дажоўваючы пірог.

– А дарэмна паспяшалі... Заўтра прагуляеце школу. Мы паедзем у госці.

– Да каго? – ажывіліся адначасна дзеці і жонка.




*Рэзідэнцыя нямецкага імператара ў Берліне*

– Да яго вялікасці кайзера, – агаломшыў Дызель.

З’явілася пакаёўка і здзівілася маўклівай паўзе. Нерашуча спытала:

– Дазволіце, гер Рудольф, падаваць вам?

– Не, дзякуй, мне толькі гарбаты...

Назаўтра яны праехалі на аўто паўз Брандэнбургскую браму, мінулі зялёную Unter den Linden і пасля Палацавай плошчы, перад самай Шпрэе, павярнулі направа, у цэнтральны ўезд Берлінскага гарадскога палаца, галоўнай рэзідэнцыі нямецкіх імператараў. Пакуль дзеці разглядвалі фантан Нептуна, два вартавыя з паласатых будак праверылі дакументы і, казырнуўшы, узнялі шлагбаўм.

Праз доўгія калідоры іх правялі ў вітальню і прапанавалі прысесці. Роўна а дванаццатай расчыніліся дзверы і ўвайшоў кайзер. Спачатку ён павітаўся з Дызелем, затым – з яго жонкай і дзецьмі.

– Пачнём з урачыстага, – імператар усміхнуўся і ўручыў госцю Ганаровы дыплом вынаходніка. – Мы вельмі ўражаныя вашымі, гер інжынер, поспехамі і спадзяемся, што ваш талент будзе працаваць і на росквіт нашай імперыі. Я хачу пазнаёміць вас з шэфам ваеннага кабінета генералам Хюльзэнам, – кіўнуў генералу і сказаў ужо абодвум: – Думаю, у вас павінны з’явіцца агульныя тэмы. А цяпер, калі ласка, у сталовую.

Справа ад сябе кайзер пасадзіў Дызеля (з жонкай і дзецьмі), злева – генерала Хюльзэна. Стол быў сервіраваны проста, адно на фоне белага посуду вылучаўся залаты званок (якім Вільгельм ІІ карыстаўся, калі надыходзіў час чарговай стравы). Падалі рыбны суп, смажаніну і чырвонае віно (дзецям – сок), затым – фруктовы дэсерт і гарбату.

Кайзер увесь час гаварыў, паварочваючыся да Дызеля. Інжынер уважліва слухаў і амаль не дакрануўся да ежы. Сам жа кайзер паспяваў вельмі хутка распраўляцца са стравамі – хоць і адной рукой. Ён (кайзер карыстаўся адмысловым відэльцам, які з другога боку меў лязо) нарадзіўся з пашкоджанай рукой, на пядзю карацейшай, і ўвесь час мусіў хаваць гэты недахоп.

– Мы ведаем, да якіх рэвалюцыйных зменаў могуць прывесці вашыя рухавікі. Як мне распавялі, імі найперш цікавяцца замежныя краіны. Расійскае марское міністэрства замаўляе іх для сваіх кананерак і нават падводных лодак. Не адстаюць і французы з ангельцамі. У сваю чаргу і мы, гер Дызель, думаем, што вы, як немец, не адмовіцеся папрацаваць на эканоміку і абарону нямецкай імперыі... – кайзер перастаў жаваць, выцер сурвэткай вусы і пранікнёна ўгледзеўся ў госця.

– Вашая вялікасць, дазволю сабе сказаць аб тым, што з усімі сваімі распрацоўкамі і вынаходніцтвамі я найперш звяртаўся на нямецкія заводы і ў міністэрствы, але там маімі распрацоўкамі не зацікавіліся. Многія нават не адказвалі на мае лісты. Больш за тое, мяне пачалі называць ворагам прамысловых інтарэсаў Германіі, бо мой рухавік стаў канкураваць з паравымі, а гэта значыць: з вугальнымі манапалістамі.

Але ж я не вінаваты ў тым, што асноўнай крыніцай энергіі ў недалёкім будучым стане нафта!

Кайзер узняў бровы, хітнуў галавой і акуратна распраміў адпрасаваныя трохкутнікі каўняра белай кашулі, памацаў пад імі срэбны імператарскі крыж і запэўніў Дызеля:

– Падобнае больш не паўторыцца. Мы будзем актыўна ўдзельнічаць у абнаўленні нашай эканамічнай і ваеннай машыны і выкарыстоўваць вашыя распрацоўкі.

Цяпер кайзер перакінуў погляд на свайго ваеннага міністра.

– Менавіта! – абудзіўся і генерал Хюльзэн. – Не зважаючы на тое, што ў нас безліч запасаў вугалю, але няма нафты, мы зацікаўлены ў аператыўным тэхнічным абнаўленні як арміі, так і эканомікі. Я нядаўна прачытаў у адной з газет наступную фразу, якая бачыцца знакавай: «Урад, які можа сачыць за вытворчасцю нафты, патрэбнай для войска, – такі ўрад выйграе бітву, яшчэ не пачаўшы яе». Вось! А калі да нафты прыкладзецца і тое, што яе спажывае... Маю на ўвазе вашыя, гер Дызель, маторы. Мне далажылі, што расійскі завод Нобеля выпусціў новы рухавік вашай сістэмы, у дзесяць разоў магутнейшы за ўсе вядомыя. І ўжо ёсць прапановы выкарыстоўваць яго на электрастанцыях, заводах, млынах, не гаворачы пра флот.

– Так! Мы катастрафічна адстаем, – кайзер ахвотна падтрымаў шэфа ваеннага кабінета і нечакана прапанаваў: – А што, калі гер Дызель адкліча свае патэнты на рухавік? Мы гатовы знайсці сродкі, каб астудзіць фінансавыя прэтэнзіі замежных вытворцаў.

Дызель нават падумаў, што кайзер жартуе, але па вачах і сур'ёзным выразе твару манарха было відно адваротнае.

– На жаль, вашая вялікасць, гэта... немагчыма, – падбіраў неабходныя далікатныя словы Дызель. – І, наогул, праз год тэрмін дзеяння майго патэнта на рухавік, які працуе на саляройле, заканчваецца, і яго змогуць вырабляць-удасканальваць тысячы інжынераў на сотнях заводаў. Такі лёс усіх вынаходнікаў: развітвацца са сваім стварэннем...

– І вы так проста пра тое гаворыце?! – здзівіўся кайзер.

Дызель усміхнуўся:

– Самы радасны час для вынаходніка – момант узнікнення ідэі. Яе аніхто ў яго не адбярэ. Гэта час роздумаў і творчасці. Выкананне ідэі – перыяд пераадолення супраціўлення прыроды. А ўкараненне вынаходніцтва ў жыццё – гэта барацьба з дурнотай, зайздрасцю, злосцю ды чужымі інтарэсамі. Гэта пакуты, нават калі яны, як у маім выпадку, заканчваюцца перамогай.

Яны ўжо дапілі гарбату, і кайзер прапанаваў працягнуць размову ў канцылярыі, а фраў Дызель з сынам і дачкой павялі на экскурсію па палацы.

У канцылярыі падалі цыгары, і кайзер распачаў маналог аб міжнародным становішчы. Ён захоплена гаварыў пра палітыку Германіі на Каўказе і адносінах з султанскай Турцыяй.

– Усе сілы народа і кіраўніцтва мусяць працаваць на эканамічнае і палітычнае панаванне Германскай імперыі. І думаць мы павінны як пра вугальныя, так і пра нафтавыя радовішчы. Самі падумайце: тона расійскай нафты цяпер каштуе ўдвая даражэй, чым год таму! І мы не можам не бачыць, што з кожным днём абвастраецца барацьба за нафтавыя рынкі і тэрыторыі. Заварушыліся ўсе, у тым ліку і Англія, якая нядаўна заключыла саюз з Расіяй. Арміі іх моцна мадэрнізуюцца. Але мы не будзем глядзець на

тое скрозь пальцы. Нашыя канструктары і ўвесь ваенны махавік не стаяць на месцы. Вось, да прыкладу, прапанова прафесара Фідлера аб выкарыстанні ў абарончых лініях агнямётаў... Паспрабавалі – ашаламляльны вынік! Хай цяпер тыя англічане паспрабуюць высадзіцца ў Шлезвігу... Спалім за некалькі секунд! – кайзер упэўнена расціснуў цыгару і працягнуў: – Гэта толькі адзін прыклад. Наогул жа мы ўсе, – і кіўнуў на генерала Хюльзэна, – зацікаўлены ў выкарыстанні і вашага інтэлектуальнага патэнцыяла. Спадзяюся, вы не супраць працаваць у імя будучыні свайго народа? – і, не чакаючы адказу, закончыў: – Распарадзіцеся, генерал, каб нашага госця пазнаёмілі з прафесарам Фідлерам. Хацелася б, каб гер Дызель дапамагаў яму ўдасканальваць агнямётныя сістэмы. Ну і, адпаведна, не забудзьце пра годнае фінансавае забеспячэнне[1]...

## XV

У той час у Баку жылі два вельмі багатыя чалавекі, якія нічога не рабілі. Але рабілі яны тое па-рознаму. «Чорны шах» Мірзой сваім аўтарытэтам забяспечваў спакой у мясцовым бізнэсе, а стары генерал Лобіч мантыжыў да позніх пеўняў у найлепшай рэстарацыі горада і гуляў у карты.

Аднаго разу яны сустрэліся. Генеральскі трубны бас раздражніў гарачага сына Усхода, і Мірзой падсеў за покерны столік да Лобіча:

– Згуляем?

– Чаму ж не... – і Лобіч замовіў яшчэ віскі.

Карты складваліся і адляталі, банк пераносіўся на новы круг, раскрываліся свежыя калоды, мянялі карты (Мірзой спакойна, акуратна складваючы іх пульхнымі пальцамі, пераціснутымі дарагімі пярсцёнкамі; Лобіч узбуджана, і калі цягнуў з калоды чарговы прыкуп, закрываў адно вока), павялічваліся стаўкі, і ў дылера, які падсумаваў банк, пачалі дрыжэць рукі...

– Ну што, адкрываем?.. – генеральскі бас прагучаў пераможна і ўзрушана. – Вось! – і ён горда выклаў на стол свой чырвовы флэш.

– Здорава... – ціха падрахаваў Мірзой і скрывіў свой востры нос. – Праўда, у мяне склалася лепш... – і ляніва раскрыў пікавы стрыт флэш.

Мікалай Львовіч Лобіч агаломшана глянуў на непрыемную камбінацыю з пяці картаў – ад караля да дзявяткі, узварушыў свае бакенбарды, нешта хацеў сказаць, але не змог і закашляўся.

– Што ж, бывае і так... – Мірзой перарваў паўзу. – Разумею, генерал, што грошы вялікія, але, думаю, вы адкажаце за банк?

Лобіч утрапёна кіўнуў галавой:

– Так, безумоўна, праз дзень-два...

Сказаць так вымагаў генеральскі гонар. Ды сказаць – не зрабіць. Дзе ўзяць тыя грошы: пяцьдзясят тысячаў?!

Пасля няўдалых прыгодаў расійскага войска ў Порт-Артуры і прайгранай вайны з японцамі «апякун» Мікалая Львовіча міністр Курапаткін развітаўся са сваёй пасадай і ўжо каля пяці гадоў ціха жыў у пакінутым яму доме на Садовай – без шчодрых ганарараў Нобеля. Да гэтага апошня-

[1] Праз некалькі месяцаў пасля гэтай размовы разгарыцца газетны скандал, у цэнтры якога апынецца кайзер. Вільгельм ІІ з'едзе на поўдзень Нямеччыны ў Донаўэшынген і «ўпадзе ў вялікую дэпрэсію». Шэф ваеннага кабінета Хюльзэн пастараецца развесяліць кайзера – танцуючы перад ім у касцюме балерыны. Падчас аднаго з «піруэтаў» генерала напаткае інфаркт, і ён зваліцца мёртвым перад кайзераўскім ложкам.

га покера Лобіч не вельмі тым пераймаўся: хапала назапашанага. Летась, праўда, калі Эмануіл Нобель прыязджаў на Апшэрон, генерал зрабіў яму візіт і між іншым нагадаў, што чакае працягу супрацы, але нафтаўладальнік зрабіў выгляд, што не зразумеў...

На трэці дзень да генерала прыйшлі людзі Мірзоя.

– Неабходную суму вязуць з Пецярбурга. Пачакайце, – быў халодны адказ.

Праз месяц з Лобічам сустрэўся сам Мірзой:

– Я разумею, што грошай у цябе, генерал, няма, – ён прайшоў круг па гасціннай, паглядзеў праз вялікае акно на спякотную вуліцу, а затым – на маўклівага Лобіча. – Я вазьму за доўг гэты дом. Заўтра зранку прыедзе мой чалавек з юрыстам, вы аформіце дарчую, – і выйшаў, не развітаўшыся.

Генерал скрыгатнуў зубамі і злосна вылаяўся:

– Хрэн ты, гаўнюк, атрымаеш, а не мой дом!

Калі раніцай пад вокнамі спыніўся лёгкі Форд мадэлі Т, яшчэ сонную вуліцу абудзілі стрэлы. Азызлы ад бяссоння і каньяку генерал стаяў каля расчыненых дзвярэй з рэвальверам у дрыготкай руцэ. Форд зароў і рушыў з месца, а наўздагон зноў паляцелі кулі...

Праз паўгадзіны двухпавярховы дом каля сабора Аляксандра Неўскага атачылі паліцэйскія. Генерал паспеў забарыкадаваць вокны і – было чуваць – трубным басам гарлаў сабе каманды. Калі гарадавыя пачалі ламаць дзверы, над дахам ускочыла хмарка і хутка пачала расці. Затым дым вырваўся з вокнаў, пачарнеў і, сплятаючыся з вогненнымі языкамі, шугануў увысь.

– Неяк вось так... – прамовіў Мікалай Львовіч і зашпіліў верхні гузік свайго параднага мундзіра. – А то разводзяць тут свае слізкія анцімоніі! – Мружачыся ад дыму, ён па шырокіх дубовых прыступках няспешна ўзышоў на другі паверх, адкашляўся, узяў вялікую бутлю газы – і з усяго размаху шыбануў уніз...

А праз тры месяцы на другім краі імперыі, каля іншага мора – Балтыйскага – спыніў сваё жыццё яшчэ адзін адстаўны афіцэр...

Калі Мікалай Баранаў дачуўся пра «Міногу», перад ім упершыню паўсталі вынікі ягонага двудушша. Падлодка адыходзіла ад пірса і сутыкнулася з баржай (адкуль там тая з'явілася?). З ахтэрштэўня зваліўся ў ваду залачоны арол. Затым боцман па семафоры перадаў канвойнаму судну намер заглыбляцца ды засунуў сцяжкі пад насціл мосціка рубкі – і тыя патрапілі ў клапан шахты вентыляцыі. Вада хлынула ў маторны адсек, і «Мінога» затанула. Прайшоў год – і не стала «Акулы». Яна выйшла ў чарговы паход да нямецкага Мемеля-Клайпеды, каб усталяваць там міны, – і не вярнулася. Прычыны і месца гібелі падлодкі былі невядомымі. Усё марское ваеннае ведамства ахапіла паніка. Адно капітан-лейтэнант Баранаў выглядаў спакойным. Вечар ён прасядзеў у адзіноце ў сваёй службовай кватэрцы, затым распрануўся, сеў за пісьмовы стол, выняў пратэз вока, паклаў яго ў шуфляду, з якой машынальна ўзяў чоорны «Парабэлум», уставіў рулю ў пустую вачніцу і націснуў на курок.

## XVI

За іх спінамі, за вуліцамі, гарадамі, краінамі і акіянамі заходзіла вераснёўскае сонца.


*Рудольф ДЫЗЕЛЬ, апошнія гады*

– Здаецца, яна пабольшала? – Рудольф Дызель паправіў пенснэ і зацягнуўся цыгарай.

Адам Мацкевіч уздыхнуў:

– Гэта толькі здаецца. У жыцці ж большаюць не рэчы, а цені ад іх...

Яны стаялі каля парэнчаў другой пляцоўкі Эйфеля і задуменна пазіралі ўніз – на трохкутны адбітак вежы, які накрыў зялёны дыван Марсавага поля і сваім вастрыём кранаўся Сены.

– А людзі, а мы з табой – не становімся перад старасцю такімі ж ценямі?

Адам уважліва ўгледзеўся ў сябра:

– Ты не пачаў пісаць філасофскія трактаты? – а затым праз паўзу дадаў: – Не падабаецца мне сёння твой настрой.

Рудольф усміхнуўся:

– Што настрой... Я сам многім не падабаюся. Вось, падзівіся... – і дастаў з унутранай кішэні пінжака складзеную «гармонікам» газету.

«ВЫДУМАНЫ ІНЖЫНЕР» – адразу ж разануў тлусты надпіс па-нямецку. А пад ім нехта Ота фон Шульц запэўніваў: «Мы павінны адкрыта канстатаваць: Рудольф Дызель, самаабвешчаны вынаходнік рухавіка на салярным паліве, не мае да яго аніякага дачынення. Ні ўпырскванне паліва пры дапамозе сціснутага паветра, ні самаўзгаранне паліва ў сціснутай камеры не былі ім прыдуманы першым! У сваім патэнце Дызель дэкларатаваў рухавік пылявіднага паліва, а не нафтавага. А таму новы від рухавікоў, які працуе на нафтавых адходах, трэба правільна называць не дызельнымі, а нафтавымі...».

Адам хмыкнуў і, паклаўшы газету на шырокую парэнчу вежы, загарнуў у некалькі столак, расправіў вастраносыя трохкутнікі і зрабіў самалёцік. Праз імгненне той, натыркнуўшыся на павеў ветру, узняўся над пляцоўкай, а затым, апусціўшы дзюбу, пачаў плаўна планіраваць да зямлі, пакуль не знік з вачэй.

– Так знікне ды забудзецца і гэтая газетная ахінея, – бадзёра канстатаваў Адам. – Але ж моцна ты некаму не дагадзіў! Што ў цябе з кайзерам ды ягонымі агнямётамі?

Рудольф адказаў праз доўгую паўзу маўчання:

– Думаю, усё праз тое і пачалося. Кінуў я працу ў лабараторыі Фідлера, а самога прафесара паслаў да чортавай матары. Гэтаму ліхвяру найперш грошы ў галаве... Ну а галоўнае: не магу я канструяваць чалавеказабойчыя штукі! – інжынер дастаў і прыпаліў новую цыгару.

– А ты не баішся раззлаваць кайзера? Усе імператары помслівыя, а Вільгельм – ці не найбольш...

– Ягоная незадаволенасць абмяжоўваецца нямецкай імперыяй. А я магу жыць і працаваць і па-за яе межамі.

– Акрамя Англіі...

– Чаму? – не зразумеў Дызель і ўважліва паглядзеў на сябра.

– Наўрад ці кайзераўскі ўрад дазволіць спакойна жыць у варожай

дзяржаве чалавеку, абазнанаму ў сакрэтным праекце «грэчаскага агню». Ды і не толькі ў гэтым. Ты ж сам ведаеш, як нервова ставіцца нямецкае ваеннае камандаванне да паставак тваіх рухавікоў флатыліям Англіі, Францыі і Расіі.

Дызель зноў задуменна маўчаў, а на развітанне падрахаваў:

– Пажывём – пабачым. Заўтра еду на Сусветную выставу ў Гент. Там бельгійская фірма братоў Карэль экспануе мае рухавікі. Адтуль і паплыву ў Англію – падпісваць вялікі кантракт з тамтэйшым адміралцействам. Затым – вяселле дачкі Луізы. Ну а пасля і вырашу: што, як і дзе...

– Мора вас чакала! – мовіў капітан і абвёў атухлай люлькай водную роўнядзь. – Яшчэ дзень таму тут былі на два метры хвалі, а цяпер, бачыце, наш параход сунецца спакойна, як прас па бялізне.

– Я заўсёды падазраваў, што капітаны ў душы – паэты, – прыязна ўсміхнуўся Дызель.

– Параўнанне і насамрэч выдатнае, але цяпер у модзе электрычныя прасы, а не тыя, што дымяць вуголлем, як ваш параход... – з хітрынкай пакасіўся на капітана старэйшы Карэль і дагаварыў: – Спадзяёмся, што і вашыя трубы неўзабаве перастануць чарніць неба і што месца нязграбнай паравой турбіны зойме рухавік паважанага гера Дызеля.

– Гучыць як тост, – бадзёра хітнуў галавой Люкман і высока ўзняў келіх. – За новыя поспехі!

Карэль, уладальнік бельгійскага машынабудаўнічага завода, і Люкман, яго галоўны інжынер, былі поўнымі супрацьлегласцямі: першы – невысокі, мажна-азызлы, лысы, з басістым голасам, другі – піскліві худы высачун з неўтаймоўнымі пасмамі доўгіх валасоў. Але абодва старанна рабілі адну і тую ж справу і былі надзейнымі кампаньёнамі «маторных спраў майстра», як называлі яны Рудольфа Дызеля.

– За поспехі, – паўтарыў капітан, адпіў белага сухога віна і дадаў: – З месяц таму мне трапіла на вочы лонданская газета з пераказам выступу спадара Дызеля на кангрэсе суднабудаўнікоў у Глазга і яго заклікам актыўней, па прыкладзе Расіі, выкарыстоўваць дызельныя рухавікі. Публікацыя заканчвалася выказваннем, калі не памыляюся, старшыні кангрэса: «Сёння англійскія суднабудаўнікі пачулі, што чакае іх наперадзе». І я перакананы: наперадзе – толькі поспехі.

Пасля працяглай вячэры яны выйшлі на палубу – пакурыць. (Зрэшты, гэтай шкоднай звычкі прытрымліваліся толькі трое, і паколькі Карэль быў заядлым курцом, ягоны антыпод Люкман тытунёвы дым не любіў.) Хоць і мора было Паўночнае, і заканчваўся верасень, ранняя ноч здзіўляла спакоем і цеплынёй. Нізка над вадой застыла поўня.

– Што ж... поспехі поспехамі, але перад імі мусіць быць праца, – перарваў маўчанне педантычны Люкман. – Дазволю спадарству нагадаць: назаўтра ў Іпсвічы мы прысутнічаем на сходзе аб'яднанага таварыства «Дызель», дзе інспектуем тамтэйшыя майстэрні, затым накіроўваемся ў Лондан падпісваць дамовы з адміралцействам. Замаўляць, як і звычайна, Кайзер-Раяль-гатэль?..

Затым кампаньёны-спадарожнікі правялі Дызеля да ягонай каюты і развіталіся.

Раніцай рэйс Зээнбругге–Гарвіч заканчваўся...

Бераг Англіі патанаў у тумане, а над морам нараджаўся апошні вераснёўскі ранак 1913 года.

У залітай электрычным святлом рэстарацыі падалі сняданак. Многія ўжо заканчвалі трапезу, а Дызель да стала не прыйшоў. Карэль зірнуў на гадзіннік і, змагаючыся з адышкай, паклікаў сцюарда:

– Калі ласка, нагадайце геру Дызелю, каюта №18, што трэба паспяшацца. Параход прыйдзе ў порт па раскладзе?

– Так, – хітнуў галавой сцюард – і праз некалькі хвілінаў вярнуўся з нічым: – Прабачце, у каюце спадара Дызеля няма.

...Ужо чатыры гадзіны не было яго ні на параходзе, ні наогул – сярод жывых. Яшчэ глыбокай ноччу Дызеля разбудзіў чалавек у марской форме і, назваўшыся памочнікам капітана, спешна пазваў у камандную рубку:

– У нас надзвычайная сітуацыя, гер інжынер! Капітан і старшы механік чакаюць вас!..

Спрасонку апранаючыся, Дызель паспеў падумаць, як памочнік капітана патрапіў у каюту, але той апярэдзіў:

– Гер інжынер, перапрашаю, я пастукаў, але дзверы былі незачыненыя... Малю вас, хутчэй!

Перад трапам паміж каютным адсекам і палубай чалавек у форме памочніка капітана спыніўся і прапусціў Дызеля наперад, затым выцягнуў з рукава зашмаргу і накінуў інжынеру на шыю. З'явіўся яшчэ адзін мужчына незапамінальнай знешнасці: ухапіўшыся падпахі, данеслі аціхлае цела Дызеля да фальшборта і перакулілі ў сляпы туман...

## Эпілог

Яны прывіталіся і некалькі хвілінаў сядзелі моўчкі, адводзячы няёмкія позіркі. Затым Тугіеў уздыхнуў і, прыўзняўшы чорную брывіну (сам ужо быў напалову сівы), прашаптаў:

– Ну вось і пабачыліся... Дзякуй, што хоць, уцякаючы, гэтую рэстарацыю назвалі, – ён занерваваўся, пакратаў абцінак мезенца і зірнуў на Адама: – Хоць цябе, зяцёк, я і не ўпаўнаважваў аплочваць абяцаную мной рэштку за стогадовае тут сталаванне...

– Тата, ну не пачынай... – усміхнулася Ханым. – Мы зрабілі гэта разам. Раскажы лепш, як ты жывеш?

– Хвала Алаху. Добра... Вас вось нават спадобіўся пабачыць. Жывы – і дзякуй небу.

У рэстарацыі «Vikon» запалілі святло. Па шкле вакон пырснулі электрычныя блікі, заскакалі на талерках, бакалах, відэльцах.

– Усю маёмасць аддаў народу, – прадоўжыў Тугіеў. – Перабраўся ў вёску, далей ад камісараў. І ваш Нобель з Апшэрона падаўся. Казалі, пешкі мусіў пераходзіць мяжу з Фінляндыяй.

– Так, – нарэшце азваўся і Адам Мацкевіч. – На жаль, інжынер Нордстрэм, яго памочнік, загінуў на лёдзе каля Кранштадта...

Падалі ўжо гарачыя стравы, але Тугіеў адно піў чай і да ежы не дакранаўся.

– Тата, а ты надоўга ў Парыж? Можа, паехалі да нас? – мякка прамовіла Ханым. – У нас добры дом. Унучку з унукам пабачыш...

Штось нечаканае ўстрапянулася ў старэчых зрэнках:

– Як іх завуць?

– Джаміля і Казімір. Яны ўжо амаль дарослыя.

– Казімір і Джаміля... – паўтарыў Тугіеў і продумна памаўчаў. – Сюды я ненадоўга – што мне тут апошнія дні растрачваць? Мушу сустрэцца са сваім достам-сябрам Тапчыбашы. Можа, чулі? Ён тут узначальваў дыпмісію Азербайджанскай Рэспублікі, пакуль у Баку не прыйшлі бальшавікі...

– Так, мы маем гонар з ім быць знаёмымі, – абнечаканіў Тугіева Мацкевіч. – Ён жыве ў «Hôtel Claridge Paris», каля Елісейскіх палёў, тры кварталы ад Сены.

– Ён быў госцем у нашым доме, – дадала Ханым. – Чытаў дзецям вершы Фізулі.

Тугіеў усміхнуўся і апусціў вочы.

– Дарагі Айдар, чым мы вам можам дапамагчы? – падчас чарговай паўзы спытаў Адам.

Тугіеў абудзіўся, напусціў на лоб глыбокіх маршчын і прачула забасіў:

– Некалі ты расказваў, што пасля антырасійскага паўстання на зямлі тваіх бацькоў ад дваранства-багацця засталася адна памяць... Багацце, сам ведаеш, рэч нажыўная ды і не асноўная. Галоўнае – каб дзеці майго народу не апынуліся пад уладай чужынцаў... – ён уважліва зірнуў на Адама і загаварыў цішэй: – Праз некалькі дзён мы з Тапчыбашы, хай дапаможа нам Алах, будзем у Варшаве. Клопат там адзін... з Расулзадэ, кіраўніком нашай рэспублікі, цяпер эмігрантам. Ён – сустаршыня Лігі прыгнечаных бальшавіцкай Расіяй народаў. Ажаніўся з пляменніцай Пілсудскага...

– Пілсудскага?! – перапытаў Адам. – Ягоны бацька быў знаёмы з маім... Падчас згаданага вамі паўстання яго абралі камісарам Нацыянальнага ўрада. А цяпер ягоны сын – Юзаф Пілсудскі – і каардынуе тую Лігу!

Твар Тугіева скамянеў у здзіўленні, а Адам паспяшыў патлумачыць:

– Год таму ў Парыжы адбывалася мірная канферэнцыя, на яе з’ехаліся і прадстаўнікі новаабвешчаных пасля вайны рэспублік. Разам з іншымі – і маёй Беларусі. Дык вось Тапчыбашы і пазнаёміў з суродзічамі, а яны – з Пілсудскім. Пілсудскі і ягоны ўрад звярнуліся да мяне з прапановай супрацы. Супрацы па мадэрнізацыі тэхнікі. Рухавікі, турбіны...

– І што ты надумаў? – пераадолеў немату Тугіеў.

– Што? – Адам правёў шырокай даланёй па рэдкім ужо чубе. Уздыхнуў. Паклікаў афіцыянта і замовіў новага чаю. Марудна разліў у шкляныя армуды сонечны напой: Тугіеву, жонцы, сабе. І спакойна вымавіў: – Хачу і вам паказаць радзіму бацькоў. Паедзем разам?..

Васіль Дэбіш



...Імчалася крывіцкая Пагоня,
Не ў змозе адшукаць забыты шлях...

# Шляхі

* * *

*Быў. Ёсць. Буду...*
**Уладзімір Караткевіч**

Калі душу гняце знямога,
Калі палоніць сэрца страх,
Як ад Евангелля да Бога,
Нас да Радзімы кліча шлях.

Шлях не забыты, не збуцвелы
І непадкупны, як Ісус.
Да Беларусі дойдзе смелы,
І знойдзе там загібель хлус.

І збочыць мы не маем права,
Нястрымны, акрылёны крок.
Няхай смяюцца з нас Варавы,
За спінай тоячы клінок.

Хай пацалунак здрады Юда
Мне дорыць, як змяіны ўкус.
Я – быў,
я – ёсць,
заўсёды буду!
Бо я – твой сын, я – беларус.

## ЧУЙНАР

*У вянок Ніне Мацяш*

**1.**
Сябрыну зноў за стол збірае
Чуйнарка – пасвятлелы твар,
Нібыта моліцца святая.
І з ёю моліцца святар.

Няма яе... Усведамляю:
Яшчэ адзін скачок, удар...
А я жыву, а я кахаю,
І мне жыццё як божы дар.

Гады так хуценька мінаюць.
Б’е ў звоны Вечнасці званар,
А метраном час адмярае –
Тваёй... “маёй душы чуйнар”.

**2.**
Дрэмле ноч на маім плячы.
Мілавіца цалуе вейкі.
Не зламаць мяне, не змагчы.
Я чуйнар, музы сын.
Навекі.

Мяне цяжка любіць зямным,
Бо, як свет гэты, я – падманны.
Як аблокі, туман ці дым.
Шчэ хвіліна – зусім растану.

Я ўсяго толькі – голас дрэў,
Толькі думка, што прагне плоці.
Вобраз. Дух. Толькі ціхі спеў
Ветру, спыненага на ўзлёце.

## ДОЎГАЯ НОЧ

Ноч доўгая. Гляджу я на аблокі,
Як звер загнаны цераз сталь прутоў.

Акно. А да яго ўсяго тры крокі.
Тры крокі толькі – і ты вольны зноў...

Дарэмна лямпу запаліў – святліцай
Не стане ноч... Лягчэе пакрысе.
А можа, лепш змаўчаць, сцярпець, скарыцца,
З усімі згодна крочыць, жыць, бы ўсе?

Свой несці крыж пакорна – адзінокім?
Ці зоркай чорнай у нябёсах плыць?..
Прайсці да рамы – усяго тры крокі,
І толькі ноч, каб выбар свой зрабіць.

* * *

У нудзе непрагляднай, адчаі
Захлынуўся б я – выжыць не змог
Без падтрымкі іх: аберагаюць
Дзве святыні – Радзіма і Бог.

Калі цемра кладзецца густая
На крыжы непазнаных дарог,
Шлях мой зорна тады асвятляюць
Дзве святыні – Радзіма і Бог.

Не сканаць аднаму ў паняверцы,
Ніпачым ні палон, ні астрог,
Бо навек пасяліліся ў сэрцы
Дзве святыні – Радзіма і Бог.

## СЛЯПЫ

Чакаю сонца. Узняў з надзеяй галаў
Высока ў неба. Птушкі ў гнёздах спяць
І цішыня злавесная наўкола.
Чакаю дзень. І два... А сонца не відаць.
Зняможаны, бы рэха, паўтараю:
“Узыдзе сонца і заззяе зноў!..”
Жыццё прайшло... Я сонца ўсё чакаю,
Не знаючы, што сам сляпы даўно.

* * *

*Міколу Купрэеву*

Сам-адзін. Знямоглы
Чалавек-дзівак

Доўгаю дарогай
Крочыць ціха так.

Праз начэй вярыгі
І праз церні дзён.
У тарбіне – кнігі,
Хлеб, вада і сон.

А на сэрцы смутак
Востры, нібы нож.
Па спіне сагнутай
Барабаніць дождж.

Зверне моўчкі ў пушчу
(Мноства ў лесе кніг!)
Да звяроў і птушак –
Да братоў сваіх.

### *ЗВЫРОДНАСЦЬ*

Кубло змеяў у купіне.
Пераплятаюцца,
шыпяць.
Ніяк не могуць
успомніць, хто яны?!.
Кубло змеяў у купіне.

* * *

Скажы мне, што такое шчасце:
Сям'я, каханая жанчына,
Пабудаваны дом уласны,
Камп'ютар новы і машына?

Сад, дзе звінела калісь лісце
І свет яснеў ад траў і кветак?
Любоў?.. Так думаў я калісьці
І захапляўся думкай гэтай.

Я верыў, што шчаслівым стану,
Дарыць надзею буду людзям.
Не ведаў я, што свет падманны,–
Ён захлынуўся ў тхле і брудзе.

Дзе ён, той пах вясны і кропу,
Які ў юнацтве мы шукалі?

Лісцё пайшло ў касцёр, у попел,
А кветкі, што цвілі, завялі.

Сябе былых – мы толькі цені,
Мы толькі водбліск зоркі яснай,
Што ў небе ўспыхне на імгненне
І, недасяжная, пагасне.

* * *

Жыццё – кароткі міг. І ўсё.
На ўзмежку восені і лета,
Крывавы, неба пас рассёк –
Разрыў ці зоркі, ці каметы.

І ўсё. Канец. Твой тэрмін сцёк,
Як ні было б балюча, горка.
Міг... і ўспыхнула жыццё
Каметай новай, новай зоркай.

Кудысь баімся не паспець,
Пакутуем, сябе губляем.
Жыццё – кароткі міг. А смерць?
Ёсць – Вечнасць. Смерці не бывае.

* * *

Вецер за вокнамі плача асенні.
Цяжка... Пабелена зімамі скронь.
Можа, жыццё – толькі мара, трызненне?..
Ліжа паленне сырое агонь.

Грэю ля печы прамёрзлыя рукі.
Вочы зліпаюцца, хочацца спаць.
Хто гэта кліча?.. Дзівосныя гукі!
Ці жураўлі, ці анёлы ляцяць?

Мне не заснуць аж да ранку сягоння.
Шыбіны злосна ад ветру звіняць.
Што там, у чорным нябесным прадонні,
Пекла, а можа збавенне?.. Як знаць.

* * *

Бывае час, калі душа баліць.
Паразумення хочацца, размовы.

А свет, бы лёд халодны, свет маўчыць,
І на марозе замярзаюць словы.

* * *

Я не ведаю, як зразумець гэты свет,
Дзе пануе блюзнерства, падман і знямога,
Дзе бязлюднай дарогаю крочыць паэт
У шуканнях і праўды зямное, і Бога.

Ды ці ёсць яна, праўда, у грэшным жыцці?
Мо і ёсць. Толькі недзе далёка-далёка.
І праз боль да яе і пакуты ісці,
Бо сапраўдны паэт – ён заўжды адзінокі.

* * *

Не ўсё праўдзівае, што зроку
Хоць зблізку бачна, хоць здалёк.
Вунь свеціць месячык высокі.
Глядзіш – і бачыш светлы бок.

А ёсць і цёмны, толькі недзе
Схаваны ад людскіх вачэй,
І толькі моцнаму – разгледзець
У ясным бляску стынь начэй.

## НАРОД

Народ! Яго ўсё менш – народа.
Не разумею: дзе ён, дзе?
Цяжэй уцяміць з кожным годам,
Куды так шпарка ён ідзе.

Ляціць куды і дзе згарае,
Губляючы ў вяках сляды...
Здаецца: вось за небакраем
Праз хвілю знікне назаўжды.

* * *

Піць з срэбра ды насіць саеты
І есці з міскі залатой.
Шыкоўна жыць. Ці шчасце ў гэтым?
Ці трэба гэткі мне спакой?

Каб футры ратаваць ад молі
І з фаліянтаў пыл здымаць...
Лепш галадаць, але на волі.
Без волі і палац – турма.

* * *

Між хаосу Сусвету – спазнаць бы сябе.
Хоць маленькую частку вялікай прыроды.
Як не сейбітам быць – зернем стаць у сяўбе.
Узрасці і пакінуць каб свой асяродак.

З пустаты каб мне вырвацца гэтай зямной,
Дзе кіруюць усім грэхароднасць і грошы.
Што жыццё? Барацьба чалавека з сабой
І разгадак быцця мройны, прывідны пошук.

* * *

Не бачыў ніколі такога страхоцця ў жыцці:
Хісталіся дрэвы навокал, дарога і неба.
І голас суровы пачуў я з нябёсаў: “Плаці!
Плаці за спакой свой, за лустку духмянага хлеба.

За тое, што піў, што грашыў, не па-людску што жыў,
Забыў што сцяжынку да роднага дому дазвання,
Жыццём заплаці!” Ды ўжо столькі разоў я плаціў
Сваёй маладосцю, тугою па доме, каханнем.

Сябе перажыў я, і ўжо не палохае смерць.
У рукі маланку вазьму, запалю цыгарэту.
– Гэй, вы, там на небе, сляпыя? Ці ж не зразумець,
Што гэткая ж – роўная з вамі – стыхія паэта.

* * *

У замку старажытным Гедыміна,
Нібы імшу, каля сівой сцяны
Шаптала беларуская дзяўчына
“Пагоні” словы. І плылі яны
Па вулках Вільні, будзячы світанак,
Па-над Даўгавай, што ў Дзвіну ўрасла,
Паўз веліч храмаў і Пятра, і Ганны,
Праз вольніцу, што ў нас калісь была,
Праз Адраджэння час да родных гоняў,
Да родных хат і праз нябёс прасцяг

Імчалася крывіцкая Пагоня,
Не ў змозе адшукаць забыты шлях.

### *ПЯРУН*

Між небам і зямлёй панура
На прасцірадле зрэбным хмар
Кружляе, лоб у думках хмурыць
Агню і грому валадар.

Маланкі-стрэлы ён трымае
І пазірае грозна ўніз.
Цямнеюць фарбы, дзень канае.
Знікае вёсачкі абрыс.

Хаваюцца па хатах людзі.
Ды ледзь чутны малітвы іх.
Пярун б’е ў бубен неба, будзіць
Агонь патухлых душ людскіх.

### *ПАВУК*

Калматы, бы кудзер, павук
У сенцах тчэ кросны адважна.
У дзеда цікавіцца ўнук:
– Дзядуля, скажы, што ён вяжа?
Мо сетку, каб гойданку мецць?..
– Ах, мой даражэнечкі ўнучак,
Жыццё ён нітуе і... смерць
Сваёй павутою ліпучай.

* * *

Выйшлі ў сад Гефсіманіі, што за Кедронам,
Ён на вучняў зірнуў і прыцішыў свой ход.
І маліцца пачаў пад вярбою схілёнай
За Радзіму і свет, за сябе і народ.

Ясны месячык ззяў з неабсяжных нябёсаў.
Хмарка лебедзем па-над ракой праплыла.
І прамовіў Ісус: «Свет наяве дзівосны...
Каб мяне абмінуць тая чара магла!

Толькі воля твая. Гэтак быць і павінна:
Я з пакорай прыму, Ойча, з рук тваіх смерць...»

Праляцелі вякі. Той кароткай хвіліны
Сэнс таемны і сёння не ўсім зразумець.

### КРЫЖ

Два дзясяткі стагоддзяў ...Аслабелы, худы
Ішоў Хрыстос на Галгофу. Промні сонца па дахах
Малацілі, на шкле пакідалі сляды.
І пад крыжам цяжкім ён упаў на сярэдзіне шляху.

І ніхто не памог яму ўстаць. Пацяшалася ціш,
Непатрэбны, нічый, скавытаў у даліне сабака.
Толькі хлопчык маленькі падбег і абняў чорны крыж
І гаротна, бы гэта быў бацька ягоны, заплакаў.

Два дзясяткі стагоддзяў... А людскі белы свет
Не змяніўся. І сёння шальмуецца божае слова.
Не спадоблены ўладай, непрызнаны народам паэт
Крыж на спіне нясе, крыж пакутаў нятленны Хрыстовы.

Аслабелы, худы, адзінокі. Ідзе ён ледзь-ледзь.
Сонца плечы без жалю пячэ, вусны высушыў вецер.
Ён нясе праўды крыж і спрабуе душой зразумець
Тое, што зразумець могуць толькі маленькія дзеці.

### ПАЭТ

*Алесю Каско*

О, так – недасканалы свет,
З нутром пустым, што паглынае...
Пятля самотнасці... Паэт
Шчэ не адзін у ёй сканае.

І не ўратуюць ні віно,
Ні ведзьмы, ані чарадзеі.
Ён боль спазнаў, ён бачыў дно,
Дзе чорныя віюцца змеі.

* * *

Зазімкавы дождж б'е нудотна па твары.
Ці гэта я сніў? Ці аб гэтым я марыў?
Вясна прамінула, і лета, і восень.
Вятрыска сцябае сівое валоссе.

Цэп часу малоціць і думкі здрабняе.
Нічога нас болей ужо не яднае.

І горб адзіноты не скінуць мне з карку.
Халодныя прыцемкі сцелюцца ў парку.

* * *

Мы – пыл. Мы толькі жменька пылу,
Што гоніць вецер на палі.
Чапляемся што мае сілы
За травы, камяні, камлі.

Ламаем, падаючы, крылы.
Жывём, а быццам не жылі.
Растуць самотныя магілы
Там, дзе калісь сады цвілі.

Не сціхне вецер апастылы
І разнясе нас па зямлі.
Мы толькі пыл... Вось жменька пылу,
Як напамін, што мы былі.

* * *

Яму – баліць! Сядзіць і плача.
Сядзіць і плача. І маўчыць.
Адзін. У парку небарача
Глядзіць у ноч, у далячынь.

Халодны дождж сцябае плечы
І твар, што каменем застыў.
Што тут згубіў ты, чалавеча?
Што ў цемры тут шукаеш ты?

Мо сам згубіўся? Вось няўдача,
А можа, ён стаміўся жыць?
Чаму ён так надрыўна плача?
Рыдае ён, а мне – баліць.

Андрэй Федарэнка



...яна і яму ад усяе душы раіць
любым чынам імкнуцца ў Мінск,
бо "толькі тут сапраўднае жыццё"...

# Ксю

***Аповесць***

## I.

Аляксей Дарафей, ці Леанід Дарафей (у пашпарце і ў ваенным білеце ён пісаўся Аляксей, а людзі, у тым ліку і родная маці, звалі яго Лёня: чамусьці сярод беларусаў распаўсюджана такая блытаніна) – дык вось, у гэтага Леаніда-Аляксея па прозвішчы Дарафей пачала кепска заводзіцца яго "Кіа". Пасля працы ён заехаў у райцэнтр на станцыю тэхнічнага абслугоўвання. Знаёмы механік пакалупаўся і сказаў, што трэба мяняць стартэр, назваў суму – восемдзесят даляраў, але ў Мінску на аўтарынку ці ў Ждановічах такія самыя – па трыццаць. Так што калі Дарафей не лянуецца і мае час, прасцей самому з'ездзіць у Мінск.

– А я за дзякую пастаўлю...

– Дзякую ў шклянку не нальеш, – адказаў Дарафей.

Ён падумаў і вырашыў ехаць. Не таму, што шкада 50$,

грошы ў яго былі: крыху даляраў на чорны дзень, крыху еўра; ляжалі беларускія на пластыкавай картцы і на банкаўскім рахунку. Проста даўно не быў у сталіцы, засумаваў па ёй. А тут такая нагода. Электрычкі цяпер хуткасныя, раніцай туды, удзень назад. Да таго ж ён як чыгуначнік меў магчымасць бясплатнага праезду раз на год у любы куток Беларусі і яшчэ ні разу гэтым правам не скарыстаўся.

Ён узяў адгул, папярэдзіў маці, што яго не будзе паўдня, і паехаў у Мінск. У першым жа павільёне аўтазапчастак на Ждановічах знайшоўся новенькі, у змазцы, стартэр. Да электрычкі хапала часу. Дарафей пакатаўся ў метро, выйшаў на плошчы Перамогі.

Пасля падземкі востра, прыемна пахла свежаскошанай травой з газонаў. Стаяў май, свяціла ранішняе сонца, ехала палівальная машына і мыла вуліцу. Высокія кусты белага бэзу цвілі буйнымі суквеццямі – кіпелі, а не цвілі. Дарафей паволі крочыў ад метро ў парк, разглядваючы капоты і зады прыпаркаваных машын, дзівячыся, якіх толькі марак не бывае. Раптам ён уздрыгнуў ад рэзкага сігналу. Азірнуўся. Белы "Лексус" асцярожна зарульваў на вузкае вольнае месца паміж машынамі. І за тую долю секунды, пакуль адчыняліся дзверцы, Дарафей зразумеў (прадчуванне часта абганяе зрок), што сігнал адрасаваны яму, і ўжо ведаў, каго зараз убачыць.

"Не можа быць!" – падумаў ён, узіраючыся ў ледзі, якая выйшла з машыны. А яна ўжо ішла да яго – нерашуча, збянтэжана, вінавата і міла пасміхаючыся, ва ўсім белым: сукенка, адкрытыя загарэлыя плечыкі, белая сумачка, белыя туфлі. На шыі блішчэў срэбны ланцужок.

– Ты пазнаеш мяне?

– Ксю...

Яна абняла яго моцна за шыю, прытулілася і абсыпала твар пацалункамі.

– Як даўно мяне так не звалі! Гэта ж колькі часу мінула!..

## II.

Яны пазнаёміліся пятнаццаць гадоў назад. Аляксей якраз вярнуўся з арміі, а перад гэтым была вучоба ў палітэхнікуме, і так атрымалася, што ён гадоў сем, не лічачы кароткіх, на выхадныя, наездаў, практычна быў ізаляваны ад роднай вёскі. За гэты час аднакласніцы павыходзілі замуж, сябры – хто служыў, хто, вярнуўшыся з войска, адразу ж з'язджаў у горад, балазе, той быў блізка, а там – гіганцкі, на ўсю Еўропу вядомы металургічны завод.

Аляксей прайшоў з канца ў канец па вуліцы, дзівячыся зменам. Многа новых хат, і ў старых хатах – таксама нейкія новыя, чужыя людзі.

– Я амаль нічога тут не пазнаю, – сказаў ён дома маці.

– Што ты! Усё памянялася. Старыя паўміралі, маладыя паз'язджалі на металургічны... І ў лес не хадзі, бо заблудзішся.

Загаўкаў сабака, маці выглянула ў акно.

– Жэня сунецца...

Аляксей таксама паглядзеў. Ад веснічак праз двор ішоў незнаёмы мужчына, высокі, дужы, гадоў пад сорак, у клетчатых штанах, з сумкаю ў руцэ, – ішоў дзіўна, віхляючы задам, як жанчына. Зверху да каленяў ногі ў яго былі шчыльна сціснуты, а ад каленяў ішлі ўраскід, нібы ён не меў над імі ўлады, хоць ён стараўся рабіць маленькія крокі. Пастукаў у дзверы, узнік на парозе.

– Ну, з вяртаннем! – Рука ў яго была моцная, мазолістая. – Жэня Бракарэнка.

Аляксей наморшчыў лоб, а Жэня сказаў:

– Не старайся – не ўспомніш. Мяне твая маці толькі памятае, і то ледзь-ледзь. Я не з пустымі рукамі. Вось вам, – пачаў выкладваць з сумкі на стол, – каб не падумалі, што проста выпіць прыйшоў... Вось бутэлька, сала, мяса, яйкі свежыя...

– Не трэба! – для парадку, па вясковай звычцы завялася маці. – У нас усё ёсць.

– Такога няма. У мяне замежнае, – Жэня падміргнуў Аляксею. – Сыр, каўбаска, вінаград... А гэта, – працягнуў маці некалькі купюраў, – за клопат. Бяры, бяры, ты не адна цяпер.

Маці ўзяла грошы, узяла выпіўку, закуску. Аляксей, якому не давала спакою знаёмае прозвішча, раптам прыгадаў:

– У ваенкамаце быў хірург... Бракарэнка, здаецца?

– Гэта мой родны брат, – коратка адказаў Жэня. – Ужо ён не ў ваенкамаце, а на тым свеце.

Памаўчалі. Жэня прысеў за стол.

– Ну, расказвай. Якія планы? У горад на металургічны?

– Не, не! – Аляксей аж замахаў рукамі. – Толькі не туды!

Ён разлюбіў свой горад адразу, як там з’явіўся славуты металургічны завод – задымлены, зачумлены, з цэхамі і трубамі. Будавалі яго ад пачатку да канца аўстрыйцы і італьянцы; пабудавалі – ды так і засталіся, працавалі тут. Вось гэтыя чароўныя словы – “замежнікі, еўрапейцы” – як магнітам прыцягвалі сюды, у нікому раней невядомы, правінцыйны беларускі гарадок, а цяпер – Клангдайк, Эльдарада шукальнікаў шчасця з усіх куткоў Саюза. Сюды, на гэтую выспачку буржуазнай свабоды, злятаўся, сцякаўся, спаўзаўся самы розны непатрэбны люд. Тут можна было лёгка набыць жуйкі, джынсы, цэлафанавыя пакеты з малюнкамі каўбояў, замежныя цыгарэты з тытунём і з анашой, псіхатропныя таблеткі і транквілізатары, заморскае спіртное і наркотыкі, а таксама, калі пашэнціць – венерычнае захворванне.

– Не, не ў наш горад, – паўтарыў Дарафей. – Там без мяне хапае. Я вучыцца думаю. У Мінск паступаць.

– Па якой спецыяльнасці? – пацікавіўся Жэня.

– Па сваёй, тэхнікумаўскай. Прамысловае і грамадскае будаўніцтва. Дыплом маю, характарыстыкі добрыя з арміі.

– Паступіш! Усё ў цябе атрымаецца, інжынерам станеш!

– Ды не – я думаю застацца ў аспірантуры.

– Таксама правільна. Вось за гэта хвалю, – для Жэні толькі выказаны намер быў ужо здзейсненым фактам. – Аспірантура, потым кафедра, ды па камсамольскай лініі пакруцішся, а там глядзіш – да міністэрства недалёка...

– Не суроч, сплюнь, – умяшалася маці.

– А што, міністраў з неба спускаюць? Яны з такіх, як мы, людзей бяруцца. Галава ў яго светлая, характар добры, кампанейскі... Толькі на гэта і глядзяць.

– У мяне яшчэ законныя тры месяцы ў запасе. Нешта прыдумаецца.

Жэня чамусьці азірнуўся і перайшоў на шэпт:

– А ты не хочаш папрацаваць? Са мной? На чыгунцы? Сезонным транспартным рабочым?

– А можна?

– З рукамі адарвуць. Людзей не хапае. Праца лёгкая, у ахвоту, чыстае паветра... Грошы неблагія.

Жэня зноў азірнуўся, нібы іх маглі падслухаць, зашаптаў:

– А то прынесці таго-сяго... Таварнякі багатыя бываюць. У Крывой спыняюцца на перагоне. Ёсць такая паваротка – Крывая. Прабяжышся каля вагонаў, глядзіш – пломба сарваная, нехта ўжо трыбушыў. І экспедытара няма... ну, таго, хто суправаджае груз. У вагоне – скрынкі... Памідоры, вінаград... Віно.

Маці, якая ўжо, відаць, бачыла сына міністрам, загарачылася:

– Ты яго гэтаму не вучы! У яго будучыня!

Жэня прыкрыў далоняю рот:

– Не, я ж так, да слова...

– А машыніст? – спытаў Аляксей.

– Машыніст нічога не бачыць. Цягнік заварочваецца, як змяя, з першага вагона хвост не відаць. Дык як, падумаеш?

– Падумаю...

Калі госць пайшоў, ад выпітага яшчэ больш віхляючы задам, маці пачала расквазаць. Сапраўды, Жэня гэты родам з іхняй вёскі, жыў тут, калі Аляксея яшчэ не было на свеце. Потым пасадзілі яго за нешта – "яны ж не кажуць, за што", не паспеў выйсці – зноў сеў.

– Таму вы і не бачыліся: пакуль ты ў школе, у тэхнікуме, у арміі, ён – па турмах...

Нарэшце Жэня нібыта ўзяўся за розум, ажаніўся, купілі з жонкаю хату, бо ягоная развалілася, ды жывуць памалу. Дзве дзяўчынкі ў іх. А ходзіць так дзіўна, бо на лесапавале дрэвам пераламала абедзве нагі, балты ў косці ўкручаныя, ён нават на працу да блізкай – паўтара кіламетры – станцыі ездзіць на мапедзе.

– А ў таго яго брата, хірурга Бракарэнкі, які цябе на камісіі глядзеў, жонка памерла ад рака, – манатонна, як казку дзецям на сон, расказвала маці, – дык ён з гора павесіўся, дзвюх дачок сіротамі пакінуў, адна вялікая, Света, у яе ўжо ў самой невядома ад каго маленькая Наста, другая – школьніца, Аксана; абедзве гулёны, п'юць, мо нават і кураць, я, праўда, не бачыла, але хіба той завод, той горад добраму навучаць...

Аляксей амаль не слухаў гэтую сагу. Ён абдумваў Жэневу прапанову. Першы экзамен толькі ў жніўні. І праўда, засохнеш тут ад нуды. А так – удзень працаваў бы, вечарамі рыхтаваўся да паступлення... Мо паспрабаваць?

## III.

Так Аляксей Дарафей апынуўся на чыгунцы, на пасадзе "сезонны транспартны рабочы".

З яго прыходам у брыгадзе стала шэсць чалавек: тры пастаянныя і тры сезоннікі. Пастаянныя: Жэня Бракарэнка, другі – брыгадзір Рэвут, чалавек нелюдзімы, пануры, родам з Тураўшчыны (гаварыў: палёх, лясох, карчох), і трэцяя – яго жонка кіргізка, маладая, ганарыстая, вульгарная: мацюкі так часта злятаті з яе прыгожых вуснаў і так натуральна яны ў яе гучалі, што не было сумнення, адкуль яны ўзяліся, якога яны паходжання, – дзікаватай разгульнай азіятчынай павявала ад іх, бяскрайнім палынным

стэпам, вольніцай, нізкімі кашлатымі конікамі з доўгімі хвастамі, да якіх прывязваліся за валасы адсечаныя чалавечыя галовы, у запечанай крыві і ў пыле...

Чамусьці яна любіла прымаўкі, звязаныя з татарамі: “Нам, татарам, што з гары, што пад гору!”

Сезоннікі – Аляксей, стары дзед-пенсіянер і жанчына гадоў трыццаці пяці, зацяганая, пакамечаная, пашкамутаная жыццём, з наколкай “Шура” на запясці левай рукі, дзе гадзіннік носяць. Яна адсядзела год у турме, за растрату, калі працавала буфетчыцай у горадзе на, канечне ж, металургічным. Разумеючы сваю адрынутасць, заўсёды трымалася збоку. Курыла танныя цыгарэты, ад якіх кашляла. Аляксей адразу ж спадабаўся ёй, яна звала яго на “вы”, спрабавала фліртаваць: “Вы яшчэ такі малады, у вас жыццё наперадзе... Я таксама была ого... Нават замуж ледзь не выйшла. Каб не зайздрасць чалавечая... Падставілі, ні за што пасадзілі...”

На гэта Жэня з веданнем справы ёй зазначаў:

– Усе ні за што.

Дзед гаварыў мала, але калі гаварыў, таксама націскаў, што ён ахвяра нейкіх таямнічых зайздроснікаў. У яго было светлае, удачлівае мінулае і абы-якое дажыванне – цяпер. Да пенсіі, у тым удачлівым жыцці, ён працаваў ці то майстрам, ці прарабам, ці нават намеснікам начальніка ўчастка, і таму надта хваравіта ўспрымаў сваё паніжэнне. Яшчэ ён не любіў і баяўся грубага Рэвута. “Хам, – ціха скардзіўся ён, калі брыгадзіра не было блізка. – Зладзюган. Я такіх уласнай рукой звальняў без суда і следства – рад, другое, трэцяе і таму падобнае...”

Пастаянныя мянялі шпалы, забівалі кастылі, рабілі абход палатна з абстукваннем рэек і праверкаю іх “узроўнем” – спецыяльнай такой планкай з кропляю пасярэдзіне пад шклом; абглядвалі люфты-зазоры, абмацвалі стыкі, падцягвалі, падымалі, апускалі – карацей, хапала працы, затое і грошай яны атрымлівалі больш.

Сезоннікі калупаліся ў складзе-бытовачцы, наводзілі там парадак. Доўгімі дручкамі з пакляй-квачам на канцы змазвалі рэйкі, складзеныя на двары шчыльна, як роўная, гладзенькая чыгунная падлога. Мачаеш квач у вядро з густым чорным мазутам, са шлюпаннем выцягваеш – і так прыемна ён ходзіць у руках... Асабліва любіў гэты занятак дзед. Касілі адхоны, падразалі секачамі сярод камення на чыгуначным палатне траву “перакаці-поле”: амаль ідэальна круглыя шарыкі, якія сохлі без сонца, без ветру, рабіліся лёгкія, каціліся, ляталі.

Зрэдку даводзілася памагаць пастаянным. Аляксей ішоў ахвотна. Шура спрабавала рыпацца:

– Чаму твая жонка не йдзе? – і тады атрымлівала ад Рэвута:

– Ёй яшчэ раджаць трэба! Яна ж жанчына! А ты ўжо старая кабыла, уцягнутая!

Шура ад гэтых слоў сціналася, больш не пярэчыла, моўчкі рабіла, што скажуць.

Гультаяваты ж дзед стараўся адкруціцца любым чынам, уцякаў, хаваўся за склады, у лесе. Пападала і яму. Аляксей неяк стаў сведкам, як Рэвут біў яго нагой пад зад. Ад моцнага ўдару дзед па інерцыі прабег некалькі метраў на старэчых, артрытных нагах, упаў, падняўся і заплакаў. Так здаровая мужчынская сіла здзеквалася з нямоглай старасці.

– Злодзей... Зладзюган... Я на яго ў суд падам, – выціраючы рукавом

слёзы, шаптаў дзед. – Напішу, як ён крадзе з вагонаў у Крывой... Рад, другое, трэцяе і таму падобнае...

Калі выпадала працаваць на перагоне ў Крывой і спыняўся там цягнік, Жэня з Рэвутам знікалі, вярталіся або з пустымі рукамі, або з поўнымі сумкамі. Жэня ніколі нічога не расказваў Аляксею, нічым не дзяліўся – відаць, памятаючы тую размову з маткаю, а, можа, проста не хочучы ўцягваць у свае цёмныя справы маладога хлопца.

Увогуле Аляксея ніхто не чапаў. У брыгадзе адразу прызналі, што ён не такі; замацавалася за ім і пачало ўспрымацца, як належнае, што ў яго нейкая вялікая, незвычайная будучыня, таму за гэта ён заслугоўвае асаблівага да сябе стаўлення.

Ні ён сам, ні хто іншы не сумняваўся, што ён тут часова, "сезонна".

## IV.

Аляксей палюбіў рана ўставаць, умывацца халоднай вадой; яму падабалася дарога праз лес, раса на траве, ранішнія птушкі, неба над галавой, пахі блізкага лета.

Прыемна ішлося, бо наперадзе чакала лёгкая праца, цікавая, з рознымі канцэртамі-разборкамі, якія яго не тычыліся, з якіх можна толькі пасмяяцца.

Ён праходзіў кіламетр. Ззаду чулася тарахценне – Жэня даганяў яго на мапедзе, марудна ехаў збоку, і яны размаўлялі. У іх ужо было сяброўства, якое часта ўзнікае паміж маладым і сталым, калі сталы выступае апекуном, горнецца да маладзейшага, вучыць яго жыць, "перадае вопыт", а маладзейшаму, канечне, прыемна гэта.

Увечары пасля працы Аляксей заходзіў да Жэні ў двор, сядаў на прызбу ці на драўляны, нагрэты за дзень шырокі ганак. У Жэні заўсёды знаходзілася загадзя купленае вінцо, а то калі-небудзь пасля ўдалага набегу на таварняк у Крывой ён выносіў на ганак якоесь асаблівае, нетутэйшае віно, памідоры, вінаград, сыр... Жэня называў гэта – "прысмакі".

– Жонка сварыцца не будзе?

– А не пайшла б яна, – адказваў Жэня, шэптам і азіраючыся.

Жонка яго, рослая, статная, але з нечакана рэзкімі, мужчынскімі рысамі твару – нават здавалася, яна крадком голіцца, як мужчына, – жонка па імені Тацяна працавала прыбіральшчыцай у электрасталеплавільным цэху ўсё таго ж інтэрнацыянальнага металургічнага завода. Прыязджаў на станцыю спецыяльны аўтобусік, забіраў людзей увечары, раніцай прывозіў. Тацяне выпадалі нейкія дзіўныя змены: ці ў дзень, ці ў ноч, але неяк так яны перасякаліся, што яе практычна не было дома. Вечна ў руху, на хаду, на бягу, яна тым не менш усё паспявала: есці наварыць, дзяцей абмыць, сачыла, каб муж не быў галодны, і яшчэ ўмудралася трымаць у парадку агарод. Жэня ў вочы зваў яе: "Таспадынька мая", "Тацяначка мая", а за вочы казаў адно й тое ж:

– Не пайшла б яна.

Застаючы мужа з Аляксеем на ганку, з вінцом, Тацяна ніколі не сварылася, як і ўсе, яна ніякавела перад маладым, перспектыўным Аляксеем.

– "Зялёны Луг", Танечка! – балбатаў Жэня. – Ён у Мінску ў "Зялёным Лузе" будзе жыць, там, дзе твой брат жыве!

– Вам добра, – уздыхала Тацяна; яна таксама звала Аляксея на "вы". – Пабыў і паехаў. Жыццё пабачыце, людзей... А тут век дрыжы, што

прыедуць ды зноў пасадзяць. – Яна падазрона аглядвала закуску і ківала мужу пальцам: – Ты дакрадзешся! Ты калі-небудзь наляціш! Узяў моду трыбушыць вагоны... Колькі вяровачцы ні віцца, а канец будзе.

Жэня прыкладаў руку да сэрца – маўляў, каюся, апошні раз.

Двор іхні пасярэдзіне быў пясчаны, толькі каля веснічак, ды паўз плот, ды дзе-нідзе плямамі вакол гэтага авальнага пясчанага "возерка", нібы пазначаючы берагі яго, рос мурог. Нагрэты за дзень шэры пясочак доўга не астываў, у ім ляжалі стомленыя куры, побач з курамі ў пяску валтузіліся Жэневы дочкі, Анька з Валькай, чатырох і пяці гадоў, ужо загарэлыя, у адных спаднічках без трусікаў, і калі адна ці другая паварочвалася, нагіналася – не-не ды і блісне ярка-ружовая палоска спераду ці ззаду. А то каторая сядала насупраць ганка і бязвінна, бяздумна пазіраючы на бацьку з яго госцем, раскінуўшы ножкі, сыпала цёплы пясок, каб ён сцякаў роўна па ружовай шчылінцы. Аляксей тады адводзіў вочы, чырванеў, а Жэня дабрадушна пасмейваўся.

– Курвачкі растуць...

– І не сорамна табе, – ушчуваў Аляксей. – Ты ж родны бацька!

– Можа, для цябе гадуюцца.

– Мне, чужому, і то сорамна...

– Які ты чужы? Ты мне як малодшы брат! Я цябе адразу палюбіў, прыкіпеў душою... Вось убярэцца лета, пачнуць пляменніцы прыязджаць, я цябе са Светай пазнаёмлю... Дачкой майго брата-хірурга-нябожчыка. Во такая дзеўка! агонь баба! З Тацянай маёй на металургічным працуе. Адна, без мужа. Чарку бярэ, цыгарэту закурыць. Бо табе ж трэба, ты пасля арміі, галодны...

– Кінь, мне непрыемна слухаць. І ніякі не галодны...

– А хочаш, з меншай, Аксанай, пазнаёмлю? Экзамены здае, школу канчае...

Неўзабаве, у чэрвені, і праўда пачалі наведвацца пляменніцы. Першай прыехала падобная на маладзенькую мініяцюрную японачку Аксана, з чорнымі, кароткімі, у карэ, валасамі, з жывымі, вішнёвага колеру вачыма. Сямнаццаць гадоў. Знаёмячыся з Аляксеем, працягнула ручку: "Ксю. Так мяне бацька зваў".

Аляксей у думках паспрабаваў прыкінуць да яе іншыя варыянты імені. Аксана-Оксана – украінска-гогалеўскае, Аксеня, Ксеня – старое, Аксіння – шолахаўскае, Ксюша – расейскае... А кароткае Ксю сапраўды так падыходзіла ёй!

Потым, у выхадныя, пачала прыязджаць Света, высокая, белая, зусім не падобная на сястру-"азіятачку". Прыязджала то адна, то з маленькай, чатыры гады, дачкой Настай, і дзяўчынкі ўжо ўтрох – дзве Жэневы і Наста – калупаліся ў пяску, гулялі ў здаганялкі; самая большая, Анька, закрывала далонькаю вочы і лічыла:

– Раз... два... два-а з палавінаю... два-а з валасінаю... Валасіна абрываецца – тры пачынаецца! – і з піскам дзеці разбягаліся.

– Тры свае, – загінаў пальцы Жэня, – тры пляменніцы, плюс Наста... Аднымі курвачкамі акружаны! Ды яшчэ сам, як цэлка, хаджу, – пасміхаўся ён, маючы на ўвазе свае скалечаныя ногі.

Света сядзела разам з імі на ганку, піла чарка ў чарку, пасміхалася, слухаючы распутнага дзядзьку. А дзядзька, выпіўшы, не супімаўся:

– Дай ты чалавеку. Свой жа хлопец, не чужы. Пасля арміі...

– Я старая для яго, – адмахвалася Света, трымаючы шклянку з віном у руцэ.

“Старой” было не больш за 25. Аляксей пазірквaў збоку на яе прыгожы твар, прыпухлыя вусны, на грудзі, рукі, плечы, на выцягнутыя, адна на адну пакладзеныя ногі. Ад яе пахла спіртным, і гэта было прыемна; гэты пах ад маладой жанчыны трывожыў, і бударажыў, і радаваў. Яна падабалася Аляксею куды больш за Ксю – найперш уяўнай даступнасцю; ён чамусьці заўсёды лічыў, што белыя дабрэйшыя за чарнявых, меншыя ламакі, з імі лягчэй.

– Трэба ж памагаць людзям! – чапляўся да пляменніцы Жэня, заклікаючы яе да своеасаблівага гуманізму. – І самой карысна... Для здароўя...

– Мне што, на гэтым ганку зараз разлегчыся? Ці на пяску пасярод двара? Хай купляе бутэльку ды прыязджае, – ужо без усмешкі адказвала Света. Вочы ў яе патухалі.

– Чуў? Аляксей! Бачыш, як проста, – шчыра радаваўся Жэня.

Але Аляксей не бачыў тут нічога простага. Гэтае дэманстратыўнае, перабольшанае самапрыніжэнне толькі насцярожвала яго. Хаця... ты іх зразумееш? Калі яны гуляюцца, а калі кажуць праўду?

## V.

Света прыязджала рэдка, на выхадныя. Затое Ксю ў канцы чэрвеня, здаўшы экзамены, скончыўшы школу, часцей пачала бываць у вёсцы, а потым і зусім пасялілася ў дзядзькі. Дні стаялі цёплыя, вечары – яшчэ цяплейшыя. Жэня даваў пляменніцы поўную волю. Праўда, Ксю была “жаваронкам”, рана лягала спаць, але ўлетку цямнее позна, і ў іх – у яе з Аляксеем – хапала часу нагуляцца.

Аляксей паступова прывыкаў да Ксю. Ён ставіўся да яе як да малодшай сястры, не забываў, што яна сірата, і яму прыемна было адчуваць сябе гэткім старэйшым братам, хацелася клапаціцца пра яе, абараняць, аберагаць. Ён трохі паблажліва зваў яе:

– Мая маленькая пяшчотная сяброўка.

З ёю можна было гаварыць на любую тэму. Ксю жаночай інтуіцыяй адгадвала яго думкі, жаданні, наперад ведала, якіх слоў яму хочацца, якога настрою, якіх інтанацый ён ад яе чакае – і акурат такія ён атрымліваў.

– Ты незвычайны, – шаптала яна, прыціскаючыся да яго.

– Чым?

– Ад цябе прыемна пахне, – проста адказвала яна.

Ён абдымаў яе і, каб падражніць, пераводзіў размову на Свету.

– Слухай, Ксю, хачу з табой параіцца. Можа, мне ўзяць тваю сястру замуж? Ты была б мне сваячка...

Ксю сярдзіта адсоўвалася. Яго цешыла гэтая мілая, няўмелая рэўнасць.

– Нічога не атрымаецца, – сур’ёзна адказвала Ксю. – Яна за цябе не пойдзе.

– Чаму?

– А ў яе ёсць. Нейкі чэх, ці немец. Не, чэх.

– Што ён тут робіць?

– Працуе на металургічным, інжынерам. Стары, непрыгожы, – хутка дадала яна.

Канечне, ён не верыў ні ў якага інжынера. У душы ён пасміхаўся з

яе. “Ты не ў курсе, дарагая. Ты не ведаеш нашых размоваў на ганку. Не ведаеш, што Света мяне сама запрашае”. Але яму падабалася пацяшацца з сваёй даверлівай, наіўнай сяброўкі.

– Ну, хай сабе чэх. Мала хто ў каго ёсць. Ён жа не збіраецца жаніцца? А я б ажаніўся. Афіцыйна. Насту ўдачарыў бы...

Ксю пакрыўджана маўчала. Аляксей абдымаў яе, цалаваў у шчочкі, у лоб, гладзіў па галаве.

– Дзіўныя вы, мужчыны, – з уздыхам, задуменна казала яна. – Усё шукаеце нечага... А не бачыце таго, што пад носам. Не заўважаеце тых, хто, можа, па-сапраўднаму ўмее кахаць. Як я, напрыклад. Я – не Света. Ты мяне зусім не ведаеш. А прыязджай у госці? – Ксю не ў першы раз гэта прапаноўвала. – Пазнаёмімся бліжэй... Кавы пап’ем.

– Як гэта – узяць ды прыехаць? А тут яшчэ інжынер...

– Нашто табе інжынер? Да мяне прыедзь! Паглядзіш, як я жыву, – і заўсёды дадавала: – Кавы пап’ем.

– Малая ты яшчэ “на каву” запрашаць.

– Малая! – гмыкала яна. – Сямнаццаць хутка. Знайшоў дзяўчынку!..

Аляксей тады ўспамінаў трыццаціпяцігадовую Шуру, на якую Рэвут казаў – “старая кабыла”, згадваў Свету – “я ўжо старая”; цяпер яшчэ і Ксю.

– Дык якія ж вы тады бываеце маладыя?! – шчыра ўсклікваў ён. – Калі вы дзяўчынкі?! Такія, як Наста? Як Жэневы дочкі?

– Відаць, толькі тады, – смеючыся, пацвярджала яна.

Раніцай Жэня па дарозе на станцыю даганяў Аляксея, глушыў мапед і, клыпаючы побач, вёў яго ў руках.

– Ну, прызнавайся. Вы гуляеце – а ёсць толк?

– Які толк, – чырванеў Аляксей. – Мы проста сябруем – як з табою. Мне ўвогуле здаецца, што яна яшчэ нечапаная дзяўчынка.

– Дык добра. Пашанцавала табе. Нехта ж робіць дзяўчынак жанчынамі.

– Ведаеш, я думаў пра гэта...

– А тут не трэба думаць – рабіць трэба, – параіў Жэня.

– Мне здаецца, ёсць нейкія прафесіяналы, якія толькі гэтым і займаюцца. Гэта іхняя спецыяльнасць. З адпаведным запісам у працоўнай кніжцы. Яны і бываюць заўсёды першыя – па законе, а ўсе астатнія, такія, як я, заўсёды другія.

– Не кажы, чаго не ведаеш. І запомні: хто п... пашкадуе – сам п... стане! – выдаў Жэня адну са сваіх зэкаўскіх прымавак.

Канчаўся ліпень, Ксю паехала ў горад. А ў выхадныя ў Аляксея адбылася нечаканая размова са Светаю. Яна ўсё ж зрэдку ўспамінала, што павінна апекавацца меншай сястрою. Света пачала здалёк, з рамантыкі, усё з таго ж – “зайздрошчу я вам, маладым, і табе, і Ксю... у вас будучыня, усё наперадзе, можна з’ехаць, уцячы ад гэтых п’янак, хамства, ненавіснага металургічнага...” Затым перайшла да справы.

– Ты гуляеш з Ксю, я ведаю. Яна ўжо закаханая ў цябе. Ты неўзабаве паедзеш, паступіш. Канечне, у цябе іншыя планы, што табе да нейкай правінцыялкі. Але павер – яна цудоўная. Добрая, разумная, гаспадарлівая. Чыстая, – зрабіла націск Света. – Табе ўсё роўна трэба будзе жонка, надзейная, памочніца. Калі зробіць гэта адразу, на пачатку – ажаніцца я маю на ўвазе – ты большага ў жыцці даб’ешся, і хутчэй. Бо інакш ты не столькі будзеш вучыцца, колькі шукаць, і добра, калі пашанцуе, і знойдзеш такую, як Ксю. А калі памылішся?

Аляксею страшэнна няёмка было, упершыню ў жыцці яго так адкрыта сваталі, і хто – дзяўчына, якая яму самому падабаецца! Яна што, не разумее, што яму ўсяго дваццаць, што ён не ведае жыцця, ён не збіраецца планаваць яго матэматычна, хай яно ідзе спантанна, хай будуць памылкі, расчараванні, але гэта будуць яго памылкі, яго расчараванні, яго вопыт. Якія жаніцьбы!

– А ... ты, Света? – спытаў ён.

– Што я?

– Не передумала? Памятаеш, тады, на ганку, казала...

Зноў вочы ў яе адразу патухлі. Яна не чакала гэтага.

– Мы ж дамовіліся, – стомлена, абыякава сказала яна. У голасе яе знікла шчырасць. – Купляй пляшку ды прыязджай. Я ж толькі на такое і годная.

На гэты раз Аляксей прапусціў міма вушэй яе падазронае самапрыніжэнне. З усёй размовы ў памяці ў яго засталося: "Ксю ў цябе закаханая". Акрылены гэтымі словамі, успамінаючы іх часта, ён кожны раз адчуваў у сабе спакойную, сталую, мужчынскую ўпэўненасць. Во як, дзве адразу! Прыгожыя, даступныя, і абедзве запрашаюць! Заставалася толькі выбрацца ў горад.

## VI.

Вечарам Аляксей сядзеў у Жэні на ганку, і размяклы, добры, назіраў, як сонца заходзіць у хмару. Да Жэневай хаты пад'ехаў знаёмы дачнік, пасігналіў – маўляў, еду ў горад, у машыне ёсць месца, ці не трэба падкінуць. Жэня яшчэ раней, у чаканні выхадных, напакаваў пляменніцам гасцінцаў. На агародзе ўжо расла маладая бульба, раннія гуркі, позняя цыбуля і часнок. Плюс "прысмакі" (яны з Рэвутам нядаўна растрыбушылі чарговы вагон).

Жэня – знарок, вядома, бо не такія цяжкія былі гасцінцы, каб самому не ўправіцца, прапанаваў Аляксею:

– Збірайся, паможаш, – а калі той пачаў муляцца, сказаў цвёрда, загадным тонам: – За кампанію!

На ўездзе ў горад пацямнела, пайшоў дождж, дачнік уключыў дворнікі. Каля ўніверсама Жэня папрасіў яго спыніцца, сунуў Аляксею грошы: "На, збегай. Адной вам хопіць?" Пад'ехалі да блочнага пяціпавярховіка, дачнік у машыне застаўся чакаць, Аляксей з Жэнем падняліся на трэці паверх. Дзверы адчыніла Ксю, і адразу ж на пляцоўку прашмыгнула Наста. Адна шчака ў яе была тоўстая ад ваты і перакрыжаваная лейкапластырам:

– А ў мяне – во!

– Бесталковая, – сказала Ксю, радасна, адкрыта гледзячы на Аляксея. – Дагулялася, дабегалася, пакуль у дзвярах на кухню ледзь шкло галавой не вынесла. Тры швы наклалі.

– Тры! – пацвердзіла з гонарам Наста, растапырыўшы пальчыкі.

Не заходзячы ў кватэру, Жэня паставіў долу ношку.

– Ну, ты пабудзеш? – дзелавіта, нібы між іншым сказаў Аляксею. – Яшчэ два аўтобусы вячэрнія, дабярэшся. А я з дачнікам. Мяне там унізе машына чакае, – патлумачыў ён Ксю. – А дзе Света?

– Спытай што лягчэйшае. У чэха свайго.

– А! Ну, прывітанне ёй, – Жэня нязграбна, віхляючы задам, пайшоў уніз.

– Дык чэх існуе? – разгублена спытаў Аляксей. – Я думаў, ты падманваеш, разыгрываеш мяне...

– Яшчэ як існуе. Знайшоў каму верыць – Свеце. Не ведаю, што яна табе абяцала, але верыць ёй – сябе не паважаць.

– Тады, можа, і я паеду? З імі? Пакуль машына...

– Вось смешны. Куды ты паедзеш? Праходзь! Кавы пап’ем.

У дзвярах на кухню шкла ў ніжняй палавінцы не было зусім. Цікаўная Наста і цяпер круцілася пад нагамі.

– Наста, ідзі спаць, – Ксю ўключыла святло, бо за вакном цямнела. – Дождж пачынаецца.

– А ў мяне парасона няма.

– Можа, ён не спатрэбіцца.

– Як гэта?

– Начуй тут.

– А Света?

– У нас два пакоі. Усім хопіць месца. Ды можа яшчэ і не прыйдзе яна. Наста, спаць ідзі...

Ён падумаў пра маці, што не папярэдзіў яе. Як малы. Маці пачне хвалявацца, пабяжыць да Жэні. Што ёй Жэня скажа? Што твой сын у маіх пляменніц начуе? Ксю сірата, не разумее, як гэта – калі за цябе перажывае родны чалавек.

– Аляксей, ты есці хочаш? Катлеты з макаронамі.

– Ты ўмееш гатаваць?

– З дванаццаці гадоў усё, што хочаш, – з гонарам адказала яна. – Наста, ты ж паела! – ідзі спаць...

У яго адразу пацяплела на душы. Ён не чакаў, што яна можа быць такой хатняй. Разам з тым яго не пакідала адчуванне, што ўсё, што тут адбываецца, трохі несапраўднае – вось як нібы дзеці гуляюць у “абедкі”, ці ў “тату-маму”.

Але катлеты, макароны, і яго гарэлка, і Жэневы каўбаса з памідорамі – усё аказалася сапраўдным. Аляксей піў, і еў, а насупраць яго, стараючыся пераймаць яго рухі, ела Наста. Сама Ксю, як і належыць гаспадыні, за стол не прысела, пакуль не здаволяцца госці. Яна стаяла, скрыжаваўшы на грудзях рукі. Дождж даўно барабаніў па шыбах. Залева! І ад гэтага, ды яшчэ ад хмелю ў галаве, знікала адчуванне часу – здавалася, што вельмі позна ўжо. Нарэшце Ксю адвяла малую Насту з парэзанай шчакою спаць.

“Давай святло выключым і будзем глядзець на дождж”, – прашаптала яна, вярнуўшыся.

Выключылі, пачалі глядзець. Не змаўляючыся, абое перайшлі на шэпат: ці то ад таго, што чалавек спіць, ці то прыцемкі, такія ўтульна-інтымныя, спрыялі гэтаму.

“А ведаеш, можа, мы разам будзем вучыцца. Я таксама паслала дакументы ў Мінск. І мне адказалі! Адказалі, што нават калі не паступлю, увосень, як будзе недабор, мяне могуць прыняць як сірату і як з чарнобыльскай зоны. Праўда, пасля вучобы абавязкова давядзецца вярнуцца назад...”

“І ты думаеш вяртацца?”

“Я думаю, мы абое паступім і будзем разам”, – прашаптала яна.

Яму ўспомнілася Свеціна сватаўство. Ад прыцемак, ад роўнага стуку кропляў па шыбіне, ад спіртнога, а галоўнае, ад дзявочага блізкага шэпту так цёпла, так спакойна было. Ён выпіваў грамаў па пяцьдзясят перыядычна.

“Сядзь мне на калені”.

“А, хітры”, – і адразу ж села.

На яго найшло нейкае да слёз замілаванне; хацелася шкадаваць усіх і ўсё, каяцца ў нечым, прасіць прабачэння за штосьці і даказваць камусьці, што ён вельмі добры, што ў яго і ў думках няма нячыстых намераў.

“Ксю! Можа, ты баішся, што я пакрыўджу цябе? Пачну рабіць тое, чаго ты не хочаш?”

“Нічога я не баюся. Калі б баялася, не запрашала б, і не сябравала б з табою”.

“Не! Кажы праўду! Я магу пайсці. Хочаш, я пайду?”

“Сядзі!”

І засядзеліся да дванаццаці. Ён забыў пра аўтобусы, пра Свету, пра маці; ён цалаваў яе, смелай рукою лазіў ёй па ўсіх месцах, якія можна было дастаць, якія яна дазваляла яму – а дазваляла яна многае; і бялелі ў цемры трусікі, адцяняючы загарэлыя, рухавыя дзявочыя ногі...

“Аляксей... Пачакай! Ты можа думаеш, што я шлюшка?”

“Як можна, Ксю...”

“Калі так думаеш, правільна робіш – я і ёсць шлюшка... Калолася, лячылася... Я халодная. Ну, фрыгідная. Мяне за дзяўчыну не лічаць. Я пішу вершы – пра дахі, раскрыжаваныя антэнамі!..”

“Выдатная метафара”.

Ён дакрануўся вуснамі да яе вачэй, вочы былі мокрыя і салёныя.

“Ксю! Ты што?! Я ж нічога ад цябе не хачу... Рабі так, каб табе добра было!

“Прабач... Я такая дурная... Усё нахлусіла... Хіба так дзяўчына павінна рабіць, як я раблю? Сама запрашала цябе... Добра, я прызнаюся – Света можа прыйсці ў любы час, і не адна... Толькі гэта! Ты ж не пакрыўдзішся?”

“Якія крыўды! Як ты скажаш, так і будзе. Хачу дачакацца Свету!”

Прага дабрыні да ўсіх і да ўсяго не знікала. Ён і Свеце, і яе чэху таксама хацеў выказаць, як іх любіць.

“Аляксей... Можна, я цябе пацалую на развітанне, і ты пойдзеш?”

“Толькі гарэлку дап’ю...”

Дапіў; яна пацягнулася пацалаваць яго, ён выставіў руку:

“Не трэба, уяўляю, як ад мяне гарэлкаю нясе”.

“Ты цудоўны хлопец! Праўда, я такіх ніколі не бачыла яшчэ. Смешны толькі”, – і голас у яе быў мяккі, пяшчотны.

Калі ён выйшаў на цёмную вуліцу, дождж скончыўся, з неба падалі апошнія рэдкія кроплі.

Абмінаючы калюжыны, ён дабраўся да шашы, якую перасякала чыгунка. Па шашы да вёскі было пятнаццаць кіламетраў, напрасткі, па чыгунцы сем. Пайшоў напрасткі, па шпалах. Час ад часу даводзілася спыняцца, каб вытрусіць з кедаў каменьчыкі, ды яшчэ двойчы саступаў дарогу цягнікам, таварнаму і пасажырскаму. Вось і станцыя, будка, склад... Якія яны ўночы чужыя, адзінокія!

Сам Аляксей зусім не адчуваў сябе ні адзінокім, ні падманутым, ні няшчасным.

Ён нават ганарыўся сабой, сваім высакародствам, што вось не стаў карыстацца момантам, а мог бы. Цэлае жыццё наперадзе. Колькі ўсяго яшчэ будзе!..

## VII.

На другі дзень раніцаю ён ішоў на працу, пакульгваючы, – сцёр-такі ногі да мазалёў. Ззаду затарахцеў мапед, Жэня дагнаў:

– Ну, хваліся! Чым скончылася?

– Нічым... Пасядзелі, пагаварылі...

– Усё зразумела з табою. Пашкадаваў п... – сам п... стаў, – махнуўшы рукой, рэзюмаваў Жэня.

Між тым часу да першага экзамена амаль не засталося. Кніжак, розных абітурыенцкіх дапаможнікаў Аляксей яшчэ ў пачатку лета поўна набраў у гарадской бібліятэцы; яны ляжалі на тумбачцы сімпатычным стосам, ён любаваўся імі, ды так ні разу не разгарнуў. Уся надзея была на армейскую характарыстыку. У войску казалі, што з добрай характарыстыкай прымаюць амаль без экзаменаў. Восьмага жніўня ён апрануў касцюм, павязаў гальштук, начысціў чаравікі і паехаў у Мінск – паступаць на “Прамысловае і грамадзянскае будаўніцтва”, разлічваючы, што прабудзе ў сталіцы дзён дзесяць мінімум, па два дні на кожны іспыт: супрамат, фізіка, замежная мова, сачыненне. А прыехаў дамоў... праз дзень, безнадзейна праваліўшы першы ж экзамен. Ён углядаўся ў білет, а бачыў шпалы, рэйкі, расу, круглую траву “перакаці-поле”... Белыя трусікі на загарэлых ножках... Словам, лезла ў галаву абы-што. Нічога людскага з такой здачы не магло атрымацца.

Ён вяртаўся дамоў з пачуццём сораму і з адчуваннем, што не апраўдаў нейкіх надзей, якія на яго кімсьці ўскладаліся, не выканаў якогась важнага, даручанага яму задання, і вось вяртаецца – прыніжаны і з пустымі рукамі. Як яго сустрэнуць? Што скажуць? Што яму адказваць?

Аднак дарэмныя былі яго перажыванні. Нічога не змяніліся, у брыгадзе ніхто не ўспрыняў яго правал як няўдачу. Німб “вялікай будучыні” не пабляк над яго галавою.

– На другі год паступіш, – упэўнена заявіў Жэня. – Тваё ад цябе не ўцячэ!

Маці дык увогуле не хавала радасці. Ёй добра было з сынам – такая дапамога, праца блізка, грошы неблагія. Аляксей супакоіўся, і зноў жыццё пайшло, як і раней, пакацілася па сваіх знаёмых роўных рэйках. Восенню, у канцы верасня, Жэня паведаміў яму, што Ксю паступіла, ды не абы-куды – у БДУ:

– Пашкадавалі яе, – чамусьці вінавата дадаў Жэня, нібы апраўдваючы Аляксея і асуджаючы спрытную пляменніцу. – Узялі як сірату, з чарнобыльскай зоны...

Вось гэтая навіна па-сапраўднаму ўкалола самалюбства. Цяпер Аляксею было з чым параўноўваць уласную няўдачу – з чужой удачай. Да таго ж ён не сумняваўся, што “сіроцтва” і “зона” тут справа дзясятая, а проста Ксю, як разумная дзяўчынка, у адрозненне ад яго аказалася лепш падрыхтаванай.

З Ксю была ў іх яшчэ адна сустрэча – апошняя. З нізкага неба на скапаныя грады, на пусты, непрыветны, без дзяцей і курэй двор імжэў дождж, і стаяў у паветры, як туман. Ксю сказала, апусціўшы вочы:

– Прабач, калі можаш: і за той вечар. І...

Яна запнулася, але ён зразумеў – “і за паступленне”.

– Ты толькі не губляйся, добра? – горача сказала яна. – Пішы! Я цябе буду чакаць у Мінску. Ты абавязкова паступіш, мы будзем разам!

## VIII.

Да канца восені ад Ксю прыйшлі два лісты.

Аляксей разрываў канверт з нецярплівым хваляваннем, спадзеючыся ўбачыць пісьмо з размытымі ад слёз радкамі, у якіх настальгічна, з сумам раскаяння ўспаміналася б іхняе лета, была б розная лірыка... Словам, чакаў таго, што ў яго самога было на душы і ў памяці. А ўбачыў – вясёлы, шпаркі почырк, узнёсла-радаснае паведамленне, як ёй добра ў Мінску, як яна ажыла там, колькі ў яе новых сяброў... Яна і яму, Аляксею, ад усяе душы раіць любым чынам імкнуцца ў Мінск, бо "толькі тут сапраўднае жыццё!.."

У другім лісце Ксю прасіла дапамогі. Ім далі заданне (яна паступіла на псіхалогію) зрабіць апытанку-тэст, і вось яна просіць Аляксея адказаць:

а) ці задаволены Вы сваім жыццём;

б) якія колеры выклікаюць у Вас трывогу, якія – супакой;

в) ці была ў Вас у дзяцінстве якаясь псіхалагічная траўма;

г)...

Расчараваны, пакрыўджаны, ён не адказаў. Ды і пра што было пісаць? Чым маглі яе зацікавіць іхнія лакальныя, мясцовага маштабу навіны? Тое, што ён перавёўся з сезонных рабочых у пастаянныя? Ці што яе дзядзьку – Жэню Бракарэнку, разам з брыгадзірам Рэвутам застукалі-такі на крадзяжы, і ў вёску прыехаў міліцэйскі "ўазік", забіраць яго. Перад тым, як сесці ў машыну, Жэня тужлівым паглядам аббег двор, агарод, дарогу, лес за ёю, падняў вочы ў неба – нібы развітваючыся назаўсёды.

"За бацькаў х... – ды век гаруй", – прамовіў ён і палез у машыну. Тацяна галасіла па ім, як па нябожчыку. Анька і Валька не адставалі, трымаючыся з двух бакоў за яе спадніцу.

Рэвут атрымаў два гады, Жэня – тры. Жонка Рэвута, кіргізка, неўзабаве з'ехала ў Кіргізію. Дзед нядоўга радаваўся знікненню ворага, сам захварэў, не мог больш працаваць – нават змазваць мазутам рэйкі ў яго ўжо не стала сілы. Шура таксама звольнілася і, нібыта, зноў пайшла ў буфетчыцы на любімы металургічны. Брыгаду, як вайсковую адзінку пасля баявых стратаў, давялося тэрмінова дафармоўваць новымі людзьмі з горада.

Пасля таго, як Ксю паступіла, у кватэры засталіся толькі Света з маленькай Настаю. Тацяна хутка ацаніла сітуацыю і неўзабаве разам з дзецьмі (Аньцы трэба было ўжо ў школу) перабралася ў горад да мужавай пляменніцы. Ніхто больш не прыязджаў у вёску. Хата стаяла сіратлівая, запушчаная, двор зарастаў травою.

А Аляксей Дарафей так і працягваў жыць разам з маці і працаваць на станцыі. Ён – той, хто лічыў сябе часовым, сезонным, толькі адзін і застаўся пастаянным, на тым самым месцы, як укапаны.

Ён нечакана лёгка змірыўся з гэтым, перастаў думаць пра паступленні, ні на што не наракаў, ні аб чым не шкадаваў – проста жыў, як у вакууме, у нейкай духоўнай і фізічнай рэзервацыі, без імпэту, без мары, без асаблівага спадзявання на нешта, што магло б з ім здарыцца і змяніць яго жыццё.

Толькі калі-нікалі яму рабілася сорамна за тую веру ў сваю "абранасць", у "незвычайную будучыню". Якая лухта, з чаго ён узяў, што заслугоўвае большага?

Яго не цікавілі ні палітычныя, ні эканамічныя, ні сацыяльныя, ні нацыянальныя змены. Недзе ў вялікім свеце ўсё кіпела, бурліла, блыталася,

разбураліся старыя дзяржавы і ўзнікалі новыя, ішло вялікае перасяленне народаў, умацоўваліся празрыстыя межы, лёгка падалі праржавелыя “жалезныя заслоны” і нетрывалыя “бетонныя сцены”... Усё абыходзіла яго бокам. Ён ведаў толькі шпалы, рэйкі, малаток ды кастыль. Фізічны час існаваў для яго хіба што ў пераменах года: за зімой прыходзіла вясна, за вясной – лета, ды яшчэ ў намінале купюр, якімі выплачвалі аванс, зарплату, прэміяльныя: спачатку лік ішоў на сотні, потым на тысячы, на мільёны – адсюль ствaралася ілюзія руху жыцця, павышэння дабрабыту, нават кар’ернага росту.

Зрэшты, ён сам ужо быў брыгадзірам, меў падначаленых, ганяў іх, як некалі сваіх рабочых Рэвут, і таксама, як Рэвут, не скупіўся на моцныя слоўкі.

У матэрыяльным плане грэх было скардзіцца. Плацілі добра, Дарафей не піў, не курыў, плюс матчына пенсія. Так у яго з’явілася любіміца, “Кіа” – не новая, але і не дабітая, надзейная. Без машыны, як без рук, як калісь селяніну без каня. Рэйсавыя аўтобусы адмянілі, медпункт закрылі, аўталаўка не хадзіла, на працу туды і назад дабярыся: з гадамі лянота, ды і проста фізічна цяжка стала пехатой накручваць кіламетры. Пасля працы ці ў выхадныя Дарафей заязджаў у горад, закупляўся прадуктамі, лекамі для маці.

Маці хварэла на рэдкую немач: адсутнасць энергіі. У яе хапала сілы на якія паўгадзінкі раніцай, потым пераставалі слухацца рукі-ногі, яна клалася ў ложак і бяссільна плакала. Затое гэтыя каштоўныя паўгадзінкі яна выкарыстоўвала надзвычай ашчадна, на самае неабходнае, без чаго не абыдзецца сын, чаго ён сам не ўмее – на гатаванне ежы. Яна варыла, смажыла, пякла, каб хапіла на ўвесь дзень. Аляксей ніколі не быў галодны. Што да мыцця, яны купілі дарагую замежную пральную машыну.

Акрамя фізічнай хваробы, маці пакутавала духоўна. У тым, што ў сына, як ёй здавалася, не склаўся лёс, яна вінаваціла толькі сябе. Хіба такі добры, спакойны, працавіты чалавек, як яе сын, заслугоўвае такой долі – сядзелкаю быць пры ёй? Асабліва цяперашнім часам, калі ўсе дарогі адкрытыя? Гэта ж у міністры можна выйсці! Яна забрала сябе ў галаву, што ён і не жэніцца з-за яе. Якая дзяўчына пойдзе ў вёску, у хату, да хворай свякрухі? Трэба купляць кватэру, ці будаваць катэдж, распачынаць пераезды-пераборы, і ў любым выпадку яна, нямоглая, будзе лішняю. Не раз яна прасіла: здай мяне куды, у які дом састарэлых, цяпер гэта не сорамна, цяпер дзеці не глядзяць бацькоў, бацькі самі хочуць аслабаніць дзяцей.

– І табе, і мне лепш будзе...

Але сын злаваўся.

– Мне не кепска! – і маці бачыла, што ён не хлусіць, і плакала ўжо ад палёгкі, ад падзякі яму. Такіх сыноў пашукаць!

Вёсачка іхняя зусім занядбала, нават дачнікі чамусьці не хацелі тут сяліцца, можа, таму, што зямля запушчаная, і цяжка яе падымаць. Асабліва сумна было зімамі. Не радаваў кампутар з інтэрнэтам, ні плазменны тэлевізар з спадарожнікавай “талеркаю”, не было каму званіць па дарагім мабільніку, не чыталася з планшэтніка – толькі кнігі памагалі, і не новыя, а абавязкова старыя, зашмальцаваныя, чытаныя-перачытаныя. Калі ўвечары адарвешся ад пажоўклых, засліненых на ражках старонак і глянеш у вакно – убачыш праз марозную шыбіну прысыпаную снегам паляніцу дроў, ды завіруху, якая пачынаецца на ноч, сваім ветрам закручвае снег у сумёты з грэбнямі зверху.

А вось улетку Жэнева хата, ператвораная ў дачу, ажывала, прыязджалі Жэневы дзеўкі, Валька з Анькаю, якіх Дарафей памятаў малымі. Цяпер гэта былі добрыя маладзіцы; абедзве замужам, у абедзвюх дочкі. Прыязджалі на машынах. Мужы ў двор не заходзілі, нічога не звязвала іх з гэтай старэнькай хаткай, з аселым у зямлю, струхлелым ганкам; іх не цікавіў ні агарод, ні пахілены плот; усё было ім тут чужое і ніякіх асацыяцый не выклікала. Яны не адыходзілі ад сваіх машын, мылі іх, працiралі, любаваліся імі, уключалі музыку – кожны сваю.

Праходзячы каля Жэневай хаты, Аляксей Дарафей бачыў, як у двары ў пяску зноў калупаюцца дзяўчынкі, і дзiвіўся з такой хуткай, відавочнай змены пакаленняў, з такой простай цыклічнасці жыцця. Калі-небудзь яго акліквала Анька:

– Дзядзька Аляксей!

Ён падыходзіў, абапіраўся на нізкае шула плота. Балбатлівая Анька расказвала, што яе бацька Жэня захварэў у турме і памёр там, маці Тацяна даўно на пенсіі, няньчыць унучак; ногі ў яе моцна пухнуць, таму ў вёсцы не з'яўляецца ніколі.

Слухаючы яе, гледзячы на яе, такую вялікую, Дарафею прыгадваліся Жэневы словы: "Можа, для цябе мае гадуюцца", і думаў, што Жэня недалёкі быў ад ісціны.

І ў ім пачынала варушыцца нейкая крыўда, нават прыкрасць. Чаму яно ўсё так?.. Чаго Жэня не бярогся? Яму трэба былі тыя вагоны, каб потым расплаціцца жыццём за скрынку памідораў! А мог бы жыць, гадаваць дачок, радавацца ўнучкам, працаваць разам з ім, Дарафеем... Пасля Жэні ў яго так і не з'явілася блізкага сябра.

– А я цябе вось таку-у-сенькую, – паказваў Дарафей рукою, – без трусоў памятаю.

– Не кажыце, мне сорамна!

І яшчэ дзялілася навінамі гаманкая, добрая Анька, расказвала, што "цётка Света" даўно выйшла замуж за чэха і жыве ў Празе, "цётка Аксана" таксама замужам у Мінску; не прыязджаюць, бо такія часы, што кожны жыве сваім жыццём...

Дарафей слухаў мілую шчабятуху, ківаў, перапытваў, і яшчэ больш здзіўляўся. Усе персанажы з яго далёкага юнацтва ўяўляліся яму цяпер такімі нерэальнымі! Нават самыя імёны: Тацяна, Аксана, і Света, ды і Жэня – гучалі для яго як глухое, з іншага свету, рэха.

## VIII.

І вось праз 15 гадоў, у маі месяцы, у цэнтры Мінска на Круглай плошчы лёс вяртаў яго ў мінулае. Даваў яшчэ адзін шанец сказаць недасказанае, а можа, і зрабіць недаробленае...

– Колькі ж гэта мы не бачыліся! – паўтарала радасная, узбуджаная Ксю.

– Роўна пятнаццаць гадоў.

– І ты так лёгка, адразу пазнаў мяне?

– Ты не змянілася, нiколькі.

– Ага, не змянілася!.. Трыццаць два гады, двое дзяцей. Вось калі мне стукнула трыццаць – гэта быў шок! А потым перастала глядзецца ў люстэрка, мінімум касметыкі... І памагло! Калі не камплексуеш, арганізм сам сябе пачынае рэгуляваць.

Яе вочы вішнёвага колеру вільготна блішчэлі. Дарафей бачыў, што яна непрыхавана, шчыра рада, і гэта пакрысе пачало перадавацца яму.

– Тое, што я цябе пазнаў, нічога дзіўнага – ты зусім не змянілася. А вось як ты мяне?

– Я б цябе пазнала нават з барадой да пояса. Нават калі б мы сустрэліся ў іншым жыцці і ты быў бы ў іншым абліччы. Ты мне так часта сніўся! – і ў сне, з гадамі, сталеў разам са мною. Акурат такім ты мне і бачыўся ў апошніх снах.

– А ты мне снілася заўсёды аднаго ўзросту, шаснаццаць з хвосцікам.

– Калі мне было шаснаццаць, а табе дваццаць, вось дзе была касмічная розніца! А цяпер, калі мне 32, а табе 35 – гэта нішто. Аднагодкі.

Яна азірнулася.

– Давай куды-небудзь зойдзем? Хочаш у “Бярозку”? Кавы пап’ем...

У “Бярозцы” ў фае яны адбіліся ў вялікім люстры, і Дарафею нечакана спадабаўся яго двайнік: у чорных джынсах, белай майцы, загарэлы, дужы, наліты мужчынскімі здаровымі вясковымі сокамі, выглядаў ён малайцавата. Побач Ксю моцна трымала яго за руку, нібы баючыся, што ён уцячэ.

– Я так і ведала, што мы калі-небудзь сустрэнемся. Гэтага не магло не адбыцца, бо мне вельмі хацелася, а калі моцна хочаш – абавязкова спраўдзіцца.

Столік, попелка, пах кавы – і недарэчная музыка, веснавой сонечнай раніцай, калі побач – парк, рака, птушкі... Ксю закурыла.

– Ну, расказвай. Хто ты, дзе ты, кім ты?

– Усё там жа, – неахвотна адказаў ён. – У вёсцы жыву, на станцыі працую.

– Не можа быць! Праўда?!

Ён пасміхнуўся.

– Няма нічога больш пастаяннага за часовае.

Ён пачаў расказваць, што працуе брыгадзірам, прывязаны да хворай маці.

– Дык ты... у вёсцы, – не слухала яна. – У той самай – нашай, далёкай... Як мне сніцца ўсё гэта, як не хапае!..

– Нічога ўжо не засталося ад нашай вёскі, – сказаў ён. – Зарасло, і бэз ніхто не ломіць – акурат як у вас у Мінску.

– Усё роўна хочацца туды, да бяспамяцтва.

– Дык прыедзь. Гэта ж не цяжка. Ці занятая вельмі? Спраў многа?

– Ды не сказаць... Усё ў мяне о’кей. Муж, дзеткі... Большай дзесяць, меншай пяць. Працую псіхолагам. І выкладаю псіхалогію.

– “Лексус”, – не без з’едлівасці заўважыў ён.

– І “Лексус”.

– Муж таксама псіхолаг?

– Амаль што, – усміхнулася яна. – А колькі тваім дзецям?

– Я не жанаты.... У сэнсе, халасты... Адзін... кажу ж.

На яе твары адначасова з’явіліся недавер, здзіўленне і радасць.

– Ты жартуеш? Ніколі не паверу! Такі мужчына...

Яна задумалася, потым, апусціўшы вочы, ціха спытала:

– Гэта... з-за мяне?

– Ну што ты! Так склалася, так стала пытанне: жонка ці маці. Ды нідзе і не бываю, дзе мог бы пазнаёміцца з жанчынаю, а калі б і бываў, і пазнаёміўся – хто цяпер захоча жыць у глухой вёсцы, з хворым чалавекам?

– А чаму ты мне не пісаў, не адказваў на лісты, не шукаў мяне? – паўшчувала яна мяккім, як колер вачэй, голасам.

– Навінаў не было.

– Хіба ж мне навіны трэба? Мне ты трэба быў. Я шукала цябе па розных сацыяльных сетках... Ці ты не займаешся гэтым?

– Чаму – у мяне ўсё ёсць. Тэлевізар з “талеркаю”, кампутар, усе навароты... Машына, дарэчы, – пахваліўся ён. – Не “Лексус”, канечне, але таксама іншамарка. Маці ў паліклініку звазіць, па прадукты ў горад з’ездзіць...

Ён загаварыў пра адлегласці, якія цяпер не маюць вялікага значэння, пра сацыяльны статус, узрост і месца пражывання – як ўсё гэта зніveліравана, наколькі ўраўнялася.

– Так што неабавязкова дзікуны жывуць у вёсцы, – сказаў ён. – Зазіраю я і ў кампутар, і ў сацсеткі, але не люблю. Агрэсіі многа. Лепш ужо старая добрая кніга, якую ведаеш на памяць...

– Колькі ў цябе часу? – перабіла яна.

– Гадзіны дзве, можа, больш.

– Слухай, тут тлумна, музыка. Хадзем да мяне? Я цябе запрашаю ў госці. Гэта зусім блізка. Кавы пап’ем...

Тыя ж вочы, тыя ж словы, сказаныя адным і тым жа голасам, на міг перанеслі яго на пятнаццаць гадоў назад, у тое самае лета.

– Ксю... Даўно хацеў у цябе спытаць. Запрашэнне “на каву” – я тады быў упэўнены, што яно толькі адно азначае.

– Яно толькі адно і азначала. Малая была, дурная. Рыхтавалася, хацела, каб лепш, прыгажэй, рамантычна... Набівала сабе цану, вылучыцца хоць нечым хацела... А як перажывала потым!

Яна зноў пацягнулася да пачка з цыгарэтамі, але не закурыла.

– Дык паедзем? Дома нікога няма. Пустая кватэра.

– А дзеці?

– Большая ў школе, меншая ў садзе.

– А праца?

– Я пазваню ім зараз.

– А муж?

– Ты што, зноў баішся? Шукаеш прычыны не ехаць? Дзе тут муж? Пакажы мне яго. Людзі існуюць, пакуль яны ў полі нашага зроку. А знік з вачэй – значыць, няма яго ў прыродзе. Ну, а калі з’явіцца – з балкона будзеш скакаць. Жартую, на працы муж. Да таго ж у нас першы паверх.

## IX.

У салоне “Лексуса” стаяла ватная цішыня. А ў яго “Кіа” хоць зачыняй вакно, хоць адчыняй – аднолькава, кожны гук звонку чуваць. Не больш як праз тры хвіліны машына ўкацілася ў зялёны дворык. Многа дрэў, клумбы, кветкі. Вялікая дзіцячая пляцоўка. Трохпавярховы цагляны дом, падобны на катэдж. Каля пад’езда бабуля адной рукой калыхала каляску, другой прыціскла да вуха тэлефон, і чамусьці па-беларуску, манатонна, як аўтаадказчык, паўтарала: “...Паехаў у вёску – прабіў галаву, паехаў у вёску – прабіў галаву, паехаў у вёску – прабіў галаву...” У калясцы сядзеў і хітра пазіраў на Дарафея, відаць, сам герой паездкі ў вёску – малы з забінтаванай галавою, абмазаны зялёнкаю.

– Бесталковы, – сказала Ксю, адчыняючы дзверы. – Не разумею, як гэта паехаць у вёску і прабіць галаву?

У калідорчыку адразу кінуліся ў вочы чужыя мужчынскія туфлі пад вешаком, а побач – дзіцячыя сандалікі. У ванным пакоі на шнуры, на нікеляванай трубе сохлі шкарпэтачкі, калготкі, трусікі, маечкі – усё яркіх дзявочых колераў, у кветкі, мячыкі, слонікі; і зноў – пад люстрам на палічцы ў празрыстым пластыкавым футарале – дарослы, непрыемны, чужы тут станок для галення.

– У вас адны дзеўкі нараджаюцца, – сказаў Дарафей, выходзячы на кухню з ручніком, выціраючы рукі.

– Добра – вайны не будзе...

Яна ўжо збірала стол, ставіла віны, гарэлкі, закускі. Ён, крыху засаромеўшыся, што ўся гэтая мітусня з-за яго, папрасіў сабе толькі гарбаты, чорнай, моцнай...

– І, калі ласка, лусту белага хлеба з маслам. Больш нічога. Прывык толькі такое.

– Сапраўды. Здаровы мужчына, фізічная праца... А я віна вып'ю. Пад цыгарэту. Мне цыгарэты памагаюць трымаць фігуру, – апраўдваючыся, патлумачыла яна. – Закурыш, дык не так есці хочацца. А памятаеш, як я цябе карміла тады, даўно? Макаронамі з катлетаю?

– Гэта мой самы светлы ўспамін.

– І мой....

Так яны ільсцілі адно аднаму, і яшчэ больш раставала, знікала насцярожанасць паміж імі. Ён падумаў, што павінен пахваліць яе – хоць з ветлівасці госця перад гаспадыняю, ды і чаму толькі з ветлівасці? – ён шчыра зайздросціў ёй, ганарыўся ёю, рад быў за яе.

– Ксю, якая ты малайчына. Такая кватэра, у такім месцы, машына, праца... Выглядаеш свежа, як кветка. І сама ж выйшла ў людзі – без блатаў, без грошай, з такой глушэчы, усяго дабілася розумам, прыгажосцю...

– Ага. Дабілася. Успамінаць не хачу. Эканоміла па капейцы. Кожныя канікулы, яшчэ студэнтамі, на ўсё лета ў Фінляндыю клубніцы збіраць... Света памагла. Усё дзякуючы ёй – і кватэра, і машына. Я да іх часта езджу, у Прагу.

– А як яна сама? – спытаў ён.

– Яна? Цвіце і пахне! Не п'е, не курыць, выглядае маладзей за мяне. Дзіця свайму чэху нарадзіла. Таксама, дарэчы, дзяўчынку. Хочаш у кампутары здымкі паглядзець?

– Не, не хачу.

– Разумею... Прабач.

– Я калі-небудзь бачуся з Жэневымі дочкамі, прыязджаюць у вёску, ды і ў іх – таксама дзеўкі. Памятаеш, як твой дзядзька Жэня казаў? Кім ён акружаны?

– Яшчэ як памятаю!

– Ён не са злосці, бяскрыўдны быў.

– Я ведаю. Я табе больш скажу, як псіхолаг: самыя страшныя мае пацыенты не хамы, не п'яніцы, не пахабнікі, не цынікі, а – ханжы. Іх пазнаеш адразу, з першага позірку; на людзях – ліслівыя, ветлівенькія, вочы бегаюць, пальцы не знаходзяць месца, а дома, у сям'і, з жонкай ці з дзецьмі – тыраны, монстры, і гэтае ўвесьчаснае двайное жыццё, ці гульня ў жыццё, хаванне сябе сапраўднага, сваёй сутнасці разрывае іх, як бомба

замаруджанага дзеяння. А ў выніку – мне іх слухаць, лячыць... Зрэшты, гэта мой хлеб. Без працы не застануся.

Ён піў, стараючыся не сёрбаць, сваю гарбату, Ксю – сваё віно.

– А раскажы яшчэ пра сябе, – папрасіла яна. – Мне страшэнна цікава ўсё, з табой звязанае. Як, чым ты жывеш?

– Як жыву? Не сказаць, каб о'кей. Як у цябе, напрыклад. У каго ні папытай: цудоўна, шчасліва... Моташна ад гэтага фальшывага аптымізму. Ну, які о'кей, калі мы старэем, хварэем і паміраем? Прычым не ў будучым, а кожную хвіліну, вось, напрыклад, у гэтую самую.

– Цяпер не модная філасофія хваробы і смерці, – гулліва заўважыла яна.

– Калі гадамі жывеш з хворым чалавекам, яшчэ не да такой філасофіі прыйдзеш. Зрэшты, я ні аб чым не шкадую. Стараюся задавальняцца тым, што маю. І веру, што ўсё да лепшага. А смерць, можа быць, самае лепшае.

– О-о! Вось як? Колькі я такога наслухалася! Да таго ж ты сабе супярэчыш. Калі ўсё да лепшага, а смерць – самае лепшае, дык тады ва ўсіх і сапраўды о'кей. Чаму тады аптымізм фальшывы? Ён якраз-такі натуральны паводле тваёй тэорыі.

– Ксю, – пакорліва здаўся ён, – я дылетант. Ты мяне разаб'еш па ўсіх пунктах. Давай без прафесійных тэрмінаў. Я ж пакуль не на прыёме ў цябе.

Яна засмяялася.

– Я, калі казала о'кей, мела на ўвазе цела. Можна быць шчаслівай матэрыяльна, а з душою трэба яшчэ разбірацца.

– На псіхатрэнінгах?

– Хоць бы. Да таго ж я проста павінна быць шчаслівая. Прафесія вымагае. Уяві – прыходзіш ты да псіхолага і бачыш знерваванага, няшчаснага чалавека з абкусанымі пазногцямі і скрушным паглядам. Чым такі паможа?

– Дзякую, – сказаў ён, дапіўшы гарбату і збраючы крошкі хлеба са стала.

– Не чапай. Хадзем на балкон, я курыць хачу – не магу...

З балкона, коса закратаванага, відаць быў той самы дворык, у які яны ўехалі. Каля дрэў, паміж клумбаў з кветкамі бегалі са смехам дзеці. Ксю, знарок ці выпадкова, стала блізка і так, што Дарафей вымушаны быў глядзець не на дворык, а толькі на яе, і ўдыхаць дым яе цыгарэты.

– Дык ты праўда ні аб чым не шкадуеш? І ўсё ў цябе да лепшага? На кожнае "чаму" ёсць гатовае "таму"? Ты шчаслівы?

Ён паціснуў плячыма.

– Што значыць: шчаслівы – нешчаслівы? Удачлівы – няўдачлівы? Я ведаю толькі, што багаты можа быць добрым, бедны – злым, хворы – шчаслівым, здаровы – няшчасным...

– Яшчэ – не красці, не зайздросціць, даглядаць хворую маці...

– Прыблізна, – кіўнуў ён.

– Не можа быць. Не веру. Няўжо ты ўсім задаволены? І нічога не хацеў бы вярнуць, паправіць?

Усё ж яна заводзіла яго. Яму таксама захацелася пагаварыць сур'ёзна.

– Ведаеш, Ксю, мне кожны год здаецца, што я быў шчаслівы акурат у такі ж час у мінулым годзе. Я калі-нікалі спрабую зафіксаваць гэта, хачу замарозіць адчуванні, спыніць імгненне, ухапіць нюхам, зрокам, рукамі ўсе незлічоныя дэталькі, каб яны не сплывалі так хутка, так непазбежна...

– А казаў, мы кожную хвіліну паміраем.

– ...І пачынаю разумець, што быў шчаслівы менавіта ў тыя моманты, калі здаваўся сабе няшчасным, што кожная сённяшняя нязначная дэталь,

маленькая падзея, нават адсутнасць падзеі – гэта цэлае шчасце ў будучым; трэба толькі, каб яно адфільтравалася часам.

– Смешны ты, – прамовіла яна. – Ніяк не змяніўся. Цяжка цяпер такім.

– Наадварот! Калі я думаю пра маладых, пакаленне 15-гадовых – вось каму не пазайздросціш! Як яны разбіраюцца ў гэтай кашы? Колькі ў іх спакусаў, колькі верагоднасцей краху, катастрофы!.. Увесь час у стане выбару, усюды трэба паспяваць, круціцца, ірваць, хапаць, ні ў чым не сумнявацца, быць упэўненым, "паспяховым", жорсткім... У іх няма нашага вопыту, мы хоць ведалі, што такое добра, што – кепска, яны і гэтага не ведаюць. Як ім элементарна ацалець, выжыць, не звар'яць, колькі трэба мець у запасе цынізму і подласці – што, можа, і някепска для выжывання, але дзе іх узяць, гэтыя цынізм і подласць, яны ж таксама талент, не кожнаму дадзены. Не паверыш, я радуюся, што мне пашанцавала, і гэты час заспеў мяне не маладым, а пад сорак. Дай мне цяпер 15-гадовыя мазгі – прападу, звіхнуся. А так – вазьміце мяне цяпер, можна ўмыць рукі і адысці ўбок.

Ён заўважыў, што Ксю хвалюецца. Яна ўжо трэцюю цыгарэту дакурвала.

– У цябе, аказваецца, выдатна адладжаны абаронча механізм. Ты як віеўскім кругам сябе абвёў, і ні пераступіць яго, ні прабіць. Усё ў цябе роўна, гладка, складна, распланавана, разлічана.

– Ну што ты, Ксю, – сумеўся ён. – У мяне акурат-такі нічога не атрымалася. Гэта ў цябе ўсё здорава, роўна і гладка, гэта ты ў параўнанні са мной усяго дабілася...

– Спытай, якой цаною. Я прайшла праз усё, што ты зараз казаў. Даводзілася і круціцца, і рваць, і кусацца, і быць цынічнай, і подлай... Так што дарэмна ты мяне хваліш. Ты нічога не страціў, толькі набыў, ты стаў лепшы, а я – горшаю.

## X.

Яны вярнуліся на кухню. Настала няёмкая паўза, якая сведчыла, што трэба мяняць тэму.

– А прызнайся, ты крыўдуеш на мяне, – ціха сказала Ксю. – Я падабалася табе, ты хацеў мяне. Я помню тую ноч, я сядзела ў цябе на каленях... Мы глядзелі на дождж... Памятаеш тыя залатыя часы?

Яна, не міргаючы, глядзела на яго. Чырвань на шчоках, паўраскрытыя вусны. Складзенымі накрыж рукамі яна абдымала сябе за плечы, нібы ёй холадна было. Тут, на кухні, пры такім асвятленні і ў такім ракурсе Дарафей упершыню ўбачыў, што яна змянілася; гэта ўжо не дзяўчынка, не яго Ксю, што і праўда яна, відаць, прайшла праз многае, перш чым стаць такой.

Раптам яму страшнавата зрабілася ад немігаючага позірку гэтых вачэй. Нешта гіпнатычнае, вядзьмарскае, містычнае з'явілася ў ёй (а можа, і заўсёды было). Нічога дзіўнага, што яе кліенты ніякавеюць перад ёю, яна не хваліцца, а так і ёсць, – і пачынаюць распранаць перад ёю душы. Яшчэ яму прыйшло ў галаву, што сярэднявечную інквізіцыю можна ў некаторых рэчах калі не апраўдаць, дык зразумець.

Яна адвяла вочы.

– Аляксей, у нас мала часу. Я хачу сказаць... Ты можаш святкаваць перамогу, – сказала з разгубленай, бездапаможнай усмешкай. – Ты вый-

граў. Божа, якая я дурная была! Якая вінаватая! Усе гады адчуванне, што зрабіла балюча чалавеку, які адзін па-сапраўднаму кахаў мяне... Я ведаю – гэта з-за мяне ты не жаніўся. Аляксей, пакуль у нас ёсць час... Мы адныя. Трэба карыстацца момантам. Дай мне шанец выправіць віну. Цяпер ужо я ў цябе прашу. Пайшлі? Вунь пакой, там ложак.

– Ксю...

Ён пацягнуў яе да сябе, пасадзіў на калені і абняў. Яна аддана, гатоўна, з удзячнасцю прыціснулася да яго. Горача зашаптала:

– Дарагі мой, дзякую... Як я чакала гэтага дня, гэтага моманту! Ты ўявіць не можаш, як дзяўчыне, жанчыне жыць з гэтым, насіць у сабе! І чым хутчэй бяжыць час, а ён бяжыць, тым цяжэйшы робіцца камень на шыі... Псіхолагі, маючы справу з не нормаю, самі набіраюцца негатыву. У мяне нейкая псіхалагічная траўма. Аляксей, мне вельмі цяжка, я хачу ў нашу вёску, у наша лета, у свае сямнаццаць! У мяне не жыццё, а існаванне, мне так адзінока, у мяне бяссонніца, я не ведаю, дзеля чаго жыву... Хочаш праўду? Я па-ранейшаму кахаю толькі цябе... я нават у ложку з мужам цябе ўяўляю на яго месцы!

Яна паднялася і ўзяла яго за руку, прапануючы ісці за ёю. Ён застаўся сядзець.

– Ксю... Мы ж сябры... Ты мне сястра...

Яна ўсё яшчэ не разумела, што адбываецца.

– Аляксей, у нас мала часу! Пятнаццаць год назад не была сястрою, калі ты ціскаў мяне ў сябе на каленях.

– Малады быў, п'яны... Кроў гарачая, дурная...

Яна выпусціла яго руку.

– Вось як? І... толькі?!

Нарэшце да яе пачало даходзіць, што ролі памяняліся: цяпер ужо яна ініцыятарка, а ён як бы зусім не свеціцца ад шчасця. Відаць, яна нават думкі не дапускала, што ён можа не кахаць, не хацець яе.

Яна выглядала няшчаснай, мілай, разгубленай і бездапаможнай.

– Але... ты не можаш адмовіцца. Жанчыны так могуць рабіць, але не мужчыны! Ты... зусім не хочаш мяне? Табе дарагая лыжка толькі ў абед? Гэта помста мне? Ты, як дзіця, адчуваеш нейкую насалоду ад таго, што цябе пакрыўдзілі, "не далі" табе? Не разумею! Забі – не разумею, як здаровы нармальны мужчына можа не скарыстацца такім шанцам!

Ён слухаў, глядзеў ёй у вішнёвыя вочы і маўчаў, бачачы, ведаючы, што не зможа ёй нічога растлумачыць. Усё, што магло паміж імі адбыцца, ужо адбылося, і не трэба спрабаваць перайначваць жыццё – можна толькі змірыцца і прызнаць, што яго Ксю, яго дзяўчынка з белымі трусікамі засталася там, у далёкім леце; што гэтыя бясконца доўгія гады, ды яшчэ памножаныя на адзіноту, зрабілі сваю справу – зрабілі тое, што яго нерэальная, выдуманая Ксю на самой справе стала для яго нечым большым нават за сяброўку, бліжэй, чым родная сястра.

А жанчына, якая цяпер стаіць перад ім, дарослая, самастойная, са сваім "Лексусам", псіхалогіяй, мужам, дзецьмі, кватэраю – чужая яму.

І гэтую двухсэнсоўнасць, гэтае раздваенне, нават растраенне: у адным целе – каханая дзяўчынка, любімая сястра і чужая жанчына – ён ні за што не зможа прымірыць, спалучыць, зліць у адно – хоць на сцяну залезь, хоць лоб разбі.

– А хочаш, я скажу, што з табой адбываецца? Як псіхолаг?

Нечакана халодныя, насмешлівыя, жорсткія ноткі з'явіліся ў яе голасе. Усю прыкрасць, самалюбства пакрыўджанай, адрынутай жанчыны яна ўкладвала ў іх.

– Ты жывеш сваімі ўспамінамі, песціш іх, калоцішся над імі, яны табе даражэй за жывое, яны памагаюць табе паважаць самога сябе. Адбяры іх у цябе – ты загінеш! А тут я – замахваюся на святое! Прапаноўваю ўласнымі рукамі задушыць, знішчыць тое, што адно памагае жыць, з чым так прыемна насіцца! Так?

Ён маўчаў.

– Добра... Што гэта я на самой справе. Як насланнё нейкае, – яна правяла па вачах рукою, нібы стараючыся скінуць нябачныя павуцінкі гэтага наслання. – Калі так табе лягчэй...

Пазбягаючы глядзець на яе, ён узяў свой пакет са стартэрам, патаптаўся, што азначала: ісці трэба... электрычка хутка.

– Ідзі, – сказала яна. – Не, пачакай, – пакорпалася ў сумачцы. – На, вось візітоўка. На ўсялякі выпадак. Пішы, звані. Мала што. Можа, яшчэ сустрэнемся...

– Кавы пап'ем? – пажартаваў ён.

І хоць выйшла недарэчна, яна ўсміхнулася, праўда, не зусім весела, хутчэй неяк безнадзейна.

Праз дзесяць хвілін зялёны аўтобус-"сотка" вёз Аляксея Дарафея па шырокім праспекце, абсаджаным з двух бакоў каштанамі, з прыгожымі будынкамі справа і злева. І чым бліжэй да вакзала, тым больш, здавалася, шырэў праспект; вышэйшымі станавіліся каштаны, прыгажэйшымі – будынкі, святлейшымі – думкі.

Усмешка блукала на яго вуснах. Ён зусім не думаў, што едзе ў глушэчу, да хворага чалавека, да мазутных шпалаў, да звыклай ужо адзіноты.

Ён думаў, што хутка лета – усяго праз пяць дзён, і вось ён едзе, спяшаецца да яго, такога жаданага, таго самага, у якім засталася здаровая маці, ранішняя дарога, сонца, раса, Рэвут, жывы Жэня, прызба, ганак, выпіўка з "прысмакамі", цёплы пясок з курамі і з дзяўчынкамі, добрая і загадкавая Света, бесклапотны, без цара ў галаве хлопец з дзяўчынкай – сваёй малодшай сястрой, сваёй пяшчотнай сяброўкай, якая цёплымі вечарамі ціснецца да яго, захапляецца ім, яго розумам, яго незвычайнай будучыняй...

Дзяўчынка з кароткімі, цёмнымі, у карэ падстрыжанымі валасамі, з вачыма, што мякка свецяцца, нібы гладзяць, да якой так пасуе яе кароткае, як летняя ноч, імя – Ксю.

*2014 г.*

Зміцер Вішнёў



...лухта лупаціцца на талерках
нібы яечня...

# Гравітацыйныя калодзежы

## *СПІТЫЯ БАРКАСЫ*

я паставіў кропку
праз гэтую кропку я зазірнуў у іншасвет і пабачыў
дзіўную карціну
кропка неверагодным чынам ператварылася ў працяг
карціны Казіміра
магчыма гэта быў працяжнік
я наблізіў вока бліжэй да таемнага іншасвету
і акрамя баркасаў і мора
пачуў відавочны грукат і свіст
раптам штосьці ледзь не пляснула мяне па воку
і не адскочыўшы своечасова
я атрымаў бы пад вокам фінгал
я зноўку хуценька зазірнуў у таемную чорную дзірку
і мне падалося што на імгненне я паспеў ухапіць позіркам
хвост цюленя
ці можа гэта быў хвост нейкай рыбіны?
магчыма але гэта засталося таямніцай
мора раўло і стагнала

у гэтым марскім варыве падскоквалі і рыпелі два баркасы
якія нагадвалі дзве пузатыя бутэлькі
быццам патрэсканыя і з кроплямі невядомай вадкасці
магчыма рому ці брэндзі
але прыгледзеўшыся я зразумеў што кроплямі былі людзі
такія паласатыя і пашараваныя
так – яны змагаліся са штормам
хмары лёталі распухлымі і злымі кірлямі
і здавалася што хутка надыдзе няшчаснае заканчэнне
гэтай гісторыі
я паставіў кропку

## *КАЎЧУК*

***1.***

Фрэгаты злосна разразаюць жэлацінавыя хвалі.
Жонкі паліваюць падлогу гаручым ромам.
Бесхрыбетнае сонца разбівае марскую кафлю.
У дом правасуддзя заязджае катафалк з фараонам.

Нябесны алігарх надрываецца песняй.
Снежныя вагоны звіняць шпорамі.
Ты выцягваеш з кішэні залатое пенснэ,
каб разгледзець прышпільную наколку са шпротамі.

***2.***

Кнігі і папірусы знікаюць з пенай.
Флейтай гучаць напружаныя вены.
Батальёны сыходзяць нягучна – застаецца ціна.
Аб’ядноўваюцца цені ў тэатральныя сцэны.
Фарбуеш пунсовую сцяну і пішаш нецэнзурныя цітры.
Зрэшты калі бярэш пісталет у ціры
гучаць не стрэлы – пункціры.
Гіены не кусаюцца – скачуць вакол мірна.
Пэўна ты – чарадзей і снайпер вірта.

***3.***

Чысціня звонку – у трумах многа бруду.
Плача стомленая веснавая Гертруда.
Зашпільваеш гузік на мундзіры.
На даляглядзе – зялёны Буда свеціцца камандзірам.
Марскія сцяжынкі скручваюцца ў якарныя канаты.
Чыгуновыя ядры – быццам грунтоўныя капітанскія факты.
Родныя пенаты не здрадзяць – торт з цукровай ватай.
Сустракае нярадасны порт – на руках халодны пот.
Над галавой чорны сцяг разяўляе шчарбаты рот.

*8 лютага 2014, Ворша*

* * *

п’яная жоўтая ўсмешка нібыта месяц на небе
у люстэрках плаваюць расплюснутымі чоўнамі вочы
папраўляю на кашулі вясёлы матылёк
адчуванне: быццам ты – кветка
і на табе сядзіць пчолка
плюхаешся ў чорны лімузін
блішчыш лакіраванымі пантофлямі
магчыма цяпер ты крэветка ў куфры?
ці малюск у партманэ?
музыка летніх палёў у спалучэнні вятроў і сонца
бутэлька шатландскага віскі выгнулася ліпеньскім тамагаўкам
трэба скінуць белую кашулю з матыльком
выйсці з лімузіна ў травы
і размалявацца чырвонай глінай
у індзейца

*4 ліпеня 2014*

## *У ЦЁМНЫМ ПАКОІ, ПРЫ СВЕЧКАХ Я ЗАЧЫТАЎ МАГІЧНЫЯ СЛОВЫ, НАМАЛЯВАЎ ЗАГАДКАВЫЯ ЗНАКІ І ЎЗЯЎСЯ ЗА РЫТУАЛЬНЫЯ ДЗЕЯННІ*

зрабі з ворага васковую цацку
срэбныя голкі – сродак для таемнай працэдуры

кія!

першую голку – у галаў нібыта пікай
небарака-людажэр захлынуўся крывёй
цыклоп загнуўся і не з’еў дзіцяці
папярхнуўся воўк і адпусціў вясёлага зайца
тыгр ікнуў і прамахнуўся ў скоку – збег сайгак

кія!

другую голку – у сэрца!
брыкнулася навалач пад стол
атруціўся кат уласнай слінай

кія!

голку ўтыркнуў у далонь!
торгнулася рука з пісталетам
і выжыў аракул
і выжыў апошні паэт
і чырвоная набрыдзь засохла
і чорная набрыдзь ператварылася ў квадрат Малевіча

наступную голку я зламаў і ўзяў пэндзаль

* * *

урбаністычную ствараю карціну
мачты заводаў звіняць ад шторму
хвалі дыму абвяваюць твар
попел упрыгожвае чорныя рукі
каханая танчыць з гаечным ключом
і спявае
ту-ту-ю-ту-ту-та-та-тра-та-та
уключаныя магніты зямлі
і целы хлебаробаў ляжаць нерухома
побач з мёртвымі шахцёрамі
плавільшчыкі метала выйшлі на шпацыр
па марскіх лабірынтах горада
вечная руда словаў здабываецца ў цэнтры Менска

* * *

плывуць на чаўнах карабінеры
ад сэрца да пячонкі
плывуць ад селязёнкі да нырак
грукаюць вінтоўкамі
рыпяць хромавымі ботамі
рассыпаюць на сваім шляху дзьмухаўцы
выкідаюць з вялікіх мяхоў
бэзам выкладаюць трасы
працінаецца штыкамі неба
пурпурова-барвовыя вясёлкі і фантаны
суправаджаюць гэтае падарожжа
на раздарожжы знаходзяцца душа і цела
розум і эмоцыі

* * *

палуба паветранага карабля мае сваіх матросаў
у ілюмінатарах – зігзагі хваляў аблокаў-акулаў
камандзір карабля раскачвае пляшку адчаю
са скрыняў вылупляюцца мясцовыя какаду
вока капітана свідруе стралу карабля ва
ўсіх напрамках
выбудоўвае сеткі і пасткі на звяроў
стварае гравітацыйныя калодзежы
зашпіляе люкі
начышчае бляскам правадыра прастору трасы
блішчаць маноклі пасажыраў
быццам кнопкі клаксонаў

* * *

экскурсавод выкладаў з брукаванкі матылькоў –
ты выкалупваў камяні з жоўтых зубоў
накладаў на горны масіў шчакі кампрэс – шоргат жукоў
(згадваўся ў пенснэ энтамолаг Уладзімір Набокаў)
Рэйн разразаў цела Базеля быццам самалёт неба
метрамі крокамі нечаканымі памідорамі ўздыхамі
і аўтобуснымі прыпынкамі
абуджацца ад сну
намотваць на пыльныя боты дрот успамінаў
вандроўкі розуму запісваць у нататнік
усполахі саспелага сонца награвалі твой лоб
бухценне каханай пад пахай натхняла на
даследаванне музейных спарахнеласцяў
зрэшты пальцы абмацоўвалі дамкі
цішыня слухалася праз пах кветак
пунктуальнасць слізгацела за аўтобусам
вурчэў памаранчавы гадзіннік

*20 сакавіка, Вольбах – Базэль (55 аўтобус)*

* * *

паслухай паслухай
я сяджу ў кардоннай скрыні
на мне – маленькая жоўтая карона
рот скрыўляе блазнаватая ўсмешка
сліна кропае чароўнымі ягадамі
па пальцах прабягаюць сонечныя зайчыкі
мой настрой выгінаецца разам з пазваночнікам
і я нават чую гаўканне каўказскай аўчаркі
хрыплы сіпаты брэх
і здаецца гарыць мой запалены розум

лухта лупаціцца на талерках нібы яечня
хай тахта шыпіць словамі пра халеру ясную
ды хрыпенне ператвараецца ў храпенне
спевы спевы спевы
выспяваюць слівамі

клёва

## *[ГРУКАТ ЦЯГНІКОВЫХ ЗУБОЎ]*

зубы злева справа наперадзе
плывеш на байдарцы размахваеш вяслом
выбіў пярэдні разец
з хрупатам адвальваецца карэнны

тынкоўка сыплецца маціцовым дажджом
раскручваеш над галавой вясло нібы баявую сякеру
зубы нагадваюць масты
ламаеш гэтыя каменныя шыхты
шукаеш у байдарцы адбойны малаток
крышыш гэтую бухту-рот
вунь там падае мяч сонца
цягнешся туды рукамі
вылоўліваеш з-пад зубоў
нібыта арэх выратоўваеш
потым у святле прамянёў намацоўваеш джала
выдзіраеш яго з рыпеннем
скура крышыцца накшталт рафінаванага цукру
кідаеш якар
адчуваеш сябе ікарам
слухаеш грукат зубоў і колаў

лоўка лавіруеш

### *[ГРУКАТ ЦЯГНІКОВЫХ ЗУБОЎ № 2]*

калі слухаеш

рэквіем
справа
злева
пасярэдзіне
здаецца, што
п’яўка ўсмакталася
спераду
бярэш малаток
б’еш
ажно
грукоча як быццам
была ў вушах вата
быццам у падводнай лодцы
быццам з’еў грэцкіх арэхаў
выпіў гарбаты з мёдам
а ў роце смак горычы
магчыма ўчарашні ром
бомбы кідаеш
налева
направа
проста
усярэдзіну
штучны розум
гэта – не кампутар
гэта замбаваны суб’ект

сперадУ
справа
злева
дай у зубы
нагой
рукой
галавой па носе
лоб сакраментальны
паліраваны мармур
расколіны пабягуць няроўнымі лініямі
маланкамі будуць напластоўвацца па
ўсёй паверхні
бі – не бойся
лягчэй усё роўна не будзе
галоўнае паболей рашучасці
адмарозкі мне падабаюцца на
вяроўках пад сашчэпкамі ў
засоленым выглядзе
гэта нібыта падлешчыкі
добра будзе пад піва
левай
правай
батальён на маршы

*11 траўня 2014, Ворша – Менск*

* * *

кароль пакаціўся пад стол
як збітая пстрычкай шахматная фігура
пароль – прашаптаў шпіён
ён праглынуў пігулку ласкавай атруты
і сэрца шлёпала весела як роварны клаксон
прафесійны паэт скурчыўся і сплюнуў нервова
крывавая фігня
здавалася што
у сусвеце ровараў і светлафораў
святле фараў і ліхтарыкаў
нарадзіўся нехта гідкі і зубаты
маленькі і чорны
пішчасты і з вялікі вушамі
але з вялікім апетытам

з’есці мутанціка

* * *

расчыняю шурпаты дзедаў куфар
там – нечаканы ўзвод жабак

гэта маё непераможнае зялёнае войска братка
крок настройвае ўсіх скакаць у бочку і хлябтаць ром
выбух у мазгах са словам морг

таргавацца з мядузай Гаргонай
пра чысціню паводзінаў

* * *

іклы праразаюцца знянацку
у запыленым вагоне цягніка
ты глядзіш у матавае вакно
туды дзе імгенне таму неслася на цябе
трансфарматарная будка
там засталіся пяшчота і ласка
невымоўленых слоў
і згубленых думак

у руку ўпіваецца авадзень

* * *

навуковец праз мікрафон даводзіць ісціны
мікрафон вельмі бліскучы і нагадвае пісталет
студэнты каля сцяны нібы на расстрэле
голас вібруе і раскідвае сказы на кулі
што ёсць праўда?
можа гэта экзатычная садавіна?
з чым яе ядуць?
мікрафон ламаецца
навуковец нагадвае лупатую рыбіну
якая разяўляе рот патрабуючы вады

*Люблін, 12 верасня 2012*

* * *

Лю-блін – колькі таямнічасці ў гэтых складах
ці то любоў ці то блін?
бяру патэльню – разбіваю яйкі
яечня – блін – дарагі ты мой Люблін

* * *

аўтарытарныя рэжымы
дэмакратычныя рухі
ёсць пра што размаўляць палітыкам

* * *

пляма ў цэнтры карціны
крэсла як апошняя кропка ў жыцці літаратара
як апошняя кропля атраманту каля пісьмовага стала
не рыпяць рэбры клавіятуры
не свеціцца зімовае сонца манітора
у кватэры пасялілася восень
крэсла патанае ўжо ў чырвона-жоўтым лісці
як здзек з рэчаіснасці – на крэсле прытуліўся плоскі кавун
у рамане няма кульмінацыі – млява
перакочваюцца стрэлкі гадзінніка

Сяргей Абламейка



...Пакажы мне хоць аднаго калегу,
які сябе не лічыць геніем.
Можаш такога назваць?..

# Хронікі позняй РБ

***Два апавяданні з новай кнігі***

## Здарэнне на Дзяды

Маладыя пісьменнікі Ігнат Дварніцкі, Сяргей Ждановіч і Юрась Багданаў вырашылі на Дзяды ўшанаваць памяць папярэднікаў. Яны цудоўна ведалі, што ў гэты дзень найперш памінаюць сваіх сапраўдных дзядоў – крэўных. Так яны і рабілі штогод разам са сваякамі. Але паколькі два першыя былі ўжо досыць вядомымі празаікамі, а апошні – вядомым паэтам, яны вырашылі, што ў цяжкія для нашай літаратуры часы сёлета адступяцца ад звычаю, наведаюць нацыянальны пантэон – Усходнія могілкі, і зробяць сціплы грамадзянскі ўчынак – ускладуць кветкі на магілы ўсіх літаратараў, што пахаваныя ў тым некропалі.

Паводле выпушчанага ўжо даволі даўно праваднікамапы па тых могілках яны падлічылі колькасць магілаў, купілі адпаведную колькасць кветак і пад вечар 2 лістапада, нагружаныя бярэмямі букетаў, свечкамі і некалькімі

пляшкамі гарэлкі, вырушылі на старэнькім аўтамабілі Ждановіча ў горад. Спачатку заехалі на вайсковыя могілкі да Янкі Купалы і Якуба Коласа, пакланіліся песнярам і паклалі самыя вялікія букеты. А пасля накіраваліся на Усходнія могілкі.

Дарогаю гаварылі пра вялікую, на іх думку, несправядлівасць. У апошнія гады сітуацыя ў краіне склалася такая, што многія "літаратурныя дзяды" пахаваныя па-за межамі нацыянальнага некропалю: хто на Кальварыі, хто на сваёй радзіме, а хто і наогул на малавядомых прыгарадных кладах. І спрачаліся, ці варта ўсё ж некалі іх сабраць у адным месцы. Дварніцкі і Багданаў былі супраць, а Ждановіч палымяна адстойваў ідэю перапахавання ў сталіцы, каб можна было ў любы час усіх разам ушанаваць. "Вы што, не хацелі б сёння Багдановічу, Барадуліну, Танку, Брылю, Адамовічу, Адамчыку або Сысу кветкі на магілы ўскласці? – пытаўся ён. – А дзе ж яны? Іх тут няма". Але сябры казалі, што нельга парушаць апошняй волі, вунь, маўляў, Барадулін сам захацеў побач з маці ляжаць, Навуменку таксама да жонкі падхавалі. У адказ на такія пярэчанні Ждановіч яшчэ болей натурыўся і казаў, што ў іншых умовах усе нармальна захацелі б легчы на Усходніх могілках і нават з жонкамі.

Урэшце за спрэчкамі прыехалі. Вырашылі, што машыну пакінуць на паркоўцы каля метро, каб забраць раніцою, а на могілках спакойна пакладуць кветкі і без страху возьмуць чарку, не баючыся быць злоўленымі міліцыянтамі.

– Трэба не забыцца пра Анатоля Сербантовіча, мне казалі, што ягоная магіла недзе на левым ускрайку галоўнага сектару, дзе ляжаць пісьменнікі. На нашай мапе яго няма, – сказаў Ждановіч.

– Хто гэта? – Дварніцкі здзіўлена паглядзеў на Сяргея.

– Сорамна не ведаць папярэднікаў, браце, – замест Ждановіча адказаў Багданаў. – Вельмі таленавіты паэт, аўтар вянкоў санетаў. Загінуў у дваццаць восем гадоў пасля вулічнай бойкі, здаецца, у 1970 годзе...

– А-а, ну так, прыпамінаю, вы мне ўжо некалі пра яго расказвалі...

– Прыпамінаю... – перадражніў Багданаў, – ты вазьмі прачытай, які талент трагічна загублены. Два зборнікі выдаў пры жыцці, а пасля яшчэ адзін выйшаў, пасмяротны. Шмат абяцаў...

Прайшоўшы праз браму, сябры спыніліся, каб вырашыць, з чаго пачынаць абыход. У іхным спісе было больш за дваццаць пяць магілаў. Вырашылі накіравацца спачатку па цэнтральнай алеі да магілаў Петруся Броўкі і Пятра Глебкі, каб адтуль, па радах, пастулова абысці ўсіх астатніх на старой частцы могілак, а пасля спусціцца яшчэ на новую. Пры развілцы дарожак, не дайшоўшы якіх дваццаць метраў да Броўкі, Ждановіч спыніўся і паказаў сябрам на сціплы помнік, схаваны за туямі справа ад цэнтральнай алеі.

– Гэта магіла Усевалада Краўчанкі, галоўнага рэдактара "Бярозкі", дзіцячага пісьменніка. Дзясяткі кніжак выдаў чалавек. "Злачынства ля зялёнай тоні" або "Таямніца вугла альфа" – можа нехта чытаў ці хаця б чуў? Загадкава загінуў у 1961 годзе ў Канах, у Францыі. Нібыта выкінуўся з вакна. Сваякі ніколі не прызналі, што гэта было самагубства.

– Скуль ты ўсё ведаеш? – здзіўлены Дварніцкі накіраваўся да магілы пісьменніка.

– Я ж, апрача ўсяго іншага, гісторык паводле адукацыі. Ці ты забыўся? – Ждановіч паклаў кветкі на магілу Краўчанкі. – На во лепш запалі зніч. – Ён падаў Дварніцкаму свечку з жалезнай накрыўкай.

Каля магілы Краўчанкі хлопцы вырашылі адкаркаваць першую пляшку гарэлкі. Разлілі яе ў папяровыя кубачкі і перад тым, як выпіць, пажадалі, каб праўда пра Краўчанкаву смерць некалі адкрылася.

Перад шыкоўным помнікам Петрусю Броўку яны пастаялі даўжэй. Каменны Броўка сядзеў з вялікай годнасцю і вельмі інтэлігентна.

– Як на маю думку, дык паэт быў так сабе, – сказаў Ждановіч, – але яго асветная дзейнасць была беспрэцэдэнтнай. Ён стварыў беларускую Энцыклапедыю. І за гэта варты памяці ўсіх наступных пакаленняў.

– А “Александрына”? – спытаўся Багданаў. – Я чуў, што расейцы ў Сібіры дзяцей называлі Александрынамі пад уздзеяннем песні “Песняроў”...

– А што “Александрына”? – адказаў Ждановіч – Па-мойму, як верш таксама не надта ўдалы тэкст.

– Ну ведаеце, наконт густаў можна спрачацца, але чалавек быў добры. Прапаную падняць чарку і за яго. – Ігнат Дварніцкі разліў сябрам у кубачкі яшчэ па глытку гарэлкі.

– Сорамна прызнацца, – сказаў сябрам Ігнат, калі яны падышлі да магілы Пятра Глебкі. – Амаль нічога з Глебкі не чытаў.

– Ну дык прачытай хаця б гэты ягоны катрэн на помніку, – адказаў Ждановіч.

– *“Жывой паэзіі крыніца напоіць смагу маладых і будзе, светлая, бруіцца праз незлічоныя гады”*, – уголас прачытаў Дварніцкі. – Ага, дык ён быў нацыяналіст.

– Яны ўсе былі нацыяналісты, проста час быў такі, што маскіраваліся як маглі, у тым ліку і за казённымі радкамі пра інтэрнацыяналізм, камунізм і перамогу ў вайне.

– “Маладых – гады”, дрэнная рыфма. Каб я рэдагаваў гэты верш, – сказаў Юрась Багданаў, – я б напісаў інакш, напрыклад, так: “Жывой паэзіі крыніца напоіць род наш малады і будзе, светлая, бруіцца праз незлічоныя гады”.

– Слушна, так лепш. Але гэта ты так напісаў бы. А ён выбраў свой варыянт, я б сказаў, даволі бездапаможны ў сэнсе паэтыкі. Але зноў жа чалавек і патрыёт быў выдатны, дырэктарам акадэмічнага Інстытуту мовазнаўства працаваў, шмат чаго добрага зрабіў. Ягоная жонка, дарэчы, у часе вайны працавала дыктарам на беларускім радыё ў акупаваным Менску. Пасля Глебка яе ледзьве ад турмы ўратаваў. Таксама была нацыяналістка, прынцыпова толькі па-беларуску з усімі размаўляла.

– Чаму я на філфак пайшоў, а не на гістфак, як Ждановіч? – паўжартам уздыхнуў Дварніцкі.

– Тут, Ігнасю, не толькі ў гістфаку справа, але і ў маёй любові да мемуараў, – адказаў Ждановіч і павярнуўся да Юрася. – Я ў Валянціна Тараса ва ўспамінах чытаў, як ён, маладым супрацоўнікам літаратурнага аддзела “Звязды”, перарабіў вершы Петруся Броўкі і павёз іх у Каралішчавічы на зацвярджэнне. Броўка вершы ўзяў, вярнуў там усё, як было раней, і сказаў: “Вы, малады чалавек, лепш за мяне пішыце сам. А я буду пісаць так, як пішу я”. Добрая навука і Тарасу, і нам. Я наогул думаю, што нікога не трэба рэдагаваць, прынамсі рэдагаваць так, што аж перапісваць. Хай адразу будзе відаць, хто што сабой уяўляе. Далоў рэдактараў! Наперад аўтараў! Каб адразу было відаць, хто талент, а хто – не.

– Ну вось за гэта і вып’ем, а таксама за Глебку, – Ігнат Дварніцкі зноў наліў гарэлку ў папяровыя кубачкі.

Далей хлопцы накіраваліся назад, у дваццаць шосты сектар, дзе ляжала найболей беларускіх пісьменнікаў. Паклалі кветкі і запалілі свечкі на магілах Міхася Лынькова, Аркадзя Куляшова, Івана Мележа, Піліпа Пестрака і Андрэя Макаёнка. Усюды бралі чарку і слухалі Сяргея Ждановіча, які проста выпраменьваў ва ўсе бакі сваю эрудыцыю і гістарычныя веды, прычым не толькі пра падзеі мінулых гадоў, але і пра асабістае жыццё пісьменнікаў. Каля магілы Міхася Лынькова ён расказаў, што пісьменнік да маладых калегаў заўсёды звяртаўся словам "уюнаш", што ён быў зацятым фатографам і вялікім аматарам матацыклаў, заўсёды без праблема пазычаў свайго "Іжа" маладым калегам пакатацца. Каля магілы Мележа Сяргей расказаў, што той першыя публікацыі падпісваў псеўданімам "Мелеш", змяніўшы ўсяго адну літару ў сваім прозвішчы, а таксама пра тое, які гэта быў мужны чалавек: за два дні да смерці абзвоньваў сяброў і жартаваў, не прызнаючыся, што ляжыць у бальніцы. Каля магілы Макаёнка ён расказаў, як той развёўся з жонкай і пабраўся шлюбам з медсястрой, што яго лячыла. Каля магілы Аркадзя Куляшова пасля таго, як Юрась доўга чытаў урывак з куляшоўскай паэмы "Хамуціус", прысвечанай Кастусю Каліноўскаму, Сяргей расказаў, як Куляшоў хаваўся ў будынку пошты ад пастарэлай гераіні свайго геніяльнага верша "Алеся", да якой прыехаў на сустрэчу пасля атрымання ад яе ліста, а ўбачыўшы старую і непрыгожую жанчыну, спалохаўся і ўцёк. Зрэшты, пасля сумленне перамагло, ён вярнуўся і прабавіў з ёй і яе дзецьмі пару гадзінаў, нават за Быхаў на пікнік з'ездзіў. Пасля казаў сябрам, што яна для яго тады памерла. А каля магілы Піліпа Пестрака Сяргей паведаміў, што гэты пісьменнік адзінаццаць гадоў правёў у польскіх турмах, а пасля 1939 года два гады працаваў старшынёй Беластоцкага аддзялення Саюзу пісьменнікаў БССР, нагадваючы сябрам, што ў тыя часы Беласток быў часткай БССР...

Тым часам пачало змяркацца. Хлопцы зразумелі, што не надта разлічылі час, і пачалі спяшацца. Па шэрагу, у якім ляжаў Піліп Пестрак, яны праз зарасці прадраліся на іншы бок сектара. Дварніцкі і Багданаў гучна абураліся зусім не цывілізаваным станам могілак – помнікі размешчаныя цесна, ніхто не высякае хмызы, не косіць траву. На другім баку адшукалі магілу Анатоля Сербантовіча, паклалі кветкі, выпілі і вырашылі стварыць у інтэрнэце яго асабісты сайт з усімі вершамі і вянкамі санетаў. Пасля хутка паклалі кветкі і выпілі каля магілаў Еўдакіі Лось, Алеся Бачылы і Анатоля Грачанікава, а тады сталі прабірацца да магілы Яўгеніі Янішчыц. Гэта было апошняе, што з таго вечара ясна запомніў Сяргей Ждановіч. Да помніка Янішчыц яны дабраліся на добрым падпітку. Адтуль ужо быў відаць камень на магіле Уладзімера Караткевіча, для якога ў іх быў падрыхтаваны вялікі букет, як і для Васіля Быкава. Каля магілы Яўгеніі Янішчыц Юрась Багданаў зноў чытаў яе вершы, а Сяргей Ждановіч называў паэтку геніяльнай, расказваў, як яна выкінулася з вакна і казаў, што паводле чутак, прычынай было складанае каханне да мужа, таксама паэта Сяргея Панізніка. Пасля п'яныя сябрукі накіраваліся да магілы Уладзімера Караткевіча і... больш нічога Сяргею не запомнілася.

...Ён апрытомнеў ад холаду. Агледзеўшыся, Ждановіч зразумеў, што ляжыць паміж магілай Караткевіча і лавачкай каля яе. Сяброў не было. Значыць, яны сп'янелі так, што пакінулі яго тут. Фантастыка! Добра, што лістапад выдаўся цёплы, было ніяк не менш за дзесяць градусаў цяпла, але ён усё роўна змёрз, і не дзіва – ляжаў на голай зямлі ў асенняй кур-

тачцы. А дзе ж вы цяпер самі, ёлупні, – пакрыўджана падумаў ён пра сябрукоў і пачаў уставаць. Галава кружылася, яго хістала ва ўсе бакі. Сяргей паглядзеў на гадзіннік – каля паловы на дванаццатую. Ноч была хмарнаю, зоры свяцілі мала, месяца амаль не было відаць. Прастора вакол, здавалася, набрыняла вусцішам, нават жудасцю. Помнікі і каменныя твары нябожчыкаў цяпер чамусьці палохалі, і ад іх хацелася адвярнуцца, але не было куды – яны паўставалі з усіх бакоў. Сяргей, з цяжкасцю арыентуючыся, пачаў прабірацца да левай ад галоўнага сектару алеі, пасля пайшоў па ёй і павярнуў перад алеяй ганаровых грамадзянаў да галоўнага ўваходу на могілкі і раптам спалохана замёр. Ён пачуў прыглушаныя галасы, а затым і ўбачыў сярод сасновых камлёў нешта нечуванае. За доўгім сталом сярод соснаў сядзелі беларускія пісьменнікі, пахаваныя на гэтых могілках: Кандрат Крапіва, Іван Мележ, Міхась Лынькоў, Пілiп Пестрак, Пятро Глебка, Пятрусь Броўка, Янка Маўр, Уладзімер Караткевіч, Пімен Панчанка, Васіль Быкаў, Іван Шамякін, Фёдар Янкоўскі, Барыс Сачанка, Усевалад Краўчанка, Іван Чыгрынаў, Генадзь Бураўкін і яшчэ з дзясятак іншых. Некаторых Сяргей нават не ведаў у твар, але дзіўным чынам разумеў, хто гэта. Таксама ён раптам зразумеў, што чуе адначасова і агульную размову, і перашэпты паміж сабой асобных яе ўдзельнікаў.

З размовы вынікала, што перад тым, як да пісьменнікаў падышоў Сяргей, яны абмяркоўвалі нейкую тэму, звязаную з гісторыяй і яе важнасцю для кожнага народа. Цяпер тая размова згасала, сталі гаварыць хто пра што, але да хлопца яшчэ даносілася водгулле і гістарычнай тэмы.

Вось Пілiп Пестрак павярнуўся да свайго суседа Анатоля Грачанікава:

– Ведаеш, Анатоль, як палякі шанавалі гісторыю? Нам тут ёсць чаму павучыцца. Даходзіла да таго, што яны гарадамі называлі паселішчы, якія на горад зусім не цягнулі, але мелі слаўную гісторыю. Галоўным прынцыпам быў не вытворча-эканамічны, а гістарычны. Вось да вайны наша мястэчка Косава было амаль вёскай: палова дробных гандляроў, палова сялянаў, а яны яго зрабілі аж павятовым горадам. Чаму? Таму што ў ім Тадэвуш Касцюшка нарадзіўся. Або вось Слонім тады быў ужо даволі вялікім горадам, а яны зусім невялічкі гарадок Наваградак зрабілі цэнтрам Ваяводства. Зноў пайшлі па гістарычным прынцыпе – Наваградак меў слаўную гісторыі, і, галоўнае, там Адам Міцкевіч нарадзіўся...

– Маеце рацыю, Пілiп Сямёнавіч, – адказаў Грачанікаў, – гісторыю трэба шанаваць і ведаць, тады і народ будзе моцны. Прычым не толькі даўнюю гісторыю. Хай напіша з паплечнікамі і пра наш пасляваенны час, там таксама ёсць шмат таго, што дапаможа ўсвядоміцца. Я вось калі першым сакратарам Гомельскага гаркама камсамолу працаваў, з калегамі па-беларуску размаўляў. Дый не дзіва гэта было: беларускі паэт – гарадскі важак камсамолу... А што цяперашні саюз моладзі? Цьфу на іх...

Васіль Быкаў сядзеў моўчкі, склаўшы рукі на каленях і з нібыта незадаволеным, насупленым тварам. Сяргей чытаў, што гэтая суровасць пісьменніка была праявай яго задуменнасці, насамрэч гэта быў інтэлігентны і ветлівы чалавек. Быкаў тым часам ціха сказаў Уладзімеру Караткевічу:

– Як думаеш, можа я памыляўся, калі казаў, што беларусы ўжо спазніліся на свой цягнік? Нешта не падобна, каб нацыянальнае памірала. Цяпер, гляджу, у Еўропе ідзе ажыўленне і нацыянальных, і незалежніцкіх рухаў... Толькі што ж рабіць з нашай прарускасцю, другаснасцю? Можа ён гэтае таўро змые? Як думаеш?

– Думаю, стары, мы ўсё правільна выраашылі. Ён зможа, – адказаў Караткевіч і паляпаў Быкава па плячы.

Іншыя пісьменнікі размаўлялі паміж сабой на самыя розныя тэмы, нават асабістыя. Пераважна гаварылі з тымі, хто да каго бліжэй сядзеў. Вось Усевалад Краўчанка нахіліўся да Івана Шамякіна і сказаў:

– Я гляджу, там твае дзённікі і ўспаміны памалу публікуюцца. Што ж ты ўзяў ды напісаў, што я на пазычанай у цябе машыне замест роднай вёскі на Гомельшчыне да Чорнага мора на тры дні ездзіў? Ты б хоць кіламетры на спідометры падлічыў і час – гэта ж зусім немагчыма. Значыцца, так і не дараваў ты мне той выбіты зуб, крыўда на трыццаць гадоў засталася.

– Я ўжо, Сева, не крыўдую на цябе за той зуб, далібог. Ну бывае, пабіліся суседзі па кватэрах. Але ж мая Маша, дый я сам, тваю Дусю і дзетак добра падтрымлівалі пасля твайго заўчаснага сыходу, дапамагалі. Я да Волі як да сваёй Алесі ставіўся, ухваліў яе на ролю ў экранізацыі “Атлантаў і карыятыдаў”...

– Ведаю, Ваня, ведаю. Дзякуй табе за гэта. Мы ж былі сябры і засталіся. Што ўжо цяпер казаць. Даруй ты мне за той зуб, даруй, яшчэ раз прашу.

– Я і кажу, усё ўжо, усё, што тут успамінаць. А што там напісалася, дык гэта, відаць, мае недарэчныя падазрэнні як гаспадара машыны праявіліся. Можна было гэта і не друкаваць... Згаджаюся, не надта прыстойна атрымалася.

Сяргей уражана глядзеў на пісьменнікаў. Краўчанка ў бойцы выбіў Шамякіну зуб? Фантастыка!

А тым часам Кандрат Крапіва гучна наракаў, што яшчэ і дагэтуль знаходзяцца людзі, якія не прызнаюць за прыназоўнікам “аб” права на існаванне ў беларускай мове, толькі ім “пра” падавай і ўсё тут:

– І гэты Вячорка вынайшаўся такі. Як якая кніга да яго на рэдагаванне трапляе, дык гарачым жалезам выпальвае ўсе “аб”, толькі “пра” пакідае. А як жа быць з багаццем мовы, з эстэтыкай, музыкай мовы, з густам і стылем? Як быць з паэзіяй, пытаю я вас? Навошта я пісаў адмысловы артыкул аб гэтым?

– Але ведаеце, Кандрат Кандратавіч, тут не ўсё так адназначна. Здаецца, тут Вячорку варта падтрымаць. – Запярэчыў Крапіву Фёдар Янкоўскі. – Я вось у сваіх кнігах таксама стараўся пазбягаць гэтага “аб”. Надта ж ужо не па-нашаму гучыць гэты прыназоўнік з мясцовым склонам...

– Ай, Фёдар, кінь ты свой пурызм. Як тады быць з народнай прыказкай “Як аб табе чуюць, так аб табе і мяркуюць”? А што рабіць з Купалавай “Спадчынай”: “Аб ёй мне баюць казкі-сны...”?

– Ну, ніхто не сказаў, што ў Купалы была мова дасканалая, – запярэчыў быў Янкоўскі, але пасля махнуў рукой. – Зрэшты згаджаюся, людзей не пераробіш. Не хочуць быць пісьменнымі дый годзе... Я вось такія перлінкі адшукваў, напрыклад, “Летняя ноч як зайцаў хвост”, у сэнсе, світанне блізка. Ніхто ні разу не паўтарыў, не скарыстаўся... Або вунь Янка Скрыган... Колькі сілаў паклаў чалавек, каб правільна пісалі і гаварылі? Дзёўб і дзёўб: драбяза, драбяза, драбяза, а ні ў якім выпадку не “дробязі”. Не, як пісалі “дробязей”, так і пішуць... Бяда...

Далей Сяргей пачуў, як Пятро Глебка прашаптаў свайму сябру Пятрусю Броўку:

– Глядзі ты, Янкоўскі Крапіву Кандратам Кандратавічам назваў, а той ніякай увагі... А раней, ты памятаеш, як патрабаваў ад усіх, каб яго

Кандарацієм Кандрацьевічам называлі? Памятаеш, як у слоўніку русафільстваваў са сваімі "карандашамі" і "белкамі"? Здаецца, "карандаш" нават у Тлумачальны шасцітамовік праскочыў...

– Ат, што ты кпіш, Пятро, што ты кпіш... Ты ж ведаеш, час быў такі, лінія была такая, – адказаў Броўка. – Дзякуй Богу, што мы выжылі, усяго некалькі чалавек...

Сяргей не мог паверыць сваім вачам. Што адбываецца? Няўжо ён трызніць? Ушчыкнуў сябе за руку – баліць, значыцца не сон гэта, не трызненне, не спіць ён. Ударыў галавой аб сасновы камель – тое самае, аж уваччу зоры заскакалі. Раптам недзе справа пачуліся крокі. Да пісьменніцкага стала, што стаяў перад апошнім па часе шэрагам магілаў ганаровых грамадзянаў, ішоў міліцыянт-ахоўнік. Сяргей схаваўся за сасну. Вось міліцыянт наблізіўся да стала, ніяк не выяўляючы, што ён нешта чуе ці бачыць. Вось ён прайшоў праз стол літаратурных дзядоў і пакрочыў сабе далей абыходзіць могілкі па дарожцы нумар трыццаць злева ад трыццаць шостага сектару. Толькі тут Сяргей звярнуў увагу, што пісьменнікі былі не тое што прывіды, але так... троху прывідныя. Іхнія абрысы мелі контуры, якія болей свяціліся ў параўнанні з сярэдзінай целаў і часам здавалася, што скрозь іх можна нешта ўбачыць. Але агулам усе былі як жывыя. Ну дык яны і ёсць жывыя, – сказаў сабе Сяргей і яшчэ раз ушчыкнуў сябе за левую руку. Зноў забалела.

Тым часам гутарка за доўгім сталом працягвалася. Янка Маўр і Усевалад Краўчанка наракалі на суцэльны заняпад дзіцячай літаратуры. Краўчанка казаў:

– Ніхто не разумее, што каб было цікава, трэба не для дзяцей пісаць, а пра дзяцей. Яны не дурнейшыя за нас. Вось калі табе самому, пішучы твор, будзе цікава, тады будзе цікава і для дзетак...

Пімен Панчанка раздражнёна гаварыў пра агульнапалітычную сітуацыю ў краіне, якая не спрыяе ні нацыянальнай культуры, ні культуры наогул:

– Што ж мы самі галаву ў пятлю ўкладаем? Навошта? Не веру, што чынавенства не разумее, не веру. Шмат там прыстойных людзей, вельмі шмат.

– Гэта праўда, – падтрымаў яго Броўка, – маеш рацыю, Пімен. Але ўсё ж ідзе ад галавы. Ты памятаеш Пятра Міронавіча, які быў чалавек, які дзяяч, нацыянальны герой! Я ўсё не забуду, як мы Энцыклапедыю пачыналі, было нас тры чалавекі – я, Петрашкевіч і бухгалтарка. Неяк нам у пакойчыку адзіны тэлефон намеснік кіраўніка справамі Акадэміі абрэзаў, маўляў, Броўка абыдзецца. Не гуманітарны быў чалавек, гаспадарнік. А ў той дзень мяне якраз Машэраў шукаў. Дык памочнік прэзідэнта Акадэміі навук пешкі бегаў мяне паклікаць. Я тады ўсё ж спазніўся да Першага. Машэраў доўга рагатаў і паставіў мне ўрадавую сувязь, "вяртушку", каб да яе ніхто дакрануцца не смеў... Так ён шанаваў культуру, не тое што цяпер...

– Але і ідэалізаваць яго не варта, Пятро Усцінавіч, – далучыўся да размовы Барыс Сачанка, – школы вунь беларускія якраз пры ім у гарадах усе пазачынялі, мову занядбаў...

– Так, пазачынялі, але зноў кажу, час быў такі, такая лінія, не ўсё ад яго залежала. А што мог, тое рабіў...

– Я тут, стары, падтрымаю Пятра Усцінавіча, – сказаў Уладзімер Караткевіч Барысу Сачанку. – Час быў цяжкі, месцамі жахлівы. Не мы ж былі гаспадарамі ў сваёй рэспубліцы. Машэраў быў другі пасля Мазурава

беларус, як памятаеш. Усе, што былі да іх, – былі чужакамі, прыхаднямі. Сапраўды, Нямігу пры ім разбурылі, не хапіла сілаў абараніць, а яму культуры – зразумець. Але вось калі ўжо Верхні горад ратавалі, тады ён нас з Гаўрылам Вашчанкам і Алесем Петрашкевічам паслухаўся. А так, кватэры пісьменнікам даваў, часопісы новыя літаратурныя засноўваў, тэлебачанне... Вунь Генадзь лепш ведае, побач з ім быў у ЦК, – Караткевіч паказаў на Генадзя Бураўкіна.

– Слушна Валодзя кажа. Ён быў у шмат чым паднявольны чалавек, рабіў што мог. Тэлебачанне беларускае мы з Валянцінам Блакітам толькі дзякуючы яму агаралі, толькі дзякуючы яму. З цяперашняй сітуацыяй наогул няма параўнання, – адказаў Бураўкін.

Слухаючы гэтыя размовы, Сяргей звярнуў увагу, што пісьменнікі неяк нецярпліва азіраюцца вакол, часам паглядаюць на неба ці пачынаюць углядацца ў прагалы паміж соснамі, нібыта некага чакаюць. Ён паглядзеў на гадзіннік: за пяць хвілінаў мелася наступіць дванаццатая гадзіна. Відаць, сапраўды некага ці нечага чакаюць, сказаў ён сабе. Так і сталася. Праз хвіліну ён пачуў ціхія крокі і такія ж ціхія галасы. Ён павярнуўся ў бок левага кута могілак і аслупянеў. Нават у гэтай нерэальнай фантасмагорыі, якая з ім адбывалася, паверыць у тое, што ён бачыў, было цяжка. Паміж соснаў павольна ішлі Янка Купала і Якуб Колас. Сяргей заплакаў... Ніколі не мог ён, хлопец з менскай ускраіны, нават марыць пра тое, што цяпер бачыць наяве – жывых песняроў! За што ж яму гэта? За што?.. Слёзы цяклі па шчоках, горла сціснула сутарга, ён баяўся, што ад замілавання і радасці зарыдае ўголас.

Купала з Коласам, абодва з кавенькамі, тым часам наблізіліся да зборышча літаратурных дзядоў. Пісьменнікі ўсталі і радасна схілілі галовы, вітаючы класікаў. Тыя абодва селі побач на чале стала, і Колас сказаў:

– Вітаем вас, хлопцы. Вы ведаеце, што мы з Янкам ніколі не варагавалі і ніколі не канкуравалі. Я любіў яго, ён мяне. Так, Янка?

– Так, Каласок, – адказаў Купала. А Колас працягваў:

– І шанавалі творчасць адзін аднаго. Па-за межамі нашай рэспублікі нас нават блыталі і аб'ядноўвалі ў адно цэлае. І ў гэтым была праўда і рацыя. Мы сапраўды адзін аднаго дапаўнялі, і нас нельга раздзяліць. Некалі я пра гэта нават паспеў надыктаваць майму літаратурнаму сакратару Максіму Лужаніну-Каратаю. Таму мы не выпярэджваем адзін аднаго, і на нашай штогадовай бяседзе на Дзяды рэй вядзем па чарзе – адзін раз Янка, другі раз я. Сёлета мая радоўка. Можам пачынаць.

Пісьменнікі запляскалі і селі. Колас сказаў:

– Усё горай ідэалагічная сітуацыя ў краіне, і ўсё горай робіцца становішча нашай мовы і культуры. Як ведаеце, я перад смерцю ў 1956 годзе тры лісты ў ЦК пісаў – пра патрэбу выхавання моладзі, якая тады была дашчэнту крыміналізаваная, пра патрэбу догляду за могілкамі, на якіх тады шмат дзе нават агароджы не было і каровы свабодна пасвілі, а трэці ліст быў пра бядотны стан нашай мовы. Ды цяпер вось Міхась Мушынскі выдаў на тысячу старонак храналогію майго жыцця, дык там у апошнія дні нічога пра гэтыя лісты не згадваецца. Вось да чаго дайшло! Зноў мінуўшчыну ад нашага народа хаваюць, зноў яе перарабляюць на чарговы ідэалагічны капыл. Думаю, наспеў час прымяніць і нашу сілу, якую мы маем на нашай спрадвечнай радзіме, як Дзяды. Летась мы з вамі вагаліся, чакалі што само нешта зменіцца, што людзі ў вярхах адумаюцца, можа,

сумленне загаворыць, але цяпер бачым, нічога не мяняецца. Толькі горш робіцца. Хіба ўжо чакаць далей не будзем, га? Што думаеце?

З усіх канцоў стала пачуліся выгукі:

– Так, дзядзька Колас, хопіць ужо чакаць, час дзейнічаць.

– Мае рацыю Канстанцін Міхайлавіч, мае.

– Хопіць чакаць, да справы!

– Не вагаймася, брацця, хопіць!

Колас рукой спыніў выгукі:

– Што ж, бачу, думка ў нас адзіная. Яно і добра, бо адказнасць вялікая. Раз на сто гадоў можам умяшацца ў ходу падзеяў на тым свеце, толькі адзін раз на стагоддзе. Мінулы раз перад 1918 годам дзяды-магнаты да аднаўлення дзяржаўнасці народ падштурхнулі, цяпер вось наша чарга – мову і літаратуру ратаваць трэба. Дык памагай нам Бог! Ці вы ўжо вырашылі, які талент пусцім у свет, якога кшталту? Што для народа цяпер больш патрэбна?

У адказ на словы Коласа ўсе павярнуліся да Уладзімера Караткевіча. Ён устаў і сказаў:

– Так, дзядзька Колас, мы ўжо вырашылі. Гадзіну да вашага прыходу спрачаліся. Думалі, можа, прарока паслаць, песняра. Вырашылі, што не час цяпер, іншая эпоха. Пасля спрачаліся, паэтычны талент патрэбны ці празаічны? Зноў жа вершы цяпер не ў пашане. Схіліліся да прозы. Тады паўстала пытанне, якога празаіка лепш народу дамо – рэаліста, мадэрніста, фантаста. Спрачаліся доўга і вырашылі, што народу патрэбны яшчэ адзін пісьменнік такога кшталту, як я. Каб і гістарычныя, і фантастычныя, і дэтэктыўныя рэчы пісаў. Я ў свой час не паспеў справу давесці да канца. Дурны быў, рана адтуль пайшоў, не вытрымаў ціску сістэмы... А мы падумалі, што ўсё ж народ наш яшчэ да канца не сфармаваны, а цяпер у свеце назіраецца новае ажыўленне нацыянальных рухаў, якія заўсёды на гістарычную памяць абапіраюцца. Так што вырашылі пусціць туды майго наступніка.

– Што ты скажаш, Янка? – Колас паглядзеў на Купалу.

– А што тут казаць, Уладзімер мае рацыю. Слушна браты вырашылі. Асвядомліваць нашых людзей трэба. Мая згода ёсць.

– Дзякуй, Янка. Я таксама згаджаюся. Ёсць нехта супраць? – Колас абвёў вачыма прысутных. Усе маўчалі.

– Ну што ж, хай так будзе, пойдзем на гэта. Ён тут?

Караткевіч усміхнуўся і паказаў на сасну, за якой хаваўся Сяргей Ждановіч:

– Вунь за сасной хаваецца і шчыкае сябе за руку, не верыць, што нас бачыць.

Сяргей з жахам зразумеў, што Караткевіч кажа пра яго. Капец!! Яны ведаюць, што ён тут! Пісьменнік тым часам выйшаў з-за стала і падышоў да сасны, за якой, бокам прыткнуўшыся да яе, стаяў Сяргей:

– Давай, хлопча, выходзь. Хопіць ужо хавацца.

У Сяргея цела як працяло токам. Ён здранцвела выйшаў з-за сасны і недарэчна вымавіў:

– Вы гэта мне кажаце, Уладзімер Сямёнавіч?

– А да каго ж яшчэ, стары. Хіба ты тут не адзін?

– Адзін.

– Ну то хадзем да нас.

Караткевіч падаў яму руку. Сяргей, унутрана здрыгануўшыся, паціснуў яе сваёй спацелай даланёю і са здзіўленнем адчуў, што ў паўпразрыстага Караткевіча рука аб'ёмная, датыкальная і цёплая. Яны разам падышлі да стала, і Караткевіч застаўся стаяць каля Сяргея. Колас паглядзеў на Купалу:

– Скажы ты, Янка.

Купала ўзняўся з месца і загаварыў:

– Вось што я табе скажу ад усіх нас, дружа. Ты бачыш, што народ наш не хоча сыходзіць са свету. Дужа неспрыяльныя гістарычныя абставіны яму выпалі. Бог нас каля арды пасяліў, ніяк яна не пакіне нас у спакоі. Мы змагаемся, і ў гэтым змаганні за вякі губляем тэрыторыю і колькасць. Нас магло быць ужо ў чатыры разы болей, і зямлі мы маглі мець у два разы болей, але не спрыяе лёс. Затое спрыяюць нябёсы, бо народ яшчэ жыве, і вось вы, маладыя, далей пішаце, народ вас з апошніх сілаў вылучае наперад і вылучае. Але цяпер на радзіме цяжкая сітуацыя, шмат чаго з нашых часоў паўтараецца, сёння зноў адны Зносакі вакол, адны Зносакі... І мы вось вырашылі свой шанц адзіны на стагоддзе скарыстаць і выбралі цябе. Слухай уважліва. Тваё веды і твой талент абралі цябе, ты сам сябе выбраў. Мы толькі канстатуем тое, што ёсць. Ты ўжо амаль усё маеш, а мы падштурхнем цябе адсюль тым, чым можам – сваёй агульнай сілай. І будзе добра, не сумнявайся і не бойся. Ты напішаш шмат добрых кніжак, людзі будуць цябе любіць, з тваіх кніг пачнецца новы час для літаратуры і культуры нашай. Але мусіш вытрымаць выпрабаванне славаю, чуеш? Мусіш зрачыся алкаголю і толькі працаваць. І дамо табе яшчэ адну сілу. Каго з калегаў і паплечнікаў выбераш сабе ў сябры, тыя таксама будуць валодаць уладай над людскім розумам і сэрцамі. Гэта будзе тваё пакаленне. І разам вы ўсе станеце пачынальнікамі новага часу для нашай літаратуры і нашага народу. Разумееш? Вялікая адказнасць на табе. Ну а мы тут, дзяды, будзем цябе і ўсё вашае пакаленне ад усякага ліха ахоўваць, у тым ліку і ад такога, што са мной і вунь, з Усеваладам здарылася...

Кажучы гэта, Купала паглядзеў на Усевалада Краўчанку, а Сяргея працяла нечаканая здагадка: няўжо іх абодвух сапраўды забілі, аднаго ў лесвічны пралёт у Маскве скінулі, а другога – з вакна гатэлю ў Канах? Нібы адказваючы на яго маўклівае пытанне, Усевалад Краўчанка здагадку пацвердзіў:

– Так, Іван Дамінікавіч, гэтая поскудзь заўсёды за намі па слядах хадзіла, і за нашай моладдзю цяпер з бруднымі рукамі ходзіць...

Купала зноў загаварыў да Сяргея:

– Ды што, хлопча... Разумееш? Згаджаешся?

Амаль губляючы прытомнасць ад хвалявання і калоцячыся ўсім целам, Сяргей адказаў:

– Так, згаджаюся.

Янка Купала паглядзеў на Коласа і сеў. Якуб Колас махнуў рукой, усе пісьменнікі нахілілі галовы долу і пасядзелі так з паўхвіліны, ці то медытуючы, ці то канцэнтруючыся. Пасля ўсталі і падышлі да Сяргея з Караткевічам. Кожны паціснуў Ждановічу руку, нават жанчыны – Еўдакія Лось і Яўгенія Янішчыц, усе прыязна ўсміхаліся і падбадзёрвалі яго – хто паляпваннем па плячы, а хто добрым словам. Сяргея асабліва ўразілі словы Фёдара Янкоўскага, які сказаў яму дакладна такое:

– Праз паўгода сустрэнешся з дзяўчынай. Яна стане тваёй жонкай. Яе бацька ў сваёй бібліятэцы мае ўсе да адной мае кнігі. Прачытай іх уважліва. Гэта табе вельмі дапаможа. Абяцаеш? Яе будуць зваць Каця.

Амаль губляючы сувязь з рэальнасцю – дый дзе яна, тая рэальнасць, раптам падумалася яму, – Сяргей згодна захітаў галавой:

– Так, абяцаю.

Пасля прывітанняў і віншаванняў Караткевіч папрасіў Ждановіча стаць на калені і ўсклаў яму на галаву далонь правай рукі. На яго плечы паклалі рукі Купала з Коласам, а на іх – астатнія, выстраіўшыся адно за адным у ланцуг. Колас адлічыў “Адзін, два, тры”, і ўслед за гэтым уся грамада дружна выгукнула амаль трыма дзясяткамі галасоў:

– Хочам, даем, хай будзе!!!

Ад нечаканасці Сяргей прымружыўся, а калі расплюшчыў вочы, вакол нікога не было. Пісьменнікі зніклі. Сяргей устаў з каленяў, ашалела азірнуўся, яшчэ адчуваючы на галаве цяпло ад далоні Караткевіча. Нішто вакол не нагадвала пра дзейства, якое толькі што тут адбывалася. На зацягнутым хмарамі начным небе з’явіліся прагалы, адтуль нясмела пачалі мільгацець зоры і выступіў месяц, стала святлей. Сяргей пастаяў яшчэ некалькі хвілінаў, паглядзеў сабе пад ногі, пасля туды, дзе стаяў стол. Успомніў басавіты голас Янкі Купалы і тое, пра што ён яму сказаў... Зноў сэрца сцялася ад замілавання, і вочы зрабіліся вільготнымі. Божа, ён бачыў Купалу і Коласа, цiснуў руку самому Караткевічу! Бацька расказваў, што яны некалі штогод збіраліся на Караткевіцкай магіле 26 лістапада, у дзень ягонага нараджэння, а тут Караткевіч сам хлопцу паціснуў руку... Сяргей атрос галавой і накіраваўся да ўваходнай брамы могілак. Пасля спыніўся, падумаў і пакрочыў у іншы бок. Там ён пералез праз мураваную агароджу.

Назаўтра Сяргей даведаўся, што хлопцы не захацелі яго валачы да магілы Васіля Быкава ад Караткевіча, дзе ён знепрытомнеў. Вырашылі пакласці Быкаву кветкі самі, а тады забраць Сяргея. Каля магілы Васіля Быкава іх, аднак, ушчэнт п’яных, пераняла ахова могілак і адвезла ў пастарунак. Адпусцілі хлопцаў толькі пад раніцу.

Праз год Ігнат Дварніцкі паступіў на завочнае аддзяленне гістарычнага факультэта БДУ і заняўся расследаваннем лёсаў беларускіх пісьменнікаў, у тым ліку Янкі Купалы і Усевалада Краўчанкі, каб пісаць дакументальныя дэтэктывы. А Юрась Багданаў стаў набіраць паэтычную сілу, робячыся ўсё больш папулярным сярод моладзі паэтам-перформерам.

Праз два гады Беларусь скаланула даўно не чутая сенсацыя. У кнігарнях, упершыню за шмат гадоў, стаялі чэргі па новы гістарычны раман Сяргея Ждановіча “Белы замак Смалянскі”. Раман быў вострасюжэтным дэтэктывам, у якім перапляталіся падзеі часоў Аршанскай бітвы 1514 года, а таксама падзеі XVII-XVIII стагоддзяў і нашага часу. Ажыятаж быў надзвычайны. Давялося друкаваць новы наклад папяровай кнігі, выпускаць электронную версію і змагацца з пірацкімі копіямі ў інтэрнэце. У чэргах каля менскіх кнігарняў былі заўважаныя нават ідэолагі менскіх райвыканкамаў.

## Гісторыя поспеху

Актор галоўнага драматычнага тэатра краіны Віктар Тулупчык, невысокі таўставаты чалавек сярэдняга веку з выпуклымі вачыма і напалову сівымі вусамі, апрытомнеў на падлозе сваёй грымёркі каля крэсла, на

якім толькі што сядзеў. Шок, які ён зазнаў перад тым, як самлець, яшчэ не мінуў, сэрца ў грудзях моцна калацілася і дыхаць было цяжка. Віктар спадзяваўся, што гэтае дзікае здарэнне яму толькі прымроілася – проста ёнператаміўся і занадта шмат учора выпіў. Рэальнасць аднак была іншаю.

– Ну што, Віця, апрытомнеў?

Вялізарны шэры кот сядзеў на тым самым месцы, дзе і раней – у куце за канапай. Калі хвіліну таму ён ветліва кашлянуў некалькі разоў, па-чалавечы прыкрыўшы лапай пашчу, а пасля і павітаўся з Віктарам нізкім мужчынскім голасам, актор страціў прытомнасць і зваліўся з крэсла перад сталом, за якім сядзеў, змываючы грым пасля спектакля.

– Хто вы такі? – хрыпла і спалохана спытаўся Віктар, устаючы з падлогі.

– Я кот.

– Які ж вы кот, калі гаворыце чалавечым голасам? – Віктар з сілаю сціснуў сабе мочку вуха, спадзеючыся, што насланнё мінецца.

– Ну гэта праўда, я не зусім звычайны кот, – адказала шэрая істота, самазадаволена аблізваючыся, – я, у пэўнай ступені, дух гэтага тэатра. Я апякуюся талентамі і па спадчыне перадаю эстафэту поспеху.

– Што, што? – уражана перапытаў Віктар. – Вы дух тэатра? Ахова! Хутчэй сюды! Ахова! – раптам зароў ён.

– Спакойна, Віктар. Ніхто не прыйдзе. Я часова ізаляваў тваю грымёрку ў прасторы і часе. Ты ў капсуле бясчасся. Толькі так чалавек можа кантактаваць са мной, а я з ім.

– Госпадзе памілуй! – Віктар перажагнаўся. – За што мне ўсё гэта? Што я вам зрабіў дрэннага? – звярнуўся ён да ката.

– Спакойна, Віця, спакойна. Нічога ты мне не зрабіў дрэннага. Я ж кажу табе, я – дух гэтага тэатра. Мой клопат палягае ў тым, каб тэатр быў заўсёды папулярны, а ўсе месцы ў глядацкай зале былі запоўненыя. Для гэтага я дапільноўваю, каб у складзе трупы заўсёды была патрэбная колькасць актораў розных амплуа, здольных абслугоўваць увесь рэпертуар і яго абнаўленне. Таксама я дбаю пра сталую наяўнасць у трупе пэўнай колькасці талентаў нацыянальнага маштабу. Вось і ўсё.

– Але ад мяне што вы хочаце?

Віктара па-ранейшаму калаціла. Ён пайшоў да дзвярэй, але яны былі зачыненыя і замок не паддаваўся ягоным спробам павярнуць ручку. Віктар падышоў да вакна і раптам зразумеў, што гэта не вакно, але яго муляж на сцяне. Божачкі, дзе ж ён? Куды ён трапіў і што за пачвара з ім размаўляе? Можа ў яго белая гарачка, можа ён спіць?

– Ніякай белай гарачкі ў цябе няма і ты не спіш, – сказаў кот Віктару. – Не мітусіся. Сядай на крэсла і паслухай мяне. Я твой сябар.

Віктар з жахам зразумеў, што кот чытае ягоныя думкі, і зноў ледзь не страціў прытомнасць, усё цела нібыта працяла токам, і па скуры забегалі тысячы іголак.

– Дык, што, што вам ад мяне трэба?

– Я ж і чакаю, пакуль ты перастанеш бегаць па пакоі, сядзеш і мяне паслухаеш.

Віктар асуджана вярнуўся да стала і сеў. Ён зразумеў, што трапіў у пастку. Цяпер варта скарыцца і пачакаць развіцця сітуацыі. У рэшце рэшт яго ніхто не забівае і ніякай іншай шкоды не робіць. Кот сядзіць у тым жа куце і не спрабуе нават наблізіцца да яго.

– Добра, – сказаў Віктар, – я слухаю.

– Дык вось, Віктар, мне спатрэбілася твая дапамога.
– Чым я магу вам дапамагчы?
– Бачыш, зусім верагодна, я нават сказаў бы, вельмі верагодна, што табе праз некалькі гадоў давядзецца пераняць большасць галоўных мужчынскіх роляў цяперашняга рэпертуару нашага тэатра.
– Мне? Якім чынам?
– Бачыш, Віктар, уся праблема ў змене пакаленняў. Прычым, у гэтым праблема для мяне, а для цябе – удача і новыя творчыя магчымасці.

Кот нечакана скочыў на канапу, па-чалавечы абапёрся на спінку і закінуў нагу на нагу. Быў ён каля метра даўжынёй, і гэтая карціна ката, які сядзеў на канапе, зноў выклікала ў Віктара жах. Шэрая ў палоску кацiная поўсць была яму знаёмая, ён нават пачаў прыгадваць, што пару разоў бачыў такога ката ў пашывачным цэху, але той быў звычайнага памеру, а гэты – гігант, ды яшчэ размаўляе.

– Маеш рацыю, гэта мяне ты бачыў у пашывачным цэху. Мяне там пара кабетаў падкормлівае. Але я там з'яўляюся рэдка і толькі ў аблiччы звычайнага ката. Перад табой я вырашыў паказацца ў сваім сапраўдным выглядзе. Можаш паглядзець на мяне яшчэ раз уважліва, каб запомніць, як выглядае дух тэатра. Можаш нават расказваць пра мяне калегам. Усё роўна ніхто не паверыць.

Вусы ката самазадаволена ўзняліся, ад чаго на мысе з'явілася нейкае падабенства ўсмешкі.

– Прычым тут я, да гэтай змены пакаленняў? – Віктар неўразумела пацiснуў плячыма.
– Дык вось, – сказаў кот, – я працягваю. Як ты чуў, у мяне дзве функцыі: эстафета талентаў і клопат пра папулярнасць тэатра. Неўзабаве можа стацца так, што ў тэатры не застанецца выканаўцаў большасці галоўных роляў. Маладыя таленты яшчэ толькі на падыходзе – нехта вучыцца, а некага якраз толькі цяпер у трупу набіраюць. Ім яшчэ трэба назапасіць жыццёвы і прафесійны вопыт, увайсці ў прафесію, набраць нейкі інтэлектуальны багаж, каб мець што сказаць гледачу. Разумееш?
– Гэта я разумею. Я толькі не разумею, пры чым тут я?
– Я ж і кажу, што ў часе гэтай лакуны, што ўзнікне неўзабаве, трэба каб нехта закрываў сабой узніклыя дзіркі. Я выбраў на гэтую ролю цябе. Ты якраз падыходзіш паводле свайго веку і здольнасцяў.
– Чакайце, чакайце. Вы кажаце, што ўзнікне лакуна, і ў тэатры не застанецца выканаўцаў большасці галоўных роляў. Куды ж яны падзенуцца?
– Так, Віця, бачу, моцна ты спалохаўся мяне. Ажно не можаш нармальна ўключыцца ў гаворку. Змена пакаленняў. Чуеш? Зме-на па-ка-лен-няў...
– Вы маеце на ўвазе, што нашы старэйшыя акторы памруць? – спалохана спытаўся Віктар.
– Малойча, – ухвальна захітаў галавой кот і пераклаў нагу на нагу. – Нарэшце ты здагадаўся. Ваш брат шмат курыць, п'е, сябе не даглядае, людзі мастацтва, адным словам. Пятрэнка вунь ужо ляжыць з інфарктам, Ляхновіча цукроўка заядае ад празмернай вагі, Пузанаў і Грабніцкі ўжо да васьмідзесяці падыходзяць, астатнія п'юць беспрабудна і самі свой хуткі канец набліжаюць, анкалогію і судзінныя хваробы, ведаеш, і ў нашы дні яшчэ ніхто не перамог.
– Божа ты мой! – усклікнуў Віктар. – Усе нашы памруць? Дык па-

пярэдзьце іх, захавайце іх для тэатра, калі вы... – ён з сумненнем паглядзеў убок, – дух гэтага тэатра.

– Не магу, Віктар. Не магу. Мне забаронена ўмешвацца ў натуральную хаду жыцця і смерці. Я дбаю толькі пра тэатр.

– Але ж да мяне вы дзеля нечага прыйшлі. І вось хочаце зрабіць нейкую ракіроўку, запоўніць, як вы сказалі, лакуну. Гэта што, не ўмяшанне?

– Не, не ўмяшанне, прынамсі не ў справы жыцця і смерці. Так было задумана яшчэ дзвесце гадоў таму, калі тэатр толькі ствараўся. Ты думаеш, час насамрэч ёсць? І прастора таксама? Гэта ўсё адноснае, Віктар, вельмі адноснае. Мы адначасова ўсюды і нідзе. А я толькі падштурхоўваю таленты да рэалізацыі і паказваю, як гэта зрабіць. Дзіўна што ты, як я разумею, мне не верыш. Але яшчэ больш дзіўна мне бачыць перад сабой актора, які не верыць у свой уласны талент.

– Чаму, я веру. Проста абставіны для рэалізацыі кожнага актора залежаць шмат ад чаго, у тым ліку і ад людзей, якія яго атачаюць і якія тэатрам кіруюць. Я, напрыклад, не люблю запабягаць і дагаджаць начальству. Мне шмат хто зайздросціць... І вось мне ўжо каля пяцідзесяці, а я не народны і не заслужаны артыст. Тым часам у тэатры ёсць заслужаныя і на дзесяць гадоў маладзейшыя за мяне.

– Слушна кажаш, слушна. Але далей сітуацыя зменіцца. Зноў кажу, я не ўмешваюся ў натуральную хаду падзеяў жыцця і смерці. Я толькі дбаю пра наяўнасць у тэатра гледачоў і талентаў у трупе. Табе я прыйшоў падказаць, што хутка будзе твая чарга выходзіць на першыя ролі, і што табе трэба для гэтага зрабіць. Раней я ўжо не раз меў такія размовы з тваімі папярэднікамі і некаторымі цяперашнімі лідэрамі трупы.

– Так? – Віктар па-ранейшаму не даваў веры ўсяму, што цяпер адбывалася ў ягонай грымёрцы.

– Так, так. І табе пара ўжо паверыць, што тое, што цяпер адбываецца з табой – праўда і рэальнасць.

– Добра, добра. Веру, – Віктар зноў спалохана зразумеў, што кот чытае думкі. – Я вас слухаю.

– Ты недастаткова шмат чытаеш і недастаткова ўважліва назіраеш за людзьмі вакол цябе. Я пакіну табе спіс неабходнай літаратуры, якую табе трэба будзе прачытаць у наступныя некалькі гадоў. Пачні рабіць запісы, занатоўвай людскія паводзіны, сваю рэакцыю на іх, свае думкі. Каб нешта сказаць гледачу, трэба мець, што сказаць. Варта будзе кінуць піць і курыць. Таксама конча неабходна скінуць вагу і заняцца ўласнай фігурай. Для гэтага ты пачнеш хадзіць у фітнэс. Усё гэта ў комплексе ўмацуе тваё здароўе, уздыме самаацэнку і самапавагу. Усё астатняе зробіць змена пакаленняў. Вось так.

– Змена пакаленняў... Дзіўна гучыць, – Віктар скептычна пакруціў галавой.

– Нармальна гучыць, – кот зноў пераклаў нагу на нагу. – І не жартуй са мной. Я яшчэ не сказаў табе, што ты не можаш адмовіцца ад таго, да чаго цябе заклікае дух тэатра.

– А калі не паслухаюся?

– Паслухаешся. Ты ж актор. Ад такой магчымасці ніводзін з вас не адмовіцца. Пакажы мне хоць аднаго калегу, які сябе не лічыць геніем. Можаш такога назваць?

Віктар змоўчаў і толькі адмоўна пакруціў галавой.

– Вось і я пра гэта. А тут для цябе адкрываецца магчымасць для нечуванай самарэалізацыі. Ну а калі не паслухаешся, дык я магу і каго маладзейшага за цябе выбраць на гэтую ролю. Напрыклад, Сцяпанава.

– Каго? – абурана ўсклікнуў Віктар. – Гэтага няздару Сцяпанава?

Ён са злосцю ўставіўся на ката. Сцяпанаў быў найвялікшым канкурэнтам Віктара. Гэты смаркач, маладзейшы за яго на дзесяць гадоў, і так пераняў ужо палову Віктаравых роляў. Круціцца каля галоўнага з рознымі прапановамі, дагаджае ўсяляк. Ну не, такому не бываць!

– Добра, я згаджаюся. Дык што, вы кажаце, трэба рабіць?

– Я ўжо ўсё сказаў, Віктар. Пераймай эстафету. Дэталі дашлю электроннай поштай.

Кот саскочыў з канапы, вярнуўся ў свой кут і раптам прастору грымёркі скалануў магутны пляскач. У куце з'явіўся ці то дым, ці то пара, і да Віктаравых вушэй данесліся незадаволеныя словы, недзе далёка прамоўленыя ўжо знаёмым нізкім голасам:

– Эх, як мне абрыдлі ўсе гэтыя амбітныя пасрэднасці. Геніі, бач ты іх... Важдаешся з кожным, угаворваеш, ніхто пасля дзякуй не скажа... Пайду ў лёхі, злаўлю пацука ці пару мышак на вячэру...

У наступны момант дым знік, а ў мабільным тэлефоне Віктара бразнуў званочак, паказваючы, што ён атрымаў чарговы ліст на сваю электронную пошту. Віктар тут жа адкрыў паштовую скрынку і ўбачыў імя адрасата – "Дух тэатра". Адкрыўшы ліст ён знайшоў там ужо агучаную катом інструкцыю аб занятках спортам, вядзенні дзённіка і адмове ад дрэнных звычак. Заканчваўся ліст спісам са ста найменняў сусветнай літаратурнай класікі, якую Віктару трэба было прачытаць за наступныя паўгода. У пастскрыптуме кот абяцаў праз шэсць месяцаў даслаць наступную порцыю сусветнай літаратуры, неабходнай для агульнага развіцця актора. Віктару Тулупчыку нічога не заставалася, як пачынаць новае жыццё.

...Праз пяць гадоў не стала большасці вядучых акцёраў галоўнага драматычнага тэатра. Іх ролі аддалі Віктару, які знаходзіўся ў вельмі добрай форме і якраз падыходзіў на іх па ўзросце. Ён стаў імкліва набіраць папулярнасць, з'явіліся прыхільніцы і прыхільнікі, яго сталі запрашаць у антрэпрызы і на тэлебачанне, з'явіліся ролі ў кіно. Вельмі хутка ён стаў заслужаным артыстам краіны, а пасля і народным. Гледачы натоўпамі хадзілі ў тэатр на Тулупчыка і закідвалі яго кветкамі на сцэне.

Усё было добра. У тэатры падрастала змена, а Віктар на фуршэтах з нагоды чарговай прэм'еры або атрыманай прэміі, з келіхам шампанскага ў руцэ часта прыгаворваў сам сабе, стараючыся, каб яго не пачуў нехта з маладых:

– Бач ты, аказваецца, трэба толькі дачакацца свайго часу. Добрая гэта штука, змена пакаленняў...

Наталля Русецкая



...зменіцца
свет
навокал
ва ўтульны
святочны
дом...

# Зоркі каляднай святла

* * *

даходзяць
весткі
што вёску
засыпала
снегам
у двор
без лапаты
нават
няма як
выйсці
паказвае
нораў
няўрымслівы
буйны
снежань
а яшчэ

ўчора
зграбалі
й палілі
лісце

* * *

першы
тонкі
крохкі лёд
на вадзе
і Піліпаўкі
бясконцая ноч
пазнаю яго
здалёк
па хадзе
той
няўцямна-змрочны
настрой

* * *

там, дзе мы ўчора мералі дарогі,
сягоння роўнядзь снежнага радна...
не застанемся мы з табою да відна –
хата даўно няпаленай была,
і нам не хопіць кволага цяпла,
хоць дровы падкідай у печ да змогі...

* * *

шпітальных
колераў
зіма
мяне
няма
цябе
няма
ёсць
толькі
белы-белы
цень
анёла
на пустой
сцяне

* * *

яшчэ
пахмурна
цёмна
шэра
але
каляднай
выцінанкай
мароз
ужо
аздобіў
шыбы
начараваўшы
нам
фіранкі

* * *

з возу,
перакуленага ў небе,
сыпала
крупчаткаю-мукой.
мы, як дзеці,
зноў чакалі цудаў,
рукавіцаю хапалі
снежны рой.
толькі
не збылося
не змаглося:
ні Мікола,
ані Дзед Мароз
не прынеслі
нам з табою шчасця,
ані радасці
шчымлівае
да слёз.

* * *

калядны цуд
здараецца
аднойчы,
мы кожны год,
нібыта
першы,
чакаем зорку,

укладаем
вершы
і дасылаем
Мікалаю
ліст
святочны.

* * *

у кажуху
падшытым
снегам
з пуховай
хустай
на плячах
ступае
у валёнках
белых
сама
Зіма

* * *

Зоркі
Каляднай
святло
зацепліць
надзеі
прамень,
што мы
прывітаць
паспеем
у сэрцы
сваім
Яго.

* * *

руплівіца-ткаля
Зіма
работай занята –
нетаропка,
спакваля
тчэ новы абрус
на Свята
і хутка
запросіць

усіх
на вячэру –
багата і шчодра
адзначыць
Куццю.

* * *

брукаванка
старога
места
і камяніцы
прыпарушаны
снегам,
як пудрай
цукровай
пернік,
сляды
выводзяць
на рынку
карункавы
надпіс,
ён відочны
з лёту
анёла:
*Вясёлых Калядаў!*

* * *

тыдзень-другі і надарацца Святы:
зорка, ялінка, сябры за сталом...
а ці на месцы пустым, незанятым
будзе між нас за вячэраю ЁН?..

* * *

усміхнуцца
праз боль
і слёзы
светлую
радасць
прыняць
народжанае
Малое
у сэрцы
шчыра
вітаць –

і здзейсняцца
спадзяванні
мары
жаданні
кон
зменіцца
свет
навокал
ва ўтульны
святочны
дом

* * *

зіма ў дзяцінстве выглядала зусім інакш:
ялінка была жывая да самай столі,
мандарынамі пахла ў хаце і смоллю,
Дзед Мароз быў самы сапраўдны,
з ватнаю барадою,
а цяпер усё – мішура...

і снегу было насыпала па пояс ці болей,
ва ўсякім разе, яго хапала заўжды
на пячоры-крэпасці, на сняжкі,
на горкі, дзе санкі ці лыжы, а ў самых
адважных – канькі,
а цяпер – слата пад нагою...

бо, напэўна, тады і сама я была другою:
мне хацелася бегчы, куляцца ў снезе, дурэць,
смяяцца, голасна свіснуць, песню запець,
пяткі, да костак прамерзлыя, на чарэнь
паставіць, каб грэць,
а сёння – сяджу дома...

* * *

снег сыпаў
вецер рваў крысо
а я ўрастала
як рабро
і разлівалася
цяпло
– будзе яшчэ
адно жыццё...
бязгучна
прашаптаў анёл

і ахінуў
сваім крылом

* * *

маленькі хлопчык у паўночным краі,
марознай зябкасці не адчувае,
старанна слова “вечнасць” укладае,
і зледзянелым сэрцам шчэ не знае:
яго ўратуе тая, што кахае...
*ubi tu Caius, ibi ego Caia.*

* * *

дамкі цагляныя,
глазураваныя снегам
стаяць у радок,
як у краме –
калядныя пернікі,
шакаладныя бабкі
альбо
цукровыя пеўнікі.
і неба шэрае
над імі святлейшым
робіцца,
раптам знаеш – там,
за аблокамі
сонца тоіцца,
і яно
пральецца аднойчы
праз шчыльную насыпку,
завітае да нас нарэшце
вясёлая
Масленка!

Зміцер Падбярэзскі



...Гэта – вайна...

Час, калі аніякіх правілаў не існуе.

Час, калі доўга думаць нельга...

# Сталёвая поўня

***Няправільнае апавяданне***

Зіма недзе заблукала. Па ўсім, першы снег мусіў ужо легчы на апалае лясное лісце, з-пад якога дзе-нідзе вытыркаліся чорныя талеркі груздоў. Дзед Васільевіч паволі крочыў да леснічоўкі, зразаючы грыбы ў кошык і разважаючы над тым, пра што пачуў у Лохвіцы ад свайго пляменніка Мішкі. Гарэза рэдка затрымліваўся ў хаце. Зрабіўшы ўсё, пра што прасіла Васіліха, дзедава сястра, Мішка збягаў ці на рэчку, дзе правяраў сеткі, ці ў лес бліжэй да чыгункі па ўласных, толькі яму вядомых справах.

Дзед Васільевіч неаднойчы казаў падшыванцу, каб той не корпаўся ў акопах і не збіраў розныя небяспечныя цацкі. Ды Мішку дзедавы словы былі як банькі памерламу. Дзед здагадваўся, што ў тых акопах можна было адшукаць шмат чаго, бо і сам бываў там неаднойчы, нацягаўшы ў леснічоўку featureрознага вайсковага рыштунку, што застаўся пасля баёў на падыходзе да Лохвіцы.

Жыў ён не ў вёсцы, а ў лесе не таму, што баяўся немцаў. Наадварот, час паказаў, што ад прышлых Лохвіцы нічога не пагражае. Бо на другі дзень, як пачалася вайна, непадалёк ад вёскі адбыўся паветраны бой. Тры нямецкія самалёты палявалі на адзін савецкі. Той здолеў падпаліць аднаго немца, аднак і сам упаў у балота, куды вяскоўцы не адважваліся па журавіны хадзіць – такая там была здрадлівая багна. Лётчык з падбітага нямецкага самалёта здолеў скочыць з парашутам і прызямліўся ледзь не ў сад да Васіліхі, жывы, але моцна паранены. Нават з пісталета не здолеў стрэліць, калі да яго падбеглі вяскоўцы. Радзіліся тыя нядоўга: немец то немец, але жывы чалавек, да таго ж – скрываўлены. Зацягнулі яго ў адрыну, абмылі, перавязалі чыстым раны і дамовіліся: нікому ані слова. Баяліся, што савецкія не будуць разбірацца, паранены той ці не...

А потым быў бой там, дзе бальшак выходзіў з лесу да Лохвіцы. Больш за суткі трымаліся савецкія, аж пакуль два танкі да немцаў не дадаліся. Усіх савецкіх там і пабілі, бо тыя зброі ад танкаў не мелі. І калі ў Лохвіцу ўвайшла калона нямецкіх машын, вяскоўцы паказалі афіцэру параненага лётчыка. Немца звезлі. Праз дзень у Лохвіцу зноў прыехалі немцы, сабралі вяскоўцаў і праз перакладчыка, які намагаўся давесці сказанае афіцэрам на расейскай, не надта зразумелай для лохвіцкіх мове, паведамілі наступнае. Маўляў, нейкі фюрэр выказвае вяскоўцам падзяку за выратаванне лётчыка. І за гэта Лохвіцы надаецца асаблівы статус. Ніхто не дацяміў, што гэта за рэч – “статус”, зразумелі адно: паліць хаты не будуць. Прынамсі, не адразу. Бо ў Лохвіцу перабраліся людзі са спаленай Вулькі, дзе дзясяткі з тры савецкіх паселі ў хатах і абстралялі атрад немцаў. Тыя не доўга разважалі: закідалі вёску мінамі і агонь скончыў справу. У немцаў хіба пару параненых было, а колькі савецкіх салдатаў і мясцовых пагарэла ў хатах – ніхто не лічыў.

Далей так пайшло, што недзе раз на тыдзень немцы пачалі прыязджаць у Лохвіцу. Кур не рэзалі, свіней не стралялі. Паводзілі сябе культурна: мянялі цукар, соль на малако, яйкі, масла, вяндліну, прывозілі муку і газу, дзяцей частавалі цукеркамі і шакаладам. Аднойчы нават прывезлі зубнога лекара з машынкаю. Той цягам двух дзён агледзеў ці не ўсіх лохвіцкіх. Каму рваў патрушчаныя зубы, каму – было й такое – замазваў дзіравыя. І да лохвіцкіх пакрысе пачала даходзіць сутнасць слоў “асаблівы статус” вёскі, якая, як зразумеў дзед Васільевіч, атрымала нешта накшталт абароннай граматы за тое, што ў параненым немцы мясцовыя ўбачылі не ворага, а найперш нямоглага чалавека.

Дый як магло быць інакш? У верасні 39-га савецкіх напачатку сустрэлі тут і не прыязна, і не варожа: за безліч гадоў людзі гэтых краёў звыкліся з тым, што раз-пораз, часцей у суправаджэнні агню ды гвалту, праз Лохвіцу ды навакольныя вёскі праносіліся пад рознымі штандарамі атрады ўзброеных салдатаў, якія гаварылі на незразумелых мовах і хапалі тое, што бачылі іхнія вочы. Савецкія ж паводзілі сябе не так. Не гвалцілі, не рабавалі, размаўлялі спакойна і ласкава. Таму пачаставалі іх у Лохвіцы як мае быць і выправілі ў далейшы шлях. Але праз некалькі дзён пачалося – прыехалі ўжо зусім іншыя: крыклівыя і бессаромныя. Не выціраючы боты, швэндаліся па хатах, патрабавалі выпіць, перапісвалі жыхароў і голасна, брыдка лаяліся. Прыбілі да таполі чырвоны сцяг і сказалі: “Радуйцеся! Да вас прыйшла савецкая ўлада”.

Пачаць радавацца савецкай уладзе ў Лохвіцы не паспелі. На другі

дзень у людзей пачалі адбіраць скаціну, а тры сям'і пакідалі ў грузавік і некуды павезлі. Іхнія хаты назвалі калгасам, а калі Марыся, сваячка дзеда Васільевіча, з крыкамі "Не аддам!" абхапіла шыю сваёй каровы, у вёсцы ўпершыню за шмат гадоў грымнуў стрэл. Марыся асунулася долу і ўжо не бачыла, як яе мужык Юзак са стрэльбай выскачыў з хаты, усадзіў зарад у жывот чалавеку ў фуражцы і тут жа ўпаў сам, атрымаўшы з дзесяць куль. І каб мясцовыя адчулі тую радасць напоўніцу, савецкія паставілі да сцяны ўсіх, каго знайшлі ў хаце Марысі. Трохгадовага Лёсіка забілі апошнім...

Немцы ж пакуль нічога не абяцалі і нікога не крыўдзілі. Нават курэй не стралялі. Ды хоць бы і стралялі – не апошняе ж забіралі! Навучаныя, лохвіцкія даўно панарабілі ў лесе надзейных сховаў, дзе трымалі тое, што выратуе ў ліхія часіны.

А дзед Васільевіч адрамантаваў леснічоўку, дзе й жыў большасць часу. Паляваў дзічыну, у тым ліку і сур'ёзную, сушыў рыбу, збіраў ягады-грыбы, вядомыя яму зёлкі, трымаў з пяток борцяў, а як сціхлі баі, нацягаў з акопаў рознае зброі: гранаты, вінтоўкі, аўтаматы, патроны, нават кулямёт спраўны. Была і любімая цацка: вінтоўка з аптычнаю прыладай, якая надта ж надалася для паляўнічых спраў. Здабытае ў лесе і назапашанае адносіў у Лохвіцу, адкуль, наведаўшы лазню і замяніўшы сподняе, вяртаўся з хлебам, іншай ежай, часам – з пляшкай выгнанага Васіліхай для сябе.

Але тое, што ён пачуў ад пляменніка, дзеда растрывожыла. Ён і сам чуў, як надоечы ўначы над лесам гуў самалёт. Зразумела, гэта савецкі лятак быў, бо што немец будзе ноччу над лесам рабіць? А вось тое, што Мішка знайшоў у балоце каля чыгункі дзве вялікія торбы, было нярадаснай навіною. Торбы, прымацаваныя да парашута, ляжалі на зямлі, і пэўна ж былі скінутыя ў тую ж ноч. А гэта значыла, што на парашутах выкінулі і людзей.

Таму дзед Васільевіч, калі вярнуўся да леснічоўкі, вырашыў зранку пахадзіць па лесе і пашукаць гасцей. З тым і заснуў. Ды абудзіўся не сам. Мішка заляцеў у хатку і з парога выпаліў:

– Уначы ў Лохвіцы савецкія былі!

– Якія савецкія? – не зразумеў дзед. – Яны ж паўцякалі.

– Ага, паўцякалі... Парашутысты прыходзілі, аўтаматамі палохалі.

– Адкуль ты ведаеш, што гэта парашутысты?

– Самі казалі: маўляў, іх скінулі, каб тут немцаў страляць. А потым набралі есці, прымусілі самагон прынесці, кур пахапалі. Васіліха было запярэчыла, дык ёй аўтаматам у грудзі сунулі так, што звалілася на падлогу.

– Толькі ў нас былі? – пацікавіўся дзед.

– Ці не па ўсёй вёсцы прайшліся. Крычалі, што пастраляюць-папаляць, калі ежы не дадуць. У коўдры загортвалі, ледзь пацягнулі тое, што набралі. Сказалі, хутка зноў прыйдуць. Ну, я іх сустрэну!

– Ты, гэта!.. – ускочыў з печы дзед. – І не спрабуй! Малы яшчэ з савецкімі заядацца. Сядзі як мыш пад печчу. Я сам іх пашукаю ды дазнаюся, хто такія і ці надоўга да нас. А колькі іх было?

– Ушасцёх па хатах гойсалі. Але, відаць, яшчэ ў лесе колькі іх ёсць.

– Напэўна... – ці не самому сабе сказаў Васільевіч. – Добра, ідзі ў вёску. І не спрабуй што-небудзь удумаць! Я сам заўтра ў Лохвіцу прыйду.

“Толькі савецкіх тут не хапае! – разважаў Васільевіч, ідучы лесам. – Чалавек з дзесяць іх, напэўна. У немцаў страляць пачнуць, а тыя ж не будуць доўга думаць, хто і чаму страляе. Атрымаюць усе, напоўніцу... Як адшукаю іх, скажу, каб немцаў стралялі як мага далей ад Лохвіцы... Але дзе іх шукаць? Ну, як у вёску прыйшлі, значыць, атабарыліся не ў глыбіні лесу, а недзе бліжэй да вады. Наўрад ці пасунуліся ў вёску праз мост: рызыкоўна. Значыць, ішлі полем, перабраўшыся праз рэчку... Ну так, няйначай!”

Колькі гадоў таму бура павaліла вялікую сасну, што расла на самым беразе рэчкі, і для сялян шлях у лес істотна скараціўся. Да ўпалага дрэва прыладзілі парэнчы, таму праз рэчку магло перабрацца нават дзіцё. Прыкінуўшы, што да чаго, дзед Васільевіч, паправіўшы рэмень ад вінтоўкі, рашуча накіраваўся да таго месца, дзе ляжала мажное дрэва.

Ён здалёк пачуў пах дыму.

“Партызаны, але... – падумаў ён. – Калі так вогнішча паліць будзеце, вас накрыюць, як сляпых кацянят”.

Атабарыліся парашутысты насамрэч ці не на самым ускрайку лесу. Дзед Васільевіч нетаропка накіраваўся да вогнішча і ўбачыў, як аднолькава апранутыя ў вайсковае людзі падняліся з зямлі, накіраваўшы ў бок незнаёмца зброю.

– Стаяць! – выгукнуў адзін, у якога на галаве сядзела фуражка з сіняй паласой. – Хто такі?

– Тутэйшы, – спыніўся дзед. – Вось ішоў сабе, бачу – новыя людзі.

– Ты адкуль такі цікаўны? – працягваў выпытваць, па ўсім было відаць, галоўны.

– Ды з вёскі, вунь той, – махнуў рукой дзед. – На звера іду паляваць. А тут бачу – вы.

Дзед Васільевіч налічыў вакол вогнішча дзевяць чалавек. З іх толькі адзін знешне выглядаў адрозна ад іншых: маленькага росту, з крываватымі нагамі, вузкімі вачыма і смуглым колерам твару. Ён і адзначыў:

– З такой вось вінтоўкай толькі на людзей палююць!

– Не, яно зручна і на кабана, і на вавёрку якую.

– Што такое вавёрка? – запытаўся смуглатвары.

– Памаўчы! – абарваў яго галоўны. – Як цябе клічуць?

– Дзедам Васільевічам людзі завуць...

– Ну дык вось, дзед. Ты павінен уступіць у наш атрад.

– Нікому нічога я не павінен, – адказаў дзед. – Я і ў калгас не пайшоў, як зганялі, і ў ваш атрад не пайду!

– Ты што, не жадаеш змагацца з ворагам? – змяніў голас галоўны. – Ці ты ўжо ў паліцыю запісаўся? Дык у нас з такімі гутарка кароткая: куля ў галаву – і ў кусты.

– Ну, куля – гэта занадта проста. А як мяне не паслухаецеся, дык дні праз тры-чатыры вы самі ў жвір паляжаце. Гэта калі нехта пажадае яшчэ для вас ямы капаць...

– Што ён сказаў? – замітусіўся смуглатвары.

– Маўчы, Агмаль! – накінуўся на яго камандзір. – Што ты хочаш сказаць, дзед? Што нас пастраляюць? Ці не ты, га?

– Немцы вас пастраляюць. Бо вы нібы знарок выстаўляецеся, каб вас пабачылі. Хто гэта вогнішча з сырога галля складае? За кіламетар жа відаць...

– Ну, гэта так, згодны. Пілой ды сякерай у вёсцы толькі ноччу разжыліся. На лапаты і цвікі, праўда, забыліся.

– Зямлянку і без цвікоў можна зрабіць. А вось у лес адысці метраў на трыста не пашкодзіла б, – працягваў дзед Васільевіч. – Бо як адсякуць вас ад пушчы, дык і пакладуць усіх на беразе рэчкі. А немец не будзе глыбока ў лес хадзіць. Не любіць.

– А ваду з рэчкі ў лес ты нам цягаць будзеш? – запытаўся той, якога назвалі Агмалем.

– Камандзір загадае – сам і прынясеш, – адказаў дзед.

– Глядзі ты, які вопытны... – прамармытаў старэйшы. – Што яшчэ нам параіш?

– А параю я вам людзей у вёсцы больш без патрэбы не рабаваць. Бо на вас не было разлічана. Няўжо вас сюды без якіх кансерваў скінулі?

– Былі кансервы. Два вялізныя мяхі, з рацыяй, але парашуты некуды знесла. Мяшкі са зброяй, з выбухоўкай знайшлі, а вось тыя – не. Ты, як будзеш лесам хадзіць, можа, натрапіш на іх. Тады скажаш дзе. Але твае ў вёсцы павінны запомніць: мы сюды прыйшлі змагацца з ворагам. І той, хто адмовіцца нам дапамагаць, будзе бязлітасна пакараны! Таму ў вёсцы абавязаныя даць нам усё, што патрэбна.

– Яно нібы й так, – пагадзіўся дзед. – Толькі чаму ж вы гэтых людзей немцу аддалі? Чаму пусцілі яго гэтак далёка? Людзі тады пры чым, га?

– Ты, дзед, не разводзь тут антысавецкую прапаганду! Набраўся ў палякаў рознага. Адступілі мы часова, выключна з тактычных меркаванняў. А як разгарыцца полымя народнай вайны, дык і пабяжыць немец назад, хутчэй, чым прыйшоў! І ты мусіш нам дапамагаць. Прыкладам, сказаць, хто ў вёсцы на немцаў працуе.

– А ніхто не працуе. Вёска маленькая, з пачаткам вайны мужыкі амаль сышлі хто куды. Быў адзін, дык у мястэчка перабраўся ў паліцыю.

– Вялікі там гарнізон? – пацікавіўся камандзір.

– Вам не па зубах будзе, – адказаў дзед. – Во яшчэ. Як надумаецеся ў немца страляць, рабіце гэта дзе падалей ад Лохвіцы. Бо тады немец і людзей, і хаты не пашкадуе. І вы тады з голаду памрэце.

– А ты нам не загадвай, дзе аперацыі рабіць! – уставіў сваё Агмаль. – Ты нам прынясі паболей тытуню, солі, водкі!

– Можа, табе і сала прынесці? – усміхнуўся Васільевіч і пачуў, як рэшта парашутыстаў, што раней маўчалі, зладжана зарагатала.

– І сала таксама, – як адрэзаў, сказаў камандзір. – Мяне завуць Карчоў. Маёр Карчоў. А ты будзеш нашым сувязным. Але як немцаў на нас навядзеш – вёску тваю дымам пусцім, так і ведай.

“Гэтыя могуць спаліць, хутчэй за немца, – думаў дзед, ідучы ў бок леснічоўкі. – Як і ў спіну стрэліць. Бач ты, антысавецкая прапаганда! Язык, што мянташка... Зрэшты, я іх папярэдзіў”.

У леснічоўцы ён выцягнуў з-пад стала кораб і дастаў з яго два вялікія капканы. Некалі, яшчэ за польскім часам, з дапамогай аднаго ўпаляваў нават мядзведзя, але гадоў мо з дзесяць гэтыя сталёвыя, з вялікімі вострымі зубамі пасткі ляжалі без справы: ці то павыбівалі тут мішак, ці то падаліся тыя куды далей у пушчу. Агледзеўшы ўважліва магутныя прылады, схаваў капканы і задумаўся.

“Пра тыя торбы я ім нічога не сказаў. Добра ці дрэнна? Дрэнна тое, што днямі харчы ў іх скончацца і яны зноў папруцца ў вёску. Галодныя

ды азвярэлыя могуць што заўгодна нарабіць. А добра тое, што... Добра, што не сказаў! Гэта як у картах махляр козыр у рукаве хавае, які можа спатрэбіцца ў любы момант...”

Дзед Васільевіч у лесе навучыўся спаць, як той сабака: адным вухам у падушку, другім – на вуліцу. Таму праз дзень і прачнуўся пасярод ночы, пачуўшы выбух, а потым і стрэлы з таго боку, дзе праз рэчку быў перакінуты чыгуначны мост. “Пачалося, каб вам с...аку асотам парэзала!” – вылаяўся ён, зразумеўшы, што заснуць ужо не атрымаецца. Запаліў газнічку, накінуў кажух, выйшаў на ганак. Страляніна хутка сціхла, глухая восеньская ноч зноў ахінула наваколле.

“Папёрліся, значыць, на чыгунку. Відаць, на кандачка папёрліся, не праверыўшы, як там немец ахоўвае. І напэўна атрымалі па карку. А што? Шкадаваць іх? Я ж прасіў: далей ад вёскі. А яны – не, наадварот, быццам той мост ім самы ласы. Ну, чакай сёння ў Лохвіцу гасцей...”

Недзе а дзясятай гадзіне раніцы ён, захапіўшы вінтоўку, пасунуўся ў бок бальшака, дзе й прыхаваўся ў хмызняку. Чакаць давялося нядоўга: хутка з боку мястэчка праехала нямецкая калона з шасці матацыклаў і адной браняванай машыны. З якую гадзіну было ціха, толькі па чыгунцы прагрукатаў цягнік: начная дыверсія, як зразумеў дзед, плёну не дала. Неўзабаве па бальшаку ў бок мястэчка праехалі машына і матацыклы, і тады дзед Васільевіч з палёгкай уздыхнуў: пэўна, у Лохвіцы абышлося, статус вёскі спрацаваў. Пакінуўшы вінтоўку ў хмызах, ён пайшоў да сваіх.

У Лохвіцы сапраўды было як заўсёды: нехта яшчэ корпаўся ў гародах, над комінамі ўздымаліся дымы, квохкалі нешматлікія куры. Ля хаты Васіліхі дзед павітаўся са сваімі.

– І што немцы? – запытаўся ён.

– А што яны? – адказала Васіліха. – Пыталіся, ці не бачылі мы тут чужых, ці не прыходзіў хто з незнаёмых у вёску.

– І што вы?

– А што мы, дурныя? Скажаш, што прыходзілі, – што зменіцца? А тыя ноччу зноў прыйдуць і пастраляюць людзей.

– Твая праўда, – згадзіўся дзед.

– Шакалад не давалі гэтым разам, жмінды, – паскардзіўся Мішка. – Толькі па хатах ды гумнах лазілі. Мусіць, зброю шукалі.

– А што шукаць? – выбухнула Васіліха. – Што, нашыя бабы з віламі на тую чыгунку пойдуць цягнікі спыняць? Гэта яны так шукалі, дзеля адчэпнага. Разумеюць жа, што гэта не нашыя ноччу там былі.

Дзед Васільевіч згодна кіўнуў і папрасіў сабраць пад’есці, а таксама мяшэчак самасаду ды якую газету.

– Дзеда, ты ж не паліш, – здзівіўся Мішка.

– Ты, гэта... Памаўчы! І памятай, што я табе казаў, – заўважыў дзед Васільевіч і пакрочыў у бок хаты нябожчыцы Марысі, дзе ягоная пляменніца Данута зранку збірала дзяцей.

Данута вучылася на медсястру, але з-за вайны не паспела скончыць вучэнне, вярнулая з горада ў Лохвіцу, дзе вырашыла вучыць малых грамаце і сякім-такім нескладаным і заўсёды патрэбным навукам. Дзеці, ад няма чаго рабіць, прыходзілі ў “школку” з задавальненнем, нават Мішка час ад часу выседжваў на лаўцы якія дзве-тры гадзіны. Наогул дзетак розных узростаў было ў Лохвіцы крыху больш за дзясятак, але ўсе яны

былі радыя вучыцца пісаць ды чытаць, рашаць арыфметычныя задачкі, гуляць з Данутай, да якой звярталіся няйначай, як пані настаўніца.

Дзед Васільевіч прыйшоў да Марысінай хаты якраз тады, калі Данута з дзецьмі бавілася на вуліцы. Прывітаўшыся, дзед адвёў пляменніцу ад дзяцей і сказаў:

– Данутка, думаю, табе варта ў мястэчка перабрацца.

– А што так, дзеду, раптам? Мне й тут добра.

– Сама ж чужых, напэўна, бачыла, – патлумачыў дзед. – Гэтыя прыбышы не па нашых панятках жывуць, і калі што, доўга думаць не прывучаныя.

– Дык што ім да мяне? – не зразумела Данута.

– А вось што. Па-першае, ты – маладая ды гожая, а яны здзічэлыя без баб. Не да Васіліхі ж ім чапляцца, зразумела? Па-другое, калі раптам дазнаюцца, што ты на медыцыну вучылася, пацягнуць з сабой у лес. І што гэта значыць, не мне табе казаць.

– Як жа я дзетак кіну? – запярэчыла Данута. – Хто іх вучыць будзе?

– Гэта – вайна, – адказаў дзед. – Час, калі аніякіх правілаў не існуе. Час, калі доўга думаць нельга. Вось і ты не думай, а рабі. У мястэчку няхай сабе і немцы, але ж – спакайней будзе. І спыніцца ёсць у каго. Уцяміла?

Словы дзеда Васільевіча прагучалі ці не як загад, таму Данута не запярэчыла, толькі моўчкі вярнулася да дзяцей. А дзед, захапіўшы ў Васіліхі торбу з ежай і тытунём, пайшоў да леснічоўкі, забраў па дарозе вінтоўку і дарогаю думаў-прыкідваў, калі ж парашутысты надумаюцца зноў пайсці ў Лохвіцу. Выпадала, што начы праз дзве, найбольш – праз тры. Значыць, неабходна іх яшчэ раз папярэдзіць...

На тым месцы, дзе спачатку спыніліся дэсантнікі, іх ужо не было. Дзед Васільевіч рашуча пакрочыў углыб лесу, дзе хутка ўбачыў нешта накшталт новага лагера. Вакол вогнішча сядзелі сямёра, яшчэ адзін ляжаў на спіне побач на лапках яліны, накрыты коўдрай. На з'яўленне дзеда амаль не зрэагавалі. А калі крыху ўбаку ад паляны ён заўважыў горку свежага пяску, упэўніўся, што начны паход на чыгунку быў у парашутыстаў сапраўды няўдалы.

– І на якую халеру вы туды папёрліся, не зведаўшы броду? – не вітаючыся, спытаў дзед.

Яму ніхто не адказаў.

– А з гэтым што? – дзед паказаў на таго, што ляжаў на спіне.

– Кулю ў жывот атрымаў, – адказаў Карчоў і дадаў: – Не жылец.

– Мост ахоўваецца, ці не ведалі?! Я ж казаў вам, каб рабілі свае справы далей ад вёскі, там, дзе на чыгунцы патрулі толькі час ад часу. А вы дападрываліся! Немцы з самага ранку ў Лохвіцу прымчаліся, распытвалі, хто што чуў ды бачыў.

– І што твае? – пацікавіўся Агмаль. – На нас навялі?

– Нашыя не балбатлівыя, – адрэзаў дзед. – Дый не ведаюць, дзе вы ў лесе. А вось як вы й надалей будзеце так сябе паводзіць, дык не гарантую, што не падкажуць. Зрэшты, дзе вас шукаць трэба, нават качаня дурное зразумее.

– Што такое – качаня? – ляніва пацікавіўся Агмаль.

– Татарын, я ж сказаў – маўчы!

Павісла маўчанне. Вогнішча гэтым разам гарэла роўна, без дыму. "Ну, хоць нешта па-майму зрабілі", – адзначыў дзед.

– Мяхі нашыя ў лесе не бачыў? – пацікавіўся камандзір. – А то есці ўжо амаль няма чаго...

– Мяхоў не бачыў, – адказаў дзед. – Во тытуню прынёс, свойскі самасад, дзяручы. Праз такі і пра ежу забудзецеся.

– Што ён прынёс? – спытаў татарын у Карчова. – Чаму ён нармальна не гаворыць?

– Змоўкні, ты! – як адрэзаў той. – Тут жа не Расія, а дзікі край. Яны ўсе па-свойму гавораць, цемра.

Дзед Васільевіч прамаўчаў. Сапраўды, рускую мову ў гэтых краях збольшага разумелі, але вось гаварыць больш-менш складна мала хто мог. Ён развязаў торбу, дастаў мяшэчак з самасадам і газету. За выняткам аднаго, усе дэсантнікі накінуліся на пачастунак. Яны ірвалі газету на кавалкі, круцілі казіныя “ножкі”. Прыпаліўшы, ледзь не заходзіліся ад кашлю.

– Дзед, ты няйначай атруціць нас хочаш, – заўважыў адзін з салдатаў.

– Не я гэта, хлопцы. Вы ж паглядзіце, якую газету падралі. “Правда” называецца. Вы і яе на шматкі пусціць гатовыя?

– І што такога? – не зразумеў той.

– А тое, што гэта праўда вам глотку дзярэ, – сказаў дзед. – Так заўсёды з тымі здараецца, хто з праўдай гэтак абыходзіцца.

– У вайны – свая праўда, – сказаў Карчоў. – Праўда ў таго, хто стрэліць першы, зразумеў?

– Тады з такой вашай праўдай вам доўга не пражыць, хлопцы. Бо немцаў са сваёй праўдай тут куды больш за вас. А яшчэ праўда ў тым, што на вайне праўды для ўсіх не бывае. Яна ў кожнага свая. І кожны б’ецца за ўласную праўду.

– У нас, запомні, праўда адна: біць немца. І таму кожная іншая праўда – варожая дыверсія, якую мы абавязаны нішчыць пад корань.

– Ці не з гэтай праўдаю вы нішчылі маіх аднавяскоўцаў?! – выбухнуў Васільевіч. – Уся праўда ў іх была – гэта жыць для сябе, для ўласных дзяцей. А вы – й малых пад корань...

– Дзед, яшчэ слова – ляжаш побач з тым вунь!.. – камандзір кіўнуў у бок пясчанай гурбы. – А жыць яны павінны былі для ўсіх нас. Відаць, не схацелі...

У лесе запанавала цішыня. Спрачацца дзед Васільевіч забаяўся, дый і ў Карчова, верагодна, нешта зварухнулася ў душы.

– Так, на вячэру есці шышкі нам няма ахвоты, – нарэшце прамовіў ён. – Таму, татарын, бяры трох чалавек і дуйце ў вёску. Немцы ўжо былі сёння, другі раз не паедуць, няма чаго ноч чакаць. Пакуль відно, набярыце колькі прынесці зможаце. Птушак там, падсвінка той раз бачылі – забіце і сюды цягніце.

– Камандзір! – узняўся на ногі дзед Васільевіч. – Зіма вось-вось, як людзям выжыць будзе?

– А мне пляваць, як яны выжывуць, – таксама ўскочыў Карчоў. – Хто не з намі, той супраць нас, хто будзе за курэй хапацца – той памагаты ворагу. А таму, хлопцы, як што – размова кароткая, зразумелі?

Байцы хутка сабраліся, закінулі за спіны аўтаматы, схапілі прасціны і коўдры, у тым ліку і тую, якой быў накрыты паранены.

– Ідзіце праз рэчку па дрэве, – загадаў камандзір. – І далей полем, так хутчэй будзе.

– А калі немцы раптам? – заўважыў дзед. – На полі яны як у тым ціры будуць.

– Не бздзі, стары! – рагатнуў татарын. – Мы таксама не лыкам шытыя.

“У гэтым уначы можна было перакаканацца”, – сам сабе сказаў дзед Васільевіч, гледзячы ўслед парашутыстам, якія ледзь не бягом накіраваліся ў бок рэчкі.

– Сядай, дзед, пагаворым, – прапанаваў Карчоў, і мужчыны паселі на спілаваныя дрэвы.

– Што тут наўкола з партызанамі, ці сустракаў якіх?

– Няма тут ніякіх партызанаў, – адказаў дзед. – Можа, недзе там, за мястэчкам, хто й хароніцца ў лесе. А тут – ціха, дзякаваць Богу!

– А дзе нам мужыкоў у атрад набраць? Нам бы для пачатку чалавек з трыццаць яшчэ...

– Во як, чалавек з трыццаць! – ускінуўся дзед. – Вы й пяцёх наўрад адшукаеце, дый то – кульгавых ды слепаватых. Усіх спраўных мужыкоў адсюль павымятала. Каго ў Сібір, як вашыя прыйшлі, каго польскімі шпіёнамі наракл і, каго ў савецкае войска схапіць паспелі – і з канцамі. Таму спадзявайцеся на сябе.

– У мяне баявая задача: за тры месяцы сабраць атрад у сто чалавек, зразумеў? – нахіліўся да дзеда камандзір і ледзь не шэптам дадаў: – Сто чалавек, каб тут у захопнікаў зямля гарэла пад нагамі!

– І збярэш сто, толькі пры ўмове, што іх табе з неба скінуць, – адказаў дзед. – Спачатку вы тут мужыкоў вынішчылі, а потым пачалі шукаць вам адданых. А іх – няма! У Лохвіцы вунь з мужыкоў мой пляменнік Мішка пятнаццацігадовы ды Пятрусь, хворы на галаву, як на ягоных вачах сястру Марысю вашыя разам з сям’ёй паклалі. Вось і лічы: добра калі паўтара мужыкі на вёску. І тыя – самі за сябе.

– Нічога, па іншых вёсках пашукаем!

– Ага, Езус вам у дапамогу... А лепш адразу ў мястэчка ідзіце, – пагадзіўся дзед. – Тамака паліцэйскіх смачнай ежай да сябе мо пераманіце.

Ён хацеў яшчэ нешта дадаць, як з боку вёскі прагучаў адзін стрэл, потым другі, пасля чаго разы з чатыры чэргамі коратка адгукнуліся аўтаматы. Дзед ускочыў з месца, за ім – пазасталыя парашутысты.

– Немец? – спытаўся дзед.

– Не, нашыя аўтаматы білі, – аспрэчыў камандзір. – А першай нібыта вінтоўка была...

“Мішка! – здагадаўся дзед Васільевіч. – Засранец! Я ж прасіў цябе не рыпацца!”

І дзед Васільевіч пашыбаваў у бок Лохвіцы. Ледзь не зваліўшыся з дрэва па-над рэчкай, ён выскачыў на поле і хутка сустрэў дэсантнікаў. Адзін з іх крочыў кульгаючы, паклаўшы руку на плячо таварыша.

– Бач ты! – сплюнуў Агмаль. – Такі падстрэліў нашага!

– Хто падстрэліў?! – не зразумеў дзед.

– Ды нейкі малы. Смальнуў з вінтоўкі, вунь Казанаву ў нагу ўсадзіў. Але больш не будзе.

– Што – не будзе?

– Адстраляў сваё малы, – татарын нядобра паглядзеў на дзеда. – Ты там скажы сваім: калі хто яшчэ надумае страляць, дык пусцім усю вёску дымам.

Дзед Васільевіч нічога не адказаў і пайшоў у бок Лохвіцы. Яшчэ здалёк ён пабачыў каля плота крайняй хаты купку баб, пачуў плач. Галашэнне Васіліхі рэзала паветра, бы той нож.

Мішка ляжаў на жываце, выкінуўшы наперад левую руку, якой ён,

відаць, падтрымліваў вінтоўку. Па ўсім было відно, што аўтаматныя кулі працялі ягоны жывот, пасля чаго хлопец проста паваліўся наперад.

– Так, бабы... Слязьмі Мішку ўжо не дапаможаш. Падрыхтуйце ўсё ў хаце. А Мішку я сам прынясу. Ён цяпер няважкі, хлопча, як той парашуцік дзьмухаўцовы...

За ўвесь той час, як дзед Васільевіч майстраваў труну, капаў дол на могілках, як сядзеў за памінальным сталом, ён не прамовіў ані слова. Адно бязгучна шаптаў: “Мішка... Мішка...” І толькі як сыходзіў з хаты ў лес, яшчэ раз нагадаў пляменніцы:

– Давай, Данутка, у мястэчка. Не марудзь. Мы тут ужо самі неяк...

У леснічоўцы ён доўга не мог заснуць, круціўся з боку на бок. Заснуў пад самую раніцу, а як ускінуўся на ногі недзе на пачатку восьмай, з’еў сала з халоднай бульбай і пачаў збірацца. У мяшок паклаў скрутак тонкага дроту, дзве гранаты, закінуў за плечы вінтоўку і пакрочыў у бок чыгункі, туды, дзе ўпалі мяхі дэсантнікаў. Там на вышыні чалавечага росту дзед Васільевіч прыкруціў дротам некалькі кавалкаў выбухоўкі, прымацаваў да іх гранаты, звязаўшы ім кольцы дротам. Канец дроту прывязаў да аднаго з мяхоў. Адыйшоўшы на колькі крокаў, прыгледзеўся. Ягоны сюрпрыз мог убачыць хіба толькі той, хто пра яго ведаў.

– Вось так, Мішка, – прамармытаў дзед Васільевіч. – Я іх папярэджваў. Больш не выпадае. Так што хопіць ім шчасця...

Ён прыйшоў да лагера парашутыстаў і не вітаючыся, сказаў:

– Знайшоў я вашыя мяхі...

– Во! – ускочыў на ногі Карчоў. – Дзе яны, вядзі!

– Самі адшукаеце, – адрэзаў дзед. – Яно проста: там, дзе вы на чыгунку палезлі, злева балотца. Як будзеце яго абмінаць з боку лесу, там акурат на дрэве і вісіць парашут. Мяхі на зямлі. А хадзіць з вамі ў мяне менш за ўсё ахвоты.

З тым і пайшоў да сябе, не азіраючыся, адно ў які ўжо раз прашаптаў сам сабе: “Мішка...”

Каля леснічоўкі дзед Васільевіч сеў на пень і пачаў пільна ўслухоўвацца ў наваколле. У вершалінах дрэў пачынаў падвываць вецер, і было зразумела, што хутка, ледзь не праз дзень, зямлю пакрые снег, прыйдуць халады і зіма ўсталюецца трывала і надоўга. Міжволі дзед пачаў думаць, дзе паставіць першыя пелькі на зайцоў, дзе зручней будзе ўпаляваць дзіка, а дзе на рэчцы на якой яміне больш збярэцца рыбы. Разважаў бы і далей, але скрозь пошум ветру прарвалася рэха моцнага выбуху.

“Колькі ж іх туды пацягнулася? – падумаў дзед Васільевіч. – Чалавекі чатыры, не менш. Утрох бы не пацягнулі тыя пакункі. Так што дай Бог, каб усе чацвёра там і засталіся...”

На наступны дзень сапраўды пайшоў снег. Спачатку ён нясмела зацерушыў, нібы спрабуючы, як яго сустрэне яшчэ не схаладзелая зямля. Вецер сціх, а таму снег, з кожнай гадзінай набіраючы моцы, павольна клаўся на лапіны ялін, шэптам церушыўся сярод дубовай лістоты. За два дні напалала яго столькі, што Васіліха ледзь не павалілася ад стомы, як увайшла ў леснічоўку, і пару хвілінаў, сеўшы на ляжанку, не магла вымавіць ані слова.

– Што здарылася? – не вытрымаў дзед Васільевіч.

Яшчэ колькі часу Васіліха шморгала носам, церла кулакамі мокрыя вочы і спрабавала нешта сказаць, але з яе рота вылятаі толькі няўцямныя, здушаныя гукі.

– Данута?! – не вытрымаў дзед.

– А... ага, – выціснула з сябе Васіліха і зараўла на ўвесь голас.

Дзед выйшаў з леснічоўкі, разумеючы, што Васіліха, пакуль не выплачацца, усё адно сказаць нешта не здолее. Вершаліны ялін гнуліся ад снегу, скрозь хмары, якія нізка паўзлі па-над дрэвамі, час ад часу прабівалася вока вялікага, поўнага месяца. Адчувалася, што вось-вось – і сапраўдная зіма сціснe гэтую знямелую зямлю.

“Казаў жа я табе, дзяўчынка, хутчэй сысці з вёскі...” – прамармытаў дзед Васільевіч і вярнуўся ў леснічоўку. Ягоная сястра сядзела нерухома, яе вялікі цень ад газнічкі ледзь пагойдваўся на сцяне жытла.

Нічога не пытаючыся, дзед прысеў на лаўку. І тады Васіліха сама пачала распавядаць сухім, драўляным голасам...

Парашутысты ўваліліся ў яе хату ўдзень, калі на вуліцы яшчэ не пачало нават шарэць. Былі толькі ўдвух: галоўны і вузкавокі. Адразу запатрабавалі гарэлкі і ежу. Посную бульбу рукамі запіхвалі ў рот, цадзілі самагонку, чорнымі пальцамі рвалі на кавалкі бохан хлеба. Пад’еўшы, узялі мяхі і пайшлі па хатах, забіраючы з ежы ўсё, што траплялася на вочы. Лазілі пад печы, зазіралі пад ложкі. Дайшлі да Марысевай хаты, дзе ў гэты акурат час Данута вучыла дзяцей, як трэба бінтаваць парэзаныя пальцы. Сам выгляд таго, што нагадвала школьны клас ды скрутак белага бінта на стале, літаральна раз’юшыў вайскоўцаў. “Што, сучка, школку арганізавала? На немцаў працуеш?!” – зароў галоўны. “Бач ты, нашыя таварышы ад ранаў паміраюць, а яна тут бінты ад нас хавала!” – дадаў другі. Потым галоўны загадаў Дануце збірацца, каб ісці з імі ў лес. Данута адказала, што яны забілі яе брата, і яна іх ненавідзіць, таму нікуды не пойдзе. Прыбышы пакідалі мяхі з нарабаваным на падлогу і, лаючыся, выцягнулі Дануту на вуліцу, не даўшы ёй нават апрануцца. Дзеці, якія збегліся да вакна, бачылі, як партызаны штурхнулі Дануту да сценкі адрыны, галоўны нешта сказаў, пасля чаго некалькі разоў стрэліў з пісталета. Вайскоўцы вярнуліся ў хату, дзе камандзір яшчэ раз стрэліў у столь, пабралі мяхі і з мацюкамі пасунуліся ў бок лесу...

Дзед Васільевіч два дні не пакідаў леснічоўку, выходзіў адно па патрэбе. У леснічоўцы ён старанна агледзеў дзве старыя насткі, адчысціў іх ад іржы, змазаў салам, праверыў спраўнасць спружын. За гэты час ён з’еў хіба адну лусту хлеба з цыбулінай, большую частку часу моўчкі сядзеў, гледзячы, як танчыць язычок газнічкі, паўтараючы сам сабе імёны: “Мішка... Данутка...”

Нарэшце рашуча падняўся і сам сабе сказаў:

– Удвух яны засталіся, удвух. Значыць – час!

Закінуўшы за плечы вінтоўку, дзед Васільевіч падхапіў мех з пасткамі, стаў на лыжы і пакрочыў у бок пераправы праз рэчку. Ён разумеў: не сёння, дык заўтра згаладалыя парашутыстыя зноў пасунуцца ў Лохвіцу. Чакаць іх з вінтоўкай каля рэчкі ані сэнсу, ані ахвоты не было. Дый хуткая смерць ад кулі была б для прыбышоў хутчэй падарункам, чым караю...

Снегу за гэтыя дні наваліла ледзь не па пояс, але на лыжах ісці было даволі спраўна. Недзе праз гадзіну, калі толькі пачало віднець, дзед Васільевіч быў ужо каля пераправы. Падумаўшы, першую пастку ён уладкаваў метраў за пяць перад бервяном, прымацаваўшы яе ланцугом да бліжэйшай альхі. Другую заглыбіў у снег акурат каля самой пераправы, гэтак жа старанна накінуўшы ланцуг на камель бліжэйшага дрэва.

Снег не спыняўся, вецер шугаў пазёмкаю. Дзед Васільевіч загладзіў свае сляды веццем, падумаўшы, што праз якую гадзіну тут будзе ўжо амаль некранутая цаліна. “Мішка... Данутка...” – які раз паўтарыў ён гэтыя імёны сам сабе і пасунуўся ў бок свайго жытла. Снег сляпіў яго, і цяжка было зразумець, ці то ён раставаў на твары, ці то дзед Васільевіч нарэшце не стрымаў слёзы...

Прачнуўшыся ў зямлянцы ад холаду, Карчоў адчуў, як яму сціснула жывот. З яды ў іх на дваіх засталося адно яйка ды невялікі кавалак сала. Падумаўшы, Карчоў пакінуў яйка некранутым, а сам, седзячы, доўга і старанна пераціраў зубамі сала, аж пакуль скурка не зрабілася мяккай. Тады, праглынуўшы яе, Карчоў расштурхаў Агмаля і загадаў:

– Давай па ваду. Вып’ем цёплае, потым у вёску пойдзем.

– Мог бы і сам схадзіць, – прабурчэў той.

– Не зразумеў загад? – неяк абыякава адрэагаваў маёр і дадаў: – Вунь яйка праглыні – і марш!

Агмаль скінуў з сябе шынель, пад якім ляжаў уначы, працёр вочы і, адкінуўшы брызент, які закрываў уваход у зямлянку, высунуў з яе галаву.

– Ты бачыў, колькі снегу намяло? Тут да рэчкі ісці з гадзіну, не кажучы ўжо пра вёску... Лепш снегу натопім.

– Натопім, ага... Я буду дровы рэзаць? – рыкнуў Карчоў. – Давай па ваду, хутчэй. Сагрэемся, а потым пойдзем па харчы. Стратэгі маскоўскія, каб іх! Скінуць – скінулі, а як тут выжыць – парады не далі...

Агмаль схапіў яйка так, што раздушыў яго ў далоні, і прагна запіхаў у рот усё, што здолеў утрымаць. Сплюнуўшы колькі разоў шкарлупінне, ён выцер аб вопратку руку. Потым з вядром у руцэ выйшаў з зямлянкі, зрабіў крок і праваліўся ў снег ледзь не па пояс. Ён сапраўды дайшоў да рэчкі ці не за дваццаць хвілін, з цяжкасцю перасоўваючыся ў снезе. Ужо каля самага бервяна, там, дзе трэба было спусціцца да вады, ён спатыкнуўся і ўпаў на бок. Спрабуючы адразу стаць на ногі, абапёрся рукой аб зямлю, глыбока засунуўшы яе ў снег. У гэты момант нешта шчоўкнула, і цела вайскоўца працяў востры боль. Агмаль закрычаў, спрабуючы вызваліць руку, але ўсё, што ў яго атрымалася, гэта выцягнуць яе з-пад снегу. Пастка сціскала руку крыху вышэй за далонь, кроплі крыві падалі на снег. Патузаўшы ланцуг, вайсковец прабраўся да дрэва, дзе пераканаўся, што расшчапіць звёны шанцаў няма. Завыўшы ад разумення ўласнай бездапаможнасці, Агмаль асунуўся на снег і пачаў крычаць, спадзеючыся, што Карчоў яго пачуе. Завіруха ўзмацнялася, і ягоныя крыкі зносіла ветрам некуды ў бок вёскі...

Стаміўшыся чакаць Агмаля, Карчоў вылаяўся, начапіў на грудзі аўтамат і выправіўся на пошукі падначаленага. “Вось жа татарская морда, – думаў ён, імкнучыся трапляць след у след за Агмалем. – Няйначай, вырашыў без мяне пайсці ў вёску. Падла! У іншай сітуацыі адразу б расстраляў! Але што я тут буду рабіць адзін?”

Завея круціла свой адчайны танец, і Карчоў, арыентуючыся ў прасторы толькі па ледзь ужо прыкметных слядах, нарэшце ўбачыў наперадзе нейкую цёмную пляму.

– Гэй, татарын! – гукнуў ён. – Гэта ты?

З-за гуду ветру адказу ён не пачуў, але ўцяміў, што ягонаму напарніку патрэбная дапамога. Рашуча ступіўшы наперад, ён адразу не зразумеў,

што адбылося. Нешта сціснула ягоную правую нагу, ды так, што боль ён адчуў толькі праз колькі імгненняў. Гэта быў не проста боль: здавалася, нехта спрабуе рэзаць ягоную нагу адразу з двух бакоў.

– А-а, маць тваю! – зароў Карчоў, імкнучыся выпрастаць параненую нагу. Пабачыўшы тоўсты ланцуг, ён з усяе сілы пацягнуў яго да сябе, потым ірвануў – адзін раз, другі, трэці. Без толку. Тады Карчоў сеў у снег, сунуў рукі ўніз, намацаўшы тоўсты метал, і зразумеў: так проста вызваліць нагу немагчыма. Таму ён зноў пачаў тузаць ланцуг, аж нарэшце папоўз у бок дрэва. Там ён, губляючы сілы, паспрабаваў рэзаць тоўсты камель нажом, усё выразней усведамляючы, што заваліць альху з дапамогай аднаго нажа – справа безнадзейная. Але ён працягваў рэзаць дрэва, аж пакуль лязо раптам не зламалася. Нага ўжо нібыта й не балела. Карчоў, разграбаючы снег рукамі, папоўз да Агмаля, аднак як ні намагаўся, не змог да яго нават дацягнуцца.

– Ты, дапамажы! – колькі разоў гукнуў ён, аднак у адказ не пачуў нічога.

“Глупа... Наколькі гэта глупа – паміраць вось так, а не ў баі”, – падумаў Карчоў, паволі перастаючы разумець, што адбываецца навокал.

Мінула колькі гадзін. Звечарэла. Завіруха пачала супакойвацца, вецер налятаў на два скурчаныя целы ўсё радзей. Неба паступова вызвалілася ад хмар, мароз усё мацней ахутваў зямлю. Колкія зоркі пераміргваліся на небе. З-за вершалін бору паволі высунуўся месяц, аднак і ў ягоным гулкім святле немагчыма было зразумець, што тут адбылося. Зіма легла на зямлю надоўга. А па вясне адзін толькі чалавек мог пра тое распавесці. Ды не стаў таго рабіць. Парэшткі вайскоўцаў дзед Васільевіч закапаў на ўскрайку бору. Пасткі пратрымаў пару дзён у рачной вадзе, пасля чаго змазаў салам, абгарнуў анучай і схаваў у лесьнічоўцы пад ложкам.

Яны яшчэ спатрэбяцца.

Алена Гінько



...што ж, лячыце мяне
ад Сябе...

# Занадта зямная

### *ТУЗБІЦА*

Тузбіца.
            Пастаўшчына...
                                        Вярба
Хіліцца да рэчкі-ручаіны...
Храм пакут маіх, мая журба,
настальгія,
               мой выток адзіны.
Вёска – незабудка,
                           каласок,
рунь надзей
               і поле ўспамінаў –
туліцца цнатліва да лясоў...
Корань дрэва – тут.
                           А дзе галіны?

...Сцежачка крывая на клады...

Сэрца, птушкай узляці да Неба!
Яркай znічкай азары брады,
лапік лесу,
 вёску, поплаў, глебу.
Асвяці мне радасцю здаля
землякоў абліччы,
 іх Святыні...

Тузбіца, пастаўская зямля, –
мой народ
 ніколі тут не згіне.

* * *

Усё заблытана...
 Загадка
ці нават тайна існуе.
Самота свой узор снуе...
Снуе самота свой узор,
а сэрца просіцца да зор.
Да зор?
Да Зорачкі-заранкі,
да светлай мары-калыханкі,
што вабіць, цешыць і хвалюе,
што ў сэрцы днюе і начуе...
Ці чуюць Зоркі незвычайных?
А можа, добра, што ёсць тайна?..
Дзе таямніца – там надзеі
і, дасць Бог, добрыя падзеі.

* * *

Калі надыдзе сумаваць часіна
і ад нягод панікне галава,
звярнуся да аблокаў і хваінак,
мне дапамогуць кветкі і трава.

Няма спагады часта сярод люду,
і ўсё радзей сустрэнеш дабрыню...
Расянай кроплі я маліцца буду
за непадробленасць і чысціню.

Прамень асушыць горкую вадзіцу
і абагрэе ласкаю душу.
Зямлю малю, не ўмеючы маліцца,
ды веру: ёй не саграшу.

* * *

Прыгажуняю,
чараўніцаю,
падарункам чыйгосьць жытла,
яркай зоркаю Мілавіцаю
называлі...
А... ці была?
Пекнай ягадкай,
гожай краскаю,
звонкай песняю ручая,
незвычайнай
чыёйсьці казкаю
называлі...
Была ж – не я...
За асокамі,
за аблокамі,
птушка шчасця галёкае: дзе?..
Мо галёкае, адзінокая,
мо купаецца ў слёз вадзе?

* * *

Што ж, лячыце мяне ад Сябе.
Паслухмяна іду па пакуту
і дрыготкай рукою атруту,
а не зелле
бяру...
У журбе
сэрца зойдзецца...
Раптам стрываю?
Дагару.
Я і так дагараю...

...Што ж, лячыце мяне ад Сябе!

* * *

Разбіта сэрца тым,
адзіным...
І стала жудасна,
бы льдзіны
лавінай грознай – з вышыні...
А дні лятуць,
пустыя дні,
дзе ні надзеі,
ні ўспамінаў.

І думка скача: гіну, гіну...
О Божа,
выратуй душу!
Прашу!!!
Грашу?

* * *

Кавалачак любові і цяпла,
нібы жабрачка, – з прагай падбіраю
і, міласціну ўзняўшы,
я – лятаю.

Лятаю, бо...
жабрачкаю была?

Жабрую: долі іншае няма,
вандрую між аблокаў,
бо – кахаю.

Я нешчаслівая
без гэтага "ярма",
але і з ім шчаслівай
ці бываю?..

## БЫВАЙ

Занадта зямная?
Я знаю.
Я знаю, каханы.
Бывай...
Бывай, парушынка адчаю
і мой акіянны адчай!
Бывай, маё Сонца, і мара,
і мора Кахання...
Бывай!
Я хмара, знямоглая хмара,
дзе вернага сэрца адчай.
Куды мне паплыць, не спазнаю –
у бездань адчайна гляджу...
Я хмараю адплываю
з лавінай адчаю – дажджу...

## МЕЛОДЫЯ

Мелодыя узнёслых галасоў
трывожыць, узвышае і здзіўляе.

Узрушана-дзівосны унісон –
сугучча душ – люляе-захапляе...
Жыву сустрэчай нашых галасоў,
спялю надзеі парастак гадамі!
Убачу сэрцам вобраз родны зноў
на тэлефонна-міжгародняй дыяраме
і... зацалую
                (голас?!)...
Свет (о так!),
                        пяшчотай запалонены, знямее...
Не паланёны ж Музаю мастак
занатаваць-аздобіць не здалее
Яе, Мелодыю Дваіх...
...Дабраслаўляю жыватворны Міг.

* * *

Зялёны ліст кранае пазалота,
калі ляцяць у вырай журавы...
Халодныя дажджы, туман і слота...
На скронях снег – гарчэй палын-травы.

Гарыць ліхтар агеньчыкам самотным
у цемры паміж сцішаных дамоў.
Іду адна вандроўнікам гаротным.
Ліхтар то ўспыхне, то прыцьмее зноў.

Шляхі і ростані... Святло і цемень...
Бясконца хваляй б'юся ў берагі.
А чалавек – пясчынка, не крэмень.
Дзе мой прыстанак і прытулак ад тугі?!

Дзе промень мой вясновы і гарэзны?
Дзе лецейка жаданае? Дзе май?
Трымціць душа струной надрэзанай.
...Трымай мяне, саломінка, трымай.

Аляксей Філатаў



...цярпі, пастушок,
цярпі, матчын памочнік,
доля такая твая...

# Жнівеньскія росы

***Два аповеды***

### Маліся, Алёша

Нарэшце чытаю Наталку Бабіну. Яе разрэкламаваны ўлаўрэачаны, перакладзены ў блізкім і далёкім замежжы раман «Рыбін горад». (Нехта грукнуў у дзверы маёй качагаркі, але падумалася, самі адскочылі, і не збіўся з думкі). Гляджу на Наталчын партрэт і бачу, што і на самой справе яна рыхтык такая, як сама сябе *адлюстравала*. З фотакарткі глядзяць яе думы, «старыя і новыя». Ох, і складаныя думы! А ўзбіў мяне на знаёмства з ёю Мікола Пракаповіч, кажа: піша яна, Лёня, пра нашую, пра тваю зямлю. Дзякую Валеру Булгакаву, што, лічы, падараваў мне гэтую кніжыцу на адмысловай паперы. Дайшоў да тае старонкі, дзе падзеі адбываюцца ў нашым Брэсцкім ізалятары-турме, у КПЗ, якім кіраваў калісьці наш старэйшы сябар-зямляк, капітан міліцыі, пісьменнік, аўтар адзінае кніжкі «Шумят ели» Уладзімір Стэльмашук, што не дажыў

да яе выхаду ўсяго тры дні, хоць клапаціліся, каб заспеў аўтар плён свае пажыццёвае працы Уладзімір Калеснік разам з Максімам Танкам.

Не скончана чытанне, не думаецца нават сказаць нешта пра твор, проста праўда аповеду падштурхнула на ўспамін пра мае стасункі з караючай фалангаю ўлады, – адзін раз у маім доўгім жыцці, не лічачы перапынку на ваенныя чатыры гады.

З чаго пачаць? А з тых "ястрабкоў", што атабарыліся ў ляхавецкай клуні шляхцюка Клапатоўскага: у ягонай хаце знайшлі мы прытулак пасля канцлагера Потшыкаў на зыходзе 1944-га года. "Ястрабкі" харошыя былі хлопцы, маладыя, чырвонатварыя, адмыслова-здаровыя, іх повар пачаставаў мяне заціркаю на малацэ з казана на вогнішчы пасярод нашага падворка – рыхтык такою, як зачарпнуў мне некалі ў кацялок нямецкі повар у тым жа Потшыкаве. Повар "ястрабкоў" быў маім земляком, і калі даведаўся, што я з-пад Віцебска, шугануў мяне, шасцігадовага, пад неба, прытуліў да грудзей – шчаслівы, як і я. Кіраваў "ястрабкамі" рыжы маёр, камендантам канцлагера таксама быў маёр і таксама рыжы. "Лагерны" рыжы маёр упадабаў бавіць час у нашай хаце, побач з маім прыёмным татам і выключнага хараства душы і твару прыёмнаю маці. Толькі вось мама чамусьці паперад візітам госця здымала з мяне паўсядзённыя траны, апранала ў бялюткую кашулю і павязвала на шыю пунцовы піянерскі гальштук.

Восем гадоў мэльдаваўся ў раённым пастарунку тата: не выпускалі нас ні на крок за межы раёна, пакуль не адшукаў мяне мой родны дзядзька – высокі партыйны функцыянер. Першай у раёне з тых, хто быў пад акупацыяй, маме маёй вырабілі савецкі малаткасты, праўда, часовы, пашпарт.

Каб не пераскокваць далёка наперад, вярнуся крыху назад. У 1939-40-х, аккурат у той час, калі прыйшлі на кароставых конях харошыя, першыя Саветы (харошыя таму, што прыйшлі й пайшлі, а другія, дрэнныя – з 1944-га засталіся па сёння), старэйшая маміна сястра, цётка Тася, як і бабуля Сцепаніда Пятроўна, былі пападдзямі. Дзед Мяфодзій, вайсковы капелан – загінуў ад тыфу ў грамадзянскую вайну, слугуючы змагарам за Радзіму побач з Дзянікіным, а дзядзька Аляксей Ушакоў быў маларыцкім благачынным і адразу трапіў за краты. Вельмі моцнага і целам і духам айца Аляксея пасадзілі без права ліставання, наведвання і перадачаў, з-за чаго надта перажывала цётка Тася, бо як ніхто ведала, што бацюшку без добрае лусты хлеба, бруса сала і прыгаршчаў табакі свет белы не мілы, і не толькі за кратамі.

Усе інтэлігенты-«западэнцы» трымалі сябе ніжэй травы і цішэй вады, асабліва бабуля і мама. З жудою ў сэрцы, але з годна ўзнятаю галавою паводзілі сябе бацюшка, якога не адлучылі ад школы, – Аляксей Нічыпаравіч і Таіса Мяфодзіеўна – матушка, якую пабойваліся прыхаджане нават больш за бацюшку яшчэ і тады, калі ён спраўна нёс сваю царкоўную службу. У сям'і яна выконвала абавязкі «каптэнармуса» – забяспечвала восем ратоў хлебам надзённым. У адмысловых строях, нават у капялюшыку з вуаляю заходзіла ў Бобелевы лаўкі, дзе гаспадар сустракаў яе нязменным «Свуй до свэго і по свое». Гаспадыні раёна (жонкі сакратароў і старшынь), безумоўна, звярнулі ўвагу на маўкліва-ветлівую, годную пані. Падыходзілі да прылаўкаў адразу за ёю і бралі тое ж, што і яна. Прыглядаліся падоўгу, віталіся, разыходзіліся моўчкі, глядзелі ваўкавата і толькі ў адной самай галоўнай, жонкі першага сакратара, цётка Тася адчула, як і Бабіна, чалавека.

«Сакратарша» неяк неўпрыкмет адшыла сваіх сяброўак, а за матушкаю заходзіла да Бобеля амаль кожны дзень. Зазвычай затрымлівалася ў лаўцы, а то неяк выйшла адразу за цёткаю і, не даганяючы, пацiху вымавіла ў спіну: «Пожалуйста, не оборачивайтесь. Знаю я вашу боль. Бог всегда тот же человек, который верит в него, Бог – это скорбь по правде и любви. Я обгоню вас и уроню листок бумаги, это ваше разрешение на встречу с отцом Алексеем». «Ёсць, ёсць Ты, Божа, мілы, на зямлі. Дзякую Табе і Маці тваёй Багародзіцы», – амаль не самлела цётка.

Схуднелую да знямогі праз закратаванае шкло яна ўбачыла яго магутную постаць і блакітна-шэрыя вочы, поўныя той тугі і любові, пра якую гаварыла сакратарова любоў.

– Табакі прынясла? – першае, што спытаў ён.

– Перапалавінілі, але ёсць, усё ёсць, чаго табе хочацца. Маліся, маліся, мілы Алёша, і за іх. І сярод бальшавікоў ёсць людзі.

Мо праз хвілінаў пяць белатвары ў рабацінні салдацік у будзёнаўцы і з вінтоўкаю з прымкнутым штыком звонка гукнуў:

– Свидание окончено! На выход! – а калі матушка мінала яго, працэдзіў скрозь зубы. – Иш, разрядилась сволочь поповская, взять бы тебя на семь штыков. И как же ты достучалась сюда, какая гнида тебя впустила?

«І за цябе памалюся, ачмуранае сатаною дзіцё», – падумалася цётцы Тасі.

Саскочыла з цягніка ў Маларыце. Бегма дамкнула да хаты. Цалюткую ноч чаравала на кухні. Зранку зазірнула да Бобеля. Папрасіла гандляра:

– Эльберт, дарагі, перадайце пацiхеньку Мінаўне (толькі па бацьку ведалі ў мястэчку жонку Першага).

– О-о, важкі «амбасадар», з паўпуду заважыць, – пахітаў на руцэ торт Бобель, – Рэцэпт, рэцэпт напішыце. Яны, гавораць, як і вы, – золатагаспадыня...

## Жнівеньскія росы

Аднойчы надзвычай здзівіўся, пачуўшы, што прычынаю самаадключэння высакавольтных ліній з'яўляюцца... жнівеньскія росы. Слухаў, як вінавацілі, бэсцілі іх энергетыкі, і не змог не ўспомніць, не заступіцца за любую сэрцу яшчэ адну зямную красу...

...Ужо каторы раз мама ціхенька просіць: "Уставай, прачынайся, сынку, сёння нам чэрэду гнаты!" А ўставаць так не хочацца. І маці шкадуе, дае магчымасць яшчэ хвіліначку паспаць. Адхінае радзюжчыну, насоўвае на ногі канапляныя нагавічкі, закручвае анучы, уздзявае пасталікі, заборсвае ільняныя валокі. Ды абутыя ногі зноў мосцяцца на прымасты, а засліненая далонька не хоча вылазіць з-пад шчакі. Маме няма часу ласкі разводзіць: "А ну, марш да колодця, молодцю бэссовысны, зікра сполосны!"

У васьмігадовага "молодця" за плячыма – торба, у руках – ляшчынавы кій. Цягнеш ногі за невялікім статкам, не паспеўшы канчаткова ачуняць, не сабраўшы да купы ўсіх сваіх мызяў. Не мінуў яшчэ крайніх двароў, а пасталікі і анучы твае – хоць выкручвай, мокрыя ад расы. Ля броду, хоць няма ў гэтым ніякай патрэбы, чамусьці разуваешся, прывязваеш абутак да торбы, у нерашучасці мнешся, нарэшце асцярожна, па-буслінаму ступаеш у скаламучаную ваду. І дзіва – вадзіца цёпленькая, бы сырадой, век стаяў бы, не выходзіў з яе. Але "Пекарыха", каб яе ваўкі спляжылі, быдлячымі трушкамі шыбуе ў Мадзярышыны грады. Даеш нырца пад

даўжэзны альховы друк, з затоеным страхам, з салодкай радасцю бяжыш па рассцеленых на поплаве светла-шэрых палотнах, і сляды твае ўвачавідкі поўняцца расяною вільгаццю. У канцы поплава колькі здужаеш цягнеш кіем па кастлявым каровіным азадку. Похапкам, збольшага, ладзіш зламаную парэнчу і пад нечуваныя праклёны пераспелай Мадзярышынай дачкі на злом карка нясешся на выган. Мала-памалу ўтаймоўваецца сэрца, і пачынаеш заўважаць, як каровы твае злізваюць разам з адскочыўшай атавою незлічоныя расяныя пацеркі.

Неўпрыкмет уздымаецца, залазіць пад лапсердачок вецер, узапрэлую спіну скаланаюць дрыжыкі, становіцца не на жарт холадна. Уціскаеш галаву ў плечы, горбішся, скачаш, трэш адна аб адну адубелыя ногі, але раса, буйная, сцюдзёная, злая, пякучая, не мілуе, не шкадуе парэпаных, патрэсканых ног тваіх. Цярпі, пастушок, цярпі, матчын памочнік, доля такая твая. Ды тут адной з Мызяў прыспічвае шырока расставіць заднія ногі. Шыбуеш на паруючае месцейка, мнешся, плёскаеш, цёпленька, мякенька, драпіны крышку паколваюць, далікатна свярбяць, гояцца, адно – ненадоўга.

Увесь ранак вось так пабегаеш, пратопчашся. А там і сонца падужэла, а там і вецер прашугаў навылёт анучы твае і пасталы. Прымастаколішся пад вярбою, нетаропка, з веданнем справы абуваешся і не можаш наглядзецца, як з кожнай галінкі, з кожнай травінкі, з кожнай кропелькі зямной, як і з самога цябе сплывае ў чыстае, светлае неба мірыядамі струменьчыкаў жнівеньская раса.

***

– А мой ты харошы, прачынайся, ночка мінула, – яе засмяглыя вусны адшукалі твае, яе вялізныя, бы Багдановічава зорка ў таямніча-чароўным на світанні небе, вочы сеюць праменьчыкі трапяткога шчасця.

А ўжо, ужо, аблізнеш гаркава-салоную саладзечу з натомленых губ і зноў падсунеш далонь пад шчаку.

– Ой, хутка мамка выйдзе Краску даіць, уставай, чуеш?!

І нейкая тугая спружына адным штуршком ускіне цябе, прыцісне маладое цела, ажно хрумснуць костачкі, да вяснянкі тваёй. І ўзнімеш яе, як пёрка, на дужыя рукі свае, адштурхнешся спінаю ад густой яблыні, пад якой на вузенькай лавачцы вы ночку скараталі. Град паданак разам з морам роснага жнівеньскага дажджу абмыюць, палоняць абоіх. Але абдымкі стануць яшчэ мацнейшымі, няма такой сілы, каб разарвала іх. Ды рыпаюць у сенцах дзверы. Як віхурай узняты, не парваўшы нават штаноў, пераляціш цераз вышэзны плот і разальешся ў блакітна-ружовым мроіве, толькі-толькі народжаным сонцам. Потым нешта прымусіць цябе прыпыніцца пасярод роснае сцежкі, зірнуць яснаму сонейку ў зіхатлівыя вочы, і ты адчуеш усхваляванай душою, што і сонца бясконца кахае тваю зялёна-залатую зямлю.

***

– Цягнешся на ноч гледзячы. На мяне, на дзяцей, на маці родную, на гэтую закапцелую кухню табе напляваць, ніводнага выхаднога! – жонка абводзіць вачыма чысцюткую, утульную гарадскую кухню. – Цягне, бы сучку ў кола. А каб ты не вярнуўся, д’ябал клышавы!

Маўчыш, адно з такою сілаю праціраеш ствалы дубальтоўкі – каб не жалезныя, пэнькнулі б.

– Глядзі, не ўтапіся дзе, з паразітамі тымі па макаўку насмактаўшыся.

Маўчыш, хапаеш рукзак, у які мама нешта ціхенька ўсунула, выбягаеш з пад’езда, крадком азіраешся на трэці паверх, на акно, з-за якога мама хрысціць тваю спіну, і куляй на станцыю.

Прачынаешся. З агідай і страхам вылазіш з-пад рэшткаў нейкага смярдзючага невада. Зуб на зуб не трапляе, шыю не павернеш, нібыта пуцейскі кастыль лыгаў і не далыгнуў. Сябры твае недзе пагубіліся, рукзак твой пусты, у патранташы ўсяго тры набоі. Упрыцемку ўлазіш у куст вербалозу, які ледзь не выкалаў табе вочы, абмыў прыгаршчамі колкай, лютай жнівеньскай расы. Але крышку ачухваешся.

Мосцішся на адпаліраваны ветрам і хваляю валун, дастаеш з рукзака цудам ацалелы тэрмас, выкалупваеш корак. Божа, як міла, як родна ён пахне матчынымі зёлкамі. Як журботна, зусім як раса пад першымі промнямі, паруе ўзвар, ціха ўючыся з бліскучага люстранога горлачка! Успамінаюцца змаршчынелы мамін твар і першая сівізна на скронях тваёй вяснянкі...

...У ізалятарах, вялізных, глыбокіх, дзень за днём копіцца тлусты пыл. Ад крамяной жнівеньскай расы ён мякчэе, раствараецца, ліпкай вадкасцю марудна спаўзае на правады і замыкае іх...

Зміцер Баяровіч



...сыходзіць
з дома
мая каханая
вяртаецца
дадому
не мая...

# Мова зданяў

* * *

не вяртайся,
нялюбая,
да мяне,
ў залатым
прыхаваўшы срэбра,
чуеш – не трэба,
не вяртайся,
нялюбая,
да мяне

запаволіць
хаду і міне,
што было,
як мінае памяць,
як далонь
загінае палец –
не вяртайся,
нялюбая,
да мяне

не вяртайся,
нялюбая,
да мяне,
тым вяртанням
не будзе скону,
чуеш – ніколі
не вяртайся,
нялюбая,
да мяне

або так,
або не,
бы вяртаюцца
пчолы ў соты,
я прашу – заўсёды
ты вяртайся,
каханая,
да мяне

* * *

ты чалавек, які
ад дома далёка,
ты мне растлумач –
як марудна
і нерухома
над паплавамі
сцелецца туман

як вецер свішча
й чарадою
злятаюць птушкі
з восеньскіх лясоў,
як у дзяцінстве
з глінай і вадою
ў кішэнях
хрумстае пясок

з тых казак,
што спявалі казкі,
з той песні,
што спяваў каму, –
ты адкажы мне
калі ласка:
чаму,
чаму,
чаму,
чаму

сузор’ямі
сваіх радзімак,
рассыпаных
на цела, бы абрус,
я ўсё мацней
люблю радзіму,
а не Беларусь

### *ЧЫГУНКА*

кроплі, стамлёныя ад імжы,
колы – ды больш ні гука:
ехаць дадому з-за мяжы
чыгункай

ўзгоркі, лецішчы й палі
за вокнамі шэрай хусткай.
выйсці, у тамбуры запаліць
хутка

думаць, ці спраўдзіцца вера, ці
лічыць светлафоры станцый,
ведаць, што каб пайсці
патрэбна дзе-небудзь застацца

паўстанак знікае і зіхаціць,
дым запаўняе грудзі,
ды адчуваць: у маім жыцці
таго не было, што будзе

* * *

чым шчыльней
цалаваў губы
жанчын, што
цалавалі мяне –
тым толькі больш
рабіліся гурбы,
тым снег зімою
рабіўся мацней

як праз былое
наставала новае,
калі абдымалі
на яве і ў сне, –
я абдымаў
твае словы,

што ты калісьці
казала мне

чым даўжэй
мне была дарога
і спатольней
у далячыні вада,
тым часцей
мне здавалася:
твайго парога
я ніколі не пакідаў.

чым толькі большыя
ставалі гурбы,
як снег зімою
рабіўся мацней –
я шчыльней
цалаваў губы
жанчын, што
цалавалі мяне

* * *

мой блізкі сябар
даўні сябар
гадоў мінулых
столькі запар
і не было
а толькі пах
толькі пах
расстання
й слоў

як нашыя сцежкі
размінуцца
як нашыя сэрцы
адгукнуцца
ў чыю пару
мой блізкі сябар
даўні сябар
ты мне даруй

як першацвет
шукае выйсце
як пачынае
ладзіць вусце
сабе раку

я паціскаю
блізкі сябар
даўні сябар
табе руку

### *НЕПАЭЗІЯ*

як захад
сустракае
раніцу
як смутак
нараджае
смех
як у снежні
дзе-нідзе
здараецца
не першы
снег

разбуджанае
й расцалаванае
крычыць
над коўдраю
немаўля
сыходзіць
з дома
мая каханая
вяртаецца
дадому
не мая

як плакаць
то не так
гарэзліва
смяяцца –
пра сябе
хаця б
складаюць
не паэты
не паэзію,
а прозу
нашага
жыцця

* * *

я забываю
пра ўсё на свеце,
як дзьме вецер,
як дзьме вецер

як з мовы ветравай
перакладае
на мову зданяў,
на мову зданяў

як словы кліча
яго сынамі,
і заказычвае,
і заказычвае,
і засынае

як ставіць пасткі,
як б’е ў грудзі,
і ў тыя пасткі,
трапляюць людзі

я забываю
як дзьме вецер –
пра ўсё на свеце,
пра ўсё на свеце,
пра ўсё на свеце

Марына Яўсейчык



...большая частка народа не даведаецца,
што на плошчы была шыбеніца...

# Выйсце мае кожная з крыніц

***Аповеды***

## Паляванне на мамантa

– Давай паляваць на маманта. Ён схаваўся. У прымхах нябёс. Ён такі жвавы-жвавенькі, што не вытрымае цвярдыні зямной і скочыць у яміну. Ці знясе свае біўні з лесу: да бур’яну, у непралазныя гушчы і пушчы.

– *Я ещё слишком маленький, чтобы понять, о чём ты...*

– Але ж... Я пра неба і маманта. Нават цвярдыня зямная ледзь нас з табою трымае на сабе. Яна выпрабоўвае. Яна назірае. Ці не здрадзім ёй, ці не здрадзім сабе.

– *Изменить? Извинить её нужно. Наверное...*

– Перамены чакаюць і нас. Крок за крокам. Дружна набліжаемся ў сад. Разам ідзем.

– *Кто-то что-то сказал...*

– Ідзем, кажу, ціхенька. Тут паляванне... На густыя палеткі сунічнай мукі. У палетках жняяркі касцам росяць ногі. Раніца цяпер. Аблогі. З аблокаў і хмар. Нам сюды, дзе спелыя травы. Паглядзі на іх, паглядзі! Кветачкі поля ў рукі да нас просяцца! Збірай іх, у вяночак вяжы.

– *Старомодное что-то...*

– Старажытнае. Гаворыць з гары.

– *Гори-гори, моя звезда...*

– Зоры з сонцам гавораць, правільныя ты ўзгадаў радкі. Але ж не на той мове гаварылі прашчуры. Выходзім. З сада выходзім. Хопіць ты тут стаяў! Разглядаў, марыў, вобразы свету складаў.

– *Долой Советы!*

– Святло нам ды каханне!

– *Поклонение волхвам.*

– Мы ў ногі Богу паклонімся, каб нас не пракляў.

– *И отверзлись створки небесные.*

– Лесвіцу ў неба хтосьці нам падаў. Скінуў з неба, як калісь мая бабуля рушнікі саматканыя з ільна кідала, дзе стаяла нага твая. Кідала ў поле, якое калосіцца. Не лесвіца то – дарога была. З адной гары – да другой. Пакрочылі... Дадому.

– *Перемен! – требуют наши сердца.*

– Не хлебам жыве чалавек – малітвай, з якой выпякае хлябы.

– *Священной Русью правит.*

– Манархічная лухта. Гісторыкі самі складалі надзённае нешта. Палітыка. І ты тут. І я. А ці нешта кеміш? Ды дзе там!

– *Постой, паровоз, не стучите, колёса.*

– Жыць хочацца, братку, і нам. На зямлі роднай. Багата. Каб хата моцна стаяла і люд працаваў заўзята. Здымі ты ўжо прарэхі памяці сваёй! Год за годам некуды крочыш. Ці ж ведаеш дакладна, куды? Гаварыць не хочаш асабістае сваё меркаванне. Яно можа стаць агульным.

– *Стой жа ты тут хоць згары – мне бяда малая! – мовіў ты пабеларуску.*

– Дачакалася!

– *І не смей падымаць на мяне вачэй! Я – вялікарускі!*

– Ого! Што гаворыш ты! Што загаварыў! Карані твае з зямлі беларускай. Патыліцу пачухаў. Нязведанае штосьці бурліць унутры цябе! Бач! Пакрыўдзіўся на сябе. Значыць, праўду пачуў сваім вухам вострым, калі імкнуўся бліжэй да зямлі галаву нахіліць. Змелецца! Ператрусіцца! Забяруць! Перамелюць! Эге! Братка-каток, ды не ўсё, што гаворыш, на млыне перамелюць. Як і не ўсё, што возьмуць – давязуць. Такая праверачка табе на дэтэктары хлусні. Вытрымаеш – не пакалечаць. Глядзі, глядзі! Дзверы, праз якія заходзілі, маюць намер зачыніцца самі. Кош падымі! Паклажа наша – зорная! Зоркі граюць на касмічных трубах. І гук той у душу ідзе. Якая логіка? Не шукай сувязей, іх не знойдзеш. Дзіва-дзіўнае малюеш ты сваім чалавечым розумам.

– *Дзінь-дон, дзінь-дон...*

– Што кажаш ты? Дом гарыць? Няпраўда! То бяда, то ліха згарае ў печцы чыёйсьці. Мужны волат той мужчына, за якім стаіць сяло. Бачыш, плечы яго нібы аблачына. Сам пільнуе, каб зло з усёй вёскі не спаўзло да нагі яго змеем. Прыгледзься, не звер ён, хоць па-звярынаму хоча глядзець. Спальвае сваімі вачыма дурноту, нахабства, п'янства, сурокі, нагаворы... І складвае ў курган. Многа ў волата работы.

– *Паміж пустак, балот беларускай зямлі...*

– То недзе на Гомельшчыне. Там вёска твая. Пойдзем, праверым, дзе схавана праўда. Гаваркая. Вымаўленая тваімі вуснамі. Асцярожна! Чые-

сьці думкі закрываюць за намі дзверы. Думкі Усявышняга, мабыць. Табе здаецца, што паляваць на мінулае я цябе паклікала? Як жа! Мамант то быў! Блакітнавокі. З залатымі біўнямі. Такога не бачыў ніхто з нас. Раней. Але ж ралля расхісталася. Пашырылася. Заплакала. Ачысцілася. І адкрылася. Тое, што мы сёння бачылі. Дзе самі былі? За аблокамі? На Зямлі? Знойдзецца адказ. Памаўчым трохі. З кішэні зорку дастань! Цікава, навошта яна там?! І як туды патрапіла? З каша ды ў кафтан. Ты ж не баран, каб прасіць. Значыць, упала сама. Ці падняў ты з зямлі? Не ведаю я. Памаўчым. Паляванне на маманта скончана.

*20 кастрычніка 2011 г., Мінск*

## Выйсце мае кожная з крыніц

Давай ты прыдумаеш нешта больш арыгінальнае за маўчанне рук тваіх, маўчанне слоў і вуснаў. Я не разбэшчаная пацалункамі і абдымкамі, бо часта ты не побач. Таму тваё маўчанне ягняці, якое саромеецца да мяне дакрануцца – недарэчнасць нейкая. Але ж стрыманасць твая ўражвае: колькі яе ў цябе?! Давай рашым задачку. Не матэматычную – жыццёвую. 1+1=3. Ты згодзен? Галавой хістаеш, адмаўляешся, ты тут ні пры чым. А я хачу дзіцёнка. Хачу сына табе нарадзіць. Ты выцягнуў твар свой доўгі. Здзівіўся. Маўчыш. Вочы спыталі, ці праўда, ці здзейсню свой намер цябе прыкаваць ланцугамі і трымаць бліжэй да сябе. Няпраўда твая. Любяць, кахаюць яшчэ мацней, калі далей ад родных дзвярэй той чалавек каханы. Ты ж ведаеш, што манoccupation не можа быць праўда мая.

Ты загаварыў! Прапанаваў сваю задачку: 1+1=4. Каб сын і сын. І бацька з маці.

“И тридцать витязей прекрасных из вод выходят ясных... Сярод іх і нашыя сыны. Казкі ажываюць. Ці не казкі то былі? Светлае прадраканне будучыні, якую сам сабе выбірае кожны чалавек. Абдумана. Сусвет дапамагае яму. Стварыць задуманае”, – так сказаў муж мой. І перастаў гаварыць. Замаўчаў. Задумаўся.

Выйсце мае кожная з крыніц...

*20 кастрычніка 2011 г., Мінск*

## Цішыня з табою гаворыць

– Што ў цішыні сядзіш?

– Цішыня поўніцца гукамі. Прыслухайся, пачуеш і ты, як дубы гавораць. Дрэвы выраслі. Пасадзіў сваёю рукою.

– Не садзіў ніколі нічога сваёю рукою. То прымроілася табе.

– У мінулым жыцці. У часы Вітаўта шумелі гаем твае дубы. Дубы з кляновым лісцем.

– Як гэта?

– Чароўныя яны. І лісце свеціцца. Кароль.

– Хто?

– Ты! Носіш карону – час Вітаўта. Залатыя гады. Успомні. Сябе. Родавай памяці пачуеш адказ. Ты строгі. Цяпер. І тады быў такім. Але з вялікім львіным сэрцам, якое не ўмее слёзы ліць, пакутваць, сум на зямлю пускаць.

– А цяпер?

– Ты слабы, паплечнікаў страціў.

– Што ж рабіць?

– Жыць. Толькі не з заду наперад. Ісці ў рост. З ног у галаву.

– Не разумею.

– Вып'ем, браток, за нядзелю. Субота – твой дзень. Для адпачынку. Зязюля кукуе, гадочкі твае з галінак страсае. Іх сем. Як твае трыццаць сем. Перарос мяне, я ж – малая.

– Дзіва дзіўнае гаворыш мне!

– Рот не разяўляй, а слухай.

– Цябе?

– Цішыню. Яна з табою гаворыць.

*23 кастрычніка 2011г., Мінск*

## Ляля

"Ляля! Ляля! Кім ты будзеш, калі падрасцеш? Ляля! Ляля! Кім ты будзеш, калі вырасцеш?" – бацька трасе за плечы малую дачку. Тая глядзіць на яго сваімі бліскучымі лыпаўкамі. Не зварухнецца.

*"Акату! Псік!" – я праганяю ката з падваконня. "Ён грызе мае апошнія зімовыя боты, якія сушацца на батарэі!" – скарджуся бацьку. "Псік!" – я жорстка, з нянавісцю б'ю ката па вушах. "Тата! Тата! Ён пагрызе мае зімовыя боты!"*

"Ляля! Ляля! Кім ты будзеш, калі вырасцеш?" – тата бяжыць ратаваць ката ад нападаў дачкі.

*"У мяне ёсць чырвоная дзіцячая шуба. Яна нагадвае мне, як індыкі ганяліся за мной па вуліцы. Няўжо ў маленстве я была такой бездапаможнай, каб быць задзяўбанай гэтымі вялізнымі птушкамі, якія бегаюць, якія носяцца па вуліцы?"* – пранеслася ў думках.

"Ляля! Ляля!" – гукае дачку тата.

*"Тата! Тата! Я Каралева бульбы! Хіба не бачыш, як высока залезла на бульбяную гару, якую перабіраюць бабуля і маці?"* – крычу з суседняга пакоя.

"Эх, Ляля..." – уздыхнуў тата.

*"Усё выглядае такім безнадзейным"*, – падумала пра сябе. *"Можа, мне ажаніцца, калі замуж не бяруць?"* – пытаюся ў бацькі.

"Што ты, Ляля! А як жа твае зімовыя боты, твае апошнія зімовыя боты, якія калісьці ледзь не згрыз кот, бо яны скураныя і ад таго падаліся яму смачнымі? Твае боты ляжаць недзе ў шафе. Ляля! Заставайся дома, не сыходзь. Ляля! Ляля! Кім ты станеш, калі хоць трохі ўжо пасталееш? І калі ты пасталееш, Ляля?!" – пытаецца бацька ў дачкі.

Мяне запрасілі на каву, а пасля ў гатэль. Я адмовіла. І мяне абазвалі... А бацька заве Ля-ля-й. Кот памёр. Ён адкінуў лапкі. Яны не дрыгаюцца. Тушка падобная на кучку меха. У мяне ёсць ружовае паліто з футрам пафарбаванага пясца. Паліто працерлася і мае шэрыя палосы. "З ката атрымаецца добрая новая шапка!" – сказала ўслых.

*"Ляля! Ляля! Ну што ты такое гаворыш?"* – непакоіцца за дачку тата.

"Я прадала срэбра і купіла тры кілаграмы гродзенскіх яблык. Вялікія і салодкія. Аж хрумсцяць на зубах. Добра захаваліся!" – прызналася бацьку.

*"Ляля! Ляля! Ну што ты робіш? Як супакоіць цябе?"* – перажывае за дачку тата.

"Я паеду аўтаспынам на шакаладны фэст. Гэта далёка. Гэта Львоў.

Я пахавала ката. Мне не трэба новая шапка. Я еду ў Львоў!" – пачала лямантаваць.

*"Ляля! Ляля! Паслухай, твае зімовыя боты! Твае апошнія зімовыя боты. Яны ляжаць у шафе. Дома. Ляля, заставайся, мы завядзём сабаку. Назавём яго Тузік",* – тата спрабуе спыніць дачку.

"Я не Ляля! Я нічыйная жонка" – выдыхнула нячутна, сама сабе.

*24 студзеня 2012 г., Мінск*

## Лісты з-пад шыбеніцы

Лісты, асабліва калі яны з-пад шыбеніцы, не пішуцца спакваля. Дрыготкай рукой не выводзяць літары, не нумаруюць абзацы. Яны пішуцца ўзмахам правага крыла. Рраз! І слоўца вылецела ды легла на паперу. Дваа! Сказ клічны. Узрушаны ён як і той, хто піша. Бо ніводны чалавек на зямлі не можа спазнаць таго, што ведае цяпер, у дадзеную хвіліну той, чые вочы чакаюць прысуду. Яны больш не ўбачаць святла, якое ідзе ад планет. Вушы болей не пачуюць, што гавораць людзі пра людзей. Газета, якая была зьярстана ўчора, ужо не выйдзе з сённяшнімі навінамі. І большая частка народа не даведаецца, што на плошчы была шыбеніца. Што прысуджаны да смерці чалавек пісаў лісты. Апошнія ў сваім жыцці. Да жонкі, дзяцей і маці з бацькам. Да ўлады, а яна нібыта стрыечная сястра, якая не прызнае радства: не загаворыць з ім, не падыдзе бліжэй, чым на пятнаццаць крокаў. Да ўсёй планеты, на якой ёсць жыццё, пісаў свае лісты чалавек з-пад шыбеніцы.

Борздка, жвава рука ўзнімалася. У руцэ той не зброя была – выратаванне – слова чалавечае, якое пісалі. Яно, слова тое, уздымалася над слупам шыбеніцы. Таму было вышэйшае за. За пакуты і здрады. За няправільнае мысленне. За пабоі ў кратах. Слова жыве ў галаве чалавека. Таму гэтую галаву вырашылі пазбавіць цела. Каб была страчана магчымасць перадаваць народу слова, якое ажывае. Ён жа, народ, таксама церпіць. Ды не знае, што дарэмна. Усё ў гэтым свеце марна ды небяспечна. Таму здольнасць выказвацца не можа быць пакарана больш балюча, чым б'ецца ў нашым сэрцы страх небяспекі. Яна ж такая, гэтая небяспека! Ідзе побач, ідзе з намі. Яна не падобная да ценю, нага ў нагу ідзе. Паспрабуй правер! Заўважыш – крок твой шырэй ад таго, што ты і яна крочаць наперад. Так-так, чалавека, які напісаў пра гэта – няма. Яго пазбавілі права мыслення, пазбавіўшы жыцця.

"Ад прадзедаў спакон вякоў нам засталася Спадчына..."

*10 лістапада 2011 г., Мінск*

## Птушкі крычаць: "Катуй! Ратуй!"

Птушкі ляцяць і крычаць: "Катуй! Ратуй!" Дык што птушкі крычаць? Зусім не зразумею. Два абсалютна розныя па значэнні словы. Напэўна, кагосьці хочуць забіць. Зноў смерць у краіне, дзе жыве супергерой? Не! Проста выпаў свежы бялюткі снег. І птушкі крычаць "ратуй!", каб дапамагчы людзям не ўпасці на слізкі бруд, які схаваўся пад белым снегам. Птушкі бачаць чалавечае ўратаванне ў сваім птушыным гвалце, які паднялі яшчэ з самай раніцы, калі я спала і думала ў сне пра тое, што трэба стаць супер вумэн, навучыцца адціскацца ад падлогі, а не з каленак.

Навучыцца падцягвацца нават тады, калі мазалі на руках крычаць: “Не! Хопіць! Стаміліся!” Але птушкі разбудзілі мяне, і я не стала гераіняй. І, тым больш, не стала нават супер. Пасля думаю: ды і навошта мне быць такой? Калі ёсць супергерой, які за парадкам сочыць. Вы ставіце пад сумнiў мае перакананні ў існаванні такой істоты? Тады патлумачце мне, хто паслаў птушак з ратавальным крыкам глядзець пад ногі? Але чакайце. Калі чалавек падыме галаву ўверх, у неба, каб паглядзець на птушак, якія крыкам сваім паднялі рэха ў многіх раёнах горада, ён, чалавек, абавязкова падслізнецца і ўпадзе ў бруд, што схаваны пад белым снегам. Чалавек упадзе і яго цела выцягнецца, як труп каровы, якая памерла ад стомы і ад голаду. Але ж чалавек не карова, таму ён можа ляжаць як заўгодна, хаваючы свой рост. Можа ляжаць, паваліўшыся на руку, ці вывернуўшы нагу, зламаўшы калена ці скруціўшы шыю. Чалавек паглядзіць на птушак, і з ім здарыцца смерць. Яна напіша свой чырвоны маніфест на свежым белым снезе. І тады я ўспомню, што крычалі ў маім сне мазалі на руках: “Не! Хопіць! Балюча нам!”

Я не буду глядзець на птушак, як бы галасна яны ні крычалі, які б вэрхал яны не падымалі. Хіба можна верыць ім? Дык “катуй”, ці “ратуй”? Якое слова яны прынеслі ў дзюбах сваіх? Я не буду верыць птушкам. І заб’ю сваю веру ў супергероя, пра якога думала з дзяцінства. Няхай лепей здарыцца адно суперзабойства, чым тысячы. Я перастану верыць у супергероя і перастану верыць птушкам. Раптам іх падаслаў антыгерой? У такім выпадку мне неабходна будзе праявіць свой гераізм, каб самой не ўпасці. Бо вера ў штосьці “звыш” і ў кагосьці незвычайнага толькі расхіствае ў розныя бакі. Нібыта працэс разбалансіроўкі. А мне абавязкова трэба стаць моцнай! Каб адпомсціць птушкам за тое, што ўводзяць людзей у зман, калі крычаць два абсалютна розныя па значэнні словы.

*3 лютага 2013 г., Мінск. Хостэл “Sky”*

## Дзень Волі

Сіні ў белую крапінку. Паўзуць вустрыцы па маёй назе. Але чакайце, то вялікі палец маёй левай нагі. У шкарпэтках, якія спалі на падлозе, пакуль я не падняла іх і не нацягнула сабе на ногі. Яны, мае ногі, былі халоднымі і непаслухмянымі. Яны анямелі і, амаль нежывыя, бездапаможна ляжалі на падлозе.

Мае склееныя пальцы выбіваліся з паўсядзённасці афарбоўкай педзікюра. Чырвоны. Белы і чырвоны – святочныя колеры, падрыхтаваныя да Дня Волі, які сабраў людзей на вуліцы Сурганава. У завіруху. Быццам бы зіма і снежнае тарнада хоча адабраць дэвіянтныя паводзіны. Забраць у натоўпа гонар, які ўзвысіўся над горадам і ратуе і людзей, і сабак, якія ідуць да парка Дружбы народаў. Ідуць абвяшчаць сваю свабоду. Аднак. Іх лозунгі больш стрыманыя, чым іх думкі. Калонамі. Як пакупнікі з талонамі. У чэргах за свабодай як за малаком.

Таму я не я. І мае ногі здранцвелі. Іх абняла падлога. Яны пачалі сінець. Яны дакладна пасінелі. Я заўважыла гэта, калі дастала рукі з кішэні і праверыла пад шкарпэткамі што ёсць што і хто ёсць хто. І мой страчаны розум падказаў мне новы вобраз: сцяг РФ. На ўласных нагах. Чырвона-сіне-белы

жах утварыў маску на маіх нагах. Таму ногі мае здранцвелі і па іх прабегся страх. Ён саскочыў на падлогу і прабраўся паўз сцены да суседзяў. Цяпер і там жыве расійскі сцяг.

То халодна, то горача. Ніяк не распазнаць дакладны стан. Сіні і чырвоны страх. Пакуль я разважала пра ўсё гэта, у пакоі з'явіўся мужчына. Сагнаў ката з крэсла. Прытуліўся да спінкі і згас. Ён таксама адчуў холад у сваіх нагах і спахмурнеў. Асунуўся. Ён прыйшоў басанож, без шкарпэтак і зразумеў, што трапіў у пастку. Паглядзеў на дзверы, праз якія ўваходзіў. Яны былі замкнутыя. Ён паспрабаваў адчыніць іх позіркам – не атрымалася. "Якая непаслухмяная прастора", – пырснуў ён у думках. Ад гэтага ў яго галаве забегалі тараканы. Яны спалі, а цяпер прачнуліся. Пацягнуліся. Заварушылі вусамі. Раззлаваліся. "А каб вы падохлі!" – загадаў мужчына і кінуў тараканаў у візуальную торбу. Завязаў яе на вузельчык і схаваў ад сваіх вачэй. Аднак. Тараканы не памерлі. Унутры мяшэчка яны вывесілі свой пераможны сцяг. З зорачкамі. Нібыта амерыканскі. Ад гэтага ў мужчыны забалела галава і замітусіліся яркія кропачкі ў вачах. Мужчына падумаў, што ён не даспаў сёння. І задрамаў, забыўшыся на зледзянела-сінія ногі.

Да мяне прыйшла добрая думка: абуць мужчынскія пляжныя шлёпанцы, якія незаўважна стаяць пад крэслам. Я раптоўна пра іх успомніла і што ёсць моцы нырнула па выратавальны абутак. Нацягнула яго на здранцвелыя ногі. Мне б на пляж! Аднак. Ногі ў сініх, з белай крапінкай, шкарпэтках. Падзеленыя. Чатыры і адзін. Роўна пяць. Пальцаў на назе. Вялікі палец асобна. Устрыцай паўзе. Выгінаецца. Выпростваецца. Быццам бы спіна, а не палец. І я разумею, што можна не хваляваецца. Нага растала і абавязкова з'явіцца жыццядайная сіла. Нага пачала яшчэ больш раставаць, налівацца чырванню. Я зняла шкарпэткі і ўбачыла голыя пальцы.

Усё было як тады, да мужчыны і шлёпанцаў. Калі сядзела ў крэсле, якое было прынесена ў пакой адмыслова да Дня Волі, каб седзячы назіраць, што адбываецца ў прасторы. Аднак. Мяне загарадзіў ад навінаў холад у нагах. А далей вы ведаеце – з'явіўся сцяг.

*25 сакавіка 2013 года, Мінск. Кунцаўшчына*

## Паміж туманамі

Паміж намі. Паміж туманамі. Паміж намі толькі скажу: я ніколі не збіралася збягаць. Паміж туманамі ёсць светлая праталінка шляху для ўцекачоў. На тое ён і туман, каб хаваць ад дажджоў і снягоў. На тое ён і туман, каб блытаць, каб збіваць з ног тых, хто ганіцца за табою. І на тое ён і туман, каб даваць прытулак сваім уцекачам.

Паміж намі скажу: ніколі не хацела эміграваць. Я толькі хацела з'ехаць. За мяжу. Але што такое замежжа? Гэта той самы туман, які мяжа напускае ў вочы тым, хто ёй верыць. Паміж туманамі скажу: я заўжды на ўзбочыне. Стаю. Гляджу. Як ідуць. Як заходзяць. Як корпаюцца ў сваіх важных справах людзі. Як выходзяць. Як ідуць далей. А я стаю, назіраю. Я заўжды наўзбочыне, дзе нябачна краю. Туманоў. А што туманы? Яны не акраец

хлеба – іх не з'ясі. І не схаваеш у кішэню, не скажаш: так і было, і я тут ні пры чым, я нічога не ведаю, я нічога не бачыла. У тумаоў ёсць сіла. Знішчаць. Сваіх і чужых. Яны не дзеляць на парабкаў і паноў. Туманы для ўсіх – туманы.

Паміж намі скажу: калі стаіш паміж туманамі, знай, дзе свой туман, а дзе чужы. Дзе Радзіма, знай, а дзе краіна, у якой імкнешся жыць. Бо, калі адразу не разбярэшся, будзеш у вечным тумане ўласных мрояў жыць.

Я скажу табе паміж туманамі: спазнай не толькі цяпло каханай, спазнай холад Радзімы сваёй. Каб пасля, ідучы па светлай пратАлінцы паміж туманамі, ты не скардзіўся на Радзіму сваю. Пяройдзеш мяжу, патрапіш у замежжа. А там неспадзеўкі цябе спаткаюць. Іх шмат. З усімі разам не разбярэшся. Будзеш енчыць, стагнаць. І ў гэтыя складаныя моманты ты ўзгадаеш, што Радзіма твая як ліхтар – успомніў пра яе і падумаў: "Турботы турботамі, аднак, там было... лепей!" Бо той цяжар, які раней здаваўся непад'ёмным, здаваўся неабдымным, упаў сам на калені перад табою і просіць цябе вярнуцца да яго. Вярнуцца да таго цяжару, з-за якога ты пайшоў паміж туманамі.

Я скажу табе паміж намі: калі пайшоў паміж туманамі і калі дайшоў да мяжы, і калі перайшоў яе ўдала – не вяртайся назад. Назад у думках сваіх. Туманы, яны такія – вывесці выведуць, але ці дазволяць вярнуцца той самай сцежкай паміж туманамі?

Я скажу табе паміж туманамі: не пі і не еж невядомага. Не бяры чужога. Не енчы. Не праклінай. Не ўзгадвай пра тое, дзе было табе лепш. І не скардзіся на тое, дзе было табе горш. Чаму? Таму што туманы ўсё чуюць! Яны перадаюць адзін аднаму словы, якія зляцелі з тваіх вуснаў. Туманы таксама палююць, нягледзячы на тое, што для цябе яны – правадыры. Вядуць за сабою. З адной дзіркі ў другую. З адной краіны – у другую краіну вядуць. Знаеш, краіны як дзіркі. Нездарма такое параўнанне для іх знайшла. Бо краіны знікаюць і ўтвараюцца новыя. Старое перастае існаваць і ўтвараецца новае. Але якую дзірку ты будзеш найперш зашываць? Тую, што вельмі заўважна, альбо тую, што ніхто не ўбачыць акрамя цябе? Дзіркі як бялізна – іх бачаць толькі абраныя, каму дазволіў ты. Так і з краінамі.

Я скажу табе паміж намі: мы многага не ведаем. Ні я, ні ты. І не будзем ведаць. У тумаоў ёсць адна асаблівасць: яны не раскрываюць. Яны могуць схаваць. Але не раскрываюць таямніцы, бо паміж туманамі існуе неагучаная дамова, такая, як паміж людзьмі. Туманы як і мы. Усё, што гавораць – тое паміж туманамі. Нам з табою – кукіш. Дарэчы, а ты ведаеш, адкуль тыя грошы, што ты зарабляеш? Яны ж не твае! Адзін туман перадае другому туману заробкі твае. Туман – той яшчэ кантрабандыст! І скажы мне, ці ёсць у гэтым сэнс: ісці па светлай праталінцы паміж туманамі, калі па той жа светлай праталінцы табе перапраўляюць твае харчы з чужой краіны? Тады вынікае, што ты ўжо (!) замежнік у сваёй роднай краіне. Хоць і тут, але паміж туманамі. Круць-круць, верць-верць, як ваўчок.

Я скажу табе паміж туманамі: кінь дурніцу! Вяртайся дадому. Хочаш замежжа? Ты на Радзіме як на памежжы. Дома замежнікам будзь. Не быць табе. Ты ўжо ёсць. Туманы? А што туманы? Паміж імі святла праталінка. Як паміж намі давер. Праваднікі. Правадыры. Хочаш? Будзе табе. Цыц! Толькі ціха паводзь сябе, калі ўжо вырашыў тут пакінуць свой бруд і цяжар лёсу свайго. Чаму? Туманы! Яны слухаюць усё і адзін аднаму перадаюць.

*16 студзеня 2013 г., Мінск. Хостэл "Sky"*

Мікіта Найдзёнаў



...ты катуй яго шчырасцю,

калі ласкай...

# Гэтага не зразумее ніхто апроч...

### *ЯНА*

Я баюся, што хутка
нічога не звяжа нас:
ані вершы, ні грошы,
ні тое заўважнае,
што трымала,
але перастала трымаць.
Я калісьці так проста
спраўляўся з трыма,
а цяпер і з адною табою
так цяжка.

Успамінам ляжаць у шуфлядзе падцяжкі.
Ты не чула нічога,
як вас было трое,
а цяпер адчуваеш
ўсе змены ў настроі.

Што той вобраз між намі
ўвесь час паўстае.
Чый? Яе.

### *ФортэпіЯна*

Тыя,
што выйшлі з вады сухімі,
тыя,
што былі заўжды ў спакоі,
забыліся,
што нараджаецца хімія,
калі застаюцца двое ў пакоі.

Ранкам раўнуеш да ўсіх азіятаў.
Больш
да бліжэйшай самай.
Дарма бяжыш з артпраектавай хаты,
дарма.

Будзе даваць нам фальшывыя ноты
подлае чорнае белае.
Горш, што цяпер ад тваёй адзіноты
я адзін бегаю.

Новым кватэрам бы шчасце старое.
Ў ложак упасці б разам.
Толькі размовамі вечаровымі
болей прыдбаем абразаў.

Можа вялізнае стала валізнае,
тое, што мусіць адбыцца?
Перамяшаліся
з бруднай бялізнаю
так, што цяпер не адмыцца.

### *ВУДУ*

Ты катуй яго шчырасцю, калі ласкай,
гавары, што ён лепшы на свеце хлопец.
Будзь з ім побач паўсюль: і ў Глыбокім, і ў Глазга,
і пабачыш, на колькі ўпартасці хопіць.

Ты трымай яго хітрасцю, рабі выгляд,
што табе падабаюцца яго ўчынкі,
а калі гэта птушка папросіцца ў вырай,
то ўсё да апошняга кораня вырві,
і яму не захочацца больш далячыняў.

Не прасі дарыць кветкі, кампліменты сама яму
гавары і сама яшчэ пішы вершы.
Ды трымай пад сабой, як пад ігам Мамая,
а пасля, калі нораў ягоны зламаеш,
усміхніся і моўчкі палыпай вейкамі.

Калі рыбка патрапіла на тваю вуду,
ляльку вуду трымай у руках сваіх моцна.
Ты адна ў яго зорка, што свеціць паўсюдна.
Яму болей не трэба іншага сонца.

## *МАРОКА*

Чарнявае дзяўчо з Марока
Збірае рыжыя, як ты.
І нават ад начнога змроку
Гарaць ад оранджаў сады!

І старажытныя багіні
На ліру памянялі цытру.
Давай бульбяны край пакінем,
Калі нам свеціць рыжы цытрус.
*La pomme de terre* і апельсіны –
Па сутнасці звычайны яблык.
А варыянт заўжды адзіны,
Калі ў радок кладуцца ямбы.

## *ДЖАЗ-МАДЭРН*

Ты босая і лёгкая
І нейкая далёкая
Глядзіш не “на”, а “паўз”.
У рэдкім рытме паўз.

Ў паветры нешта лётае,
А ты такая лёгкая,
Што прыпыняеш час,
Як танчыш гэты джаз,

Свой джаз-мадэрн паўторна,
Ў чацверы і аўторкі.
А побач людзі лётаюць,
Як на фуршэце лёкаі.
А ў вачах і музыка,
А ў вачах і рызыка,
А гузакі як гузікі.
Тут непатрэбна фізіка.

А дома ў інтэрнаце
На цёртым ламінаце,
Як на вялікай сцэне
Ты зноў у джаз-мадэрне.

Калі згубіш ключы...
Збітыя калені,
Як сінонім танцаў.
Наша пакаленне
Не чытала стансаў.

Вуліцай забытай
Прыпыні трамваі.
Пакідай адбітак
Тым, хто не трымае.

Рэкі маюць вусці,
Ды свае вытокі.
Хочаш вусны ў вусны?
Робіш рукі ў бокі.

Мы з табой такія
Смелыя нібыта.
Тым, хто не пакіне,
Пакідай адбітак.

* * *

Выпадковай сустрэчы
Ўдар пад дых.
Гронкі спелых парэчак
Чакаюць тых,

Для каго ты і я
Ў гэты свет прыйшлі,
Для каго акіян
Значна менш зямлі.

Недзе ў сонечнай Індыі
Спяць сланы.
Нехта бачыў і выдаліў
Нашы сны.

Я такія гісторыі
Раскажу,
Як мы ранкам на моры
І хваляў шум.

Да цябе іду з краскамі
Ўваччу.
Будзь са мной калі ласка,
Калі маўчу.

Будзь са мною і ў згодзе,
І ў журбе
Толькі свет не народзіць
Адну цябе.

* * *

Гэтага не зразумее
ніхто апроч,
як разводзілі дні
і яднала ноч.
Як пад коўдрай адной
засыналі хутчэй
і хацелі яшчэ.

Гэтага не зразумее,
але каму
нам тлумачыць,
як варта пражыць зіму.
Тут звычайная справа:
альбо зімуй
ці сумуй.

Я сумую, і ў суме
было нас больш.
Выпіваю ўспаміны
свае нагбом.
Палароід каштуе
зашмат *уе*,
але шанцы дае.

Пакідаць фотаздымкі
амаль штодня.
Тваё месца яшчэ
ніхто не заняў.
Пацалункі з каханкамі
не лічу.
На НГ да цябе
не лячу.

Толькі нібы памёр
недзе мой вар'ят.
Так спакойна пралічваю
варыянт.

Хай бы лепей спазняцца
на цягнікі
ў час такі.

* * *

Нейкі незразумелы сум,
хоць я добра ведаю сам,
што ўсё гэта звычайны сон,
а я дома ў мамы сын.

А ты недзе далёка так,
што між намі аж процьма тых
і не тых. Выбіраю з трох
тую, што вырабляе ток.

Выраб зроблены – незалік.
Высыхаў на пазногцях лак.
Я лаўлю твой чарговы *лук*.
Тэлефон выпадае з рук.

## *БЛІЖЭЙ ДА РАНІЦЫ*

Бліжэй да раніцы
Яно здараецца
І накрывае
Мацней за коўдру.
Бліжэй да раніцы
Ўсё ўспамінаецца
І адчуваецца
Даволі добра.

Бялі някепскімі,
Цяпер аскепкамі
Мы разляцеліся,
Што больш не склееш.
Пакінь налепкамі,
Ратуйся лекамі,
Якія маеш,
Ў якія верыш.

А вершы пішуцца,
І ўсё здараецца
Бліжэй да раніцы,
Далей ад ночы.
Адкрыў Манілаўку,
На новай станцыі
Ратую стансамі
Каго захочаш.

## Бенедыкт Янкоўскі



...Не хачу я, каб помнік вянчаў дамавіну,

Толькі крыж у галовах, і дзёран, і травы...

# Ваўчыная песня

***Санеты***

### Палескія санеты Бенедыкта Янкоўскага

*Паколькі ніякіх выяваў Бенедыкта Янкоўскага не захавалася, замест фатаздымка аўтара змяшчаем тытульнік рукапісу драматычнай фантазіі «Чары» з яго аўтографам. Фактычна, гэты матэрыял – адкрыццё новага паэтычнага імя, якое чакае сваіх даследнікаў.*

Арыгіналы вершаў Бенедыкта Янкоўскага былі надрукаваныя ў чэрвені 2014 года ў польскім часопісе Pamiętnik Literacki (у падрыхтоўцы іх да публікацыі мне вельмі дапамаглі Адам Паморскі і Ганна Янкута). Цяпер прыходзіць час і для перакладаў, да якіх варта далучыць колькі тлумачэнняў.

Рукапіс, з якога ўзятыя вершы, захоўваўся калісьці ў Віленскай публічнай бібліятэцы, а цяпер належыць да збораў Бібліятэкі АН Літвы (код F18-25). Складаецца ён з драматычнай фантазіі «Чары» і сямі санетаў, усё гэта на польскай мове. Пераклады пяці з гэтых сямі санетаў і прадстаўленыя тут вашай увазе. З тытульнай старонкі, апроч імені аўтара, дазнаемся, што прызначаліся творы выдавецтву Завадскага і што 7 лютага (па старым календары) 1857 года рукапіс быў забаронены духоўнай цэнзурай. Пратакол паседжання цэнзурнага камітэта (Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы, 1240-1-131, 7v) паведамляе, што адмоўная рэзалюцыя паступіла ад кіраўніцтва Віленскай рымакаталіцкай дыяцэзіі. Дакладная прычына не патлумачаная, аднак

можна дапусціць, што справа ў залішку містыкі ў «Чарах». У фондзе выдавецтва ў Бібліятэцы АН Літвы пашчасціла яшчэ знайсці некалькі лістоў Янкоўскага да Завадскага (F7-654). У 1859 г. Янкоўскі, просячы вярнуць яму рукапіс, пазначае наступны зваротны адрас (па-руску ў польскім лісце): *«Его Благородию Венедикту Яковлевичу Янковскому, Могилевской губ., в уездный г. Рогачев, через почт. станцию Довск в им. Каменку»*. Больш ніякіх звестак аб аўтары – ні ў друкаваных, ні ў архіўных крыніцах – знайсці я не змог.

Некаторыя дадатковыя звесткі можна спрабаваць здабыць з саміх вершаў. У адным з санетаў Янкоўскі згадвае «палескую краіну», а «Чары» адкрываюцца «Пралогам на Палессі» (менавіта праз гэтыя згадкі публікацыя атрымала ўмоўную назву «Палескія санеты» – у рукапісе вершы не аб'яднаныя ніякім агульным найменнем). Побытавыя дэталі змушаюць думаць пра дробнашляхецкі асяродак, а характар згадак аб смерці – пра цяжкую хваробу, але тут ужо не варта забывацца на школьную ісціну, што аўтар і лірычны герой часам маюць мала супольнага.

Почырк рукапісу адрозніваецца ад таго, які бачым у лістах Янкоўскага, – гледзячы па ўсім, нам дасталася копія, зробленая адмыслова для цэнзуры. Арыгінальны рукапіс, праўдападобна, вярнуўся да аўтара і наўрад ці дажыў да нашых дзён. Копія перапісаная зграбна, але, здаецца, не вельмі ўважліва – напрыклад, у адным з санетаў трынаццаць радкоў замест чатырнаццаці, што прасцей за ўсё тлумачыцца акурат пропускам пры перапісванні. Ёсць і іншыя драбніцы, якія выглядаюць памылкамі капііста.

Ці могуць знайсціся новыя звесткі аб Бенедыкце Янкоўскім? Я, праўду кажучы, упэўнены, што яны знойдуцца. У XIX ст. чалавек меў шмат магчымасцяў пакінуць «папяровы след» таго ці іншага кшталту. Іншая справа, што знайсці такія сляды сярод таго мноства дакументаў, якое дайшло да нашага часу, зусім няпроста. Таму звярнуся на заканчэнне да тых, хто працуе ці бавіць вольны час у архівах, – запомніце, калі ласка, імя паэта. Цалкам можа быць, што акурат у вашыя рукі папяровыя плыні выпадкам прынясуць кавалак яго біяграфіі.

**Антон Францішак БРЫЛЬ**

## *ДА КЛАРЫ*

Грай мне, Клара, хай дух мой патоне на хвілю
Ў краі сненняў – праб'е ўжо астатняя хутка...
І агонь у душы разгарыцца ціхутка,
Смерць мяне паглыне, слёзы ссохнуць у пыле.

Хай яшчэ памаруджу, настроіўшы вуха,
Палячу сярод нотаў у край невядомы,
Спевы духаў пачую, пазбаўлюся стомы,
Ды надыдзе спакой, ды спатоліцца скруха.

Толькі грай не пяшчотна, бо дух заблукае,
Мары думцы бясплоднай абернуцца ліхам,
Гукі стынню знітуюцца ў сэрцы глыбока,
Ды вулкан у грудзёх ажыве, ён чакае,
І як выдзьмухне попел апошнім уздыхам, –
Што за страшная бездань адкрыецца воку!..

*З польскай пераклаў Антон Францішак БРЫЛЬ*

## РУЧАЙ

Дрэмлюць даўнія сосны пад пляск ручаіны.
Што за чыстыя хвалі струменяцца з твані!
Там прысяду я ў цішы палескай краіны,
Думкі ў плыні патонуць – ах, колькі паўстане

Мілых згадак у сэрцы! Былога пакутаў
Не прымаю! А вербы, узяўшы ў аблогу,
Вяжуць, ціснуць ручай – і ірвецца ён з путаў,
Як змяя, што кусае – й канае ў бярлогу.

Бач – зліваецца з небам і Нёмнам сплывае,
Вось пад ветразем людзі, вось птушкі, як лодкі,
Новым імем, магутны, сябе называе...
Што ж і я не адчалю? Хай Бог мне вяслуе!
Я без лодкі ўпаду на люстра паводкі –
Я цяпер мараплавец! У моры плыву я!

*З польскай мовы пераклала Ганна ЯНКУТА*

## ВЯСНА

Толькі дзень – і сумёты радзеюць памалу,
Рэкі ў ковах ляжаць... пакрысе ачунялі,
Шыбы лёду скрышылі ды шумна памчалі –
Дыбяць воды, лятуць, прагрызаюць завалы.

Ўзгоркі радасна плешы на сонцы прыгрэлі,
Нібы выйшаўшы з вязніцы ўрэшце, старэчы,
А жаўрук ужо крыльцамі ў небе трапеча
Ды з уцехай выводзіць вясёлыя трэлі.

Чу! Лятуць журавы – вунь сядаюць на ніву!
Мо аб чым абвясцяць, мо раскажуць навіны?
З высяў бачаць яны ўсіх зямель таямніцы,
Маюць сеймікі ўласныя, знаюць граніцы,
Бо штогод не мінаюць Літоўскай краіны.
Глянь! Сядаюць у смутку, трывожна, маўкліва!..

*З польскай пераклаў Антон Францішак БРЫЛЬ*

## ХМАРА

У вышынях панура праходзяць страхоцці,
Ўсё буйнеюць, лятуць, як пякельныя здані,
І як прывіды ў прорвах, клубяцца ў палёце,
Захапіўшы нябёсы сабе ва ўладанне.

Мгла ў душы, мгла на сэрцы, паветра гусцее,
Ў ім, бы ў волаве, цяжка – духмень нежывая,
Толькі вырваўся ўздых – і вятрыска люцее
І атрутным павевам яго забівае.

Флюгерок віскатліва заенчыў на даху,
Пракруціўся, прыслухаўся, першы раз, трэці,
На прыволле яму закарцела, бы птаху,
Дух пачаў мой у небе з аблокамі бітву,
Дрыжучы над айчынай. Дык бойцеся ж, дзеці!
Ціха ўкленчце і ціха чытайце малітву!..

*З польскай мовы пераклала Ганна ЯНКУТА*

## МАЯ МАГІЛА

Паміраю... Гадзіны напоўніла скруха,
У душы ўсё радзей усміхаюцца вёсны,
Плач жыцця паступова сціхае, жалосны,
Стыне кроў – застаецца адна пацяруха.

Далакопе! Не думай, а кідай ласкава
На няшчасныя рэшткі каменне і гліну.
Не хачу я, каб помнік вянчаў дамавіну,
Толькі крыж у галовах, і дзёран, і травы.

Будзь шчаслівая, Клара! Мой скон будзе гэткі.
А калі ў тваім лоне прачнецца прадвесне,
Ці збяжыш ты гірлянды звіваць у палеткі,
Мо пачуеш – імчыцца крумкач у адведкі,
Ці кране тваё сэрца ваўчыная песня –
Кінь пабожнай рукой на магілу мне кветкі!

*З польскай мовы пераклала Ганна ЯНКУТА*

## Таня Малярчук



...без барады
мяне можна назваць сімпатычнай...

# Puma concolor (пума)

***Апавяданне***

*Паводле выдання: Таня Малярчук, “Звіраслов”, Харків: Фоліо, 2009.*

*Пераклад з украінскай Ліды НАЛІЎКІ.*

**1**

Калі вы бываеце ў Кіеве на Падоле і маеце хатніх жывёл, то мусіце ведаць заакраму “Дружок”. Сама крама не надта добрая. Там вы не купіце акварыумных рыбак ці амазонскіх папугаяў, не купіце дэкаратыўных марскіх свінак і трохметровых рэптылій. Затое ў “Дружку” ёсць Машка. У Машкі расце барада. Часам Машка гарэзіць і прымацоўвае сабе на грудзі цэннік, нібы яна таксама прадаецца, бо з барадою Машка вельмі падобная да якой-небудзь экзатычнай малпы. Насамрэч жа Машка – прадавец. Яна добры спецыяліст. Яна знойдзе і прадасць вам тое, што вы шукалі ўсё сваё жыццё. Выслухае вас. Дасць карысную параду. Вы і ваш хатні ўлюбёнец будзеце здаровыя, сытыя і задаволеныя. На такіх энтузіястах, як Машка, трымаецца рынкавая эканоміка Украіны.

Аднак сама Машка нешчаслівая. Яна так хоча, каб яе любілі, а яе чамусьці не любіць ніхто. Наадварот, людзі па-за “Дружком” унікаюць Машчынай кампаніі, уцякаюць ад яе, не хочуць ведаць яе ды яе бараду. Маленькай

Машка выходзіла на дарогу перад домам сваіх бацькоў і прастойвала там па некалькі гадзінаў з надзеяй пагаварыць з кім-небудзь, пасябраваць, знайсці таго, хто мог бы яе любіць. Яна чаплялася да мінакоў з непатрэбнымі пытаннямі, а мінакі на злом галавы ўцякалі прэч, ледзь прыхоўваючы грымасу здзіўлення і агіды. І калі-нікалі Машка зрывалася. Бегла наўздагон якой-небудзь пані з толькі што купленым каганцом у руках, напрыклад, і крычала: “Я – Машка, мне дванаццаць гадоў, і ў мяне расце барада!”

Барада пачала расці вельмі рана. Цяпер Машцы здаецца, што ад самога нараджэння. Спачатку засвярбела скура вакол рота, потым прыйшло такое адчуванне, нібы скура трэскаецца, як асфальт, скрозь які прарастае зярнятка. Машка часта параўноўвае сваю бараду з газонам. Колькі бараду ні галі, неўзабаве шчэць вырастае новая, яшчэ гусцейшая, яшчэ шарсцейшая, яшчэ чарнейшая.

Кожныя два-тры дні Машка акуратна голіцца кітайскай электрабрытвай і да наступнага галення з жахам назірае, як няспынна і няўхільна яе твар страчвае прыкметы жаноцкасці.

Такую мяне ніхто не захоча, думае Машка, калі ў “Дружку” няма пакупнікоў. Толькі мае два некастрыраваныя каты-вар’яты любяць мяне.

Каты прыбіліся да Машкі два гады таму. Адначасова. Некалькі дзён сядзелі пад дзвярыма яе здымнай кватэркі і мяўкалі. Прасіліся. Машка неабачліва накарміла іх, бо думала, што мяўкаюць з голаду. Каты ўсё з’елі, але мяўкаць не перасталі. Абдзіралі дэрмацін, якім былі абцягнутыя дзверы Машчынай кватэры, гадзілі на кілімок пад парогам, а аднойчы, калі Машка адчыніла дзверы, каб ісці на працу, прарваліся ўсярэдзіну. Адразу ўскочылі на ложак і замуркацелі. Машцы стала шкада іх выганяць. Яна вырашыла, што ў кожнага прыстойнага працаўніка заакрамы павінны быць свае жывёлы. Каб набыць досвед. Каб стаць спецыялістам.

Спачатку Машка думала, што мае ката і котку. Потым, прыгледзеўшыся, зразумела, што тое такі два каты – два дарослыя некастрыраваныя каты, што з нейкага дзіва трымаюцца разам.

Удзень каты салодка спяць на Машчыным ложку. Уначы б’юцца між сабой, крычаць, выюць на месяц, скачуць з падваконня на шафу, а з шафы – на халадзільнік у кухні. Скачуць па соннай Машцы. Калышуцца на жырандолі. Абсцыкаюць Машчын абутак. Назад адрываюць прыклееныя за дзень шпалеры ў калідоры.

Машка ўжо безліч разоў пашкадавала, што дазволіла катам застацца, але цяпер выгнаць іх не магла. Каты не выганяюцца. Не сыходзяць з кватэры. Так, нібы гэта яны, а не Машка, плацяць кожны месяц за кватэру арэндную плату ў памеры 300 даляраў. Вяртаюцца назад, куды б Машка ні занесла іх у торбе, а па вяртанні хуліганяць яшчэ мацней, з помсты, напэўна.

Каты мяне любяць, думае Машка, калі ў “Дружку” няма пакупнікоў. Любяць, але сваю любоў не дэманструюць, як гэта і належыць прыстойным асобам мужчынскага полу. Інакш чаго б гэта яны так упарта заўсёды вярталіся? Што іх каля мяне трымае? Толькі любоў.

Хаця часам, вельмі рэдка, Машцы прыходзіць у галаву куды банальнейшы адказ. Каты не бачаць у Машцы чалавека. Яны прымаюць яе за роўнага сабе звера. За малпу. За барадатую малпу.

Машцы падабаецца працаваць у заакраме, бо тут заўсёды шмат людзей. Прычым тыя людзі, якія прыходзяць у заакраму, ніколі не бываюць дрэннымі. У гэтым Машка свята перакананая. Уласнікі жывёл не могуць быць дрэннымі ў прынцыпе.

Тут яна каралева. Спецыяліст. Тут ёй не трэба выпрошваць чыёй-небудзь увагі – людзі самі звяртаюцца да Машкі. Апавядаюць ёй пра сваіх чатырохногіх або перыстых улюбёнцаў. Апісваюць, наколькі могуць і ўмеюць, іхнія характары і густы. Пытаюцца, ці Машка сама што-небудзь трымае.

– Так, – адказвае Машка, – у мяне двое катоў.

– Двое?! – прыцмокваюць пакупнікі. – Яшчэ й катоў. Гэта, напэўна, цяжка.

Але не. Машцы зусім не цяжка. Машка можа слухаць і слухаць, гаварыць і гаварыць, бо яна ўжо дастаткова намаўчалася раней.

У "Дружку" Машка пачала чакаць. У яе з'явілася надзея, што адным днём сюды, у "Дружок", зойдзе мужчына, які мусіць стаць яе жаніхом. Ён прыйдзе да яе, сам пра гэта не здагадваючыся. Ён ужо шукае яе. Вось-вось з'явіцца ў дзвярах крамы, можа, нават сёння. Такі сур'ёзны і шыкоўны, у чорным дзелавым гарнітуры, у белай кашулі і лакаваных чаравіках.

Жаніху спачатку вельмі не спадабаецца Машчына барада. Ён загаворыць з іншай прадавачкай, магчыма, Ілонай. Але Ілона дзівосна дурная. Яна абсалютна нічога не ведае пра жывёл і пра тое, што жывёлам сапраўды патрэбна. Ілона будзе какетліва клыпаць сваімі даўжэннымі веямі і будзе казаць:

– Ох, сама не ведаю, што вам параіць. Найлепш у такім выпадку пайсці ў ветбальніцу і ўсыпіць сабаку.

Або:

– Навошта вам марнаваць грошы на корм, калі хамяка можна спакойна карміць капустай.

Або:

– Каціныя драпалкі не дапамагаюць. Каты ўсё роўна будуць драпаць шпалеры і аббіўку фатэляў. Я б катам паадразала кіпці. Гэта адзіны дзейны спосаб.

Ілона ніяк Машчынаму жаніху не дапаможа. Ён ветліва ёй падзякуе і ўжо тады, калі не будзе мець іншага выйсця (бо ўрэшце барада не замінае жанчыне быць разумнай), звернецца да Машкі.

Машка не страпянецца. Не будзе паказваць, што так доўга Яго чакала. Што так на Яго спадзяецца. Машка не скажа:

– Я Машка, мне дваццаць пяць гадоў, і ў мяне расце барада.

Не. Яна застанецца стрымана сціплай. Будзе размаўляць метадычна і аргументавана. Яе голас не будзе трымцець ад жалю да самой сябе, маўляў, паглядзіце, якая я няшчасная, у мяне расце барада. Не. Машка заварожыць яго дарэчнасцю кожнага слова, розумам, на які здатныя толькі абдзеленыя прыгажосцю людзі. Ён прыйдзе зноў. Ён будзе хадзіць і хадзіць. Ён закахаецца ў яе барадатую душу.

Цікава, думае Машка, калі ў "Дружку" няма пакупнікоў, якая ў яго жывёла? Што ён трымае? Ката? Сабаку? Хамякоў? Хамякоў дакладна не. Напэўна, такі сабаку. Шатландскага тэр'ера. Машцы падабаюцца шатландскія тэр'еры. Яна дзесьці прачытала, што гэтыя сабакі ўмеюць лавіць чарцей.

У "Дружку" няма пакупнікоў. Вечарэе. Машка адна. Праз дваццаць хвілінаў яна закрые краму і пойдзе дадому, да сваіх дваіх некастрыраваных катоў-вар'ятаў.

Раптам адчыняюцца дзверы і заходзіць Ён з плоці і крыві. Мужчына ў чорным дзелавым гарнітуры, белай кашулі і лакаваных чаравіках. Машка ў той жа момант яго пазнае.

– Вы яшчэ працуеце? – пытаецца мужчына.

– Так-так, працуем яшчэ дваццаць хвілінаў, – адказвае Машка і хавае галаву пад прылавак, каб адразу Яго не напалохаць, каб падышоў бліжэй.

Мужчына ўважліва разглядвае вітрыну, а Машка спадылба – яго. Машка не спадзявалася, што жаніх выявіцца ажно настолькі прывабным. Прыгажун. Магчыма, Машка і заслугоўвае такога прыгажуна, але гэта праўда, што ніколі не ведаеш, чаго сапраўды заслугоўваеш. Чым чалавек можа заслужыць шчасце? Яно проста прыходзіць. Як дар. Як ласка.

Мужчына ўдае, нібы яму абыякавая Машчына барада. Выхаваны. Але іначай і быць не можа. Машка не дарэмна доўгія гады чакала менавіта яго. Ён глядзіць на Машку, а яна стаіць, як сапраўдная прынцэса заалогіі, паміж кацінымі туалетамі з аднаго боку і пацучынымі клеткамі – з другога.

– Мне патрэбны корм для пумы, – кажа мужчына.

Машка не разумее.

– Прабачце, для каго корм?

– Для пумы. У вас ёсць?

– Корм ёсць для катоў, малых, дарослых, цяжарных і кастрыраваных, для сабак, для птушак-певуноў, для хамякоў, для акварыумных рыбак, для хамелеонаў, для трусоў... – Машка тараторыць аўтаматычна і чымсьці пачынае нагадваць сабе Ілону.

– А для пум ёсць?

– Для пум няма. А вам навошта?

– Дзіўнае пытанне. Каб мець чым карміць пуму.

– У вас пума?

– Пума.

– Ніколі не чула, каб у Кіеве хтосьці трымаў пуму.

– Ну чаму ж. У Кіеве іх шмат.

– А, – Машка б’е сабе па ілбе, – вы, мабыць, гаворыце пра заапарк! Вы з заапарку?

– Не. Да заапарку я не маю ніякіх адносінаў.

– Дзе ж вы трымаеце пуму?

– У сябе дома.

Машка збілася з панталыку. Корма для пумы ў “Дружку” дакладна няма. У гэтым яна ўпэўненая на ўсе сто.

– Дык у вас ёсць корм ці не? – бачна, што мужчына крыху нервуецца.

– Баюся, што няма.

– Шкада, – кажа ён і паварочваецца да выхаду.

Машка не можа гэтага дазволіць – каб ён вось так узяў і пайшоў. Бо ён жа зараз пойдзе. І больш ніколі не вернецца.

– Пачакайце! – крычыць Машка. – Корма няма ў краме. Але можна патэлефанаваць на склад і замовіць. На складзе корм мусіць быць. Там у іх ёсць усё, што заўгодна, і нават больш.

– То патэлефануйце, калі ласка.

– На жаль, сёння тэлефанаваць позна. Прыйдзіце праз некалькі дзён. Я абавязкова заўтра зранку замоўлю са складу ваш корм і яшчэ праз дзень яго прывязуць. Спадзяюся, вашая пума да таго часу не здохне, – Машка ласкава ўсміхаецца, хаця й ведае, што ўсмешка зусім не пасуе да яе барады.

– Добра, – кажа мужчына, – я прыйду праз некалькі дзён. Толькі не забудзьце.

– Не забуду.

Пума, думае Машка, пума. Ён не такі, як усе.

Са складам Машка звязваецца часта, некалькі разоў на тыдзень. Як правіла, яна мае справу з Валерам, прозвішча якога для ўсіх застаецца таямніцай. З ім гавораць па тэлефоне, потым ён уласнаруч прывозіць

замоўленыя тавары і знікае ў нікуды – туды, адкуль з’явіўся. Гэтаксама ніхто ў “Дружку” не ведае, дзе знаходзіцца сам склад. Нічога, апроч нумара тэлефона і Валеры без прозвішча.

– Валера, – кажа Машка па тэлефоне, – я хачу зрабіць замову.

– Для цябе ўсё, што заўгодна, прыгажуня! – адказвае з трубкі Валера, а Машка каторы раз у думках называе яго прыдуркам, бо ўпэўнена, што Валера з яе смяецца.

– Патрэбны корм.

– Які? Я запісваю.

– Вельмі спецыфічны.

– Чалавечы? – і Валера гучна рагоча па той бок дроту. – Зараблю трохі грошай, спрасую хлеб з квашаным агуркам і варанай каўбасой і буду прадаваць гэта як універсальны корм для чалавека. Пабачыш, які будзе поспех.

– Не. Для пумы. Корм для пумы. Ёсць на складзе такі?

У трубцы на некалькі секунд маўчанне.

– Пумы? А хіба такі корм увогуле бывае?

– Ну, калі бываюць пумы, то бывае і корм для іх, – кажа Машка.

– У Кіеве няма пум.

– Ёсць. І шмат.

– Машка, адкуль ты ведаеш? Ты бачыла хоць адну?

– Я асабіста не бачыла, але мне гаварылі, што бачылі. У краму прыходзяць людзі і запытваюць пра корм для пумы. Гэта штосьці значыць, праўда? Калі запытваюць, значыць у іх ёсць пума. І яны мусяць яе чымсьці карміць.

– Дарагая мая, я ведаю ўсіх жывёл, якія былі, ёсць і будуць у Кіеве. Кожнага найзасранейшага льва, ці тыгра, ці леапарда, ці мядзведзя. Я ведаю ўсіх. У мяне такая праца. І пумы ў Кіеве няма ніводнай. Павер мне. Цябе разыгрываюць.

Прыдурак, думае Машка.

Гэты кавалачак рэкламнай паперы ляжаў у кішэні Машчынай курткі некалькі месяцаў. Якраз цяпер прыйшоў час ім скарыстацца. ВЫДАЛЯЕМ НЕЖАДАНЫЯ ВАЛАСЫ. НАЗАЎЖДЫ.

– Балюча не будзе, – кажа мілавідная расфуфыраная бландзінка ў кароценькім халаціку, заводзячы Машку ў кабінет.

– Я не баюся, – адказвае Машка. – Я доўга сябе рыхтавала.

– Сядайце, калі ласка, у крэсла. Зараз прыйдзе доктар.

Бландзінка з прафесійнай цікавасцю разглядае Машчына аблічча.

25 гадоў, канстатуе яна. 25! І толькі цяпер гэтая барадатая пачварка здагадалася прыйсці да дактароў. Яна ж, напэўна, ніводнага разу нават не цалавалася. Хто захоча такое цалаваць? Я, напрыклад, пабачыўшы яе дзе-небудзь на вуліцы, уцякала б як мага падалей. Магла б атрымаць перапуд на ўсё жыццё. Сучасныя жанчыны сталі нейкія дзіўныя: зусім не пераймаюцца тым, як выглядаюць. Усе такія брыдкія. Адна я прыгожая.

– Што прымусіла вас наважыцца да нас прыйсці? – пытаецца ў Машкі бландзінка. – Даруйце, калі лезу не ў сваю справу. Проста цікава.

– Нічога канкрэтнага. Барада. Яна колецца.

– Я вам не веру, – какетліва шчабеча бландзінка. – Тут дакладна мусіць быць мужчына! Толькі мужчына можа змяніць жанчыну.

Машка, седзячы ў крэсле, думае пра пуму. Яна нічога насамрэч пра яе не ведае. Нейк заўсёды жыла так, нібы пумы не існуе. Нібы гэты свет належыць толькі тыграм і гепардам. Але ж не. Ёсць яшчэ пума.

Амерыканскі горны леў. Бледна-карычневы. З'ядае прыблізна 48 парнакапытных на год. Гэта адна тона мяса. Заўсёды адзін, за выняткам трох дзён шлюбных гульняў. Хаця часам трох дзён дастаткова, каб не пачувацца самотным.

– А бровы? – пытаецца бландзінка.

– Што бровы?

– Вы іх не вышчыпваеце прынцыпова?

Машка ніякавата перасмыкае плячыма.

– У вас непрыстойна густыя бровы. Іх трэба вышчыпваць.

– Так, – кажа Машка, – але я думала, што бровы патрэбныя жанчыне. І чым гусцей, тым лепш.

– Дзе вы такое пачулі?! Гэта няпраўда. Навошта жанчыне густыя бровы?

– Каб пот з ілба не сцякаў у вочы.

Ён усё не прыходзіў. Мінуў тыдзень. Машка чакала Яго, як умела, стрымана сціпла. Апранала сваю найлепшую сукенку. Падфарбоўвала вусны. Не адыходзіла з крамы ні на імгненне. Ён прыйдзе, ён паабяцаў, думала Машка, ён не можа цяпер мяне пакінуць.

– Што ты зрабіла са сваёй барадой? – сказаў Валера, завозячы чарговую партыю заатавараў. – З барадой ты падабалася мне больш.

Машка наўрад ці гэта чула. Яна бесперапынна глядзела на заўсёды людную дарогу за вакном, угадваючы ў кожным мужчыну свайго жаніха. У чорным дзелавым гарнітуры, у белай кашулі і ў чаравіках.

Машка мела што прапанаваць Яго пуме. Яна знайшла ў супермаркеце аддзел "Мяса дзікіх жывёл", якім раней зусім не цікавілася. Там было замарожанае філе сібірскага аленя. Машка купіла яго. Дарма, што алень сібірскі, а пума амерыканская, вырашыла яна. На смак сібірскія алені наўрад ці моцна адрозніваюцца ад сваіх амерыканскіх родзічаў. Машка парэзала філе на дробныя шматочкі, перасыпала яго цертымі сухарамі і запакавала парцыйна ў цэлафанавыя мяшэчкі. Гэтага, па Машчыных падліках, мусіла хапіць пуме на паўмесяца. Калі не вельмі закармліваць.

Аднак Ён усё не прыходзіў.

– Ілона, – настаўляла Машка сваю напарніцу, – калі раптам прыйдзе мужчына ў чорным гарнітуры, элегантны, ну, ты зразумееш, у лакаваных чаравіках і спытаецца пра мяне або пачне табе гаварыць штось такое зусім незразумелае – пакліч мяне, знайдзі мяне, дзе б я ні была, добра?

– Добра, – адказвала Ілона, – толькі вось як я зразумею, што ён гаворыць "штось незразумелае"?

Праз два тыдні Машка занервавала.

Можа, Яго пума здохла, і таму Ён не прыходзіць? Бо навошта тады, калі пума сапраўды здохла, Яму здаўся к чорту ейны самаробны корм. Шчыра кажучы, "корм" ужо добранька так падпсаваўся. Машка збіралася купіць яшчэ аляніны, свяжэйшай, але ў супермаркеце яе больш не выявілася. Разабралі.

Ну, прыйдзі, думала Машка. Я стала такая сімпатычная, калі б ты толькі бачыў. Без барады мяне можна назваць сімпатычнай. Ты не будзеш мяне саромецца. Мы так цудоўна зажывем усе разам. Я, ты і нашыя коцікі, маленькія і вялікія. Будзе вельмі добра. Толькі прыйдзі.

А неяк адна старая надакучлівая жанчынка паўгадзіны выбірала корм для свайго такога ж старога аблезлага хамяка.

– Як вы думаеце, – казала яна Машцы, – які корм лепей узяць? Той, што з кавалачкамі фруктаў, ці той, які ўзбагачаны вітамінам А?

– Залежыць, чаго вы хочаце, – буркнула Машка. – Калі хочаце, каб

хамяк быў энергічным, то бярыце з кавалачкамі фруктаў. Калі хочаце, каб прыгожа выглядаў, то бярыце з вітамінам А.

– А так, каб быў і энергічным, і прыгожым? Які мне ўзяць корм?

– Вазьміце звычайны. У ім ёсць усё неабходнае.

– Ад звычайнага корма мой хамяк нияк дзіўна адрыгвае.

– Слухайце, – крыкнула Машка, – навошта ўвогуле купляць корм, калі хамякоў можна спакойна карміць капустай!

Тады Машка зразумела, што Ён ужо ніколі не прыйдзе.

Яе барада зноў пачала расці. Яшчэ гусцейшая, яшчэ чарнейшая, яшчэ шарсцейшая. Машка гэтаму ўзрадавалася. Без барады яна пачувалася голай.

## 2

– Мне трэба запатэнтаваць сваё вынаходніцтва, – кажа Валера, – я табе гаварыў пра чалавечы корм? Жарты жартамі, але ў гэтым штосьці ёсць. Спрэсаваць вараную каўбасу з хлебам і квашанымі агуркамі. У гэтым штосьці ёсць. Канечне, корм трэба ўдасканаліць. Можа, дадаць гарчыцы. Або хрэна. І абавязкова запатэнтаваць вынаходніцтва. Іначай гэта зробіць хто-небудзь іншы. Зараз усе ўсё патэнтуюць. Зарабляюць на патэнтах вялікія грошы.

Машка ляжыць поруч з ім. У сваім ложку. Два некастрыраваныя катывар'яты гайдаюцца на жырандолі.

– Табе трэба штосьці з імі зрабіць, – кажа Валера, – яшчэ не бачыў такіх дурнаватых катоў. Напэўна, зноў насцалі ў мае боты.

– Я нічога не магу з імі зрабіць. Каты заўсёды вяртаюцца.

– Каты катамі, а ты памятаеш пум? Як ты званіла мне па корм для пумы, памятаеш?

– Памятаю.

– Ты ж пажартавала была, праўда?

– Праўда.

– А я падумаў, ты сур'ёзна, – Валера рагоча і моцна прыціскае Машку да сябе, – падумаў, з'ехала з глузду.

– У Кіеве пум няма. Я хацела з цябе пажартаваць.

– Слухай, Машачка! Давай ажэнімся! Га? Як ты на гэта глядзіш? Ты мне даўно падабаешся.

– З барадой?

– А што такога?! Барада ў цябе вельмі прыгожая. Не ў кожнага мужчыны такая ёсць. Ну як? Ты згодная?

– Не.

Валера перастае быць вясёлым і адсоўваецца.

– І ўвогуле, Валера, – кажа Машка, гледзячы на катоў, – не прыходзь болей да мяне.

– Не прыходзіць? Але чаму?! Табе кепска са мной? Я цябе не задавальняю? Мы ўсяго тры дні, як пазнаёміліся бліжэй. Я так хутка табе абрыд?

– Справа не ў тым. Я проста прывыкла быць адна.

Валера падрываецца з ложка і на хуткую руку збірае раскіданую па падлозе вопратку.

– Не разумею такіх жаночых штучак! – крычыць ён. – “Прывыкла быць адна”! Так і скажы, што не падабаюся табе, што не хочаш быць са мной! Толькі, калі ласка, не трэба разводзіць паэзію!

Ён з грукатам ідзе прэч, а Машка застаецца ляжаць у поцемках.

Яна нічога не думае. Ёй добра. Ёй ужо не самотна.

Трох дзён сапраўды дастаткова.

запісы

Рыгор Барадулін



...Прыйшоў – нельга заснуць.

Усё машына-машына, пшаніца-пшаніца, грузім.

Кашмар...

# “Вярніся, вясна мая!..”

***Студэнцкі дзённік***

*Заканчэнне. Пачатак у №№ 71-72.*

*Укладанне і падрыхтоўка да друку Наталлі Давыдзенка.*

*Заўвагі Рыгора Барадуліна, Наталлі Давыдзенка, Ірыны Сляповіч.*

*Друкуецца з захаваннем асаблівасцяў аўтарскай мовы.*

*15 жнiўня, серада*

“Почему вы такой толстый сегодня? На Таболе вы были не такой”. Увесь смех. Так Ніну папытаў салдат, пераблытаўшы з Верай Ш. Зноў курорты. Размова з земляком, яму 29 год. Бульдазерыст, на два месяцы прыехаў. Хоча ў Мінск.

Вецер пранізлівы. Палатка раздуваецца. Вецер так качае ўсё. Коціць крышку з бачка, як малы кола.

Вечарам пачалося сабірацца на дождж. Я пайшоў глядзець, як гэта людзі працуюць. Адыходзячы, мы ўбачылі дзіўнае відовішча. Узняўся страшэнны віхор. Пясок у рот, і нос, і ў вочы. Прама з ног збівае. Чуць уцяклі. Прыйшлі, а палатка надзімаецца, як ветразь. Пачалі зносіць бэлькі жалезныя і абкладваць, каб палатка не знікла ў падхмар'і. Сонца, як чырвонае-чырвонае кравяное кола. Маланкі крэмзаюць неба, як настаўнік памылкі ў вучнёўскім сшытку.

“На собранию” было ў палатцы. Рысавая каша. Хлеба ўвобмаль. Усе сядзяць на ложках. Якраз “собрания” перарвала гульню ў карты маю. Атрымаў дурня. Пасля яды – гарланілі

песні. І паснулі, як у Запарожскай сечы. Ледзь дабудзіліся сваіх запарожцаў з Rysikam. Усе абутыя, адзетыя, пачынаючы [з] Maestro і канчаючы Аляй. Дождж. [Жніўня – закрэслена] і прыпамінаецца алешнік. Раскладваеш вогнішча і кладзеш галінкі ядленцу[1]. Ён так трашчыць, неба ў хмурынках. Зялёная траўка далікатная, крыху бледнаватая. Пад дождж засынаю.

*16 жніўня, чацвер*

Пасля дажджу адна работа – здаваць нормы на СПА[2] і на мухаўстойлівасць. Пасля "собрании" рэзаліся ў дурня, Maestro навешаў мне пагоны 4 разы, дайшоўшы да дзявятак. Пасля дурняў хадзіў у стэп. Быў на таку. Пшаніца прамокла ў таўшчыню мезінца. Занялося такой скарыначкай. А далей сухусенькая.

Астатні час рэзаўся у дурня. Частка пайшла на ток, з хлопцаў я адзін на нашай палавіне. Дзяўчаты пяюць, частка здае на кандыдацкі мінімум па СПА. Напісаў маці пісьмо. Пакуль і ўся мая праца.

Вечарам танцы. Уздым, ужо, праўда, не той.

*17 жніўня, пятніца*

Паўдня лындзіў. Пад вечар з'ездзіў пракаціцца. Затым ездзіў з Генкам. Рука стала лепш. "Ой, как замуж хочется", – спяваюць дзяўчаты свой нацыянальны гімн.

Вечарам ездзіў з усімі глядзець "Утаймавальніцу тыграў". Ад душы ў некалькіх мясцінах смяяўся, хоць і бачыў фільм у 3-й раз, відаць. Фільм харошы. Прыехалі дадому. Настрой ва ўсіх прыўзняты. Не да сну. Дзяўчаты выйшлі з палаткі, селі ў пшаніцы – і песні, песні да глыбокай ночы. Я пахадзіў па стэпу. Палюбаваўся на пшаніцу. Хараша. Ноч зорная, лагодная, цёплая. А месяц-насмешнік так і смяецца хітра.

*18 жніўня, субота*

Сёння ўжо пайшоў на работу. Рука крыху баліць, але рабіць з горам папалам можна. А то абрыдла ў палатцы як ваўку таму сядзець. Ездзіў пасля паўдня да камбайнаў з Сашкам [Булыкам]. Сашка расказваў урыўкі з паэм Пушкіна. Пад вечар стала халадней. Спаць хочацца. Я так і ўкутваўся ў плашч, умудраючыся заснуць. Але машына як дзёрне, дык чуць язык не адкусіш зубамі. Працавалі гадзін да 12-ці. Затым дадому-дахаты, дамовіўшыся разбудзіць дзяўчат з зоркамі першымі, што, канешне, не ўдалося. Зоркі на камбайнах дапамагаюць убраць багаты ўраджай, а месяц з неба глядзіць раўніва, што яго сяброўкі шчаслівыя з другімі. Многія застануцца на грудзях камбайнёраў і трактарыстаў. Канешне, так і будзе. Пасля ўсіх вандраванняў замёрз, што зуб на зуб не цаляў. Я нарэшце аддаўся ў абдымкі Марфея.

*19 жніўня, нядзеля*

Пайшоў папрацаваў да поўдня. Затым разбалелася рука, ды плюс да ўсяго мне нагаварылі розных жахаў аб дрэнных выніках, што з поўдня я пайшоў у палатку і з 12-ці да 7-мі быў у гарызантальным становішчы (якое мне падабаецца больш, чым што іншае). Учора я парадкам прастудзіўся. Затым узяўся за верш пра сем'яніна і шпака. Пайшоў аб'явіў хлопцам, што праз 15 мінут "на собранию". Сёння будуць працаваць усю ноч. Вакол гудзяць трактары. Так і адчуваеш, што пульсіруе напружанае працоўнае жыццё. Гэты гул неяк настройвае на працу, але толькі не на сон. Ой, не на сон. Засталася працаваць начная змена. Доўга з Косцем[3] [Цвіркам] балакалі аб беларускай літаратуры.

---

[1] Гл.: У палатцы (6.11.56) // Маладзік над стэпам. Мн., 1959. С. 20.

[2] Супрацьпажарная ахова. Іранічны выраз – здаваць на пажарніка, г. зн. спаць.

[3] Цвірка Кастусь (Канстанцін Аляксеевіч; н. 1934), студэнт філфака БДУ. Беларускі пісьменнік, выдавец. Кандыдат гістарычных навук.

Ноччу прачхнуўся – зуб на зуб не цаляе. Такі халадзішча, што я ўжо пабаяўся, што валасы да галавы прымерзнуць. Чую – гудзе-гудзе ўсё вакол. Мне ўявілася, што гэта зімой гудуць ад марозу правады. Нарэшце мне стукнула, што я на цаліне. Жэні [Клімава] няма, на таку. Я накрыўся плашчом і мацней заснуў.

*20 жніўня, панядзелак*

Прачхнуўся ад шуму абудзіўшыхся чалавек. Жэня сягоння-то спіць, а я ўстаў. Адзін раз хоць у жыцці ўдалося яго апярэдзіць. Памыў "личность". "На собранию". Затым сахары і лапаты ў рукі і на ток. Чысцілі ток. Дзяўчаты нечага па-ваяўнічаму настроены. Мы жартуем, што шкада, дзяўчаткі, што вы не нарадзіліся раней, а то вайна закончылася б не ў 45-м, а ў 42-м ці 43-м годзе. Пасылалі маніфестацыю будзіць Дзіда (баставалі супраць такога тока). Затым нас вучылі, як трэба пералапачваць. Бывае ж так, што людзі ўстаюць не з той нагі, з якой трэба. Падгортваць цяжка. Крыху пабольвае рука. Змарыўшыся, прыемна паляжаць на зерні. Дужа прыемна, прама і ўставаць не хочацца, так бы і ляжаў, млявы.

Пад вечар папрацавалі ўдосыць. Машыны фугуюць адна за адной. Толькі ведай згружай. Шурую, як качагар вугаль. Дрэнна згружаць, калі дно машыны з планкамі. Частку пусцілі "на собранию", мы засталіся згружаць. Нарэшце і мы за сталы дубовыя селі. Хораша есці, папрацаваўшы ўволю. Цела ные ад стомы. Рукі і ногі ломіць, але на сэрцы добра, настрой прыўзняты. Халадок. Свежасць. Вечарам сяджу за сталом, пішу дзённік, і раптам падыходзіць Васіль (наш пом [памочнік]) і кажа мне, каб я сфарміраваў пажарную каманду. Трэба ж падпусціць такую шпільку. Мо ён не ведаў, што я прафесар навук СПА.

Зрэзаліся ў дурня. А за абедам мне было вельмі добра. Удалося ўмяць Паўлаў макарон. Павел заканчваў першае. А я сваё закончыў даўно. Тут Насця паднесла макарон. Ну, я за яго і цопнуў. Павел сядзіць ды скоса пазірае. А Косця [Цвірка], выходзіць, зрубаў яго першае. "Загінуў" сёння наш брыгадзір. Плюс да ўсяго сала яго таксама нацыяналізавалі ў карысць страўнікаў яго аднабрыгаднікаў.

*21 жніўня, аўторак*

Прачынаемся ад нейкага тарарахкання. Аж гэта нехта ўмудрыўся падагнаць трактар пад самую палатку і заводзіць яго паўгадзіны. Rysik (наш вагар без вагаў) паступаць, відаць, думае ў аспірантуру на СПА.

На таку прыемна ступіць глыбей у зерне. Халоднае, свежае, як усё роўна раніцай залязаеш у празрыстую гладзь нашай Ушачы-матухны. Згружаеш з машыны таксама халоднае, асвяжаючае. Так і хочацца ступаць у зерне. Як у раку ранішнюю. Прыемна. Крыху заснуў, прыкрыўшыся лапатай ад сонца. Пасля аперацыі онай працаваць не хацелася. У некалькіх месцах у нізінах пшаніца зарунела, заняліся зялёныя пабегі. Яшчэ не паспелі зняць аднаго ўраджаю, а ўжо другі скора будзе спець.

Тут раптам дождж пачынаецца. Тут-то прыйшлося папрацаваць. Аж жывот балеў, але трэба было згортваць у бурт. Як глянеш – мора. Але варта завінуцца шчыра ўсім – глядзіш, бурт гатовы, праўда, у форме ліvернай (наш асноўны студэнцкі правіянт, ну, мы па форме яго і буртуем). Хочацца кінуць, легчы, дакладней, бегчы, бо ўсе як вароны мокрыя. Ды не! Трэба працаваць! Хоць сам ўжо выдыхся, ды паказвай іншаму, што табе гэта хоць бы што, каб ён таксама працаваў. Наогул, кантора "Напрасный труд", мокрае згортваем сырым.

А вось і ўсё. Мы за сталамі. Сёння прама па-хатняму. Прама Беларуссю дыхнула. Каша з бульбы, з агуркамі. Смакоцце.

Пасля абеду карты. Салдаты прывезлі падсолнуху. Дзяўчаты пішуць сваім, як пісьмо турэцкаму султану. Пamaladзіўся. Прынесла пісьмы Ала. Усім, акрамя мяне. Колькі разоў заракаўся я пісаць каму іншаму, апрача маці.

Пад вечар і дождж пачаў накрапваць, і танцы пачыналіся. Ды раптам пачулася каманда “на ток”. Каму што ў рукі ўторкнулі. Мне вядро. Маланкі жагнаюць, крэсляць неба, нібы тыя зводкі бюро надвор’я аб надвор’і ясным і бясхмарным. Маланка як жахне – паўнеба азарана. Затым гром як кашляне, што аж зямля трасецца. А дождж так і падганяе, так і падганяе. Хто чым працуе, стараецца[1]. Паспрабаваў вядром працаваць – дрэнна. Але здаў сваю зброю працы і пачаў рабіць такой клюшкай з цвікамі (так называемыя граблі), зграбаў. Усе спяшаюцца, паддаюць адзін аднаму ахвоты. Такое натхненне, такі ўздым. Колькі паэзіі, хоць і жывот трохі пабальвае ад зерня. Збольшага згрэблі, і тут дождж як з вядра. Ну, тут каманда “дадому”, і мы з Алай пад адным плашчом чхалі. Адна босая, другі ў туфлях, на падэшвах і матчыных “туфель”, і туфель фабрыкі Кагановіча[2] па паўпуда гразі. Ідзем, як трактар на гусенічным ходзе. Потым доўга гаманілі, пакуль не заснулі. Прыйшлося развешваць вопратку, бо ўся хоць выкручвай. Пасля капрэмонту “личности” перайшлі Рубікон, а дакладней, простыні, канешне, не тыя, што на ложках, а тыя, што вісяць на провадзе. Елі ў Ніны агуркі, часнок, хлеб і цукар. Затым доўга балагурылі. У кутку спяваў аб’яднаны хор дзяўчат і хлопцаў. Ад прыемнай гутаркі з прыемнай суседкай “малость вздремнул”. Женька разбудзіў.

*** Дождж. У хлопца на вушах вісяць кроплі і ззяюць вясёлкай, вясёлка на вушах.

*22 жніўня, серада*

Зноў дажджыць. Пасля “собрании” крыху адпачылі – на ток. Крыху падгортвалі. Пачало крапаць – дадому. Крыху счакаўшы, зноўку на штурм. А дождж як сцеражэ. Адседзеў пад машынай і ў машыне Косці [памылкова, трэба – Віктара] Капусціна.

Жэня [Клімаў] сёння імяніннік. Паднеслі яму 2 пачкі “Беломора” і том Гогаля. Ж. на радасцях стукнуўся ў машыну, што толькі дрэбезгі паляцелі ад кабінкі. Але ўсё гэта ўвокамгненна, хутка. Трэсь, хрась, і гатова. Усе цэлы засталіся. Толя ўскіпеў.

З апошніх навін важныя наступныя: сцяна адна рухнула, дакладней, нічога з ей не здарылася, яна стала зноў будматэрыялам. Зямля легла на зямлю. Усё ў парадку. Пшаніца прарастае. Рунее. Не паспеем сабраць адзін ураджай, як другі на носе. У калдобінах вада, пшаніцы бурты, як крэпасныя валы. Вечарам ездзіў з Валодзем да камбайнаў. Адна тутэйшая расказвала, што летась усё спякло, пясок быў, як прысак, накалены.

Прыехаў – за стол. Частавала Ніна. Ледзь расквітаўся з баршчом – цэлае мора, а не міса. Сабраліся ў кіно. Хораша каціць месячнай ночкай! Здаецца, што і месяц дагоніш. Прыехалі на S часткі “Добрай раніцы”. Шуруй дадому.

Зараз сяджу, а Жэнька-імяніннік спіць, як матацыкл заводзіць. Усё трашчыць, а не заводзіцца. Выбары кухара – анекдот.

*23 жніўня, чацвер*

Сёння месяцагоддзе нашага знаходжання на цаліне. “Выпить бы по маленькой, да не за что, друзья”. Сапраўды, няма за што. Дзень працоўны. Шinduруем і ўкалваем на ўсю жалезку. Згортваем бурты. Работа цяжкая. Пакуль згрузіш з месца на месца. Узнікаюць ажно спрэчкі. Так быў інцыдэнт між Матвеевым і Plash. [Плашчынскай]. Яна яго папракнула, што хлопец сачкуе. Пасля абеду крыху пасядзеў у палатцы – выпускалі “Баявы лісток”. Міша спаў у арыгінальнай позе, а Maestro занатоўваў яго на паперу. Дарэчы, ён і мяне намаляваў.

Вечарам згружалі машыны. Пасля дадому-дахаты. Ды спаць штось не хацелася.

---

[1] Гл.: “Б’е пярун прамой наводкай...” (10.56) // Маладзік над стэпам. Мн., 1959. С. 8.

[2] Магілёўская абутковая фабрыка імя Л. Кагановіча.

Ездзілі з Капусціным да камбайнаў. Доўга стаялі. Узялі адзін бункер. Салдаты матэрыяльна не зацікаўлены ў працы. Гэта дрэнна, па-мойму. Нявыгадна. Балакалі доўга. У Віці ўжо сын 3-гадовы. Паспеў-такі, гад капусны! Прыйшоў у палатку, рассек крыху дроў новаму кухару, аспірантцы быўшай. Хадзіў на ток, да вагара нашага славутага. Паляжаю мала пуцёвак. Frishman піша.

*24 жніўня, пятніца*

Раніцай Ж. [Клімаў] і С. [Булыка] рабілі мне фіззарадку, ды не так мяне лёгка адарваць ад мяккага цёплага ложка. Да абеду работы няма. Камбайны не косяць (ноччу быў дождж). Выпускалі “Баявы лісток”. Закончылі. Вывешалі. Дакладней, толькі загнаў апошні цвік – Валя (галоўкухар, яна ж гераіня “Баявога лістка”), доўга не думаючы, чахнула зверху ўніз – і ад лістка засталіся шматкі. Уся праца пайшла насмарку. Так яно і бывае. Хваляваўся, выпускаў. Адзін рух – і няма нічога. Гаварылі, Дзед хацеў яе правучыць па-простаму, ды пашкодзіў аграном. Паляжая – у дадатным плане. А дома разыграў істэрыку Frishman. Maestro намаляваў капялюш і нос кручком штрыхамі. На галоўным жа плане быў Шушкевіч, канешне, не падпісаны. Бо пасля нарады мы парашылі яго не пясочыць, баючыся за вынікі яго здароўя.

Узлаваўся дый заваліўся спаць. Прачхнуўся як разбіты, нічога не хочацца рабіць. Вяласць. Млявасць. Набілі сеннікі з нашым “завтыком”.

Больш ездзіць на машынах не будуць, бо ўчора 2 ЧП. Салдата зарэзала машына гружаная. Спаў у саломе. Затым студэнты разбіліся (машыны “пацалаваліся”). Студэнты жывы (народ неўміручы), пасля пачынкі будуць песні пяяць.

З абеду на таку. Перасыпалі кучы. Зерне спрасавалася. Нагадвае скалы нейкія. А семяны перакаці-поля аздабляюць іх цудна. А як гэтыя скалы праразае струмень зерня, ну як раўчукі іл пасля дажджу. Зерне як сыпнеш лапатай, як шпакі перад выраем падаюць на зямлю. Пасля “собрании” на таку згрузіў 2 машыны. Пачуў гукі акардэона. Туды далі заявачку з С. [Булыкам]. Польку басяком плясалі, нагам пры́тыку не было.

*25 жніўня, субота*

Згружаем машыны. З самай раніцы счышчалі ток. Неяк вее восенню. Блізка і 1 верасня – мой самы любы дзень. Спявалі. Мне ўвесь час у вушах гучэў “Даміно”. Згружаем ўдвух з Шушкевічам. Дружна. Працуе ён добра. Сёння прыехала Насця. Паедзе з Паўлам у Мінск лячыцца. Шкада дзяўчыну. Павел дык гэта дундук.

А тут вялікая радасць. Прынеслі пісьмы. Мне адразу 2. Ад маці і ад R. [Розы]. Прыгаў цераз пшаніцу ад радасці. Дома ўсё ў парадку. Маці жне жыта. Косіць іржэўнік. У нас часта дажджы (што тут рэдка дый нежадана зараз). У R. таксама ўсё добра. Маці прыслала выразкі з газет пра Коласа[1]. Яна ў мяне ўсё ведае, што мне трэба, толькі вось я не заўсёды. Wadim увесь дзень разводзіў гутарку аб аплаце. Алік [Падлужны] марыць зарабіць грошай на гадзіннік. Ніне прыслалі пасылку. У імгненне вока – “усміхнулася”. Мне перапала кавалак сала. Цыбулі шмат. І цыбуля беларуская салодкая, як цукар.

Вечарам пайшлі на ток. Крыху падгарнулі пшаніцу. Затым паспявалі і nach Hause, дзе нас з абдымкамі моцнымі чакаў Марфей. Пірат за абедам пра Frishmana. Анекдот.

*26 жніўня, нядзеля*

Толькі як запісваеш у дзённік “нядзеля”, тады і ведаеш, што ёсць такі дзень, а так не заўважаеш. Праца і праца. Аднастайнасць.

---

[1] 13 жніўня 1956 г. памёр Якуб Колас.

З раніцы дапамагаў Капусціну з Хасімам наладжваць палатку. Ускапалі крыху зямлі. Нацягнулі. Хутка салдацкая ўтульнасць робіцца. Прынёс стол так называемы. Крышка з дошак, абабітая брызентам. Чатыры ножкі. Прычым 2 роўныя. Дзве як калкі. Завостраны. Убіў, і стол. Яшчэ кушэтку мяккую. Дошку, абабітую матэрыялам нейкім. Хоць паэмы пішы за гэткім сталом. Усё па-скораму. Раз-два і гатова. Затым прывезлі саломы. Перанеслі хархопкі. Леглі адпачылі. Віктар дастаў НЗ – бохан хлеба. Хацеў рэзаць сякерай, але знайшлі нож. Гэта прама ўваходзіны (у іх кажуць влазины, Капусцін з Браншчыны).

Прыйшоў Дзед. Мы на ток. Счышчалі дно тока ад памаладзі, ад руні гэтай. Такі тоўсты пласт. Ну якраз быццам футра, каўнер. Пабегі нейкага бледна-зялёнага колеру. На сонцы зіхціць прыгожа вельмі.

Абед позні. Не было вады. Не прывёз чамусьці бензавоз. Добра, што ў салдат была. Пазычылі. Пасля абеду мы з Вадзімам паехалі ў 4-ю [брыгаду] па ваду. Дрэнна, як піць хочацца, а няма. Паехалі з Колем Піраговым. Не ўзялі ні вядра, ні лейкі. Пакуль налілі – поўдня. Добра яшчэ, што зямляк з лейкай падскочыў. Вада халодная-прахалодная. На сонца глянеш – крышталь, такая чыстая. Крыху салянаватая. Але прывыкшы, нічога. Бачылі сваіх. Размова з іх кухаркай. Дрэннае мненне аб студэнтах. Журфак паўсюль сябе пакажа. Гэта ўжо закон, норма.

Прывезлі ваду. Кухары рады-радзенькі. П’ем зараз. Разыгралі Тасю з Лучком. Крыху паперагортвалі пшаніцу. Прывалы. На прывалах анекдоты, прыгоды. Сцягвалі салому ў “глыбінку”.

Пасля “собрании” песні. Падмануў Матвееў, што танцы. Няма. Прастояў з адным будучым мастаком. Зараз пішу дзённік. Жэня лёг. Я адзін. За кардонам шэпчуцца дзяўчаты, як гэта ў іх звычайна – апошнія паведамленні аб паражэннях і дасягненнях.

Цікава пшаніца на таку. Як барханы ў пустыні. След, точна ў пустыні. Няроўны. Ямачка толькі. Вось каб такіх “пустыняў” паболей. Жыць было б можна.

***

Здалося ўжо, што больш чым вечнасць,
Ідзе чаканы бензавоз.
І вось наш “Вогненебяспечны”
З Цэнтральнай нам ваду прывёз.

І, выцягнуўшы губы, бочкі
П’юць прагна ледзяны крышталь.
Вада салёная булькоча
У іх жалезных жыватах.

Мне за крынічную больш міла
Горка-салёная яна:
Пакуль ўраджай такі ўзрасціла, –
Ліла шмат поту цаліна.

*10 лістапада 1956*

*27 жніўня, панядзелак*

Да абеду разгортваў бурты. Гарачыя-гарачыя ёсць мясціны. Прама як прысак, хоць кладзі яйкі – зварацца ўкрутую за 2 мінуты. Такая парнасць. Пахне расчынай. Расшуроўваем, і баста. Пасля абеду пайшлі сцягваць салому. У нас адкрылася свая “глыбінка” – гэта проста бурт на зіму, відаць, і лічыцца як здача дзяржаве. Сцягвалі хто віламі, а ў нас чалавек 5 былі толькі лапаты. Дык мы штурхалі салому лапатамі, як тыя армяне студэбекер.

Тут прыйшла Тася з кухні і сказала, што трэба дровы. Ну, тут мяне заўтык і адкамандзіраваў. Такія прылады працы, што рукі адарвеш. Сякера такая, што як трахнеш – тапарышча шчапаецца. Піла не разведзеная. Як заесць, хоць ратунку крычы. Мішэз здаецца. Нам дапамагаў намеснік Вася. Развёў пілу сякерай, затым гаечным ключом. Затым дапамог рассячы плашку. Сек да вечара сукаватае. Ад тапарышча засталася самая дробязь, не тапарышча, а аўтаручка.

Пасля "собрании" на таку. Танцы. Пакуль тое-сёе. Станцаваў 4 танцы. Канец працы. Ды тут выявілася, што трэба ў начную змену. Застаўся. Ляжалі на пшаніцы. Эля [Шалаева] тлумачыла сузор'і, як вызначаць час, яна добра знае астраномію. Ну, а я, як вучыў тады, калі вызавуць. Дык адрозніваю толькі месяц ад сонца, і годзе.

Зарыўся ў пшаніцу, накрыўся плашчом і задрамаў. Прачхнуўся – замерз як цюцька. Без мяне, відаць, машыну ці дзве згрузілі. Ну, і мне яшчэ адна машына засталася. Неяк хораша драмаць. Ва ўсім целе стома. Холадна зверху. Ногі зарываеш у пшаніцу – бо ў туфлі налятае столькі зерня, што з ног самі з'язджаюць. Ішлі дадому – вальсам круціліся. Зваліліся ў кучу смецця, але затое цёпла і хораша на душы. На небе ўсхапілася зорка Венера – тая самая, пра якую часта пяем. Яркая-яркая. Сапраўды прываблівае Венера.

Памыўся каля бочкі і зарыўся спаць.

*28 жніўня, аўторак*

А дні бягуць-такі. Скора месяцу капут, як і не было. Прачхнуўся позна, дакладней, мне прапанаваў Wadim уперад паесці, а затым надаспаць. Так і зрабіў. Памыўся. У галаве трашчыць. Не бачыў, што еў. Нейкую каўбасу, кашу. Дзід пытае: "Ну як, стихотворец, выспався?" Я адказваю: "Так точна!" Паспрабаваў легчы ды паспаць пасля патугі, ды й толькі. Праваляўся да 12-ці. Увесь гэты час – гэта непрымірымая, не спыняючаяся ні на хвілю вайна з мухамі, праўда, мала крывепралітная. Адбіваўся, як карова ад аваднёў, больш змучаўся, чым адпачыў.

Прыйшоў Мішэз, пайшлі з ім на ток. Панёс ваду. Падгортваюць пшаніцу ўсе. Пласт тоўсты-пратоўсты, прама траншэі суцэльныя. Затым выйшаў з баббата[1] і пайшоў з некалькімі хлопцамі падгортваць. Айвазян, Коля, Сяргей. Вечарам закончылі работу. Чуем – музыка. "Дунайскія" і "Амурскія хвалі" так і падмываюць – не ўтрымаешся, тут крычаць "на собранию", ды дзе там! Пайшлі хоць 3 танцы скруцілі. Я і Сашка басяком па цаліннаму паркету. Дамы, канешне, абутыя.

Вечарам не грузіў. Яшчэ крыху станцавалі. З Сашкам стылем смалім. Ліст ад Ніла [Гілевіча].

*29 жніўня, серада*

Адразу на пагрузку. Смерць, а не работа з непрывычкі. Грузім-грузім, а ўсё мала. Стамліваешся хутка. Шуфель цяжкі. Тут раптам вецер і штосьці на дождж падобнае. Усе сілы на падгортванне, дакладней, на згортванне ў бурты. Вочы на лоб лезуць. Ды трэба хутчэй – Шушкевіч прыдурваецца. Але вецер нешта раздумаў і пагнаў хмару далей, мо таксама падагнаць і крыху пастрашыць.

Прыязджаў сакратар райкома. Фармаліст. Яму абы было здадзена дзяржаве, а астатняе хоць трава не расці. Сказаў, што назначаны прэміі. Абяцаў аўтапагрузчык.

Прыехаў армянін Сяргей. За абедам – жываты надарвалі. Як ён маёра навучыў замест "добрай раніцы" па-армянску матам кроіць. Жэньку гаварыў: пазнаём з "хороший дэвушка, дакументально женюсь". Пасля абеду яшчэ машын 6 армян. Главар вылез і з паўгадзіны трос руку Жэню. "Армянскага народа прывет вам. Прыбілі ў ваша распаражэнія". Армяне засталіся без вячэры – на іх не варылі. Да 2-х гадзін ночы грузілі. Я, Валодзя, Валодзя і Гена. Вазіў зямляк Валодзі. Я

[1] Баббат – бабскі батальён.

навучыўся: “Лав-лав[1]”, [...]. Айвазян з імі дае па-свойму. Рускую слаба ведаюць. Аднаму крычаць: “Задний свет”, а ён – узад, дык чуць не задушыў салдата.

Айвазян з Валодзем разгаварыліся пра садаводства. Яблыні, ім пасаджаныя, ужо пладаносяць. Нагрузілі 7 машын.

Прыйшоў – нельга заснуць. Усё машына-машына, пшаніца-пшаніца, грузім. Кашмар.

*30 жніўня, чацвер*

Раніцой усе косці ныюць. Адразу грузіць. Грузім. Грузім. Сашку Жэня ставіць з дзяўчатамі. Тут ён стараецца. Прывезлі аўтапагрузчык. Паўдня ладзілі. Троху за дарогу паламаўся. (Дарэмна толькі на дырэктара напалі.) Сталы – у абед прыйшлі – абабіты цыратай. Так культурна. Ды вецер як хапіў, як сыпнуў пылу. Усё на зямлі. Счысціў стол.

Пасля грузілі да 6-ці гадзін. З 6-ці да 9-ці адпачынак, пасля ў начную змену. Спявалі з Сярогам. З Badim [Вадзімам] працавалі да 4-х гадзін.

*31 жніўня, пятніца*

Спаў да 10-ці. Сняданне. Палаеўся з нашай кокшай Тасяй. Затым зарыўся да 12-ці гадзін. Прыйшлі там з Badim., перагарнулі вялікую кучу. Пачала гарэць. Грузілі, грузілі. Армяне даюць заяўку “кіч[2] марач, кіч маэт”. Цікава, як я ўчора крычаў “кіч маэт”, гэта рускаму. У нас прарыў. Заўтра падаваць зводку.

*1 верасня, субота*

Вучэбны год пачаўся сёння. Прачхнуўся ў палове 7-й. Віншуем адзін аднаго з пачаткам навучальнага года. Нашы калегі недзе пераварачваюцца на другі бок. Ну, а ў нас “на собранию” і на працу. Нагружаем. Астачарцела. Спрачаўся з Ж. наконт кухні. Абед адна капуста і чай халодны. Валя [кухарка] лянуецца. Хлопцы прапануюць у гонар пачатку навучальнага года павешаць на турніку сабаку замбрыга і яго для сіметрыі. Вечарам у нас “священное омовение”. Ліда памыла простыні і загадала ўсім памыць ногі і саміх сябе.

Цікавы эпізод, як Айвазян лавіў Дзедавых гусей, палічыўшы іх за дзікіх. Прыжок. Рукі ўперад і ногі ўверх разам з земляком. Дзень быў вельмі пагодлівы, сапраўды святочны.

*2 верасня, нядзеля*

Праца з прахалодцай. Разгарнулі некалькі буртоў. Раптам дождж. Зноў згортвалі ўдарнымі тэмпамі. Дождж сціх, зноў-такі раўгортваем. Нагрузілі адну машыну. Тут наш “балшой началнык” даў прапанову працаваць усю ноч. Прапанова была падтрымана. Мы атрымалі адпачынак у аб’ёме 2 гадзін з хвосцікам. Падмацаваліся і да гаргата [агрэгата]. Нас было 4-х і 2 салдаты. Працаваць пачалі з невялікай памехай. Самі заводзілі і сапсавалі перадачу. Наладзілі. Тут дождж-махляр рашыў выпрабаваць нашы нервы і нашу гатоўнасць. Але мы былі ўпартымі ў сваім намеры змагацца за адпраўку зерня дзяржаве. “Балшой началнык” падбадзёрыў нас на подзвігі ратныя. Спачатку, пакуль успрытніліся, пеклам была праца на машыне. Адгортваць назад. Зерне сячэ, як шрапнель, ад пылу затыхаемся, як рыбы пад лёдам, бо ў пшаніцы шмат пяску. Затым успрытніліся ставіць машыну бокам. Wadim як гаркне начальніцкім голасам, дык шафёр ставіць машыну як трэба. Мы гаворым, што ты, Wadim, доўгі час, відаць, быў на кіруючых пасадах. Шафёры не спалі ўжо некалькі сутак.

---

[1] Лав-лав – добра-добра (*арм.*).

[2] Кіч – трохі (*арм.*).

Спяць на хаду. Падгоніць машыну. Крычым: “Пад’язджай бліжэй!” – спіць. W. са свістком як свісне – ачхнецца. Мы жартуем, што аўтаінспекцыі баіцца. Бензіну два разы не хапала. Мой напарнік дрэмле. Я яго палічыў за сярэднеазіятца, аж ён украінскі яўрэй.

Мусіць, зямля прыцягвае, як магніт жалеза. Павекі здаюцца пудовымі. Як прыляжаш на хвілінку – так бы і не падымаўся, так бы і паспаў. Ды трэба грузіць. Машына за машынай. Наш зямляк дае тэмпу.

Сузор’яў было шмат. Паступова меней, меней. Усплыў месяц, маладзік, дакладней. Як бы прыўзняў брыво, дзівячыся, што мы так позна працуем. Затым Венера, дачушка сонца. Прамяністая, ласкавая. Прамяніцца чысцінёй, прыгажосцю, цнатлівасцю. А мы працуем. Нарэшце неба заружавела. Ачысцілася на ўсходзе ад хмар. Нібы мастак прабуе фарбы, каб намаляваць карціну нараджэння дня. І вось правёў рашаючы штрых. Нарэшце і сонца адкрыла вока і, здзіўляючыся, адкрыла вочы ад здзіўлення, што мы працавалі з таго часу, як яно зайшло.

Залез на машыну і пачаў драмаць, і тут як скрыгне аўтапагрузчык, дык я як падскочыў, хлопцы за бакі браліся. І вось пачалі з палаткі прыходзіць. Алік і Wadim займаліся фіззарадкай. Смехатура. І вось нас змянілі. Я чорны як качагар. Хлопцам весела.

*3 верасня, панядзелак*

Леглі спаць а гадзіне 10-й. У абед ачхнуліся. Крык. Гам. Выходзіць, пайшоў дождж, і прыйшлі заядлыя карцёжнікі, і толькі і чуеш: “Вася, туз! Алік – заход. Пагоны” і т. д. Ажно злосць бярэ. Раз паднялі, ужо не заснеш. Пайшлі абедаць. Халадзіна – жах. Каша бульбяная настолькі халодная, што як лёд растае ў роце. Пасля гэтай кашы пачало балець горла. Прама двайная асалода: з’еў кашы і з’еў марожанага. Ажно Мінск успомніўся. З Ж. паехалі разгрузілі машыну Вай-Вая (армянін, яго ўсе завуць Вай-Вай, таму што гэта яго прымаўка. Па-армянску ой-ой). Пасля паехалі да камбайна. Пшаніца семянная, тучная. Набрынялая сілай. Хіліць галаў долу. Прыгожа сонца заходзіць.

Прыехалі – дома госці з 4-й брыгады – [Косця] Цыбулька і Валодзя. Іхняя брыгада ўзяла сцяг. Дзяўчаты перад гэтым сасунком лістам, ну ён і расхрабрыўся: “Мы! Мы!” У іхняй брыгадзе хлопцы пазакалымлівалі больш чым па 1000 р. Нашыя абураюцца. Значыць, ёсць камсамольскае сумненне. А гэта добра.

Пасля абеду (ледзь не забыўся) былі ў салдат-шафёраў у палатцы. Пірагоў круціў пласцінкі. Прыйшлі камбайнёры Ахат і яшчэ адзін малдаванін: ад дажджу хаваліся. Разгаварыліся з малдаванінам. Малады, з 36-га, сёлета пойдзе ў армію. Я гавару: “А дадому заедзешся?” Ён неяк замяўся. А чаго, кажа. Потым я даведаўся, што ён з дзетдома. Ён прыехаў самы першы. Увесь саўгас складаўся з 2-х вагончыкаў (жыло начальства) і некалькі палатак (для камбайнёраў і трактарыстаў). Усе, з кім ён прыехаў, уцяклі. Адзін ён застаўся. Колькі ў нас харошых, чыстых людзей. Сапраўдныя камсамольцы! Іменна такія толькі амаль сярод людзей працы. Твар некалькі (нямнога) кранала брытва. Роўна паголеныя скроні. Невялікі прамы нос. Чорныя, крыху ламаныя валасы. Замасленая спяцоўка. Вось яны – пакарыцелі цаліны. Такія людзі і Антарктыду ў квітнеючы сад ператвораць.

Пірагоў, на выгляд пажылы, круціць пласцінкі. Відаць, успамінае дом, каханую (ці каханых). Узлаваўся нечага і гаворыць: “Эх, каб кавалак атама, падпаліў бы дый кінуў”. Вясёлы хлопец.

Вечарам частка паехала ў кіно. Я застаўся дома. Патанцаваў крыху з шэфшай. Без натхнення. Страшэнна хацелася спаць, і я пайшоў.

*** “Старажылы-цаліннікі”, хоць пражылі яны ўсяго 2 гады і ўсяго-наўсяго разменялі толькі трэці дзясятак.

## Старажылы

Хоць тут іх стаж жыхарства небагаты,
Пайшоў вось толькі трэці год з вясны,
І стаж жыцця – ўсяго другі дзясятак, –
Завуцца старажыламі яны.

Прыехалі яны не дзеля славы,
Не за даўгім рублём у гэты край.
Мароз не стрэў іх ветласцю ласкавай,
Паліла сонца – з скуры вылезай.

Жартуюць пра той час:
– Зімой палатка,
Ну не палатка – сочынскі курорт.
Буржуйку як напаліш даастатку –
Буржуйскі, калі ласка, вам камфорт.

Дабавяць, што рашылі запусціцца
Вусамі, каб салідней выглядаць,
Ды ў прыпар не было калі ім брыцца,
Пра сон прыйшлося нават забываць.

Вось павучыцца ў гэтых слаўных хлопцаў
І скромнасці, і ўменню працаваць
Не шкодзіла б заядлым тым прамоўцам,
Што век з трыбун гатовы не злязаць.

Застацца ў старажылах не захочуць,
Няўрымсныя, яны і ў сто гадоў
І кажуць: "З гэтай цалінай пакончым
І станем навасельцамі ізноў.

Ізноў пратоптваць першыя сцяжынкі,
Каб праляглі дарогамі яны.
І зноўку навасельцамі мы станем, –
На Марсе ж яшчэ столькі цаліны!"

*9 кастрычніка 1956*

*4 верасня, аўторак*

Пайшоў на ток. У руку хворую стала халодна. Пайшоў закутаў цяплей. Нагрузіў 3 машыны. Тут Сашка прапанаваў мне ехаць на валакушах цягаць салому. Паехаў. У трактары так тарахціць. Пакуль прывыкнеш – без галавы застанешся. Работа па блату. Зачэпіш, 5 мінут пастаіш на валакушы (каб уверх не скочыла), а тады сядай на салому і загарай. З намі ехаў латыш Кондрат. Пылу хоць адбаўляй. Адну гару прыцягнулі і на абед.

Пасля абеду зноў туды ехаў, упраўляў рычагамі. Толя даў мне заехаць. Даў круг і пад'язджаю. Кручу ўбок. Слаба. Еду прама. Скорасць 5-я. На валакушу. Валакуша ў шматкі. Ледзь так-сяк звязалі. Разгубіўся. Жартуюць: "Цаліна ўсё спіша". Я парадкам разгубіўся, што не мог спыніць. Толя дапамагаў. Пакуль пачынілі валакушу – пальцы таксама парадкам падчыніў – пакалоў і крывавыя

мазалі нагнаў. Так-сяк зачапілі куч 15 і пацягнулі. У дарозе ў Толі трактар сапсаваўся – пачынялі. Заводзіцца трактар цікава – з дапамогай матузка. Пакуль завялі – замерз здорава.

Прыехалі. Трэ ісці ў начную змену працаваць. Гэта, відаць, апошняя штурмавая ноч цалінная. Пад'елі і прылеглі на хвілінку. Ісці не хочацца неяк. Слухаем, калі загудзе агрэгат. Нарэшце выйшлі. Ж. паставіў мяне да Капусціна. Ездзілі да камбайна Дзерыбаса. Грыша-трактарыст і Дзерыбас былі галодныя. Мы з Віктарам прыехалі – Валі не знайшлі, Аня нічога не ведае. Паехалі на ток. Улавілі Дзіда. Дзід зрабіў прачыстку Валі. Паехала з намі. Цікава, як елі яны пры святле фар. Чай халодны, суп не суп, а распраюшачка. Пакуль бункер напоўніўся, мы з Віцем крыху падрамалі, так гадзінкі на паўтары. А другі раз заснулі таксама не меней. Глядзім – дзе агрэгат? Няма. Праехалі круг, аж ён, выявілася, стаяў ззадзі нас. Віктар дапамагаў разгружаць машыну. Пад канец Ж. сеў з намі, паагітавалі агрэгатцаў ехаць дадому спаць. Самі паставілі машыну і задрамалі па-волатаўску. Едзем на ток – рогат-хохат. Крычаць: "Віват пажарнікам!" Яшчэ троху пазгружаў і дадому.

*5 верасня, серада*

Частку гэтага дня я апісаў 4-га, фактычна. Частку дня спаў. Частку валяўся ў пасцелі. Перад тым як легчы, прыйшлося дапамагчы заліць бочкі. Замачыў і змаразіў руку. Затое па вадзіцелю бензавоза даў магутны струмень (ён якраз быў у кажуху). У абед прыехаў Жора, прывёз бульбы і буракоў. Абяцаў яшчэ і цяляці прывезці. Гаварыў: "Заходжу ў дом, нікога. На двары карова і цялё. Тут я пашкадаваў – чаму я не такі моцны, каб зграбці ў ахапку карову і кінуць у машыну".

Вечарам таксама на прарыў. Каля агрэгата. Пагрузілі 21 машыну. Шафёры ўцякалі. Мне агрэгат на нагу крыху настапіў і нават прабачэння не папрасіў. За матарыста быў Айвазян. Прыйшлі дадому. Ніна знайшла недзе скарынкі хлеба, елі з цыбуляй. Разглядалі Rysikawy фота.

*6 верасня, чацвер*

З зернем пакончана. Засталося падмесці ток. Паехалі з Wadim. па венікі. Кіламетраў 7 ад брыгады. Салома абапал дарогі, як дарагая залатая атарочка. Венікі ні з чаго іншага, як з ніцай лазы[1]. Такая ж самая, як наша беларуская. Расце ў нейкай лагчыне, у цэнтры асака. Таксама і шыпшына[2] ёсць. Звязалі 8 венікаў. Невялічкі сон. Дзяўчаты мятуць ток. Пасля абеду ўсіх на ток. Працаваць не хочацца, як такая работа нязначная і маленькая.

Паехалі з вянком на Цэнтральную, так сказаць, са справаздачай да дырэктара. Абяцаў быка, бульбы, памідораў і грошай на "сабантуй" у нядзелю. Там адзін цаліннік набраўся як май груш (відаць, атрымаў выплатку).

Зайшлі да Бабосава. Дома іх не было. Быў Яўменаў з вусамі, як Пугачова галава стрыжаная, сам зялёны салажонак, анекдот. Паедзем мы 17-га. Чэчко таксама там. Фіра бегала да ўрача. Затрымала машыну. Механізатары маладыя. Любата. У дарозе назад нас дагнала Кукла (замзама).

Дома ўрачыстасць. Падагналі камбайн. Светла. Выступае Дзід. Чытае лепшых камбайнёраў і трактарыстаў, віншуе іх, дзяўчаты паднеслі букеты з стэпавых кветак. Дзіду вянок пшанічны на галаву. Rysiku і Ж. адзін на 2 галавы. Аднаму салдату не хапіла. Пасля танцы. Вечар надзіва расцудоўны выдаўся. Клуб на дварэ. Камбайн іграў туш пераможцам. Танцы пад акардэон. Танцаваў з Тасяй з натхненнем. (Каму жоўты колер у букет?)

---

[1] Гл.: "І венікамі з лозаў ніцых..." (1957) // Маладзік над стэпам. Мн., 1959. С. 24.
[2] Гл.: Шыпшына (10.08.73) // Свята пчалы. Мн., 1975. С. 322.

## Шыпшына

На перапынак выбег клас,
Гудзе, як быццам рой пчаліны.
Ты зноў вярнула мне той час
На міг, казахская шыпшына.

Адзін другому за каўнер
Кладзем паболей мы шыпшыны.
Ды толькі вочы у мяне
Глядзяць у бок адной дзяўчыны.

Ад яе, любай, уцякаць
Я, помню, не імкнуўся вельмі.
Мне шчодрая кладзе рука
Спаўна казытлівага зелля.

Ну і прыходзіцца тады
Усе урокі церабіцца.
Мільгнулі знічкамі гады.
Яна даўно не вучаніца.

Яна ўжо маці. Зараз ёй
Другі навекі стаў адзіным.
Але на шыі на маёй
Ўсё тая шчыпліцца шыпшына.

*6 лістапада 1956*

*7 верасня, пятніца*

Дні цудоўныя, дні беспрацоўныя! Адпачываем. Хто спіць, хто ў карты, хто чытае. Пасля ўсіх штурмавых дзянькоў і начэй можна і адпачыць крыху, пажыраваць (шкада, што няма дужа на чым разагнацца). Закончыў верш пра шпака. Мне асабіста падабаецца, не ведаю, як будзе падабацца грамадскасці, а ў першую чаргу “редакторам мающимся”.

Ляжаў на стагу саломы (на тым, што прывалаклі валакушай). Чую гам. Пабег. Прыехаў Рожын і Барбосаў [Бабосаў]. Едзем 17-га. Ж. [Клімаў] будзе старшым вагона. Па мне хоць прэм'ер-міністрам.

Адвячоркам салдаты прынеслі акардэон у палатку. Спявалі. Без “Глухарей”, канешне, не абышлося. Прыехала джэтыгарынская “дэлегацыя” ў складзе Сашы і Ж., прывезлі 13 паўлітраў “Вермуту”. Паехалі ў палатку да шафёраў. Меры маскіроўкі. Хлеб. Бляшанка кансервы. Капусцін віначэрпіем і тамадой, адразу дзве пасады па сумясціцельству. Выйшла па дзве конаўкі алюмініевых салдацкіх з гакам. Тосты былі кароткімі: “Будзь жыў, будзь здароў” ці гэтыя ж самыя ў множным ліку. Салдатам рэдка прыходзіцца.

Пасля ўрачыстай часткі – мастацкая, а іменна: танцы! Ішлі з Антанасам (літовец), разумны хлопец, на гражданцы работаў памочнікам начальніка пошты. Мельнікаў ass. На “танцпляцоўцы” ажыўленне. Жора прывёз барана (недзе спёр) і танцаваў з ім факстрот. Я круціў як шалёны з Тасяй. У антракце абмеркаванне, каму значок цаліннніка. Спрэчкі, хлопцы супраць Ніны, я супраць Фіры. Але ім далі. Пасля зноў танцы і нарэшце сон. Лёг нераспранутым. У поўнач ачхнуўся, замерз як цюцька.

Ледзь не забыўся самага галоўнага. Далі разлік да 25 числа. Мне 86 р. Каму

па 200, каму каля 200. Ну, мне як пажарніку, жартуюць, аклад. Цікава, што ўсім пажарнікам меней, чым простым смертным. Маслоўскі не запісаў нікуды, што хварэў, выйшаў філонам. Нічога, бывае і горш.

*** "Пад мухай", а што калі "пад сланом"? – задушыць.

*8 верасня, субота*

Заўтра сабантуй. Раніцай такі холад. Спалі ўтраіх – я амаль голы. Wadim жартуе: як Праметэй прыкаваны. Ніна ляжыць улогам. Нават есці не ўстае. Крытыка падзейнічала ўбійственна. Жартуюць, што будзе вынас цела.

Прыйшла пошта. R. [Рычарду] ліст ад [Ніны] Брыт. У [ Тамары] Барбачовай сынок 4 кг 250 г. Не спяць людзі ў шапку.

Пасля абеду частка паехала па правізію. Мы счышчалі ток. Выстаўлялі з Алай адзнакі. Памерці можна ад смеху. Прывезлі капусту, бульбу, і зялёныя памідоры, і кроп. Як дыхнула кропам, дык так прыемна, так міла зрабілася. Успомніўся дом, восень беларуская. Маці соліць агуркі. Кладзе кроп. Так прыемна, як усё роўна дома пабываў.

У пісьме напісаў хтосьці, што Хмынц. і Неч. і Ларчанка разводзяцца. Ала насмяшыла. Гаворыць, што ён у музыцы разбіраецца тонка. (Мо хто-небудзь сімфонію на талерках і місках сыграе хараша.)

Вечарам абмяркоўвалі выкладчыкаў, спрэчкі аб тым, што трэба ўвесці прадмет гісторыя музыкі. Тася з намі была. Затым карты. Дзід гуляў (дарэчы, ён ўжо не Дзід, а салажанё: пагаліўся. Шпанё, і годзе).

Прыехала джэтыгарынская "дэлегацыя". Заданне не выканалі. 20 бутэлек віна і розных цапетрыкаў. 400 руб. усміхнуліся. Вельмі дрэнна.

*9 верасня, нядзеля*

Ранак найцудоўнейшы. Пайшлі замест фіззарадкі пагрузіць з машыны на 63-ці раз'езд. Жора прыехаў без барана. Салдаты пастроены і нешта разам раўкаюць. Сёння дзень танкіста. Станцавалі з Сашкам факстрот. Жэнька паехаў па "ваду жыцця". На кухні песні і ажыўленне, прыгатаванне да сабантуя. Выдзяляецца і смех, і голас Тасі. Ляжу на стагу, згрузіўшы 2 машыны просы, як вада. Куча ляжыць, як каша ў місцы – дабаў масла, і прыемнага апетыту. На кухні такое ажыўленне, такое бурлівае жыццё. Дзяўчаты з адчаем льюць салярку. З комінаў дым, як з паравоза. Салдат рэжа на нейкай рыпаўцы, а дакладней, на так называемым гармоні. Пад музыку чысціцца бульба, распранаецца, бедная, дагала і ва ўсіх на вачах кідаецца ў кацёл. Пад музыку сячэцца мяса, бычына па даных контрразведкі свежая (была 2 дні таму назад). Ажыўленне, гоман, трэба падліўку ладзіць, ніхто толкам не можа ды плюс да ўсяго трэ поснае масла (хаця і без поснага масла, відаць, атрымаецца на посным масле ерунда). Дзяўчаты крычаць, што пераработаліся. Адны, моў, працуюць, а другія ляжаць. Памытыя паўлітровыя слоікі, цалінныя чарачкі (колькасцю штук 70), як

> Готовые к бою орудия стоят,
> На солнце зловеще блистая.

Сапраўды "зловеще", так і просяцца, каб іх напоўніў і прыгубіў, і згадзісся з лацінскай прыказкай: veris in vino[1]. Мы з Сашкам як запраўскія мяснікі сячэм мяса, ужо мною ўпамянутае.

Прыехаў Барбосаў, паказаўся, што ён ёсць, і, канешне, сваім прыездам намякнуў на тое, каб яго запрасілі яшчэ раз (прыемна ўсё-ткі, як цябе просяць, прыемна ўсё-ткі чуць, што без цябе і сонца свяціць не будзе, хоць на самай справе ты

[1] Дакладней: In vino veritas (*лац.*) – ісціна ў віне.

пятая лапа вядома ў каго). Паехаў у 4-ю брыгаду штосьці пагадняць, узгадняць, уладжваць. (Масы без правадыра авечкі сонць.)

На валейбольнай пляцоўцы салдаты гуляюць, ну, канешне, не ў футбол і баскет, а ў валейбол. Тут ўжо меладычныя гукі выкрыквае акардэон. У палатцы таксама ўсе занятыя сваёй справай. Хто голіцца, а хто паспеў ужо гэтую аперацыю, спырсквае наружнасць адэкалонам ці духамі (хто чым багат), а хто выцягнуў чысцейшую кашулю і выпускае наверх каўнер па студэнцкай звычцы.

Сашка мяне голіць. Дзід жартуе. Дзяўчаты таксама прылюджваюцца (і пень прыбяры – прыгож будзе). Усё ідзе такім шурам-бурам. Сонца ніжэй і ніжэй: надакучыла свяціць і спяшае адпачыць, можа, і яго чакае сабантуй, а можа, што іншае, як сказаць, ніхто ж на прыёме ў сонца не быў, хіба што яно было на прыёме ў Маякоўскага.

Вось пачынае з'язджацца і начальства. Падкаціў "казёл", і з яго выкаціўся аграном з вывадкам: сын (пражыў на свеце год з гакам), агранома(ша) – сімпатычная жанчына. Сустракаць, канешне, выйшла грамадскасць. Завялі ў палатку шаноўнае сямейства і акружылі цеплынёй і клопатам. Наследніка ўзяліся забаўляць дзяўчаты (заўсёды добраахвотныя сёстры міласэрдзя). Колькі ў іх ласкі да дзяцей. На агранома(шу) глядзяць неяк з зайздрасцю, "как на преуспевшую в деле этом".

А сонца ніжэй і ніжэй. А Ж. з aquavita'й усё няма і няма. Пачынаюць людзі крыху хвалявацца. Настрой паступова са становішча ў "самым зеніце" падае да становішча "нармальны" і з кожнай гадзінай усё ніжэй і ніжэй нармальнага, як градуснік па меры наступлення вечара. Хто ходзіць прыфранчоны (галовы падстрыжаны, скроні падведзены, у каго, як стрэлы вострыя, у каго тупыя (па форме, ці, дакладней, па змесціву галавы). Дзяўчатам, як звычайна, на туалет колькі часу ні дай – усё будзе мала, точна як студэнту на падрыхтоўку (чым болей часу – тым меней часу).

А сонца ўсё ніжэй і ніжэй. І нарэшце, у хмарах пылу, на тэрыторыю брыгады ўлятае машына. Vivat aquavita![1] Vivat добрыя экспедытары! Сабантуй будзе! Машыну акружылі, як у песні пяецца, "шумной толпой". І вось скрынка з самым галоўным (ад яго, фактычна, і залежыць: быць ці не быць урачыстасці). Акуратна, асцярожна, як нованароджаны бацькам, нясецца ў палатку.

Падцягнуты камбайн, ад яго праводзіцца праводка ў палатку. Вешаецца фара, убок наводзіцца, і адбітае святло асвятляе ўсю палатку. Удабавак вешаецца лямпа. Асвятленне ёсць.

Госці яшчэ прыбываюць. Сонца паэзіі Аляксандр Харкевіч і суправаджаючыя яго целаахоўнікі.

Сталы (дарэчы, што яны сабой уяўляюць: пастаўлены паралельна скамейка, скрыня і яшчэ нешта ў гэтым родзе, наверх перпендыкулярна гэтым рэчам і паралельна самім сабе жалезныя рэйкі, паверх рэек чамаданы; на чамаданы, як святочныя абрусы, засланы прастыні з "жалезнай заслоны") пачынаюць запаўняцца тым прыемным, што называецца і лірычна, і празаічна, і эпічна адначасова, што называецца "закускай". Зялёная вуліца першым чынам, канешне, хлебу. За хлебам пайшлі бляшанкі рыбнай кансервы, селядцы, пасечаныя на кавалачкі і аздобленыя цыбуляй, затым вінегрэт ("шаснаццаць рэспублік", як яго ахрысцілі), сапраўды смачная і шмат чаго вартая рэч.

Вось і віноўніцы сабантуя – зладзейка з наклейкай – на стале. Пачалі рассаджваць гасцей. Галоўных гасцей наперад, перад гэты быў ў самым парозе. Харкевічам заторкнулі самы ўваход, каб пазбегчы скавышу, і добра, што прыпёрся, а то госці маглі прастудзіцца. Астатнія члены размясціліся, хто дзе змог. На ложках у 2 рады, 2-гі рад за спінамі, і сядзелі на тым, на чым і туркі, і кітайцы сядзяць.

[1] Vivat aqua vita! – Няхай жыве вада жыцця! *(лац.)*

Дзід “пару гарачых слоў ляпнуў”. Ну, і пачалася барацьба з алкаголем, якая, дарэчы, скончылася вельмі хутка, бо праціўнік быў ураз знішчан. Я сядзеў з шэфшай і Нінай.

Пайшлі на танцы, якія адбываліся на валейбольнай пляцоўцы. Танцоры часта выходзілі за аўтапагрузчык.

Завязалася маленькая патасовачка: Рожын штурхнуў Федзю, і той з поўабароту завёўся. Ледзь уціхамірылі. Тася з Бабосавым і яшчэ з нейкім асам. Лёг спаць. Прачхнуўся – бачу: знішчаюць кашу бульбяную, ці, выражаючыся навуковай мовай, – пюрэ і “пятнаццаць рэспублік”. Ну, і я прыняў удзел у гэтай банальнай аперацыі. Пры страшэнным холадзе заснулі.

*10 верасня, панядзелак*

Настрой паслясабантуйны. Выпіць бы па цаліннай чарачцы, ды няма. На “сталах”, як на полі бітвы. Бутэлькі пустыя валяюцца. Ва ўсіх крыху прымятыя твары. У дзяўчат бурнае абмеркаванне вядома чаго. Я ўспамінаў многае, у тым ліку і земляка з Баравухі-першай, капітана: “П’ян, как афіцэр”.

“На собранию” было тое самае пюрэ і чай злы (відаць, кухары злыя з учарашняга чагосьці). Нагружалі машыну. Прыехаў Жора і прывёз дзяўчатам цэлае кола прыколак: можна скалоць увесь валасяны пакроў. Пакуль ён раздаваў гэтыя прычандалы, Ж. спуліў кавун, спелы-спелы. Агледзеўся Жора і ўзняў вэрхал: “Шакалі, отдай арбуз! Уб’ю!” Тут пачалі з ім спрачацца механізатары. Ледзь утаймавалі яго. Як ад’ехаўся, мы гэты кавун і паслалі па прызначэнню.

Сёння ад’язджаюць і шафёры, і салдаты. Развітанні. Фатаграфаваўся ў пілотцы з Піраговым і з Валодзем. Пірагоў смяшыць: “Маленькую ўсмешку на 34 зубы”. Затым фатаграфаваліся ўсім брацтвам на машыне і на камбайне. Гена даў мне гімнасцёркі.

Сёння дзякуючы ўчарашняй намерваючайся патасоўцы знайшоўся мой нож (раскладзены, падрыхтаваны да ўжывання. Яго да гэтага бачылі ў Мушынскага).

Пасля абеду забраўся ў салому і заснуў. Ачхнуўся – валасы да галавы, здаецца, прымярзаюць, над галавой зоркі. Папёрся ў палатку, ног пад сабой не чуючы. Там пуста, Вадзім і Ала і Люся [Шалай] з Лёвам фотакарткі разглядаюць, пад столлю ліхтарык падвешаўшы. Усцягнуў, успяліў на сябе, што ўзлезла, і пабег да салдат: здалёк заўважыў bonfire[1] (сёння ж увесь дзень дзяўчаты на, так сказаць, развітальных танцах).

Палаткі разабраны. Паляць салому. Дзід балагурыць, што 10 год качагарам на самалёце быў. Тушыць капялюшам агонь. Палатнянага гарадка як і не было. Каля агня хораша сядзець. Трохі паддымлівае, трохі падпякае. Спяваем, балагурым. “Прагрэс” змяняецца “I love you”[2]. Машына падышла, узяла частку. Частка са старлеем засталася. Ніна прынесла памідор (праўда, зелянюсенькіх) і хлеба, солі. Салдаты падмацаваліся. Старлей пасля іх.

Днём іду – палаткі няма, толькі салома. Дома салдацкага як і не было. Салдат дрэмле на рэчавым мяшку на сваім. Куды яму яшчэ прыйдзецца перабірацца, дзе яшчэ яму прыйдзецца і сабіраць, і разбіраць палаткі?

Мы не вытрымалі, пайшлі спаць, частка нашых засталася. Па дарозе з Дзідам смяшылі адзін аднаго. Спаць холадна, леглі апранутымі, папярэдне спёршы чыюсьці фуфайку і накрыліся ёй ў дадатак да 3-х коўдраў.

*11 верасня, аўторак*

Дні цудоўныя, дні беспрацоўныя. Карты павешалі пагоны да туза, а пасля яшчэ і даму на нос (нічога, мой нос не гэта вытрымае).

---

[1] Bonfire – вогнішча (*англ.*).

[2] I love you – я кахаю цябе (*англ.*).

Вечарам ганяем футбол. Шуша [Шушкевіч] і тут лянуецца іншы раз трухнуць. Загналі [мяч] ў памыйніцу. Ж. лазіў, ледзь не завяз. Дасталі.

Вечарам, дакладней, ноччу пайшлі пагрузіць машыну. У 4-й брыгадзе паляць салому. Любата адна. Як агні святочнага горада, як ілюмінацыя на "варотах Мінска"[1]. Пераліваюцца, зіхацяць.

*12 верасня, серада*

Марасіць. Хацелі нас сагітаваць ехаць капаць бульбу. На агітацыю не паддаліся. Паехалі за аўтапагрузчыкам, у Багданаўку, або ў калгас імя Шаўчэнкі. Гэта мясцовасць абжытая. Штук пяць дрэў ёсць нават. Хаты, вуліцы, хаця і брудныя. Пакуль ехалі, замерзлі страшэнна. Дождж прама як іголкамі прашывае. Зашлі на пошту, закрыта. У кантору пайшоў Дзід. Пайшлі ў магазін. Wadim купіў чамаданчык, я пячэнне, і то на пазычаныя грошы (з сабой не ўзяў). Віна не дасталі. Бочка ёсць, ды не дае, а дома ў мага ў гэтага літр. Маг смешны, сам тавар ганіць. Каўбасу цэлымі кіламетрамі купляюць, хоць і плесневую.

На таку беспарадак. Усё пад дажджом мокне. Наш камсастаў пайшлі хоць літрам пагрэліся ў немцаў. Тут казахі, украінцы, інгушы і немцы. Аўтапагрузчык не хацелі аддаць, напалову паламалі. Не дай – не сусед, аддай – сабе няма. У дзецях казахаў ужо рускія рысы. Бачыў школьнікаў пацаноў. Адна казашка мілавідная.

Назад з пагрузчыкам. Я гавару Дзіду, што на снег падобны дождж, ён кажа: "Тут снег адразу". На Кастрычніцкае свята (на Цэнтральнай) у яго было: выйшаў у катлаван па ваду. Назад ідзе ў кашулі белай – снег такі, нічога не відаць. У вядры вада кашай і лёдам, на карку лёд. Заблудзіўся, ледзь хату знайшоў.

Прывезлі пагрузілі машыну просы. Вечарам у "лятучцы" паехалі "ў карціну". Як у аўтобусе. Хлопцы балагураць. Анекдот пра Шаўчэнку: "Калі б замест гэтага ліхтара павешалі расійскага цара, о то б было дзіва!"

Пад'ехалі пад Цэнтральную, святло выключылі. У ёй ["лятучцы"] не дазваляюць вазіць людзей. На 3-ю частку "Рашаючых мінут" прыехалі. Духата, цесната, толькі зверху відаць, фільм не дубліраван. Напісанага не прачытаеш, на нейкай славянскай мове, зразумеў 3 словы, хутка гавораць. Бачыў ножкі дзіцяці. Фільм пра партызан. Скарэй за ўсё югаслаўскі.

Назад кантрабандай дабраліся зноў у "лятучцы", з ціскамі і напільнікамі. Дзяўчаты паднялі вэрхал пры пасадцы. Цэнтральная ўжо электрыфікавана. Злавілі салдата: краў запчасці. Цаліннікі ўпэўнены, што скора горадам стане Цэнтральная. Разлік не даюць, каб на зіму не раз'ехаліся. А так на зіму раз'язджаюцца, а к вясне зноў сюды. (Ахат 24 лютага.) Наследніка [сынка агранома] неслі з кіно. Наследнік павядзе суджаную па асфальце ў оперны[2].

Вагончыкі на санках служаць для перавозкі і вугалю.

Дадому прыехалі – карцёжнікі да паўсмерці рэжуцца. У 2 гадзіны ночы абудзілі – вешалі Дзіду даму на нос.

[Адрас:] Зінатулін Ахат М. (г. Мензелінск ТатАССР).

*13 верасня, чацвер*

Устаў, усе спалі (праўда, было 9 гадзін). Надвор'е восеньскае, сырое, туманнае, імжыстае. Успамінаецца Беларусь. Бачыў клін гусей. Сказаў, як, бывала, дома маці вучыла: "Пуцём-дарожкай, пуцём-дарожкай". Можа, з Беларусі ляцелі і прывітанне перадавалі. Дома, пэўна, гусі і качкі прынімаюць апошнія ванны: спяшаюцца атрымаць асалоду, пакуль мароз не паспяшаўся. А клён стаіць з парыжэлай ад сонца чупрынай.

---

[1] Цэнтральныя будынкі на прывакзальнай плошчы.

[2] Гл.: Перад пачаткам сеанса (6.12.56) // Маладзік над стэпам. Мн., 1959. С. 12.

Ляжаў у саломе. Прыпякае сонца (пішу) і забыўся, што ідзе дождж. Ледзь не заснуў, добра, што [Косця] Цвірко разбудзіў.

Паехалі на Цэнтральную на прагляд кінакарціны. Ехаць было так, як голаму ў крапіве сядзець. Паставіш нагу, другую няма куды дзяваць, хоць ампутуй. Прыехалі. Дамы́ частка абабіты шыферам, частка так – дошкамі, пераходзяць у новыя дамы – шлёпанкі. У сталоўцы (у магазін нас не пусцілі) мы глядзелі на галодных, як цар на чарвяка. А меню як звычайна з 3-х назваў. Нясуць рысавую кашу, а нам да іх спраў няма. Хай сабе нясуць. Паспявалі ў сталоўцы дзяўчаты свой гімн. Затым на верандзе далі канцэрт. Тут пачалі сабірацца ў кіно. Дзеці нясуць з сабой маленькія скамеечкі, дарослыя – крэслы.

Мы пайшлі да салдат (Вася даў фуфайку) на "Рашаючыя мінуты", я, Ж. і Саша. Крыху запазніліся, прыйшлося пратрухацца бяжком вакол вадакопані. Фільм так сабе. Пры даным матэрыяле можна было зрабіць лепшым. Назад з песняком. Прыехалі. Хлеб з маслам і чай чакаў нас з нецярпеннем (чай гарачыўся, чакаў-чакаў і астыў).

*14 верасня, пятніца*

Нагрузілі машыну смецця-пшаніцы і завезлі ў балота. Пасля пайшоў на кухню качагарам. Ліў салярку. Абліўся як чорт. Гарачыня і дым, як з паравоза. Варым боршч. Рыбак фатаграфуе. Пасля працы палівала Тася, гатоў і заўтра ліць салярку.

Грыша рамантуе трактар і жартуе: "Не люблю іголкай калодзеж рыць". Прыехаў магазін, прыехалі таксама нашы з Цэнтральнай. Сёння вечарам паедзем на сход.

Апошні раз фатаграфаваліся разам і мы, і механізатары. Рыбак чыкнуў нашу старасвецкіх памешчыкаў чэту, як яны пайшлі за ДК у стэп. Koleszanko ходзіць з Генам. Механізатары гуляюць у футбол вельмі добра.

Вечарам на 2-х машынах пагрузіліся і на Цэнтральную. Чуць не была аварыя. Дзякуй Ахату. Ахат начысціў фізіяномію шафёру таму. Сход. Песні да пачатку. Сядзім на дошках. Ажыўленне. Пачалася ўра-частка. Затым давалі прэміі па 100 і па 50 р. (Аграном выступаў блытана. Чалавек справы, а не слова.)

Вымпел уручылі нашай брыгадзе, Дзід атрымаў і ўсміхнуўся ў вус (пабрыты, праўда).

Станцаваў пару танцаў і дадому. Дома настрой чамаданны. Пасля вячэры танцы пад рыпаўку нейкую. Танцавалі не ўсе. Я крыху пагрэўся. Развітанні скрозь.

*15 верасня, субота*

Усталі рана. Ранак маразяны крыху. Шэрань, павуціна, як стужка фініша. На лужынах танюсенькі лядок. Пайшоў узяў мяшэчак пшаніцы на памяць. Пшаніца спіць у буртах. Салома пабелена шэранем.

Схадзіў да механізатараў у вагончык. Спяць яшчэ.

Апошняе "на собранию!". Неяк ужо і не хочацца кідаць усё гэта абжытае. Палатка апусцела. Агаліліся бароны і ложкі. Усё параскідана. Уручылі механізатарам гітару. Нарэшце селі на машыны і арач! Дзід з намі паехаў.

Пакуль далі грошы і сутачныя, прыйшлося выстаяць чэргі доўгія. Нас праводзіць прыехалі механізатары, прыйшлі шафёры. Спрабавалі з Косцем [Цвіркам] намаляваць плакат "Беларусь, ад зямлі Казахстана мы табе прывітанне нясем!" Але з усяго гэтага выйшла на плакаце "Бе" і ні літары далей. Пакуль рабілі гэта, ледзь не спазніліся захапіць рэчаў ядомых. Захапілі таго-сяго, пайшлі з Косцем у сталоўку. Выбілі супы і чай, супу не было. Перавялі ўсё на чай. Выйшла 90 чаёў на 5 чалавек. Ледзь адолелі, пілі і трайныя, і $(\text{трайныя})^3$ [у кубе].

Пакуль хадзілі, ледзь не спазніліся. І нарэшце ад'ехаліся ад гарадка нашага. Механізатары доўга махалі рукамі (гэтыя махі больш адносіліся да дзяўчат). Вось і пачаў хавацца наш невялічкі родны гарадок. Ехаць уладзіўся "дюже погано". Няма куды ног падзець, хоць ты іх у кішэнь лажы.

Джэтыгара здалася нам горадам пасля Цэнтральнай. Беленькая-бялюткая, чысценькія хацінкі.

Пад’язджаючы да Брэд, машыну трэсла як у чорта на рагах. Адно толькі і ведалі, што трымалі чамаданы, каб не бухнулі на матухну-сыру зямлю. Прыехалі ў Брэды. Гразішча – ногі павыламіш. Холад забраўся без усялякага сораму пад плашч. Прывезлі кавуны. Пайшлі браць. Паўмашыны елі да апрацыўлення. Заснуў на кавуне. Нехта далікатна наступіў на “личность”: прыйшлося прачхнуцца.

А вось і прыйшоў эшалон наш. Пакуль я схадзіў на вакзал (брудны, цесны), рэчы ўсе перанеслі. Мне засталося несці кавуны ў сетцы. Ручка ледзь руку не перарэзала. У вагоне цёпла, нават душна. Цэльнаметалічны. Мне давялося спаць на верхатуры на самай, ні павярнуцца, ні падняцца, вузка, нізка, цесна. Пайшлі мыцца ў лужыну. Затым пайшлі па гораду. Купіў кніжку, паперы і шкарпэткі. Памідор есці не змог: язык баліць. Відаць, ад празмернай балбатні. Развітаўся з Дзідам. Умацоўвалі лозунг. Ад’ехалі.

Арэнбург. Парк. ДК. Хлеб. Вагон-лаўка. “Грандъ-отель”.

Урал неапісуемы, шкада, што частку праспаў. Тунэль. Восень. Рэчкі. Дрэвы пафарбаваны восенню. Горы.

Уральск. Wain [віно]. Дума. 47 [чалавек] адсталі. Чакалі. У Яршове. Танцы.

Раніцай Волга. Стальны колер, срэбны, карычневыя адлівы. Шырыня. Цягнуцца лісцёвыя лясы.

У Мічурынску танцаваў паўгадзіны з Верай, яна з коржыкамі.

Лясы і лясы лісцёвыя, кранутыя золатам восені. Прыгажосць. Гусі прымаюць апошнія ванны, хоць і лапы пачырванелі ад холаду.

Нарэшце і Смаленшчына. Елкі, бярозкі.

Орша. Ад Оршы скорымі тэмпамі. У Оршы былі мала. Буханка.

*** У вагоне. За вакном клён выгарнуў апошнія ванны; хто чытае па карце, дзе Беларусь. Адсталі. Чаі са згушчоным малаком, на грудзях значкі. Сонца іграе на значках цалінніка. Апошнія восеньскія прамяні. Канец.

## Вярніся!

Праз лісце змрок сочыцца-цэдзіцца.
Нясмелы, як першыя ласкі.
Над скверыкам сталі Мядзведзіцы
Журбоціць спрадвечныя казкі.

А слухаў жа іх, непаўторныя,
І я ў захмялелыя ночы.
Свяціліся позіркі зорныя,
Смяяліся чорныя вочы.

І сёння пад добрымі зорамі,
Як колісь, адзінкі і пары.
Акуркі ляцяць метэорамі.
Тут сонцу намеснік – ліхтарык.

Скамейка пад ліпай шумліваю,
Дзе чуў я твой голас ласкавы,
Заселена цесна шчаслівымі.
Няма ім ніякае справы
Да суму майго найлірычнага,
Як мне ў незабытыя леты.
А зоры не ўсе яшчэ злічаны.
Вярніся, вясна мая!
Дзе ты?

*1956 (аўтарскі запіс 1 лютага 2003)*

жыццяпіс

Сяргей Шапран



…Валодзя хацеў стаць геолагам, музыкантам, баксёрам, паэтам, астраномам, касманаўтам, радыётэхнікам, але найбольш і найперш ён хацеў стаць стылягам!..

# Уладзімір Някляеў. Незавершаная аўтабіяграфія

***Старонкі новай кнігі***

*...Няма ніводнага паэта, якога б нехта не выдумаў.*
*А калі ніхто паэта не выдумляе, тады ён выдумляе сябе сам.*

**У. Някляеў, «Знакі прыпынку»**

*Не ўсё дарэмна, што дарэмна...*
*Не ўсё брыдота, што ў брыдзе...*
*Па ветры,*
*сушы,*
*па вадзе,*
*Магчыма, нехта патаемна*
*Мяне да нечага вядзе...*

**У. Някляеў, «Не ўсё дарэмна, што дарэмна…»**

## АД АЎТАРА

***Пад самы фінал мінулага стагоддзя, у 1999-м, Уладзімір Някляеў, на той час старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў, раптоўна з'ехаў за мяжу. Нечакана для ўсіх, у тым***

***ліку для мяне, бо, здавалася, на такі ўчынак не павінен быў наважыцца чалавек, што знаходзіўся пры ўладзе і паблізу ўлады, якая ўсяляк дэманстравала сваю да яго прыязнасць, — у такіх выпадках сувязі звычайна ўмацоўваюць, а не рвуць. Ужо тады мяне зацікавіў псіхалагічны складнік гэтага вызначальнага эпізоду біяграфіі Някляева, а праз гэта і ён сам — як асоба.***

***Праз цікаўнасць да асобы ўзнікла цікаўнасць да паэта. І калі праз пяць гадоў вымушанай эміграцыі Някляеў выдаў кнігу "Так" — паэмы з якой, на мой погляд, не назавеш інакш, як толькі геніяльнымі, — ён адразу стаў для мяне ў адзін шэраг найлепшых беларускіх паэтаў, якія былі раней і якія ёсць сёння.***

***У 2011-м Уладзімір Някляеў быў вылучаны на Нобелеўскую прэмію ў галіне літаратуры. Менавіта гэта і стала штуршком для напісання яго "Незавершанай аўтабіяграфіі". Выключна гэта — без аніякай палітычнай заангажаванасці ці іншых падтэкстаў, бо калі існуе, як шмат хто сцвярджае, нейкая дыстанцыя паміж Някляевым-паэтам і Някляевым-празаікам, дык Някляева-літаратара і Някляева-палітыка падзяляе дыстанцыя яшчэ большая. Прынамсі, так яно было і ёсць у маім асабістым уяўленні.***

## УВОДЗІНЫ

«Калі паэт пражывае свой век і памірае, акружаны дзецьмі і ўнукамі, у сваім ложку, дык наўрад ці жыццё ягонае і смерць стануць легендай. Вунь Гётэ, скажуць, няхай і вялікі паэт, але ж колькі жыў!.. Столькі жыць, калі ты паэт, непрыстойна. Ды яшчэ ў дабрабыце, заможна»[1], – так пачынаецца біяграфічны нарыс Уладзіміра Някляева пра Якуба Коласа. І быццам бы ўсё так – і не зусім так, бо гэта не ёсць уся праўда пра лёс паэта. Дакладней, пра легенду, якая прыходзіць (ці не прыходзіць) пад руку са смерцю. Праўда не ўся, таму што легенда пра паэтава жыццё хоць і зрэдчас, але ўсё ж можа прыйсці раней за смерць. Гэта здараецца тады, калі паэт так пражывае год за годам, жыве дзень за днём, нібы стварае, прыдумвае легенду пра самога сябе. «Зрэшты, няма ніводнага паэта, якога б нехта не выдумаў. А калі ніхто паэта не выдумляе, тады ён выдумляе сябе сам»[2], – таксама з Някляева. Ці іншым разам на тую ж тэму: «У нас по сути нет национальной мифологии, я всегда был сторонником и – по возможности – участником мифологических строек, полагая, что пустоты истории лучше всего заполняются мифами»[3].

Шчыра і недвухсэнсоўна.

Уладзімір Някляеў – ствральнік сваёй біяграфіі-легенды. Ён піша яе гэтак жа, як піша вершы, прозу. І хоць наўрад ці ставіць на мэце стварэнне менавіта легенды, але сама асоба і стыль аўтара не дазваляюць збіцца на нешта больш будзённае. Тут ужо сапраўды паэту – паэтава.

«Бо так, як *напісана*, я і жыў. І быць так і таму, як *напісана*, з усёй маёй біяграфіяй, з усім маім жыццём»[4].

## КРЭВА

«Калі 6 чэрвеня 1999 года, у дзень 200-годдзя Аляксандра Пушкіна, апынуўся я за мяжой, аказалася, што ў мяне не зусім акрэслены статус. У Пушкіна – акрэслены, а ў мяне – не. Таму паўстала пытанне пра палітычны прытулак, бо статус палітычнага эмігранта акрэслены цалкам. Гэтак, што ты не можаш зваротна перайсці мяжу, вярнуцца дамоў...

Падціскалі мяне з такім рашэннем, падбівалі да кроку такога і з нашага боку, і з таго. Кожны са сваім інтарэсам – а ў мяне які?..

І з беспрытульнага тлуму ў галаве прыснілася мне, нібы ўрэшце пайшоў-такі я палітычнага прытулку прасіць. Аказаўся ў нейкай казённай польскай

установе, дзе гэты прытулак альбо даюць, альбо не даюць, і злосная на ўсіх “прытульшчыкаў” свету пані раздражнёна зайшлася ненавіснай мне кірмашовай візготкай:

– Як ледзь мы лепей зажылі, так адразу ўсе ў беднае польскае панства паперліся!.. А вам нашто наш прытулак?.. Вы і так паляк, у вас дзядзька ў Польшчы жыве[5]!

Здранцвеўшы, я ўспомніў, што ў мяне яшчэ і бацька рускі, і наогул Бог ведае, хто я, але пачаў даводзіць, што я ўсё ж беларус, хоць у мяне бацька рускі і дзядзька ў Польшчы жыве, ды пані слухаць не стала:

– А скуль мы ведаем!.. Мы на словах нікога не прымаем – пішыце заяву і аўтабіяграфію!.. – І я фізічна запомніў, як у тым сне на нейкім бланку, які мне выдала візготная пані, на ягоных верхніх лінейках чорным па белым напісаў: *“Аўтабіяграфія для прыёму ў беларусы”*.



*З маці Анастасіяй Іванаўнай. Крэва, 1948*

Помню, што лёгка, як заўсёды, пачаў аўтабіяграфію з месца і даты народзінаў, але з тым, што далей пісаць, як выявіцца беларусам так, каб мяне прынялі ў беларусы, – узнікла праблема...»[6]

Так пачне Уладзімір Някляеў у 2004 г. ствараць свой радавод, у якім як радня – і Купала, і Пушкін. Гэтыя ўводзіны ў аўтабіяграфію стануць спачатку аўтарскай прадмовай да кнігі «Так»[7], а потым – першымі старонкамі напісанага ў Хельсінкі эсэ «Цуды ўсе ў адным-адзіным цудзе». Зразумела, у дадзеным выпадку біяграфія пісалася без аніякай канцылярскай мэты: нікуды і нікому канкрэтна. Тым не менш, гэта была ўсё-ткі аўтабіяграфія – і розніца з ранейшымі някляеўскімі спробамі біяграфічнага летапісу тут відавочная. Так, пішучы ў 1978 г. аўтабіяграфію для прыёму ў Саюз пісьменнікаў, ён умясціў сваё крэўска-смаргонскае дзяцінства ў некалькі слоў: «Нарадзіўся 11 ліпеня 1946 года ў г. Смаргоні Гродзенскай вобласці[8]. Скончыўшы 9 класаў, паступіў вучыцца ў Мінскі тэхнікум сувязі...»[9] Але праз чвэрць стагоддзя, каб патлумачыць тое, адкуль ён такі ёсць, Някляеву спатрэбіцца не толькі іншая колькасць слоў, але і іншы ракурс бачання, гістарычная і літаратурная рэтраспекцыі:

«Даўным-даўно адзін з каралёў Брытаніі, састарэўшы і стаміўшыся быць каралём, вырашыў скінуць з плячэй сваіх цяжар улады і падзяліць каралеўства на тры часткі паміж трыма дочкамі, адну з якіх, Кардэлію, у апошні момант абдзяліў. Дзякуючы геніяльным фантазіям Шэкспіра, увесь свет ведае пра тое, што сталася далей...

Значна менш, чым легенда пра ўладара Брытаніі караля Ліра, вядомая свету гісторыя пра ўладара Вялікага Княства Літоўскага Гедзіміна, які, састарэўшы, вырашыў падзяліць паміж сямю сынамі найбагацейшыя гарады сваёй дзяржавы. Двух са сваіх семярых сыноў, у тым ліку Альгерда, вялікі князь абдзяліў.

Па смерці Гедзіміна Альгерд, якому дасталося Крэва[10], рушыў вайной на брата свайго Яўнута, адабраў у яго вялікакняскі, па спадчыне Яўнуту перададзены, вянец – і з дапамогай другога свайго брата, Кейстута, сам стаў вялікім князем. Амаль праз сорак гадоў Кейстут гэтаксама, як дапамог Альгерду, дапаможа стаць вялікім князем і сыну Альгердаву, свайму пляменніку Ягайлу, а Ягайла ў “падзяку” за гэта загадае забіць у Крэве і сына Кейстута, свайго брата стрыечнага Вітаўта, якога ўратуе, выведзе з вязніцы жанчына...

Напал жарсцяў чалавечых, што віравалі ў Крэўскім замку, нікольні не меншы,

чым у трагедыях Шэкспіра. У Крэве стагоддзямі спляталіся, сцягваліся ў вузел заблытаныя шляхі і сцяжыны нашай гісторыі.

Пад рэшткамі замкавых сцен, на руінах нашай гісторыі прайшло маё дзяцінства. Праз гэта, адсюль я – беларус. Нацыянальнасць – не запіс у пашпарце, а мова, гісторыя і культура, да якіх ты належыш. Хоць бацька мой, Пракоп Міхайлавіч Някляеў, родам з Волгі, – ва ўсім рускі чалавек. З неабдымнымі, як прыволжскія стэпы, памкненнямі і стыхійным, так да скону і не ўтаймаваным, характарам. На вайне яго, цяжка параненага і кантужанага, нават закапалі былі ў магілу, але ён і ў магіле выжыў. У 1945 годзе, калі ён адваяваў, яго не адпусцілі на Волгу, а накіравалі ў Заходнюю Беларусь. Тут лёс і звёў яго з маёй маці, так што я ў нейкім сэнсе – вынік вайны, таму і напісаў у адной з першых сваіх паэм: “Сутыкненне нацый і народаў вырашала: быць мне ці не быць?..”[11] Пра тое самае адна з найбольш біяграфічных маіх аповесцяў “Мірон ды Мірон”.

Маці мая, Анастасія Іванаўна Магер[12], вечная працаўніца, ціхая верніца. Калі бацьку я помню з пісталетам у руках, з якога – ледзь што не па ім – пачынаў ён страляць ва ўсе бакі, дык маці – са Святым Пісаннем, з малітваю перад абразом: “Даруй, Божа, пасланаму Табой мужу майму...”

Малілася яна, калі царкву ў Смаргоні зруйнавалі, пад яблыняй, якую называла Царквой. Ва ўсіх дрэў у нашым садзе былі свае імёны...

Так я і вырас, гэтак – паміж пісталетам і абразом – і прайшло дзяцінства. Амаль усё, што мной напісана, адтуль.

Чытаць я навучыўся недзе гадоў у пяць – і не па лемантары, а па Бібліі. Мой дзед Ясь, Іван Маркавіч Магер[13], якога дасюль у Крэве згадваюць, як святога, аслабеў на вочы і ўжо не бачыў літары Святога Пісання. “Цяпер твае вочы будуць маімі”, – сказаў ён аднойчы і стаў вучыць мяне грамаце. Літары ў нас называліся Агрэст, Бульба, Гурок, Карова, Морква, Парэчка, Свіння, Цялушка, Шчаўе, Яблык – яны раслі ў садзе і на гародзе, мыкалі і рохкалі ў хляве. І штовечар я дзеду, заікаючыся і ад няўмення, і ад намагання хоць неяк спасцігнуць тое, што напісана, чытаў: “Слово в начале было у Бога и само было Бог”»[14].

Праўда, многае застанецца па-за межамі і гэтай рэдакцыі аўтабіяграфіі. Напрыклад, такое: «З усяго, што было, згадваюцца найчасцей крэўскія пагоркі, па якіх іду, маленькі, і нанізваю на сцяблінку мятліцы сонейкі суніц»[15]. Ці сведчанні тых, хто ведаў яго ў дзяцінстве і сцвярджаў, што «больш радаснага, ззяючага хлапца яны не сустракалі»[16]. А калі адгартаць каляндар яго жыцця ў самы пачатак, дык вось які першы ўспамін пра сябе самога:

«Мне было около двух лет, когда мой дядька Пётр Иванович уронил меня на каменный порог дедовской избы. Так что я в прямом смысле “головой стукнутый”, что внешне, может, и не очень заметно.

С этого момента я начинаю себя помнить.

Не определю точно когда, но однажды возник во мне к самому себе любопытный вопрос: а где ты был раньше? Где ты был два тёмных года до того дня, как “стукнулся”?

А ведь я был. Осваивал мир, координировался в нём, обретал речь, то есть делал великий и, может быть, воистину гениальный труд, выше которого свершить не дано. И где всё это? Осталось в порожном камне дедовской избы? [...]

Детский вывод, к которому я пришёл, отвечая на вопрос “а где же ты был раньше?”, заключался в следующем:

если я себя не помню, если меня для меня как будто не было, но мне и всем известно, что я был, существовал, значит, точно так же я был, существовал и до своего физического рождения. То есть в прошлом, сказал я себе, небытия нет»[17].

## БАЦЬКА



*Бацька Пракоп Міхайлавіч НЯКЛЯЕЎ. 1944 г.*

«Автобиография

Я, Некляев Прокофий Михайлович, родился 19 июня 1911 года в селе Прямая Балка Дубовского района, Волгоградской области, в семье крестьянина-бедняка.

В 1917-1919 гг. отец воевал на фронтах гражданской войны, служил в кавалерии, в разведке армии Буденного. Мы остались с матерью одни, а всех нас, детей, было девять душ. В Поволжье свирепствовал голод. Троих из нас пришлось отдать в приют. Я попал на Кавказ, в г. Тбилиси, и пробыл там до августа 1922 года.

Отец, демобилизованный из армии по ранению и контузии, долго не мог оправиться. В 1923 г. он нанялся пасти общественный скот, мы ему помогали. В декабре 1929 года наша семья вступила в колхоз. Назывался наш колхоз "Путь Ленина".

В 1930 г. меня направили на курсы трактористов-машинистов в г. Слобода-Николаевка. Окончив курсы, я работал в МТС Дубовского района. В октябре 1934 г. ушел в армию. Служил в г. Барнауле, в мотчасти 64-й дивизии.

После демобилизации вернулся домой, работал бригадиром тракторно-полеводческой бригады Дубовской МТС, в колхозе "Путь Ленина". Включился в соцсоревнование за 100-пудовый урожай с гектара. В 1937-1938 гг. бригада получила урожайность 120 пудов с гектара с общей площади в 1300 га.

В 1939 г. я был избран депутатом районного Совета и направлен работать в колхоз "1 Мая", село Садки Дубовского района. Здесь меня избрали председателем.

Председателем колхоза "1 Мая" я работал до начала Великой Отечественной. 24 июля 1941 года мы ушли на фронт. Четверо братьев. Старший погиб, двое вернулись инвалидами войны. Я был ранен, контужен. 27 октября 1945 г. Белорусским военным округом из Советской Армии демобилизован.

Демобилизованным коммунистам партийной организацией округа было предложено остаться работать в Белоруссии. Я получил направление в Молодечненскую область. [...]

25 октября 1946 г. на основании решения Сморгонского РККП(б) я был переведен на работу по восстановлению сельского хозяйства. До 1951 г. я работал заведующим мельницей, директором маслозавода и столярной мастерской, а параллельно этому – фактически главной и основной была работа секретарем партийной организации Кревского сельсовета. В декабре 1948 г. я был утвержден председателем исполкома Кревского сельского Совета депутатов трудящихся.

В 1951 г. РККП(б) направил меня на работу в Сморгонскую МТС. [...]

*П. Некляев*

*25 января 1978 г.*»[18]

«Весна 1949 года, мне около трёх лет, отец везёт меня на повозке из Сморгони в Крево, мы проезжаем через Богушевский лес, вдруг из лесной тишины щелчок, хлопок, от повозки летит щепа, я у отца в охапке под левой рукой, правой он стреляет из пистолета, выбрасывается из повозки, ползёт, укрывая меня, к обочине, опять стреляет через дорогу в пустоту леса...

Поздно вечером он пьёт дедовский самогон и кричит: “А если бы во внука твоего попали, а?! Ну, я вам устрою! Я вас научу советскую власть любить!”

У отца после войны власть не спросила, хочет ли он домой, на Волгу, которой он бредил до самой смерти. Как коммуниста и бывшего председателя колхоза его направили из армии в Западную Беларусь проводить коллективизацию[19]. Направление оказалось бессрочным...»[20]

«Только лет в девять я узнал, что батька мой по существу двоеженец. Что в поселке Дубовка под тем же Волгоградом у него осталась другая семья, в которую с фронта пришла на него похоронка, – распавядзе Някляеў іншым разам. – Молодая вдова пристроилась к инвалиду, единственному мужику на всю степь – надо было детей кормить. И вдруг – никакая она не вдова, жив курилка...

Всё мое детство он уезжал и уезжал куда-то страшно далеко – на Волгу. Мама сама его собирала, отправляла. Даже заставляла, если он артачился, ехать. Я не понимал: к кому и зачем?.. Оказалось, что на Волге у меня – сестра и два брата. И моя мать отправляла к ним моего батьку. Их отца...

По кревской родне есть во мне и польская, и, вроде бы, шведская кровь, но с рождения поделён я пополам: на русскую и белорусскую половины... И чётко ощущаю, где во мне одна, и где вторая»[21].

І неяк зноў жа дадасць: «Беларусь для меня всегда была местечком Крево, то есть тем местом, где рождались и умирали все мои предки по материнской линии. Но не более того. Наверное, потому что отец у меня был русский. Всем своим духовным и мыслительным устройством он полностью отличался от того, что было у меня со стороны матери, от деда моего, от дядьёв. Отец был частью России – в чём-то для меня привлекательной и одновременно пугающей своими гигантскими размерами. И даже когда я уже начал не только понимать, но и ощущать, что белорусское во мне превалирует, всё равно ещё не было той любви к Беларуси, которая возникла сейчас: как к живому существу. К существу, которое надо оберегать, о котором надо ежедневно думать»[22].

Ужо пазней Някляеў выкажа меркаванне, што не стаў антысаветчыкам не з-за сістэмы, у якой жыў, а з-за бацькі, які па сваіх перакананнях быў абсалютна савецкім чалавекам: «Отец часто говорил: если бы не советская власть, сдох бы в степи пастухом. На то, что эта система вела его все время между жизнью и смертью, он не обращал внимания, считал это нормальным. Поэтому убедить меня мог только другой очень сильный характер. И им стал Солженицын. Меня потряс его “Один день Ивана Денисовича”. Это совпадало с чем-то, о чём я только смутно догадывался про жизнь в этой стране. В общем, литература сыграла для меня роль второго отца»[23].

А з іншага боку... «Мои родители боялись власти биологически. Это был страх перед разорением семьи, её физическим уничтожением. У отца было несколько, грозящих уничтожением, ситуаций, в одной из них, на бюро Молодечненского обкома партии, он мысленно распрощался с семьёй. Выжить помог случай. Позже, уже взрослому, он признавался мне: “Я на войне так ни разу не боялся”. Он приказал себе тогда: “Оглядывайся! Больше случай не поможет”»[24].

«На бацьку пісалі і пісалі даносы. Усё маё жыццё, ад самага дзяцінства, пазначанае чорнымі меткамі гэтых даносаў і ўсім тым, што было за імі. Крыкамі бацькі: “Падлюкі! Сукі!..” Стрэламі з пісталета – калі ён дазнаваўся, што зноў нехта нешта на яго “намаляваў”. Праз гэта – мая нянавісць да сексотаў. Данос для мяне – тое, у чым выяўляецца чалавечая подласць.

Аднойчы напісалі, нібы ён згнаіў жыта ў полі. А тады за адзін каласок садзілі! І павезлі бацьку ў Маладзечна, у абласны цэнтр. Я тады быў зусім малы – гадоў пяць. Прыходзіць да нас у хату бацькаў сябрук франтавы і кажа, што бацьку не проста так павезлі ў Маладзечна – там будзе суд, і калі маці хоча яго пабачыць,

дык трэба самой ехаць, бо бацька наўрад ці ўжо дахаты вернецца. Маці ўзяла мяне, і мы паехалі.

Судзіла бацьку так званая "тройка": сакратар абкама, пракурор і старшыня КДБ. Бацькаў сябар сказаў маці: "Калі ён выйдзе праз парадны ўваход, усё будзе добра – паедзеце дахаты, а калі не – дык... Думаю, калі хочаце яго ўбачыць, ідзіце з двара".

Мы патапталіся на плошчы, маці не ведала, што рабіць... Потым пайшла да брамы ў двор, дзе стаяла ўжо знаёмая мне машына, якая неаднойчы прыязджала да нас, "варанок" гэны, і я паплёўся за маці, але раптам... Не тое, што зразумеў нешта, якое ў мяне разуменне было?.. Дзіцячае... Проста пранізала мяне ўсяго нечаканая думка: гэта ж, калі я з двара іду, дык не веру ў тое, што бацька выйдзе і ўсё будзе добра: мы дахаты паедзем. І я кінуўся да параднага ўваходу. Маці паглядзела мне ўслед і не стала вяртаць.

Я стаў так, каб бачыць яе каля брамы. Але стаяў я не ў двары! На плошчы! Каля параднага ўваходу!

Не ведаю, колькі мы чакалі... Гадзіну? Дзве? Урэшце бацька выйшаў – і праз парадны ўваход! Як толькі я ўбачыў яго... Там прыступкі былі – я іх не заўважыў! Я не пабег – я ўзляцеў! У мяне кожны раз з успамінам пра гэта – вось і зараз – адчуванне палёту. І ўзляцеў я не толькі з радасці, што ўсё будзе добра, што мы паедзем дахаты, але і з адчування перамогі. Бацька выйшаў *сюды*, бо я пастанавіў *тут* яго дачакацца. Я тых, што паставілі ў двары "варанок", каб звезці ад мяне бацьку, *перамог*! Бацька злавіў мяне над прыступкамі, прыціснуў да сябе, я абхапіў яго за шыю: "Тата! Тата!.." – і ў слёзы...

Ёсць такі банальны выраз: *заплакаць ад шчасця*. Дык вось гэта якраз той выпадак. І ў бацькі была макраватая шчака – ці ад маіх слёз, ці яго таксама сляза прабіла. Ён падкінуў мяне: "Мы яшчэ гадаў гэтых, сынок, як капусту, пашынкуем!"

А праз парадны ўваход ён мог і не выйсці... Не помню прозвішча першага сакратара абкама, але помню, што ён, як пазней распавядаў мне бацька, быў франтавік. І паколькі справа тычылася таксама франтавіка, дык першы сакратар не паленаваўся за дзень да суда пад'ехаць і глянуць: што ж у калгасе, дзе бацька быў старшынёй сельсавета, насамрэч згніло? І ўбачыў, што нічога. Палоска жыта, якая расла пад самым лесам, проста не паспела выспець. Бацька вырашыў пачакаць, не дажынаць яе, каб даспела, але тут зачасцілі дажджы – і палоску гэтую пабіла. Яна абсыпалася так, што з яе і торбу жыта ўжо было не намалаціць, таму яе скасілі на кармы.

Бацька пазней распавядаў, як зратаваў яго сакратар абкама. Калі абласны пракурор і старшыня КДБ выказаліся: маўляў, трэба яго садзіць, – сакратар спытаў, ці былі яны на месцы і ці праверылі факты? Аказалася, не – і тут ён грымнуў па стале кулаком: "Чаму толькі я павінен у дождж і ў снег матляцца па вобласці, не есці, а нехта – сядзець у кабінетах і карміцца плёткамі і даносамі! Хіба так партыя вучыць нас працаваць з людзьмі, а тым больш з тымі, хто праверaны на фронце?.." І пракурор з гэбістам, тылавыя пацукі, падціснулі хвасты.

Бацька ў жыцці стаяў на тым, што паўсюль і ва ўсім можна дабіцца справядлівасці. Гэткая ў яго была філасофія, з якой ён рэдка (як у выпадку з недаспелым жытам) перамагаў, часцей цярпеў паразы. Якія па натуры сваёй не мог цярпець»[25].

«И отец, и мать, для которой мир вне семьи и вне Бога был призрачным, чуждым, пугающим, никак не подвигали меня к революционным устремлениям, крамольным мыслям о власти. Отец-то, поволжский степняк, был по натуре забияка, он просто подламывал натуру, исходя из непреложных обстоятельств. Раздражение же от своего двойственного бытия, злость, зачастую злость яростную, он срывал на матери – на ком ещё? Мать до бешенства доводила его своей тихой покорностью, смирением перед всем сущим[26]. Однажды, после какого-то

партийного собрания, напившись от бессилия перед ломающей его силой, он бросился на мать с кулаками. Мне лет девять, я хватаю топор, замахиваюсь и кричу, почти теряя сознание: “Зарублю, если тронешь!..” Отец опешил от неожиданности, я помню его глаза – и в них непонимание, оторопелость и растерянность перед тем, что никак не могло случиться и произойти, но произошло и случилось. “Ты... на отца... с топором...” – начал он, оглядываясь, будто выискивая что-то у себя за спиной, но тут же как-то безвольно, обречённо уронил руки, повернулся и, не закрыв дверь, ушёл. А мать сказала: “Вова, пабажыся, што ніколі і ні на каго не замахнешся сякерай. Богу болей відаць, як нам жыць і паміраць”»[27].

## МАЦІ

«Мама Стася – это душа от духа деда Яся. Дед на неё крепко надеялся. Каждый год он продавал корову, чтобы мама выучилась. И она закончила четыре класса польской школы. На большее коров не хватило...»[28]

*«[1971(?)]*

Здравствуй, Вова.

Прошу тебе, пиши нам частые письма, а то мы не знаем, как ты там живёшь. Мы тебе посылаем 50 руб. на “до востребования”, смотри аккуратно, бо больше в ноябре мы прислать не сможем, бо отец поедет в санаторий. Но на питание не жалей, питайся хорошо, смотри за здоровьем, на питание нам хватит. Сходи в магазин “Детский мир” и посмотри, может, там найдешь штаны такие вязаные, как у тебя были. Они не больше 10 руб. Купи обязательно поддевать, а то простудишься.

Теперь отец говорил, что ты уже хочешь бросить учиться, но если тебе это что-нибудь даёт, то учись, мы будем помогать, сколько сможем. Я думаю, если надо пройти практику, то походи по школам в Москве, может, там устроишься, хоть бесплатно.

Смотри, что тебе нужно, то пиши. У нас всё по-старому, живём помалу, работаем. Смотри, чтоб у тебя всё было благополучно.

Твоя мама»[29].

«Мы з братам[30] спазніліся...

У шпітальнай палаце стаялі шэсць жалезных ложкаў, і на пяці ложках ляжалі хворыя жанчыны, а шосты быў пусты, зусім пусты, з яго нават матрац знялі, скрозь драцяную сетку віднелася пафарбаваная драўляная падлога, пад ложкам нявытаптаная, таму нібыта гусцей пафарбаваная, чым пасярод палаты, дзе мы застылі, дапытліва пазіраючы на хворых старых жанчын, у якіх не было пра што пытацца, бо ўсё відавочна, але я ўсё ж спытаўся: “А дзе Анастасія Іванаўна?..” – і пяцёра хворых старых жанчын неяк паспешліва, адна перад адной, я ніколі не забуду гэты хворы, старэчы хор, на розныя галасы прапяялі, прамармыталі: “Памерла... памерла... памерла... памерла... памерла”.

Маці ляжала ў трупярні адна – зусім голая на высокай, мне па пояс, кушэтцы. Зрадзела-пасівелыя валасы, абветраны, снегам шэрпаны і сонцам палены твар, спрацаваныя, у вузлах і зморшчынках, рукі, стаптаныя, на падэшвах стрэсканыя, ногі і – ад грудзей па калені – гладкае-гладкае, белае-белае, маладое-маладое, яшчэ цёплае, цела. Недагледжанае, недапешчанае, недалашчанае...

Мы купілі ёй самую прыгожую, якую толькі знайшлі ў Смаргоні, сукенку. Пры жыцці пра такую яна і не марыла.

Пры жыцці, калі я пытаў: “Што падарыць табе на дзень народзінаў?” – кожны раз адказвала: “А ты дай мне якую капейчыну, я сама сабе куплю штонебудзь...” І купляла парсючкоў. Каб вазіць мне і брату кілбасы, вяндліну...

Цягала і цягала ў Менск тое мяса разам з трохлітровікамі марынаваных гуркоў, памідораў. Прыязджала з такімі клункамі, што не падняць. Калі мы казалі ёй, каб не гарбела, не цягала, бо ўсё ў крамах ёсць, слухала, галавой ківаючы: "Ёсць – і дзякуй Богу..."



*З маці ў жыце*

Аднойчы, не паддаўшыся на яе хітрыкі з капейчынай, за якую сама сабе яна штонебудзь купіць, я завёў яе ў смаргонскую краму і купіў ёй футра. Назаўтра, калі мы справілі дзень яе народзінаў і з'ехалі, яна пайшла на кірмаш, прадала футра і купіла парсючкоў...

Днём ёй не было калі, а ўвечары, пакуль вочы бачылі, яна чытала... Беларускія кнігі, рускія, польскія... Яе здзіўляла, што людзі ўсё пішуць і пішуць, калі ўжо ёсць Святое пісанне – і ёй цікава было: што ж яшчэ нехта можа прыдумаць, апроч таго, што прыдумаў Бог?

Траціну жыцця прарабіла яна бухгалтаркай у канторы машына-трактарнай станцыі і расказвала майму малодшаму брату казку пра чарцяня з іменем Бухгалтар, якое прыдумала бухгалтэрыю.

Бацька быў хворы на рак, сам ужо не ўставаў, і мы не казалі яму, што маці памерла, пакуль не прывезлі яе дахаты ў труне. Вывелі яго, каб развітаўся, у пакой, дзе яна ляжала, і ён схіліўся да яе і спытаў, з ёй жыццё пражыўшы: "Хто гэта?.." І я да сёння – грудзьмі і спінай – помню, як працяла, наскрозь пранізала мяне гэтае, здавалася б, амаль вар'яцкае пытанне.

Мы пахавалі маці ў Крэве, дзе яна нарадзілася і куды хацела вярнуцца на вечны спачын – да бацькоў, да дзядоў, да продкаў...»[31]

Пішучы ў 2009-м прадмову да кнігі ліставання Рыгора Барадуліна з мамай Кулінай Андрэеўнай, Някляеў павініцца: «Мне сорамна, я вінаваты, што ні гэтулькі лістоў маіх, ні столькі вершаў, ёй прысвечаных, мая маці не прачытала... Даруй мне, любая мая Анастасія Іванаўна»[32].

Не па ваду, не па дровы
Маці – да скрынкі паштовай,
Што да асіны за плотам
Коса прывязана дротам.

Скрынку журба адчыняе –
Жоўты лісток выпадае.

«Ліст прычакала ад сына?..» –
Ціха спытае асіна.

*1979*[33]

«Першае, што помніцца, – маці...

Яна нахіляецца нада мной, за ёю – праз вокны – сонца, залатыя валасы казычуць шчаку, шчабеча рук яе радасць ластаўчыная: "Хлопчык мой..."»[34]

## ДЗЕД

Анастасія Іванаўна хрысціла сына таемна і – разам з дзедам[35]. Някляеў кажа, што любоў да Беларусі ў яго менавіта ад дзеда.

«...Дед мой был истинный христианин. Даже в этом ужасном послевоенном белорусском мире, в разорённой деревне он старался создать хотя бы островочек красоты. И потому, например, делал на яблоне восемь-десять прививов для того, чтобы весной получилось фантастической красоты зрелище! И вот он стоял весной рядом с этой яблоней и весь светился! Я смотрел на него, и меня переполнял восторг не только потому, что я любовался этой цветущей красотой, но и потому, что видел, как этим восторгался дед! А поскольку я его любил и всячески доверял его эмоциям, я не мог не довериться и этой его эмоции. И если мою связь с Беларусью обозначить физически, то она произошла именно через этого святого человека, который был истинным белорусом, никогда не думая об этом и не осознавая – белорус он или нет. Он просто родился белорусом, всю жизнь прожил им и белорусом умер. Ничего, вроде бы, для этого не делая»[36].

Калі Іван Маркавіч памёр, ён, распавядаў Някляеў, «паслаў мне з таго свету доказ існавання Бога. Праз гады я напісаў пра гэта ў прыпавесці “Чмель і вандроўнік”, прысвечанай Васілю Быкаву»[37]:

«– І ў галаве вісеў абраз, пад якім ён папрасіў мяне, лёгшы і склаўшы рукі, запаліць свечку. Я запаліў і падаўся спаць у бакоўку, дзе не мог заснуць, падняўся, каб пайсці ў двор пакурыць, выйшаў на чорную палавіну – і дзед на маіх вачах заплюшчыў вочы, усміхнуўся і памёр. І адразу ж пагасла свечка.

Паўза ўзнікла сама па сабе, і чмель спытаў вандроўніка:

– Табе стала страшна?

– Не, – адказаў вандроўнік. – Мне стала светла. Я не бачыў столькі смерцяў, як вы, але ўсё ж некалькі бачыў, і там было страшна, а тут – светла. Толькі я не ведаў, што мне з гэтым рабіць, і зноў схаваўся ў бакоўку. Там скурчыўся, скруціўся, як у дзяцінстве, падціснуўшы калені, і пачаў маліцца. Стаў маліць дзеда, каб пра тое, што я толькі што ўбачыў, ён мне яшчэ і расказаў. Ці неяк паказаў, давёў, што так яно і ёсць, хоць я разумеў, што нельга... але дзед, дзед, я маліў, я так цябе любіў, ты так мяне любіў, дык скажы, што так ёсць, хоць адтуль казаць нельга... але ты святы, табе даруецца, а мне так трэба ведаць...

Чмель сціснуў руку вандроўніка трохі мацней.

– З той малітвай, з тою просьбай, павярнуўшыся на спіну і склаўшы, як дзед, рукі, я раптам адчуў сябе не адным. Узняўся над сабой самім і ўбачыў сябе самога ў бакоўцы, дзе ляжаў на тапчане, склаўшы рукі, – выразна сябе ўбачыў, усяго да драбніцаў, хоць там, дзе я ляжаў, было цёмна, і той я, якога я сябе ўбачыў, мне не глянуўся, не спадабаўся, і я з радасцю, з пранізлівым шчасцем адчуў сябе другім, зусім іншым, лёгкім, бязважкім, – і там, дзе я быў такім, было светла, так светла, як скрозь і ўва мне адно святло. Шчаслівым святлом у тым святле я выплыў з бакоўкі, праплыў па чыстай палавіне над сваёй маці, якая спала і ўсміхалася ў сне, над сваім бацькам, над усімі роднымі, блізкімі, крэўнымі мне людзьмі, пра якіх думаў, як страшна будзе іх пакідаць, як яшчэ страшней будзе, калі нехта з іх мяне пакіне, а тут адчуў, што не, зусім не страшна, і яшчэ адчуў, што хачу пакінуць іх як найхутчэй, зараз – і мяне неадольна пацягнула ў адчыненую фортку, бо ў хаце было душна і трэба было дыхаць, а за форткай было так высока і прасторна і дыхаць не трэба было, бо ты сам, як дыханне, так, як дзіцячае дыханне, і калі я рвануўся ў фортку, пераўтвараючыся ў дыханне і набіраючы святла, убачыў за форткай дзеда, які таксама – адно дыханне і святло, і дзед прадыхнуў: “Тут не цёмна, ты не бойся...” – “Дзед!” – кінуўся я да яго, каб маліць, каб заклінаць, каб ён узяў мяне з сабой, – і знайшоўся ў самім сабе ў бакоўцы, дзе ляжаў, склаўшы рукі, на тапчане. Усё скончылася, але ў цела сваё, якое яшчэ трэба было даношваць, я вярнуўся іншым. Не нашмат, не гэткім, як святло і дыханне, але і не такім, якім сябе пакідаў... Я дзеда так любіў, ён так мяне любіў, што прыадкрыў таямніцу: смерці няма. Няма смерці.



*Дзед Ясь (Іван Маркавіч МАГЕР)*

Чмель адпусціў руку вандроўніка, усміхнуўся і сказаў:

– Дзякуй. А то там святар сядзіць і сядзіць...

– Але гэтага мне мала было, – доўжыў вандроўнік. – Толькі аднаму гэта ведаць было мала, хацелася, каб і маці ведала, і бацька, і ўсе, каго я любіў... І я ўсіх пабудзіў, сказаў, што дзед памёр, і стаў глядзець, што яны стануць рабіць, і калі яны кінуліся ў слёзы і крык, загаласілі: а на каго ж ты нас пакінуў? – я ўзмаліў: дзед, падай ім знак, што яны не пра тое плачуць, крычаць і галосяць! – і дзед сарваў са сцяны зашклёны абраз, пад якім памёр, узняў яго і гвазданув аб падлогу, шкло ў галашэнне і слёзы пырскамі разляцелася: "Сціхніце! Смерці няма!.."

– Абраз гвазданув?.. – напружана ўгледзеўся ў вочы вандроўніка чмель.

– Абраз.

– Пад якім памёр?..

– Пад якім памёр»[38].

«Он умер, оставив мне Библию, а ещё доказательство того, что и в будущем небытия нет. Я растерзал ему душу, я умолил его об этом той ночью. Уже после того, как он умер. Я знаю, что тем самым он взял на себя большой грех, взял его на себя из-за любви ко мне, и почему-то знаю, что Всевышний простил ему это.

Я не утверждаю, что мне ведомо происходящее за той чертой. Мне ведомо только, что черты нет»[39].

...У 2001-м, адказваючы на пытанне пра стаўленне да рэлігіі, Някляеў напіша: «Стаўночае» – і прызнаецца, што ў дзяцінстве хацеў стаць святаром[40]. Аднак, прыгадваючы іншым разам дзіцячую пару свайго жыцця, згадае ўнутраны дысананс: «Я вырас у сям'і вернікаў, мой дзед і яго сям'я былі найшчырэйшымі вернікамі. І я помню зь дзяцінства, як добра было мне зь дзедам і дзедавым Богам, калі мы разам чыталі Сьвятое Пісаньне. І як страшна мне было, калі я ішоў у царкву. Як усё сьцiналася, як я баяўся, што Божанька глядзіць зь нябёсаў і ведае, што ўчора я залез у сад да суседкі, нарваў яблыкаў за пазуху. Ніхто ня бачыў, а Бог жа бачыў, ведае. І вось глядзіць і ківае мне пальцам зь нябёсаў: "Ну ты глядзі, Воўка!.. Сёньня я яшчэ прамаўчу, але вось наступным разам прыйдзеш ты ў царкву..."

Гэтыя дзіцячыя адчуваньні нагадваюць стан чалавека ў храме, нашага праваслаўнага беларуса, душа якога – паганская тэрыторыя. І на сёньняшні дзень мы ўсе, большасьць з нас, вернікі ўмоўныя...

Ня трэба задавацца некарэктнымі пытаньнямі: ці ёсьць Бог? Бог ёсьць...»[41]

Пазней Някляеў зробіць яшчэ адну істотную заўвагу: «Калі мець на ўвазе вядомыя словы Ніцшэ ("Бог памёр"), Бог пачаў паміраць якраз тады, калі ўзьніклі храмы, якія сталі называцца Божымі, і служкі, якія часам бралі на сябе Божыя функцыі. Бог у тыя храмы не ўвайшоў, а з тых пячораў, дзе ён нарадзіўся і якія, па сутнасьці, ёсьць нашы душы, Ён пачаў зьнікаць. Так што ў мяне заўсёды былі складаныя адносіны з інстытутамі веры, прычым незалежна ад іх канфэсіі, ці гэта каталіцызм, ці гэта праваслаўе. І яны на сёньняшні дзень такімі й застаюцца. Але Бог як субстанцыя, якая ўключае ў сябе ўсё – і жыцьцё, і сьмерць – абсалютна неабходны для сьветаадчуваньня чалавека. Для мяне ніколі не існавала пытаньня, ёсьць Бог ці няма. Нават у часы ваяўнічага атэізму. Бо я гадаваўся ў дзеда, які быў проста сьвятым чалавекам і вернікам бездакорным. Ён верыў у Бога ў маім разуменьні – ва ўсясьветнае Дабро і Справядлівасьць»[42].

Дзесьці ў Крэве, на высокіх могілках,
У буянні руты і гарквы,
У зямлі змаганай ды не зможанай,
Дзед з бабуляй – тварам да царквы.

Іх жыццё падманамі і звадамі
Праплыло, як месяц па вадзе.
І ляжаць Іван з Алімпіядаю...
Дзе іх душы? Невядома дзе.
У хмурынках тых вунь?.. У тумане?..
На губе крывінку прыкушу...
Як твая душа, мой дзед Іване?
Ці знайшла Алімпіну душу?

Не збалела, крылы не намуляла
Над царквой маўкліваю кружыць?..

Вымытай хусцінкаю бабулінай
Аблачынка сохне на крыжы.

*1976*[43]

## ГРАМАТА

Нарадзіўшыся ў Смаргоні, дзіцячыя гады Някляеў правёў у мястэчку Крэва, дзе і пайшоў у першы клас. Далей вучыўся ўжо ў 1-й сярэдняй школе ў Смаргоні, куды яго бацьку перавялі на працу ў Смаргонскую МТС. «Там нам выделили служебное жильё в пол-избы. Этакий пенал, перегороженный шкафом. Перед шкафом спали родители, за шкафом – я с братом. Ноги в печку упирались. Я до сих пор иногда ту печку во сне ногами ищу»[44].

У «спробе аўтабіяграфіі» Някляеў згадвае, што, скончыўшы сем класаў, хацеў стаць геолагам. «Вандроўкі, намёты... Касцёр, гітара... Рамантыка. У чатырнаццаць год “паступаць на геолага” паехаў у Кіеў[45], дзе драматычна закахаўся. Бялявенькая такая, яснавокая... Не помню, як яе звалі, але помню, як мяне праз яе білі. Пяцёра таксама ў яе закаханых хлопцаў, з якімі жыў я ў адным інтэрнацкім пакоі. Старэйшыя за мяне, ужо пасля арміі... Закручвалі ў коўдру – і кедамі! Каб раскахаўся... Справіцца з імі было мне не па сіле, паскардзіцца не дазваляў характар. Трываў, колькі мог. Аднойчы закашляўся – на насоўцы кроў. Ну, думаю, рамантыка рамантыкай, каханне каханнем, а жыццё даражэй. Бывай, бялявая!.. Дый экзамены, бо не да іх было, здаў я абы-як. Не паклалася перада мной сцяжына, па якой можна было б пайсці ў геолагі... Не лёс»[46].

Недзе ў гэты час, яшчэ падчас вучобы, Някляеў і пачаў пісаць вершы, прычым – па-руску. «Дакладней, – скажа ён пасля, – больш па-руску, чым па-беларуску. Вось, да прыкладу, яшчэ ў школе напісаная (ці ўжо ў тэхнікуме, не магу ўспомніць) паэма “Счастье”, якую я ў вучнёўскім сшытку ня так даўно знайшоў:

Кто же счастлив? Наивный вопрос!..
Счастлив тот, кто над кровью и потом
По земле, как награду, пронёс
Голубые глаза идиота.

Як для школы (а няхай і для тэхнікума), дык і някепска»[47].

З аўтабіяграфіі: «Скончыўшы 9 класаў, паступіў вучыцца ў 1962 годзе ў Мінскі тэхнікум сувязі, скончыўшы які (1966 г.) атрымаў спецыяльнасць радыётэхніка і працаваў да 1971 года ў мінскім тэлевізійным атэлье № 2. Адначасова займаўся на завочным аддзяленні (з 1968 года) Мінскага педагагічнага інстытута. У 1971 годзе (не пакідаючы вучобы ў педінстытуце) стаў студэнтам аддзялення паэзіі



*З бацькам і маці. Смаргонь, 1985 г.*

Літаратурнага інстытута імя М. Горкага. На другім курсе перавёўся на завочнае аддзяленне гэтага інстытута, вярнуўся ў Мінск [...]»[48].

І праз чвэрць стагоддзя пра тое ж: «... падаўся вучыцца ў Мінск на радыёмеханіка, не стаўшы перад тым ні ветэрынарам, як бацька хацеў[49], ні, як хацела маці, музыкам. Хоць маці і ўгаварыла бацьку прадаць карову і купіць мне акардэон[50].

Але і радыёмеханіка з мяне не выйшла. Законы, па якіх бегае ток па электраланцугах, аказаліся неспасцігальнымі. Пасля трэцяга курса вярнуўся дахаты, сказаў: "Усё. Не маё". Маці ў плач: "Сынок, ты ўжо хоць дзе-небудзь давучыся, людзі ж думаюць, што адусюль цябе выганяюць. З хаты на вуліцу не выйсці..."

Каб магла маці выходзіць на вуліцу, паехаў давучвацца. А як давучыцца, калі не цяміш, якую навуку спасцігаеш?.. [...]

З дыпломам маладога спецыяліста я апынуўся спачатку на Далёкім Усходзе, пасля ў Сібіры і на Поўначы... З гэтымі маімі інстытутамі, з іх хоць і кароткімі, але насычанымі праграмамі, не параўнаць аніякія іншыя. Ва ўсялякім выпадку, не параўнаць з імі ні педагагічны, ні літаратурны інстытуты, адзін з якіх я скончыў, а другі, зноў жа, не...»[51]

Згадваючы вучобу ў тэхнікуме, Някляеў распавядаў: «Занимаясь спортом, искалечил себя. Не было, наверное, таких спортивных секций, которые я не посещал – и бокс, и борьба, и многое другое. И нос у меня после того переломан.

У меня юношеский разряд по боксу и борьбе. Время тогда было такое: никто у телевизора не сидел, в Интернете не висел. Раз в неделю ходили драться стенка на стенку. До девятой крови бились. То есть, если девятому заехали так, что кровь пошла, – всё, драка заканчивалась»[52].

Між тым з тэхнікума яго ледзь не выключылі, бо выбіў зуб студэнту з Афрыкі. Як сцвярджаў Някляеў, было за што. Ад выключэння ўратаваў дырэктар – «дзіўны чалавек з прозвішчам Тумас, які стварыў у тэхнікуме секцыю бокса і кожны год на выпускным вечары біўся з выпускнікамі, правяраючы, ці гатовыя яны да выпрабаванняў жыцця»[53].

Затое з інтэрната Някляева ўсё ж выгналі (але не праз студэнта з Цэнтральнай Афрыкі) і нейкі час жыў ён на вакзале. Быў, як сёння сказалі б, бамжом. Ды яшчэ стылягам. Аднойчы ён ужо адказваў на пытанне, ці быў «модником» у той час: «И не раз за это пострадал! Штаны-дудочки были до того узкие, что без мыла их было не натянуть. Снизу штанины разрезались, вставлялись клинья, на которые цеплялось безумное количество значков. Комсомольские патрули бегали, отлавливали нас, тащили в отделение милиции, где разрезали одежду на лоскутья... На первый раз мне простили, а на второй я с позором был изгнан из общежития»[54]. Цяпер жа распавёў і пра развіццё сюжэта з выгнаннем з інтэрната: «Недзе праз месяц маці прыехала, сала прывезла, а камендант інтэрнацкі ёй кажа: "Дык ён жа тут не жыве, яго выгналі! Так што сала ваша я сам з'ем..."

Маці ў кабінеце ягоным і абсела...

Я пасля каменданту таму пяску ў бензабак насыпаў – у яго "масквічок" быў. Вось ён пабегаў: "Хто?.." Здагадваўся, што я, а доказаў ніякіх. Сала наша ён есці будзе...

Маці ачомалася – давай для мяне жытло шукаць. Ніхто не бярэ на кватэру

стылягу. Нават тыя людзі, муж і жонка, якія ў вайну ў сям'і дзеда майго ад немцаў хаваліся. У склепе сядзелі, у хлеве, на месцы якога хата некалі стаяла. Потым хата згарэла, а склеп застаўся – і дзед сваім жыццём і жыццём дзяцей рызыкаваў, людзей тых хаваючы. Маці мая яду ім насіла... А вось калі папрасіла, каб я ў іх пажыў, тыя людзі сказалі: "Выбачай, Стася, самім месца мала..." У трохпакаёвай кватэры на Даўгабродскай.

З тыдзень яшчэ я на вакзале пракачаўся – зноў маці прыязджае. Ужо не з салам – з грашыма, у насоўку завязанымі. 25 рублёў... Па рублю, па тры... "Пайшлі, – кажа, – да дырэктара..."

Хабар яна дырэктару вырашыла даць. А як даць – не ведае. "Як, – мяне пытае, – яго даюць?.." А то я даваў яго... Прыйшлі да дырэктара – яна адразу прасіць і плакаць. Потым дастае насоўку, якая ніяк не развязваецца, бо ў маці рукі дрыжаць, я ад сораму згараю – і тут узлятаю! Дырэктар, Тумас, я па скон яго не забуду – круком знізу пад пашчэнкі!.. "Ты маці сваю, сапляк, прыніжацца змусіў! На каленях у яе прабачэння прасі!.." Я папрасіў бы, але пасля палёту ўстаць не магу. Нават на калені. Такі здаровы той Тумас быў... І так падыходзіў да выхаваўчага працэсу. Можа, не педагагічна, але эфектыўна»[55].

У афіцыйных аўтабіяграфіях Някляева найчасцей напісана, што пасля заканчэння тэхнікума сувязі ён працаваў рыдыёмеханікам у тэлеатэльe № 2 г. Мінска. Яно нібыта так, але ўсё ж не зусім так: у тэлеатэльe Някляеў уладкаваўся пасля таго, як вярнуўся з далёкай вандроўкі. Сам ён прыгадваў: «После техникума у меня было распределение в Питер. Люди по блату туда пытались попасть, а мне, как дураку, случайно повезло. Посмотрел я, что до Питера ехать 10 часов, а билет стоит 6 рублей 58 копеек – когда хочешь, тогда и можешь поехать. А вот на Сахалин билет на самолет стоил 120 рублей, и на поезд за 100, а ехать неделю. И подумал, что сам я туда никогда не попаду. Вот и поменялся с одним из наших товарищей и вместо него поехал на Сахалин»[56].

І хоць выключна пра сябе пісаў Ігар Шклярэўскі – вядомы расійскі паэт паходжаннем з мястэчка Бялынічы, што на Магілёўшчыне, – але здаецца, нібы і пра Уладзіміра Някляева, маладзейшага свайго сябра: «Когда плывут льдины и птицы летят на север, всех нас тянет из дома неведомая сила – таянья, талой воды. Оставил учёбу. [...]

С надеждами, с пустыми карманами и обидами возвращался домой, отлёживался, собирал силы и снова колесил по земле. Кругами. И снова к заветной станции, где диспетчер объявляет: "Поезд отходит..."

Хотелось дотянуться глазами до Камчатки и русского Севера, дойти, доплыть, ощутить их физически. В такой огромной стране поэт не может жить без внутреннего права на простор»[57].

Сваю далёка-ўсходне-сібірскую вандроўку ў афіцыйных анкетах Някляеў не згадваў, бо пасля яе не засталося ні працоўнай кніжкі, пакінутай у Тайшэце, ні іншых дакументаў, якія разам з рэчамі былі скрадзены ў Нарыльску. А без дакументаў выглядала, што ён больш за год быў невядома дзе і займаўся немаведама чым. Можа, бадзяжнічаў, што падпадала пад крымінальны артыкул (па якім у 1964-м быў арыштаваны і асуджаны на пяць гадоў прымусовай працы будучы нобелеўскі лаўрэат Іосіф Бродскі). У аддзеле кадраў тэлецэнтра, на якім Някляеў праходзіў пераддыпломную практыку і куды паспрабаваў па вяртанні ў Мінск уладкавацца, у яго нават спыталі: «А ты ў той Сібіры не сядзеў?..»[58] Таму ён пісаў звычайна, што тэхнікум скончыў у 1967-м, хоць насамрэч – годам раней.

«Я прыехаў з Тайшэта ў Нарыльск, горад на той час пераважна зэкаўскі. Пасяляюся ў гатэль, а мне кажуць, на мой чамадан гледзячы: «Мы за чамаданы не адказваем». – «А хто, – пытаю, – за чамаданы адказвае?» – «Камера захоўвання».

У чамадане ў мяне ўсё – і гэтае ўсё я занёс у камеру захоўвання. Каб, значыць,

захаваць. Ноччу ў гатэлі захаладала, я спусціўся швэдар з чамадана ўзяць, а ў камеры захоўвання мне заяўляюць: «Мы асобна швэдары ды ўсялякія транты не выдаём. Забірай увесь свой чамадан». Ну, я забраў увесь свой чамадан, падняўся ў нумар, адамкнуў японскія (чамадан японскі быў, я ва Уладзівастоку яго купіў) замкі, расчыніў... І ўбачыў, што ён толькі знешне мой, а ўнутры – чужы. І не таму чужы, што японскі, а таму, што пусты. Напханы газетамі, у якія загорнутыя дзве цагліны – для вагі.

Я зноў уніз, у камеру захоўвання: «Аддайце маё ўсё!» А мне ў лоб – добра, што не цаглінай: «Ах ты чмут! Чамадан пусты здаў, а цяпер поўны патрабуеш! Можа, скажаш яшчэ, што ў ім грошы твае ляжалі?..»

Грошы мае якраз у чамадане й ляжалі, але, зірнуўшы на двух мардаваротаў у камеры захоўвання, я не стаў на тым настойваць. Зразумеў, што ні рэчы, ні грошы мне не патрэбныя. І застаўся я ў горадзе здабытчыкаў нікеля ды іншых рэдкіх металаў толькі з пашпартам, які пры афармленні ў гатэль здаў адміністратару.

Што цікава: назаўтра, калі я высяляўся з гатэля, адміністратар вярнуў мне грошы, якія заплаціў я за нумар. "Пацаны за тебя рассчитались. Всё по-честному, а чё?.."»[59]

Яўген Еўтушэнка пісаў пра гэты перыяд жыцця Някляева: «С неподдельным романтическим энтузиазмом, закончив техникум связи в Минске, он поехал работать по своей специальности в Сибирь, где в то время комсомольцы-добровольцы растаскивали колючую проволоку бывших лагерей, и однажды оказался на станции Тайшет, рядышком с моей станцией Зима. Сейчас это невообразимо представить, но ведь и Белла Ахмадулина самым искренним образом когда-то поехала на целину»[60].

Сам жа Някляеў прыгадваў: «Тайшет был самым большим лагерем Советского Союза: километры колючей проволоки над рекой Бирюсой. Для работы (рыть траншеи под кабель) мне давали зэков. Их хоть чем-то, но кормили, а ты – сам ищи... вот и воешь с зэками: "Бежа-а-а-л бро-о-дяга с Саха-а-лина..." А по радио: "Там, где речка-речка Бирюса, ломая лёд, звенит-поёт на голоса..."»[61]

У мясціны сваёй вандроўнай маладосці ён будзе вяртацца ў многіх сваіх творах.

«Пра Тайшэт я ўпершыню пачуў з песні. "От Тайшета к Абакану не кончаются туманы, по туманам до Тайшета тянем мы дорогу эту". Там яшчэ было нешта незразумелае: "Мы не турки и не янки, просто каски белые..." – але гэта, мусібыць, не мела адносінаў да трасы мужнасці, як называлі дарогу праз Краснаярскі край, бо што ў Краснаярскім краі рабіць янкам з туркамі?

Было гэта ў пачатку 60-х гадоў XX стагодддзя, калі я ў вучыўся ў электратэхнікуме сувязі. Дарога прагрызалася скрозь Саяны салдацікамі будбатаў ды зэкамі, але яе абвясцілі камсамольскай будоўляй – і я паехаў бы "за туманом, за мечтами и за запахом тайги", як спявалася яшчэ ў адной песні пра сібірскую рамантыку, калі б не марыў стаць касманаўтам. Прычым, не другім, трэцім ці пятым – першым. Чытаючы часопіс "Навука і тэхніка", прыкідваў час, калі яно можа стацца. Выходзіла: якраз тады, калі я для гэтага саспею.

Нечаканы прагрэс савецкай навукі і тэхнікі пахаваў маю мару. Навука і тэхніка для першага палёту чалавека ў космас саспелі раней, чым я.

Скончыўшы элетратэхнікум сувязі, я стаў электрамеханікам з дыпломам № 613762-Н і апынуўся хоць і не так высока, як у космасе, але гэтак жа далёка: у Тайшэце. Таёжным пасёлку былых зэкаў. Яны адбылі свае ў тайшэцкім лагеры і засталіся пад той жа калючадрацяной сцяной – толькі з другога боку. Камусьці ехаць не было куды, а хтосьці проста не хацеў нікуды ехаць. Хоць і была дарога на Абакан»[62].

Але вернемся крыху назад: да спаткання з Тайшэтам і пазней – з Яўгенам Еўтушэнкам лёс звёў Някляева з яшчэ адной асобай, амаль легендай...

## КІМ ХАДЗЕЕЎ

«– Напачатку 1960-х гадоў, у час хрушчоўскай “адлігі”, у Менску, на тым месцы, дзе цяпер Тэатр лялек, а таксама на прыступках Тэатра юнага гледача ладзіліся паэтычныя імпрэзы кшталту тых, якія ладзіліся тады на плошчы Маякоўскага ў Маскве. У нас, канешне, гэта ўсё было ў меншых маштабах: слухачоў не тысячы і паэтаў не сотні. Але было.

На адной з такіх імпрэзаў я і пазнаёміўся з Кімам Хадзеевым. З Палкоўнікам, як яго яшчэ называлі – не ведаю, чаму. Ён тады ўжо быў амаль легендай, бо за ім была турма. І не па крымінальнай справе, а па справе палітычнай, што для прававерна камуністычнага Мінска той пары было неверагодным. Пасадзілі яго яшчэ пры жыцці Сталіна, якога студэнт БДУ Кім Хадзееў на камсамольскім сходзе (так кажа легенда) назваў забойцам, крывасмокам. Хто з савецкіх беларусаў мог публічна сказаць такое пры жывым Сталіне? Хіба хворы на галаву... Вось беларускія гэбісты (каб у іх не спыталі: як гэта вы такога злыдня праміргалі?) і засадзілі Кіма ў турэмную вар’ятню. Яго ўжо гадоў восем ці болей (ён 1929-га года народзінаў, а пасадзілі яго, здаецца, у 1949-ым) як выпусцілі на волю, калі я з ім пазнаёміўся. На прыступках пад псеўдаантычнымі калонамі Тэатра юнага гледача я асмеліўся прачытаць нейкі псеўдарамантычны верш – і да мяне падышоў нейкі не надта ахайны з выгляду чалавек, які сказаў: “Если хочешь, пойдём с нами обсуждать стихи. Те, которые ты только что прокричал, плохие”.

Што ж тады, я падумаў, “обсуждать”? Калі ён пастанавіў ужо, што вершы кепскія...

І ўсё ж я пайшоў. Мне цікава было, дасюль мяне ніколі не “обсуждали”.

Вакол Кіма гуртавалася тая частка менскай моладзі, якую можна назваць андэграўндам. Ён быў яе настаўнікам, гуру. Менавіта з гэтых маладых людзей Камітэт дзяржбяспекі і прыдумаў так званую антысавецкую групоўку Кіма Хадзеева. Я ў яе не ўваходзіў, але, хоць мне было ўсяго 15 гадоў, мяне таксама выклікалі ў КДБ, дзе дапыталі і папярэдзілі, каб да Хадзеева – ні нагой! Калі я – камсамолец, калі я – савецкі чалавек, а яны ведаюць, што я – савецкі чалавек, і ведаюць, што ў мяне заслужаны бацька: камуніст, франтавік, ардэнаносец, – дык што мне сярод антысаветчыкаў рабіць?..

У хуткім часе Кіма Хадзеева другім разам арыштавалі і зноў пасадзілі. Быў арыштаваны таксама акцёр Тэатра юнага гледача Эдуард Гарачы. Шмат каго выключылі з інстытутаў, выгналі з камсамола. Напрыклад, майго даўняга сябра Віктара Ледзенева, які, як і Гарачы, уваходзіў у тую “антысавецкую групоўку”. Неяк мы з ім сядзелі і разбіраліся, чаму для яго (як і для многіх іншых) усё, можна сказаць, страхам абыйшлося, а Гарачага пасадзілі? І прыйшлі да высновы, што ўсё вельмі проста: у адрозненне ад бацькоў астатніх хлопцаў і дзяўчат, якія ўваходзілі ў “антысавецкую групоўку” Хадзеева, маці Эдуарда Гарачага была звычайнай прыбіральшчыцай. А ў таго ж Ледзенева брат быў карэспандэнтам Усесаюзнага радыё і тэлебачання. Ці, скажам, да Хадзеева прыходзіў Піля – сын Піліпа Пестрака. А што такое Піліп Пестрак у той час? Гэта пралетарскі савецкі пісьменнік! Гэта раман “Сустрэнемся на барыкадах”, які мала хто чытаў, але пра які ўсе ведаюць! І раптам ягоны сын мае нейкае дачыненне да “антысавецкай групоўкі” – гэта ж можа быць вялізны скандал! І толькі ў выпадку з сынам прыбіральшчыцы не магло быць аніякага скандалу: ні вялікага, ні малога. Трэба было некага пакараць – вось яго і пакаралі...

Зноў з Кімам Хадзеевым лёс звёў мяне ўжо напрыканцы 1960-х, калі ён вярнуўся з турмы. І зноў пачалося тое самае: багемныя пасядзелкі з віном, з цыгарэтамі, з чытаннем кніг і размовамі да раніцы – як яно вадзілася заўсёды і паўсюль: што ў Маскве, што ў Піцеры, што ў Менску. Часцяком узнікалі канфлікты – у Кіма быў не самы лепшы характар. Але ў яго былі энцыклапедычныя веды (ён

зарабляў – як, дарэчы, і я пазней – тым, што пісаў дысертацыі для будучых “вялікіх вучоных”), ён меў талент (дагэтуль помню ягоную казку “Салдат і смерць”) і меў розум. Ужо напачатку 1990-х гадоў ён быў адным з распрацоўшчыкаў эканамічнай праграмы для незалежнай Беларусі. Між іншым, пісаў ён тую праграму разам з эканамістам Ота Наважылавым, з якім (і яшчэ з Віктарам Ледзеневым) мы некалі пачыналі “Пятницу” ў газеце “Знамя юности” – старонку сатыры і гумару. З маім незабыўным сябрам Ота Юр’евічам, які перш чым узяць гітару, нацягваў на рукі баксёрскія пальчаткі – і струны не перабіраў.

З Кімам Хадзеевым (напачатку нашага знаёмства ўдвая старэйшым за мяне) мы не маглі быць сябрамі. Часцяком ён са мной (як і з іншымі) абыходзіўся, мякка кажучы, некарэктна, але я ўсё адно (як і іншыя) вельмі ўдзячны яму. Ён са сваім парадаксальным стаўленнем да рэчаіснасці выпраўляў у нас хібы лінейнага мыслення. У размове з Хадзеевым табе заўсёды адкрываўся іншы ракурс бачання нейкай асобы, нейкага твора, нейкай падзеі. І гэта прыцягвала да яго, нягледзячы на тое, што асабістыя стасункі з ім былі дастаткова некамфортнымі. Часта, абвастраючы сітуацыю, ён выклікаў раздражненне, правакаваў на вулканічны выкід энергіі. І рабіў ён гэта цалкам свядома, бо ў такім выпадку чалавек раскрываўся... Вось тут ён і ўгрызаўся ў цябе, у самую сарцавіну – я гэта дасюль помню. Доўга помніў з крыўдай, а цяпер – з удзячнасцю. Бо ён выгрызаў з нас, можна сказаць, “апендыцытнае”. Тое, ад чаго магло пачацца запаленне ўсяго арганізма.

У найноўшыя часы цікаўнасць да Кіма Хадзеева ўпала, бо тое, пра што патаемна гаварылася ў ягонай “антысавецкай групоўцы”, сталі казаць паўсюль... І калі восенню 2001 года я прыехаў з Хельсінкі на ягонае пахаванне, дык не ўбачыў палову горада Менска, як чакаў. Можа, тузін людзей. А да яго жывога прыходзілі, сілкаваліся ягонымі эмоцыямі, ідэямі дзясяткі, калі не сотні: і тыя, што ў канцы 1950-х ды пачатку 1960-х былі стылягамі, і тыя, што пазней былі хіпі... Праўду казалі грэкі з рымлянамі: хутка праходзіць зямная слава.

Але як бы там ні было, Кім Хадзееў – адзіны беларускі дысідэнт у паўнавартасным значэнні гэтага слова. Ён быў асабіста знаёмы з многімі знакамітымі расійскімі дысідэнтамі. Забароненая літаратура, якую мы тады чыталі, патрапляла праз іх да яго, а пасля ўжо – да нас. Хоць дзіўна цяпер: якая там забароненая літаратура?.. Нейкі раман “Антысаркан” – цяпер ужо й не помню, пра што там было напісана? Ці паэма “Рэквіем” Ахматавай, ці “Адзін дзень Івана Дзянісавіча” Салжаніцына, які хоць і быў надрукаваны ў Маскве ў часопісе “Новый мир” з блаславення Палітбюро і асабіста Мікіты Сяргеевіча Хрушчова, аднак у Менску лічыўся “антысавецкім”. Мне так і сказалі на тым допыце ў КДБ: “То, что позволительно в Москве, не означает, что разрешено в Минске”. Тут, бач, былі свае погляды на літаратурную творчасць... Былі і засталіся»[63].

Праміне паўстагоддзя, і Някляеў напіша раман пра тыя часы – «Аўтамат з газіроўкай з сіропам і без», у паслямове да якога Віктар Ледзенеў, журналіст, пісьменнік і адначасова адзін з персанажаў някляеўскага рамана, дадасць колькі істотных штрышкоў да біяграфіі аўтара:

«Залаты пыл юнацтва, які лятае ў пранізанай святлом прасторы *Менскага рамана* Уладзіміра Някляева, – галоўнае, што ў рамане ёсць. Хай не ўсё было так, як напісаў аўтар, але вось гэта: наша маладая рамантыка, чысціня нашых юначых парыванняў, сяброўства, кахання, музыкі, паэзіі – усё было так. І апроч смаку газіроўкі з сіропам, яшчэ адчуў я ў рамане смак паветра таго Менску – Менску пачатку шасцідзясятых, “апошніх гадоў адлігі, вясновы пах якой ледзьве даносіўся да Менску з Масквы, перацякаў з левага берага Свіслачы на правы, ад Круглай плошчы да пляца Волі, блукаў па вуліцах Маркса і Энгельса і, завіваючыся, губляўся ў псеўдаантычных калонах Тэатра юнага гледача... [...]

Пры ўваходзе ў Тэатр юнага гледача тоўпілася чалавек сорак. Каля крайняй

правай калоны, прыляпіўшыся да яе так, што, здавалася, яго ўжо ніколі ад той калоны не адляпіць, бялявенькі хлапчук у сіняй вельветавай куртачцы з замочкамі на кішэнях чытаў верш пра вайну. Нешта такое гераічнае... Не помню ні радка з таго верша, але помню, што Кім, у якога быў нюх на таленты, сказаў, што з хлопчыка можа быць толк. І, як аказалася, не памыліўся. [...]

Мы ўсе былі старэйшыя за Валодзю, для нас ён быў зусім хлопчыкам, які, саромеючыся і адчуваючы сябе сярод старэйшых не надта ўтульна, з'яўляўся ў нашай кампаніі зрэдку, кантактуючы пераважна з Кімам і са мной. З Кімам, таму што той быў гуру, а са мною, бо я займаўся радыёспортам. Зблізіла мяне з ім яшчэ тое, што ў нечым падобныя былі лёсы нашых бацькоў-франтавікоў: майго, рэпрэсаванага, і ягонага, які цудам пазбегнуў рэпрэсій.

Валодзя хацеў стаць геолагам, музыкантам, баксёрам, паэтам, астраномам, касманаўтам, радыётэхнікам, але найбольш і найперш ён хацеў стаць стылягам! І ўявіце сабе смаргонскага "стылягу" ў вельветавай куртачцы і картовых штанах побач з менскімі стылягамі ў портках-дудачках і стракатых кашулях пад шыракаплечымі пінжакамі... Адпаведна мы да яго й ставіліся: не заўважалі, часам нават крыўдзілі, але ён упарта не адступаўся ад нас – і не адступіў нават тады, калі "антысавецкай групоўкай Хадзеева" заняўся Камітэт дзяржаўнай бяспекі. Ён, 15-гадовы хлапчук (хоць і мы, 19–20-гадовыя, былі не нашмат старэйшыя), не меў да гэтай "антысавецкай групоўкі" ніякіх адносінаў, проста прыйшоў да Кіма па новую кнігу, а ў кватэру Хадзеева якраз з'явіліся "таварышы ў цывільным" зператрусам. Яны й пастанавілі: калі на хлопчыка, які чытае не тыя, якія трэба чытаць, кнігі, як след не паўплываць, дык хто яго ведае, што з яго выйдзе. Тым больш, што ў яго такі настаўнік...»[64]

«Аўтамат з газіроўкай з сіропам і без» – твор шмат у чым аўтабіяграфічны: на яго старонках і Мінск пачатку 1960-х, і Кім Хадзееў, і зайбойца амерыканскага прэзідэнта Кенэдзі Лі Харві Освальд, і сябры Някляева, і сам ён – пятнаццацігадовы студэнт электратэхнікума сувязі...

*«– З Лі Харві Освальдам Вы тады ж пазнаёміліся?*

– Так. Ён, дарэчы, файна танцаваў. Я бачыў гэта на ўласныя вочы на танцах у Палацы прафсаюзаў. Мы так не ўмелі, вучыліся... Праз гэта і пазнаёміліся, пасля яшчэ пару разоў бачыліся. Коратка і выпадкова. А вось у аповесці я прыдумаў, нібы Освальд з Хадзеевым (якога на танцах уявіць можна хіба ў вар'ятні) ледзь не сябравалі. Хаця такое магло быць: усё ў Менску 60-х было вельмі блізка, і ўсе – блізкія. Штовечар ты мог убачыць тых самых людзей ці ў кавярні "Вясна", ці ў "Ласунку", ці ў Ленінскай бібліятэцы, дзе мы збіраліся найчасцей. Старэйшыя хлопцы, Віктар Ледзенеў, Барыс Галушка, бралі ў спецаддзеле (праз знаёмых дзяўчат з бібліятэкі) замежныя кнігі. Напрыклад, Агату Крысці, якую самі перакладалі. Яны займаліся радыёспортам, кантактавалі ў эфіры амаль з усім светам, што немагчыма было без ведання ангельскай мовы. Вось у перакладах нашай "антысавецкай групоўкі" я ўпершыню і прачытаў Агату Крысці, яе дэтэктывы, надрукаваныя на тонкай-тонкай (каб як мага болей закладак у друкарскай машынцы зрабіць) папяроснай паперы...

Цяпер такога нямашака. Я не пра паперу і не пра машынку кажу. І не кажу, што гэта кепска, але не разумею, як гэта ўсё страцілася, чаму не захавалася тое, што, здавалася, усталявалася на ўсе часы, бо тады ўяўлялася, што людзі на гэтай частцы зямлі заўсёды будуць чытаць і заўсёды іх будзе найперш цікавіць слова, вобраз. І хіба можна было падумаць, што ад гэтага ўсяго застанецца, як мая маці казала, дух ды пятух?

Дарэчы, толькі зараз падумаў: а чаму яна так казала: дух ды пятух? Адкуль гэта – нават не ўяўляю... Але так сталася. І каму ў тым, што сталася, патрэбны Кім Хадзееў са сваёй хадзееўшчынай?..

*– Тое даўняе, першае ў Вашым жыцці знаёмства з КДБ мела нейкія псіхалагічныя наступствы для Вас?*

– Страх, канешне, быў, але маладосць ёсць маладосць. Яна адмятае, страсае негатыўнае. Той страх пратрымаўся, можа, месяцы тры, а пасля прапаў – не чапаюць жа, хаця і пагражалі. Дый што я такога зрабіў, каб надта баяцца? Прыйшоў да Хадзеева па кніжку?.. А скуль я ведаў, што тую кніжку нельга чытаць? На ёй не было напісана: антысавецкая.

*– А сцэна допыту, апісаная Вамі ў рамане "Аўтамат з газіроўкай з сіропам і без", дакументальная ці ўсё ж мастацкая?*

– Вядома, мастацкая. Але на дакументальнай аснове. Скажам, пра тое, дзе я ўзяў дэталі, каб сабраць радыёстанцыю, мяне рэальна спыталі – і я рэальна спалохаўся. Бо кандэнсатары, рэзістары і лямпы – не кніжкі. Іх не ўзяць у бібліятэцы. І ў крамах іх, каб купіць, не было. Радыёдэталі можна было ўзяць (што азначала: украсці, – але не казалі "ўкраў", а казалі "ўзяў на рабоце") толькі ў адным месцы: на радыёзаводзе. Мяне і пачаў следчы дапытваць: як ды праз каго (бо сам жа я на тым заводзе не працаваў) я дэталі займеў, а гэта ж крымінал. Суд. Турма. Лямпы з кандэнсатарамі ляжаць у мяне пад ложкам у інтэрнаце – дастаткова следчаму некага паслаць... Але тут яму патэлефанавалі, і допыт раптоўна, як і напісана ў аповесці, скончыўся. Гэбэшнік на развітанне сказаў: "Мы ещё будем с тобой здесь встречаться..."»[65]

І сапраўды сустрэліся. Праўда, праз шмат гадоў. Не з ім, але – там жа. Варажбіт ён, вядзьмак – той следчы. Гэта калі мераць някляеўскімі катэгорыямі.

## МАСКВА

«Тым часам усур'ёз спакусіла паэзія, – пісаў у адной з аўтабіяграфій Някляеў. – Кінуў работу – і рвануўся ў Маскву, у Літаратурны інстытут. Творчы конкурс быў – каля сотні чалавек на месца»[66].

Паступаць у Літінстытут паехаў Някляеў з рэкамендацыйным лістом Янкі Брыля, лаўрэата Сталінскай прэміі і Літаратурнай прэміі імя Якуба Коласа, а, паступіўшы, вяртаўся ў Мінск з лістом... да Брыля:

«Уважаемый Иван Антонович!

Вы написали в институт доброе слово о молодом поэте Владимире Некляеве. Мы его приняли – и сейчас он у меня в семинаре.

Но у парня осталась семья в Минске. У него сложности с бытом.

М[ожет] б[ыть], поддержите его и в этом? Напишете председателю Фрунзенского исполкома несколько добрых слов? Если, конечно, не трудно.

Желаю здоровья и радостей.

*Лев Ошанин*

*21 сентября 1971 г.*»[67]

Аднак ліст славутага ў тыя часы паэта, члена праўлення СП СССР і таксама лаўрэата Сталінскай прэміі, Някляеў Брылю не перадаў – сам вырашыў свае праблемы...

І ўвесь гэты час (спачатку пакуль паступаў, пасля – пакуль вучыўся) пісаў дадому, пісаў той, якую кахаў:

«*30.08.71 г.*

[...] Пишу торопясь. Сегодня было собеседование, первый экзамен (сочинение) 2-го. Потом история 4-го, нет, история 6-го, а 4-го устный яз[ык] и лит[ература], и 8-го немецкий. 10-го буду знать, поступил или нет. [...]»[68]

*«1.09.71.*

[...] Комната моя 136-я. Немного замызганная, зато относительно тихая, окно во двор. На сессии жил [в комнате], в которой окно на улицу, всю ночь рёв, никакой жизни.

Есть у меня панцирная кровать, письменный стол, лампа настольная, кресло с высокой спинкой (чтоб не сутулился, сидя), тумбочка. Видишь, сколько мебели.

Очень мне без тебя грустно. Мне без тебя всегда грустно, а поначалу просто невмоготу. Быть с тобой рядом – это как каждый день получать дорогие подарки. Я люблю тебя.

Сейчас вечер, 10 часов, я сижу один, горит лампа, полутемно, и я представляю, что ты здесь, сидишь у меня за спиной, за другим столом, и вот-вот подойдёшь ко мне, и положишь на плечи руки, и скажешь: “Лапа, скажи что-нибудь”. Солнышко моё, Людмила моя.

Бог знает, какие совершим мы ошибки, Бог знает, какие радости и горести суждены нам, но не будет радости выше радости быть любимым тобой, и не будет горести страшнее горести оказаться этой любви недостойным. Ценой любых страданий да убережёт меня судьба от этого.

На курсе нас 45 человек. На общих лекциях занимаемся все вместе. Тут и дагестанцы, и балкарцы, есть даже болгары твои, и все, конечно, гении, все приехали покорять Москву. Есть и славные ребята, но и, как здесь говорят, шушеры много.

Сквозь всё это пробиться нужно. Для этого характер нужен, зубы нужны. А ты ведь знаешь, какие у меня зубы. Делать нечего, буду натачивать. Буду помнить о тебе. Ты моя живая вода, живая сила. [...]

Выпивают в этом общежитии действительно здорово. Пьёт и мужской, и женский пол. Страсти кипят, как яйца в кастрюле, из окон бросаются. Я, правда, ничего такого ещё не видел, но, говорят, увижу.

Пока мне пишется не очень, не привык ещё, всё чужое. Но обязательно распишусь, обещаю.

Такие вот пока пироги.

Пусть ты мне приснишься сегодня».

*«6.09.71 г.*

[...] Вот я и прожил без тебя целую неделю! Без тебя и всё-таки с тобой, потому что ты здесь, возле меня и во мне. И тебя из меня никому не вырвать. Потому что не может быть силы сильнее моей любви к тебе. [...]

Живу я уже вдвоём, с ханты-манси, но он парень ничего, тихий. Одному никак не получилось, ну да ничего. Хорошо было бы, конечно, снять квартиру, а ещё лучше заиметь свою, да где уж. Тут ребятам на пятом курсе Союз писателей и работу хорошую даёт, а прописки нет и приходится им мыкаться. А мне ещё до этого дожить надо, да ещё без тебя, моей принцессы с золотыми волосами.

Отходил вот неделю (почти) на лекции. Лекции разные, в зависимости от преподавателя. Есть нудные, а есть и славные.

Стихи пишу пока так себе. Но пишу. [...]»

*«[27* сентября *1971 г.]*[69]

[...] Ночь сейчас. 3 часа. Ты спишь. Спи спокойно-спокойно. А я постою рядом, нет, лучше сяду на краешек кровати. И поправлю одеяло, а то оно наползло тебе прямо на нос. Осторожно поправлю, чтобы ты не проснулась. А то проснешься, заморгаешь глазёнками и ничего не поймёшь, откуда я взялся. Спросишь только: “Снишься, да?” И я скажу: “Да”, – а на самом деле нет. Потому что ты проснёшься и всё равно не поверишь, что я ночью приходил, чтобы утром уйти. А я приходил. Только мне жаль было будить тебя.

Доброе утро, моя хорошая. Ты говорила, чтобы я не писал тебе абстрактных писем. Ирреальных. Но всё реальное вместе взятое не стоит прикосновения твоих пальцев. “Несметные полчища Карфагена тонут в пыли твоих сандалий”. Это Гюстав Флобер. Ирреально, но очень славно.

А реально что? Получил стипендию и десятку пропил вчера как последний сукин сын. На этом самом дне рождения. Чтоб их всех.

Сегодня в Москве очень солнышко было. Полдня ходил по паркам. Всё думал, думал. Знаешь, осень, жёлтые листы, жизнь и смерть, такая чепуха. А как только не чепуха – значит, ты, значит, о тебе. Я сегодня любил тебя весь день без секундного перерыва. И долюбил вот до трёх часов. [...]»

«*4.10.71.*

...сегодня в Москве снег. Утром глаза распёр – летит. Сон, думаю, ведь только начало октября.

Пошли, наконец, стихи.

***ОДИНОЧЕСТВО***

В доме напротив женщина мыла окно.
С бёдер прозрачно ночная сорочка струилась.
Он подошёл. Она к нему наклонилась.
В доме напротив женщина мыла окно.
Больше в тот день у меня ничего не случилось.

[...] В следующий вторник я обсуждаюсь на семинаре. [...]

Сегодня у нас вечер дружбы со студентами Лейпцигского литинститута им. Бехера. Они нам на немецком стихи будут шпарить, а мы им на русском. Я также шпарить буду. И ишчо Р. Рождественский. [...]»

«*30.10.71.*

Сегодня звонил тебе, но автомат жрал мои монеты, а моего голоса в Минске слыхать не было. Там говорили “алло”, “алло”, но это был не твой голос [...].

Любимая моя, я опять по тебе тоскую страшно, и мне всё это дело надоело, я люблю тебя, я не выдержу и брошу всё к чертям собачьим. [...]

Я как подумаю о тебе, маленькой, одной, спазмы в горле... Я, наверно, сволочь, зачем я каждую минуту не рядом с тобой. Хоть и толку с меня... И любовь твоя – разве это моя заслуга? Это просто моё виденье, и просто невероятно, что мне так повезло. [...]»

«*11.01.72.*

[...] Экзамен я первый сдал (5), зачёт здесь ещё один сдал, осталось 3 экзамена: античная, новая история и языкознание. Сдадим и поедем. [...]

У вас, наверно, там (поелико ты не работаешь) безденежье? [...] Если в этом году как-то это дело не наладится – воровать пойду. Одну сберкассу тут я уже заприметил. Можем и всей семьёй попробовать: мы с тобой замок ломать будем, а Илона на шухере стоять.

В этом году я люблю тебя по-прежнему, только на год больше и сильней. Я несказанно люблю тебя, моя девочка.

Если бы за любовь можно было купить хлеба и мяса, я бы каждый день высылал тебе один перевод на 1000 любовей. [...]»

*«18.05.72.*

[...] И опять “исстрадалси” я по тебе страшно, и люблю тебя по-прежнему, только ещё сильней.

23-го Никсон в Москву приезжает, а что мне Никсон, лучше бы ты приехала. [...]»

*«[7 сентября 1972 г.]*[70]

Никак не могу написать толкового письма, каждый день что-то меняется. На ту работу меня уже не берут, «подсидел» меня мой земляк. Ищу другую, вроде уже наверняка нашел, сейчас пойду с заявлением. Ты здорово права насчёт «пихания локтями», даже в дворники пихаются.

По ночам думаю: надо ехать домой. Лапа, напиши, что надо. Меня бы “пихнуть”, и я [бы] уехал. Уже надоело».

*«3.10.73 г.*

[...] К последним дням понемножку делаю “дела”. Сдал в издательство книгу, отнёс подборку стихов в журнал “Юность” – взяли. Удивительно [...].

Сегодня-завтра хочу зайти в “Сельскую молодёжь”, ещё, может, в какой журнальчик, в общем – “застолбиться”.

В институте всё в порядке. Оказывается, нужно было контрольные работы к этой сессии писать, иначе к зачётам не допускали. Но я без контрольных. Сказать честно: сдал три зачёта, не сказав ни слова... Институт!

Если до этого приезда в Москву и были ещё какие-то сомнения в сделанном (очное-заочное), то теперь никаких. [...]

Обсуждали меня на семинаре у Лёвы, так сказать, на прощанье. А завтра обсуждаюсь уже в новом семинаре, у Дементьева. А числился-то я весь этот год, как заочник, в семинаре Рождественского. Но он из института ушёл. [...]

Живу я у Сосновского, он дворником теперь в институте и имеет дворницкую, сплю похабно на полу, без простыней и в штанах. Зато институт рядом и не нужно каждый день пить водку, как в общежитии. [...]

Можно было бы жить и повеселей (Александровская, её письмо и беловежская), друг её и билеты всякие предлагал, и увеселения, только, мол, позвоните, но както нет у меня этого умения “по связям да по блатам”, да и времени с желанием. А больше всего – неловко. И бог с ним, мне бы только работалось. А вот осень, осень моя уходит, уже октябрь, такая печаль...

В воскресенье приезжаю и буду тебя нежно любить, славную и единственную. Ты мой друг, любовь, а прочее всё – такая мелочь... Кроме, конечно, настоящей работы.

Прости, что так неаккуратно пишу, лёжа и на полу, темно. Здесь, в дворницкой, всегда темно, а я, какой ни есть смурной, люблю свет. Высокий свет.

Тебя люблю».

*«14.06.77 г.*

[...] В Литинституте также обучаются гении, нам уже не знакомые. Зашёл, думал относительно продолжения образования поговорить, да у дверей прикинул: читать-писать умею, что ещё надо служащему из крестьян? [...]»

Гаворачы аднойчы пра Ігара Шклярэўскага,[71] які, нарадзіўшыся на Беларусі, паэтычную славу здабыў у Маскве, Някляеў казаў нібы і пра сябе, а дакладней – пра тое, чаму не стаў, не здолеў стаць масквічом.

«– Шклярэўскі з’ехаў з тым здабыткам, які займеў тут. Ужо першая ягоная публікацыя ў так званым саюзным друку зрабіла яго лаўрэатам часопіса “Смена”. І ён апынуўся ў Маскве ў сітуацыі, якую не кожны беларус вытрымаў бы. Трэба

ведаць той час: прабіцца ў Маскве ва ўсесаюзную літаратуру было не лягчэй, чымсьці сёння патрапіць на вяршыню ўлады. Усё было размеркавана, усе ведалі, хто геній, а хто не. Шклярэўскі праявіў унікальны характар, бо, застаючыся магілёўскім ваўчуком, ні з якой літаратурнай групоўкай не звязаўся. Не было ў яго і сваіх (“запісных”) крытыкаў. Ён сам здолеў прагрызці маскоўскае мяса – злое, з жыламі, з косткамі, якое ўсяляк адштурхоўвала яго![72] Там з табой не цацкаюцца, накшталт: “Ой, Валодзя, які харошы ты верш надрукаваў! Дай я пра цябе напішу!”, – а адразу ў лоб – бах! Пасля – па мордзе!.. Але ачуньваеш і зноў назапашваеш у сабе злосць: так, жыццё – рэч няпростая, у ім трэба ўвесь час рухацца, упірацца, не думаць, што здабытае – гэта ўсё назаўсёды.

Я таксама чыста інтуітыўна рваўся ў Маскву. Гэта была сталіца імперыі, той горад, у які з усяго вялізнага абшару сцягваліся самыя лепшыя мастакі і літаратары. Іншага шляху вылучыцца, “выбіцца ў людзі” не існавала. Немагчыма было рэалізаваць сябе ў такой прасторы дзе-небудзь у Жмерынцы!

*– Вы часта задумваліся пра тое, каб з’ехаць у Маскву?*

– Не, усур’ёз – толькі аднойчы. І з’ехаў – у Літаратурны інстытут. Аднак, у адрозненне ад Шклярэўскага, не знайшоў у сабе характара, каб так змагацца за сваё месца пад маскоўскім сонцам. Я зразумеў, што калі ўлезу ў гэтую бойку, дык ні на што іншае часу ўжо не застанецца. Хоць тагачасная Масква давала вялікія магчымасці для таго, каб самасцвердзіцца. Я быў не зусім дурным хлопцам і мог займацца журналістыкай: для мяне не існавала праблемы ўладкавацца ў тую ж “Комсомолку”, што было вельмі прэстыжна. Альбо нават пайсці на тэлебачанне, што таксама было няпроста. Аднак калі я патрапляў унутр гэтай кухні – журналісцкай, літаратурнай, дык сустракаўся з той рэальнасцю, якую пасля назіраў на XXVI з’ездзе КПСС. Атрымлівалася, што гэта будзе каштаваць мне ўтрая даражэй. Таму і не выйшаў з мяне масквіч. І, мабыць, яшчэ па прычыне маёй “беларускасці”, паколькі яна ўва мне пераважае. Мне здалося, што больш свайго я знайду тут, у Беларусі.

*– Вы сказалі пра канкурэнцыю, пра барацьбу ў літаратурным асяродку. А навошта Вам патрэбна гэтая мітусня?*

– Таму, што калі ты нейкім чынам асобна не абазначыўся ў гэтым вадавароце, дык цябе маглі і не заўважыць. Талентаў зашмат – кландайк! Іх столькі пахавана! Гэта ж кожны пастух вершы пісаў! Прычым, вельмі добрыя вершы. І, напрыклад, лёс Рубцова склаўся ўдала: паступіў у Літінстытут, затым пайшлі скандалы – залез на помнік Пушкіну, хуліган! Аднак, высвятляецца, што “хуліган” добрыя вершы піша. Да таго ж знайшоўся чалавек (у дадзеным выпадку Вадзім Кожанаў), які пачаў гэтую справу раскручваць. Рубцова зблізілі з Ясеніным. Так і “зляпіўся” паэт. Не, ён, вядома, таго варты, аднак гэта справа выпадку, удачы. Але ж ён не адзін быў! Таму і трэба абазначыць сябе не толькі талентам, а неяк яшчэ, бо інакш пра цябе ніхто не даведаецца.

*– Працай кажучы, Вам не хацелася пісаць у стол?*

– Ну так. *(Усміхаецца.)* Можна і так сказаць»[73].

Згадваючы часы літінстытуцкай вучобы, Някляеў казаў: «...чамусьці менавіта там, у Маскве, стаў пісаць толькі па-беларуску. Усё па-беларуску, апроч вершаў, якія рыхтаваў для абмеркаваньня на творчых семінарах, і таму пісаў іх, каб не тлуміць нікому галаву падрадкоўнікамі і перакладамі, на рускай мове»[74]. Таму, відаць, мела рацыю Людміла Рублеўская, калі пісала, што «з Масквы Някляеў вярнуўся беларускім паэтам», хоць «у Літаратурным інстытуце імя Горкага, у гэтым своеасаблівым савецкім Бабілоне, лёгка было спакусіцца і паспрабаваць сцьвердзіцца ў вялікай літаратуры на мове міжнацыянальных зносінаў, гэта значыць, на расейскай...»[75]

Іншым жа разам Някляеў распавядаў: «Жыццё пайшло багемнае. Нейкія

камуналкі, сутарэнні, гарышчы... Яшчэ жывыя стылягі і ўжо з'яўляюцца хіпі. На складах тытунёвай фабрыкі “Дукат” яны адзін з адным б'юцца. Усюды п'юць гарэлку і спрачаюцца пра рускую ідэю. І ўсе, як мінімум, геніі. Простых няма. І раптам я пытаюся ў сябе: “А што я тут раблю?..”»[76]

Аднак гэта была, безумоўна, не адзіная і, калі па шчырасці, нават і не галоўная прычына, з-за якой увосень 1972-га Някляеў, перавёўшыся на завочнае аддзяленне, пакінуў Маскву[77]...

*(Працяг будзе)*

---

[1] Някляеў У. Праз лес, праз лёс: папулярны біяграфічны нарыс / Някляеў У. Выбраныя творы / уклад., камент. В. Болдыравай; прадм. Р. Барадуліна. Мінск: Кнігазбор, 2010. С. 443.

[2] Някляеў У. Знакі прыпынку / Някляеў У. Выбраныя творы. С. 519.

[3] Акудович В. Владимир Некляев: «С небес не спускайтесь, звонарь и поэт...» / беседа с В. Някляевым // Нёман. 1996. № 7. С. 10.

[4] Някляеў У. Цуды ўсе ў адным-адзіным цудзе: спроба аўтабіяграфіі / Някляеў У. Выбраныя творы. С. 544.

[5] Адзін з братоў маці Някляева, Магер Мікалай Іванавіч (1921—2011), з паваеннага часу жыў у Польшчы, служыў у польскім войску.

[6] Някляеў У. Выбраныя творы. С. 543—544.

[7] Някляеў У. Так: кніга паэзіі. Мінск: Выд. В. Хурсік, 2004.

[8] Іншым разам Някляеў распавядаў:

«— Батька был председателем сельсовета. А жена председателя не могла рожать в поле. Поэтому маму отвезли в Сморгонь, она родила — и нас обоих тут же депортировали на родину...

*— В ту хату, куда мы едем?*

— Тоже не совсем.... Эта хата — третья на том самом месте. Две сгорели. А эту дед поставил на прежнем фундаменте, фундаментальный был человек, в середине 50-х. Я уже в школу ходил» [у аснову цытаванай тут гутаркі з Някляевым пакладзена публікацыя: Лободенко Г. Владимир Некляев: Я ўсё жыццё цягаю камяні на Крэўскі замак... // «Комсомольская правда» в Белоруссии. 2004. 30 июля, якая ў 2006 г. была пашырана Някляевым, таму тут і далей друкуецца пад назвай «Некляев в детстве был “немцем”» паводле электроннага носьбіту з асабістага архіва Ул. Някляева (далей — архіў У. Някляева)].

[9] З аўтабіяграфіі Някляева У. П. ад 15 сак. 1978 г. Аўтограф. Арыгінал. Асабістая справа пісьменніка Някляева У. П. Саюз беларускіх пісьменнікаў (далей — СБП).

[10] Крэва — мястэчка ў Смаргонскім раёне Гродзенскай вобласці, знакавае месца беларускай гісторыі: у 1385 г. у Крэўскім замку была падпісана дамова паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Польскім Каралеўствам (Крэўская унія).

[11] З паэмы «Даведка аб нараджэнні» (1978—1979); гл.: Някляеў У. Паэмы: зборнік. Мінск: Лімарыус, 2010. С. 30.

[12] Някляева Анастасія Іванаўна (у дзявоц. Магер; 1919—1993) — ураджэнка мястэчка Крэва Смаргонскага раёна Гродзенскай вобласці.

[13] Магер Іван Маркавіч (1887—1975).

[14] Някляеў У. Выбраныя творы. С. 545—546. Іншым разам Някляеў гаварыў: «Деда Яся в Креве называли Святым. И хоть прежде всего именно он, а потом уже родители, обозначил во мне то, что называется духовным влиянием, в пять лет научив меня читать не по букварю, а по Библии, — мне до него далеко. Как букварю до Святого Писания» (Лободенко Г. Некляев в детстве был «немцем». Электронны носьбіт з архіва У. Някляева).

[15] Някляеў У. Выбраныя творы. С. 542.

[16] Шымановіч В. Чалавек, які ўнутры / інт. з У. Някляевым // Культура. 1994. 28 снеж.

[17] Акудович В. Владимир Некляев: «С небес не спускайтесь, звонарь и поэт...» // Нёман. 1996. № 7. С. 5 —6.

[18] Машынапісная копія за подпісам П. Някляева. Подпіс — арыгінал. Архіў У. Някляева.

[19] Іншым разам Някляеў гаварыў: «Неблагородная цель — разрушать вековой быт и создавать совершенно иной уклад. Я до сих пор чувствую вину, непонятную для меня самого, за отца и переживаю её, как свою собственную» (Беляцкая М. Без вины виноватый В. Некляев / инт. с В. Некляевым // Свободные новости. 2001. 1—8 июня).

[20] Акудович В. Владимир Некляев: «С небес не спускайтесь, звонарь и поэт...» // Нёман. 1996. № 7. С. 9.

[21] Лободенко Г. Некляев в детстве был «немцем». Электронны носьбіт з архіва У. Някляева.

[22] Владимир Некляев думает про Беларусь / инт. С. Шапрана с В. Некляевым // «Комсомольская правда» в Белоруссии. 2000. 20 окт.

[23] З інтэрв'ю У. Някляева 6 крас. 2010 г. Зеленкова А. Владимир Некляев: Я стоял на митинге БНФ, а потом шёл в администрацию президента, где собирали всех главных редакторов и учили, как бороться с БНФом // Электронны рэсурс: http://www.gazetaby.com/index.php?sn_nid=27860&sn_cat=35

[24] Акудович В. Владимир Некляев: «С небес не спускайтесь, звонарь и поэт...» // Нёман. 1996. № 7. С. 8.

[25] З гутаркі аўтара кнігі з У. Някляевым. Студзень 2012 г.

[26] Іншым разам Някляеў гаварыў: «Мама, Анастасия Ивановна, прожила с ним совершенно несвойственную ей жизнь. Бытом она была с отцом, а духом оставалась с дедом. Родила двоих детей, противоречить отцу не имела сил, и спасение она искала в вере. Отец, как член партии и государственный служащий, страшно ругался, но она всё равно тайком ходила в церковь» (Беляцкая М. Без вины виноватый В. Некляев // Свободные новости. 2001. 1—8 июня).

[27] Акудович В. Владимир Некляев: «С небес не спускайтесь, звонарь и поэт...» // Нёман. 1996. № 7. С. 8—9.

[28] Лободенко Г. Некляев в детстве был «немцем». Электронны носьбіт з архіва У. Някляева.

[29] Ліст без даты. Аўтограф. Арыгінал. Архіў У. Някляева.

[30] Родны брат У. Някляева — Някляеў Іван Пракопавіч (нар. у 1951); жыве ў Смаргоні.

[31] Някляеў У. Выбраныя творы. С. 481—482.

[32] Някляеў У. Матчына мова, матчына песня / Паслаў бы табе душу...: ліставанне Рыгора Барадуліна з мамай (1954—1971) // уклад. Н. Давыдзенкі, С. Шапрана; прадм. У. Някляева. Мінск: Лімарыус, 2009. С. 6.

[33] Някляеў У. Выбраныя творы. С. 22.

[34] Някляеў У. Дарыце ўсмешкі // Беларусь. 1984. № 6. С. 1.

[35] Паводле электроннага рэсурсу: http://www.nekliaev.org/be/biography.html

[36] Владимир Некляев думает про Беларусь / инт. с Шапрана с В. Некляевым // «Комсомольская правда» в Белоруссии. 2000. 20 окт.

[37] Някляеў У. Выбраныя творы. С. 546.

[38] Някляеў У. Чмель і вандроўнік / Някляеў У. Выбраныя творы. С. 242—244.

[39] Акудович В. Владимир Некляев: «С небес не спускайтесь, звонарь и поэт...» // Нёман. 1996. № 7. С. 6.

[40] Някляеў У. «Я яшчэ жыву...» / Шчыра як на духу. Споведзі вядомых людзей Беларусі: зборнік / пад рэд. Н. Гілевіча. Мінск: ГА БТ «Кніга», 2001. С. 305.

[41] З інтэрв'ю У. Някляева радыё «Свабода» 16 лістап. 2004 г. Скобла М. Уладзімер Някляеў: Звышпіетэтныя адносіны з народам у мяне скончыліся // Электронны рэсурс: http://www.svaboda.org/content/transcript/788793.html

[42] З інтэрв'ю У. Някляева радыё «Свабода» 19 студз. 2008 г. Скобла М. Уладзімер Някляеў: У нас зашмат фаталізму й замала волі // Электронны рэсурс: http://www.svaboda.org/content/transcript/871884.html

[43] Някляеў У. Аблачынка / Някляеў У. КОН: вершы двух стагоддзяў. Мінск: Лімарыус, 2011. С. 20.

[44] Лободенко Г. Некляев в детстве был «немцем». Электронны носьбіт з архіва У. Някляева.

[45] У Кіеўскі геолагаразведачны тэхнікум.

[46] Някляеў У. Выбраныя творы. С. 546—547.

[47] Масквін А. Уладзімір Някляеў: Адолець звычку жыць... / гутарка з У. Някляевым // Дзеяслоў. 2009. № 6 (43). С. 275.

[48] З аўтабіяграфіі Някляева У. П. ад 15 сак. 1978 г. Аўтограф. Арыгінал. Асабістая справа пісьменніка Някляева У. П. СБП.

[49] Някляеў распавядаў: «Отец желал, чтобы я стал ветеринаром. Только ветеринаром и больше никем. Я и сейчас не совсем понимаю, откуда блажь в нём взялась такая, не стыкующаяся с характером» (Лободенко Г. Некляев в детстве был «немцем». Электронны носьбіт з архіва У. Някляева).

[50] Падчас вучобы Някляеў іграў на цымбалах і кантрабасе ў аркестры народнай музыкі імя Агінскага (паводле электроннага рэсурсу: http://www.nekliaev.org/be/biography.html). Ён распавядаў: «Но вышло без толку, мы зря молока лишились — серьёзно в музыку я так и не втянулся. Наивысшим достижением осталась игра на контрабасе в оркестре народных инструментов. Нас даже возили в Минск и показывали по телевидению — вся Сморгонь видела!

Когда я весь в славе, как петух в перьях, вернулся домой и прокукарекал гоношисто: мол, видали я каков? — дядька Петька, мамин брат, тут же меня срезал: "Ды бачылі,

не сляпыя... Ад балота пад тваімі пазногцямі струны на кантрабасе чорнымі былі”» (Лободенко Г. Некляев в детстве был «немцем». Электронны носьбіт з архіва У. Някляева).

[51] Някляеў У. Выбраныя творы. С. 547, 548.

[52] Зеленкова А. Владимир Некляев: Я стоял на митинге БНФ... // Электронны рэсурс: http://www.gazetaby.com/index.php?sn_nid=27860&sn_cat=35

[53] З гутаркі аўтара кнігі з У. Някляевым. Сакавік 2012 г.

[54] Владимир Некляев: Бороться нужно не за власть... / беседа А.-А. Ксеневич // Туризм и отдых. 2006. 27 июля.

[55] З гутаркі аўтара кнігі з У. Някляевым. Сакавік 2012 г.

[56] Зеленкова А. Владимир Некляев: Я стоял на митинге БНФ... // Электронны рэсурс: http://www.gazetaby.com/index.php?sn_nid=27860&sn_cat=35

[57] Шкляревский И. Избранное: стихотворения и поэмы. М.: Художественная литаратура, 1984. С. 5.

[58] Паводле гутаркі аўтара кнігі з У. Някляевым. Сакавік 2012 г.

[59] З гутаркі аўтара кнігі з У. Някляевым. Сакавік 2012 г.

[60] Евтушенко Е. «Думать так, чтобы все возвышались...»: О шестидесятнике Владимире Некляеве [предисловие] / Некляев В. Окно. С. 6—7.

[61] Электронны рэсурс: http://www.nekliaev.org/be/biography.html

[62] Фрагмент апавядання «Тайшэт» У. Някляева. Электронны носьбіт з архіва У. Някляева.

[63] З гутаркі аўтара кнігі з У. Някляевым. Студзень 2012 г.

[64] Ледзенеў В. Вуліца Ӯладзімір Някляева / Някляеў У. «Аўтамат з газіроўкай з сіропам і без: раман. Мінск: А. А. Калоша, 2012. С. 302, 303—304, 308.

[65] З гутаркі аўтара кнігі з У. Някляевым. Студзень 2012 г.

[66] Аўтарызаваны машынапіс. Арыгінал. Архіў У. Някляева.

[67] Аўтограф. Арыгінал. Архіў У. Някляева.

[68] Тут і далей у гэтым раздзеле лісты Някляева да жонкі Някляевай Людмілы Аляксандраўны (у дзявоц. Гембіцкая; нар. у 1940) друкуюцца паводле аўтографаў арыгіналаў, якія захоўваюцца ў асабістым архіве Л. Някляевай (далей — архіў Л. Някляевай).

[69] Ліст без даты, датуецца па штэмпелі на канверце.

[70] Ліст без даты, датуецца паводле штэмпеля на паштовай картцы.

[71] Некляев В. Праздник шамана [вступ. статья] / Бородулин Р. Перакуленае / Опрокинутое. М.: Время, 2010. С. 7.

[72] Пазней Някляеў напіша пра Шклярэўскага: «У яго невыносны характар. Але ў невыносным характары ягоным — неверагодная сіла. Таму няшмат знойдзецца людзей, якія б, ведаючы Шклярэўскага, яго не паважалі.

Калі б ён быў іншы, Масква, якую прыехаў ён некалі заваёўваць, даўно б яго пережавала і выплюнула. Але паспрабуй перажаваць цвік» (Някляеў У. Выбраныя творы. С. 511). Шклярэўскі, які стане перакладчыкам паэзіі Някляева, зробіць красамоўны дарчы надпіс у адной са сваіх кніг: «Прекрасному Некляеву — навсегда! *Игорь Шкляревский. 23/III—1982 г.*» (дарчы надпіс на кнізе: Шкляревский И. Брат: новая книга. М.: Молодая гвардия, 1982). Апроч таго Шклярэўскі прысвяціў Някляеву верш «Ну что нам стоит до парома...»

[73] З гутаркі аўтара кнігі з У. Някляевым. Кастрычнік 2000 г. Часткова надрукавана: Владимир Некляев думает про Беларусь // «Комсомольская правда» в Белоруссии. 2000. 20 окт.

[74] Масквін А. Уладзімір Някляеў: Адолець звычку жыць... // Дзеяслоў. 2009. № 6 (43). С. 275.

[75] Рублеўская Л. Маланка і пчала: штрыхі да творчага партрэта Уладзіміра Някляева // Дзеяслоў. 2008. № 3 (34). С. 299.

[76] Электронны рэсурс: http://www.nekliaev.org/be/biography.html

[77] Вучобу ў Літінстытуце Някляеў кінуў на 4-м курсе, восенню 1973 г.

Аляксей Каўка



...не безнадзейнай бачылася гістарычная перспектыва забранага, татальна русіфікуемага краю...

# Постаць у прасторы нацыянальнага асветніцтва

***Слова пра Браніслава Эпімах-Шыпілу***

**Памяці Рыгора Семашкевіча**

*У часопісе “Варта” (№ 1. Менск, 1918) абок яго фотаздымка А. Саросек падаў сціслую персаналію, адзначыўшы дабрадзеянні піцерскага беларуса, які слыве “аўтарытэтным беларускім Нестарам, да якога ідуць за парадай ці помаччу ўсе, у ком гарыць беларускае сэрца”. “Нестар” наш не пакінуў па сабе сведчанняў кшталту скуль пайшла зямля беларуская, сталася ёсць. Тым не менш, з гэтага допісу пачынаецца шыпілаўскі раздзел у беларускай гуманістыцы, прырошчаны пазней напрацоўкамі кс. А. Станкевіча, С. Александровіча, Р. Семашкевіча, Ю. Туронка, Г. Кісялёва, Л. Васілеўскай, І. Багдановіч, Ул. Содаля, Г. Запартыкі, Я. Янушкевіча, зборнікам Шыпілаўскіх чытанняў (Беларусіка-Albaruthenika. Кн. 15. Мн., 2000). З таго апошняга прапаную свае, дапоўненныя, разважанні над постаццю Беларусіна-адраджэнца – чарговае “ахвяры” тутэйшых інтэлектуалаў (гл. “Да гісторыі міфа” – “Новы час”. “Літаратурная Беларусь”. № 12 (88). 20 снеж. 2013. С. 21 ).*

*Магчыма прапанаваныя ніжэй старонкі зацікавяць каторага чытача "Дзеяслова". Прынамсі, аднаго з дапытлівых, даўно пасталелых юнакоў, чый, адвольна "міфаабвяргальны" вердыкт на адрас аўтара першай "Беларускай хрэстаматыі", сузаснавальніка выдавецкай суполкі "Загляне сонца і ў наша ваконца", духоўнага апекуна-настаўніка беларускай творчай моладзі, ахвярнага дзеяча-пакутніка нацыянальна-адраджэнскага руху, мейма надзею, не стане апошнім словам у шыпілазнаўстве.*



*Браніслаў ЭПІМАХ-ШЫПІЛА*

***

Снежаньскім надвячоркам 1925 г. у Інстытуце беларускае культуры на вуліцы Койданаўскай (цяпер Рэвалюцыйная, 15) ладзілася ўрачыстасць з нагоды 400- годдзя беларускага кнігадрукавання. Старшыняваў на сходзе Аркадзь Смоліч, з аказійным рэфератам выступіў Мітрафан Доўнар-Запольскі. Колькі ўзрушлівых слоў адносна культуровае спадчыны прамовіў Браніслаў Эпімах-Шыпіла, адкрыўшы бюст Францішка Скарыны. Адчувалася ў тым кранальным дзеянні штось знамянальна гістарычнае. Беларусь вярталася на свой адвечны шлях – адраджала ўласную дзяржаўнасць, занядбаныя духоўныя традыцыі, вяртала імёны забытых пракрокаў, клікала да аднаўленчае працы ў сваім Доме расцярушаных па свеце сыноў і дачок. Мабыць, і ў асабістым лёсе піцерскага Беларуса той момант вяртання стаўся момантам ісціны. Незрушонае праўды, адбітае ў векавечных скарынавых радках: гэтак жа й людзі, нарадзіліся дзе і "ускормлены суть по Бозе", да мясціны тае ласку маюць. Хаця праз тую ж самую сутнасць і ласку – ахвярнае слугаванне Радзіме, люду паспалітаму, беларушчыне – другі наш Палачанін, з-пад Ветрына, па нядоўгім часе, на тым жа беразе Нявы, спазнае на сконе ў старэчай самоце трагічную гаркату выгнанніка-беспрытульца. Каб знову і ўжо назаўсёды сімвалічна вярнуцца ў абсягі Бацькаўшчыны, па якой скрозь неадольна трапятала яго, жывога, неспакойнае сэрца [1].

Канцэптуальнага асэнсавання заслугоўвае markedly рознапрофільны характар гэтае неардынарнае асобы: дзеяч культуры, выдавец, фальклярыст, мовазнавец – паводле энцыклапедычных, здараецца, не ва ўсім дакладных даведнікаў. Можна дадаць: паліглот, збіральнік літаратурных рукапісаў, бібліяфіл, а галоўнае – нацыянальны асветнік.

Адносна асветніцтва – сталае тыпалагічнае дамінанты беларускай адраджэнча-вызвольнай традыцыі. Эпімах-Шыпілу выпала здзейсніцца тут у якасці і пераемніка, і наватара. Сын збяднелага, спаланізаванага шляхціча, набыўшы ўніверсітэцкі дыплом кандыдата гісторыі і філалогіі, пачынае доўжыць асветніцкую працу папярэднікаў, г. зв. краёвых, або польска-беларускіх дзеячоў. І ён жа адольвае ўласцівае ім нацыянальна-культуровае, моўнае раздваенне паміж Літвой-Беларуссю і Польшчай, паміж беларушчынай, "літвінствам" і польскасцю. Даканаўшы адназначна беларускага выбару, паслядоўна кіруецца ў сваіх творчых дзеяннях адпаведным інтарэсам. Тым болей. Пры ўсёй гістарычнай значнасці напрацаванага літаратарамі, асветнікамі-краёўцамі – прадвеснікамі і прамымі будзіцелямі беларушчыны, беларускага духу (Я. Баршчэўскі, Чачот, Вярыга-Дарэўскі, Ляскоўскі, Сыракомля, Рыпінскі, Каратынскі) варта памятаць пра свінцовыя вярыгі нашых "блудных сыноў", што ўчэпіста трымалі іх на "польскім" беразе. Прыклад Адама Кіркора, ці не апошняга, абок А. Ельскага, з ліку буйнешых нашых асветнікаў-краёўцаў у гэтых адносінах даволі паказальны.

Вось як ён тлумачыў нацыянальны, мабыць, і ўласны, выбар мясцовай апаля-

чанай шляхты ў сваёй апошняй фундаментальнай працы пра Літву, Беларускае Палессе: “К коренным жителям этой области следует также причислить и поляков. Польских выходцев, перселенцев из собственно Польши, здесь немного”. Але, *“коль скоро многие белорусы и литовцы усвоили себе польскую национальность, польский язык и во многом... польские нравы и обычаи, наконец, коль скоро сами себя называют поляками, то не только с этнографической, но и с нравственной точки зрения мы не имеем никакого права называть их иначе*” [2]. З той самай, іншапляменнай “званіцы”, у далёкім Кракаве, дзе правёў рэшту жыцця наш працавіты Літвін, вельмі замглёнай, калі не безнадзейнай бачылася яму гістарычная перспектыва забранага, татальна русіфікуемага краю, у духаносны падмурак якога ім была пакладзена не адна важкая цаглінка: *“Беларус болей не ўбачыць сваіх набыткаў у друку. Нават у царкве не загучаць болей гукі яго роднай мовы. У школе, цяпер ужо масавай, навучаюць па-расійску. Беларусь як асобнае, адно з старэйшых славянскіх плямён асуджана на скананне”* [2]. У тым жа кантэксце “вяртання дадому” не менш, калі не больш павучальны лёс другога “літвіна” (бо і так часам самадакляраваўся) – М. Каяловіча, класіка-тэарэтыка “западно-русизма”, які рэагуючы на першыя, кволыя праявы беларускае думкі спяшаўся публічна засцерагчы расійскую грамадскасць ад небяспекі “белорусского сепаратизма” (празарлівец, аднак жа).

Пэўна, маладому Шыпілу, памочніку бібліятэкара Пецярбургскага ўніверсітэта, былі вядомы Кіркоравы і Каяловічавы працы, калі ён здзейсніць сваю літаратурна-збіральніцкую задуму – рукапісным фаліянтам “Беларуская хрэстаматыя... Пецярборак. 1889”. – Практычны, натхняльны для іншых крок на шляху айчыннага пісьменства, нацыянальнага самапазнання наогул – ад краёвасці да нацыянальнасці, ад рэгіяналізму да беларускасці.

Натуральна, у сваіх беларусазнаўчых клопатах Эпімах-Шыпіла не быў адзінокім. У тым самым часе да вяртання на родную глебу клікалі аўтары літаратурна-мастацкіх, публіцыстычных тэкстаў, якія на зыходзе XIX ст. штораз часцей “прамаўлялі” з палос мясцовага “рускага” друку, кружылі спіскамі па шляхецкіх засценках, сярод нашых студэнцкіх зямляцтваў у Маскве, Кіеве, Пецярбургу (у апошнім гурткоўцы-народавольцы з “Гомана”). Як, прыкладам, наступныя, працятыя токам будзіцельства, паэтычныя радкі невядомага аўтара:

Ўзвійся ўгору, мой саколе!
Глянь, што робіцца на доле.
Глянь ты, браце, вокам сонца
На родненькі край бясконца.
Як высока клічаць гусі –
Так да нашай Беларусі,
Адарваўшыся ад беды
Завярнуцца ўсе суседы.
Так як колісь прыхадзілі,
Хлеб ламалі і мёд пілі.
Па-бацькоўскім абычаю
Будзем ставіць хату з краю –
Лад завесці у ёй трэба... [4]

Родны край, беларуская хата – узнёслыя сімвалы, зямныя рэаліі новага часу чулілі, клікалі да дзеяння не адну беларускую душу. *“Нужно стоять с твердой верой в будущее,* — падбадзёрвае лістом з Кіева (другая палова 1891) гісторык-пачаткоўца Доўнар-Запольскі менчука-этнографа Я. Ляцкага, дзелячыся сваім намерам: *наконец, и простолюдину дать хоть одну-две порядочные книжки для чтения на родном языке..*” Да таго ж, *“...мы, белорусы, даже не совсем бедны в литературном отношении: кроме Марцинкевича, имеющего немало читателей, которого сочинения расходятся в массе среди разных слоев населения, Яна Чечота и др. у нас ходит по рукам много рукописных безымянных виршей; они указывают*

*на известные потребности"*. Крыху пазней ён жа праінфармуе калегу аб выданні беларускае кніжачкі ў Маскве – верагодна, Гаршынавага "Сыгналу", перакладзенага й выдадзенага намаганнямі беларускіх студэнтаў-гурткоўцаў начале з А. Лявіцкім, будучым пісьменнікам Ядвігіным Ш. Там жа ўбачылі свет і два першыя выпускі доўнаравага «Северо-Западного календаря» з беларускімі тэкстамі. А з таго ж Кракава зычным хвалюючым голасам адгукнуўся да суродзічаў легендарны Мацей Бурачок – з трубна запаветным поклічам "Каб не ўмёрлі". Так што напярэймы далакопам будзіўся край забраны да годнага жыцця.

Тады ж, на пачатку 1890-х Эпімах-Шыпіла лістоўна просіць маскоўскага бібліяфіла П. Шыбанава даслаць яму накладным плацяжом тры асобнікі згаданага "Сыгналу". Зразумела, адзін – у асабісты кнігазбор, які з пераездам на радзіму ён падорыць – 5 тысяч адзінак – Інстытуту беларускай культуры. Другі, трэба меркаваць, ва ўніверсітэцкую бібліятэку, на закладзіны беларускага фонду. А трэці – каму? Магчыма, віцябляніну Аляксею Сапунову, рупліваму адкрывальніку айчынных старажытнасцей, у эвалюцыі якога ад "западнорусизма" да беларускасці Шыпіла адыграў не апошнюю ролю. Прынамсі, ён жа перакажа Сапунову (1894) і згаданую, "запрещенную здесь", багушэвічаву "Дудку беларускую", раячы абачліва абыходзіцца з "крамольным" творам [5]. У абсягу шыпілавага прыцягнення знаходзіцца яшчэ адна духоўна крэўная яму постаць – Еўдакім Раманаў, аўтар знакамітых "Беларускіх зборнікаў", якімі той адорваў таксама свайго земляка ў Піцеры. Беларусазнаўчыя клопаты лучылі пана Браніслава з філолагам Яфімам Карскім, у фундаментальных "Белорусах" каторага скарыстана і некалькі тэкстаў яго "Хрэстаматыі". Зрэшты, пра яе, "Хрэстаматыю", – з невядомымі пад той час творамі Сыракомлі, Дуніна-Марцінкевіча, Тапчэўскага, іншых – адмыслова гаворана і публікавана спецыялістамі, і адхіляцца далей няма патрэбы. Хіба што няблага было б з гэтае ўнікальнае рукапіснае кнігі (захоўваецца ў Беларускім архіве-музеі літаратуры і мастацтва), каб жа абнародванай факсіміле прыстойным накладам кімсьці з беларускіх выдаўцоў, карыстаць сённяшнім студэнтам, чытачам хаця б Нацыянальнай, іншых буйнейшых бібліятэк Беларусі. Наколькі рух адвечны-несупынны з цемры да святла на абшары беларускім не спыняецца.

Цяпер – пра выдавецкую дзялянку на асветніцкім палетку. Зноў жа не выпадае паўтараць добравядомыя звесткі пра суполку "Загляне сонца...", прадстаўленыя ў грунтоўнай працы Сцяпана Александровіча "Пуцявіны роднага слова". Істотнаму абагачэнню гэтай жа тэмы паслужыла манаграфія Юрыя Туронка "Вацлаў Іваноўскі і адраджэнне Беларусі". У кнізе акрамя ўсяго раскрыта вядучая арганізатарская, раней недаацэненая, у прысавецкіх публікацыях наогул замоўчаная роля Іваноўскага, кіраўніка суполкі, у развіцці беларускага кнігадруку пачатку XX ст., хаця ўскладаць пачынальніцтва – калектыўныя намаганні ў гэтай справе – выключна на яго адзінага плечы не выпадала б. Таксама і наш суродзіч у Варшаве, рэабілітуючы заслугі Іваноўскага, хоцькі-няхоцькі прыменшыў унёсак у агульную справу яго старэйшага калегі. Аднак ні Шыпіла, ні сучаснікі-паплечнікі таго ўнёску не абсалютызавалі. Дастаткова згадаць Купалу, непасрэднага сведку, у пэўнай меры ўдзельніка тае самае выдавецкае практыкі, які ў лісце да Л. Клейнбарта ад 11 студзеня 1929 г. фактычна зраўнаважыў, збалансаваў ролі абодвух дзеячоў-супольнікаў: *"...во главе стояли В. Ивановский и Б.И. Эпимах-Шипилло"* [6]. На карысць такога "тандэмнага" варыянту працуе і Туронкава заўвага што і той, і другі вылучаліся *"вялікай працавітасцю, прычым энергія і прадпрымальнасць першага станоўча спалучаліся з эрудыцыя і ўніклівасцю другога"* [7].

Падобным чынам прадставіў справу і Браніслаў Ігнатавіч у сваіх паказаннях следчаму па г. зв. "Саюзу вызвалення Беларусі" – з прычын тады зразумелых не называючы прозвішча супольніка: *"Я разам з некаторымі таварышамі заснавалі выдавецкае таварыства..."* [8]. У анкеце падследнага пад пунктам "Привлекался

ли к ответственности по суду или в административном порядке" пазначана: "за белорусское издательство после 1905 г., за издания Янки Купалы, Богушевича" [9]. Не лічыў бы беспадстаўным, як тое тужыцца давесці шаноўны Міфазмагар, сведчанне Зм. Жылуновіча пра спрыянне дзядзькі Шыпілы дзеячам-маладзёнам з "Кругу беларускай прасветы". Факт вядомы, што менавіта з шыпілавае прапановы зборнічак "Вязанка" Янкі Лучыны, прадстаўлены цэнзарам як балгарамоўны, выдаецца нелегальна [10].

Што да згаданага тандэму Шыпіла-Іваноўскі штосьпасведчана нават у расейскіх выданнях (пакуль у Беларусі не развучыліся чытаць па-руску і не апялююць да Суседа абараніць "русско говорящее" насельніцтва). Прабач, ласкавы чытачу, за самацытату: *"Эпимах-Шипилло последовательно и жертвенно поддержит новые творческие начинания на белорусской ниве. Он же, вместе с В. Ивановским, основывает на своей питерской квартире издательское товарищество («суполку») «Заглянет солнце и в наше оконце», где в качестве редактора и выпустит в свет первый купаловский сборник «Жалейка» (Купала Я. Молодая Беларусь. Стихотворения. Поэмы. Публицистика. М., «Советский писатель», 2008. С. 8)".* Выходзіць, што беларуская газета («Новы час») з анты-«міфалагічнай» засцярогай (не скажу – «разоблачительством») адносна Эпімах-Шыпілы ладнавата прыпазнілася.

Аднак жа, пра Шыпілу. Маладая літаратура нашаніўскага часу і ўвогуле "нашаніўства" як усебеларуская асветніцкая плынь з яе своеасаблівай творчай філіяй у горадзе над Нявой. Нават скупыя звесткі, згадкі пісьменнікаў, рупліўцаў-культурнікаў – Купалы, Гартнага, Хв. Чарнушэвіча, Тарашкевіча, Дуж-Душэўскага, Сушынскага, Зямкевіча, Мядзёлкі, Грыба, Каравайчыка, Драздовіча ўтвараюць у сукупнасці жывы, уражальны партрэт гэтага настаўніка-натхніцеля ў нацыянальна-інтэлектуальным сталенні нашай студэнцкай, работніцкай моладзі. Аб тым падрабязна, займальна распаведзена ў кніжачках Рыгора Семашкевіча. А вось яшчэ адно, малавядомае сведчанне ўдзельніка маладзёвага віравання ў шыпілавым "беларускім клубе" на 4-й Васілевостраўскай лініі:

*"Яго праца ў Пецярбургу не прапала дарма і выгадавала шмат ведамых беларусаў. Не аднаго з нас ён апрануў у нашыя беларускія вопраткі, так як атрымаў ад яго і я сам. Была ў яго цэлая шафа скупленых беларускіх паясоў, кашуляў, каторымі любіў наш бацька часта пахваліцца, калі дзе што новага здабыў дзеля свайго музею, у які ператварылася яго ўласная кватэра... Хто ня быў у яго, той ня бачыў фігуры Хрыста, выразанай з дрэва на Беларусі, гаршкоў з гліны і вазаў у беларускім стылю. Ён знаходзіў і мастакоў, і артыстаў, спевакоў... Стараўся ў выданні "Граматыкі" Тарашкевіча. У яго фактычна месціўся штаб новай Беларусі, як выдавецтва, так і мастацтва. У яго руках была сабрана бясцэнная беларуская бібліятэка, каторую, як пазней было чутно, спалілі бальшавікі"* [11]. А. Сак, тагачасны студэнт Пецярбургскага ляснога інстытута, пазней сведчыў пра атмасферу тых сустрэч: *"На вечерах у Шипилло читались новые произведения белорусских писателей, разбирались, иногда по большей части или восторгались, хвалили, потом следовала чашка чая... Вдали от родины эти вечера припоминали родной край и тем были обаятельны для писателей".*

Спрыяльна творчую апеку Эпімах-Шыпілы спазналі ў сваіх асветніцкіх пачынаннях удзельнікі беларускага гуртка Пецярбургскага ўніверсітэта, пасведчыўшы яму "как сердцу Белоруссии, свою признательность" [12]. Гадамі пазней яшчэ адзін узельнік тых маладзёвых тусовак Міхась Мялешка ўдзячна прыгадае *"длинные зимние вечера в Петербурге, когда в скромной квартире одного из виднейших представителей белорусского движения проф. Б. Шипилло собравшееся студенчество, полное жизни и веры, с пламенными порывами мечтало о лучшей доле своего угнетенного края... Все же и в тех тяжких условиях шла работа на народной белорусской ниве"* [13]. Мабыць не перабольшвае і сучасны беларускі гісторык, наколькі ведаю, не западозраны ў міфалагізацыі нацыянальнае мінуўшчыны,

культуры: *“Пад кіраўніцтвам Яўхіма Карскага, Еўдакіма Раманава, Браніслава Эпімах-Шыпілы гурткоўцы распрацавалі комплексную праграму даследвання беларускай мовы, фальклору, этнаграфіі, народнага мастацтва. Тут упершыню загаварылі пра беларусазнаўства як сыстэму ведаў пра Беларусь”* (Шыбека З. Нарыс гісторыі Беларусі 1795-2002. Мн.: Энцыклапедыкс, 2003. С. 162).

Сярод яго гадунцоў вылучаецца асоба святара Адама Станкевіча, выпускніка Пецярбургскай рыма-каталіцкай Духоўнай акадэміі, аўтара пранікнёнага жыццяпісу пра свайго настаўніка, выкладчыка грэчаскай, лацінскай моў, яго ролю ў нацыянальным самаўсведамленні маладых пастыраў, беларусізацыі царкоўнага жыцця на радзіме. Яму, Станкевічу, належыць трапнае абагульненне адметнасці шыпілавага асветніцтва, суадноснага з аўтарам “Дудкі беларускай”: *Францішак Багушэвіч – першатворца беларускай нацыянальнай ідэі, Эпімах-Шыпіла – перастваральнік яе ў практычнае жыццё* [14].

Чакаюць сваіх даследнікаў пакуль што малазнаныя або маўклівыя старонкі Шыпілавых сувязей з віленскім, “нашаніўскім” асяродкам. Мабыць, невыпадкова другі Станкевіч, Янка, вылучае яго асобу ў ліку “найвыдатнейшых нашаніўцаў” – абок братоў Луцкевічаў, Цёткі (Э. Пашкевічанкі), В. Ластоўскага [15]. У кожным разе прывітальная рэмарка Максіма Багдановіча “Паклон п. Шыпіле – пазнаёміліся ў Вільне” (з ліста ў рэдакцыю “Маладой Беларусі” 27.II.1911) штосьці значыць. Яшчэ раней, там жа, над Вяллёй адбылося непасрэднае знаёмства Шыпілы з паэтам-“нашаніўцам” Януком Луцэвічам, якога запросяць у Пецярбург, скуль неўзабаве праз “Жалейку”, складзеную, адрэгаваную Эпімах-Шыпілам свету прадэкларуецца імя іпастасна беларускае – Янка Купала. Дарэчы, з “Нашае Нівы” (1909. № 11) даведваемся пра вечарыну піцерскіх беларусаў у гонар юбілею Тараса Шаўчэнкі, на якой Эпімах-Шыпіла ад суполкі “Загляне сонца...” усклаў вянок са стужкай: *“О, слаўны Украінчэ, сын верны народу! Прымі, брат, і наш беларускі прывет”.* Не раз і сам ён зазіраў у рэдакцыю газеты падчас адведзін роднага Залесся на Полаччыне. Не амінуў Канстанцыю Буйло, калі тая працавала ў Полацкай беларускай кнігарні (1914). Не ўтойваў свайго ўзрушэння “Курганнай кветкай”. Тыя вершы, спамінла паэтка ў размове з аўтарам гэтых радкоў, не аднойчы цытаваў на лекцыях перад студэнтамі. З лёгкім жартам пераказаў ёй уражанне аднаго з слухачоў – маўляў, мяркуючы па эмацыйнасці лірычнага пачуцця, аўтарка перажыла не адну любоўную драму. “Вой! – смеючыся пярэчыла Буйлянка. – Скажыце Вашым студэнтам, што я яшчэ ні разу не цалавалася з хлопцамі”. І, вытрымаўшы паўзу: “Ну, што я тады значыла, дзяўчо, захопленая вершамі? А тут, бачыце, сам Шыпіла наведаў мяне. Такое не забываецца”.

Практычная чыннасць, апякунства Браніслава Ігнатавіча над творчым падлескам Беларусі – гэта, абок іншага, яскравы, першы на свой лад вопыт знясення дэмакрацыйнае мяжы паміж рознымі сацыяльнымі, канфесійнымі перагародкамі, фармавання згуртаванай агульнабеларускай сябрыны пад супольным адраджэнскім сцягам. Асветніцкі рух на кожнай дзялянцы вылучаў сваіх лідэраў, арганізатараў. У тых ці іншых пачынаннях найперш лічыліся думка, мудрая парада Шыпілы, яго інтэлект, далікатная, ненавязлівая інтэлігентнасць, нарэшце, матэрыяльная падтрымка беларускай справы – наколькі мог сведчыць яе адзінокі, не абцяжаны ўласнай сям’ёй уладальнік фальфарка ў беларускім Залессі і кватэры ў расійскай сталіцы. У навукова-грамадскім асяроддзі значыўся і яго прэстыж эрудыта-паліглота, што пазней адцеміць у сваіх успамінах вядомы арабіст-акадэмік І. Крачкоўскі. З лінгвістычнае дасведчанасці Шыпілы карыстаў таксама знаны ў навуковым свеце расійска-ўкраінскі даследнік-філолаг Ул. Пяратц. Не раз раіўся з ім у фальклорна-збіральніцкіх клопатах другі піцерскі беларус – Аляксандр Сержпутоўскі; пазней на яго “Казкі і апавяданні беларусаў з Слуцкага павету” (Мн., 1926) старэйшы калега адгукнецца спрыяльна ўдумлівай рэцэнзіяй. Шыпілавым стараннем была запатрабавана з архіва, падрыхта-

вана да друку, апублікаваная І. Лапо, "Полоцкая ревизия" 1552 г. Сярод бібліятэчнай супольнасці цаніліся яго бібліяграфічныя публікацыі, удзел у рабоце міжнароднага кангрэса архіўных і бібліятэчных працаўнікоў – Брусель, 1908 г. [16].

У святле сказанага можна глыбей зразумець незаменнае значэнне яго асобы ў жыццёва-творчым лёсе Янкі Купалы, для якога беларуская справа, прызнаваўся ў лісце да свайго апекуна (28 чэрвеня 1914), "стала даражэй жыцця". Гэта ж у шыпілавым атачэнні аўтар "Жалейкі" здзейсніць амбітнае памкненне *"сябе загартаваць і адшліфаваць на службу беларушчыне і беларускаму грамадзянству"* [17]. Спагадаючы маладому творцу, Шыпіла добра разумеў яго незвычайную даравітасць, высокае пакліканне ў беларускім лёсе. Святло і цяпло шыпілавай істоты не раз выпраменьваліся лірычным пачуццём удзячнасці з боку яго незвычайнага кватаранта. Перачытайма вершы-прысвячэнні Купалы, спавядальныя лісты да "вельмі паважанага і дарагога паночку" Прафесара. Чыё апякунства над паэтам канешне ж не абмяжоўвалася адно бытавым дабрадзействам (асобны пакойчык у кватэры, сталаванне). Ці ў адным купалаўскім творы ("Над Іматрай", "Паляўнічы і пара галубкоў", інш.) адчуваецца подых духатворчае аўры Шыпілавай. Працяглае кантактаванне а лепш сказаць сумоўе абодвух – неад'емны чыннік нацыянальнага сталення, эстэтычнага абагачэння Купалавага таленту [18]. Зборнік "Шляхам жыцця", класічны плён "піцерскае" адысеі нашага Майстра, найяскравей пасведчылі тыя сталасць і багацце, што беларускае сціплае слова ўзнялі *"на вышыню агульналюдскага разумення"* (А. Навіна (Луцкевіч)), увечнілі Паэта ў якасці народнага песняра, прарока нацянальнага Адраджэння.

Беларускае асветніцтва ў патэнцыяле сваім несла таксама палітычны зарад, накіраваны ў перспектыве на выбаўленне Бацькаўшчыны з-пад імперскага дыктату, на здабыццё дзяржаўнай незалежнасці. Знаходжанне Эпімах-Шыпілы ў сілавым полі палітычнага руху знешне непрыкметнае, але цалкам адмяжоўваць яго ад гэтае справы было б па меншай меры некарэктна. Сціслае кантактаванне Браніслава Ігнатавіча з тым жа Іваноўскім, з братамі Луцкевічамі, Цёткай, іншымі заснавальнікамі, дзеячамі Беларускай Сацыялістычнай Грамады само па сабе ўжо нешта сведчыць. Не выпадкова, у асабістым архіве нашага асветніка захоўваўся рукапісны накід праграмы БСГ, прынятай на ІІ з'ездзе партыі, пазней надрукаванай у кнізе Ф. Турука "Белорусское движение" (М., 1921; рэпрынт Мн., 1993. С. 86-87).

Палітызацыя адраджэнскага руху, прыспешаная драматычнымі падзеямі Першай сусветнай вайны, дыктавала новыя падыходы і высновы ў беларускім пытанні. Да таго ж у Пецярбургу значна пашырылася, актывізавалася беларуская дыяспара коштам бежанцаў з краю, рабочых, вайскоўцаў. Дзейнічае заснаванае Б. Эпімах-Шыпілам, Ч. Родзевічам, А. Ярэмічам Беларускае таварыства помачы ахвярам вайны. На яго кватэры, успамінаў Зм. Жылуновіч, рэгулярна адбываюцца сходы беларускіх арганізацый. *"Обсуждались планы будущего устройства Белоруссии"* [19]. Прагляваецца шыпілаў почырк у франкамоўным тэксце "Меморыі", якую беларуская дэлегацыя (І. Луцкевіч, В. Ластоўскі) прадставіла ў Лазане на кангрэсе нацыянальнасцей (чэрвень 1916), сведчачы жаданне беларусаў нарэшце *"стаць гаспадарамі на сваёй уласнай зямлі"* [20]. Зноў жа, зусім невыпадкова на адрасы згадванага бежанскага Таварыства і асабіста Шыпілы прыйдзе тэлеграма-запрашэнне Часовага Беларускага нацыянальнага камітэта аб прыбыцці ў Мінск на з'езд беларускіх дзеячоў 17 сакавіка 1917 г. [21]. Ні гэтага, ні наступных, бліжэйшых форумаў, на якіх ладзіўся дзяржаўны пасад забранага краю, Эпімах-Шыпілу дапасці не выпала. Але ж былі там, адчайна змагаліся за ўваскрашэнне дзяржаўнае Беларусі яго выхаванцы-супольнікі.

Тыя ж барацьбіты-аднамыснікі ў супольнай справе паспрыялі вяртанню на радзіму свайго настаўніка, амаль вычарпанага фізічна й псіхічна рэвалюцыйнай калатнечай, грамадзянскай вайной. З гэтае нагоды не ўтойваў прачуласці А. Сержпутоўскі ў лісце да А.Смоліча ад 5 кастрычніка 1925 г.: "Сягоння даведаўся, што

наш шаноўны дзядзька Эпімах-Шыпіла пераехаў у Менск. Ад усяго сэрца радуюся за яго, што ён нарэшце вырваўся з гэтага Вавілона" [22]. Неўзабаве часопіс "Полымя" (1925, № 3) падасць персанальны склад сяброў Інстытута беларускай культуры – прадвесніка Беларускай нацыянальнай акадэміі; сярод 57 асобаў вылучаецца і Шыпілава прозвішча. У самы раз прыгадаць іншыя імёны-постаці, у таварыстве з якімі пачаўся й давяршыўся апошні перыяд у яго жыццяпісе: Усевалад Ігнатоўскі, Аляксандр Чарвякоў, Язэп Адамовіч, Зміцер Жылуновіч, Антон Баліцкі, Зміцер Прышчэпаў, Язэп Каранеўскі, Мікола Мароз, Міхась Кудзелька (Чарот), Сцяпан Некрашэвіч, Аркадзь Смоліч, Язэп Дыла, Іван Цвікевіч, Іван Луцэвіч (Янка Купала), Канстанцін Міцкевіч (Якуб Колас), Язэп Лёсік, Міхайла Грамыка, Максім Гарэцкі, Васіль Дружчыц, Мікола Азбукін, Міхась Піятуховіч, Самуіл Плаўнік, (Змітрок Бядуля), Міхась Мялешка... Па нядоўгім часе сюды, да храма айчннае думкі, далучацца Аляксандр Цвікевіч, Вацлаў Ластоўскі і разам з многімі зведаюць трагічную адплату за свой беларускі выбар[1].

Непрацяглая, але плённая Шыпілава чыннасць у якасці сакратара музейна-бібліятэчнай секцыі, затым кіраўніка Камсіі па ўкладанні слоўніка жывой беларускай мовы, рэдактара некалькіх лексікаграфічных выданняў, уплыў яго асабовасці на творчую атмасферу ў ІБК вартыя адмысловага разгляду, што за межамі аднаго артыкулу. З тае дзейнасці прыгадаем хаця б два факты. Картатэка патранаванага ім "Слоўніка" налічвала пад канец 1926 года 250 тысяч лексічных адзінак (зглумленых, мабыць, нішчыцелямі "нацдэмаўскіх" кніг. Як жа тыя прыдаліся б складальніку найноўшага "Вялікага слоўніка беларускай мовы" св.п. Фёдару Піскунову). На міжнароднай Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі (лістапад 1926) наш "паночку Прафесар" падаў да прэзідыума Канферэнцыі цыдулку-прапанову абмеркаваць пытанне "лацінізацыі", паралельна з кірыліцай, беларускага правапісу. Сярод падпісантаў значыліся таксама прозвішчы Якуба Коласа, Язэпа Лёсіка, Максіма Гарэцкага, Аркадзя Смоліча, іншых творцаў з ІБК. За непрадугледжаную, "класава" небяспечную ініцыятыву "знізу" мусіў адмыслова тлумачыцца перад ЦК ВКП(б) партыйны кіраўнік рэспублікі Крыніцкі.

У пратаколе вобшуку пры арышце Б.І. Эпімах-Шыпілы 18.06.1930 г. (у доме 29/35 на рагу вуліц Універсітэцкай і Ленінскай, цяпер – паміж Мінгарвыканкамам і Галоўпаштамтам) зафіксаваны прыхопленыя чэкістамі "вещдоки" гаспадара кватэры: «четырнадцать газет, брошюр (магчыма і Багушэвіча "Скрыпка беларуская"), восемь фотокарточек, три записные книжки и два блокнота, письма и открытки». Тыя ды іншых зняволеных "нацдэмаў" паперы спапяліліся потым у топцы турэмнай. Толькі попел пакутных дасюль грукае ў сэрцы патомных.

Цягам следства па "Саюзе вызвалення Беларусі" адзін з фігурантаў "справы" сведчыў: *"Политическое завещание вождей первого этапа белорусского национального движения А. Вериги-Даревского, В. Дунина-Марцинкевича, Ф. Богушевича и других бережно сохранено и передано "нашенивцем" Эпимахом-Шипилло, этим подлинным отцом современного белорусского национал-демократизма"* [23].

"Бацька сучаснага нацдэмакратызму". Не станем аспрэчваць дакладнае, хоць і зроджанае ў чэкісцкіх сценах азначэнне Постаці асветніка. Вяртаючы й паняццю "нацдэма" першасны нескажоны сэнс. Памятаючы таксама пра абачлівае абыходжанне з міфамі – неад'емнымі кампанентамі нацыянальнай гісторыі культуры іх персаніфікаваных сімвалаў.

---

[1] Мемарыяльная шыльда з названымі імёнамі – мастацкая выява беларускага мартыралогу (скульптар Алесь Шатэрнік) даўно зачакалася ўладнага дазволу засвяціцца на той жа Рэвалюцыйнай, 15 – будынку колішняга Інстытута беларускай культуры. Дазвол той, кажуць, надыйдзе не раней, пакуль люд Беларусі не адолее "Линию Сталина". Дай Божа, адолее. Будам верыць.

***

Яшчэ студэнтам Рыгор Семашкевіч, апанаваны “шыпілаўскай” ідэяй, звяртаўся па адпаведную параду да Мікалая Улашчыка. Гісторык, адгукаючыся лістом 29.09.1965 г., падтрымаў намер маладога даследніка, параіўшы некаторыя архівы, выказаў меркаванне, што “гэту тэму (“Эпімах-Шыпіла”) Вам давядзецца распрацоўваць некалькі год, інакш кажучы, пасля сканчэння ўніверсітэта”. І пажадаў поспехаў у здзяйсненні “надта цікавай” задумы.

Колькі часу прамінула, а цікавасць да Постаці нашага, з першых, прафесара беларушчыны не слабне. Каб жа і далей.

Заўвагі:

1. З ліста Б. Эпімах-Шыпілы да М. Доўнар-Запольскага з Петраграда ў Кіеў (верасень 1918): “Вялікі і шчыры дзякуй Вам паночку і пану акадэміку праф. Е.Ф. Карскаму за вашу ласкавую памяць аба мне. З рукамі і нагамі гатоў я ўцячы з гэтага пекла на родную Бацькаўшчыну працаваць толькі дзеля яе аддаць свае апошнія сілы і злажыць косьці ў роднай зямельцы-матцэ. Досыць ужо пасмуціўся я па роднай зямельцы-матцы. Досыць ужо насмуціўя я па роднай замельцы жывучы і працуючы каля трыццаці гадоў на чужыне-мачысе!” – Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (НАРБ). Ф. 262. Воп. 1. Спр. 178. Арк. 17-18.

2. Живописная Росия. Т. 3. Спб., 1872. – С. 11.

3. Kirkor A. O literaturze pobratymczych narodow slowianskich. Krakow, 1874. – S. 55.

4. Літаратура і мастацтва. 1997, 26 верасня. Публ. Г. Запартыкі, Я. Янушкевіча.

5. Хмельницкая Л.В. Эволюция взглядов А. Сапунова на проблему самоопределения Белорусов. — Русь-Литва-Беларусь. Проблемы национального самосознания в в историографии и кульурологии. По материалам международной научной конференции, посвященной 90-летию Н.Н. Улащика. М.: Наследие, 1997. – С. 120.

6. Купала Я. Поўны збор твораў у 9 тамах. Т.9. Кн. 1. Мн.: Мастацкая літаратура, 2003. – С. 228.

7. Туронак Ю. Вацлаў Іваноўскі і адраджэнне Беларусі. Мн.: Медисонт, 2006. – С. 48.

8. “Жывучы ў Беларусі адчуваў сябе шчаслівым...” – Навіны Беларускай Акадэміі Навук. 1991, 29 мая. Публ. Н.Васілеўскай.

9. Архіў КДБ Рэспублііі Беларусь. С. 2005. Т.4. Арк. 552.

10. Туронак Ю. Вацлаў Іваноўскі... С. 48.

11. M. Na zary Bielaruskaha Adradzennia. — Крывіцкі светач. 1946. № 11. – С. 17.

Не выключана, што частка Шыпілавага кнігазбору разам з іншай “нацдэмаўскай” літаратурай была знішчана ў 1930-я цягам рэпрэсій над людзьмі і кнігамі , аб чым згадваецца ў “Хроніцы” М. Улашчыка (Скарыніч. Вып. 2. С. 58). Каўка А. Мае беларусы. М.: Альтекс, 2013. – С. 102.

12. Белорусский научно-литературный кружок студентов С.-Петербургского университета. Спб.: 1913. – С. 14.

13. М-о. Забытый край. – Витебский край. 1917. № 13. – С. 4.

14. Станкевіч А. Прафэсар Браніслаў Эпімах-Шыпіла: яго жыццё і працы. Вільня, 1935. – С. 23.

15. Станкевіч Я. Гістарычныя творы. Мн.: Энцыклапедыкс, 2003. – С. 481.

16. Запартыка Г. Справа бібліятэкара Б.І. Эпімаха-Шыпілы. — Полымя. 2009. № 3. – С. 172.

17. Купала Я. Поўны збор твораў у 9-ці тамах. Т. 9. Кн. 1. Мн.: “Мастацкая літартура”, 2003. – С. 225.

18. Каўка А. Шыпілаў след у Купалавым вершы. – Янка Купала і еўрапейскі літаратурны працэс. Мн.: Беларускі кнігазбор, 2003. С. 80-85; Кавко А.К. От Скорины до Купалы. М., ИМЛИ РАН, 2006. – С. 244–245.

19. Клейнборт Л. Молодая Белоруссия. Мн., 1928. – С. 233.

20. La Deklaration Bielorussens... Lozanna, Juen 1916. – P. 4.

21. Белорусское общество в Петрограде по оказанию помощи пострадавшим от войны. 1916-1918. Межархивный справочник. Составители Скалабан В. и др. Мн., 2008. – С. 61.

22. Архіў Нацыянальнай Акадэміі Навук Беларусі. Ф. 67, воп. 2, адз. зах. 5, арк. 102.

23. Архіў КДБ РБ. Ф. 2005-С. Т. 3. Арк. 754 (з паказанняў М. Гуткоўскага).

Уладзімір Мароз



...падарожжа для Іосіфа Антонавіча
стала напоўніцу кругасветным,
праз усе акіяны і мацерыкі...

# Беларус на фрэгаце "Палада"

## *Да 200-годдзя з дня народзінаў Іосіфа Гашкевіча*

*Імя Іосіфа Гашкевіча ўжо ведаюць у Беларусі. Першы консул Расійскай імперыі ў Японіі, аўтар першага япона-рускага слоўніка, кнігі "Аб каранях японскай мовы". Сёлета адзначаецца 200-годдзе з дня нараджэння нашага славутага земляка, дата ўключана ў Каляндар памятных дат ЮНЕСКА.*

*Нішто лепш не скажа пра чалавека, які сёння для нас ёсць гістарычнай постацю, як жывое слова яго сучасніка. Тым больш, калі гэта слова вялікага пісьменніка. У выпадку з нашым слынным земляком Іосіфам Антонавічам Гашкевічам маем такое шчасце. Лёс звёў яго ў марскім падарожжы з Іванам Аляксандравічам Ганчаровым. Так і была б дыпламатычная місія адмірала Пуцяціна ў далёкую Японію проста адной са старонак расійскай гісторыі, каб не твор Ганчарова "Фрэгат "Палада". Нарысы падарожжа сталі ў свой час спраўдным адкрыццём. Як тут запярэчыш, што не меў рацыі Іван Аляксандравіч: "Апісанні далёкіх краін, іх жыхароў, раскошы тамтэйшай прыроды, асаблівасцяў і выпадковасцяў падарожжа і ўсяго, што прыкмячаецца і перадаецца вандроўнікамі... – усё гэта не губляе ніколі сваёй займальнасці для чытачоў усіх узростаў" (тут і далей пераклад мой –* ***У.М.****).*



*Помнік Іосіфу ГАШКЕВІЧУ ў Астраўцы*

У "Фрэгаце "Палада" мяне цікавілі найперш згадкі пра Іосіфа Гашкевіча, які і стане потым першым расійскім консулам у краіне, дзе ўзыходзіць сонца. Беларус воляю лёсу меў гонар апынуцца ля вытокаў дыпламатычных узаемін дзвюх такіх непадобных адна да адной краін – Расіі і Японіі. Як пісьменнік і кінадакументаліст, неабыякавы да гісторыі, даўно цікаўлюся ўсім, што тычыцца гэтага чалавека. Твор Ганчарова акурат дае магчымасць жывых дэталяў, якія і дапамагаюць ператварыць гістарычную асобу з сімвала ў рэальнага чалавека.

Экспедыцыю праводзіў сам расійскі імператар Мікалай І. Не дзіўна – дыпламатычная місія накіроўвалася ў Японію, загадкавую далёкаўсходнюю суседку Расіі. Сярод членаў экіпажа імператар заўважыў толькі двух, калі не лічыць святара, цывільных людзей. Гэта былі якраз Ганчароў і Гашкевіч. Абодва калежскія асэсары. Іван Ганчароў як столаначальнік дэпартамента знешняга гандлю з'яўляўся сакратаром кіраўніка місіі адмірала Яўфімія Пуцяціна. Ён ужо вядомы пісьменнік, аўтар "Звычайнай гісторыі". Ды і "Абломаў" напалову напісаны. Іосіф Гашкевіч накіраваны азіяцкім дэпартаментам міністэрства замежных спраў як драгаман (перакладчык). За яго плячыма Мінская духоўная семінарыя, Пецярбургская духоўная акадэмія і дзесяць гадоў працы ў Кітаі ў складзе Рускай духоўнай місіі. Апошняе і вызначыла прызначэнне нашага земляка, бо тады мала хто ведаў усходнія мовы. Гашкевіч жа, акрам класічных і сучасных еўрапейскіх моў, валодаў кітайскай, манчжурскай, мангольскай. Значыць, павінен разабрацца і з японскай.

Калі перакладчыцкая праца Гашкевіча яшчэ наперадзе (далёкі шлях да Японіі!), то пісьменніцкае пакліканне Ганчарова заўсёды з ім. Першая згадка пра Іосіфа Антонавіча – з берагоў туманнага Альбіёна, дзе быў прыпынак з нагоды рамонту фрэгата. Пісьменнік так характарызуе свайго суседа па часовай каюце: "Непарушна спакойны ў душы і з усімі заўсёды аднолькавы; ні ў што не блытаецца, ні вясёлы, ні сумны, ні ад чаго яму не балюча, ні холадна; на ўсё згодны, што прапануюць іншыя; з усімі ласкавы да сяброўства, хоць няма ў яго сяброў, але і ворагаў няма. Куды яго не павязі, яму ўсё роўна: ён усім задаволены, ні на што не скардзіцца. Усялякую навіну даведваецца пазней на дзень ад іншых".

Як не пазнаць тут беларуса, яго, па-сённяшняму, менталітэт!? У самую кропку трапіў Ганчароў! Хоць беларусам Гашкевіча пісьменнік не лічыў, як мы ўбачым пазней. Але пры такой характарыстыцы варта мець на ўвазе і духоўную адукацыю Гашкевіча, яго выхаванасць. Далейшыя згадкі пра нашага земляка ўжо канкрэтныя, звязаныя з тымі ці іншымі выпадкамі, на якія багатае любое падарожжа.

"Раптам паказаўся ў дзвярах сваёй каюты В.А. Гашкевіч (Восіп – так гучыць імя ў Ганчарова – *У.М.*), якога мы называлі перакладчыкам. Бледны, з падушкамі ў руках, ён увайшоў у агульную каюту і лёг на круглую сафу. Яго ванітавала. Ён не ведаў сну, апетыту. Калі паляжаў там хвілін пяць, перайшоў на кушэтку, потым садзіўся на крэсла, але падскокваў зноў і нідзе не знаходзіў спакою. Ахвяра марской хваробы з першага выхаду ў мора, ён узбуджаў агульную, але марную спагаду. Яго правялі ў батарэйную палубу і падвесілі там ложак недалёка ад люка, праз які праходзіў свежы ветрык".

Бедны Іосіф Антонавіч! Што казаць, няма ў нас генетычнай повязі з морам. Але прыцягненне адсутная стыхія мела заўсёды – шмат сухапутных беларусаў сталі мараплаўцамі. Наш жа герой трапіў у акіянскае падарожжа не сваёй волі. Як і ў такое асяроддзе. Думаецца, для карабельнай сябрыны Гашкевіч не адразу стаў сваім. Сын святара, ён, несумненна, быў шляхецкага паходжання. Але бацька

не змог ці не схацеў ужо ў Расійскай імперыі гэта пацвердзіць дакументальна. Таму і ўспрымалі Іосіфа Антонавіча не як чалавека блакітнай крыві.

Між тым уся афіцэрская каманда фрэгата была дваранскай. Шмат якія маладыя на той час афіцэры зрабілі потым бліскучую кар'еру. Натуральным барынам пачуваўся Ганчароў. Але падарожжа збліжае, у вузкім коле на першы план выступаюць чалавечыя якасці, адукаванасць, выхаванасць. Усё гэта Гашкевіч меў. Адразу заначым, што потым ён стаў кавалерам шмат якіх расійскіх ордэнаў, сярод якіх быў ордэн Св.Уладзіміра, што давала права спадчыннага дваранства. У канцы жыцця, ужо ў сваім маёнтку Малі на Астравеччыне, дзеля малога сына ён скарыстаўся гэтым правам.

Вялікі прыпынак акіянскія вандроўнікі мелі ў Паўднёвай Афрыцы. Грунтоўна знаёміліся яны з тамтэйшым жыццём, прыродаю, карэннымі насельнікамі. Ды і самі выклікалі цікавасць, бо рускіх тут ніхто не бачыў. Да прыкладу, завітаў у госці мясцовы доктар, галандзец ці датчанін. “Ён прыстойна гаварыў па-французку і адкрыта растлумачыў, што ён так шмат чуў і чытаў пра рускіх, што не змог пераадолець цікаўнасць і прыйшоў пазнаёміцца з намі. “Я займаюся крыху прыродазнаўчымі навукамі, геалогіяй, і не толькі імі: фрэналогіяй; люблю таксама этнаграфію. Таму мне вельмі цікава глянуць на рускі тып”, – гаварыў ён, паглядаючы з пільнай увагаю на барона Крыднера, на нашага доктара Вейрыха і на Пасьета: а яны ўтрох былі нярускага паходжання. “Дык вось які тып!” – казаў ён, гледзячы на іх. Мы ледзьве стрымлівалі смех. “А які гэта тып?” – запытаўся я, паказваючы на Зялёнага. “Гэта... – ён сур'ёзна і доўга ўглядаўся ў яго, – гэта... мангольскі”. Мы ўжо засмяяліся, але доктар, здаецца, мае рацыю: у Зялёнага сапраўды татарскія рысы. “Ну, а гэты?” – паказваю на Гашкевіча. Ён доўга думаў. “Ён дзесяць гадоў жыў у Кітаі”, – заўважыў нехта пра Гашкевіча. “А ён жа падобны на кітайца!” – заўважыў Ферстфельд. Мы рагаталі, і ён з намі. Гашкевіч быў маларасіянін. Чыста рускія былі толькі Зялёны і я. “Так, рускія моцныя: а! аб іх шмат-шмат чутак!” – казаў ён. Ён чакаў, здаецца, убачыць багатыроў, а можа быць, людзей крыху звярынага выгляду, і здзівіўся, калі даведаўся, што Гашкевіч займаецца таксама геалогіяй, што ў нас багата вучоных, ёсць літаратура”.

Гэты надзвычай цікавы па сэнсу эпізод нельга пакінуць без увагі. “Маларасіянін”. Заўважым, сярэдзіна XIX стагоддзя. Няўжо Ганчароў не ведаў, што існуюць такія беларусы? Ну хоць бы пра ліцвінаў павінен быў чуць, не так і даўно Вялікае княства Літоўскае сканала разам з усёй Рэччу Паспалітай, “дзякуючы” той жа Расіі. У гэтым сэнсе Гашкевіч натуральны ліцвін, бацька яго нарадзіўся яшчэ за тым часам. Праўда, у тэксце аднойчы сустракаецца такая згадка. Каля берагоў Карэі вандроўнікі сутыкнуліся з мясцовымі, якія падплылі на лодцы. Яны былі ў бруднай адзежы, ды яшчэ і п'яныя. «Горш літвы» – сказаў адзін матрос. «Чаго літвы: горш чаркес!» – запярэчыў другі. Дэталь гэтая гаворыць, што за гісторыю далася ў знакі літва маскавітам, калі яе згадваюць у такім кантэксце. Так што ведаў крыху і Ганчароў аб Вялікім княстве Літоўскім, аб літве як азначэнні іншага народа. Але яго, як вялікадзяржаўніка, мала абыходзілі ўскраіны тагачаснай імперыі – усе там маларасіяне, якія ўкраінцы ці беларусы-літвіны?! Але пытанне застаецца. Няўжо не было падчас падарожжа размоў Гашкевіча і Ганчарова аб родных кожнаму мясцінах? Бясспрэчна толькі, што рускі пісьменнік вылучаў адметнасць Гашкевіча па нацыянальнасці, не мог прылічыць да сваіх па крыві.

Іосіфа Гашкевіча сапраўды можна было назваць навукоўцам. У Кітаі ён вывучаў гісторыю гэтай краіны, культуру, помнікі дойлідства, збіраў калекцыі, пісаў артыкулы, якія потым былі апублікаваны. А калекцыі дапоўнілі экспазіцыю Заалагічнага музея Імператарскай акадэміі навук. Дырэктар музея прафесар Брант прасіў Гашкевіча не пакідаць навуковых даследванняў і ў падарожжы на фрэгаце “Палада” – калі яшчэ рускаму даследчыку пашчасціць пабываць у нязведаных

мясцінах? Іосіф Антонавіч так і рабіў – усюды, дзе былі прыпынкі, збіраў узоры мінералаў, флоры і фауны, з аказіяй адпраўляў іх у Расію. Займаўся і фатаграфіяй.

“Мы выйшлі, азірнуліся назад і спыніліся нерухома перад карцінай, якая адкрылася: уся паарльская даліна ляжала перад намі, месцамі аблітая сонечным бляскам, а месцамі схаваная ў цяню гор. Велінгтан ляжаў быццам ля ног нашых, нягледзячы на тое, што мы былі ў мілях пяці ад яго. Далей бялелі ў зеляніне дамкі Паарля, на які гара кідала агромністы цень; наўкола ўсюды фермы. Кусты выдавалі на траву, а вялікія дубы фермаў бачыліся дробным кустоўем. Мы стаялі моўчкі і нерухома. Сажанях у пяцідзесяці ад нас плаўна праплыў у паветры, не махаючы крыламі, арол; потым узмахнуў тройчы рытмічна крыламі над голымі вяршынямі, што тырчэлі, каменем кінуўся ўніз і прапаў між скал. Тут Гашкевіч размясціўся зняць фатаграфічныя віды і ўзяць некалькі ўзораў камянёў”.

“Я сеў на балкон і цешыўся цёмнай і цёплай ноччу, дыхаў і не мог надыхацца ціхамірным чыстым паветрам. Удалечыні, на цёмным фоне неба, ляжалі масы яшчэ больш цёмныя: гэта горы. Гашкевіч выйшаў на балкон, доўга ўслухоўваўся і раптам быццам зваліўся з ганку ў цемру апраметную і знік. “Куды вы?” – крыкнуў я яму наўздагон. “Тут павінна быць блізка канава, – адказваў ён, – чуеце, як жабкі квакаюць, быццам стукаюць нечым; напэўна, не такія, як у нас; хочацца злавіць адну”.

Не адставаў Іосіф Антонавіч ад сваіх вайсковых сяброў і як вершнік. “Станавілася, аднак, спякотна; трэба было адпраўляцца да мінеральных крыніц... Барон, Пасьет і Гашкевіч паехалі конна, а мы ў экіпажах”. Да самога ж Ганчарова ў гэтым выпадку якраз падыходзіць слова “барын”.

Яшчэ пра фатаграфію. “Зноў мы разглядвалі і распытвалі, з дапамогай місіянера, чорных аб іх імёнах, племені, месцах нараджэння. Нарэшце сталі здымаць з іх партрэты, спачатку па аднаму, потым Гашкевіч хацеў зрабіць адну агульную карціну з усяго гэтага маляўнічага кутка цясніны. З чорных стварылі групу ў двары. Містэр Бэн, з сынам, і місіянер стаялі каля іх. Мы з баронам узабраліся на блізкую скалу, што была проста над флігелем Бэна і таксама ўваходзіла ў карціну. Нас прасілі не варушыцца. Але мы ўпотайкі пакурвалі, у цвёрдым перакананні, што Гашкевіч па блізарукасці не разгледзіць”.

Зрэшты, гэты фотаздымак, як і шмат іншых, не атрымаўся. Не было ў Іосіфа Антонавіча належных умоў – цалкам цёмнага пакоя, магчымасці рыхтаваць растворы, вытрымліваць фотапаперу. Таму, негледзячы на самаахвярнасць фатографа, з якою ён шчыраваў, візуальных знакаў таго падарожжа не засталося. Можна ўявіць, як няёмка было Гашкевічу кожны раз тлумачыць, што зноў нічога не атрымалася. А фатаграфіяй наш зямляк захапіўся яшчэ ў Кітаі. Праз гады, у час свайго консульства ў Японіі, ён навучыў фатаграфічнаму мастацтву японцаў, хакадацкая школа лічыцца піянерам японскай фатаграфіі. Дзіўны гэты факт з сённяшнга гледзішча, калі нам здаецца, што Японія са сваім, да прыкладу, “Кэнанам” была заўсёды.

Але вернемся да падарожжа. Перапынак скончыўся. Фрэгат абагнуў мыс Добрай Надзеі і ўзяў накірунак па Індыйскім акіяне да Кітая. Гэтая краіна якраз была добра знаёмая Іосіфу Антонавічу. Цікава, што сваімі навуковымі захапленнямі ён узбудзіў і спадарожнікаў. Паважалі чалавека. Вось і Ганчароў. “Я прайшоў бульвар з мізэрнымі, вартымі жалю дрэвамі і пайшоў па ўзмор'ю. Стала не так горача, ад затокі веяла прахалодай. На набярэжнай я ўбачыў мноства буйных чырвоных насякомых, што пераляталі з месца на месца: мне хацелася ўзяць іх колькі і прынесці Гашкевічу”.

“Я працерабіўся праз кусты, праз томаны, кардамон і пальмы і пайшоў за ім уздоўж ракі. Сапраўды, маляўніча: рэчка-ручай, аршыны са два, а ў іншым месцы і менш па шырыні, струменіць са скалы па камянях і ўпадае ў азярко.

Між камянямі поўзае незлічонае мноства мініяцюрных крабаў, быццам павукоў, і насякомых. Яны з неймавернай хуткасцю знікалі ў камянях, ледзьве кранешся іх. Доктар і В.А. Гашкевіч ужо даўно там і ловяць іх рукамі".

Да Японіі даплылі 10 жніўня 1853 года. Ззаду дзесяць месяцаў падарожжа. Нагасакскі рэйд. Вось і канчатковая мэта, дзеля чаго і арганізоўвалася экспедыцыя. Стаяла задача заключыць трактат з Японіяй аб вольным гандлі, доступе расійскіх суднаў у вызначаныя порты і адкрыцці дыпламатычнага прадстаўніцтва. Неўзабаве пачнуцца доўгія перамовы з японцамі.

"Вось дасягаецца, нарэшце, мэта дзесяцімесячнага плавання, працы. Вось гэты замкнёны куфэрак, са згубленым ключом, краіна, у якую заглядвалі, да гэтага часу з марнымі намаганнямі схіліць і золатам, і зброяй, і хітрай палітыкай, да знаёмства... Хоць бы японцы дапусцілі вывучыць сваю краіну, спазнаць яе прыродныя багацці: бо ў геаграфіі і статыстыцы месцаў з аселым насельніцтвам зямнога шара амаль толькі адзін прабел і застаецца – Японія... Там гаспадарыць спякота і марозы, растуць пальма і сасна, персік і журавіны. Там ёсць горы, роўныя нашым найвысокім гарам, пікі, якія гараць, і ў гарах – мы ведаем ужо – нараджаецца лепшая медзь у свеце, але не ведаем яшчэ, ці няма там лепшых алмазаў, серабра, золата, тапазаў і, нарэшце, што больш дарагое за золата, лепшага каменнага вугалю, гэтага самага дарагога мінерала XIX стагоддзя".

Такі роздум Ганчарова аб загадкавай краіне. Рамантычны, адначасна і прагматычны – як гэта Расія яшчэ не мае тут выгады? Верагодна, Гашкевіч, ужо знаёмы з Усходам праз Кітай, такой узрушанасці пачуццяў не меў. Для яго пачыналася канкрэтная праца, дзе найперш трэба асвойтаць японскую мову. Кантакты пачаліся. Шмат цікавых замалёвак у Ганчарова аб перамовах, аб нязвыклых для рускіх паводзінах суразмоўцаў.

"Японцы ўглядваліся ва ўсё, спрабавалі ўсяго пакрыху і загортвалі ў паперку то цукерачку, то кавалачак торта, а Льода дадаў да гэтага і варэння і ўсё хаваў у сваю вялікую кладоўку, то бок за пазуху: "Дзецям", – сказаў ён нам. Гасцям было горача ў каюце, яны даставалі маленькія папяровыя насоўкі і выціралі пот, іншыя, асабліва другі баніёс, смаркаліся ў паперкі, хавалі іх у рукаў, абмахваліся веерамі. В.А. Гашкевіч завёў скрыню з музыкай, і раптам ціха, пад сурдзінай, пачулася "злітуйцеся, злітуйцеся" з Роберта. Але гэта мала падзейнічала: Баба сказаў, што ў яго ёсць дзве табакеркі з музыкай: галандцы прывезлі".

Няпростыя гэтыя японцы. Час ляціць, а справа стаіць. Вось яшчэ выпадак з месцам стаянкі. "Да вечара зноў прыехалі сказаць, ці не хочам мы ўзяць бухту Кібач, якую займаў ранейшы пасланнік наш, Рэзанаў. Адмірал адказваў, што ва ўсялякім выпадку ён пашле агледзець месца перад тым, як прыме яго. Паехалі глядзець Пешчуроў, Карсакоў і Гашкевіч і вярнуліся са смехам і прыкрасцю, адзначылі, што месца не годнае: голае, пясок, камяні. Ну, трэба цярпення з гэтым народам? Вось чацвёрты дзень усё ідуць размовы аб месцы". Згоды так і не дасягнулі. Адмірал Пуцяцін вырашыў адплыць зноў у Кітай, а потым вярнуцца. І калі не дадуць месца ў Нагасакі, то пойдуць проста на Эда, сталіцу. Так ён страшыў японцаў, каб варушыліся, вырашалі нарэшце пытанні.

Было снеданне на кітайскай шхуне, калі ехалі да берага. "Адзін толькі В.А. Гашкевіч не браў удзел у сняданні, які па сваёй простасці быў варты траянскай эпохі. Ён заняты іншым: пакутуе ад марской хваробы. Ён ляжыць наверсе, захінуўшыся ў шынель, і, ледзьве паварушыцца, сабакі, якія не бачылі ніколі шынелю, з лютасцю брэшуць".

У Шанхаі цікавая занатоўка. "Шырокі, пад ценем дрэваў ганак і ёсць уваходам у краму. Мяне сустрэў пажылы мужчына, чорнавалосы, з клінападобнай барадой, у доўгім шлафоры-сюртуку, не зусім чыстым англійскім вымаўленнем. "Жыд!" – шапнуў мне Гашкевіч, які быў са мною, а перад тым паспеў ужо аб-

бегчы еўрапейскі квартал. Тут, як і ў Фога і як у любой правінцыі, было ўсё ў краме. Мы накупілі ботаў, чаравікаў і адправіліся да Фога па цыгары, але ў дзвярах сутыкнуліся з высокім, чарнявым мужчынам. “Вось сам Фог, – сказаў зноў Гашкевіч, – ён – жыд!” Ён, як выжал дзічыну, чуў жыдоў”.

Відаць, для рускага пісьменніка яўрэйская тэма была цікавай. Папярэдне таксама занатованы падобны эпізод, звязаны з Паўднёвай Афрыкай. Падарожнікі былі з візітам у тамтэйшага доктара, які выдатна гаварыў па-французску, як не гаворыць ні адзін англічанін, жыві ён хоць сто гадоў у Францыі. “Ды ён жыд, панове!” – зноў жа сказаў Гашкевіч. Спадары засумняваліся, але калі доктар у канцы размовы знянацку запытаўся: “А на якім становішчы ў вас жыды?”, то ўсе сумненні зніклі. Для Гашкевіча ў такіх пытаннях загадак не было. Яўрэі ўжо колькі стагоддзяў жылі разам з беларусамі, каму, як не яму, ведаць іх? А вось для Ганчарова гэта тэма новая. Рыса аселасці трывалая, дзе ён мог бачыць яўрэяў у самой Расіі? Адсюль і зразумелы інтарэс.

Але час вяртацца з мацерыковага Кітая на фрэгат, Японія чакае. Для Іосіфа Антонавіча зноў пакуты. “Ледзьве толькі выйшлі за бар, у адкрытае мора, Гашкевіч аддаў звычайную сваю даніну акіяну; на яго прыклад тое ж зрабіў, з вялікім нездавальненнем, айцец Авакум. З немаракаў мяне толькі ніколі не патурбавала марская хвароба: я не выпрабаваў і не зразумеў яе”.

Новы 1854 год падарожнікі сустракалі каля японскіх берагоў. А потым і на беразе, у японскіх саноўнікаў. Маляўнічая карцінка выезду на перамовы. “Мы рушылі. Ехалі на дзесяці шлюпках, якія расцягнуліся на вярсту. Парадак той жа, як і ў першую паездку ў горад, то бок наперадзе ехаў капітан-лейтэнант Пасьет, на адміральскай гічцы, каб сустрэць і паставіць на беразе каравул; далей, на баркасе, сам каравул лікам пяцьдзесят чалавек; за ім катэр з музыкантамі, потым катэр з крэсламі і слугамі; наступныя два займалі афіцэры: чалавек пятнаццаць з усіх суднаў. Нарэшце адміральскі катэр: там, акрамя самога адмірала, месціліся камандзіры з усіх чатырох караблёў: І.С. Унікоўскі, капітан-лейтэнанты Рымскі-Корсакаў, Назімаў і Фурунгельм, лейтэнант барон Крыднер, перакладчык з кітайскай мовы В.А. Гашкевіч і ваш пакорны слуга. Затым ехалі два вельботы і яшчэ гічка з некаторымі афіцэрамі“. Нядрэнная кампанія ў нашага земляка, самі бачыце. А помпа! – рускія трымалі марку як надежыць.

Вельмі няпростымі былі стасункі са і такі дыпламатычны манеўр. Аднойчы японцы прынеслі адказ ад скрытнымі і хітрымі японцамі, перамовы доўжылія бясконца. Быў з іхняга боку вярхоўнага савета ў вялікім белым куфры, які прыняў Гашкевіч. У гэтым быў яшчэ куфэрак, меншы, і яшчэ, і яшчэ. Нарэшце, у шостай, апошняй невялічкай ужо скрыначцы з белага лакіраванага дрэва, вытанчана аздобленай, рогі якой былі акаваны серабром, якраз і ляжала грамата, пісаная на залацістай тоўстай паперы і завернутая ў некалькі шоўкавых тканін. Адным словам, дыпламаты-выдумлякі! Ганчароў падрабязна апісвае гэты эпізод. І ніяк не адсылае да рускай “матронкі”, хоць прынцып абсалютна аднолькавы. Дык, мо і не было ў той час знакамітай “матронкі”? Можа, якраз з Японіі прывезлі ў Расію гэтую ідэю?

Драбніцаў у аповедзе Ганчарова шмат. “На наступны дзень пачаліся перамовы, і нашы пастаянныя паездкі ў Нагасакі. Мы ездзілі без усякага ўжо цырыманіяла, на двух катэрах. У адным адмірал і чацьвёра нас: Пасьет, Гашкевіч, Пешчуроў і я, у другім слугі з крэсламі”. Каторы раз Ганчароў згадвае крэслы. Такой мэблі японцы не мелі, а рускія не маглі весці перамовы, седзячы на цыноўках. Так трэба разумець гэтую дэталь.

Ізноў перамовы перапынены да вясны, экспедыцыя адплыла да Лікейскіх выспаў. “Нарэшце мы прыйшлі. “Э! Ды не на жарт сталіца!” – падумаеш, калі глядзіш на шырокую браму, з франтонам у кітайскім гусце, з кітайскім жа над-

пісам. “Што там напісана? Прачытайце”, – папрасілі мы Гашкевіча. “Не бачу, высока”, – адказваў ён. Мы забыліся, што ён блізарукі”.

Потым былі Філіпіны, Маніла. Гашкевіч і тут займаўся сваімі навуковымі вышукамі. “Шхуна прыйшла 23 лютага, і наша сябрына крыху павялічылася. Пасьет ад’ехаў на азёры, Гашкевіч у мястэчка С.Матэа, глядзець тамтэйшы грот”.

Тое ж бачым і на шляху ад Манілы да берагоў Сібіры. Прыпынкі каля кітайскіў выспаў. “Бухта вялікая: берагі пакрытыя непраходнай кучаравай зелянінай. На выспе ёсць патухлы вулкан; ёсць пальмы, бананы; ракавін мноства; пры мне матросы прывезлі Пасьету набраны імі цэлы мех. Я заказаў і сабе. Доктар забіў да шасці птушак, залацістых, чырвоных, жоўтых: іх трыбушаць і набіваюць хлопкавай паперай. Гашкевічу раздолле”.

“Мы падышлі да нашых намётаў, што былі разбіты на самым беразе, пад дрэвамі, і заспелі Гашкевіча пасярод кузурак, матылькоў, ракаў – жывых і мёртвых, растрыбушаных і нетрыбушаных птушак, змей і яшчарак... Там не было дзе ступіць: цэлы музеум ракавін, усіх колераў і велічынь, ракаў, між каторымі былі некаторыя агромністых памераў і на дзіва яркіх фарбаў, як і ўсё тут, пад гэтым шчодрым сонцам. Тут сядзелі тры індзейцы на падлозе. Яны, за хустку, за старую кашулю, за зношаныя чаравікі, неслі Гашкевічу ўсё, чым багатая тутэйшая прырода. Адзін цягнуў жывую змяю, другі – мех ракавін, за якімі, з сеткай на плячах, накіроўваўся ў буруны, трэці птушку ці жука”.

“Рыбы тут такія ж разнастайныя, бліскучыя і дзіўныя, як усё іншае. Гашкевічу прынеслі іх безліч: яны нанізаны былі на нітцы. Якіх дзівосаў не было тут? У адной толькі і ёсць што галава, а рот такі, што камар не пралезе; у другой адно чэрава, трэцяя ўся складаецца з спіны, чацьвёртая ў нейкіх шыпах, у іншай вочы пасярод цела, на роўнай адлегласці ад хваста і рота; іншая выдае з першага погляду за скураны партманет, і так далей. Усе яны пакрыты пярэстым узорам фарбаў”.

“Я пайшоў берагам да баркаса, які адыйшоў за мыс, амаль да мора, так што давялося ісці туды вярсты тры. Неўзабаве да мяне далучыліся барон Шліпенбах і Гашкевіч, у якога ў сумцы варушылася нешта жывое: ён ужо паспеў набраць усякай усячыны; у руках ён нёс пук кветак і травы”.

“Паўтары гадзіны цягнуліся мы дадому. З якім задавальненнем уселіся потым каля чайнага стала ў каюце! Тут Гашкевічу ўрачыста прынеслі змяю, такую вялізную, якой, за выключэннем удаваў, мы не бачылі: аршыны два даўжынёй і тоўстая. Яна варушылася ў бляшанай скрыні; яе хацелі перасадзіць адтуль у вялікі шкляны слоік са спіртам; яна доўга ўпарцілася, але калі выгналі, то і самі не радыя былі: яна раптам слізганула па падлозе, і злавілі яе з цяжкасцю. Матрос знайшоў яе ў кусце, дзе сядзелі яшчэ бусел і сарока. Навошта яны сабраліся – невядома; можа быць, разыгрывалі нейкую не напісаную Крыловым байку”.

З гэтых цікавых і маляўнічых эпізодаў відаць, што на навуковыя захапленні Гашкевіча працаваў увесь экіпаж, так ужо захапіліся ўсе нязведанай натуралістыкай. Можна сказаць, што ён пераўвасобіўся з драгамана ў навуковага кіраўніка экспедыцыі.

Вось такая карціна з нашым слынным земляком, вымаляваная Іванам Ганчаровым у “Фрэгаце “Палада”. Прыведзеныя фрагменты (іх у кнізе, зразумела, значна больш) даюць магчымасць уявіць Гашкевіча як жывога чалавека, адчуць яго, зразумець. Ды і ўбачыць вачыма Ганчарова нязнаныя дзівосныя краіны і мясціны, якія на свае вочы бачыў і Гашкевіч.

Іван Ганчароў так і не дачакаўся ажыццяўлення мэты экспедыцыі – падпісання трактата з Японіяй. Адмірал Пуцяцін даў яму вольную, адпусціў дадому. Шлях, які ляжаў праз усю Сібір, таксама апісаны ў кнізе. А Іосіф Гашкевіч нёс сваю службу да канца.

У вусці Амура скончыў свой шлях ветэран-паруснік “Палада” на змену яму

прыйшоў фрэгат “Дыяна”, куды перабраўся і наш герой. Дагавор з Японіяй, да ўвасаблення якога шмат намаганняў прыклаў Іосіф Гашкевіч, быў падпісаны 26 студзеня 1855 года (згадайце дату адплыцця!). Але прыгоды нашага земляка не скончыліся. Каля японскіх берагоў падчас землятрусу загінула “Дыяна”. Ганчароў напіша і аб гэтым у сваёй кнізе, але ўжо са сведчанняў відавочцаў. Гашкевіч пакідаў Японію з апошняй часткай каманды, у ліпені 1855 года. Трапіў у палон да англічанаў (ішла Крымская вайна), далей яго шлях ляжаў морам з Ганконга да Англіі праз Паўднёвую Амерыку. Так што падарожжа для Іосіфа Антонавіча стала напоўніцу кругасветным, праз усе акіяны і мацерыкі. Толькі ўжо з Англіі, з палону, вясной 1856 года вярнуўся ў Санкт-Пецярбург. Тры з паловай гады падарожнага жыцця! У беларускай гісторыі, здаецца, няма вандроўніка такога геаграфічнага маштабу.

Невядома, ці сустракаліся потым у жыцці Гашкевіч і Ганчароў. Нават калі і не, цёплыя сяброўскія ўспаміны адзін аб адным захавалі. Бо яднала іх унікальная экспедыцыя, што, дзякуючы пісьменніку, засталася ў аналах расійскай гісторыі і культуры. Проста ў кожнага быў свой жыццёвы шлях. Неўзабаве Іосіф Гашкевіч прызначаны расійскім імператарскім консулам у Японію. Цікава адзначыць, што пратэкцыю яму зрабіў адмірал Яўфімій Пуцяцін, які потым стаў міністрам адукацыі. Значыцца, высока цаніў чалавечыя і прафесійныя якасці свайго драгамана кіраўнік экспедыцыі, якая і заклала падмурак дыпламатычных стасункаў Расіі і Японіі. Будаўніцтва на гэтым падмурку якраз і распачаў Іосіф Антонавіч Гашкевіч. Каля шасці гадоў прадстаўляў ён інтарэсы Расійскай імперыі ў краіне, дзе ўзыходзіць сонца. Але гэта ўжо іншая гісторыя. Адно варта адзначыць, што пасля адстаўкі Іосіф Гашкевіч вярнуўся ў Беларусь. Купіў маёнтак Малі ў Віленскім краі, на Астравеччыне, правёў там астатнія гады жыцця. Ведаў беларус, дзе яго радзіма.

Лілія Бандарэвіч-Чарненка



...жывапіс Шагала – адна суцэльная, цэласная метафара, сімвал непарыўнасці быцця, у якім слёзы і смех, у якім кожны такі шчаслівы і – не надта!..

# Шагал над Віцебскам лятае...

У мастацтвазнаўстве пануе трактоўка Марка Шагала як французскага мастака. Французы б'юцца і за Пікасо, які некалі знайшоў прытулак у Парыжы і так арганічна ўрос у французскую культуру. Але ж падаравала свету вядомага генія кубізму іспанская зямля, як і Шагала – віцебская: куточак своеасаблівага, не падобнага да іншых, беларускага краю (хай тады, напрыканцы XX стагоддзя, ён і ўваходзіў у склад царскай Расіі).

Віцебск нельга забраць ні з лёсу, ні з творчасці мастака, хоць і пражыў ён у Францыі большую частку свайго жыцця. Заўжды ж ёсць нешта першаснае, першароднае, спрадвечнае і асноватворнае, і чалавек нясе гэта ў сэрцы па ўсіх сваіх жыццёвых шляхах-дарогах. Віцебск падарыў свету Шагала, і ні адна іншая зямля не дала яму столькі, колькі гэтая. Дзякуючы Віцебску ён стаў тым, кім стаў. Горад увайшоў у яго кроў, на яго паветры замяшаныя і настоеныя яго фарбы. Праз шчодрую французскую вясну, праз шыкоўныя сонечныя парыжскія бульвары праглядаюць віцебскія вулачкі, бедныя яўрэйскія кварталы са спарахнелымі платамі, цесна прылепленымі адзін да аднаго крывабокімі домікамі са скрыўленымі дахамі (і ў іх ёсць свая прыгажосць).

Я бачыла карціны Шагала ў 1987 годзе на маскоўскай выставе. Для мяне гэты год быў знамянальным: я развітвалася з усім старым, учарашнім у сваім лёсе, здымала з сябе мінулае, як шалупінне з цыбулі (або – як шкарлупіну з яйка), пачынала новае жыццё і гатовая была... узляцець. Мая душа збіралася пакінуць надакучлівае зямное вымярэнне і ўзляцець да іншых – амаль касмічных, галактычных – вышыняў. Я стамілася плакаць на зямлі – мне хацелася смяяцца ў небе.

Карціны Шагала, у якіх людзі і звяры, дрэвы і ліхтарыкі пастаянна лятаюць, мне было лёгка ўспрыняць. Я адразу адчула іх сваімі, роднымі, доўгачаканымі (у маёй душы крыштальна зазвінелі тысячы званочкаў). Стоячы перад імі, я раптам зразумела: іх так лёгка палюбіць і – так цяжка растлумачыць. “Прагулка”, “Двайны партрэт з бакалам віна”, “Над горадам”, “Вясковая лаўка”... Усе гэтыя палотны прымушалі маё сэрца сціскацца і біцца ластаўкай... Шчымецць... Ды й навошта нешта растлумачваць?! Гэта мастацтвазнаўцы павінны ведаць дакладней і больш дэталёва: сюррэалізм тое або неакласіцызм, а можа – прымітывізм... Для таго, хто глядзіцца ў палотны Шагала, як у люстэрка, бачыць там сябе (ці штосьці са свайго жыцця), адчувае хваляванне, усе гэтыя “-ізмы” не маюць асаблівага значэння. І нават тое, што мастак шукаў (і знайшоў!) сваё месца ў жывапісе ХХ стагоддзя... Галоўнае, што шчыміць сэрца. Шчыміць – і ўсё тут!

Асабіста мне (я вырасла на сутыку беларускай, польскай, яўрэйскай, літоўскай культур у падобным да Віцебска маленькім правінцыйным гарадку Заходняй Беларусі, дзе поруч мірна суіснавалі праваслаўная царква, каталіцкі касцёл, а некалі і сінагога) усё ў Шагала зразумелае, знаёмае і пазнавальнае...

Ад паху фарбаў ён п’янеў яшчэ ў дзяцінстве ў “школе малявання Пэна”, дзе браў першыя ўрокі жывапісу. Падымаючыся ў студыю па змрочнай лесвіцы (скрынка з цюбікамі фарбаў матлялася ў яго за спінай), кожны раз маліўся: “Я так хачу быць мастаком. Ціхім. Маўклівым. Прабач мне, мама! Не гандляром. Не грузчыкам. Не гаспадаром крамы. Мастаком. Хай пан Пэн паверыць у мяне! Калі ласка!”

Уся майстэрня яго першага настаўніка была завешаная карцінамі з тварамі багацеяў і іхніх жонак, губернатараў і дам местачковага “вышэйшага” свету. Толькі адна столь была белай і чыстай, высокай і вольнай ад парадных партрэтаў самаздаволеных, напышлівых чыноўнікаў і іх манерных паннаў. У Пэна Марк выявіўся адзіным, хто маляваў незвычайным густым фіялетавым – бэзавым – колерам. За гэта маленькаму настойліваму вучню выбачалася ўсё, і ён два месяцы браў урокі бясплатна.

Яго першыя эцюды, напісаныя на грубым жорсткім палатне, былі прысвечаны знаёмым правінцыйным сюжэтам і героям – разносчыкам вады, грузчыкам, жалобным працэсіям на ўзгорках. Спачатку яны віселі на сцяне, а потым іх паклалі на парог: аб іх было зручна выціраць ногі. Яго сёстры былі ўпэўненыя, што ствараліся яны менавіта для гэтага...

А потым быў Пецярбург, Масква і Парыж. У Парыжы Шагала прынялі як незразумелага да канца чужака-пілігрыма з палохаючай савецкай Расіі, які выпадкова патрапіў на “вечнае свята жыцця”, у вясёлыя кавярні, прахалодныя саборы, у майстэрні ўжо знаных і знакамітых.

Яго дзіцячая прастадушнасць, даверлівасць да ўсяго, абыякавасць да славы і знявага да “табелю пра рангі” здзівілі ўсіх. А крыху пазней – здзівіў і талент. Такі яскравы і самабытны.

Ён упэўнена ўварваўся сваімі дзёрзкімі, адважнымі творамі ў мастацкую рэчаіснасць ХХ стагоддзя і загаварыў на мове еўрапейскага жывапісу, унёсшы ў яго асаблівы віцебскі каларыт, вялікія і малыя падзеі местачковага вечнага быцця. І ўсе тыя, хто спачатку прыняў яго недаверліва і іранічна, схілілі свае галовы ў захапленні...

Шагал пастаянна пашыраў сваю каляровую гаму, ламаў усе ўяўленні пра колер, знішчаў мяжу між тым, што можна і што не ў прапорцыях, кампазіцыі, змешваў дазволенае і забароненае, прывычнае і далёкае, з'ядноўваў фантастычнае і рэальнае. Кампазіцыі яго карцін ахопліваюць і неба, і зямлю. Нават кветкі растуць у аблокі, урастаюць у нябесны купал або ж наадварот – цягнуцца з яго да зямной травы. Лірычныя героі пастаянна рухаюцца па вертыкалі або па гарызанталі – паралельна зямлі. У шагалаўскім паветры лунаюць каровы і пеўні, начныя падарожныя і рыбы, жанчыны з даёнкамі і свечкі, насценныя гадзіннікі і коткі... Ён зрабіў неба не толькі ўвасабленнем духоўнай боскай святасці, але і "ахатніў" яго.

Шагала не зблытаеш з іншым мастаком. Ён пазнавальны і незвычайны ва ўсіх сваіх работах – жывапісе, графіцы, у роспісе памяшкання ААН і столі парыжскай "Гранд-Опера", у пано і гіганцкіх фрэсках на біблейскія сюжэты ў храмах Іерусаліма, у ілюстрацыях да "Бібліі", якімі ён, з'яўляючыся быццам бы атэістам, падараваў нам сваю вялікую Веру ў Бога і сваю вялікую Журбу па свеце, у якім усе павінны былі б жыць па вечных запаветах Хрыста. Пасля таго вялікага і глыбокага, да чаго дакрануўся мастак, прыняць запрашэнне нафтавага караля Анасіса і яго жонкі Жаклін Кенэдзі – было б злачынна: ён адмовіўся распісваць іх прагулачную яхту, хаця і заўжды быў не вельмі багатым.

Ён быў чужы раскошы і назаўсёды застаўся верным Пакроўскай віцебскай вуліцы, бацьку, які так і памёр звычайным грузчыкам на складзе селядцоў, так і не даслужыўшыся да прыказчыка...

Патрыярхальны свет яго дзяцінства не зацямніў нічога ў сэрцы і долі – ён насіў яго ў сабе як каштоўны скарб. З яго пано раптам выглядае асляня (яго праслаў Віцебск), а Эйфелева вежа стаіць проста пасярод віцебскай вуліцы... Дзіцячыя ўражанні – самыя моцныя, да апошніх дзён ён жыў у палоне роднага горада, які не адпускаў яго ад сябе.

Пейзажы французскага поўдня, памаранчавая палесцінская пустыня, грэчаскія ўзгоркі нельга ні з чым віцебскім параўнаць і палюбіць так, як родныя вулачкі свайго дзяцінства (па іх важна і няспешна пахаджваюць пеўні, на іх сустракаеш бедных старых, якія падобныя да старадаўніх біблейскіх прарокаў, ціха спявае сінагога, шуміць натоўп у крамцы)... Гісторыю жыцця яўрэйскай беднаты ад пачатку да канца ва ўсіх яе праяўленнях чытаем з гэтых карцін. У маленькіх рознакаляровых доміках за бясконцымі шэрымі платамі нараджаліся, кахаліся... Гулялі вяселлі, паміралі... Сварыліся і плакалі, адпачывалі пасля працы, сустракалі святы... Цудоўныя драбніцы патрыярхальнага быту, традыцыі і звычаі абшчыны, адданасць адно аднаму – усё перад намі. І гэтыя жывапісныя "карцінкі з правінцыі" набываюць сусветную значнасць, бо яны напоўнены вялікім Боскім промыслам і неразгаданым містычным сэнсам. Ён падае́ нам іх з вялікім захапленнем і павагаю, з пэўнай доляй іроніі, гратэску, з мілым гумарам, уласцівымі толькі яму. У палотнах з'яднаны местачковы лубок, яўрэйскі фальклор, славянскі іканапіс, элементы і прыёмы найноўшага еўрапейскага пісьма...

Усё, створанае ім, дыхае свяшчэнным сэнсам, чакае вялікага біблейскага цуду... Ва ўсім – таямніца падтэксту і магія настрою. Жыццё, дараванае чалавеку, цудоўнае. Яно само па сабе вялікае дзіва, як бы там горка некалі ні было. Яно – салодкая, невытлумачальная таямніца.

Нараджэнне дзіцяці ва ўбогім доме. Драўляны ложак. Аскетызм хатняга інтэр'ера. Бабка-павітуха. Змучаны твар парадзіхі пад святлом цьмянай газнічкі...

Гурт мужчын, якія спрабуюць уварвацца ў дом. Навошта яны тут? Чаго яны хочуць? І пры чым тут яшчэ і карова? А можа, гэтае дзіцё – сам Хрыстос? Што такое важнае хацеў сказаць нам Шагал гэтай карцінай? Хрысціянскі кананічны сюжэт разыгрываецца ў жанрава-местачковым выкананні? Бо што ж такое нара-

джэнне дзіця ва ўбогім доме (амаль на саломе, сярод кароў і авечак), як не цуд, не з'яўленне Хрыста?..

А смерць рамесніка ў гэтым горадзе вечнасці аплакваюць урачыста, высока, з вялікай журбою... Як смерць Бога...

Жывапіс Шагала – адна суцэльная, цэласная метафара, сімвал непарыўнасці быцця, у якім слёзы і смех, у якім кожны такі шчаслівы і – не надта!

У мастака шмат палотнаў на рэлігійную тэму (а яго рэлігіяй было само жыццё, якое ён прымаў усялякім, дзякаваў яму за тое, што адчуў, пражыў, выпрабаваў, спазнаў, і – за тое, што напісаў дзякуючы яму).

Чужынец у Парыжы, вандроўнік, назаўсёды зачараваны Віцебскам, ён падараваў еўрапейцам сваю тугу па бацькаўшчыне, і зрабіў гэта так, як не кожны змог зрабіць... І апеў, уславіў Віцебск, як Бабель – Адэсу, як Гогаль – свой Міргарад...

Пяць гадоў Шагал працаваў над ілюстрацыямі да гогалеўскіх "Мёртвых душ". Яго хітраватыя, загадкавыя, дзёрзкія, размашыстыя каментары да паэмы былі своеасаблівым вяртаннем дамоў...

Прывітанне радзіме з парыжскага далёка, боль за "савецкую" краіну, у якой тады яго б не змаглі зразумець і ўспрыняць. У гэтых ілюстрацыях мы зноў сустракаем пазнавальныя віцебскія драбніцы, сюжэты і персанажаў. (Часы мяняюцца, але ж – не людзі. Тыпажы мінулага стагоддзя бадзяюцца па завулках сённяшняга, яны ў гэтым часе – свае. Як і ў тым). Губернскі горад, куды прыязджае Чычыкаў, нагадвае нам закінуты Віцебск. Горад гэты – такі, які і быў, які і ёсць...

Каробачка – тоўстая, прагная, звычайная мяшчанка, глядзіць на свет праз свае герані (яны – сімвал яе ўласнага дабрабыту, дастатку). Такая сабе быццам бы бяскрыўдная дама старэчага ўзросту. Пры гэтым – сапраўдная разбойніца, усіх абмахлюе і абдзярэ (тыповая віцебская лавачніца, гаспадыня лаўкі, у якой рассякаюць тушы свіней)... Плюшкін, да якога мы адразу адчуваем гідлівасць, з каўпаком блазна на галаве, выглядае і жыве, як старызнік (а можа, гэта алхімік са сваімі падазронымі адкрыццямі? Ці – сярэдневяковы яўрэй?). Чычыкаў – з выпучанай "крухмальнай" грудзінай, фанабэрысты і важны, як раздзьмуты мыльны пухір. А вось ён – загнаны звярок, сядзіць ціха і прыніжана ў кутку сваёй каляскі...

Гогалеўскія замалёўкі яшчэ раз даводзяць, даказваюць нам, што ў мастака і ў пісьменніка агульныя правінцыйныя карані, якія сімвалізуюць краіну, дзе яны абодва нарадзіліся і выраслі. Яшчэ – упэўненасць у тым, што ў гэтай краіне, як у казцы, заўсёды можа адбыцца тое, чаго не можа адбыцца. А іх дваіх усё адно не зразумеюць у ёй да канца.

Ілюстрацыі ў поўнай меры перадаюць гогалеўскую размашыстую фантазію, яго горкі сарказм. Яны напоўнены вялікім філасофскім сэнсам, драматызмам і шчымлівым шагалаўскім смуткам: што ж будзе з краінай потым, у будучыні?

Свет пазнавальна-жахлівы, захапляюча-бязлітасны, неўпарадкавана-рашучы, такі моцны і цэльны, бо ў ім усе жывуць у адной запрэжцы – ад Чычыкава да Селіфана...

Але ў карцінах мастака ўсё ж такі няма ні холаду, ні беспрасветнай журбы.

У Шагала ўсё жыццярадаснае, нястрымна-яскравае, фантастычна-свежае. Яго работы дыхаюць вольна, радасна, нечакана: там, дзе варта заплакаць, мы смяёмся. З яго палотнаў нам іранічна пасміхаюцца і весела падміргваюць сіне-зялёныя твары. На іх танцуюць, весяляцца, іграюць скрыпкі вясковага аркестра...

Ён быў мілым блазнам і вялікім фантазёрам, непапраўным летуценнікам, нястомным свавольнікам і ў той жа час – сапраўдным рэалістам і тонкім, пяшчотным паэтам. Гэты вясёлы, хітраваты, "рознакаляровы" чарадзей, па-дзіцячы забаўны і па-старэчы мудры, заўсёды казаў нам, што жыццё, не зважаючы ні на што, надзвычайнае. Яно – усясветны кірмаш, цуд з цудаў, вечнае свята, і мы павінны берагчы яго такім, якім ведаем.

Ён, як дзіця, вельмі любіў цырк і тэатр. Таму на яго карцінах сумуе і смяецца Чарлі Чаплін, скачуць і жанглююць цыркачы. Акрабаты ў цесных трыко, стоячы на аднойназе, імчацца на конях. Або стаяць на руках на трапецыі. А поруч з імі яшчэ і блакітная карова...

Усё зблыталася ў чароўнай прасторы акцёрства, у яго касцюмаваным (і такім рэальным) свеце: непрадбачлівыя арлекіны і смешныя абывацелі, тоненькія акрабаткі і завароржаныя гледачы, беласнежныя козы і акцёры ў грыме. Вось хлопчык асядлаў курыцу і ляціць на ёй па зямлі: у шагалаўскім свеце магчыма ўсё.

Жыццё святочнае, як сцэна театра, як арэна цырка. А сцэна і арэна – сумныя, як жыццё. Як геніяльны рэжысёр, ён змешваў, сумяшчаў у адно ўсе спектаклі, усе карнавалы, кірмашы і рэальнасць манатоннага звычайнага жыцця.

Адно перацякала ў другое і рабілася адным цэлым. Намаляваны ім шчодры, густы народны быт з яго весялосцю, тэмпераментам, страсцю, знявагай да цяжкасцяў быў асвечаны верай у тое, што ўсё будзе добра. Некалі. Потым. Але ж абавязкова будзе добра.

Мастацтва вызвалення ад штодзённага быту, якое не нясе ў сабе адмову рэальнасці... Яно ўспрымае ўсё як дадзенасць і ўзвышаецца над усім.

Яго персанажы іграюць на флейтах, завісаюць у паветры, абдымаюцца на аблоках, лятаюць у небе і снедаюць там. Увесь свет – тэатр. У кожнага свая роля. Але ж: хопіць плакаць – пачнем смяяцца! Ён не баяўся перабольшанняў, гіпербал. Для яго не існавала забаронаў. Ён так бачыў, адчуваў. І так цяпер (пасля яго) адчуваем і бачым мы, хоць і даўно здагадваліся пра існаванне свабоднага, вольнага ад прывычных зямных законаў свету. Віцебскі чараўнік не прытрымліваўся ніякіх канонаў, ніякіх прапорцый: куранятка ў яго большае за карову, певень – за восліка.

Недасяжны і такі прыцягальны “верх” – гэта сіняе бяскрайняе неба, увасабленне духоўнай боскай святасці і сутнасці звычайнага зямнога быцця. Яго героі не толькі мрояць пра неба, яны ўзносяцца туды. І асабліва – закаханыя.

Ілюстрацыі мастака да біблейскіх “Песняў Песняў” не толькі пра каханне цара Саламона да Суламіфі.

У іх захапляюча-нябесна, лагодна-боска гучыць матыў кахання Шагала да жанчыны і любові да Бога. Біблейскі, усім знаёмы сюжэт ператварыўся ў зямную гісторыю кахання сына грузчыка да недасяжнай прыгажуні Бэлы...

У Шагала заўсёды так – быццё падзелена на “верх“ і “ніз“, на магчымасць і немагчымасць. І гэтыя два светы неразрыўна звязаны між сабою. Паэты-рамантыкі, закаханыя ўсіх часоў і народаў заўжды імкнуліся да аблокаў. І скрыпачы (для іх неба было заўсёды бліжэй, чым трава).

Палёт – галоўная тэма яго творчасці. Спачатку была гуаш “Гадзіннік”. Аўтабіяграфічная замалёўка. Малады Шагал яшчэ толькі глядзіць на начное неба скрозь акно. Масіўны гадзіннік выпісаны да апошняй дэталі...

Пройдзе час, і Шагал паляціць. Разам з Бэлай. І з імі паляціць у неба і гэты самы гадзіннік. Так суджана – жыццём і мастацтвам... Праз тры гады з’явіцца іншы аўтапартрэт, у якім Марк пераступае простакутнік акна не як парог дома, а як мяжу зямнога існавання. Блакітнае неба. Горад унізе. І ён ляціць – з бантам на шыі...

Ёсць яшчэ шмат іншых карцін, на якіх ён лятае, абняўшыся з Бэлай, над Віцебскам, над зжаўцелымі травамі, убогімі домікамі, худымі коткамі, тоўстымі лавачнікамі, барадатымі музыкантамі, хлопчыкамі нядзельнай школы, ружовашчокімі жанчынамі...

Лесвіца ў паветра нябачная, неадчувальная на дотык, як бясконцая лесвіца Іакава, што стаіць на пяску і ўпіраецца прама ў неба. Яна – свабода душы, вызвалення ад усяго, што на траве і каля платоў... Неба ў Шагала – вольная стыхія, у якой шчаслівыя тыя, хто не быў такімі на зямлі. Яно – прыстанішча не толькі для закаханых, а і для ўсіх убогіх, абяздоленых, беспрытульных, няшчасных.

Ён першы з нас усіх зразумеў, што неба і зямля – дзве паасобныя тэрыторыі, і ў той жа час – дзве неразрыўна звязаныя між сабою прасторы. Валадарка гэтых двух светаў – Жанчына. Менавіта Ёй дазволена Богам ступаць басанож па лужынах і па Вялікай Мядзведзіцы. І калі Яна пакутуе і плача на зямлі, то ў небе шчасліва смяецца, бо яно – галоўнае месца ўсіх любоўных спатканняў, усепланетарны бульвар, на якім анёлы (ці парыжскія кветачніцы?) даруюць закаханым зоркі (а мо ўсё ж такі – пралескі?)...

І хвіліны радасці адлічвае ім не насценны, а нябесны гадзіннік. Жанчыне ўдалося ўцячы ад рэальных законаў існавання, перамагчы цяжар зямнога грэшнага цела, адарвацца ад сцен пакояў, вышчарбленых тратуараў горада і – узляцець.

У дадзеным выпадку працуе закон Прыцягнення. Да іншага паветра, планетаў, целаў і душ. Да шчасця... Да іншай долі.

І кожны з нас гатовы, як птушка з галінаў, сарвацца з пасцеляў, крэслаў, офісаў і – паляцець!..

Гэта тое, чаго заўсёды не хапае, тое, на што мы калі-нікалі ўсё ж такі адважваемся...

Перад карцінамі Шагала заўжды заміраеш. Страчваеш мову і каардынацыю рухаў. Становішся напаўпрытомным. Ён – вадаспад, маланка, паводка, стыхійнае бедства. Ён – мальба пра прабачэнне. І – вылячэнне. Ён загаворвае нашыя раны...

І ўсё ў яго пра каханне – і гордая Эйфелева вежа, і старэнькія бабулі, і коні, запрэжаныя ў сані. І букеты півоняў і лілеяў, і малады ў "кацялку". І жарабя, якое вось-вось з'явіцца на свет. І анёлы... Усё пра каханне. А значыць – яго не патрэбна баяцца. Патрэбна проста кахаць.

У гэтым і ёсць галоўны сэнс жывапісна-паэтычнага запавету Шагала, вялікага віцебскага мага, які зрабіў маленькі местачковы горад цэнтрам сусвету.

Самотны, забыты Богам, Віцебск здаваўся яму святлейшым і прыгажэйшым, чым шыкоўныя святочныя кварталы Парыжа. І – найдаражэйшым. Там плакалі так шчыра і з такім болем!.. І можа, Хрыста раскрыжавалі не на Галгофе, а там, у Віцебску, дзе ўмелі так плакаць. І так смяяцца, так прабачаць і абвінавачваць, так маліцца... Шагал належыць гэтаму гораду, як ніякаму іншаму.

Але... Але асабіста я не хачу ехаць туды, хоць і ні разу там не была. Каб не расчароўвацца. Я ўжо люблю гэты горад дзякуючы Мастаку. Я ведаю яго такім, якім ведаю. Шагал усё расказаў мне пра яго. І яшчэ я добра ведаю: Шагал – не ў Парыжы. Не ў Іерусаліме. Не (барані Божа!) у Маскве. Ён там – у Віцебску. Лятае над Дзвіной і Віцьбай. Калі хочаце пабачыць яго – шукайце там...

Аляксей Шэін



...нелегальную літаратуру

мы друкавалі так...

# Святыя падпольшчыкі

## Слова ад "Дзеяслова"

Ад гэтай публікацыі мы пачынаем друкаваць тэксты пераможцаў літаратурнага конкурсу "Экслібрыс" імя Аляксандра Уласава, які ўжо традыцыйна ладзіць Саюз беларускіх пісьменнікаў. Сёлета конкурс быў прысвечаны нявыдуманай літаратуры ці, як цяпер прынята казаць, – нон-фікшн. На конкурс прымаліся творы ў наступных жанрах: эсэ (літаратуразнаўчае, сацыякультурнае, гістарычнае, краязнаўчае, этнаграфічнае), нарыс, публіцыстычны (аналітычны) артыкул, літаратурны агляд, рэцэнзія і інш.

Рэдакцыя "Дзеяслова" шчыра віншуе пераможцаў конкурсу. Імі сталі:

***Крысціна Бандурына***
***Антон Рудак***
***Ганна Севярынец***
***Хведар Сумкін (Анатоль Івашчанка)***
***Аляксей Шэін***

Тэкст Аляксея Шэіна, які прапануецца да ўвагі чытачоў, быў напісаны на тэму "Пераадоленне абмежаванняў".

**«Дзеялоўцы»**

***Калі я пачуў, што ў савецкай Беларусі квітнеў падпольны хрысціянскі друк, я адразу не даў веры. Па-першае, вядома, што БССР, на фоне іншых рэспублік Савецкага Саюза, асаблівым дысідэнцтвам не адрознівалася. Па-другое, калі б тут сапраўды масава друкавалі падпольныя рэлігійныя выданні, то пра гэта я б ужо недзе прачытаў. Але мой сябра быў упэўнены, што мае рацыю:***

***– Друкавалі і на месцы, і везлі кнігі кантрабандай, – казаў ён. – Прычым, друкарні тут былі самыя розныя – ад вялікіх стацыянарных да перанасных станкоў, якія можна было хутка сабраць і на мапедзе перавезці з лесу ў лес.***

***Вось гэтыя станкі мяне й зачапілі – вельмі пераканаўча гэта гучала, так, што захацелася ва ўсім разабрацца, знайсці, пабачыць.***

***Таму я пачаў разбірацца. Пачаў шукаць хоць нейкія зачэпкі. За пару тыдняў знайшоў тэлефоны і адрасы людзей, якія маглі б хоць штосьці распавесці. Атрымаўся невялічкі спіс: шэсць чалавек у Менску, а яшчэ – Пінск, Берасце, Гарадзеншчына. Дамовіўшыся з відэаапаратарам і кіроўцам, вырушыў у дарогу.***

Мы паехалі на Берасцейшчыну, дзе мусілі зрабіць некалькі інтэрв'ю. Першая сустрэча, у самім абласным цэнтры, праходзіла ў прыватным доме. Гаспадыня, жанчына сярэдняга веку, глядзела на нас спачатку крыху недаверліва, але потым разгаварылася.

– Вось гэты тып друку называецца "сінька", – патлумачыла яна, разгарнуўшы дзіцячы лемантар у пацёртай зялёнай вокладцы.

Я гляджу ў кнігу: на старонцы з літарай "З" – рукі, за кратамі, складзеныя ў малітоўным жэсце. Адно са словаў, каб дзеці маглі запомніць літару – "Зона". І тут жа словы з Новага Запавету: "Помните узников".

Жанчына працягвала:

*– "Сінька", з аднаго боку, добры метад, бо ўсё можна рабіць дома. Матрыца невялікая, на анове крухмалу. Але з іншага боку – з яе атрымліваецца толькі сто копіяў. Таму даводзілася рабіць па некалькі матрыцаў для адной старонкі. Гэтую "сіньку" мы засвоілі першай. А потым была шоўкаграфія...*

*Я прыняла хрост у 1978 годзе і адразу пачала займацца друкам. Я тады была ў восьмым класе. Рабіла пераплёты, варыла таксама фарбу для шоўкаграфіі: яе асновай быў кукурузны крухмал (бульбяны быў непрыдатны), туш. Займаліся ўсім гэтым, канешне, у асноўным, мы, моладзь. Былі яшчэ людзі, адказныя за тое, каб прывезці паперу, потым адвезці гатовыя кнігі. Дамы, у якіх друкавалі, часта мяняліся. А наша група займалася дзіцячымі кнігамі для Савецкага Саюза...*




*На развітанне жанчына падаравала нам той самы зялёны лемантар.*

Наступная размова была ў Пінску. Мы сустрэліся з Васілём Барычэўскім. У 70-х яго асудзілі на тры гады калоніі за некалькі асобнікаў хрысціянскага самвыдату.

*– У мяне знайшлі друкарскую машынку і вытрымкі з Эвангелля ад Яна, якія я зрабіў у дзесяці асобніках... Запыталі пры вобыску: "Навошта ты ажно столькі надрукаваў? Для распаўсюду?"*

*Забралі ўсё: машынку, усе мае запісы, сшыткі,*

*нават чыстую паперу... Пачалося следства, і ўжо ў часе яго мне сказалі, за мной назіралі апошнія некалькі гадоў.*

*Давалося тры гады сядзець у турме. Нашаму брату Якаву Пацукевічу, з якім нас разам судзілі, далі пяць год – у яго было больш абвінавачванняў, а ў мяне толькі артыкул 222 Крымінальнага кодэксу БССР: “Замах на асобу і правы грамадзян пад выглядам выканання рэлігійных абрадаў”...*

*Я ўдзельнік вайны. У 1975-м у СССР святквалі трыццаціґоддзе заканчэння Другой сусветнай вайны. І ўсім удзельнікам была амністыя. І, ведаеце, вось што мяне ўзрушыла: нават чалавек, які забіў іншага сякерай, выйшаў на волю. А я, хоць і сядзеў у турме з-за сваіх рэлігійных перакананняў, адбыў ад званка да званка... Але я ні на каго зла не трымаю. Адзінае маё жаданне – каб гэтыя людзі пакаяліся і спазналі праўду...*



*Васіль БАРЫЧЭЎСКІ*

Берасцейская вандроўка нешта праясніла. Падпольны хрысціянскі друк сапраўды быў. Былі і дысідэнты, якія адседжвалі рэальныя тэрміны. Але вось наколькі масава вялася гэтая друкарская праца? Ці былі насамрэч станкі? Ці былі вялікія наклады?

Спрабуем даведацца пра гэта ў Менску. Сустракаемся з Уладзімерам Канатушом, прапаведнікам Саюзу Евангельскіх хрысціянаў баптыстаў. Яшчэ за Сталінам ён быў арыштаваны і прысуджаны да расстрэлу. Праўда, адразу пасля вынясення прысуду “гуманны” савецкі суд замяніў найвышэйшае пакаранне дваццацю пяццю гадамі лагераў.

*– У чэрвені 1950 года мяне арыштавалі,* – кажа пажылы ўжо служыцель царквы. *– Памятаю, следчы выняў рэвальвэр, паклаў на стол. І задае пытанне: “Ты гаварыў пропаведзь «Не любіце свету, ні таго, што ў свеце»”? – “Так”, – адказваю... Дык вось на падставе гэтай пропаведзі мяне абвінавацілі, што я выступаў супраць савецкага грамадства, супраць савецкіх людзей... Асудзілі і далі 25 гадоў сталінскіх лагераў. І яшчэ 5 гадоў высылкі.*

*Мяне накіравалі ў Карлаг. Гэта Карагандзінская вобласць. Там зіма вельмі халодная, 52 градусы мароз быў. Нас вадзілі на працу, калі мароз быў да 45-і. Калі вышэй за 45, то мы заставаліся ў бараках. Мы капалі траншэю глыбінёй 3 метры 20 сантыметраў, таму што зямля там прамярзае да 3-х метраў. І гэты грунт мы чым толькі маглі – і ламамі, і сякерамі, і рыдлёўкамі секлі. У лагеры было 2000 чалавек.*

*У першым лісце, які мне дазволілі напісаць дахаты, я папрасіў: “Дашліце мне слова”. Вось так я напісаў. Нельга было пісаць “Біблію”. Мне разабралі палову Бібліі па сшытках, да Кнігі прарока Ісаі ўключна. Уклалі цыбуліны ў гэтыя сшыткі. І пасылку даслалі прадуктовую. Калі я забіраў пасылку, то ў лагеры не звярнулі ўвагу, у якія паперы там усё было закручана. Так я займеў частку Бібліі і чытаў яе, хаваючы ад наглядчыкаў.*

*Ужо па вызваленні, тут, у Менску, я заняўся выданнем кніг. Гэта не было масава, але мы імкнуліся рабіць тое, што было магчыма. У нас быў сябра, Георгі Адамовіч з Кобрыня. Вучыўся ў Маскве ў ін’язе, але яго, даведаўшыся, што ён веруючы, выключылі з пятага курса. Дык вось, ён для нас перакладаў тое, што да яго трапляла па-ангельску і па-нямецку. А мы ягоныя пераклады друкавалі на машынцы і перапраўлялі ў іншыя гарады СССР.*

Напрыканцы размовы Уладзімер Канатуш адчыняе шафу, і мы бачым цэлыя паліцы, застаўленыя падпольнымі выданнямі.



Уладзімер КАНАТУШ з адной з самвыдатаўскіх кніг.

Мы ўсё яшчэ шукалі новых суразмоўцаў, спрабуючы натрапіць на след масавага друку, і тут мне параілі пагаварыць з Аляксандрам Саковічам, пастарам менскай царквы "Слова Веры". І як толькі мы спаткаліся, я адразу зразумеў, што прыйшоў не дарма:

– *Мы хацелі, каб Эвангелле было даступным для кожнай сям'і,* – пачаў расказваць пастар. – *Гэта ж была цэлая праблема – у людзей проста не было Бібліяў. Таму вырашылі стварыць сваю падпольную друкарню.*

*Камплектуючыя для яе нам прывезлі фіны. У Рызе і Таліне мы забіралі ў іх усё неабходнае для друку. Ездзілі таксама ў Сарны, ва Украіну, – па матрыцы шаўкаграфіі. Але затым арганізавалі вытворчасць гэтых матрыцаў тут. Сталі выпускаць кнігі...*

*Тыражы ў нас былі самыя розныя – ад тысячы да пяці тысячаў асобнікаў. Дзякуй Богу, у нашай групе нікога не арыштавалі, хаця я ведаю сясцёр з Малдовы, быў у іх у друкарні – іх потым пасадзілі на пяць гадоў...*

*Мы, каб пашырыць Эвангелле, займаліся не толькі друкам. Яшчэ былі і нелегальныя пастаўкі літаратуры з-за мяжы. У пачатку 80-х гадоў нам таксама фіны перасылалі Біблії ў вакуумных пакетах, у кожным пакеце па дзесяць кніг, праз Фінскую затоку. Яны даходзілі на лодках да нейтральнай паласы, і калі вецер ішоў сюды, перапраўлялі кнігі. А я і іншыя нашы маладыя браты, атрымаўшы інфармацыю, туды выязджалі, збіралі на беразе гэтыя Біблії і вывозілі ў машынах...*

Аляксандр Саковіч дае нам кантакт яшчэ аднаго чалавека, які займаўся самвыдатам. І мы плануем ехаць на размову з Сяргеем Шарапам, святаром царквы "Жыццё ў Хрысце".

Здаецца, сітуацыя пачынае высвятляцца. Намі ўжо сабраны матэрыял, мы аб'ездзілі некалькі гарадоў, пагаварылі з людзьмі. Але тут нам тэлефануюць з Берасця, тая самая жанчына, якая распавядала пра "сіньку":

– Ведаеце што, я падумала... не трэба нічога паказваць з таго, што я вам расказала. І называць мяне не трэба.

Я, расчараваны такой хадой падзеяў, спрабую пераканаць яе, што баяцца не варта. Што ў фільме, які плануем зрабіць, мы можам нават твару яе не паказваць, калі яна хоча перастрахавацца:

– Мы можам толькі вашы рукі паказаць і кнігі. А голас ваш будзе толькі за кадрам.

– Не, калі ласка. Не трэба ўвогуле нічога.

Мы развітваемся.

Адным матэрыялам менш. "Але нічога, – супакойваю я сябе, – засталіся яшчэ іншыя касеты, больш за дзясятак".

Наступіла ранняя вясна. На вуліцы яшчэ снег. Вечар прэзідэнцкіх выбараў. Холадна. Я вяртаюся дахаты з выбарчага штабу, дзе працаваў. Іду, каб пераапрануцца ў нешта цяплейшае і вырушыць на плошчу. Заходжу ў кватэру, уключаю святло. Стаўлю чайнік на пліту. Праз хвіліну – званок у дзверы. З нядобрым прадчуваннем іду адчыняць.

У кватэру ўламваецца каманда з калашнікавымі. Мне суюць у твар нейкую пастанову пра вобшук. Па падлозе разлятаюцца паперы з шафаў. Кіруе ўсім агідны хлопчык-кагэбэшнік. Каманда спрытна пакуе кампутары, кнігі, флэш-карты, дыскі.

– Што гэта? – раптам паказвае адзін з іх на пакунак.

– Тут касеты.

– Таксама забіраем.

– Слухайце, навошта яны вам? Гэта ж не звязана з палітыкай. Тут дваццаць гадзінаў відэаматэрыялаў. Мая праца.

– Што за відэа?

– Матэрыялы пра гісторыю царквы ў савецкі час.

– Давай праверым, – аддае ён загад апаратару.

Той ставіць касету ў сваю камеру. Уключае. Запальваецца экран, паказваючы сівога мужчыну, і на ўвесь пакой разносіцца:

– Нелегальную літаратуру мы друкавалі так...

На гэтых словах камеру адключаюць, і начальнік пытальна глядзіць на мяне. Я, раззлаваны ад таго, што інтэрв'ю ўключылася менавіта на гэтых словах, разумею, што ўвесь штабель нашых касетаў на доўгі час, а можа і назаўсёды, пераязджае ў галаўны офіс КГБ...

Дзякуй Богу, праз шэсць месяцаў касеты вярнулі, як і кампутары з усім астатнім. У вялікіх поліэтыленавых мяхах, апячатаных адмысловымі пячаткамі.

А мы ўрэшце, працягваючы працу, дамаўляемся на сустрэчу з Сяргеем Шарапам. Ён вязе нас да аднаго з дзевяціпавярховікаў на праспекце Пушкіна ў Менску. Падыходзім да пад'езда, і ён паказвае рукой угору:

*– Вось там, на дзявятым паверсе, адна сям'я дала нам сваю трохпакаёўку, і мы абсталявалі ў гэтай кватэры друкарню.*

*Мы арганізавалі цэлую сетку групаў, якія займаліся гэтай працай. Спачатку ўвогуле друкавалі на машынцы "Ятрань", на ёй мы зрабілі першыя кніжкі і брашуры. А потым болей, болей, болей. Я ўладкаваўся на дзяржаўную друкарню, адпрацаваў там два гады, каб вывучыць тэхналогію. І вось, з часам, зрабіўшы станкі, мы наладзілі масавы выпуск падпольнай хрысціянскай літаратуры. Нашы наклады былі да дзесяці тысяч асобнікаў.*

*Працавалі мы тут без выхаду, днямі і начамі – проста патрэбная была літаратура. Вельмі была патрэбная, і ў вялікіх колькасцях. Мы друкавалі на самых розных мовах, і адпраўлялі гэта па ўсім Савецкім Саюзе...*

*Праўда, трэба сказаць, што і нам таксама дапамагалі з-за мяжы. Перадусім матэрыяламі для друку: фарбай, матрыцамі. Але былі і гатовыя кнігі. Аднойчы проста цэлую фуру з Бібліямі перавезлі сюды кантрабандай. Нам толькі паведамілі, у якім лесе, дзе і калі чакаць. Далі ўмоўныя знакі. Мы прыехалі на месца і паспяхова забралі груз. Я нават не ведаю, хто гэта рабіў, бо нельга было ведаць ніякіх імёнаў, ды й ніхто з нас не патрабаваў такой інфармацыі...*




Далей мы едзем у Ратамку, у дом Сяргея Шарапы, і ён дастае аднекуль і раскладвае на стале кнігі, брашуры, паштоўкі. Тут і Бібліі, і мастацкая хрысціянская літаратура, і духоўна-асветніцкія выданні.

Мне становіцца цікава, што паміж усім гэтым робіць савецкая складная паштоўка на 7 лістапада, з гваздзікамі. Разгортваю яе,

чакаючы прачытаць якое-небудзь старое віншаванне. Ажно тут аказавецца – на танюсенькіх аркушыках – Евангелле ад Лукі.

– А гэта – яшчэ адзін варыянт канспірацыі, – пасміхаецца Сяргей, гледзячы на мяне. – Бачыш, калі яна ляжыць, то выглядае проста як паштоўка. А калі яе яшчэ паставіць паміж кніг, дык увогуле ўвагі не прыцягне.

Выдавец сыходзіць і, урэшце, выносіць тое, што я ўжо даўно шукаў: станок.

Ён спраўна запраўляе матрыцу, нацягвае спружыну:



*Сяргей ШАРАПА і той самы перанасны станок.*



– Такія рэчы за гады не забываюцца.

А затым дастае цэлы інтэрнацыянал кніг ды яшчэ літары для набору. Тут і беларуская мова, і расейская, і ўкраінская, і грузінская з асетынскай. Сонца адбіваецца тлустымі алейнымі blікамі на рознамоўным волаве. І я разумею, што, сапраўды, як напісана ў Евангеллі, “дары і пакліканне Божае нязменныя”.

Калісьці, у часы Скарыны, наша зямля была цэнтрам асветы для Усходняй Еўропы і служыла гэтым дарам іншым народам. За камуністамі таксама – менавіта тут была кропка, з якой на ўвесь СССР масава разыходзілася несавецкая, падпольная хрысціянская літаратура.



Значыць, і перспектывы ў нас таксама добрыя.

Ірына Масляніцына – Мікола Багадзяж



...перамога
ўсё роўна мусіла
дастацца маскавітам...



# Першы рыцар Вялікага Княства Канстанцін Астрожскі

Дзяцінства і ранняе юнацтва князя Канстанціна Іванавіча Астрожскага – *terra incognita* для даследчыкаў. Усё няпэўна: дата нараджэння – каля 1460 года, месца – верагодна, радавое памесце бацькі, Астрог. Але продкі Канстанціна не мелі звычкі выстаўляць сябе перад іншымі, выхваляцца княскай годнасцю ды ўладнасцю. Сціпла служыць на дабро сваім падданым і ніколі нічога не рабіць супраць уласнага сумлення – такі прыклад нашчадкам пакінуў пасля сябе родапачынальнік дынастыі, князь Юры Тураўскі.

Сярэдні сын князя Юрыя, Яраслаў, атрымаў ва ўдзел Пінск, які пасля смерці завяшчаў сынам ад балгарскай князёўны Еўфрасінні – Уладзіміру і Міхаілу. Ва Уладзіміра было чацвёра сыноў. Малодшы з іх, названы ў гонар прадзеда Юрыем, і даў пачатак роду Астрожскіх. А прозвішча пайшло ад маёнтка Астрог, які атрымаў за службу сын Юрыя Уладзіміравіча, Дзмітрый. Пасля Дзмітрыя Астрожскага быў Даніла. Гэта менавіта ён, заклікаўшы на дапамогу татараў, адстаяў Галічыну, калі польскі кароль Казімір III намагаўся захапіць яе пад сваю ўладу. Трое



*«Князь Канстанцін Астрожскі», фрагмент карціны Валянціна і Ляілі Варэца*

з пяці сыноў Данілы загінулі ў сумна славутай для беларусаў бітве на Ворскле, чацвёрты пайшоў у манахі. Род працягнуў малодшы Фёдар. Ён праславіўся як герой Грунвальда і гусіцкіх войнаў. Фёдараў сын Васіль пратэставаў супраць аб’яднання Вялікага Княства Літоўскага з польскай каронай. Фёдараў унук Іван праславіў сябе перамогай над крымскімі татарамі ў 1454 годзе пад Церабоўлем. Тады з татарскага палону ўратавалі 9 тысячаў чалавек, а ўзрадаваная жонка Івана Астрожскага, Настасся Глінская, узвяла ў гонар бліскучай перамогі манастыр у Калодзежным. Манастыр той не захаваўся – яго спалілі татары, калі ў наступны раз чынілі свой набег на Валынскія землі. Колькі іх, набегаў гэтых, было ў часы маленства сына Івана Астрожскага, Канстанціна – цяжка ўдакладніць. І ці не татары былі вінаватымі ў раннім Канстанцінавым сіроцтве?

У сямігадовым узросце ён ужо знаходзіўся пад апекай свайго старэйшага брата Міхаіла, дзядзькі Юрыя Астрожскага, які валодаў маёнткам Заслаўе на Валыні, і другога дзядзькі, князя Льва Глінскага, чалавека знатнага, але небагатага, вымушанага зарабляць на жыццё ўласным мячом, службай у князя Мсціслаўскага. Ці выпала юнаму Канстанціну павучыцца за мяжой, як тое атрымалася, напрыклад, у сына Льва Глінскага Міхаіла? Цалкам магчыма. Тым больш, што ў дакументах літоўскіх ды польскіх імя Канстанціна Астрожскага ўпершыню ўзгадваецца толькі ў 1486 годзе, і называецца тут дваццацішасцігадовы князь “бакалаўрам”. А бакалаўр – вучоная ступень.

Пэўны час Канстанцін служыў у трокскага ваяводы Марціна Гаштольда. Потым разам з братам Міхаілам Іванавічам знаходзіўся ў свіце вялікага князя Літоўскага Казіміра Ягелона. Але хутка даводзіцца малодшаму Астрожскаму праявіць сябе і як стратэгу ў бітвах з крымскімі татарамі, набегі якіх рабіліся ўсё больш частымі. У 1491 годзе князь Канстанцін вызначыўся як камандзір, калі конніца Вялікага Княства Літоўскага на чале з Сямёнам Гальшанскім разбіла войска крымцаў пад Ізяславам. Ліцвінскія палітыкі ведалі: крымцы дзейнічаюць у дамове з маскавітамі. Вялікі князь Маскоўскі лічыць незаконным знаходжанне праваслаўных земляў у суседняй дзяржаве, ён жадае далучыць іх да Масковіі, “дзеля яднання праваслаўных”. І сёй-той у Вялікім Княстве Літоўскім быў бы рады таму. Іван III выступіць на Вільню, як толькі татары дастаткова аслабяць ліцвінскае войска.

У падрыхтоўцы да вайны ў чэрвені 1492 года памёр Казімір Ягелон, які адначасова быў і вялікім князем Літоўскім, і каралём Польскім. Перад магнацтвам абедзвюх краін паўстала пытанне: каго абраць на апусцелыя прастолы. Яшчэ ў 1484 годзе Казімір выказаў сваю волю – каралём Польшчы пасля яго стане старэйшы сын Ян Ольбрахт, вялікім князем Літоўскім – другі сын – Аляксандр. У 1491 годзе Аляксандр нават прыбыў у Вільню, каб прыгледзецца да тамтэйшага асяроддзя і вылучыць тых людзей, якія маглі б стаць яго бліжэйшымі паплечнікамі.

Аляксандр быў кніжнікам, рамантыкам, чалавекам, які больш за ўсё цаніў годнасць. Ён захапляўся сярэднявечнымі раманамі пра караля Артура і марыў ператварыць Вільню ў другі Камелот. У таемнай зале Віленскага палаца Аляксандр паставіў “круглы стол”. Хутка вакол стала гэтага пачалі збірацца і рыцары – найлепшыя з магнатаў-равеснікаў вялікага князя. Былі тут браты Мікалай і Януш Радзівілы, сын Марціна Гаштольда Альбрэхт, Аляксандр Хадкевіч. Далучыліся

да такога баўлення часу таксама два старэйшыя рыцары, Іван Сапега і Сямён Гальшанскі. Былі і іншыя. Паводле падання, “лікам дванаццаць”. Аднак першым сярод роўных за “круглым сталом” Аляксандра Ягелона стаў Канстанцін Астрожскі. Невядома, чым была выкліканая такая сімпатыя. Але Аляксандр сапраўды захапляўся розумам, кемлівасцю і шчырасцю Канстанціна. І Астрожскі плаціў свайму сябру тою ж манетай.

Трыццацігадовы князь быў адным з тых, хто пасля смерці Казіміра падтрымаў укняжэнне Аляксандра, хаця большасць праваслаўных магнатаў на элекцыйным сейме патрабавалі вялікакняскі вянец для адзінаверца, Сямёна Алелькавіча. Яны думалі, што калі прастол у Вільні зойме Алелькавіч, гэта выб’е з рук маскоўскага князя галоўны аргумент на карысць вайны. Бо сапраўды, навошта ж “выратоўваць” праваслаўных у Вялікім Княстве Літоўскім, калі гасудар гэтай дзяржавы таксама праваслаўны? І Польшчы падначальвацца не будзе, бо ў ёй са смерцю Казіміра станецца асобны манарх, не звязаны роднасцю з гаспадаром Вялікага Княства Літоўскага.

Ці пераважылі б на той час аргументы праваслаўных у перадвыбарнай барацьбе, каб князь Астрожскі таксама падтрымаў Алелькавіча? Наўрад ці. Большасць паноў-рады, якія мусілі сказаць рашучае слова, былі каталікамі і прыхільнікамі дынастычнага праўлення Ягелонаў. Аляксандр перамог свайго суперніка. А Астрожскі, паўстаўшы перад выбарам: сябар ці адзінаверцы, – абраў сябра. Зрэшты, Аляксандр абяцаў быць лаяльным да сваіх падданых, якога б веравызнання яны ні былі. А яшчэ, кажуць, на першым жа пасяджэнні “круглага стала” пасля ўкняжэння Аляксандра рыцары прапанавалі свайму сюзерэну заслаць сватоў да дачкі вялікага князя Маскоўскага, Івана ІІІ. З родзічамі не ваююць. Родзічаў шануюць і берагуць! Ды і князёўна Алена Іванаўна – рэдкая прыгажуня. Вялікі князь Літоўскі пагадзіўся. Але ён нават не паспеў сабраць пасольства...

Маскоўскія войскі рушылі праз мяжу ў жніўні 1492 года, усяго праз два месяцы пасля смерці Казіміра і менш чым праз месяц пасля каранацыі Аляксандра. Усе рыцары “круглага стала” выправіліся з войскамі абараняць правы свайго сюзерэна. Дакладных згадак пра тое, у якіх бітвах прымаў удзел Канстанцін Астрожскі, не захавалася. Але ён звярнуў на сябе ўвагу палкаводцаў Вялікага Княства. Аляксандр нават узнагародзіў свайго сябра “за асабістую ваенную чыннасць” – праўда, пасля падпісання міру.

Вайна доўжылася два гады. Вялікае Княства Літоўскае пераследаваў шэраг няўдачаў. Аляксандр усё больш умацоўваўся ў думках, што толькі жаніцьба на дачцэ ворага можа даць мір. У 1494 годзе Аляксандравы паслы Станіслаў Гаштольд, бацька Альбрэхта, гетман найвышэйшы Вялікага Княства Літоўскага Пятро Белы і Канстанцін Астрожскі праз разбураныя гарады і спаленыя вёскі дабраліся да межаў з Масковіяй і запатрабавалі суправодзіць іх у сталіцу Івана ІІІ. Яны прасілі маскоўскага ўладара спыніць вайну і прапаноўвалі шлюб Аляксандра і князёўны Алены. Іван ІІІ літасціва згадзіўся. За права на землі ў вярхоўях Акі, а таксама Вязьму, Дарагабуж і іншыя гарады ўсходняй Смаленшчыны.

Прыўкрасную нявесту прывёз у Вялікае Княства Літоўскае спецыяльна дзеля гэтага накіраваны Аляксандрам І Альбрэхт Гаштольд. Менавіта яму даверыў Ягелон права на гэтак званы “папярэдні шлюб”, сярэднявечны абрад, які мусіў быць гарантам таго, што нявесту не вернуць з паўдарогі назад, зняслаўленую і пакрыўджаную. З бацькоўскага дому яна мусіла ад’ехаць ужо жонкай. Ад імя жаніха Гаштольд у храме даў шлюбную клятву Алене і надзеў ёй на палец заручальны пярсцёнак. Калі шлюбны поезд наблізіўся да Аляксандравай сталіцы, насустрач Алене Іванаўне выехалі чатыры прадстаўнікі самых паважаных магнацкіх родаў Вялікага Княства. Двое мужчын і дзве жанчыны. Прычым, адзін мужчына і адна жанчына былі каталікамі (як жаніх), а другія двое – праваслаўнымі (як нявеста).

Аляксандр абраў праваслаўных Канстанціна Астрожскага і маладзенькую жонку Альбрэхта Гаштольда князёўну Соф'ю Вярэйскую (яна, дарэчы, даводзілася Алене стрыечнай сястрой), а таксама каталікоў Міхаіла Глінскага (ён толькі-толькі вярнуўся на радзіму пасля навучання за мяжой і адразу быў прыняты ў рыцары "круглага стала") і жонку Януша Радзівіла Альжбэту.

Аляксандр марыў адразу ж увесці сужэнку ў кола сваіх сяброў. Але мара пра шчаслівае і гарманічнае сямейнае жыццё, гэтаксама, як і мара пра трывалы мір, былі дарэмнымі. Алену запалохалі ў Маскве лацінянамі, якія будуць дабівацца ўсімі магчымымі спосабамі яе пераходу ў каталіцтва, і нават могуць прычыніць ёй за прыхільнасць да праваслаўя пакуты і смерць. Няшчасная ніяк не магла паверыць у тое, што муж і яго сябры жадаюць ёй толькі дабра. Ліцвінам таксама палюбіць Алену не даводзілася. Бо нават заключаны з бацькам яе Іванам III мір не даў адпачынку Вялікаму Княству Літоўскаму. На землі Аляксандра зноў пачалі налятаць саюзнікі маскавітаў, крымцы. Гэткай была іх дамова з Іванам Маскоўскім, які планаваў працягваць барацьбу з Аляксандрам за землі пасля кароткай перадышкі.

У 1495 годзе Астрожскаму разам з панамі Гальшанскім і Храптовічам давялося сутыкнуцца пад Роўна з вялікім татарскім войскам. Сілы аказаліся настолькі няроўнымі, што ліцвіны вымушаныя былі схавацца ў Ровенскім замку. Яны спрабавалі зрабіць вылазку – "Створым што мужско" – але яна сталася няўдалай. Асада з Роўна была знятая толькі тады, калі ваяводы сабралі для татараў выкуп.

Князь Канстанцін узяў рэванш над ворагам у наступныя гады. Летам 1497 года разам з братам Міхаілам яны ўступілі ў бітву з татарскім загонам каля Мазыра. Браты падпільнавалі крымцаў на рацэ Сароцы, калі тыя з вялікім палонам – маладымі моцнымі хлопцамі і прыгожымі дзяўчатамі – вярталіся з набегу. Рухаліся татары павольна і не адразу здолелі аказаць належнае супраціўленне. У выніку былі разбітыя. Сярод загінулых 340 татар аказаўся і царэвіч Акмала – рэдкая ўдача!

У тым жа годзе князю Канстанціну давялося сутыкнуцца з татарамі каля Ачакава. Сын крымскага хана Мехмет-Гірэй на чале тысячнага татарскага загона тры дні пераследаваў атрад Астрожскага, які вяртаўся з паходу на Валахію. У сутычках вялікіх і малых татары страцілі трыста ваяроў, Астрожскі нават захапіў у палон самога сына Мехмет-Гірэя. Праўда, ханскі сынок пасля ўсё ж такі злаўчыўся збегчы. Князь Канстанцін прымаў удзел таксама ў бітве з татарамі каля Палоннага, здабыўшы вялікую славу. Аляксандр аддаў герою Брацлаўскае, Вінніцкае і Звянігарадскае княствы.

А ў лістападзе 1497 года Астрожскі стаў гетманам найвышэйшым Вялікага Княства Літоўскага. Гэта была галоўная ваенная пасада краіны. Атрымаў яе Канстанцін пры падтрымцы і рэкамендацыі свайго папярэдніка. Польскі храніст Мацей Стрыйкоўскі сведчыць: "...Гетман Літоўскі Пётр Белы, старац, паважаны дваром і любімы народам, лежачы на смяротным ложку, сказаў журботнаму Аляксандру: "Князь Астрожскі, Канстанцін можа замяніць мяне Айчыне, будучы ўпрыгожаны вартасцямі рэдкімі".

У 1499 годзе войскі Івана III зноў парушылі перамір'е. Аўтар "Хронікі літоўскай і жамойцкай" распавядае: "...Вялікі князь Маскоўскі вялікага пашырэння дзяржавы сваёй прагнучы, не жадаючы захоўваць перамір'я, знайшоў нагоду гэткую на Літву, што Аляксандр, вялікі князь Літоўскі, дачцэ яго, Алене, якая была з ім, не збудаваў царквы рускай на Віленскім замку... Цар Маскоўскі аб царкву з Літвою разарваў перамір'е... змовіўся з Мецлікерам (Менглі-Гірэем. – *Аўт.*), царом перакопскім, і з швагерам сваім Стэфанам, ваяводам валашскім, і паднёс вайну супраць літоўскіх паноў".

Маскоўскія войскі захапілі Сяргейск, Мцэнск, Бранск, Пуціўль, і толькі пасля гэтага Іван III афіцыйна абвясціў вайну. Аляксандр і яго атачэнне былі ўражаныя.

Усе знаходзіліся ў нейкім здранцвенні. Ваяры збіраліся некалькі месяцаў. У пачатку лета Астрожскі, маючы 35-тысячнае войска, здолеў, урэшце, выправіцца насустрач ворагу на Дарагабуж. Рашучая бітва адбылася 7 ліпеня на Міцькавым полі ля невялікай, але бурнай і глыбокай рэчкі Вядрошы. Нягледзячы на тое, што сілы былі няроўнымі (у маскавітаў толькі коннікаў налічвалася каля сарака тысячаў, а яшчэ была і пяхота), на чыім баку акажацца перамога, доўга было незразумела. Канчатковы зыход бітвы вырашыў засадны полк маскавітаў.

Войска Вялікага Княства Літоўскага было разбітае. Каля 8 тысячаў ваяроў загінулі на полі бітвы, яшчэ больш патанула пры ўцёках, бо праціўнік знішчыў масты, па якіх можна было б адступаць. Больш як 5 тысячаў чалавек трапілі ў палон, і сярод іх сталася многа князёў, знатных паноў, а таксама паранены Канстанцін Астрожскі. Гарматы і ўвесь абоз перайшлі да пераможцаў.

Скутага па руках і нагах Астрожскага прывезлі да Івана III. Дзіўнай была тая сустрэча былога свата і бацькі нявесты. Іван III – ва ўсёй велічы на троне, гетман Астрожскі – у крыві і брудзе, “у жалезах”. Але нечакана для сваіх баяраў, многія з якіх ужо абмяркоўвалі, якой смерцю пакарае першага рыцара Літвы іх гасудар, той раптам заявіў, указаўшы на князя Канстанціна: “...Яго ў нястачы не трэба трымаць, і паіць, і карміць добра: іншым князям і панам карміць па паўдзеньзе на дзень, а Астрожскаму па чатыры алтыны на дзень”. Больш за тое, Іван III прапанаваў гетману Вялікага Княства Літоўскага перайсці да яго на службу.

Гетман не згадзіўся. Доўгія гады цягнулася супрацьстаянне палкаводца і гасудара Масковіі. Увесь час кармілі Астрожскага добра і ўтрымлівалі ў цяпле і чысціні ў асобным доме ў Маскве. Яму нават дазвалялі прымаць у сябе суайчыннікаў, але гэта ўсё роўна была няволя.

Між тым Айчына Астрожскага знемагала. У 1501 годзе Аляксандр, жадаючы атрымаць надзейнага саюзніка ў барацьбе з цесцем, згадзіўся каранавацца яшчэ і польскай каронай – старэйшы брат яго, Ян Ольбрахт, кароль Польскі, памёр. Але палякі не сталі рахманымі падданымі – на дапамогу ліцвінам яны не прыйшлі, а новым каралём усяляк спрабавалі кіраваць, патрабуючы, каб Аляксандр усе свае дзеянні абмяркоўваў папярэдне з найбольш заможнымі польскімі панамі. Палякі хутка адсунулі ад караля рыцараў Віленскага “круглага стала”, а разам з імі і жонку, якую нават і каранаваць адмовіліся.

Аляксандр адчуў сябе самотным. У 1503 годзе ён прыніжана прасіў у Івана III: “Злітуйся, вазьмі па-старому любоў і сяброўства з братам і зяцем сваім”. Замест міру Іван Маскоўскі падпісаў толькі шасцігадовае перамір’е, узяўшы за тое землі ў басейне Угры, Смаленшчыну, Браншчыну і Гомельшчыну. Такіх тэрытарыяльных стратаў Вялікае Княства Літоўскае яшчэ ніколі не несла. А падчас перамір’я зноў налезлі крымскія татары... Толькі Бог ведае, як сціскалася сэрца гетмана Астрожскага, калі да яго даходзілі такія весткі. Ён яшчэ спадзяваўся, магчыма, на тое, што ў сувязі з перамір’ем яго дазволяць выкупіць, але гэтага не адбылося.

У лістападзе 1505 года памёр Іван III, прастол яго заняў сын, Васіль III. Астрожскаму зноў, цяпер ужо амаль ультыматыўна, прапанавалі ганаровы пераход на службу да Маскоўскага князя. Не атрымаўшы ж згоды, Васіль “...няволяй цяжкай да прысягі і вернасці прымушаў”. Астрожскага вывезлі ў Волагду і зноў закавалі ў кайданы.

А ў жніўні 1506 года Аляксандра Ягелона не стала. Ад бедаў і нягодаў разбіты паралюшам, ён да апошняга імкнуўся змагацца за Вялікае Княства Літоўскае, весці войска на татараў. Толькі калі, паміраючы, Аляксандр упаў з каня, падданыя згадзіліся на тое, каб яго змяніў адзін з рыцараў яго “круглага стала”. Рыцарам гэтым стаў Міхал Глінскі, якому ўдалося здабыць перамогу над татарамі пад Клецкам. Аляксандр назаўжды закрыў свае вочы, выслухаўшы ганца, што прынёс вестку пра перамогу...

Князь Астрожскі быў уражаны, калі яму расказалі пра тое. Ён лічыўся першым сярод Аляксандравых рыцараў, але ў час вялікай бяды не апынуўся каля яго. Ды і чаго ён чакае ў вязніцы сваёй? Высакародства праціўніка гасудар Масковіі не ацаніў – волі яму ён не дасць. Але збегчы трэба, трэба хаця б паспрабаваць! Бо пасля ўжо і сілаў на тое не станецца.

Дарэчы, надта своечасова сапсаваліся стасункі ў Івана III з крымскім ханам. Князь Канстанцін загадаў перадаць вялікаму князю Маскоўскаму, што гатовы прысягнуць яму на вернасць, каб ваяваць супраць ворагаў хрысціянства. Так, цяпер ён, урэшце, можа даць прысягу без шкоды для гонару свайго. Бо той, каму ён раней даваў абяцанне служыць верна і беззаганна, паўстаў перад тварам Госпада.

Тлумачэнне гучала пераканаўча. Астрожскаму паверылі. 18 кастрычніка 1506 года, амаль праз два месяцы пасля Аляксандравай смерці, князь Канстанцін у Маскве падпісаў гэтак званую "поручную грамату", заявіўшы тым пра сваю згоду служыць Васілю III. Аднак агаварыў для сябе адну істотную ўмову: ён ніколі не пойдзе супраць Вялікага Княства Літоўскага, бо там ўсе – браты яму. А татары няхай сцерагуцца рукі Астрожскага! Князю Канстанціну надалі баярскі чын і выправілі з войскам да паўднёвых межаў Масковіі.

Ён і сапраўды хутка здолеў адагнаць нахабную арду крымчакоў, "вялікія бітвы над татарамі даючы і выйграючы". У Маскве ўздыхнулі з палёгкай – не схітраваў Астрожскі, цяпер з маскавітамі заадно будзе!

Але не збіраўся князь Канстанцін сапраўды служыць Васілю Іванавічу. Клятва, вырваная пагрозамі, не мае сілы, лічыў ён. І чакаў выпадку, усімі сіламі імкнуўся абхітрыць людзей, прыстаўленых да яго. Між тым вясной 1507 года зноў запахла вайной. Яе прагнуў, каб вярнуць страчанае, і новы кароль Польскі і вялікі князь Літоўскі Жыгімонт I (малодшы Аляксандраў брат), і маскоўскі гасудар. У красавіку 1507 года Васіль III накіраваў конныя палкі на Смаленск і Полацк. У чэрвені Жыгімонту ўдалося сабраць паспалітае рушэнне, якое пад кіраўніцтвам гетмана Станіслава Кішкі выступіла на праціўніка. Па Маскве хадзілі чуткі, нібыта крымскія татары гэтым разам будуць саюзнікамі вялікага князя Літоўскага. Яны і сапраўды з'явіліся неўзабаве пад Ноўгарад-Северскім – гэта былі землі Вялікага Княства Літоўскага, якія зусім нядаўна патрапілі пад уладу Масквы.

Астрожскі зрэагаваў хутка. Ён заявіў, што мусіць тэрмінова праверыць баяздольнасць войскаў у Северскім на выпадак татарскай навалы. А ўжо ў Северскай зямлі здолеў адарвацца ад атрада, што суправаджаў яго, і з верным слугой, беларусам Адамам, які разам з Астрожскім зведаў палон, збегчы. Яны ішлі да "літоўскай" мяжы пераапранутыя ў сялянскае адзенне, хаваючыся ад людзей, удзень – па лясах, цёмнай ноччу – па дарогах.

Ужо Айчына была недалёка, калі князю захацелася раптам зайсці ў вясковую царкву. Была нядзеля, а ў нядзелю нават у палоне князь не прапускаў службы. Вадзілі яго па нядзелях у капліцу, што знаходзілася побач з вязніцай. Аднак гэтым разам рашэнне выканаць абавязак хрысціяніна ледзь не прывяло да краху. Ужо знаходзячыся ў храме, пачуў князь крыкі натоўпу. Мясцовыя крычалі, што, маўляў, схоплены Астрожскі. Канстанцін зразумеў: каб адвесці ад гаспадара пагоню, яго верны Адам ахвяраваў сабой, даўся ў рукі людзям Васіля III і назваўся чужым імем. Неаднойчы пасля маліўся ў праваслаўных храмах Астрожскі за спачын душы каталіка Адама...

Вяртанне Канстанціна Астрожскага на радзіму ў верасні 1507 года выклікаў вялікую радасць у Жыгімонта I. Для сустрэчы з новым гасударам князь адразу ж паспяшаўся ў Гародню, дзе манарх у той час знаходзіўся. Астрожскага абсыпалі міласцямі, вярнулі ўсе маёнткі і званні, падарылі новыя землі. Час быў напружаны. Ужо ў кастрычніку Васіль III зноў накіраваў ваяводаў Холмскага і Захар'іна з войскамі на Крычаў і Мсціслаў. Гарады мужна адбіваліся. Паспалітае

рушэнне павёў на дапамогу ім сам Жыгімонт. Канстанцін Іванавіч быў побач з ім. Даведаўшыся пра тое, ваяводы вырашылі адысці на маскоўскія землі.

27 лістапада 1507 года Астрожскі зноў атрымаў гетманскую булаву. І амаль адразу ж яму давялося выступіць супраць былога сябра і родзіча Міхаіла Глінскага. Як ужо там атрымалася, што не паладзіў пераможца Клецкай бітвы з новым гаспадаром Вялікага Княства Літоўскага, але скончылася ўсё справай сур'ёзнай – мецяжом. Глінскі сабраў многіх прыхільнікаў, і яны захапілі шэраг беларускіх гарадоў. Казалі, ёсць у Глінскага ўжо і дамоўленасць з Васілём III, што прыме ён яго з заваяванымі гарадамі пад сваю апеку, і ў гарадах тых будзе князь Глінскі паўнаўладным гаспадаром. Не дазволілі зрабіць гэтага Глінскаму, хаця на дапамогу яму і прыйшлі маскоўскія войскі. Шмат у чым паспрыяў таму Астрожскі. Глінскі быў разбіты і збег у Маскву. А 8 кастрычніка 1508 года Жыгімонт I і Васіль III падпісалі "вечны мір", які, аднак, пакінуў абедзве дзяржавы ў тых межах, што склаліся ў выніку папярэдніх войнаў.

Усё вярнулася да гетмана Астрожскага – воля і Айчына, слава і любоў людская. Толькі сям'і ў яго ўсё не было. А без сям'і, без спадчыннікаў – дзеля чаго такое жыццё? Неяк даведаўся Канстанцін Іванавіч пра высакародную сірату Тацяну Гальшанскую. Бацька яе, Сямён, адзін з рыцараў віленскага "круглага стала", быў прызначаны гетманам пасля паланення Астрожскага. І ў чыне гэтым служыў Аляксандру ажно да самай сваёй смерці ў 1505 годзе. Адважны чалавек, добры хрысціянін, клапатлівы бацька. Цяпер у адзінай дачкі яго, Тацяны, няма больш заступніка. Сірату ж кожны гатовы пакрыўдзіць. Забілася мацней сэрца ў князя Канстанціна. Вырашыў ён узяць дваццацігадовую Тацяну Сямёнаўну пад сваю апеку. А пазнаёміўшыся з паннай, наогул прапанаваў стаць яго жонкай.

У Тацяны аказаўся багаты пасаг – землі глускія, гальшанскія, Раманава з Копыссю і Баранню. З-за таго, што бацька яе быў старастам луцкім і маршалкам валынскай зямлі, Жыгімонт I вырашыў перадаць гэтыя пасады Канстанціну Астрожскаму. А яшчэ своеасаблівым шлюбным падарункам караля і вялікага князя стала абяцанне пасады віленскага каштэляна. Згодна з законамі таго часу, пісанымі каталікамі, гэтую высокую пасаду мог займаць толькі каталік. Але гетман Астрожскі валодаў такім аўтарытэтам, што дзеля яго было зроблена выключэнне. У правы свае як каштэлян князь Канстанцін уступіў у 1511 годзе. У гэты час гетман Астрожскі меў ужо і спадчынніка, сына Іллю.

Сям'я шмат займалася справамі міласэрнасці і дабрачыннасці, асабліва ў дачыненні да праваслаўных храмаў і манастыроў: Васкрасенскай і Мікалаеўскай цэркваў пад Дубнам, Наваградскай царквы, Дэрманскага манастыра, Кіеўскіх храмаў і Пячэрскай абіцелі. Канстанцін Іванавіч, чуючы ад адзінаверцаў сваіх скаргі на прыцясненні, вырашыў стаць абаронцам іх. Уладнасць і багацці дазвалялі яму гэта. Яшчэ ў 1510 годзе пад апекай гетмана мітрапалітам Кіеўскім Іосіфам II Солтанам быў праведзены Праваслаўны сабор у Вільні. Духавенства непакоіла перш за ўсё ўмяшальніцтва ва ўнутрыцаркоўныя справы свецкіх асобаў, прычым, не заўжды нават праваслаўных. Магнаты куплялі для сваіх пратэжэ высокія царкоўныя пасады і адбіралі гвалтоўна царкоўныя землі. Па-другое, страта праваслаўнымі многіх правоў, якія былі дадзеныя ім папярэднікамі Жыгімонта I. Але найбольш цяжкай была забарона будаваць новыя праваслаўныя храмы ў Вялікім княстве і нават перабудоўваць занядбаныя. Такі закон прыняў у 1483 годзе Казімір Ягелон, думаючы павольна перавесці ўсіх сваіх падданых у каталіцтва.

Было вырашана ўзняць усе гэтыя пытанні на бліжэйшым сейме. Ён адбыўся ў 1511 годзе ў Берасці. Астрожскі, ужо не толькі гетман, але і каштэлян віленскі, з вышыні сваіх пасадаў звярнуўся да караля і вялікага князя, красамоўна распісаўшы праблемы праваслаўных і зачытаўшы вытрымкі з законаў Вітаўта, Казіміра і Аляксандра на карысць праваслаўя. Урэшце, Жыгімонт прыняў адпаведны акт, які

завяршаўся зваротам да саноўных падданых сваіх: “Не чыніць крыўды мітрапаліту Кіеўскаму і епіскапам, і ў царкоўныя даходы і ва ўсе справы і суды духоўныя не ўступацца”. Зняў Жыгімонт забарону і на рамонты праваслаўных храмаў. І тут жа Астрожскі заявіў пра сваё жаданне перабудаваць Віленскі Прачысценскі сабор. У гэтым жа годзе яны разам з жонкай падрыхтавалі тэстамент на карысць Тураўскай Праабражэнскай царквы.

Хацелася займацца справамі мірнымі, гадаваць сына, адпачываць душою сярод сяброў. Але міру і спакою ўсё не прыходзіла. Масква не трывожыла Вялікае Княства Літоўскае, але зноў з’явіліся татары. У 1511 годзе яны напалі на Кіеўскія землі. Астрожскі, да якога яшчэ раней дайшлі чуткі пра магчымае ўварванне, паўстаў з вялікім войскам у Петрыкавічах (цяпер Петрыкаў). Адзін з атрадаў гэтага войска – слуцкія ваяры на чале з дзевятнаццацігадовым князем Юрыем Алелькавічам – сталі заставай ля Кіева. Яны і аказалі супраціўленне нахабным крымцам, аб’яднаўшыся з войскамі кіеўскага ваяводы Андрэя Неміровіча. Ноччу Алелькавіч і Неміровіч напалі на татараў каля ўрочышча Рутна і перабілі восем тысячаў. Галоўнаму войску нават і ў бітву ўступіць не давялося. Тады заўважыў гетман маладога Алелькавіча, вылучаць стаў і апякаць. Пэўна, хацеў вырасціць замену сабе з ліку праваслаўных.

У 1512 годзе на Валынь зноў набеглі крымцы, якіх вёў хан Мендлі-Гірэй. Ім патрэбны быў палон для гандлю рабамі ў прыморскай Кафе. Астрожскі разыграў ужо вядомы сцэнар. Напаў на крымцаў тады, калі, абцяжараныя здабычай, яны вярталіся дамоў. Татары былі разбітыя пад Вішняўцом. У бітве іх загінула пяць тысячаў. Канстанцін Іванавіч вызваліў 15 тысячаў палонных, захапіў 10 тысячаў хутканогіх татарскіх коней.

Становішча татараў было такім важкім, што, паводле хронік, “...цар татарскі з каралём згоды патрабаваў і, дзеля ўпэўнення спакою, сына свайго Джэлаладзіна (насамрэч, унука. – *Аўт.*) да Літвы ў заклад даў”.

З татарамі замірыліся, дык Васіль III знайшоў зачэпку, каб распачаць новую вайну. Падалося яму, што сястру яго, удовую Алену Іванаўну, Жыгімонт у зняволенні трымае, ды на радзіму ў Масковію не выпускае – чым не нагода? Браты ж сясцёр мусяць абараняць! Але, пэўна, не лёс Алены Іванаўны, якая цяпер бавілася пры заснаваным ёю манастыры ў Браславе, непакоіў яго. Васіль III на Браслаў не рынуўся. Думкамі скіраваны ён быў на Смаленск, галоўны фарпост Вялікага Княства Літоўскага на ўсходняй граніцы. Ён меў магутную крэпасць, якой не цярпелася завалодаць маскоўскаму гасудару.

Войскі маскоўскія рушылі на Смаленск восенню 1512 года. Хто б мог падумаць: смаляне, спаконвеку праваслаўныя, не толькі не расчынілі брамы перад імі, але і аказалі адчайнае супраціўленне. Менавіта пад Смаленскам Васілю III стала вядома пра раптоўную смерць Алены Іванаўны ў Браслаўскім манастыры. “Атруцілі!” – заявіў ён, і толькі тады паслаў пад Браслаў аднаго з ваяводаў сваіх з асобным атрадам. Помсціць? Дарэчы, адначасова іншых ваявод з такімі ж атрадамі Васіль III скіраваў пад Оршу і Барысаў, Друцк, Мінск і Віцебск.

Шэсць тыдняў трымаў Смаленск у аблозе гасудар Масковіі. І адступіў толькі пачуўшы пра тое, што Канстанціну Астрожскаму ўдалося сабраць 30-тысячнае войска, якое вось-вось рушыць насустрач яму. Маскоўскі гасудар ужо добра ведаў, які гэта палкаводзец, і баяўся сыходзіцца з ім у бойцы. Але змірыцца з няўдачай Васіль не жадаў. У сярэдзіне чэрвеня 1513 года ён зноў прывёў сюды войскі.

На гэты раз вялікі князь Маскоўскі вырашыў супрацьпаставіць Астрожскаму “клецкага пераможцу” Міхаіла Глінскага, якому даў 30 тысячаў маскавітаў і накіраваў на Віцебск і Полацк. Можа, думалася Васілю III, што Астрожскі абрынецца ў першую чаргу на “здрадніка” Глінскага? А пакуль яны там будуць разбірацца адзін з адным, і Смаленск здасца? Схаваўшыся ж за яго магутнымі сценамі, можна будзе ўжо адтуль рыхтаваць удары па Вялікім Княстве Літоўскім.

Аднак, Астрожскі не пайшоў сам на родзіча. Паслаў два атрады. І яны так зладжана дзейнічалі між сабой, што з вялікімі стратамі князь Міхаіл адступіў да Смаленска. Сам жа Астрожскі за гэты час з невялікім атрадам узброенай шляхты разбіў пад Оршай аднаго з маскоўскіх ваяводаў – трэба думаць, пыхлівага і бяздарнага, бо людзей у яго было больш, а кіраваць як належыць, імі ён не здолеў. Цяпер ніхто не замінаў гетману на шляху да Смаленска. Але і на гэты раз адмовіўся Васіль ІІІ ад рашучай бітвы. Паспяшаўся зняць аблогу і звёў войскі свае.

Да трэцяга паходу на Смаленск гасудар Масковіі рыхтаваўся больш старанна. Ён ужо забыўся пра ідэю “ратавання” праваслаўных-адзінаверцаў ад улады “лаціняніна” Жыгімонта І. Было зразумела, што “ратавацца” ў Вялікім Княстве Літоўскім ніхто больш не жадае. Ён ужо не казаў пра помсту за сястру, бо ўсім было бачным сапраўднае стаўленне яго да няшчаснай Алены Іванаўны. Васіль ІІІ быў апантаны прагай захапіць непакорны Смаленск. Два няўдалыя паходы моцна білі па яго гонары. Сабраўшы велізарнае войска, ён заручыўся падтрымкай імператара свяшчэннай Рымскай імперыі, лаціняніна Максімільяна І, дамовіўся з неправаслаўнымі датчанамі, узяў сабе ў саюзнікі спаконвечных ворагаў Русі Маскоўскай і Літоўскай, рыцараў Тэўтонскага ордэна. Замежным драпежнікам Васіль ІІІ прапанаваў сумесна разбіць войска Вялікага Княства Літоўскага, скончыць з войскам Польскім, а пасля падзяліць між сабой землі гэтых дзяржаваў.

У маі 1514 года 80-тысячная армія Васіля ІІІ аблажыла Смаленск. Артылерыю з надта ўмелым пушкаром Стэфанам маскоўцам даў Максімільян. Абстрэльваемы горад ператварыўся ў пекла. Але ўзяты быў ён усё ж такі не сілаю, а падманам. Міхал Глінскі выклікаў смалянаў на перамовы і абяцаў ім сваё заступніцтва, калі здадуцца. Абяцаў, што сам сядзе ў Смаленску ўладаром і ніякіх разбурэнняў і гвалту не дазволіць учыняць. Смаляне прывялі Глінскага да хрэснага цалавання (бо ў Маскве ён зноў стаў праваслаўным), і не сумняваліся ў абяцаным. Тым больш, што згодна падання, крыж, які давялося цалаваць Глінскаму, быў славутым Крыжам Еўфрасінні Полацкай. Вывезлі яго неяк з Полацка ў якасці трафея смаленскія князі. З тых часоў святыня ў Смаленску знаходзілася.

Зрэшты, і смаляне, і сам князь Міхаіл, аказаліся ашуканымі. Смаленск Глінскаму Васіль ІІІ пашкадаваў. Сабе забраў. Смалянаў жа, хаця і не караў смерцю, але, перапісаўшы падушна, загадаў прысягнуць сабе, “забыўшы назаўжды пра Літву”. Многіх з іх пасля прымусова вывезлі ў Маскву. Багацці ж іх падзялілі між сабой ваяводы. А Крыж святой Еўфрасінні ўзяў сам Васіль ІІІ. Ён пасля да самай смерці сваёй – дзіўнай, незразумелай – трымаў святыню пры сабе ў цераме, а да народа выносіў толькі на вялікія святы.

Міхаіл Глінскі пасля таго, як Васіль Маскоўскі воляю сваёй ператварыў яго ў клятвапарушальніка, спрабаваў пакінуць маскоўскае войска і пакаянна вярнуцца да Жыгімонта І. Але быў схоплены і вывезены ў кайданах у Маскву і кінуты ў цямніцу, дзе правёў многія гады.

Узяўшы Смаленск, Васіль ІІІ перадаў кіраўніцтва войскам ваяводам Міхаілу Булгакаву-Голіцы і Івану Чалядзіну і, загадаўшы рушыць далей, да самай Вільні, з'ехаў у Дарагабуж. Ваяводы паваявалі Капыльскую, Тураўскую і Мазырскую землі, папалілі наваколлі Слуцка, захапілі Мсціслаў, Крычаў, Прапошаск (цяпер Слаўгарад). І ўсё – без вялікіх стратаў для сябе.

Урэшце ліцвінам ўдалося сабраць трыццацітысячную армію. Сам Жыгімонт прывёў з Польшчы чатыры тысячы конных наёмнікаў. Каля пяці тысячаў ваяроў кароль, які спыніўся ў Барысаве, пакінуў для аховы сваёй асобы, а астатніх перадаў пад кіраўніцтва гетмана Астрожскага. Дваццаць дзевяць тысячаў супраць амаль васьмідзесяці? А яшчэ не ўступалі ў бітву грозныя саюзнікі Масквы! Падобна было, што Літве, а за ёй і Польшчы, варта пачынаць рыхтавацца да пагібелі.

Дапускаў такі зыход і сам Астрожскі. Але ён яшчэ спадзяваўся на Боскую справядлівасць, бо тое, што задумаў учыніць Васіль III, бачылася яму справай нядобрай.

Першыя сутычкі перадавых атрадаў адбыліся на берагах Бярэзіны і Бабра. Тут удача была на баку літвінаў. "І там усю стражу маскоўскую пабілі і многа жывых злавілі", – канстатаваў летапісец. 6 верасня войска Астрожскага наблізілася да асноўных сілаў Васіля III. Як сведчаць сучаснікі тых падзеяў, гетман Вялікага Княства Літоўскага "...знайшоў ...войска маскоўскае за Оршаю горадам, за Дняпром, на рацэ Крапіўне".

Расійскі гісторык М. Карамзін сцвярджае, што праціўнікі "некалькі дзён стаялі ціха, расіяне на левым, літоўцы на правым" берагах. І што князь Канстанцін прапаноўваў маскоўскім ваяводам разысціся без бітвы, тым не менш таемна наводзіў мост за пятнаццаць вёрстаў ад іх стану. У нашых ды ў польскіх хроніках звестак пра перамовы няма, але тое не ўяўляецца неверагодным. І можа сведчыць толькі, што Астрожскі не жадаў праліцця праваслаўнай крыві. Тым больш, што рашучай бітве выпадала стацца якраз на вялікае праваслаўнае свята – Нараджэнне Багародзіцы. Калі ж стала зразумела, што мірам справу скончыць немагчыма, Астрожскі скамандаваў сваім ваярам перапраўляцца праз Дняпро. Прычым, толькі частка войска рабіла гэта на вачах у непрыяцеля (маскоўскія ваяводы пасмейваліся, – пачакаем, пакуль усе перабяруцца да нас, тут мы з імі і скончым адным ударам), для пераправы конніцы ўдалося знайсці брод, схаваны ад вачэй маскоўскіх назіральнікаў, а артылерыю перавезлі ноччу па наведзеных таемна мастах.

Той жа ноччу з 7 на 8 верасня схіліў гетман Астрожскі калені ў гарачай малітве ў маленькай вясковай цэркаўцы. І прасіў ён Святую Тройцу і святога Мікалая дапамагчы ў бітве з праціўнікам, які амаль у тры разы пераўзыходзіў яго па колькасці. І абяцаў пабудаваць ў Вільні дзве царквы праваслаўныя, "калі міласцівы і ўсемагутны Бог дасць нам перамогу над ...бязбожным ворагам і перадасць у нашы рукі і ягоных людзей, такіх жорсткіх, як і шматлікіх". І быў, пэўна, нейкі знак, бо раніцай князь Астрожскі стаўся бадзёрым, вочы яго свяціліся ўпэўненасцю і натхняў ён на бой ваяроў сваіх такімі словамі: "Няхай кожны акрыяе духам супраць непрыяцеля. Сам Бог стаіць на нашым баку! Ёсць нам абарона з неба!"

Пакуль Астрожскі казаў сваю прамову, маскавіты рынуліся ў бой. Але атакі іх былі адбіты. Гетман змагаўся ў першых шэрагах, падбадзёрваючы сваіх паплечнікаў. Неўзабаве ліцвіны і самі пайшлі ў наступ...

Але як бы там ні было, перамога ўсё роўна мусіла дастацца маскавітам. Яны знаходзіліся ў зручным для сябе месцы, былі падрыхтаваныя да сустрэчы з праціўнікам і іх было так шмат, што яны проста павінны былі задавіць ліцвінаў колькасцю. Аднак, перамога ў той дзень выпала на долю Астрожскага. Разабрацца дэталёва ў тым, што адбылося на полі бою паміж Дняпром і Крапіўнай, цяжка з-за супярэчлівасці сведчанняў сучаснікаў падзеяў, летапісцаў і храністаў. Дапытлівы і сумленны даследчык М. Карамзін, які даволі ўпэўнена расказвае пра падзеі, што папярэднічалі бітве, раптам губляецца, калі справа даходзіць да апісання самой спохваткі. "Запэўніваюць, што галоўныя ваяводы маскоўскія, князь Булгакаў-Голіца і баярын Чаляднін, ад зайздрасці не хацелі дапамагаць адзін аднаму; што дзеянні расійскага войска не мелі ні сувязі, ні агульнай мэты; што ў самым запале бітвы Чаляднін выдаў Булгакава і збег. Паводле іншых звестак, князь Канстанцін прымяніў хітрасць: адышоў прытворна, навёў расіян на гарматы і ў той жа час зайшоў ім у тыл. Усе кажуць згодна, што літоўцы ніколі не мелі такой слаўнай перамогі над расіянамі: гналі, рэзалі, тапілі іх у Дняпры і ў Крапіўне; целамі ўсеялі палі паміж Оршай і Дуброўнай; паланілі Булгакава, Чаляднінa і шэсць іншых ваявод, трыццаць сем князёў, больш за 1500 дваранаў і чыноўнікаў; узялі абоз, сцягі, снарад агнястрэльны; адным словам, у поўнай меры адпомсцілі нам за Вядрошскую бітву. Мы страцілі трыццаць тысячаў воінаў: ноч і лясы не ўратавалі астатніх".

У адрозненне ад многіх сучаснікаў і, безумоўна, ад даследчыкаў больш позніх

стагоддзяў, князь Канстанцін ведаў, што і чаму адбылося. І разумеў тое Жыгімонт І, які зняў забарону на будаўніцтва праваслаўных храмаў у Вялікім Княстве Літоўскім, каб Астрожскі мог выканаць тое, што абяцаў Нябёсам. У гонар святога Мікалая, хуткага заступніка, пабудаваў гетман у 1518 годзе на месцы пераможнай бітвы манастыр. Адзін з храмаў, якія Астрожскі, згодна абяцанню, узвёў у Вільні, таксама атрымаў імя Свята-Мікольскага. Другі быў асвечаны ў гонар Святой Тройцы. Акрамя гэтага Астрожскі зрабіў багатую фундацыю для Віленскай царквы Свята-Духава манастыра.

Бітва пад Оршай атрымала такі рэзананс у Еўропе, што Астрожскага пахваліў праз свайго легата Пізоні нават папа рымскі: “Князь Канстанцін можа быць названы лепшым военачальнікам нашага часу... у баі не саступае па мужнасці Ромулу”. Пасля перамогі Астрожскага саюзнікі Васіля III ужо не рашыліся ваяваць супраць Жыгімонта І. А Максімільян І нават прапанаваў Жыгімонту парадніцца, узяўшы яго пляменніцу, Бону, з роду Міланскіх герцагаў Сфорца. Вялікае Княства Літоўскае і Каралеўства Польскае былі ўратаваны ад пагібелі.

Літвінам удалося вярнуць сабе Мсціслаў, Дуброўну і Крычаў, хаця Смаленск застаўся ў руках маскавітаў. Смаленскія баяры на чале з епіскапам Варсанофіем спрабавалі таемна адчыніць брамы перад войскам Астрожскага, але змова іх была выкрыта. Наблізіўшыся да горада, гетман убачыў павешаных на гарадскіх сценах смаленскіх саюзнікаў – іх спецыяльна апранулі ў дарагія адзенні, футра, навесілі на грудзі залатых і срэбных ланцугоў. Маскавіты думалі, што ўсё гэта – падарункі Жыгімонта, на якія смаляне і купіліся. Астрожскі зразумеў, што Смаленск без дапамогі верных людзей у горадзе яму не ўзяць, і адвёў войскі. Няўдалым стаўся і паход князя Канстанціна ў 1515 годзе на Пскоўшчыну. Крэпасць Апочка не ўдалося ўзяць. І пры набліжэнні вялікага войска маскавітаў гетман адступіў.

Тым часам ў Крыме памёр саюзнік Вялікага Княства Літоўскага Мендлі-Гірэй, яго змяніў хан Махмат-Гірэй, і зноў пачаліся набегі. У 1518 годзе гетман разбіў татараў на Кіеўшчыне. Дзейнічаў разам з украінскім шляхцічам Астафіем Дашковічам, баявы атрад якога складалі казакі – новая, адчайная сіла, якая толькі пачынала ўмацоўвацца ў тагачасным грамадстве. Але ў наступным 1519 годзе Астрожскі прайграў бітву з татарамі пад Сокалем. Здарылася гэта з-за таго, што польскія паплечнікі не палічыліся з яго папярэджаннем і выйшлі супраць ворага, сілы якога значна перавышалі іхнія. Да таго ж бой быў распачаты ў нязручным месцы, і татары ўзялі перамогу. Князь Канстанцін пасля выказваўся, што казакі, хаця і ўзброеныя яны горш, супраць мусульманаў дзейнічаюць лепш, чым палякі. Паны пакрыўдзіліся.

Астрожскі ўзяў рэванш над татарамі ў 1520 годзе, арганізаваўшы ўдалую абарону паміж Алескам і Залізніцамі. Яму ішоў шасцідзясяты год, але гетман заставаўся бадзёрым і ініцыятыўным. І ініцыятыўнасць гэтая праяўлялася не толькі на полі бою. У 1521 годзе Львоўскае царкоўнае брацтва, у склад якога ўваходзіла нямала ўплывовых гараджан, звярнуліся да Канстанціна Іванавіча са слёзнай просьбай дапамагчы ім дабіцца справядлівасці для праваслаўных Галічыны ў караля. Адзінаверцы малілі вярнуць адабранае права прыносіць прысягу ў цэрквах – іх змушалі гэта рабіць толькі ў касцёлах. Праваслаўныя не маглі выступаць сведкамі ў судах. Нават калі яны бачылі на ўласныя вочы забойцу ці то рабаўніка за справай, іх слова не ўлічвалася, і злачынца мог застацца непакараным. Святарам забаранялася з’яўляцца на вуліцах у святарскіх убраннях, калі ішлі яны ў дом да хворага, каб спавядаць і сабораваць яго. І нават калі суправаджалі памерлага на могілкі. Князь Астрожскі сам перадаў прашэнне Львоўскіх гараджанаў Жыгімонту. Ён доўга размаўляў з манархам наконт кожнага асобнага пункта гэтага прашэння, даказваючы неабходнасць вяртання менавіта гэтых праў адзінаверцам. Кароль здаўся. Адпаведны закон на карысць праваслаўных быў прыняты.

У тым жа 1521 годзе лёс звёў князя Канстанціна з вучоным мужам Георгіем Скарынам, званым за мяжою Францыскам. Чалавек гэты, доктар па адукацыі, у нейкі час вырашыў, што лячыць целы не так важна, як лячыць душы. І стаў прапаведнікам Слова Божага. У Празе на грошы віленскіх сяброў сваіх – заможных гараджанаў – наладзіў ён друкаванне кніг Бібліі на беларускай мове. Канстанціну Іванавічу спадабалася гэта. Ён дапамог друкару наладзіць выпуск патрэбных духоўных кніг у Вільні. Выйшла іх тут дзве – “Малая падарожная кніжка” і “Апостал”. Астрожскі працягнуў справу Скарыны, якая так зацікавіла яго. Ён стварыў друкарню ў радзінным Астрогу, а пасля перадаў адпаведнае абсталяванне і ў Кіева-Пячэрскі манастыр. Пра гэта сведчыць унікальны дакумент, знойдзены сучасным кіеўскім даследчыкам В. Ульяноўскім. У дакуменце гэтым сказана, што Астрожскі “падараваў ...літары і ўсе належныя сродкі для друкарскай справы з Астрожскай друкарні ў лета ад Нараджэння Хрыстова 1531. Друкаванне кніг пачалося ў 1533 годзе”.

1522 год стаўся годам узрушэнняў. Памёр мітрапаліт Кіеўскі і ўсяе Літоўскае Русі Іосіф II Солтан. Яго месца заняў мітрапаліт Іосіф III, былы епіскап Полацкі. Але, як чалавек мяккі і далікатны, гэты Уладыка наўрад ці доўга ўтрымаўся б на сваім месцы, каб не заступніцтва Канстанціна Іванавіча. Астрожскі дабіўся ад караля дазволу на кіраўніцтва маёнткамі Кіеўскай мітраполіі і да самай смерці сваёй нікому не даваў у крыўду праваслаўнае духавенства.

Поспехі Астрожскага на шляху да вяртання праваслаўным іх правоў выклікалі варожасць і нецярпімасць сярод магнатаў-каталікоў. Больш за ўсё крыўдна было, што самым зацятым з іх стаўся былы паплечнік, рыцар Аляксандрава “круглага стала” Альбрэхт Гаштольд, які лічыў каталіцтва выйсцем для сваёй краіны і таму не разумеў Астрожскага. Але давялося сутыкнуцца былым таварышам і не толькі на гэтым шляху.

Напрыканцы 1521 года памёр яшчэ адзін з іх кола – князь Мікалай Радзівіл, ваявода віленскі і канцлер Вялікага Княства Літоўскага. Ваяводства віленскае было галоўным з усіх ваяводстваў краіны, а пасада канцлера – найвышэйшай свецкай пасадай Вялікага Княства Літоўскага. Радзівіл сядзеў першым на паседжаннях вялікакняскай рады. І яго слова было рашучым пры прыняцці любых пастановаў. Прэтэндаваць на пасады нябожчыка маглі толькі Альбрэхт Гаштольд, які ўзначальваў трокскае ваяводства, другое ў краіне па значнасці, і гетман Канстанцін Астрожскі. І Жыгімонт схіляўся больш да кандыдатуры Канстанціна Іванавіча. Але пакрыўджаны Гаштольд узняў такі гвалт, што Астрожскі сам прасіў караля і вялікага князя аддаць пасады Радзівіла пану Альбрэхту. Жыгімонт пагадзіўся. Але перадаў пры гэтым ваяводства трокскае князю Канстанціну. І спецыяльным указам, пэўна, каб правучыць фанабэрыстага Гаштольда, азначыў, што на радзе першым быць усё роўна Астрожскаму. З тых часоў Гаштольд пачаў усяляк шкодзіць саперніку, нагаворваў на яго каралеве, настройваў супраць яго шляхту. Князь Астрожскі цяжка перажываў такі разрыў.

У ліпені ж 1522 года яго спасціг новы ўдар – памерла яго добрая жонка Таццяна. Гетман сумаваў, не разумеючы, як ён мог перажыць яе, трыццацісямігадовую, такую моцную і здаровую? Канстанцін Іванавіч не думаў пра новую жаніцьбу. Але лёсы людскія не на зямлі вырашаюцца. І зусім нечакана да сівога рыцара прыйшло каханне – позняе, шчымлівае, такое, якога не ведаў ні ў маладосці, ні ў сталыя гады.

Васямнаццацігадовая Аляксандра Алелькавіч, сястра князя Юрыя, завалодала сэрцам гетмана. Ён пабачыў яе, калі па запрашэнні Юрыя наведаў Слуцк. Паважна размаўляў з маці Алелькавіча, удовай княгіняй Анастасіяй, распавядаў ёй пра тое, як Юрый адважна біўся на чале слуцкай дружыны пад Оршай. І раптам сціх, спыніўшы здзіўлены погляд на юнай князёўне, якая ўвайшла ў пакой...

Гетман Астрожскі прасіў рукі панны Аляксандры без усялякага спадзявання

на прыхільны адказ, проста таму, што не хацеў хлусіць і хаваць свае пачуцці. Але князёўна Алелькавіч адказала згодай. І ён быў шчаслівы так, як ніколі раней. Удзячны Богу за такі падарунак, князь Канстанцін заснаваў у родным Астрогу Свята-Троіцкі манастыр. Вянчанне адбылося ў 1523 годзе ў храме гэтага манастыра.

1524 год быў адзначаны тым, што князь дабіўся ў Жыгімонта магдэбургскага права для Астрога і новым паходам супраць татараў. І зноў дапамагалі яму казакі Дашковіча.

Самы ж удалы бой супраць татараў Астрожскі правёў пад Альшаніцай на Кіеўшчыне. У студзені 1527 года татары зноў здзейснілі напад на Валынь і Галічыну. Астрожскі, узяўшы харугвы Юрыя Алелькавіча і Альбрэхта Гаштольда, паспяшаўся з Вільні насустрач ворагу. Разбіў адзін з татарскіх загонаў пад Пінскам і рушыў да Кіева ў пошуках іншых. Неўзабаве да гетмана далучыліся сам Юрый Алелькавіч, Фёдар Сангушка, князі-браты Вішнявецкія, Аляксандр Чартарыйскі і казакі Астафія Дашковіча.

Трыццацітысячнае войска татараў заспелі, калі тыя вярталіся, нарабаваўшыся, з вялікім палонам. На іх напалі знянацку, ноччу, калі яны размясціліся на адпачынак. 24 тысячы татарскіх ваяроў леглі на полі бою. Забітыя былі іхнія водцы, ханскі сын Малай і яго саюзнік, турэцкі паша Ібрагім. 700 татараў патрапілі ў палон. А іх ясыр, 40 тысячаў чалавек, атрымалі волю.

Гэтая вялікая перамога гетмана Астрожскага была адзначаная з вялікімі ўшанаваннямі. Кароль у Кракаве наладзіў яму трыўмфальны ўезд, як палкаводцу антычнасці, дарэчы, ужо другі пасля перамогі пад Оршай. Наперадзе неслі ваенныя знакі, адабраныя ў ворагаў, і вялі палонных. Гэтых няшчасных Астрожскі памілаваў. Ён пасяліў татараў у Астрогу за межамі горада. Пасяленне гэтае атрымала назву Татарскага, ці то Зэрванскага прадмесця. Татары працавалі на ўмацаванні горада, займаліся рамёствамі і гандлем, служылі ў княскіх харугвах.

Але галоўнай узнагародай палкаводцу стала нараджэнне ў гэтым жа 1527-м годзе сына. Васілём пажадаў ахрысціць малодшага свайго спадчынніка стары князь. Але каханая Аляксандра Сямёнаўна настойвала на імені Канстанцін – у гонар мужа-героя. Як там яны паразумеліся і якім імем сапраўды хрысцілі дзіця, цяпер цяжка дакладна вызначыць. Але ў сярэднявечных дакументах малодшы сын Канстанціна Астрожскага называецца і Канстанцінам Канстанцінавічам, і Васілём Канстанцінавічам.

Апошнія гады жыцця гетман Астрожскі адкрываў школы і шпіталі, заснаваў для юнакоў шляхетных Марсаву акадэмію – нешта накшталт кадэцкага вучылішча.

Гетман Астрожскі памёр 10 жніўня 1530 года ў Вільні. Першы рыцар Вялікага Княства Літоўскага быў аплаканы ўсёй дзяржавай, дзеля якой ён не шкадаваў сілаў і жыцця свайго, і якой здабыў 66 вялікіх і малых перамог. Цела яго было перавезена ў Кіеў і пахавана ва Успенскім саборы Кіева-Пячэрскай лаўры. Праз год побач з ім спачыла княгіня Аляксандра Сямёнаўна, якая не змагла надоўга перажыць каханага.

На працягу чатырох стагоддзяў кіеўскія паломнікі з сардэчным трымценнем падыходзілі да надмагілля героя, каб прачытаць на ім пра вялікія дзеянні яго і схіліць галаву.

З лістапада 1941 года Лаўру вырашыў наведаць фашысцкі саюзнік, прэзідэнт Славакіі Цісо. Калі яму расказалі пра героя праваслаўя Канстанціна Астрожскага і падвялі да надмагілля, ён прыйшоў у незразумелую лютасць. Быў адданы загад ўзарваць надмагілле разам з самім храмам... Але хіба магчыма зруйнаваць людскую памяць?

кнігапіс

Леанід Галубовіч



…дапісваў яе, ужо ведаючы,
што разам з ёю *дапісвае* і сваё
чалавечае жыццё…

# Ад Крыжоўкі – да зорак…

## *Рэцэнзія на кнігу Генадзя Бураўкіна “Нагаварыцца з зоркамі”*

*Такімі днямі часта ў электрычку на «Крыжоўцы» заходзіў Бураўкін. Заўсёды ў джынсах. Сядаў, разгортваў газету («Новы Час», здаецца) і ціхенька чытаў да Менску. Цяпер едзеш у электроне і шукаеш вачыма. Як і Скалабана ў нацыяналцы.*

**Tsikhan Che** (запіс з Фэйсбука)

У чалавека майго ўзросту складваецца ўражанне, што нацыянальная беларуская літаратура, пасля *“ўзыходжання” (“Сотнікава”)* і замацавання на вышыні з помным заклікам *“Быў. Ёсць. Буду”*, з гонарам акінуўшы вокам свой айчыннагістарычны *“Шлях-360”*, так і засталася ў тым статычным становішчы, не выявіўшы заўважных і, галоўнае, важкаглыбінных зрухаў у мастацкім вызначэнні.

Даўно заўважыў за сабой, што ў часіны душэўнай узнёсласці альбо спаду, як і сорак гадоў таму, я дастаю з кніжных паліц томікі паэзіі Максіма Багдановіча, Янкі Купалы, Фёдара Цютчава, Міхаіла Лермантава, Басё, Эмілі Дыкінсан, Арцюра Рэмбо...




Не, не, вядома, я не прамінаю сачыць і захапляцца вершамі А. Мінкіна, Л. Дранько-Майсюка, У. Някляева, Я. Дашынай, В. Рыжкова, І. Бельскай...

Бяспрэчна, што чалавек паразумнеў, стаў нашмат больш доcведным і навучыўся хітрамудра, з карысцю для сябе, здабываць і лічыць грошы, падманваць іншых, вынаходзіць самую небяспечную зброю, “дэмакратычна” прыгнятаць і забіваць тых, хто перашкаджае яму ў яго эгаістычных мэтах... Я наўмысна вылучаю толькі адмоўны вектар развіцця чалавечага розуму. Так што праз свае глузды людства так і не змагло пазбыцца зла... Скажам так, не зважаючы на тое, што *“уже написан Вертер”*, усё адно і сёння яшчэ *“воздух пахнет смертью”*...

Прызнацца, сам я – класічны кансерватар па сваёй чалавечай сутнасці. І хто мне дакажа, што чалавецтва цягам многіх стагоддзяў памудрэла альбо вырасла духоўна?! Я думаю, у таго, хто на гэта наважыцца, у выніку ўсё ж атрымаецца сумнеўны доказ. Лічу, што так яно і ў літаратуры. І ў мастацтве ўвогуле. Таму нічога дзіўнага няма ў тым, што – паўтаруся – у крытычныя моманты жыцця я чытаю Сапфо, Катула, Басё, Багдановіча, Лермантава... Але ў паўсядзённым жыцці не прамінаю папоўніць паліцы сваёй бібліятэкі зборнікамі Каско, Чобата, Хадановіча, Емяльянава...

Падчас нядаўняй прэзентацыі сваёй новай кніжкі “пра нішто” (“Сіні карабель у блакітным моры плыве”) былы колішні “ідэйны гуру” новай нацыянальнай літаратуры, выкрывальнік яе “ружовых туманаў” С. Дубавец нечакана заявіў, што *“прыходзіць такі час, калі песня пра цудоўную восень на дварэ падаецца найбольш актуальнай... (...) На захадзе, дзе трошкі дасягнулі большай дэмакратыі ў жыцці, у свой час таксама перажывалі такія абсурды ў галіне палітыкі, правоў чалавека, грамадскіх свабодаў. І тады выходзіла на сцэну зусім іншая літаратура, літаратура, якая гэта высмейвала, літаратура, якая з гэтага адкрыта сцябалася, літаратура абсурду. Выходзілі ўтапічныя раманы. І гэтая літаратура дазваляла грамадству неяк ачуняць, паглядзець на сябе і сказаць: чаму ж мы такія крывыя? Такая культура спрыяла вызваленню людзей ад свайго ўродства ўнутранага”.*

Радуе, што апошнім часам і ў Дубаўца мудрасць не падмяняецца розумам, які сёння ў большасці з маладых заснаваны на нетрывалым *кампутарным* грунце.

Пра паэзію сёння агулам пішуць мала і ўсё радзей згадваюць пра яе нават у вусных літаратурных размовах. Праз цяперашнюю жыццёвую (і глабальную) прагматыку яна зрабілася ў нашым (і не толькі) пісьменстве як бы той апальнай падчаркай, якую зімой пасылаюць па пралескі, ці ў нечым падобнай да апазіцыі, што выконвае ролю гэткай “канструктыўнай” дысідэнткі ў таталітарнай (сярмяжна-празаічнай) дзяржаве... Таму ні пра адметныя зборнікі, ні, тым больш, пра арыгінальныя нізкі ў перыёдыцы амаль ніхто з крытыкаў сур’ёзна не піша і пісаць не хоча (не раз даводзілася замаўляць рэцэнзіі, таму кажу з веданнем справы). Можа, для прыцягнення ўвагі нашай паэзіі не хапае якой добрай грашовай прэміі тыпу празаічнай гедройцавай?.. Хоць наўрад ці прышчэпленая штучнасць дадасць ёй спрадвечнай самабытнай натуральнасці.

Зрэшты ўсе гэтыя *надуманыя* мной замахі на паэзію да ніжэй напісанага не маюць аніякай датычнасці.

То для чаго тады напісаў я тут столькі вядомых, але як бы незаўважных і ігнаруемых намі ў працэсе ***свайго*** жыцця, агульнавядомых ісцін? А для таго, каб сённяшні *дарослы* чалавек не забываўся пра свой *дзіцячы* пачатак. Каб проза існавання не засланяла паэзіі жыцця...

Калі я даведаўся з інтэрнэта пра 100-гадовы юбілей маці Генадзя Бураўкіна, то быў па-добраму (*па-дзіцячы*) ўзрушаны. Яна мела не толькі моцнае нутро, але і здаровую беларускую натуру, якая перадалася сыну – праз кроў, душу і сэрца. Што ўжо казаць пра вычуванні яе сына, які тым часам быў на восьмым дзясятку?! (Бог даў, маці памерла своечасова (21.03.2014) – за два месяцы да сыходу сына (30.05.2014))...

Г. Бураўкін пісаў сваю **апошнюю** паэтычную кніжку **"Нагаварыцца з зоркамі"** тры гады. Дапісваў яе, ужо ведаючы, што разам з ёю *дапісвае* і сваё чалавечае жыццё. І вось – кропка пастаўлена, але адчування скончанасці няма...

Паэтам не спіцца на панскім кіліме.
Яны не бываюць ніколі былымі.
Яны не старэюць,
Не паміраюць –
Яны, як высокія зоркі,
Згараюць...

Так лёсава склалася, што Генадзь Мікалаевіч заўсёды лічыўся дзяржаўнікам – і за савецкім часам, калі зрабіў даволі ўражлівую для паэта кар'еру ў БССР, і за незалежным, калі хваляваўся і дбаў пра станаўленне нацыянальных чыннікаў Беларусі. І заўважце, і ў першым , і ў другім выпадку тое было менавіта праявай яго спадчыннай *беларушчыны*. Узначальваючы часопіс "Маладосць", ён выводзіў у літаратурны свет лепшых маладых і вядомых ужо апальных аўтараў (друкаваў "Дажыць да світання", "Воўчую зграю", "Яго батальён", "Пайсці і не вярнуцца" В. Быкава, а таксама гістарычна-нацыянальныя творы Уладзіміра Караткевіча). Кіруючы беларускім тэлебачаннем, "пад сурдзінку" праводзіў там не гучную, але мэтаскіраваную беларусізацыю, а ў час перабудовы рабіў першыя крокі да дэмакратызацыі і галоснасці аднаго з галоўных тады сродкаў масавай інфармацыі (першыя наўпроставыя эфіры з апанентамі савецкай і камуністычнай улады). Я быў сведкам і саўдзельнікам апошняга, таму кажу гэта не галаслоўна.

У 1990 годзе атрымаў прызначэнне пастаяннага прадстаўніка Рэспублікі Беларусь пры ААН, але ў 1993-м звярнуўся да старшыні ВС Рэспублікі Беларусь з просьбай аб вызваленні ад гэтай пасады. Да апошняга спадзяваўся на плённае ў сферы нацыянальнага будаўніцтва супрацоўніцтва з першым прэзідэнтам Беларусі... Але, ці не ўпершыню ў жыцці, пацярпеў непрадбачную паразу. Зрэшты ў гэтым выпадку паразу пацярпелі ўсе нацыянальныя сілы.

Памятаю, калі пасля разгону часопіса "Крыніца" давялося працаваць у холдынгаўскім "ЛіМе", Бураўкін з Разанавым былі, бадай, адзінымі з дэмакратаў-незалежнікаў, хто заходзіў у рэдакцыю, каб маральна падтрымаць нацыянальна заангажаваных супрацоўнікаў дзяржаўнага беларускамоўнага выдання. Добра помныя і тыя, балючыя для яго, крытычныя ўколы, якія яму давялося ператрываць у перабудоўчыя і першыя незалежніцкія часы як аўтару паэмы "Ленін думае пра Беларусь", хоць тым, хто насамрэч прачытаў гэты твор, было зразумела, што пра Беларусь там якраз думаў Г. Бураўкін...

На яго вершы напісаны такія вядомыя ў народзе песні, як "Белы снег", "Зачараваная", "Матылі", "Малітва"... А штовечаровая "Калыханка" на словы Генадзя Мікалаевіча, нераўнуючы як "Ойча наш" кожнага беларускага дзіцяці.

Так, Г. Бураўкін быў лаўрэатам прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1972) і Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы (1980) за свае адметныя зборнікі вершаў.

Аднак не гэтыя, а самую *дарагую* сваю, **апошнюю**, кніжку папрасіў ён пакласці яму ў труну...

Прабачаюся, але змушаны быў зрабіць такі задоўжаны ўступ да рэцэнзіі, бо, загадзя здагадваўся, што знойдзецца шмат маладых і не вельмі людзей, якія не прамінуць

высунуць паэту папрокі ў заўважнай публіцыстычнай скіраванасці яго паэзіі, як толькі рэцэнзент пачне гаварыць пра Бураўкіна як пра *высокамастацкага* творцу. Маўляў, увесь цымус паэзіі палягае ў яе *чыстай красе*, а не ў грамадзянскай лірыцы і вершаванай публіцыстыцы, якая ўсё ж пераважае ў літаратурным наробку паэта.

Адказ мой такі: а ці ўсё лепшае са створанага Бураўкіным вы чыталі? Каб мець адноснае ўяўленне пра значнасць яго паэзіі, для пачатку вам варта было б пазнаёміцца з яго нізкай вершаў, якую адабраў для публікацыі ў анталогіі "Краса і сіла" яе ўкладальнік М. Скобла. Прачытаць хоць бы гэты:

Гэта тайна
Спрадвечнай
На свеце была:
Паміж зоркай і свечкай
Ёсць нітка святла.
У начы безгалосай
Шлях падкажуць і мне
Зорка ў цёмных нябёсах,
Свечка ў дальнім акне.
Сумна ў сэрцы асядзе,
Як і ў даўніх вяках, –
Зорка ў мілым паглядзе,
Свечка ў мёртвых руках.
Дажывуся і сам я
Да самотнай пары,
Калі зорка згасае,
А свечка гарыць,
Кожнай кропляй гарачай
Лье святло, як спакон...
І не мне перайначваць
Гэты вечны закон.

Генадзь Бураўкін умеў гарманічна сумяшчаць адно з другім – грамадзянскае і лірычнае, высокае і глыбокае (але не нізкае).

Яго новая кніга *сабраная* ім літаральна па днях. Пунктуальная датаванасць вершаў падказвае, што паэт напрыканцы жыцця працаваў вельмі плённа, што натхненне яго наведвала даволі часта. Здаралася, што за дзень пісаліся два-тры вершы... Растурзаная натомленая душа патрабавала гармоніі і ўнутранага ўладкавання жыцця наперакор усяму знешняму. Вечнае паглынала часовую мігатлівасць бытавання.

Так хочацца пажыць без барацьбы,
Без балаболства, мітусні і енку...

Засяродзіцца на сабе, каб адчуць усё навакольнае. Бо:

Яно яшчэ прыходзіць да мяне –
Кароткае, салодкае натхненне,
Як тайны знак,
Як маладое сненне,
Як зорка вечаровая ў акне.

Так пісаў паэт напрыканцы лета 2013 года.

Г. Бураўкін – захавальнік і прадаўжальнік класічных традыцый нашай нацыянальнай паэзіі. У яго творчасці няма адметных літаратурных адкрыццяў – ні ў форме, ні ў змесце, ні ў ідэйнай тэматыцы, як тое было ў Танка, Брыля, Быкава, Караткевіча і ёсць у Разанава... У яго было шчырае прафесійнае служэнне сваёй паэтычнай Музе: назапашванне эмацыянальнага натхнення, адточванне і шліфаванне майстэрства, водгук на заўважную дзею і падзею, маральнае ачышчэнне лірычнага героя, суперажыванне... Дык што ж, значыць, чытачу кніга Бураўкіна

нічога новага не адкрывае, апроч адмысловай версіфікацыі ўжо вядомых нам карцін зямнога чалавечага бытавання? Э, не, вершы паэта штораз адкрываюць нам новага чалавека, іх героя і аўтара, імя якому Генадзь Бураўкін. Гэта неадназначная, але глыбокая асоба, якая, змяняючы рэчы вакол сябе, змяняе сябе самую, прагнучы самастойнасці і самадастатковасці ў любых варунках жыцця.

Адсюль, дарэчы, – з тонкай пранізлівасці пачуццёвага нерва – і такія іскрынкі ўзорнай чыстай лірыкі:

Лісце ў лесе скача басанож.

Як гэта трапна і хораша сказана, як своечасова падлоўлены момант метафарычнага азарэння і самавольнай алітэрацыі! Ці вось, падобнае да папярэдняга:

І злятаюць лісткі з бярозы,
Як самлелыя матылькі...

Альбо яшчэ больш яскравае, амаль візуальна прагляднае пры чытанні:

Верасень ніжа на павуцінне
Кропелькі ранішняй чыстай расы.

Творчасць – цікавая і займальная рэч, іншым разам невытлумачальная і парадаксальная. Вось, скажам, адзін з вершаў пра вясну (*** "пырхаюць шпакі на кожным дрэве...") Бураўкін напісаў восеньскай парою (усе вершы, як я ўжо зазначаў, у зборніку датаваныя). Штосьці ж падштурхнула яго "вярнуцца" ці "апярэдзіць" ходу прыродных падзей... Нам таго не ўведаць. Бо, як ён пісаў:

Хто чым жыве,
Аб гэтым і спявае
І ў гэтым спавядаецца як след.

Паэт стараўся жыць абсяжна. Намагаўся быць патрэбным – і ў блізкім коле сям'і, і ў разнародным кагале Айчыны. Таму не абмінаў і не грэбаваў нават самымі заскарузлымі тэмамі, якіх не чапалі, баючыся забрудзіцца, літаратурныя эстэты. Асабліва гэта праяўлялася ў вершах, прысвечаных балючым пытанням нашага нацыянальнага жыцця, можна сказаць, лёсавым для самога паэта пытанням. Дык тут і адказы былі неаспрэчныя і адназначныя. Як ён казаў, *"нястрымана, невыпадкова // расце скрозь мяне Беларусь"* (наўслед напрошваецца ахматаўскае пашырэнне метафары ўнутр: *"Когда б вы знали, из какого сора растут стихи..."*). Вера Г. Бураўкіна ў **сваё** спрадвечна-родавае, нацыянальна-гістарычнае была непахіснай:

Калі мы сыдзем з гэтага жыцця,
Сплывем за незабудкавыя далі,
Мы вам гукнём з прадонняў небыцця
Той самы кліч,
Што на зямлі гукалі.
Ён знойдзе вас на ўробленым надзеле,
Прытоены ў траве і сіняве,
Як запавет, як заклік і надзея,
І як апошні выдых наш:
– Жыве!

Дастаткова ў зборніку і публіцыстычных, часам усё яшчэ па-маладому пафасных вершаў. Зрэшты, было б дзіўна, каб у такога паэта як Бураўкін (аўтара даволі вядомай грамадзянскай абвостранай лірыкі) такіх вершаў не было ўвогуле. Гэты публічны пафас прарываецца з самой яго чалавечай натуры. Няўрымслівасць,

актыўная дзейнасць, трыбуннасць – тое, без чаго Бураўкін і як грамадзянін, і як паэт, кажучы словамі А. Платонава, *“быў бы няпоўны”*.

У вершы “***З гразі ў князі прабіцца – ах!..” ён разважае пра творчыя і бюракратычныя пертурбацыі сваім мудрым “заднім” розумам:

Калі злой зайздрасці глыжы
Услед ляцяць наўпрост
І ўсё, чаму, як мог, служыў,
Ідзе кату пад хвост.
........................................
Дык не пакеплівай з гразі
І мітусні любой
Не надта кідайся ў князі,
А будзь самім сабой.

Відаць, не раз абступалі яго горкія часіны роздуму над пражытым і здзейсненым, над некаторымі сваімі (у яго разуменні) памылковымі рашэннямі, былі ваганні і спробы выйсці з “бурапены” пераменлівага часу ў чысты і ціхі закутак адстароненага жыцця. Але ж ці з яго адпрыродным характарам?!

Думаў:
Закіну вершы,
Засяду за мемуары,
Буду для ўсіх развешваць
Згадкі, сакрэты, мары...
.....................................
Выкіну з думак чорта,
Сэрца адкрыю для Бога,
І не забуду нічога,
І не забуду нікога...
Толькі падводзіць рысу
Мне яшчэ, пэўна, рана:
Столькі недапісана,
Столькі недаспявана...

Не ўпэўнены, што Г. Бураўкін меў патаемнае пачуццё творчай зайздрасці да калег і таварышаў па *цэху*, але было, пэўна, падсвядомае вычуванне неадпаведнасці створанага ім з патэнцыяльнай магчымасцю дадзенага яму Боскага таленту. Лічыў, што мог і здольны быў на большае? Мы гэтага ведаць не можам, толькі здагадваемся. Хоць сам ён зрэдзьчасу, не нам, дык сабе, спагадліва напамінаў:

Не засмучайся надта,
Што табе
Так і не выдаў лёс вянок лаўровы.

Агулам тэме вершаванай творчасці ў апошнім сваім прыжыццёвым зборніку паэт надаў ці не найбольшую ўвагу і заклапочанасць. Разважанні і сумненні наконт справы ўласнага жыцця не пакідалі яго і на парозе прадчувальнага сыходу:

Здаецца, і я прывыкаю патроху,
Што вершы таннеюць у нашу эпоху.
Аб хлебе надзённым не цішыцца клопат,
І коціцца ўніз на паэзію попыт.

Куды падзецца з думамі?
І што рабіць мне з вершамі,
І тымі, што задуманы,
І з тымі, што завершаны?

Паэта трывожаць пытанні паэтычнага прызнання і вартасці ўласнай творчасці:

Даўно мне ўсё з маёю доляй ясна.
Даўно ўжо адчуваю, як віну,
Што сёння я трагічна несучасны
І што мой час бязлітасна мінуў.

Але непадалёк і горача палемізуе з маладымі творцамі, а то і саркастычна гневаецца на іх, як у гэтым вершы, дзе ён піша, што *"звяглівых крытыкаў гайня// да нас у суддзі шчыміцца"*, што *"малітвы нашыя і то// здаюцца ім няшчырымі"*, што:

Гнеў іх можа распаліць
Былая наша слава...
А што былое нам баліць –
Ім проста нецікава.

Тут жа ў новым вершы ідзе як бы прымірэнчы матыў і кволае спадзяванне:

Я іх усіх, здаецца, разумею...
Ці змогуць зразумець яны мяне?

Гэтыя чалавечыя і творчыя сумненні, якія нярэдка ахопліваюць сапраўдных сумленных творцаў, кажуць нам пра шчырыя намаганні паэта да душэўнай споведзі, своеасаблівага ўнутранага ачышчэння і дыялогу з людзьмі і акаляючым светам, каб збольшага ўведаць ці хоць неяк прасвятліць будучую запатрабаванасць яго творчым плёнам, карыснасці ці бескарыснасці зробленага ім цягам усяго жыцця. Гэта і прага зразумення тых, хто ідзе следам, тых, хто ўрэшце і вырашыць значнасць і даўгавечнасць ім створанага. І ўсё ж, чытаючы радкі верша, прысвечанага Р. Барадуліну, *"Карацее жыццё. // Карацеюць лірычныя вершы"*, Г. Бураўкіна не пакідае адчуванне сваёй пэўнай паэтычнай спраўджанасці:

Мы ж грэемся спадзевамі нятусклымі,
Што не патух наш малады парыў,
Што нашымі абветранымі вуснамі
І час, і Бог хоць зрэдку гаварыў...

Безумоўна, аўтар гэтай кніжкі – паэт з Божай ласкі. Ды сёння справа ўжо не ў прызнанні, а ў сутнасці і пацвярджэнні прызвання: Паэт. Бо прызнанне – справа дзясятая, больш істотная пры жыцці... Як там у Евангеллі: *"шмат пакліканых, ды мала выбраных"*.

Не кідайце мне соль на душу,
Там даўно ные рана цяжкая –
Для каго, для чаго я пішу,
Ад каго разумення чакаю?
Хай тупыя дзялкі барыша
Пацяшаюцца з вершаў ахвоча.
Ува мне трапяткая душа
Паміраць безгалоса не хоча...

І як апошняе, пакуль не да канца зразумелае тымі, *"над кім яшчэ не навісла вечнасць усёпаглынальным жарлом"*:

Ну, а я лаўлю ў маўчанні
Аж да самазабыцця
Песню хуткага растання,
Несмяротны гімн жыцця!

Генадзь Мікалаевіч ведае ўжо й гэта. А значыць, – ведае ўсё. Мы ж пакуль яшчэ спрабуем разгадваць таямнічыя сімвалы жыцця і смерці, што тояцца за вечным Словам...

# Гарбата з незабудак

## *Новыя выданні на кніжных паліцах «Дзеяслова»*



**Артур Конан Дойл. Прыгоды Шэрлака Холмса. – Мінск: Кнігазбор, 2014. – 344 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў "Кнігарня пісьменніка"; Бібліятэка часопіса "ПрайдзіСвет" "PostScriptum").**

Пабачыў свет зборнік апавяданняў Артура Конан Дойла "Прыгоды Шэрлака Холмса". У кнігу ўвайшлі пераклады, зробленыя Ганнай Янкута, Аленай Казловай, Аленай Пятровіч, Кацярынай Мацiеўскай, Аляксеем Арцёмавым. Прадмову да зборніка напісала Кацярына Мацiеўская. Некаторыя апавяданні са зборніка друкаваліся ў "Дзеяслове", "ПрайдзіСвеце" і "Літаратурнай Беларусі", аднак гэта першае асобнае выданне твораў пра Шэрлака Холмса па-беларуску.

*"Шэрлаку Холмсу, гэтаму міфічнаму персанажу новага часу, які дагэтуль не дае спакою пісьменнікам, рэжысёрам і сцэнарыстам, не трэба нічога тлумачыць. Ён адразу бачыць, колькі ў вас дзяцей, што ў вас скралі і ці можна вас назваць шчаслівым. Не ва ўсіх гісторыях з гэтай кнігі расследуюцца заблытаныя злачынствы, але Шэрлак Холмс ведае: часам нават за простай справай стаіць сапраўдная таямніца, і разабрацца з ёй будзе не прасцей, чым з самым загадкавым забойствам".*



**Анатоль Кудравец. Зязюля пракукуе заўтра... – Мінск: Кнігазбор, 2014. – 272 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў "Кнігарня пісьменніка"; вып. 54).**

У кнігу прызнанага майстра прозы Анатоля Кудраўца ўвайшлі выбраныя апавяданні (сярод якіх – культавае "Смерць нацыяналіста") і аповесць "Развітанне", што раскрываюць стылістычную каларыстыку, грамадзянскую актуальнасць і багаты змест твораў празаіка. Гэтае выданне фактычна сталася мемарыяльным: Анатоль Паўлавіч спачыў у вечнасці ў траўні гэтага года.

*"Вясна, як і хвароба, пачынаецца з прадчування. Яшчэ на дварэ мароз, быццам зіма ў самай сіле ці нават набірае разгон, хапнеш раніцай носам паветра — і закіпяць на вачах слёзы. І снег валіць — машыны не паспяваюць вывозіць за горад. А падыдзеш да акна, зірнеш на шэрае з прозеленню неба, на вугал суседняга дома, — снег ля яго асеў, закрамянеў ад сонца, — і нешта варухнецца ўсярэдзіне: вясна, яшчэ адна вясна..."* (з "Успаміну пра шэршня").



**Уладзімір Мароз. Крыжы на ростанях: кніга вершаў. – Мінск: Зміцер Колас, 2014. – 140 с.**

У новай кнізе Уладзімір Мароз ідзе горнімі і дольнімі шляхамі Святой Зямлі і сваёй роднай Беларусі. Вершы вылучаюцца адметнай інтанацыяй, шчырасцю пачуцця, філасофскай заглыбленасцю:

*І гэтай дарогай адходжана,*
*І тую дарогу прайшоў...*

*Здаецца: вось-вось узыходжанне*
*Да новых прасветленых слоў.*
*Але расчаруешся горка*
*Няздатнасцю дольніх шляхоў.*
*Наперадзе бачыцца горка –*
*А ты да яе не дайшоў.*

Выданне густоўна аформленае малюнкамі дачкі пісьменніка Марыны.




**Невядомы Ракаў: могілкі пад базыльянскім крыжам / уклад., аўт. прадм. Волга Сямашка. – Мінск: Медысонт, 2014. – 200 с. – (Серыя «Гістарычныя могілкі Беларусі»).**

Пабачыла свет другая па ліку кніга ў серыі “Гістарычныя могілкі Беларусі”. Акрамя сціслага, але інфарматыўна насычанага агляду гісторыі самога мястэчка, выданне ўтрымлівае цікавыя й малавядомыя факты пра Ракаўскія праваслаўныя (уніяцкія) могілкі XIX ст. ды іншыя некропалі Ракава. Ладную частку кнігі складае “Каталог надгробкаў” (з фотаздымкамі выбраных помнікаў і індэксам пахаваных). Дужа карысным для даследчыкаў могілак будзе раздзел “Дапаможнік некрапаліста”, практычны падраздзел якога “Як ставіць гістарычныя могілкі Беларусі пад ахову дзяржавы?” дапаможа зразумець няпросты бюракратычны механізм, датычны гэтага пытання.




**Ратуша: літаратурны альманах. Віцебск. 2014 / укл. А.П. Лазебная. – Мінск: Кнігазбор, 2014. – 178 с.**

Першы выпуск “Ратушы” падрыхтаваны Віцебскім абласным аддзяленнем Саюза беларускіх пісьменнікаў. Нагадаем, што кожны з беларускіх рэгіёнаў дзякуючы СБП мае сваё літаратурна-мастацкае выданне.

*“Спытаеш, чаму “Ратуша”? (Да гэтага часу на Віцебшчыне выходзіў альманах “Дзвіна”). Адказ просты. Ратуша для Віцебска — гэта сімвал волі і росквіту. Ратуша – гэта любімае месца віцябчан. Гэта іх гісторыя і сённяшні дзень”*, – тлумачыць укладальніца зборніка, пісьменніца, старшыня Віцебскага абласнога аддзялення СБП Анастасія Лазебная ў прадмоўцы.

Жанры, прадстаўленыя ў альманаху — паэзія, проза, эсэ, творы для дзяцей, пераклады, гумарэскі, — паказваюць, наколькі актыўна развіваецца прыгожае пісьменства ў рэгіёне на сённяшні дзень. У “Ратушу” ўвайшлі творы 37 аўтараў, руска- і беларускамоўных, якія прадстаўляюць розныя пакаленні. Ад маладзейшых – напрыклад, Наталля Гапеева, Алесь Замкоўскі, да старэйшых – Алесь Аркуш, Франц Сіўко. “Цвік” нумара – кароткая проза Германа Гесэ, перакладзеная на беларускую мову Арцёмам Арашонкам, і нямецкая паэзія з розных эпох у перастварэнні Уладзіміра Папковіча.




**Кася Сянкевіч. Гарбата з незабудак. – Мінск: Кнігазбор, 2014. – 100 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 55).**

Кася Сянкевіч – беларуская паэтка і мастачка з Польшчы – ужо з’яўляецца аўтаркай вершаванага зборніка «Дачка ружы». Дзякуючы серыі «Кнігарня пісьменніка» і выдавецтву «Кнігазбор» творы Касі ўпершыню прадстаўлены беларускім чытачам.

За кубачкам «Гарбаты з незабудак» Кася Сянкевіч у пранізлівых маналогах-споведзях разважае пра вечныя тэмы кахання, веры, пошуку свайго месца ў жыцці і сусвеце. Форма, абраная паэткай, — верлібр, дазваляе абраць найбольш дакладныя і змястоўныя мастацкія сродкі для выказвання самых тонкіх пачуццяў.

# Нашыя аўтары

**Абламейка Сяргей** – празаік, эсэіст. Аўтар кніг «EGOізмы», «Настальгія». Тэксты перакладаліся на італьянскую, польскую, расейскую і чэшскую мовы. Нарадзіўся ў 1962 годзе ў Мінску. Жыве ў Празе.

**Багадзяж Мікола** — гісторык-журналіст. Працаваў у аддзеле археалогіі Інстытута гісторыі АН Беларусі, у Беларускім дзяржаўным музеі народнай архітэктуры і побыту. Займаецца даследаваннем і прапагандай гісторыі Беларусі. Аўтар кнігі «Сыны зямлі беларускай». Сумесна з Ірынай Масляніцынай напісаў кнігі «Слава і няслаўе», «Радзівілы — нясвіжскія каралі», «Радзівілы ў эпоху інтрыг і авантур» і інш. Нарадзіўся ў 1957 годзе ў вёсцы Траянаўка на Барысаўшчыне. Жыве ў Мінску.

**Бандарэвіч-Чарненка Лілія** – журналістка, паэтка. Друкавалася ў беларускай перыёдыцы. Скончыла філфак Гродзенскага пединститута. У 22 гады пераехала ва Украіну. Аўтарка кніг вершаў «Красавік кахання», «Жанчына, якая нешта ведае», «На берагах любові», «Ад берагоў Дзясны да Сожа» і інш. Лаўрэатка розных літаратурных і журналісцкіх прэміяў (імя В. Стуса, Р. Скаварады, М. Кацюбінскага, П. Куліша і інш.). Нарадзілася ў 1954 годзе на Ашмяншчыне. Жыве ў Прылуках на Чаркашчыне (Украіна).

**Барадулін Рыгор** — народны паэт Беларусі (1992). Паэт, перакладчык, эсэіст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы (1976). Аўтар кніг паэзіі «Маладзік над стэпам», «Рунець, красавацъ, наліваццa!», «Нагбом», «Адам і Ева», «Рум», «Вечалле», «Евангелле ад мамы», «Здубавецце», «Руны Перуновы», «Ксты», «Anima» і інш. Нарадзіўся ў 1935 годзе на хутары Верасоўка на Ушаччыне. Памёр у 2014 годзе.

**Баяровіч Зміцер –** паэт, празаік. Фіналіст конкурсу «Брама мар» у дзвюх намінацыях: Проза і Паэзія. Сябра літсуполкі «Вобла» ад выдавецтва «Галіяфы». Аўтар кнігі «Шалі». Нарадзіўся ў 1991 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Брыль Антон Францішак** – перакладчык. Абараніў ступень PhD па інфарматыцы ва ўніверсітэце Трэнта, Італія. Працуе ў Дублінскім гарадскім універсітэце. Нарадзіўся ў 1982 годзе ў Мінску.

**Вішнёў Зміцер** – празаік, паэт, мастак. Адзін са стваральнікаў літсуполкі «Бумбам-літ». Аўтар кніг «Бочкавы краб», «Клёкатамус», «Штабкавы тамтам», «Тамбурны маскіт», «Верыфікацыя нараджэння», «Замак, пабудаваны з крапівы» і інш. Нарадзіўся ў 1973 годзе ў Дэбрэцэне (Венгрыя). Жыве ў Мінску.

**Галубовіч Леанід** — паэт, празаік, крытык. Аўтар кніг «Таемнасць агню», «Споведзь бяссоннай душы», «Зацемкі з левай кішэні», «апошнія вершы леаніда галубовіча», «Сыс і кулуары», «З гэтага свету». Нарадзіўся ў 1950 годзе ў вёсцы Вароніна на Клеччыне. Жыве ў Мінску.

**Гінько Алена** – паэтка. Аўтарка паэтычных зборнікаў «Самотная птушка», «Пяшчота пры журбе». Нарадзілася ў вёсцы Тузбіца на Пастаўшчыне. Жыве ў Віцебску.

**Дэбіш Васіль** — паэт. Аўтар зборнікаў вершаў «Белыя птахі», «Лісты да Марыі», «Праз дождж». Нарадзіўся ў 1962 годзе ў вёсцы Шамятоўка Свіслацкага раёна на Гарадзеншчыне. Жыве ў Берасці.

**Каўка Аляксей** — публіцыст, літаратуразнаўца, гісторык. Аўтар кніг «Тут мой народ», «Жывом!», «Будам жыць!» і інш. Нарадзіўся ў 1937 годзе ў вёсцы Равецкі Бор на Чэрвеншчыне. Жыве ў Маскве.

**Малярчук Таня** — журналістка, празаік. Аўтарка кніг «Ендшпіль Адольфо, або троянда для Лізи», «Згори вниз. Книга страхів», «Як я стала святою», «Говорити», «Звірослов», «Божественна комедія», «Біографія випадкового чуда». Нарадзілася ў 1983 годзе ў Івана-Франкоўску, дзе і жыве.

**Мароз Уладзімір** — паэт, празаік, публіцыст, сцэнарыст. Аўтар кніг «Голас», «Рэй», «Хутаранская зорка», «Беларускі храм» і інш. Нарадзіўся ў 1953 годзе ў Касаве на Берасцейшчыне. Жыве ў Мінску.

**Масляніцына Ірына** — гісторык-журналіст. Працавала на беларускім тэлебачанні, загадчыкам аддзела інфармацыі ў газеце «Літаратура і мастацтва». Цяпер – у часопісе «Алеся». Сумесна з Міколам Багадзяжам напісала кнігі «Слава і няслаўе», «Радзівілы – нясвіжскія каралі», «Радзівілы ў эпоху інтрыг і авантур» і інш. Нарадзілася ў 1965 годзе ў горадзе Пачынак на Смаленшчыне (Расія). Жыве ў Мінску.

**Найдзёнаў Мікіта** – паэт. Пераможца конкурсу паэтаў падчас «Дзён беларускай і шведскай паэзіі» ў Пінску (2006). Скончыў журфак БДУ. Аўтар песень і лідар гурта HURMA. Нарадзіўся ў 1990 годзе ў Пінску. Жыве ў Мінску.

**Наліўка Ліда** – перакладчыца. Пераклады друкаваліся ў часопісе «Макулатура». Нарадзілася ў 1987 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Някляеў Уладзімір** — паэт, празаік, эсэіст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Янкі Купалы (2000), прэміі імя Ежы Гедройца (2013). Аўтар кніг паэзіі «Адкрыццё», «Вынаходцы вятроў», «Наскрозь», «Прошча», «Так», «Лісты да Волі» прозы «Цэнтр Еўропы», «Аўтамат з газіроўкай з сіропам і без» і інш. Нарадзіўся ў 1946 годзе ў Смаргоні на Гарадзеншчыне. Жыве ў Мінску.

**Падбярэзскі Дзмітрый** — празаік, публіцыст. Аўтар кніг «Уверцюра», «Сола на саксафоне» і інш. Нарадзіўся ў 1952 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Пашкевіч Алесь** — паэт, празаік, літаратуразнаўца. Аўтар кніг «Нябесная сірвента», «Пляц волі», «Зваротныя дарогі», «Круг», «Сімъ побѣдиши» і інш. Лаўрэат міжнароднай літаратурнай прэміі імя В. Пікуля (2009). Нарадзіўся ў 1972 годзе ў вёсцы Набушава на Случчыне. Жыве ў Мінску.

**Русецкая Наталля** – паэтка, перакладчыца. Перакладае паэзію і драматургію з польскай мовы. Аўтарка кнігі паэзіі «Два бяссонні», манаграфіі «Сямейная муза», прысвечанай паэтычнай творчасці Ф.У. Радзівіл. Нарадзілася ў 1974 годзе ў горадзе Новы Урэнь (Расія). Жыве ў Любліне.

**Федарэнка Андрэй** – празаік, драматург. Лаўрэат літаратурнай прэміі імя Івана Мележа (1995). Аўтар кніг прозы «Гісторыя хваробы», «Сінія кветкі», «Шчарбаты талер», «Афганская шкатулка», «Нічые», «Мяжа», «Ланцуг», «Ціша» і інш. Нарадзіўся ў 1964 годзе ў вёсцы Бярозаўка на Мазыршчыне. Жыве ў Мінску.

**Шапран Сяргей** — журналіст, публіцыст. Аўтар шматлікіх інтэрв'ю з дзеячамі беларускай культуры, літаратуры, мастацтва, якія друкаваліся ў газетах «Знамя юности», «Советская молодежь» (Рыга), «Белорусская деловая газета» і інш. Аўтар кніг «Васіль Быкаў. Гісторыя жыцця ў дакументах, публікацыях, успамінах, лістах», «Тры мяхі дзядзькі Рыгора, альбо Сам-насам з Барадуліным». Нарадзіўся ў 1968 годзе ў Рызе. Жыве ў Мінску.

**Філатаў Аляксей** — празаік, публіцыст. Аўтар кніг «Ляхавецкая торба», «Дарога», «Адарваць ад сэрца», «Жывая зямля», «Асколкі болю» (успаміны вязняў фашызму), «Страла жыцця», «Жывому жыць (Споведзь качагара)». Нарадзіўся ў 1939 годзе ў вёсцы Бабінічы на Віцебшчыне. Жыве ў пас. Мухавец Брэсцкага раёна.

**Шэін Аляксей** – журналіст. Адзін з заснавальнікаў Маладога Фронту, былы сустаршыня партыі Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя. Аўтар і рэжысёр дакументальнага фільма «Хрыстос Забаронены» (2009). У 2008-2014 – арганізатар моўных курсаў «Моваведа». Сябра Беларускай асацыяцыі журналістаў. Нарадзіўся ў Мінску ў 1976 годзе, дзе і жыве.

**Янкута Ганна** – перакладчыца. Лаўрэатка конкурсаў маладых літаратараў імя Карласа Шэрмана (2009), Чэслава Мілаша (2011), «Экслібрыс» (2012). Перакладае з ангельскай, польскай, афрыкаанс, нідэрландскай. Нарадзілася ў 1984 годзе ў Гародні. Жыве ў Мінску.

**Яўсейчык Марына** – празаік, журналіст. Творы друкаваліся ў «Верасні», «Макулатуры», «Дзеяслове», «ЛіМе». Лаўрэатка літаратурнай прэміі «Залаты Апостраф» (2012). Нарадзілася ў 1992 годзе ў Брагіне на Гомельшчыне. Жыве ў Мінску.

# Contents

## Слова ад «Дзеяслова»

***Шаноўныя чытачы!***

На «Дзеяслоў» ***можна падпісацца***
ў любым паштовым аддзяленьні Беларусі.

**Наш індэкс – 74813** (для індывідуальных падпісчыкаў),
**– 748132** (для ведамаснай падпіскі).

Чытайце «Дзеяслоў» таксама ў Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**



Да ведама аўтараў:
рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Рэдакцыя не нясе адказнасці
за выкладзеныя ў аўтарскіх тэкстах факты.

Пры перадруку
спасылка на «Дзеяслоў» абавязковая.

У «Дзеяслове» скарыстаныя фотаздымкі:
Юрыя Дзядзінкіна, Анатоля Клешчука, Яўгена Коктыша,
Уладзіміра Крука, Глеба Лабадзенкі, Віктара Стралкоўскага,
Сяргея Шапрана, з інтэрнэт-крыніцаў і архіва рэдакцыі.